Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**
..........................................................................................

**Рэдакцыя:**
Барыс Пятровіч (Сачанка) —
галоўны рэдактар;
Алесь Пашкевіч —
намеснік галоўнага рэдактара;
адказны сакратар – Анатоль Івашчанка.

Мастак — Генадзь Мацур.
Тэхнічны рэдактар — Людміла Фомчанка.
Стыльрэдактар — Андрэй Федарэнка.

Ілюстрацыі на вокладцы Паўла Семчанкі:
на 1-й і 4-й стар.: «Песня пра зубра» (фрагменты), 2008 г.

© «Дзеяслоў», №1, 2019

Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 24.12.2018 г. Падпісана да друку 25.01.2019 г.
Фармат 70х108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 700 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для дзяцей, старэйшых за 16 гадоў.



№1 (98)
/студзень-люты/ 2019

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Вольга Гронская



...Жыць – гэта проста ісці ўгару.
І неба, і крыж трымаць...

# заВершанае

* * *

Кожнаму несці з сабой сваё:
неба
ці, можа, крыж.

Звонкімі спевамі салаўёў
поўнячы сэрца ціш,
рэзаць іржавым лязом тугі
словаў і думак вір,
вольхай ўкарэньвацца ў берагі,
блытацца ў мы, ты, вы...

Вымыта, выпалена ўначы,
выхаджана па дне.
Нешта глыбока ўнутры маўчыць
(крыкам было раней).

Цёплай далонню кранаць кару,
ка́ру сваю прымаць.

Жыць – гэта проста ісці ўгару.
І неба, і крыж трымаць.

* * *

У гэтай гісторыі –
прымітыўнай і простай –
дзяўчынка робіцца
моцнай, злой і дарослай
(некаторыя траўмы дапамагаюць
у вострым
стане,
калі ты не можаш знайсці
свой востраў,
дом, чалавека, свет,
чараду ці зграю).

Дарога нібыта сама цябе выбірае
і абяцае прывесці
да брамы раю.
Ты па ёй крочыш –
і падыходзіш
да краю.

Прэч паляцець
трэба яшчэ вучыцца.
У логаве сэрца –
раненая ваўчыца.
Чым ад халоднага ветру
схаваць ключыцы?..
Піць малако тугі,
выдыхаць,
лячыцца.

А потым глядзецца
ў Вэндэрса і Кар Вая,
сінія блюзы слухаць і гук трамваяў,
бачыць,
як горад бяззорнае надзявае...
І адчуваць –
жывая.

* * *

Разумееш, гэта вельмі пагана – не верыць.

Вось, напрыклад,
выцягваю ровар, выходжу за дзверы
і еду.
Колькі імгненняў – без рук ці заплюшчыўшы вочы.
Дарога сама нясе мяне, куды хоча.
Я ёй аддаюся цалкам, быццам каханку,
потым шчаслівa і стомлена пад'язджаю да ганка,
любячы гэты дурацкі ранак усёй сабою.
Ні смутку няма, ні болю.

А ты паўтараеш: «Як маешся?» і «Трымайся»...
Жыццё тады, нібыта палоскі на майцы:
то цёмнае ўсё, то сінь.

Глядзі, я нічога не бачу і не намацваю руль.
І я табе гавару:
Ты – дарога.
Трымай.
Нясі.

* * *

І раз, і два, і тры...
І ўразіцца Манэ.
І пад вадой схаваць
трывогі і хістанні.
Чаканае цяпло
п'яніць, як шарданэ.
У кроку ад мяжы,
у кроку ад світання.

Чатыры, пяць і шэсць...
І больш не быць мане.
Бо мячык патануў
(такі вось мячык, Таня).
А ісціна ў віне?
Адной тваёй?
Ды не.
І – кропкай замяніць
шматкроп'е і пытальнік.

Сем, восем, дзевяць...
Нуль.
І так усё міне.
Сплыве пад мостам прэч,
без права на вяртанне.
І, ведаеш,
няма нічога найдзіўней,
чым нашага жыцця
неўтаймаваны танец.

* * *

Яна на кожнае
“тысаматакхацела”
згадвае:
Так. Хацела.
Права на боль і цела,
на цеплыню злева,
сонца, краіны, вогнішчы і залевы,
на ноты, з якімі па рэйках
ці ўверх па прыступках,
на словы, імя,
язьмінавы водар з кубка
(не трэба – у ложак, хаця б на кухні).
Яна хацела:
крылы, красоўкі, заплечнік,
раніца ў Амстэрдаме, у Бруге – вечар...

А атрымала зусім не тое пакуль.
Цела і боль у ім.
шнары, быццам ад куль,
ад словаў і паціскканняў плячыма.
Прыступнасць.
Магчымасць прачнуцца ў сваёй айчыне
і бачыць берлінскае неба
толькі чужым зрокам.
Фіранкі на кухні – блізка.
Мора – далёка.

І часам,
калі – на рэйкі,
калі не выносіць сябе пустую...
Яна сінім малюе хвалі,
гэта крыху ратуе.

* * *

Што тыя слёзы?
Вада.
І вуду
ў іх не закінеш,
не выцягнеш рыб.
Цвердзіш сама сабе:
ёсць і буду...
Рыбы не верацъ,
ныраюць углыб,
лыпаюць недзе ўнутры вачыма,
мераюць ровень тваёй тугі
і уціскаюцца
туга, шчыльна
ў шчыліны між камянёў глухіх –
словаў,
не злоўленых лёскай лёсу,
рухаў,
увязлых у клейкі глей...
Рыбін рабы і стракаты россып
сыпле стаката бязгучных «але»,
што на паверхні вады
кругамі,
у іх і канец, і пачатак –
адно.

Выпусціць вершаў сваіх
арыгамі
і апусціцца да рыб.
На дно.

* * *

Люты сышоў.
Пакінуў сканчэнне
"ты",
на рыпучай паперы
і скуры –
вятроў сляды
і нешта ўнутры,
што дзярэ
да спазму ў гартані.
Словы ўмерзлі ў ільды.
У глыбі маёй вады –
рыба б'ецца
аб рэбры
ў нераце нематы.

Дрэў галіны
нібы
ў іншы сусвет масты,
пад якімі
замерла
і не сплывае
каханне.

* * *

Ты ляжыш
лужынай на асфальце.
З празрыстым панцырам
ды марай ва ўлонні
наступнай раніцай
нарадзіць
мора.
І адбіваеш неба Берліна.

А нехта
халоднымі пальцамі
прарысоўвае лініі
на тваіх далонях.

Смяюцца мойры.
Словы, думкі і рысы
блытаюцца,
сэнс губляецца,
горад робіцца
Вавілонам.
Неба падае ў цябе,
разбіваецца.
...
Не збываецца.

* * *

У табе вырастае нешта –
вастрэй за нож
і рэжа знутры.
То чырвоным, то сінім
пульсуе ў грудзях
Бінош,
не дае дыхаць
фон Трыер.

У тумане не бачна дахаў і дрэў,
мяжы
паміж існым і пустатой.
Вецер кліча з сабой.
Ты ценем за ім бяжыш
па дарозе
не той.
Парушаеш правілы.
Птушкі на ўсіх палях
паабапал тваіх шляхоў.
І жыццё – гэта кропка “тут”.
І яна пасля
застанецца штрыхом.
А цяпер лістапад.
Падаюць ліст і ціск,
ты – трымаешся і стаіш.
Там, дзе песня твая
запісваецца на дыск, –
немата і ціш.

* * *

Ісабэль стаіць
і глядзіць на снег,
што завесіў квадрат акна.

Свет размыты,
быццам пейзаж Манэ.
У снягах драмае вясна.
Задуменны горад цалком глынуў
белы кіт з халодным хвастом.
Ці сівы штукар
прасцінай з ільну захінуў нас.
Або шчытом –
аніякай розніцы.
Проста дзень –
манахромны калючы махер...

Ісабэль выходзіць,
паўз снег ідзе.
Неба сыплецца за каўнер.

* * *

Так,
кожны ў свеце мае свае патрэбы.

Птушкам хочацца хлеба,
хлопчыку – снегу з неба,
а паднябенню – шакаладу і чаю.
Нехта прагне хуткага выйсця з адчаю,
а нехта – Прагі
ці выйсці туды, дзе паветра.

Помніш,
хацелася, каб не загінуў Вертэр,
каб не забівалі Катані,
ну ці –
зусім маленькай –
каб не плакала Таня?..

Вось зараз –
што патрэбна табе?

Гарады на Б,
з аднаго ў цябе ёсць каменьчык,
з другога каштаны,
трэці –
у памяці, марах і (хочацца верыць) планах.
Трэба адсутнасць болю,
жыццёвыя алкаголі,
воля, марскія хвалі,
ногі, пад імі дарогі, можна педалі,
рукі, што гладзяць плечы.
Раніца, дзень і вечар,
калі ў табе столькі шчасця,
што анідзе не ўмесціш...

І –
аніякіх вершаў болей,
ніякіх вершаў.

Вінцэсь Мудроў



...няёмка збягаць ад людзей,
якія табе паціснулі
руку і прапанавалі вольны ложак...

# Дом творчасці

***Апавяданне***

За вокнамі з урачыстай павольнасцю праплылі гарадскія ўскраіны, аўтобус з'ехаў з магістралі і, страсянуўшыся на калдабане, пакаціў па гравійцы. Паабапал дарогі паўстаў вячысты лес, і ў салоне адразу ж стала цёмна.

Юрась машынальна паправіў гальштук, скасіў вока на кіроўцу. Рабаціністы малец у кудлатай, што ў таго басмача, шапцы трымаўся рукой за стырно, безуважна пазіраючы на дарогу, і гэтак жа безуважна смактаў папяросу, пускаючы на кожнай ухабіне струмень шызага дыму. Сядаючы ў аўтобус, дамовіўся з вадзілам, што той спыніцца ў патрэбным месцы, і цяпер хваляваўся – ці не забыўся рабацень на ўгавор.

Лес між тым рабіўся ўсё гусцей, хвоі за вакном засцілі неба і даводзілася толькі дзівіцца, што поруч з горадам, можна сказаць, на яго ўскраіне, захавалася сапраўдная пушча.

Юрась стрымана пазяхнуў, заплюшчыў вочы і адчуў сябе як вусень у кокане. Усё наўкол аддалілася: і бразгат пустой каністры

пад сядзеннем, і занудлівы гуд аўтобуса, і такі ж занудлівы голас цёткі, што сядзела за спінай і апавядала некаму пра свае хваробы. Яму прымроіўся раптам шкляны палац – менавіта такім уяўляўся Дом творчасці, – і ўбачыў самога сябе як бы збоку. Ён, Юрась, стаяў пасярод залітай зыркім святлом залі і чытаў паэму, якую скончыў пісаць на мінулым тыдні. На яго глядзелі інтэлігентныя, засяроджаныя на паэзіі калегі-літаратары, і рукі міжволі сціснулі саквояж, у якім ляжала тэчка з паэмай. Літаратары ўяўляліся надзвычайнымі людзьмі, апанаваныя не толькі літаратурай, але і лёсам роднай мовы, якой слугавалі. Дзівіла толькі, што творцы не падавалі галасоў у яе абарону. Колькі ні слухаў пісьменніцкіх выступаў па радыё і тэлебачанні, аніхто на гэтую тэму нават не заікнуўся. Таму і прагнуў пагаманіць з творцамі перш-наперш наконт беларускіх школ і нават збіраўся падбіць напісаць калектыўны ліст у Маскву з патрабаваннем іх адкрыцця. У сонных думках нават сеў той ліст пісаць, ды нечакана наехаў грудзінай на білу сядзення.

– Каму ў Дом творчасці? – выгукнуў вадзіла, і Юрась падхапіўся на ногі.

З аўтобуса выкуліўся яшчэ адзін пасажыр. У таго ў руках таксама быў саквояж і, як бачна, даволі цяжкі, бо металёвая дуга, да якой мацавалася ручка, ладна прагнулася. Пасажыр быў нізенькім, каржакаватым, з адвіслымі пашчанкамі, што рабіла яго падобным да акцёра Яўгена Лявонава.

– У «Камарышчавічы»? – запытаўся спадарожнік.

Юрась моўчкі кіўнуў.

Спадарожнік паставіў між ног валізу, прыпаліў цыгарэту, запытальна лыпнуў рэдкімі, бялявымі, як у маладога парсюка, вейкамі.

– На колькі пуцёўка?

– На тыдзень, – азваўся Юрась, знобка торгнуўшы плечукамі. – Ветрык, што дыхнуў з лясной прасекі, навылёт працяў ліхенькі гэдээраўскі палітон.

– Во сволачы... самі тут цэлае лета сядзяць, а людзям на тыдзень выпісваюць. Ды яшчэ напачатку снежня, – «Лявонаў» абурана выдыхнуў цыгарэтны дым, зірнуў некуды ў канец прыцярушанай снежнымі пархамі праселіцы. – Пачатковец?

– Пачатковец. На абласным літаратурным конкурсе першае месца заняў. Вось... прэміравалі паездкай у Дом творчасці. Еду розуму набрацца, з сапраўднымі паэтамі пазнаёміцца.

– Знайшоў з кім знаёміцца, – незадаволена прамармытаў «Лявонаў», падхапіўшы з-пад ног важкі саквояж. У саквояжы штосьці глуха бразнула.

– А вы што, прафесійны літаратар? – спытаў Юрась, і той, да каго звяртаўся, пакутліва скрывеліў твар:

– Ну, карацей, член... Саюзу. Дарэчы, маё прозвішча Падгурскі. Можа чулі?

Прозвішча гэтае Юрась чуў упершыню, але, тым не менш, паківаў галавой. Маўляў, як не ведаць такога творцу.

Падгурскі на прафесійнага літаратара быў зусім не падобны. Правае вока члена Саюза пазначаў зеленаваты, тыднёвай даўніны «ліхтар», на лоб навісала сальная чупрына, а на плячах боўталася гаматная, дарэшты зацяганая куртка. Ды і размаўляў ён па-расейску.

Дарога ішла лесам. Снегу выпала мала, а тут, у засені магутных ялін, яго зусім не было, і ў твар патыхала прэлай ігліцай. Праселіца ўвесь час забірала праваруч, лес нечакана скончыўся, і наперадзе, у смузе згасальнага снежаньскага дня, намаляваўся мост праз раку і пахілая постаць. Нехта

стаяў на мосце, абапёршыся рукамі на парэнчы. Калі ўзышлі на масток, чалавек (яму было далёка за семдзясят) толькі мелькам азірнуўся і зноў утаропіў позірк на раку. Позірк з-пад кусцістых брывоў падаўся знаёмым.

– Хто гэта? – спытаў паэт-пачатковец, калі прамінулі мост. – Пад нагамі цяпер была не праселіца, а асфальтавы ходнік – прыкмета таго, што Дом творчасці дзесьці непадалёку.

Падгурскі назваў прозвішча, але Юрась не пачуў.

– Яго па вайне да Якуба Коласа прыставілі. Фіксаваў – з кім той сустракаецца, што кажа... А цяпер з тэлестудыі не выпаўзае. Распавядае люду паспалітаму пра песняра. «Сабраліся мы ў дзядзькі Якуба, – нечакана, са старэчай інтанацыяй, выдаў Падгурскі, – як кажуць, было што выпіць, было чым закусіць». Было, вядома. Людзі з галадухі пухлі, а гэты дзядзьку Якуба аб'ядаў, ды так, што нос угінаўся.

Знобкі халадок забіўся пад каўнер, халоднымі дрыжыкамі прабег па спіне і, на астачу, крануўся душы.

«Няўжо той чалавек на мосце сапраўды сачыў за Якубам Коласам?» – з трывогай падумаў Юрась, прыцішыўшы крок. Відаць, і ў Доме творчасці таксама ёсць віжы: запісваюць хто што кажа, а потым паведамляюць куды трэба.

Член Саюза меў «танкісцкі» рост і наогул выглядаў драбнаватым. Толькі грудзіна неверагодным чынам выпіналася пад курткай. Куртка выглядала не толькі зношанай, але і пакамечанай. Стваралася ўражанне, што яе доўга жавалі-шкуматалі, а потым выплюнулі.

«А можа гэта і ёсць той самы віж?» – падумаў урэшце паэт-пачатковец, прыстасоўваючы крок да мернага бразгату ў саквояжы.

Яны ізноў ішлі лесам, але дрэвы тут стаялі рэдка і наперадзе, у прасвецці таўшчэзных ялін, мільганула двухпавярховая будыніна. Спадарожнік азірнуўся, моўчкі кіўнуў галавой, маўляў, гэта і ёсць тыя самыя «Камарышчавічы», і Юрась у адказ уражана прысвіснуў. Думаў пабачыць штосьці са шкла і бетону, а ўбачыў шэры рублены двухпавярховік – з верандай на двух узроўнях, з адмысловымі шалёўкамі на вокнах, нарэшце, у невялічкім гаўбцом, што віснуў над уваходам. Было ў гэтай спарудзе штосьці нетутэйшае.

– Палонныя немцы будавалі, – патлумачыў спадарожнік, нібыта падслухаўшы Юрасёвыя думкі.

На ганку яны на хвілю спыніліся – Падгурскі дапальваў цыгарэту.

– Дзіўная нейкая назва – «Камарышчавічы», – прамармытаў Юрась, памацаўшы драўляную, ужо ладна збуцвелую калону ля ўваходу.

– Назва якраз адпаведная, – Падгурскі шпурнуў недапалак у сметніцу. – Ты сюды ўлетку прыедзь. Камарышчы з кулак велічынёй. З ног збіваюць, – з гэтымі словамі член Саюза тузануў рыпучыя дзверы.

Не паспелі яны пераступіць парог, як прыцемнены хол скаланулі радасныя воклічы:

– О! Нарэшце!

Некалькі чалавек, што стаялі вакол більярду, кінуліся насустрач. Нейкі лысы імпэтным рухам падхапіў саквояж.

– Ого, важкая паэтычная кайстра!

– Ледзь дацягнуў, – зморана выдыхнуў Падгурскі і тузануў «маланку» на куртцы. – Яшчэ і за пазуху пару пляшак уплішчыў.

Перадаўшы пляшкі, спадарожнік загаварыў па-беларуску:

– Вось, сустракайце. Папаўненне прыбыла.

Юрась пацiснуў некалькi сухiх далоняў.

– Паэт цi празаiк? – запытаўся лысы дзядзька, цiснучы саквояж да грудзiны.

– Паэт, – адказаў за Юрася Падгурскi, – пераможца абласнога лiтаратурнага конкурсу.

– Конкурс, няйначай, на вытворчую тэматыку? – з вясёлай iнтанацыяй заўважыў лысы i, не чакаючы адказу, рушыў да разнасцежаных дзвярэй пакоя.

Едучы сюды, Юрась маракаваў, што атабарыцца ў двухмесным нумары, а агледзеўшы пакой, знiякавеў: той быў спрэс, як у студэнцкiм iнтэрнаце, застаўлены ложкамi, а ў дальнiм канцы тулiўся парэпанага выгляду стол.

– Нiчога, дзе цесна, там пацешна, – прамовiў лысы, пабачыўшы панылую Юрасёву гiмору. – Ён тут, вiдаць, быў за галоўнага. – Займай вунь Дадонаўскi ложак. Дадон ужо не з'явiцца. Прыбiўся ў суседняй вёсцы да маладзiцы.

Лысы i папраўдзе быў за галоўнага, бо адразу стаў даваць даручэннi. Аднаму загадаў схадзiць у сталоўку ды ўзяць што-небудзь «на зуб», другому – заслаць газетамi стол, а сам, сеўшы на ложак, пачаў выстаўляць з саквояжу на падлогу бутэлькi таннага, пазначанага мутнымi этыкеткамi, вiна.

Юрась зразумеў, што патрапiў у пакой – на дзвярах была намаляваная лiчба «2» – дзе жылi апiвуды. Сам ён хоць i выпiваў, але зрэдку. Да таго ж, у маладосцi перахварэў на жаўтуху i пасля п'янкi яго цягнула на ванiты. Таму i паглядаў з утрапеннем на батарэю бутэлек. Можна было, вядома, знайсцi некага з адмiнiстрацыi i папрасiцца ў iншы пакой. Але дзе яе, тую адмiнiстрацыю, шукаць. Дый няёмка збягаць ад людзей, якiя табе пацiснулi руку i прапанавалi вольны ложак.

– Ну, што засумаваў? – страсянуў чупрынай Падгурскi. – Давай пуцёўку. Якраз пайду да Вераб'iхi, пасцельныя рэчы прынясу.

Уздыхнуўшы, Юрась выцягнуў з кiшэнi пакамечаную карталюшку.

Лысы – яго звалi Мiхайлавiчам – запiхнуў бутэлькi пад ложак, задаволена пляснуў далонямi, наставiў на Юрася вадзянiстыя, акварэльнага колеру вочы, якiя зусiм не пасавалi кругляваму i азызламу твару.

– Зборнiк падрыхтаваў?

Юрась перасмыкнуў плечукамi.

– Ты гэтую справу не зацягвай. Рыхтуй зборнiк i здавай у выдавецтва. Пакуль у тэмплан паставяць, пакуль тое ды сёе – шмат часу прамiне. Некаторыя па дзесяць гадоў кнiжак чакаюць. А ўсё праз тых мярзотнiкаў. Пакуль сваю лухту не надрукуюць – анiкога не пусцяць.

Пасля такiх слоў Мiхайлавiч наструнiўся, пазiраючы на столь, тыцнуў пальцам угору.

– Чуеш? Грукаюць, злыднi.

На другiм паверсе гучала музыка, хтосьцi гучна тупаў, i адна дошка на столi прыкметна зыбалася. Як зразумеў Юрась, на доле жылi тыя, хто не даваў друкавацца паэтам-пачаткоўцам.

Збiраючыся ў Дом творчасцi, Юрась прыхапiў з сабой пляшку «Белавежскай». Думаў пасядзець увечары з якiм сталым творцам, пагамонiць за лiтаратуру, за мову, за жыццё. А тут давялося далучыцца да п'янкi i

пад ухвальныя воклічы пісьменніцкай сябрыны выставіць пляшку «Белавежскай» на сярэдзіну стала.

– Сюды ішлі, на мосце коласаўца сустрэлі, – паведаміў Падгурскі, поўнячы шклянкі. – Нават не павітаўся, паскуда.

– Не да цябе было. Новую плётку пра дзядзьку Якуба прыдумляў, – заўважыў Міхайлавіч і прыслухаўся. – На другім паверсе, падобна, таксама ішла бяседа, бо там бязладна гаманілі, і нехта басавіта спяваў: «Из-за острова на стрежень, на простор речной волны...»

– Казалі, да Машэрава на прыём запісаўся, ды той не прыняў, – азваўся бяседнік, што сядзеў поруч з Юрасём.

– Так яго там і прымуць, – лысы ў два глыкі асушыў шклянку. – Да Машэрава толькі Манякін з Маскалёнкам доступ маюць. Дарэчы, Маскалёнак днямі яму новую п’есу насіў на прачытанне. А Пятру Міронавічу яна, нібыта, не спадабалася.

– А Манякін з Маскалёнкам тут адпачываюць? – пацікавіўся Юрась, які прагнуў пабачыць жывых класікаў.

Міхайлавіч наставіў на Юрася акварэльныя буркалы.

– Ты давай, цягні... бачыш, людзі чакаюць.

За сталом сядзела сем чалавек, а ўсяго было тры шклянкі.

«Чарніла», якое пілі творцы, патыхала мярзотай. Заплюшчыўшы вочы і душачыся, Юрась пракаўтнуў пітво, прыціснуў далонь да вуснаў, чакаючы, калі той пройдзе ў шлунак.

– Маскалёнак з Манякіным адпачываюць у іншых мясцінах.

Міхайлавіч прыпаліў «беламорыну», пусціў струмок шызага дыму – муштук папяросы верхавод не камячыў, ад чаго грыбастыя вусны выцягваліся, як для пацалунку.

– Кактэбель, Дубулты, Піцунда... чуў пра такія дамы творчасці? Вось там іх і пашукай, – лысы расшпіліў кашулю, пачухаў пяцярнёй дрымучыя, антрацытнай водцені валасы на грудзіне. – І п’юць яны пяцізорачны «Арарат», а не гэтае паскудства.

Верхавод падхапіў пляшку, паднёс да вачэй, падслепавата агледзеў налепку:

– «А-ра-ма-ты-за-ва-нае», – прачытаў па складах. – Смярдзіць так, што ў глотку не лезе. Што, лепшага не было?

Міхайлавіч паглядзеў на Падгурскага, але той, нічога не сказаўшы, навярнуў шклянку, грукнуў ёю аб стол, ды так, што ўсе страпянуліся.

Запанавала няёмкая цішыня, і лысы, звяртаючыся да Падгурскага, сіпла прамовіў:

– Наступны раз, як будуць дзяліць кватэры, прыйду на паседжанне праўлення, і калі табе не дадуць трохпакаёўку, перадушу ўсіх вось гэтымі рукамі, – верхавод злавесна страсянуў кулакамі.

Кулакі ў верхавода былі пудовыя. Юрась яшчэ падумаў, што з такімі ручышчамі не вершы трэба пісаць, а бярвёны на тартаку варочаць.

Слухаючы п’яную гамонку, Юрась чакаў, што творцы пачнуць размову пра літаратуру, пра родную мову і адсутнасць беларускіх школ, але тыя гаманілі пра размеркаванне кватэр, пра творчыя камандзіроўкі, пра выступы на радыё ў перадачы «Пісьменнік ля мікрафона» і пра тое, што праўленне творчага саюза распараджаецца дзяржаўнымі грашыма як сваімі ўласнымі. Але асабліва бяседнікі давалі пытлю калегам з другога

паверху, якія захапілі ў праўленні камандныя пасады і не давалі хады сумленным творцам.

Пасля трэцяй шклянкі Юрасю стала млосна. Ён ціхенька падняўся, падхапіў з вешака палітон і шапку.

На двары панаваў прыцемак і бралася на мароз. Юрась збег па прыступках, пацёр, ратуючыся ад хмельнай чмуры, лабешнік і скроні.

Вокны дома гарэлі зыркім святлом, і толькі веранды, што туліліся да будынку з двух бакоў, зеўралі цемрай. У прастакутніках вакон мільгалі людскія цені, чуліся няўцямныя галасы, а з адчыненай форткі на другім паверсе вырываўся на прасцяг пераліўсты жаночы смех.

Вакол стаяў пануры яловы лес. Юрасю дагэтуль не даводзілася бачыць такіх тоўстых ялін. Тут і чатырох рук бракавала, каб абхапіць камель.

Пад нагамі шамацела прыхопленая марозам igліца.

Хмель на дзіва хутка выпетрыўся з галавы, глухім болем азваўся ў патыліцы. Ён ішоў між старых дрэў, ляпаў далонню па шурпатых стаўбурах і штоxразу азіраўся, паглядаючы на зыркія агні Дома творчасці, якія то знікалі, прыхаваныя дрэвамі, то зноў свяціліся, злёгку прытушаныя яловымі лапамі. Неўзабаве стала зусім цёмна. Юрась прыпаліў цыгарэту і, звёўшы вочы да пераносся, назіраў, як з кожнай зацяжкай жарынка цыгарэты кволай барвай кранала пальцы.

Сустрэча з пісьменнікамі, да якой так доўга рыхтаваўся, збіла з панталыку. Падчас п’янкі ён некалькі разоў спрабаваў усчаць гаворку пра лёс роднай мовы, але творцы тут жа пераводзілі размову на іншыя тэмы.

Ногі намацалі тупкую сцяжыну. Ён пайшоў па сцяжыне, з кожным крокам адчуваючы, што тая паволі спускаецца долу. Лес неўзабаве скончыўся, саступіўшы месца густому вербалозу. Наперадзе ціхенька плёскалася і шумела рака. Да вады ён не пайшоў. Задзёр галаву і зірнуў на неба, якое тут, на адкрытай мясціне, ужо не было такім чорным, як у лесе, і квола дымілася святлом. Ён пастаяў крыху, прыпаліў нягнуткімі пальцамі чарговую цыгарэту, і павярнуў назад.

Вецер, які дзьмуў ад самай раніцы, раптам аціх, яліны ўжо не шумелі над галавой, і шамаценне igліцы пад нагамі стоеным рэхам азывалася ў наваколлі. Неўзабаве дзесьці непадалёку нарадзіліся новыя зыкі. Мерныя і шаргатлівыя. Час ад часу яны перарываліся, потым зноў узнікалі, і чым бліжэй падыходзіў да Дома творчасці, тым гучней і выразней яны рабіліся.

Неўзабаве ён узбіўся на прысадзісты, выкладзены сілікатнай цэглай дамок з жалезным комінам над дахам. Гэта была невялічкая кацельня. Над уваходам вісеў самотны ліхтар, і ў коле зыбкага святла завіхаўся чалавек у вайсковай ватоўцы і з шуфлем у руках. Скаланаючы паветра рытмічным шоргатам, ён набіраў вугаль у пакарабачанае вядро і заносіў у кацельню.

– Ну як там у вас, цёпла? – кацельшчык мелькам зірнуў на Юрася.

– Цёпла, – Юрась пацёр скарчанелыя рукі і, памаўчаўшы, дадаў: – дзякуй.

– Пісьменнік?

– Паэт-пачатковец, – адказаў Юрась. – Ён адчуў раптам сорам за тое, што чалавек мусіць цэлую ноч махаць шуфлем, тым часам як п’яныя літаратары будуць храпці ў цёплых пакоях.

– Я тут ужо дваццаты год працую. Шмат каго з пісак пабачыў.

– А Васіль Быкаў бывае ў «Камарышчавічах»? – з натхненнем у голасе запытаў Юрась.

– Зрэдку. Калі які семінар ладзяць, тады прыязджае, – кацельшчык напоўніў вядро вуглем, абапёрся на шуфель. – Што яму тут рабіць? Сапраўдны пісьменнік заўсёды адзін-адненькі. Як той колас на ржышчы.

Юрась быў уражаны. Звычайны кацельшчык казаў рэчы, сугучныя ягоным уласным думкам.

– Да мяне часцяком людзі падыходзяць. Цыгарэтамі частуюць, жыццём цікавяцца. Спытаеш якога: а вы хто? Адказвае, грудзіну выставіўшы: пісьменнік! Думаеш – які ж ты пісьменнік, калі твае кнігі толькі рэдактар з карэктарам чытаюць.

– А размаўляюць яны хоць па беларуску? – спытаў Юрась, нервова паціраючы рукі. – Яшчэ хвіліну таму рукі былі скалелыя, а цяпер сталі гарачымі і свярблівымі.

– Ды хто як. Падап'юць, дык і на расейскую збіваюцца, – кацельшчык падхапіў вядро, знік у цёмнай пройме дзвярэй.

«Прысмакталіся да беларускай мовы – і маюць з таго харч нязводны», – са скрухай падумаў Юрась, хацеў яшчэ нешта спытаць, але суразмоўца, вытыркнуўшыся з дзвярэй, паведаміў:

– Зараз вячэра пачынаецца. Вунь, ужо сунуцца.

Юрась азірнуўся. Сапраўды, з Дома творчасці раз за разам выкульваліся людзі, шыбавалі міма асветленых вокнаў і знікалі за рогам цёмнай веранды. Толькі цяпер адчуў ён страшэнны голад. З учорашняга вечара нічога не еў, калі не лічыць кавалка чэрствага хлеба, якім закусваў «чарніла».

Ядальня – дашчатая, падобная на вясковы клуб будыніна, – стаяла непадалёку, надзейна прыхаваная ад вачэй дрымучымі кустамі. Юрась нерашучым крокам увайшоў у залу, прымружыўся ад зыркага святла і пачуў знаёмы голас:

– Эй, пачатковец, давай сюды!

Лысы сядзеў адзін за крайнім столікам. Хоць і выпіў даволі шмат, але выгляд меў цалкам цвярозага чалавека. Адно на шчоках ружавеў нездароўчы румянец.

Стравы, пад вясёлыя пісьменніцкія жарты, разносіла ўвішная кельнерка.

– Ну як вы сёння... узялі на грудзь? – гукнулі з-за суседняга століка.

Лысы незадаволена насупіўся. Мяркуючы па ўсім, за суседнім сталом сядзелі людзі з другога паверха.

– З вас бяром прыклад, – азваўся, не павярнуўшы галавы.

– Глядзіце, пад'едзе Іван Іванавіч – дасць фаеру, – са смяшком прамовілі суседзі.

Лысы зірнуў у іх бок, збіраючыся, як бачна, годна адказаць на кпіны, але тут кельнерка паставіла на стол талерку з едзівам, і ён толькі сцішана мацюкнуўся. Пра Івана Іванавіча згадвалі і падчас бяседы. Гэта, відаць, быў нейкі партыйны начальнік, які зрэдзьчасу наведваўся ў Дом творчасці, і тады творцам даводзілася хаваць пустыя бутэлькі і цэлы дзень хадзіць цвярозымі.

Кармілі пісьменнікаў як завязаць. Юрась праглынуў салату, з'еў два секунцы з таўканіцай; кельнерка, пабачыўшы, што на новага пастаяльца напала прогліца, прынесла дабаўкі, і пастаялец у рэшце рэшт з цяжкасцю падняўся з-за стала.

У разлеглым холе Дома творчасці Юрась убачыў карціну, якую не прыкмеціў удзень. Даволі вялікая, у шэрай, пабітай шашалем асадзе,

яна вісела на сцяне насупраць уваходу. Падышоў бліжэй і прачытаў на цэтліку: «Беларускія пісьменнікі ў Янкі Купалы. Масква. 1942 год».

На карціне былі намаляваныя беларускія пісьменнікі. «Купала... Броўка... Глебка... Куляшоў...» – бязгучна прашапталі вусны. З усіх адзінаццаці не пазнаў толькі аднаго – таго, які сядзеў на крэсле, закінуўшы нага на нагу і дэманструючы свету шырозныя калошы з манжэтамі. Юрась наблізіў твар усутыч да карціны, каб лепей разгледзець незнаёмца, і ўбачыў, што пісьменніцкі азадак навылёт прапалены цыгарэтай.

– Ілля Гурскі, – пачулася з-за спіны.

Двое цыбакаватых мужчын гулялі ў більярд, ганяючы шары па зялёным сукне. У некаторых месцах сукно было падзёрта кіямі.

– Усе глядзяць, і ніхто яго не ведае, – паведаміў адзін з гульцоў, з грукатам загнаўшы шар у лузу: мужчына меў вялізны, з гарбінкай, нос. – Графаман, якіх пашукаць. Але ж у класікі выбіўся. Вуліцу назвалі і мемарыяльную табліцу на доме прымацавалі, – гулец з жарсцю тыцнуў кіем у шар, але гэтым разам спудлаваў.

Над Янкам Купалам, які сядзеў і паліў папяросу, вісеў партрэт, на якім з цяжкасцю можна было пазнаць Леніна: так неахайна, грубымі мазкамі, яго намалявалі.

– Спачатку там Сталін быў, а потым на Леніна перарабілі, – патлумачыў гарбаносы. – Мастак пры мне завіхаўся. Усё, памятаю, лаяўся, што за перамалёўку не даюць ні капейкі. Таму і перамаляваў абы-як.

Да апошняга часу Юрась глядзеў на літаратурных класікаў з пашанотай, цяпер жа, пазіраючы на карціну, нядобра падумаў: «Відаць, таксама за ганарары грызліся ды высвятлялі – хто з іх у прыгожым пісьменстве лепшы. Але што вартага можна напісаць, седзячы пад сталінскім партрэтам?»

У пакоі, куды зайшоў праз хвіліну, панавалі цяжкі дух і мернае храпенне: бедалака Падгурскі ўжо спаў, скінуўшы левую нагу на падлогу.

– Ну а зараз – культурная праграма, – абвясціў Міхайлавіч, шарганнуўшы пальцам па калодзе зашмальцаваных карт.

Юрась ужо ведаў, што гульня па вечарах у падкіднога – тутэйшая завядзёнка. Гулялі творцы не проста так. Той, хто атрымліваў больш «дурняў», мусіў назаўтра ад ранку ехаць у горад па «чарніла». Пры гэтым ганец нацягваў на плечы гаматную апранаху, ва ўнутраныя кішэні якой можна было запіхнуць дзве пляшкі. Творцы жартам называлі яе «п'янь-куртка».

Пастаяльцы пакоя №2 паселі за стол, махнулі Юрасю, але той страсянуў галавой. Галава кружылася, і вушы ўсё адно як пазакладала ватай. Седзячы на ложку, налёг патыліцай на сценку, заплюшчыў вочы. Магчыма, ён бы і заснуў, але поруч хроп на ўсе застаўкі Падгурскі, і гэта збівала са сну.

– Ды пхніце хто гэтага храпуна! – са смехам крыкнулі ад стала, і Юрась, ачуўшыся, пхнуў храпуна нагой.

Падгурскі на момант аціх, памыліў вуснамі, захроп яшчэ натужлівей.

Сонная замарач усё ж такі ўзяла сваё. Гэта быў нават не сон, а ўсё адно як чорны вецер падхапіў ды панёс немаведама куды. Скрозь сон да вушэй даляталі бязладныя воклічы: «Звонкі козыры... ніжнікам трэба біць... а вось табе... з трыма пагонамі!» Да тых воклічаў далучаліся немы храп, ляскатанне карт і глухі грукат на галавою. Нечакана на гары грукнулі як мае быць, Юрась прачнуўся, прыспана паглядзеў на столь.

– Паваліўся нехта, – прамовіў Міхайлавіч, адарваўшы вочы ад карт. – Другі тыдзень прэмію абмываюць.

У гэты момант дзверы расчыніліся і хтосьці з інтанацыяй панікі крыкнуў:

– Праграма «Час»!

Гульцы кінулі карты, гамузам прыхапіліся, рушылі да дзвярэй. Па дарозе паспрабавалі раскатурхаць Падгурскага, але марна.

– Падымайся, пачатковец, ідзем падвышаць ідэйна-палітычны ўзровень, – выгукнуў Міхайлавіч. – Цвярозы ты альбо ўпіты, але праграму «Час» мусіш глядзець абавязковым парадкам.

«Ці не загад гэта Івана Іванавіча?» – падумаў Юрась, падымаючыся на ногі.

У фае другога паверха стаяў тэлевізар, вакол якога сядзелі пісьменнікі, сярод якіх пракідваліся і жанчыны. Некаторым не хапіла месца, і яны стаялі ўздоўж сцяны – рыхтык як у вясковым клубе, калі круцілі «Фантамаса».

Юрась пастаяў крыху, абапёршыся на драўляны парапет лесвіцы, а пачуўшы абрыдлы голас дыктара Ігара Кірылава, ціхенька, нікім не заўважаны, спусціўся па лесвіцы.

Спехам распрануўшыся, ён абрынуў на ложак і адразу ж заснуў.

Гэта быў дзіўны сон. Яму прысніўся той самы мастак, што замалёўваў Сталіна на карціне «Беларускія пісьменнікі ў Янкі Купалы». Пры гэтым мастак быў падобным да верхавода іхняга пакоя: такі ж лысы, і з вадзяністымі вачыма. Ён, Юрась, трымаў ва ўзнятых руках палітру, а мастак, стоячы на драбінах, падмалёўваў Сталіну ленінскую бародку, прычым, не пэндзлем, а малярскім квачом. Нечакана мастак хіснуўся, схапіў яго за плячук. «Чаго ты тут разлёгся?» – выдыхнуў на вуха, і Юрась размежыў павекі.

За вакном панавала ноч, і пакой скаланаўся ад бязладнага храпення, што вырывалася адразу з некалькіх глотак. У твар перагарна дыхнулі:

– Тут я сплю.

Гэта быў, відаць, той самы Дадон, які прыбіўся да маладзіцы.

Юрась падняўся, нацягнуў штаны, згарнуў у ахапак падушку з коўдрай, накінуў на галаў прасціну. Небарака пацепнуўся, пацёр нагу аб нагу, – выбег жа басанож, – і сігануў па прыступках. Там, насупраць тэлевізара, як ён заўважыў, стаяла вялізная канапа.

– Ай, хто гэта?! – спалохана крыкнулі, калі ён узняўся на паверх.

Тоўстая кабета, якая сядзела на канапе і паліла, спалоханай птушкай скочыла на ногі. У цемры накрытага прасцінай Юрася можна было прыняць за патарочу.

– Хто вы? – спытала кабета ўжо спакойнай інтанацыяй.

– Пачатковец... з другога пакою. Заняў ложак, а тут чалавек вярнуўся, які раней на ім спаў.

– Гэтыя п'янюгі адмыслова пачаткоўцаў да сябе ладкуюць. Ведаюць, што тыя з гарэлкай прыязджаюць. Трэба было адразу да Вераб'іхі звярнуцца. У нас тут на паверсе ёсць вольныя ложкі. – Вераб'іха, відаць, была тутэйшай ахмістрыняй.

Жанчына пусціла струмень пахкага дыму.

– Ну а цяпер куды?

Юрась кіўнуў на канапу.

– Змерзнеце тут. З долу халадэчай цягне – не ўгрэцца, – таўстуха зрабіла некалькі крокаў і спынілася. – Добра, пойдзем да мяне. Я з вядомай дзіцячай пісьменніцай жыву. Дык яна толькі перад сняданкам і з'яўляецца, – жанчына сказала гэта з незадаволенасцю і нават з лёгкай крыўдай. – Толькі глядзіце, без фокусаў.

У цёмным пакоі ён разаслаў на ложку прасціну – паўзверх пакрывала,

– і з галавой накрыўся коўдрай. Калі ж, зморaны ад задухі, вынырнуў з-пад коўдры і хапануў паветра, дык пачуў кароткую фразу:

– Божа, які паскуднік.

Юрась ад нечаканасці прыўзняў галаву: кабета ляжала ў ложку, да самага падбароддзя нацягнуўшы коўдру.

– Гэта я не вам, – прамовіла суседка па пакоі і ўздыхнула.

– А хто такі... лысы, што ў другім пакоі верхаводзіць? – нясмела запытаўся Юрась.

– Стагурскі... рэдактарам у аддзеле паэзіі працуе. Спіўся дарэшты. Казалі, хутка выганяць з рэдакцыі. Яму такія як вы, пачаткоўцы, вершы прыносяць, а потым у рэстаран вядуць, ці проста гусак самагонкі прывозяць. Ён іх і друкуе. Дык друкаваў бы што добрае, а то дае розную лухту. Дзіва што. Таленавітае надрукуй – сабе канкурэнцыю створыш.

– А гэты... з «ліхтаром» пад вокам?

– Падгурскі? Гэты ў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры завіхаецца. Яны там таксама паспіваліся. Ездзяць па калгасах, у клубах выступаюць, іх потым самагонкай пояць, – кабета, прыкрываючы рот рукою, пазяхнула. – На мінулым тыдні з адным нарысістам пабіўся. Той літаратурную прэмію абмываў, ну і ўзяліся «летку-енку» скакаць – ды так, што на першым паверсе са столі парахня пасыпалася, Падгурскаму вочы зацерушыла. Цвярозы быў, не ў гуморы, ды яшчэ з кватэрай надоечы пракацілі – вось і кінуўся на другі паверх разбірацца, – таўстуха зноў пазяхнула і крутнулася тварам да сценкі, паказваючы, што размова скончана.

Гэтым разам сон не ішоў. Можа ад таго, што побач спала жанчына, а можа ад неадчэпных думак, якія апанавалі свядомасць.

«Дарма тут улёгся, – падумаў Юрась, – заўтра апівуды пачнуць распытваць – дзе начаваў, як там ды што». – Ён уявіў агідныя ўхмылачкі на тварах апівуд і крутнуўся на другі бок, ды так адчайна, што ложак жаласліва застагнаў.

Цяпер зразумела, чаму народ адвярнуўся ад роднай мовы. Вось з-за такіх творцаў з бюро прапаганды. Якая там мова, якое нацыянальнае адраджэнне. Кватэры, прэміі, пуцёўкі, ганарары – усё астатняе літаратараў мала цікавіць. І на якую халеру дзяржава гэтую пісучую грамаду ўтрымлівае? Бо ж ніхто іх кніжак не чытае. А калі і чытаюць, дык у перакладзе на расейскую.

На калідоры гучна застукалі жаночыя туфлі. Неўзабаве грукат аціх і дзверы з прытоеным рыпам адчыніліся.

– Люда, спіш? – нейкая жанчына праслізнула ў пакой, і ў нос дало густым пахам парфумы.

– Ты не ўяўляеш, які гэта мярзотнік, – загаварыла жанчына па-расейску дрогкім ад абурэння голасам. – Кажу яму: падаруй мне залаты ланцужок, – а ён мне ў адказ...

– Цішэй ты... – прыспана азвалася Люда, і Юрась прыхапіўся з ложка.

– У цябе мужчына? – у голасе Люды чулася лёгкая паніка.

– Ды які мужчына... гэта пачатковец. Спаць не было дзе, дык я яго да нас пусціла, – патлумачыла сяброўка.

Прыйшлося такі плюхнуцца на канапу, што стаяла насупраць тэлевізара. Канапа была старая, прадушаная, і ляжаць на ёй была адна пакута, бо азадак правальваўся, а ногі ўздымаліся ўгору. Да таго ж, з долу і сапраўды цягнула халадэчай, і даводзілася, каб неяк сагрэцца, скручвацца абаранкам.

Раніцою, з азызлым ад недасыпу тварам, Юрась брыў на сняданак. У

галаве не было ніякіх думак, і з тае прычыны яна была надзвычай лёгкай. Сёння, упершыню за апошні тыдзень, з-за хмар вызірнула сонца, пяшчотна кранула левую шчаку, кальнула вострымі промнямі прыспаныя вочы. У лесе добра дыхалася, і паветра было густым і п'янлівым. Юрась спыніўся, дыхнуў на поўную грудзіну, прыслухаўся да ціўкання сініц і пачуў шаргатлівую тупаніну. Па асфальтавай дарожцы шыбавалі на сняданак пастаяльцы пакоя №2. Першым чаканіў крок лысы камандзір.

– Ну як, пачатковец, дзе начаваў? – камандзір па-сяброўску ляпнуў Юрася па спіне. – Штосьці ты нейкі пакамечаны. Ці не з Людкай ноч бавіў? – рагатнуў лысы. – Мы яе тут «хуткай дапамогай» называем, – лысы зноўку рагатнуў, а пабачыўшы невясёлы твар пачаткоўца, ляпнуў таго па плячы. – Нічога, не сумуй. Хто ж ведаў, што Дадон сярод ночы прыпрэцца. Цэлы тыдзень у вёсцы прападаў.

Пабачыўшы, што пачатковец не толькі не павесялеў, але яшчэ больш насупіўся, камандзір змяніў тон з вясёлага на суворы і патрабавальны.

– Дык у чым праблема? Што не падабаецца?

– Вы не падабаецеся, – прамармытаў Юрась.

– Я-а?! – з гартаннымі ноткамі выдыхнуў лысы, і ўся кампанія наструнілася.

– Ды не вы адны... Ехаў сюды, думаў, пісьменнікі авангард нацыі, хварэюць душой за лёс мовы, маюць нейкія ідэалы і перакананні, прагнуць, нарэшце, ісціны, а аказалася, што вас апроч ганарараў...

– Ну-ну, працягвай, – перабіў Падгурскі, – цікава паслухаць вось такіх – маладых ды неаб'езджаных. Сам быў такім калісьці.

– Вы сваёй бяздарнасцю, п'янкамі і звычайным халуйствам давялі літаратуру да ціхага скону, – успыхнуў Юрась, забыўшыся скончыць папярэднюю фразу.

– Малады яшчэ, каб старэйшым указваць, – з інтанацыяй лаянкі выдаў Падгурскі, – калі такі ідэйны, дык чаго сунешся на дармавы сняданак, ды яшчэ ў кампаніі з літаратурнымі прыстасаванцамі?

– А я магу і не ісці, – выпаліў Юрась і рашуча, як жаўнер на пляцы, крутнуўся на абцасах.

Назад да Дому творчасці ён рушым подбегам, а на ўваходзе ледзь не збіў з ног коласаўца, якога ўчора сустрэў на мосце.

– Паснедалі ўжо? – запытаў коласавец. – Чым там сёння кормяць?

– Было што выпіць, было чым закусіць! – крыкнуў Юрась, заляцеўшы ў пакой №2.

У тым жа тэмпе, дыхаючы як загнаны жарабок, Юрась прабег знаёмай сцяжынай да мосту і толькі тады запаволіў крок. Сэрца шалёна калацілася, прычым супадаючы са стукатам дзятла. Юрась перавёў дых, задзёр галаву, спрабуючы ўгледзець стракатуна. З вершаліны выноснай хвоі падала долу дробная парахня.

«Зусім як са столі ў пакоі №2, калі на гары «летку-ленку» скакалі», – падумаў Юрась і ўжо млявай хадой рушыў па дарозе.

Яму пашанцавала. Не паспеў выйсці на скрыжаванне, як з-за павароткі паказаўся той самы, белы з чырвоным пасам, рэйсавы аўтобус.

– Што, сёння вы за ганца? – весела спытаў той самы рабаціністы вадзіла, які, падобна, ужо не першы год абслугоўваў гэты маршрут.

Юрась нічога не адказаў, плюхнуўся на сядзенне, прыціснуўся скронню да халоднай шыбы.

За ноч крыху падсыпала снегу, і ён калюча іскрыўся на сонцы. Наперадзе была новая зіма.

«Усё ж такі добра, што з’ехаў з тых чортавых «Камарышчавічаў». Заўтра выйду на працу. А можа пару дзён пагуляю. Адпачынак жа ўзяў да наступнага панядзелка», – думкі павольна, як млынавыя жароны, круціліся ў галаве, потым некуды зніклі, і калі ён расплюшчыў вочы, дык убачыў за мутнай шыбай будынак чыгуначнага вакзалу.

Перш, чым узяць квіт на электрычку, – дахаты трэба было ехаць чыгункай, а потым яшчэ дванаццаць кэмэ на аўтобусе, – Юрась завітаў у вакзальны буфет, узяў бутэльку піва ды пару сінюшных буфетных секунцоў. Падхапіўшы пляшку з уздзетай на яе малянкоўскай шклянкай, падзячыў прадавачцы на роднай мове і тая адказала яму іранічнай усмешкай. Там, за сталом з недаедкамі, да якога прытуліўся, у Юрася і ўзнікла ідэя: заўсёды размаўляць па-беларуску. І яшчэ пачаць збор подпісаў пад патрабаваннем адкрыцця ў іх горадзе калі не школы, дык хаця б беларускамоўнага класа. Гэтым самым ён хацеў уцерці нос кан’юнктуршчыкам, што збіліся да кучы ў пакоі №2.

У электрычцы было холадна і нешматлюдна. Зрэшты, ён не адчуваў холаду, бо ўвесь час думаў пра тое – што напіша пад патрабаваннем аб адкрыцці школы і каго з сяброў далучыць да сваёй ініцыятывы. Юрась так расхваляваўся, што пальцы міжволі вылушчылі з пачка цыгарэту і ён падаўся ў тамбур.

У тамбуры стаялі яшчэ два курцы – ягонага веку маладзёны. Юрась папрасіў прыпаліць, па-беларуску, вядома, і адзін з маладзёнаў – той, што быў у дэрмацінавым палітоне, – лена пстрыкнуў запальнічкай.

– І што, з усімі на калгаснай мове размаўляеш?

– Не на калгаснай, а на беларускай, – паправіў Юрась, пусціўшы дым да столі.

– Ты што, чувак, не дапёр? Цябе папрасілі размаўляць з белымі людзьмі на нармальнай мове, – падключыўся да размовы напарнік, хаця дагэтуль ні пра што такое не прасіў.

– Я на сваёй зямлі і размаўляю на сваёй мове, – з годнасцю прамовіў Юрась, адчуўшы як непрыемна здрыгануўся голас.

– Чувак не даганяе, – з робленым уздыхам прамармытаў «дэрмацін», – трэба дапамагчы.

Вагон гайданула, цягнік рэзка запаволіў хаду, брынкнуў сваімі расхістанымі суставамі. Дзверы з цяжкім грукатам адчыніліся і ў вагон з вохканнем увайшла абцяжараная торбамі бабуля. Юрась напачатку не зразумеў – што наогул дзеецца. Проста адчуў штуршок у спіну і ўбачыў заінелую платформу, якая са страшэннай хуткасцю ляцела насустрач. Падаючы, ён балюча выцяў калена. Боль быў такі, што яго пачало нудзіць. Следам з вагона вылецела ягоная шапка і электрычка з зацятым выццём стала набіраць хуткасць, дыхнуўшы ў твар народжанай коламі замятухай і звозячы ў невараць саквояж з вершамі.

– Во напіўся чалавек. З вагону куляецца, – прабубніла цётка, якая выйшла з электрычкі.

Юрась нацубіў на галаў шапку, з цяжкасцю падняўся і, прыпадаючы на правую нагу, пайшоў уздоўж прыцярушанай снегам платформы.

Віктар Ярац



...голас мамы з глыбіняў расстання
праз маўчання пласты дастае...

# Зіма без мамы

***Паэма***

Свет без мамы пахіснуўся і гайдаецца
альпіністам над нямым бяздоннем.
Нават самай галасіста-звонкай раніцай –
з ёю гаварыць аб чым сягоння?

Мама, ты была – былі з табою
і Зямля, і Неба ў тым суладдзі,
дзе пад гукі акіянскага прыбою
вецер сосны і аблокі мякка гладзіў.

Ты была – віталіся праз вёрсты
горны эдэльвейс з палескаю шыпшынай,
і на дзень намоклы ці намёрзлы
наракаць вялікай не было прычыны.

Танцавалі аганькі рознакалёрныя
ў гарадскіх вітрынах вечаровых
і не хмурыла начной парою зорнаю
вечнасць позірк пад сузор'яў бровамі.

Запрашалі зімы ў светлы хорам,
леты запрашалі прычашчацца
салаўіным і шпачыным хорам
пад галлём і вішняў, і акацый.

У завеях, у сумётах ногі чулі
сцежкі да матулінага ганку,
да чакання цёплага матулі,
дзе за шыбай – светлая фіранка.

Слухаў май у завязі антонавак,
белага наліву і пуцінак
рой трывог,
турботаў незатоеных
пра дзяцей, гарод, пра свет айчыны.

І хусціны мылі пасля поймы
ў рэчцы пералётныя аблокі,
і вада ў вядры, даверху поўным,
не была яшчэ ні кроплі горкай.

Думаў: немінучасць-ростань міма
будзе абыходзіць тут, дзе мама
слухае з арэшнікавым кіем
дол сівы –
ён чуйны, як мембрана.

Толькі голас мамін
надламаным коласам
да зямлі прыбіўся анямела.
Сіратліва стала ўсім вышыням космасу –
блаславілі мамін век
рукою белай,
што аднойчы
так імгненна
пачарнела...

* * *

Тонкі лёд пад нагамі хрусне –
адгукнецца не гонкі гром, –

далячынь, дзе шаткуюць капусту
рукі мамы зімовым днём.
За вакном у двары сініцы,
за вакном снегіры між дрэў
моўчкі слухаюць сонца ў зеніце
ў акаймоўцы сцюдзёных стрэл.

Ледзяшы, як адлігі суслы,
акалелі ноччу, цішком
і цяпер іх аблізваюць вусны
прыляцелых адкуль вецяркоў?

І аблокі ў хрышчоных высях
ці пытаюць, хрышчоныя кім
над пасёлкам дымкі ўзняліся
ўсім анёлам, далёкім і блізкім,
расказаць: вараць што чыгункі?

Не пра лыжкі і міскі цікава
там даведацца ў вышыні,
а пра тое, якая страва
ў печы млее на спелым агні.

Гуслі промняў і промняў цымбалы
то прымоўкнуць са снегам, то зноў
распачнуць пра якія далі
несці шыбам, ледзь-ледзь адталым,
свой (ці чутны каму?) пераэоў?

У зарэчным бары палянам
сніцца што пад снегам ці не?
Покуль маміны рукі качанне
выбіраюць – тугое звычайна, –
быў той час залатым у цане.

Перамеценым сцежкам у полі –
іх буравіў асенні крот –
думаць думы, пакуль мама соліць
шаткаванку – з ёй дружыць укроп.

І цяпер, як у горадзе хрусне
першым тонкім лядком зіма,
чую: мама шаткуе капусту...

Толькі сёння
мамы няма...

* * *

Ты жыць хацела...
Ні дзяцей, ні ўнукаў
там я не ўбачу – гаварыла ты,
калі вялі хваробы круг за кругам
цябе ў аблогі вечнай нематы.

І да апошняй
восеньскай хвіліны,
з якою змоўкла сэрца назаўжды,
прыгадвала і праўнучка Данілу –
найменшага, з кім гаманіла ты.

Любіла будні
больш, чым святы-гулі,
і шчыравала, хоць балела ўсё;
вянкі цяжкія часнаку, цыбулі
з табой зімой пра лета снілі сон.

Ты столькі перабрала
глыжак цвёрдых,
перапалола столькі кожны год
загонаў з бульбай, буракамі, морквай –
зямлю ў спякоту твой лагодзіў пот.

Там, дзе нябыту
сцены без акенцаў,
ці сніш веранду з лаваю з сасны,
падлогу з трэшчынкамі і шпалеры ў сенцах,
якія з Гомеля прывозіў сын?

Што бачыш там
у тым бязгучным свеце,
дзе толькі спі і спі – і ніадкуль
цябе не могуць дагукацца дзеці
праз гул дарог і завірухі гул?

Зіма паказвае
капрызны нораў:
то ціскане марозік, то вадой
адліга разліваецца, як мора,
то ў вочы б'е нахрапістай
крупою ледзяной.

Што чуеш, мама,
там, у дамавіне –
табе па росту падабранай так,
каб цесна не было прыгадваць з цёмнай глінай
пра дні, што свой адолелі бальшак?..

### МАМІНЫ СЛОВЫ

З мамінага слоўніка выцягваю
словы, нібы з попелу жарынкі,
грэць душу азяблую, асмяглую
на аўтобусных, тралейбусных прыпынках.

Колькі гукаў розных зорным россыпам
на губах пагаслі назаўсёды,
што мяне не раз парой марознаю
лашчылі ў завеі, галалёды.

Словы з вуснаў мамы – ратавальныя
ад бяды, ад злых сурокаў лёсу,
з імі, як паштоўкі прывітальныя,
і ў вясёлках, і ў снягах нябёсы.

Да мяне ішлі зямнымі вёрстамі
маміны не ўпохапку прызнанні
пра жыццё, дзе час касою востраю
не ў адных лугах касіў старанна.

Век на згадкі падкі, на пацешныя
прыказкі і з перчыкам, і з соллю.
Толькі болей з болем, а не смешныя
маміны няспешныя выслоўі.

Мала ўзяць паспеў з твайго я слоўніка,
мама, незваротная, адзіная.
Без цябе блукаць, нібы бяздольніку,
што па вёсках з торбамі блудзілі...

З мамінага слоўніка,
як з бохана,
крошкі, што не скінуты пад ногі,
з новаю сустрэнуцца эпохаю –
запытацца мне ў якога Бога?

### ТРЫ ЖМЕНІ СМУТКУ

Тры жмені жвіру на расстанне,
тры жмені...
Яны цяжкія, як маўчанне
слязы з-пад веяў.

Тры жмені над магільным склепам –
там ціха вельмі,
там гліна спіць – з такой не лепіць
ганчар гладыш для брагі хмельнай.

Тры жмені над знямелым сэрцам,
тры жмені...
Ты так хацела слухаць з веццем
і першы дождж, і цвет вясенні.

Тры жмені ўпалі і на рукі,
якім ніколі
не абдымаць світальных гукаў,
не засцілаць абрус застолля.

Тры жмені вочы засланілі,
тры жмені...
Апошнім клінам жураўліным
ці рассячы журботы сцены?

Тры жмені цэлую планету
вянчаюць болем –
ты да яе зімой і летам
імчаўся лесам, полем.

Тры жмені горкага бяссілля,
тры жмені жвіру...

* * *

Шчаслівы быў, калі да мамы ехаў
у той надрэчны дом,
дзе ў сценах баравое змоўкла рэха,
што калыхалі сосны летнім днём.

І свет вітаўся не журбой з табою,
як сустракала мама ля дзвярэй
зялёнаю вясной, парою лістабою,
а сёння ён – знямелым сіратою –

прыгнутым слухае з густою сівізною,
як замярзаюць рэчка і ручэй
пад кручай, на якой крыжы –
распяццем і віны, і болю...

...і на адной вадзе,
на сухарах
згадзіўся б жыць, каб толькі
вярнуцца зноў пад родны дах
і маміну пачуць гаворку.

У хаце той прысесці за сталом
і слова кожнае, як цёплы хлеб духмяны,
душою смакаваць; а за вакном
іграе вецер на сваім баяне...

## ГРОНКІ ЦІШЫНІ

Ні гукам не вітаюць вераб'і –
ці галасы замёрзлі ў дзень сцюдзёны?
І пацямнелі ягады рабін –
ужо не той у іх агонь чырвоны.

І цішыня такая, нібы зноў
свет – завяззю сцяжынак запытання
і тых, дымком спавітых даўніх слоў,
якія грэлі позірк і дыханне.

Не лічыць век пытанняў да жывых,
а запытацца тут пра што ў памерлых?
Маўчаць і вераб'і, і кожны міг –
ён белы, як вышыняў белы церам.

Кранеш галіну – ягада ўпадзе,
агорнутая голасам, што ў сэрцы,
і апячэ – не проста адгукнецца –
асенняга расстання доўгі дзень...

* * *

Будні дзень бласлаўлёны сініцамі.
Заінела галлё – яму
будзе неба марознымі спіцамі
рукавіцы вязаць на зіму.

Будні дзень паяднаны з вышынямі,
і дакорам таму не гняві
далячыні, дзе рэкамі сінімі
мылі вочы летнія дні.

Будні дзень знітаваны з роднымі
галасамі дарог людскіх,
хоць прыціхлі гудкі пераходныя
да прыходу шурпатых крыг...

* * *

Як адна ты ў хаце смерць пачула –
невядома мне.
Запяклася кроў твая, матуля,
на руцэ на правай і на рукаве.
Як ты памірала ў адзіноце?
Тэлефон маўчаў...
Цяжка сэрцу.
Цяжка небу.
І ў сумоце
сонца не ўсміхаецца вачам...

* * *

Боль загоіцца чым – пытае
днём і ноччу душа, – да яе
голас мамы з глыбіняў расстання
праз маўчанне пласты дастае...

*30 студзеня 2018 года,*
*Гомель.*



Зараслава Камінская



...неабавязкова быць побач,
каб назаўжды застацца разам...

# Святочнае

***Абразкі***

## Снег

Прачынаешся цёмным ранкам і бачыш за вакном ззянне, якога не было восенню. Значыць, ноччу выпаў снег. Бязгучна лёг паўсюль, не прамінуў ніводзін шлях, ніводзін дах, нібыта пыл.

І горад цяпер – як пакой, куды даўно не заходзілі. Падзьмеш – уздымеш пыл. Правядзеш пальцам – пакінеш след. Чый гэта пакой? Не памятаем. Навошта ён? Пачакайце, развіднее, і мы ўспомнім, абавязкова ўспомнім. А пакуль так добра глядзець на нічыйны пакой, куды даўно не заходзілі, і таму забыліся, які ён прыгожы. Казачны.

Снег – як спакой, якога шукалі ўвесь год і не маглі знайсці, а цяпер глядзіце – вось жа ён, ляжыць навідавоку.

## Мандарын на далоні

Хаваю мандарын у торбу і выходжу ў ноч, на мароз, на шпацыр. Адна, без пальчатак.

Буду гуляць па горадзе, пакуль не забуду пра тое, што паветра бывае цёплым, што на дрэвах бывае лісце, што зямля – не заўжды белая. Забуду пра ўсё, акрамя зімы.

Буду чакаць.

Чакаць, пакуль мандарын вылежыцца, астыне, замерзне, кожная долька стане падобная на маленькі келіх з шампанскім. Кінула ў рот – нібыта зрабіла глыток. Яшчэ глыток, і яшчэ, каб ісці па холадзе і ўсміхацца, нібыта крыху п’яная і крыху шчаслівая.

Чорнае неба апускаецца ўсе ніжэй і ніжэй, і зоркі ўжо мігцяць пад нагамі, а вецер ідзе са мной побач, шчака ў шчаку.

Спрабую паправіць шалік і адчуваю, што пальцы не разгінаюцца. І разумею, што дачакалася.

Дастаю мандарын і павольна, пялёстак за пялёсткам здзіраю лупіну. І ён застаецца ляжаць на далоні, нібыта тое самае сэрца – мяккае, кволае, безабароннае.

І гэта толькі імгненне, вузкі момант міжгоддзя, калі нічога на сэрцы няма, і яму вольна, зорна і холадна. З яго знялі старыя клопаты, мары, надзеі, а новых яшчэ не нарасло.

Ноч усё цямней, а людзей усё болей на вуліцах: я трапляю ў натоўп, быццам з поля заходжу ў лес. І трэба быць уважлівай, каб не сутыкнуцца, не зачапіць, не штурхнуць. Трэба быць асцярожнай, бо калі прыгледзецца, перад Новым годам шмат у каго – аголенае мандарынавае сэрца на далоні.

## 12 страў

Святочную вячэру гатавалі ўдвох на дваіх. І цяпер селі за стол, каб пабачыць, што атрымалася.

Дзеці дарослыя, калі толькі дзеці бываюць дарослымі, самі па сабе, ну і добра, нарэшце.

– Пяцьдзясят два гады, – яна пасунула мужу талерку: вялікую, круглую, нібыта гадзіннік, вось толькі стрэлкі – нож і відэлец – знятыя, не рухаюцца, ляжаць побач, бо час тут болей не лічаць хвілінамі.

– Мы столькі разам? Тады, напэўна, з’елі той пуд солі, пасля якога нічога не страшна, – ён ставіць на стол апошняю страву.

Цяпер на стале іх дванаццаць, і, вядома, кожную трэба пакаштаваць. Але ўсё тое яны і раней каштавалі.

– Хлеб з цукрам, напэўна, самы першы ласунак у жыцці. Трэ хлеб макнуць у ваду, – яна хлеб макае ў сподак, – пасыпаць цукрам, – прысыпае. – Так мы елі, малыя, – адкусвае. – Датуем гэтую страву тысяча дзевяцьсот пяцідзясятым, калі мне было тры гады.

– Мне тады чатыры было, і мы так елі. А я ўзгадаю і пакаштую хатнюю каўбасу, пальцам піханую. Пяцьдзясят шосты год. Бацькі ўжо завялі добрую гаспадарку: карову, курэй і свіней. І мы заўжды былі з мясам. А каўбаса – то найсмачнейшае. Яе складвалі ў маленькую бочачку і залівалі смальцам. Ён гусцеў і зацягваў каўбасу, нібы лёд. І так добра летам, прыбегшы з рэчкі, спусціцца ўпотайкі ў склеп, залезці рукою ў тлушч, адламаць скрылёк, – і з’есці яго з агурком!

– Далей галубцы. Усе, як след, але адзін – мой, асаблівы. Такі, як рабіла мне маці, бо я прасіла: “Мне, калі ласка, прыгатуй галубец без капусты”. Не любіла тушонае лісце, тая яшчэ была прывярэда. Шасцідзясяты год.

– Шэсцьдзесят чацвёрты, і вінегрэт! Я тады заваліў іспыты і працаваў, рыхтаваўся, штудзіраваў. І тады, мо апошні раз, мы Новы год адзначалі бацькоўскай сям'ёй. А пасля я з'ехаў у Кіеў, бо паступіў, ды і ты паступіла. Браў пасля вінегрэт у сталоўках, але дзе там, не той смак. Для вінегрэту патрэбна сям'я.

– Калі я вучылася, бацька прысылаў грошы, і мы на Хрэшчаціку хадзілі ў варэнічныя, блінныя, а калі і ў рэстаран! І мы елі бліны з ружовым варэннем – яго варылі з пялёсткаў! Былі мы ў Кіеве, нічога ад нашых часоў не засталося. І толькі Хрэшчацік я адразу пазнала, як і ён мяне, хаця мы абодва змяніліся. І зараз гучыць як назва для казкі, ў якую не верыш: бліны з варэннем з ружовых пялёсткаў. Здаецца, калі пакаштуеш – вернешся ў маладосць. У шэсцьдзесят пяты.

– Ну, ты добра жыла! Шэсцьдзесят пяты, і бульба. Смажаная бульба на сняданак, абед і вячэру, во як елі студэнты. І яшчэ піражок з ліверам па трыццаць капеек, эх, той смак не адновіш, не тое што бульбу, – кінуў сабе на талерку жоўтыя лустачкі. – І я пра бульбу працягну, дакладней, пра варэнікі з бульбай, – і падчапіў з талеркі адзін. – Калі б я іх не пабачыў, узгадваю тваю маці, маю цешчу, якая іх мне гатавала. У сямідзясятым рондаль ці не на літраў пяць яна наляпіла, а я ўсё пад'еў. Накрыўку яна падымае – а там ці не тры засталося. “– А хто гэта з'еў? – Я, кажу”. Смяецца. І пасля, калі прыязджаў, ляпіла варэнікі, а пра той выпадак расказвала ўсім – такі ў яе зяць! Такая цешча была ў мяне... А твае сяброўкі дагэтуль узгадваюць майго карпа пад марынадам з морквы. Мы толькі пераехалі ў Наваполацк, як адвучыліся, у семдзесят першым, жылі ў інтэрнаце. Сяброўкі здзіўляліся: у інтэрнаце – і карп! Мужчына – гатуе! І памятаеш, снегу тады было па калена, як хадзілі па елку. Тады горад быў такі маладзенькі, як і мы, вакол – цёмны лес. І па снезе ідзеш, а ногі грузнуць, кусае мароз. А ты не зважаеш: у цябе ёсць дзе жыць, у цеплыні чакаюць сябры і пад моркваю карп!

– Тваражок, – бярэ крыху відэльцам – Самаробны. Не такі, вядома, як той у восемдзесят пятым. Глядзі, як далёка я пераскочыла. То першая ежа, якую давалі прыкормам дзіцяці. Па чарзе мы стаялі ў чарзе на малочную кухню. А вось гэта, – паравыя катлеты і дзевяноста пяты. Я сама не люблю пра іх узгадваць, але, – узяла сабе на талерку. – Але як не ўзгадаць. Бараўляны, дзе вы з сынам начавалі ў калідоры побач з маёю палатай. А ты ездзіў на Камароўку, па свежае мяса, каб мне гатаваць паравыя катлеты, каб я ела хоць што-небудзь... Але свята, лепей успомнім іншыя слёзы. Вунь трубачкі, якія ў двухтысячным скраў наш сабака. І як з дачкою ад крыўды мы плакалі, што госці ў нас на парозе, а няма чым пачаставаць, бо гэты прабраўся ў спальню і з'еў. А мы ўсе дзівіліся: і дзё ён падзеўся! Звычайна завіхаецца побач, калі ўсе на кухні. А ён у гэты час ціхенька ўсё пад'ядаў. Толькі адна ўратавалася трубачка – за стол закацілася. І плакалі мы, а цяпер нам смешна.

Хутка поўнач, і стравы амаль усе названыя.

Засталася дванаццатая, тая, што схавана пад накрыўкай. Ні паху, ні іншай падказкі пра тое, што лёс ім гатуе.

– А гэтую ты не адчыняй, не трэба. Бо мы ж не ўсё ў жыцці паспелі

пакаштаваць, няхай застанецца яшчэ таямніца. І салодка было, і горка было, і ў горла не лезла, але колькі б той горычы не насыпана, смачна есці!

## Святочная раніца

Калі я прачынаюся ў першую раніцу новага года, у мяне яшчэ нічога няма.

Але мяне ўсё чакае: падарункі пад елкай, любімыя людзі і смачная ежа за агульным сямейным сталом.

І я не спяшаюся ўставаць, бо хачу падоўжыць гэта пачуццё, хоць на пяць хвілін, ну на дзесяць, на дваццаць.

А яшчэ лепей, падоўжыць так, каб кожную раніцу пачынаць з гэтай святочнай упэўненасці. Што хай яшчэ нічога няма, але абавязкова будзе, трэба толькі высунуць нагу з-пад коўдры.

## Санкі

Каб зноў апынуцца ў санках, трэба заплюшчыць вочы.

Атрымалася? То сядайце ў свае. Мае – з драўляным сядзеннем (чырвоныя і зялёныя палкі), з металічнай пагнутай спінкай і металічнымі палазамі. Санкі трымае за матузок бацька – яго спіна засланяе агляд, таму каб нешта пабачыць, трэба круціць галавой, але шалік зацягнуты так, што паварушыцца даволі складана.

Я – замотаны куль, мяне вязуць у садок. Цёмная раніца, як тая ноч, ліхтары, а ў паветры мігцяць калючыя зоркі – здаецца, гэта яны балюча драпаюць шчокі. Маці кажа пра такое: “Ну што, кусае мароз?”, а бацька бяжыць, каб хутчэй.

Краем вока я бачу, як побач імчаць іншыя бацькі з іншымі санкамі, але мы ляцім наперадзе.

Калі высунуць руку, то можна заграбаць снег – бы вядзеш далоняй па хвалі, то глыбей, то зусім па паверхні, тады скачуць ільдзяныя пырскі; рукавіца аблепліваецца снегам, пакрыху намакае. Тут час сунуць яе ў рот: вадзяністыя камячкі, крыху шэрсці і металічны прысмак – бо трымалася за спінку, каб не ўпасці.

Але якое там упасці? Наперадзе – бацька, надзейная бацькава спіна. Па баках – ноч.

Санкі бягуць па снезе з ціхім шоргатам, зусім нячутна, як па ваце – ат, скрыгатнулі, асфальт – і зноў паімчалі бязгучна.

А расплюшчыш вочы – і няма наперадзе спіны: цябе адпусцілі, ты – дарослая, ляціш з горкі, усё хутчэй і хутчэй, і невядома, што там, наперадзе, і ці адолееш кіраванне.

Але ж можна заплюшчыць вочы, хоць на хвілiначку. І вось ты зноў, у санках за спінаю ў бацькі, як у бога за пазухай, і вы разам імчыце ў цьмянай цішы сярод зор.

## Снегавікі

Калі мне было гады чатыры, да мяне ў госці папрасіўся снегавічок. З двух камячкоў, замест вочак – гузічкі, ручкі – з галінак. Памерам – з далонь майго бацькі.

І гэта бацька дапамог яму патрапіць ў кватэру і нас пазнаёміў.

Мы размясцілі снегавічка ў ванне, ды ён хутка пачаў раставаць, а я – румзаць. Бо шкада, так шкада! Ён жа хацеў быць побач са мною, сам прыйшоў, рызыкаваў, незразумела як падняўся па прыступках, пазваніў у дзверы, а цяпер можа загінуць.

І, каб уратаваць, снегавіка аднеслі на двор, з абяцаннем наведаць яго раніцой.

А за ноч выпаў снег, і знік наш малы – ніякіх слядоў. Нават не развітаўся.

Ці ён наўмысна не хацеў развітвацца?

Бо штозіму, калі я бачу снегавіка – вялікага, зробленага па ўсіх традыцыях, з рондалем на галаве і з носам-морквою; ці зусім не белага, размаляванага рознымі фарбамі, з чорнымі брывамі і чырвонымі шчокамі; ці крывога, худога, які не падае толькі нейкім цудам; ці з сапраўдным, хоць і старым, сінім лыжным капелюшом і блакітным шалікам, з лыжнымі палкамі; ці з пацеркамі з пластмасавых накрывак, – я ўзгадваю таго, маленькага, з дзяцінства, з якім мяне пазнаёміў бацька.

Нібыта кожны з снегавікоў перадае мне ад яго прывітанне. І напамін, што неабавязкова быць побач, каб назаўжды застацца разам.

## Ялінка

Ялінку ў дом прынеслі трыццаць дзён таму.

Гэта значыць, зараз яна ўжо не можа трываць: па начах чутно, як сыплюцца іголкі (не ўтрымала!) – нібы ідзе дождж, нібы ў зале падаюць кроплі.

Яна ўжо не можа бараніцца: раней аб вецце можна было здзерці пальцы, як аб цёрку, а зараз праводзіш – бездапаможныя, рассыпаюцца ў пыл, у пацяруху.

Піла, піла ўсе дні, але ж вось высахла: калі трыццаць дзён таму раптоўна траплялася на язык зялёная igліца, яе было весела жаваць, як пёрка маладой цыбулі, якое першым з’явілася на падваконні пасля доўгай зімы. А цяпер – раскусіш, і ніякага смаку, адна непрыемнасць, нібы ўжо не трава – салома.

Усё, што засталося, – гэта пах. Калі елку вынясуць камлём наперад, яшчэ некалькі гадзін пах будзе лунаць у паветры, лясны, хвойны, вольны. А пасля знікне і ён.

Праз месяц увап’ецца ў пятку нявымеценая апошняя іголка, і кальне ўспамін у сэрца – свята скончылася.



Вольга Гапеева



...маё імя балансуе на вуснах мужчынскіх
цыркавым акрабатам...

# Чорная яблыня

## *КАНЦОНЭ ПРА ТРОХ ІЛЬВОЎ*

цалавацца вучылася я ў ільва
рыбы песцілі маю скуру
і падлівалі віна
зачаравана ўздыхалі маўчалі
і браліся шлюбам
са студнямі

на маёй жа зямлі
капытамі білі быкі і коні
уздымаючы віхуры болю

і новы з'явіўся леў
удаючы гандляра заморскіх бразготак
але што мне да пацерак
у кішэнях маіх пясок
дзе хавае свае атрутныя джалы павукападобны звер
ён запэўнівае мяне што асалода ў пакутах

я веру
і працінаю сябе дзідай, стралою, мячом
і веру і веру і веру
*веру кожнаму зверу толькі не табе*
казала бабуля
і працягвала мне сточаны серп

ўсё паўтаралася
перагнівала
зброя блішчэла на сонцы
агаляючы косткі

пустэльня з самотным макам
узіралася ў трэцяга льва

* * *

маё імя балансуе на вуснах мужчынскіх
цыркавым акрабатам,
яно – свабода і можа высока падскочыць
каб кірля марская яго падхапіла
і на бераг аднесла туды
дзе расце пескалюб
сцябліны яго вострымі стрэмкамі ўторкнуцца ў скуру імя
па швах разыдзецца на раз два
во – застанецца са мною
ля – таксама
што за сэнс уручаць падарункам абрубкі
незавершанасць будзе муляць
і трымаць у закладніках памяць
не хачу заставацца пад вартай
прыходзіць па позве
быць прыгаданаю па нястачы
быць прыгоннаю
а значыць
бегчы-бегчы скрозь цела рэхам
пераходзіць з рота ў рот як замова
ад  сурокаў, ад ляку ад болю зубнога
мне не жыць у літарах на плячы земляроба
бо я вуснае шчасце
а не пісьмовае

* * *

жыву ў гатэлі насупраць касцёла
вечарам п’ю віно каля сінагогі
суразмоўцу знаходжу непадалёк ад мячэці
падарунак атрымліваю на выйсці з царквы

у засені явара гляджу на ўцехі адных і пакуты іншых
калі бяздомны сабака кладзецца ля ног
прывітаннем ад будды

* * *

восень стамілася быць сабою цяпер яна думае што зіма
яе асуджаць не бяруся такая сама
выходжу з кіно плятуся дадому вяроўкай адрэзанай ад вузла
у лістападзе чамусь асабліва сцішна прызнацца
што насамрэч адна
што гэта надоўга і невылечна бо лекаваць невядома што
абсцэс самастойнасці
пералом даверу
ці запаленне адчаю ў левай руцэ
поўнач заўсёды была пакараннем
амаль ніхто не вітае снег
і нават у мове абледзянелым
кажуць на сэрца, што не хоча хварэць
і я не хачу
таму спыняю рэкі дзе брудныя боты свае
мыў вораг вогненны знак лета
пацíху ў маўчанні сваім гніе

* * *

я быццам слова што жыве ў дадзеным умовы
прымяраю сусветы
пажаданы, магчымы і верагодны
*калі б* і *хаця б* і *толькі б*
бы сабака што ніколі не выходзіць з дому
а сядзіць паслухмяна на ганку і чакае
пакуль прыйду я
і скажу “гуляць”
я кепская гаспадыня
дазваляю цягнуць сябе ў розных кірунках
і ўвогуле мне такія стасункі не падабаюцца
на павадку
гаспадар і служка
яна цябе б’е а ты ад яе залежыш
і называеш гэта вечным каханнем
полюсы і магніты
процілегласці прыцягваюцца
навошта стасункі людзей гэта фізіка і геаграфія
лепш як у мове – словы злучаюцца
утвараючы тэксты, жыцці, бясконцасці
гладкія, ладныя, кутнія і нязвыклыя – але магчымыя

без барацьбы і знішчэння
без дакладнага вылічэння
дзе ёсць і правілы і выключэнні
і няма павадка

* * *

тэрапеўт кажа трэба менш рацыяналізаваць
маці кажа трэба перастаць сябе ламаць або шкадаваць
сяброўка кажа трэба проста вымкнуць радыё
і не корпацца ў прычынах, крыніцах і гэтак далей
іншая сяброўка кажа сумаваць і плакаць – нармальна
з гэтым нязгодная мама і першая сяброўка
але згодны тэрапеўт
і толькі тата нічога не кажа
нават у маіх снах
дзе ён з’яўляецца гэтак жа рэдка
як было пры жыцці

* * *

цяперашні час даецца мне цяжка
мінулы ведаю лепш
там і жыву
вось бы як у кіно
страціць памяць
і тых хто там прапісаўся
не маючы майго на тое дазволу
тады кожную згадку буду спакойна здымаць
як волас з пляча паліто
не здолеўшы прыгадаць ужо
чыйны

* * *

там дзе растуць дрэвы
мне не патрэбны аркестры
і прыймачы з патэфонам
мне не патрэбны бо
там дзе растуць дрэвы
ёсць ультракароткія хвалі
і звышдоўгія хвалі
абавязкова там ёсць
яны выпраменьваюцца з дзюбаў
мабільных радыёстанцый
гучаць адначасова
без хрыпласці перашкод

вось тут разважаюць пра гнёзды
а тут пра культуру палётаў
якое ў модзе пер'е
і як здабыць чарвячка
і раптам я зразумею
тое што для мяне песні
для птушак будзённыя справы
размовы так, ні пра што
і можа быць там дзе растуць дрэвы
усё ж неабходны аркестры
каб мы слухалі птушак
а птушкі слухалі нас

* * *

рычард кажа
што напісаў свой верш недзе 40 гадоў таму
а я падумаю што і не жыву столькі

годазлічэнне і ўзрост
прывілеі пісьменных

салamí застаецца дома

не чытае не піша не лічыць
яна мые посуд, сястрыц, падлогу
год два тры працірае пустыя вазы

можна поўніць іх сэнсам кефірам ці кветкамі

саламí любіць макі
калі яны выспяваюць – у каробачцы чорная россып бубак
колькі год табе саламí
не ведаю, суседзі кажуць што 30
кажуць дрэвы нават ведаюць свой узрост

дык хіба я горшая за дрэва

чорная россып бубак

## *ЧОРНАЯ ЯБЛЫНЯ*

раніца пачынаецца з перакладу імёнаў
людзей
якіх расшуквае паліцыя, родныя, нейкія службы
у суседняй краіне вайна
але як заўсёды тэрміналогія ў кожнага боку свая

усё што я ведаю пра гэтых людзей – дата іх нараджэння
і з ліста ў ліст якія перакладаю цягнецца невядомасць
як калі трэба трываць і не ведаеш колькі яшчэ
і раптам
месцазнаходжанне асоб устаноўленае
а потым
дадатак – даведка аб апазнанні цела
і невядомасць з бязважкай, з туману робіцца чорнай яблыняй

стольках я пахавала ў сваіх перакладах
стаяла каля маці і бацькі, каля мужа і каля каханай
сыходзіла каб праз дзень пагрукацца ў іншыя дзверы
і глядзець як на тварах з'яўляецца зморшчына нявер'я і гневу

апазнаныя целы і неапазнаныя душы
допіс аб смерці – як правільна перакласці?

і вось я ў турэмнай каморцы пішу ліст
і вось у траншэі расчытваю почырк

перадайце цёплых шкарпэтак і шахматы
ваш сын, 2017

я спусціўся на дно,
смерць – дык смерць,
але каб хоць з невялікай славай памерці
1942

а я думаю, хто гэта слава
што яна робіць з сэрцам
надае сэнсу той бессэнсоўнасці што вакол
быццам усё было не дарма

мужайцеся і суцяшайце сябе думкай
што справа за якую змагаўся ваш муж –
справа  вызвалення радзімы
1945

лепш было б каб нас зусім забіла
анеж от так пакутаваць
Олена, Камянец-Падольскі, 1941

пісаць ліст і спадзявацца на ўзнагароду
пісаць ліст і хвалявацца ці дайшлі грошы
пісаць ліст і не ведаць што ён апошні
або пісаць і ведаць
дзякуй Зіначцы за фотакарткі, праўда адно мне не падабаецца,
тое, што яна пафарбавала вусны, да таго ж неахайна
1941, Кіеў

каляды прайшлі ў траншэі,
але ў мяне быў кавалак пудынгу
таму я не мушу бурчаць
1914, Эдвард

цяжка быць жанчынай адной у палку,
спім у агульнай зямлянцы,
сушымся ля адной печкі.
нагавіцы і боты не па памеры
Марыя, 1945

трываць як усе
выкладвацца нават болей
думаць, што ты герой як і кожны
а потым маўчаць што была там, хаваць медалі
бо ніхто не падыдзе да ваеннай дзяўчыны
“ведаем як тыя медалі ты заслужыла”

і тое, што ёй адрэзалі ногі,
і тое, што боль трывала нясцерпны
і што не баялася адмаўляць камандзіру

не лічыцца

і я думаю, а што лічыцца

спаць з маладымі медсёстрамі?
абрухаціць баявога таварыша?
або гвалціць дачку ворага?

ордэн табе не дадуць
калі сумняешся ці варта страляць
калі спачуваеш і сваім і чужым
калі топіш сваё дзіця каб ыратаваць астатніх
калі клапоцішся пра чужога мужа
калі вешаешся на яблыні чорнай

у імя маці дачкі і святой душы



Сцяпан Сяргей



...страх –

самы страшны разбуральнік душы...

# Бомж

***Апавяданне***

Міхаіл прытармазіў насупраць гастранома, з цяжкасцю прыпаркаваўся на забітай машынамі пляцоўцы і заглушыў матор. Лабавое шкло пакрылася кропелькамі дажджу і адразу пачалі расплывацца, губляць свае абрысы ярка асветленыя вітрыны крамы, ліхтары, постаці людзей. Вецер разгойдваў голле дрэў, зрываючы з іх апошнія лісты, барабаніў металічнай аканіцай газетнага шапіка, кідаў у твары прахожым калючыя шрацінкі дробнага восеньскага дажджу. Міхаіл падняў каўнер паліто, выйшаў з машыны і, увабраўшы галаву ў плечы, накіраваўся да гастранома.

Ужо другі тыдзень ён жыў адзін у прасторнай чатырохпакаёвай кватэры. Жонка з дачкою адпачывалі ў Турцыі. Вера не пераносіла летняй спёкі і адпачывала заўсёды восенню, звычайна ў кастрычніку. “Аксамітны сезон...” – раздражнёна падумаў Міхаіл, адчуваючы, як зноў у

душы ўскіпае глухая непрыязь да жонкі. Ён ніколі не кахаў сваю Веру. Пажаніліся яны ў інстытуце на пятым курсе. Прывабная з твару, але невысокага росту Вера, спадабалася яму, найперш тым, што яе бацька займаў даволі высокую пасаду ў гарвыканкаме. І Міхаіл вырашыў, што гэты шлюб будзе трывалым падмуркам у яго будучай кар'еры. Так яно і атрымалася. Закончыўшы інстытут, Міхаіл застаўся ў сталіцы і з дапамогай цесця пачаў хутка ўзнімацца па службовай лесвіцы. Завочна закончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Калі, як снегавая лавіна, накаціліся палітычныя перамены: развал Саюза, суверэнітэт, прыватызацыя, ён даволі хутка зарыентаваўся і з дапамогай патрэбных людзей заснаваў прыватную фірму. Іхняе ТАА (Таварыства з абмежаванай адказнасцю) было шматпрофільным. Гандлявалі, будавалі, займаліся міжнароднымі перавозкамі... Грошы паплылі ракой. Міхаіл купіў новую кватэру ў цэнтры, памяняў сваю "шасцёрку" на прэстыжную іншамарку, кожны год адпачываў на шыкоўных замежных курортах. Адным словам, стаў "новым беларусам". Здавалася, усё ў яго жыцці складвалася найлепшым чынам. Але ж усё, ды не ўсё... Не было душэўнага спакою, цеплыні чалавечых узаемаадносінаў, не было кахання. У сям'і кожны жыў сваім жыццём. Па праўдзе сказаць, сям'і ўжо і не было. Іх аб'ядноўвала хіба толькі тое, што жылі яны пад адным дахам. Выхаваннем дачкі займалася Вера. У яго ж на гэта не хапала часу. Спачатку вучоба ў аспірантуры, праца над кандыдацкай, потым прападаў да ночы ў сваім офісе ну і, вядома, – фуршэты, прэзентацыі, прыгожыя даўганогія дзяўчаты... Адносіны з жонкай неяк самі па сабе спыніліся. У яго была маладая, прыгожая каханка, якой ён здымаў аднапакаёвую кватэру. Вера пра гэта ведала, гэтак жа, як і ён ведаў, што ў Веры таксама хтосьці ёсць. Але яны вырашылі захаваць сям'ю дзеля дачкі. І калі Міхаіл ішоў на гэтую ахвяру, сапраўды, толькі дзеля сваёй дачушкі, якую ён любіў усёй душой, то ў Веры быў яшчэ і меркантыльны інтарэс. Яна разумела, што пры разводзе дачка застанецца з ёю, а вось шыкоўная кватэра, замежныя паездкі, дарагія модныя салоны... З усім гэтым, хутчэй за ўсё, давялося б развітацца. І таму Вера змірылася і ператварылася, па сутнасці, у высокааплатную хатнюю гаспадыню. Міхаіл адчуваў, што гэта рана ці позна павінна неяк закончыцца, але пакуль не хацеў нічога мяняць.

Калі ён выходзіў з крамы, трымаючы ў руках важкі пакунак з прадуктамі, яго ўвагу прыцягнула сварка, якую ўсчалі двое мужчын. Адзін, невысокага росту, каржакаваты здаравяк у брудным рацінавым паліто і пакамечанай чорнай кепцы, з-пад якой выбіваліся пасмы даўно не мытых сівых валасоў, ухапіў за грудзі амаль на галаву вышэйшага за сябе, худога мужчыну ў светлым з бруднымі цёмнымі плямамі плашчы і такім жа капелюшы з загнутымі ўніз палямі.

– Ты, гад, адкуль тут узяўся?!. На маёй тэрыторыі, га?! Канай адсюль, гліста паршывая, пакуль я табе вушы не абарваў!

– А ты, што? Прыватызаваў гэтую тэрыторыю?! Ці ліцэнзію купіў?.. Адыдзі ад мяне, калі не хочаш мець непрыемнасці! Ну!.. Я табе кажу, боўдзіла цёмнае!

– За пустую бутэльку гатовыя адзін аднаму горла перагрызці, алкаголікі няшчасныя, – пакруціла галавою пажылая жанчына, якая, спыніўшыся, назірала за гэтай сцэнай. – А ну, перастанце! Вунь міліцыя ідзе! – прыстрашыла яна бамжоў.

Міша падышоў ззаду да худога ў светлым, брудным плашчы мужчыны, крануў за плячо.

– Толя?.. Лазоўскі?!.

Той рэзка павярнуўся да Міхаіла. У яго вачах прамільгнула разгубленнасць, здзіўленне і нават страх. Але ён хуценька сабраўся і на яго твары з'явіўся нахабна-абыякавы выраз.

– Прабачце, але вы мяне з кімсьці зблыталі...

– Ды кінь, Толя! Ты што, не пазнаеш мяне? Я – Міша, Міша Касцюкевіч. – Ён са здзіўленнем і шкадаваннем глядзеў на свайго былога аднакурсніка і ніяк не мог уцяміць, як гэта магло здарыцца, што адзін з лепшых студэнтаў на іхнім курсе, Толя Лазоўскі – паэт, вастраслоў, любімец дзяўчат – ператварыўся ў бруднага бамжа.

Апошні раз яны бачыліся гадоў пятнаццаць таму, на курсах павышэння кваліфікацыі. З іхняга выпуску на гэтых курсах было чалавек восем. Пасядзелі вечарам у рэстаране, успомнілі вясёлае студэнцкае жыццё. Пасля ад аднакурснікаў Міша чуў, што Толя пераехаў у Мінск, што штосьці не заладзілася ў яго з сямейным жыццём. Ён развёўся з жонкай і даволі моцна запіў. Але Міша ніколі не думаў, што Толя можа скаціцца на самае дно.

– А-а... Міша! Прабач. Не пазнаў, – Толя стараўся трымацца развязна і незалежна, але на яго твары зноў з'явілася разгубленая ўсмешка, ён нават крыху пачырванеў. – Рад цябе бачыць, рад...

Ён спачатку хацеў працягнуць Мішу руку, але хуценька апусціў яе і неяк цырымонна пакланіўся. Касцюкевіч перахапіў яго руку, сціснуў у сваёй, не адпускаў.

– Слухай, я тут недалёка жыву. Паехалі да мяне. Пасядзім, пагаворым...

– Не, не! Мяне зараз у прыстойных дамах не прымаюць. Не хачу шакаваць тваю сям'ю і кампраметаваць цябе. Ды і гардэроб мой не для выхаду ў свет.

– Кінь ёрнічаць, Толя! Я зараз жыву адзін, Вера з дачкою на курорце. Паехалі! – ён пацягнуў Толю за руку да машыны.

– Ну, тачка ў цябе шыкоўная! – усеўшыся ў зручнае пярэдняе сядзенне, Толя правёў рукой па скураным падлакотніку. – Колькі адваліў, калі не сакрэт?

– Дваццаць тысяч.

– Зялёных?

– Ну, вядома ж, не "дзеравянных", – усміхнуўся Міша. Ён уключыў магнітолу, і з дынамікаў палілася прыемная лірычная мелодыя.

– Гэ-эх! – крутнуў галавою Лазоўскі. – Перыпетыі лёсу! Учора начаваў на гарышчы, а сёння еду ў шыкоўным "мэрсэдэсе".

– Усё ж, што здарылася, Толя? Як ты... – Касцюкевіч на імгненне запнуўся, падбіраючы больш мяккі выраз, – апынуўся ў такім становішчы?

Лазоўскі ўлавіў гэтую паўзу, усміхнуўся:

– Кінь далікатнічаць, Міша. Ты ж хацеў спытаць, як я дакаціўся да такога жыцця? Ці не так?

– Ну няхай будзе так. Сэнс адзін.

– Вось што, Міша. Калі ты ўжо запрасіў мяне ў госці, то давай спачатку накармі, напаі, а пытанні потым. У мяне сёння макавай расінкі ў роце не было. Хацеў ужо як Кіса Вараб'янінаў прасіць міластыню на французскай мове. Памятаеш: "Жэ нэ манж па сіс жур..." Але своечасова ўспомніў, што не тая ў нас публіка, не зразумеюць. Здадуць у псіхушку

ці проста дадуць па мордзе. Эх, цяжка быць жабраком у неадукаваным грамадстве! Цяжка!..

– Чаму ж неадукаваным? У нас, па статыстыцы, самы чытаючы народ. Ды і працэнт людзей з вышэйшай адукацыяй вельмі высокі.

– Да гэтай вышэйшай адукацыі, ці як яе нехта даволі трапна назваў "верхняй", яшчэ патрэбна і добрае выхаванне. Пажадана, сямейнае з пялёнак. У нас столькі людзей з вышэйшай адукацыяй, а інтэлігенцыі, сваёй нацыянальнай эліты, лічы, – няма. Дэнацыяналізаваная шэрая маса...

Яны пад'ехалі да дома, у якім жыў Міхаіл, падняліся на ліфце на чацвёрты паверх. Адамкнуўшы замок, Касцюкевіч адчыніў металічныя дзверы, прапусціў наперад Лазоўскага, пстрыкнуў выключальнікам. Толя агледзеў прасторную пярэднюю, паклееную дарагімі светлымі шпалерамі з зіхоткім, на ўсю сцяну люстэркам і, убачыўшы ў ім сваё адлюстраванне, зморшчыўся.

– Прабач, Міша, але калі можна, то першае, што мне трэба зрабіць – гэта прыняць душ.

– Ну, вядома! Распранайся і праходзь у ванны пакой. Я зараз прынясу чыстую бялізну. А пакуль ты будзеш мыцца, я прыгатую вячэру.

Праз паўгадзіны яны сядзелі на кухні за сталом. Вымыты, паголены Толя ў чыстай Мішавай кашулі, здавалася, памаладзеў гадоў на дзесяць. Пасля гарачага душа і трох чарак "Смірноўскай" твар паружавеў, перасталі трэсціся рукі. Міша падкладваў у яго талерку ежу, моўчкі назіраў, з якой прагай той есць.

Лазоўскі нарэшце адарваўся ад талеркі, выцягнуў з пачкі цыгарэту, прыпаліў і з асалодай зацягнуўся.

– Дзякуй, Міша. Лічы, што выратаваў чалавека ад галоднай смерці. – Ён яшчэ раз уважліва абвёў позіркам кухню, правёў рукой па глянцавай паверхні прыгожай італьянскай кафлі. – А я ўжо адвык ад нармальных чалавечых умоваў. Забамжаваў, здзічэў...

Касцюкевіч не перабіваў свайго госця, чакаў пакуль той сам раскажа аб усім, што з ім здарылася.

– Гісторыя даволі банальная, – працягваў Толя. – Бытавая неўладкаванасць, сваркі з жонкай... А каб неяк забыцца – пачаў шукаць заспакаення вось у гэтым, – ён пстрыкнуў пальцам па бутэльцы. – Ну і ўвайшоў у смак, не змог ужо спыніцца. На працы пачаліся праблемы. Праўда, яшчэ паспеў пабудаваць, як у нас кажуць, жылплошчу. Жонка мяне цярпела да таго часу, пакуль не засяліліся ў новую кватэру. А потым пачалося вясёленькае жыццё... Адным словам, разышліся, раз'ехаліся. Добра, што яшчэ трохпакаёўку ўдалося размяняць на дзве кватэры: двухпакаёвую – жонцы і сыну, аднапакаёвую – мне.

– Дык у цябе ёсць кватэра? Але ж...

– Ты хочаш спытаць, чаму я начую на гарышчы? – перабіў Толя. – А ты падумай, за што ж мне жыць? Я цяпер – беспрацоўны. Вось і здаю кватэру...

– Прабач, але я ўсё ж не разумею. Здаваць сваю кватэру, а саму вось так бамжаваць... – Міша развёў рукамі.

– Ды ўсё было нядрэнна. Здаваў сваю кватэру за сто пяцьдзясят даляраў, а для сябе здымаў пакойчык у прыватным сектары за пяцьдзясят. Сто даляраў заставалася на жыццё. А ўлічваючы, што мае матэрыяльныя запатрабаванні звяліся да мінімуму, а вось гэтае зелле, – ён зноў кіўнуў на

бутэльку, – у нас, дзякуй нашаму ўраду, даволі таннае, то я жыў намнога камфортней, чым Дыяген у сваёй бочцы. Праўда, да ўчарашняга дня. Учора звязаўся з нядобрымі людзьмі, перабраў сваю меру... Ачухаўся ў нейкім бамжатніку без капейкі ў кішэні, прывалокся ноччу да сваёй кватэры, а ўжо ўсе спяць, усё замкнёна. Пачаў грукаць у вароты, разбудзіў ці не ўсю вуліцу – прыватны сектар. Сабакі брэшуць, гаспадыня сварыцца... Вось так і апынуўся я на гарышчы.

Ён пацягнуўся да бутэлькі, наліў спачатку Мішу, потым сабе і не чакаючы, пакуль той возьме сваю чарку, выпіў. Потым, закусваючы, перахапіў спачувальны Мішаў позірк, сказаў:

– Ты не думай, што я ўжо закончаны алкаголік. Я магу ў любы момант завязаць з гэтай справай. Ды толькі баюся... баюся цвярозых думак і шэрай будзённасці. Я нідзе не працую і не хачу працаваць, не хачу быць рабочым волікам, які ад раніцы да вечара націрае ярмом шыю за ахапак сена і цёплае стойла. Прадпрымальніцкай жылкі ў мяне няма. Значыць, уласнікам мне не быць. Застаецца адно – быць пралетарыем разумовай працы. Кожны дзень у перапоўненым транспарце ехаць на службу, прагінацца перад начальствам, займацца тым, чаго не прымае твая душа. І ўсё гэта за капейкі. Не! З мяне хопіць! Лепш быць галодным, але свабодным чалавекам.

– Пра якую свабоду ты гаворыш, Толя?.. Хіба такое жыццё можна назваць свабодным? – Міша ўсхвалявана падхапіўся, потым зноў сеў на сваё месца. – Чалавек нараджаецца, жыве на гэтай зямлі дзеля нейкай мэты. Бог даў яму розум, у адрозненні ад жывёлы, каб ён штосьці ствараў, да чагосьці імкнуўся. А хавацца ад жыцця за ружовы алкагольны туман – гэта...

– Ну, і да чаго ён "даствараўся" твой чалавек? – у Толевых вачах з'явіўся нядобры агеньчык. – Да газавых камер і ядзернай зброі? Усё нядобрае і злое на свеце – ад такіх вось занадта актыўных "стваральнікаў". Ну, як жа! Ён жа – гома сапенс, цар прыроды. Ён не можа спакойна жыць. Яму трэба самазацвердзіцца, падняцца над масай, дарвацца да ўлады. І любой цаной. Топчучы другіх, пакідаючы за сабой кроў, слёзы, знявечаную прыроду...

– Пачакай, Толя, пачакай! Не кідайся ў крайнасці. Мы з табою гаворым аб розных рэчах. Сапраўды, на зямлі творыцца як дабро, так і зло. Так ужо створаны гэты свет. І такі чалавек у гэтым свеце. І ў душы кожнага з нас – даволі шырокі спектр: ад нябесна-светлага да пякельна-чорнага. Але ж, каб змагацца са злом і тварыць дабро, чалавек павінен быць моцным, штосьці значыць у гэтым жыцці.

– Ага! Дабро павінна быць з кулакамі. Дзякуй, мы ўжо гэта праходзілі.

– Ды я не пра тое, не пра тое! Я аб тым, што дабро людзям, праўду, ісціну – як хочаш гэта назаві, павінны несці моцныя духам людзі. Успомні Хрыста. Ніякага насілля, але ж якая моц духу!..

Міша раптам замоўк, заўважыўшы на твары Лазоўскага іранічную ўсмешку.

– Ну, цябе і панесла, дружа. Ты што, прыйшоў да такіх светлых думак за рулём свайго белага "мэрсэдэса"?.. Калі ты ўжо ўспомніў Хрыста, то, па-першае, і Хрыстос не адмаўляўся ад насілля – успомні, як ён выганяў гандляроў з храма. Бізуном, бацэнька, бізуном... А па-другое, я спадзяюся ты не баптыст? А калі – не, то налі яшчэ вось гэтай празрыстай вадкасці, у якой, як сцвярджалі старажытныя мудрыя людзі, схаваная ісціна. А яны, павер мне, ведалі аб чым гаварылі. Тысячы гадоў людзі шукаюць ісціну,

стараюцца зразумець, што ёсць дабро, што – зло? Пралілі мора крыві ў імя таго ж дабра, а мудрэй і дабрэй не сталі. In vino veritas – вось самая мудрая выснова з усіх гэтых пошукаў. Да яго прыйшлі ў старажытнасці, і яму няма альтэрнатывы і ў наш час. Няма! Таму што разумнаму чалавеку нельга быць у гэтым жыцці цвярозым. Звар'яцее... Вось і шукаюць людзі забыцця ад гэтага цвярозага вар'яцтва: у віне, наркотыках, рэлігіі...

Касцюкевіч дастаў з халадзільніка новую бутэльку, наліў у чаркі. Яны выпілі, закусілі. Было ўжо даволі позна. Дзесьці ў глыбіні кватэры гадзіннік меладычна прабіў адзінаццаць разоў.

– Я вось што хацеў сказаць, Толя, – зноў загаварыў Касцюкевіч. – Калі табе не падабаецца твая прафесія, то можна ж яе і памяняць. Дарэчы, ты калісьці пісаў вершы, нават друкаваўся ў часопісе. У цябе не было думкі сур'ёзна заняцца літаратурай?

Лазоўскі махнуў рукой:

– Для таго, каб сур'ёзна займацца літаратурай, аднаго жадання мала. Тут патрэбна іскра божая, талент. На жаль, калі ў мяне і была ў юнацтве нейкая іскарка, то яна ўжо даўно патухла.

Ён падняўся, падышоў да акна, прытуліўся тварам да шыбіны.

– Дождж не сціхае... І вецер, вецер... – Потым павярнуўся да Мішы: – А што гэта мы ўсё пра мяне? Раскажы, Міша, як у цябе справы? Як сям'я? Як Вера? Уладкаваўся ты, па ўсім відаць, нядрэнна. Хаця ты заўсёды быў прагматыкам. Ведаеш, мяне заўсёды цікавіла пытанне: як пачуваюць сябе багатыя людзі, у якіх усё ёсць? Задавальненне матэрыяльнае – гэта і задавальненне маральнае? Як гэта ў цябе?..

Міша паціснуў плячыма.

– У кожнага па-рознаму. Магчыма і ёсць людзі, для якіх багацце – гэта мэта жыцця... Урэшце, усе людзі імкнуцца да матэрыяльнай забяспечанасці, да багацця, але ж у чалавека ёсць душа, якую, мабыць, адным багаццем не задаволіш. І, як вядома, багатыя таксама плачуць.

– Бывае, што і плачуць... Але ж, пагадзіся, што ў кожным з нас у нейкай ступені сядзіць скупы рыцар, Габсек ці нават Плюшкін. А грошы – той жа наркотык. І чым іх болей у чалавека, тым больш іх яшчэ хочацца займець, – Толя ўсміхнуўся, – па сабе ведаю. Галоўнае, каб яны не сталі самамэтай. Грошы могуць зрабіць чалавека свабодным, а могуць ператварыць у свайго раба.

– Так! Усё залежыць ад характару, выхавання, культуры...

– Во-во! Ад культуры і выхавання. Багаты чалавек павінен быць культурным і выхаваным. А калі гэтага няма, то што мы маем? Ну, ты ведаеш гэтыя анекдоты пра “новых рускіх”: фанабэрыстасць, хамства... Але ж так заўсёды было і, мабыць, будзе, што багацце трапляе ў рукі далёка не лепшым прадстаўнікам роду людскога, асабліва ў перыяд першапачатковага накаплення капіталу.

Касцюкевіч крунуў галавою, неяк крыва ўсміхнуўся, відаць, апошнія Толевы словы яго непрыемна ўразілі:

– Ну, ты прама па Марксу шпарыш, але, прабач, я не веру ў высакародную беднасць. Сёння чалавек бедны не ад таго, што яго стрымліваюць нейкія маральныя прынцыпы, а, у большасці, усё ж ад таго, што не ўсім удаецца, як кажуць, урваць. Наш бедны рабочы ці калгаснік усё жыццё быў “несуном”, краў, але краў па дробязі. Магутная сацыялістычная дзяржава ці не ўсіх сваіх грамадзян зрабіла зладзеямі. Вось табе анекдот з жыцця.

Калісьці мая маці расказвала, што жанчыны ў царкве пыталіся ў папа: ці грэх красці ў калгасе? Дзікунства нейкае! Спачатку дзяржава забрала ўсё ў чалавека і ён вымушаны, каб хоць неяк звезці канцы з канцамі, красці ў дзяржавы тое, што лічыць сваім. А мы здзіўляемся, чаму на постсавецкай прасторы такая карупцыя? А ўсё таму, што на кіруючых пасадах сёння сядзяць дзеці і ўнукі тых людзей, якія ўсё жыццё пацíху кралі і якія ўпэўнены, што красці ў дзяржавы – не грэх.

Яны ўжо добра выпілі, разгарачыліся. Міша адчыніў фортку і на кухню ўварвалася вільготнае, халоднае паветра.

– Але ж ты і карціну намаляваў, Міша! Хаця, табе відней. Ты круцішся сярод гэтых багатых нягоднікаў і прыўладных зладзеяў. Ведаеш, у мяне, як у прадукта былой савецкай сістэмы, мазгі крыху набакір, так бы мовіць, з сацыялістычным ухілам. Вось ты сказаў, што разбагацець па сумленнаму ў нас амаль немагчыма. А як жа ўсё гэта? – Лазоўскі абвёў рукой стол з багатай закускай, імпартны халадзільнік, шыкоўную італьянскую мэблю.

– Я, Толя, не краду. У мяне – фірма.

– Ну, так! Фірма “Купі – прадай”, і ўсё ў вас там па справядлівасці, па закону, і падаткі вы ўсе плаціце, і людзей не абдурваеце... Чалавек заўсёды знойдзе сабе апраўданне. А калі ён яшчэ і адукаваны, то падвядзе пад гэта цэлую філасофію, возьме ў адвакаты Платона, Ніцшэ. І так запудрыць мазгі і сабе, і другім, што хоць ты помнік пры жыцці яму стаў. А, між іншым, ісціна не ў мудраванні, не ў сафістыцы, а ў простых, зразумелых нават непісьменнаму чалавеку, запаведзях: не ўкрадзь, не забі, не сведчы лжыва... – гэта тое, аб чым ты нядаўна хацеў сказаць, успамінаючы Хрыста.

– Штосьці, дарагі ты мой, пачаў сам сабе супярэчыць. Толькі што сцвярджаў, што ісціна ў віне, а зараз загаварыў пра боскія запаведзі, – Касцюкевіч, засмяяўся, наліў поўныя чаркі.

– А адно другому не супярэчыць, – крутнуў галавою Толя. – Наадварот, першае дапамагае больш поўна і востра ўспрымаць і адчуваць другое.

– Магчыма і так. Але ўсё ж з адным я пагадзіцца не магу. З тваіх слоў можна зрабіць выснову, што ўсе багатыя – нягоднікі, а бедныя – анёлы. А жыццё паказвае, што сярод бедных людзей нягоднікаў не менш, чым сярод багатых. Проста бедны нягоднік можа атруціць жыццё толькі сваім блізкім, а багаты, ды яшчэ пры ўладзе, – тут, вядома, маштаб другі.

Касцюкевіч падняў сваю чарку:

– Давай, Толя, па апошняй – і спаць! Давай за нашу студэнтскую маладосць! Усё ж цудоўныя былі гады: светлыя, радасныя, цікавыя...

Выпілі. Толя начапіў на відэлец марынаваны грыб – закусіў.

– Так, цікавыя... – ён трошкі насмешліва паглядзеў на расчырванелага ў белай кашулі Касцюкевіча, які, адкінуўшыся на спінку крэсла, курыў дарагую цыгарэту. – Я вось зараз успомніў, як ты, Міша, прапясочваў мяне на камсамольскім сходзе. Ты ж быў у нас камсоргам групы – ідэйным барацьбітом за светлыя камуністычныя ідэалы. А я і ў той час быў ідэалагічна няўстойлівым элементам. Вось ты і граміў мяне, як Вышынскі Бухарына. А пачалося ўсё з дурноты, з юначага свавольства. Помніш, у нас на ваеннай кафедры быў маёр ці падпалкоўнік. З такім цікавым прозвішчам, штосьці фанвізінскае: Скацінін... Скатовін?.. Ты павінен помніць. Дык вось ён пісаў вершы і друкаваў іх у нашай інстытуцкай шматтыражцы. Вершы былі, вядома ж, патрыятычныя, ідэалагічна вытрыманыя – тое, што так падабалася партыйным работнікам і палкоўнікам з ваеннай кафедры. Штосьці там

пра перамогу, вызваленне... адным словам, графаманія ці, мо нават лепш сказаць, – нейкая грамафонія. Дык я дзеля смеху пераклаў іх на беларускую мову. Зрабіў такі вольны пераклад-пародыю. Хадзілі гэтыя пераклады па руках студэнтаў, пакуль не трапілі куды трэба, а лепей будзе сказаць, куды не трэба. І пачалося! Зрабілі з мяне нацыяналіста, антысаветчыка. Я ўжо думаў – з інстытута папруць. Але ж неяк абышлося. Нацкавалі на мяне толькі камсамольскіх камітэтчыкаў. Паскублі вы мяне тады добра: аб'явілі строгую вымову, хаця спачатку нават хацелі выключыць з камсамола. Ды, відаць, устаноўка зверху была не надта грозная. Таму што выключэнне з камсамола – гэта ў той час амаль аўтаматычнае выключэнне з інстытута. Вось такія светлыя ўспаміны, Міша...

Касцюкевіч, ужо таксама добра захмялелы, неяк пагардліва ці нават злосна глянуў на Лазоўскага.

– А не трэба было дурнотай займацца, дружа мой! Ты ўжо быў не хлопчыкам, а дарослым чалавекам. Павінен быў ведаць, чым гэта ўсё пахне.

– Вядома, Міша, вядома! Ты вось заўсёды ведаў, чым трэба займацца. Толькі скажы мне, калі ласка, як жа гэта атрымалася, што я – амаль што антысаветчык, раптам аказаўся большым сацыялістам ці камуністам, чым ты – камсорг? Што гэта за метамарфоза такая шчаслівая: з ідэйных змагароў за камуністычныя ідэалы, за савецкі лад жыцця – прама ў буржуі ды яшчэ і ў выкрывальнікі злачынстваў камуністычнай сістэмы?

Касцюкевіч пацiснуў плячыма.

– Па-першае, я ніякі не буржуй. Я працую сам. І даволі многа працую, магчыма, болей за іншых. А, па-другое, мы ж тады многае не ведалі...

– Кінь, Міша! Самае смешнае, гэта калі сёння разумныя, вучоныя людзі пачынаюць апраўдвацца тым, што яны нічога не ведалі і не разумелі. Разумелі. І многія свядома прымалі правілы той гульні, пішчом лезлі ў камсамольскія актывісты, у партыю, каб зрабіць кар'еру, дарвацца да ўлады. А самі ў той час употай слухалі "Голас Амерыкі" ці "Свабоду". Ды я не абвінавачваю цябе асабіста ці іншых за вось такое раздваенне асобы. Разумею – час быў такі. Але не трэба сёння апраўдвацца, што вы нічога не ведалі. Бо, калі б вы ўсе, хто ў той час насіў партыйныя білеты, былі сапраўды такімі прынцыповымі камуністамі, то і Савецкі Саюз, мабыць, так хутка не развалiўся б. Проста ніколі ў вас, мае даражэнькія, не было ніякіх прынцыпаў, акрамя, вядома, аднаго: як зручней і цяплей уладкавацца ў гэтым жыцці.

Касцюкевіч зморшчыў твар, як ад зубнога болю, махнуў рукой.

– Перастань, Толя! Урэшце, кожны нармальны чалавек хоча зручна ўладкавацца ў гэтым жыцці. І я не бачу ў гэтым нічога страшнага ці злачыннага. Галоўнае, каб ён не перашкаджаў тое ж самае рабіць і другім людзям.

– А так не бывае, Міша, так не бывае! Калісьці Рабесп'ер вельмі слушна заўважыў, што свабода аднаго чалавека заканчваецца там, дзе пачынаецца свабода другога. І яшчэ – чым больш ты ўхопіш ад агульнага каравая, тым менш яго застанецца іншым. Гэта ўжо закон прыроды.

– Я штосьці не разумею цябе, Толя. Ты што, за час свайго бамжавання стаў камуністам? Што ў цябе за марксісцка-хрысціянскі вінегрэт у галаве? Ці можа, ты прапануеш рабіць яшчэ адну рэвалюцыю пад старым лозунгам: "Рабуй нарабаванае!"?..

– Ды не, я не за рэвалюцыю. Гэтыя "лакаматывы гісторыі" заўсёды цяг-

нуць грамадства ў насілле і беззаконне, – Лазоўскі ўважліва паглядзеў на Мішу і працягваў далей: – Але ж, пагадзіся, што ў таталітарнай дзяржаве, дзе няма іншага ўздзеяння на непадкантрольнае грамадству кіраўніцтва, невялікі бунт – гэта якраз тое, што магло б прывесці гэтае кіраўніцтва ў прытомнасць. Дарэчы, гэта не мая думка, аб гэтым яшчэ ў васямнаццатым стагоддзі пісаў Томас Джэферсан, трэці прэзідэнт Злучаных Штатаў, аўтар “Дэкларацыі незалежнасці”. “Нават невялікі бунт час ад часу, – гаварыў ён, – карысны як лекі дзеля добрага здароўя ўрада”. Разумееш, людзі ўжо дзвесце гадоў таму разумелі небяспеку таталітарызму і апатыі грамадства. А што ў нас? – “Абы вайны не было...” Вось так і жывём... А, урэшце, я не клічу нікога на барыкады, я толькі за тое, каб чалавек у любых абставінах заставаўся чалавекам, помніў, што ў яго ёсць душа, сумленне. І калі ён гэта будзе помніць, то не патрэбна будзе ніякіх рэвалюцый, ніякага насілля...

– Ну, такога, братка ты мой, на жаль, ніколі не будзе. І твой анархізм – утопія чыстай вады! І калі ты ўжо пачаў спасылацца на аўтарытэты, то дазволь і мне гэта зрабіць. Здаецца, англічанін Томас Гобс таксама ў васямнаццатым, ці нават, у сямнаццатым стагоддзі, заўважыў, што якой бы тыранічнай не была б вярхоўная ўлада, яна не столькі згубная, як адсутнасць яе. Чалавек – гэта такая істота, якая без насілля проста не выжыве – самазнішчыцца. Вось людзі і прыдумалі законы, дзяржаву – такія вось рамкі самаабмежавання, а што рабіць, калі маральныя прынцыпы не дзейнічаюць?

– Дрэнна, калі гэтыя рамкі занадта вузкія. Тады атрымліваецца аднабаковы кантроль: калі ўлада кантралюе чалавека, грамадства, а сама застаецца па-за кантролем. Вось такая другая крайнасць. І гэтая крайнасць ці не страшней, як ты сказаў, за анархію? У такім грамадстве пануе страх і людзі з маленства прызвычайваюцца ілгаць, крывадушнічаць, прыстасоўвацца... А страх – гэта самы страшны разбуральнік душы, маральнасці... У такой дзяржаве няма здаровай грамадзянскай супольнасці, плюралізма, свабоды слова і дыскусій, у якіх, як вядома, і нараджаецца ісціна.

Касцюкевіч прымружыў вочы, уважліва паглядзеў на Лазоўскага і спытаў:

– А гэта ты пра што?

– Гэта я наогул... А, урэшце, ты выдатна разумееш пра што!.. Проста я хачу, каб мы потым зноў не апраўдваліся тым, што нічога не ведалі, не разумелі... Усё ведаем і разумеем. Але ж бяда ў тым, што нічога не робім...

Толя бачыў, што яго словы не спадабаліся Касцюкевічу, той неяк нервова падхапіўся, глянуў на гадзіннік:

– Ого! Ужо другая гадзіна. Вось што, Толя! Я гляджу, мазгі ў цябе працуюць дай Бог кожнаму. А мне патрэбныя талковыя спецыялісты. Вось мая візітка – тут адрас фірмы, мой тэлефон. Я цябе чакаю заўтра ў любы час. Заходзь, там на месцы абгаворым усе дэталі. Калі штосьці не будзе атрымлівацца – звані. А цяпер – спаць!

Але ні на наступны дзень, ні праз тыдзень, ні праз месяц Лазоўскі так і не аб’явіўся і не пазваніў. А Касцюкевіч, часта ўспамінаючы тую іхнюю сустрэчу і доўгую размову, лавіў сябе на думцы, што яму не хацелася б зноў сустракацца з сваім былым аднакурснікам і, ні тым больш, браць яго да сябе на працу.

Анхела Эспіноса Руіс



...Беларусь будзе жыць
там, дзе памяць, дзе мова й любоў...

# Я прыйшла з ніадкуль

## ПТУШЫНЫЯ СПЕВЫ

Я хачу фарбаваць твае раніцы ў цёплыя колеры,
У пакоі, дзе смерці няма, дзе спыняецца час...
Адчыніць бы акно аж да мора духмянага водару,
Абы сцяг нашых шэптаў санлівых лунаў напаказ!
Я хачу падарыць табе промні паўночнага ззяння,
Маляваць над табою ўсе зоркі малочнага шляху,
Быць травой над нагамі, быць ветру вясновым гуканнем,
І лагодным дажджом хачу грукаць пяшчотна па даху.
І навошта мне больш? Сваё шчасце трымаю рукою!
Нінавошта мне сонца, вясна, кветкі, мора ды дрэвы:
Калі побач з табой я магу дакранацца да мрояў,
І чуваць пад зямлёй ажно тыя ж птушыныя спевы.

## *Я ПРЫЙШЛА З НІАДКУЛЬ*

*Прысвячаецца Беларусі*

Я прыйшла зніадкуль — ні з таго, ні з сяго,
Цёплым брызам паўднёвага краю.
“Ты чыя?” – кажуць мне. Я прыйшла з ніадкуль,
І са слоў помню толькі “кахаю”.
Быццам песня далёкіх, шчаслівых гадоў,
Я прыйшла да цябе, нібы з грому.
Невядома чаму, я прыйшла з ніадкуль,
Бы пакутна-салодкая стома.
Я прыйшла з ніадкуль мімалётным святлом,
І раптоўнай, натхнёнаю думкай,
Лёгкім подыхам, сном — я прыйшла з ніадкуль:
Уся вечнасць адным пацалункам.
І радзімы няма, і дарогі назад,
Толькі шэпат высокай ялінкі.
Без пытанняў, сюды я прыйшла з ніадкуль
Лістападаўскай першай сняжынкай.
Я прыйшла з ніадкуль, я пакінула ўсё:
Лета, сонца ды сіняе мора.
Я забыла сябе — я прыйшла з ніадкуль,
Кепска будзе? Магло б быць і горай!
Я прыйшла з ніадкуль, мімаволі, няўзнак,
Выпадкова, знянацку і ўзімку.
Нарадзілася дзесь — і прыйшла з ніадкуль,
Каб памерці ў цябе ж у абдымку.
Я прыйшла з ніадкуль, і твой горад люблю,
Люблю шэры праспект, нібы з гліны,
Пекла й рай я люблю — я прыйшла з ніадкуль,
І трымаюся за павуціну.
Я твой вецер люблю, тваё неба люблю,
Я люблю тваю ціхую мову.
Патрымай на руках — я прыйшла з ніадкуль,
Не кажы мне жахлівага слова!..
Я прыйшла з ніадкуль — і твой дождж палюблю,
Тваю цемру, балота, туманы...
Вось адзіны мой грэх: я прыйшла з ніадкуль,
Пакахала цябе я зарана.
Я прыйшла з ніадкуль — толькі не выкідай,
Я магу і ў кішэню схавацца.
Я ніхто, я нішто... Я прыйшла з ніадкуль.
Я прыйшла — ты дазволь мне застацца.

### ПРА МОВУ

Называлі мяне тут паэткай, легендай, пракорам,
Быць пракорам няможна на роднай зямлі.
Беларускую мову, відаць, цэняць толькі здалёку,
І стагоддзе таму вы яе сапраўды прадалі.
Называлі мяне беларусы ледзь не гераіняй,
А на справе я толькі дзяўчынка: малая, слабая,
І мой голас губляецца ўжо, як Хрыстос у пустыні,
Бо я птушка марская — хварэю, калі прылятаю.
І чакалі не раз ад мяне найчысцейшае мовы,
Кожны водгук, бы камень, балюча, бязлітасна б'е.
Збудаваць мне адной усё знішчана вамі нанова?
Размаўляеш на роднай са мной? Размаўляй без мяне!
Колькі ж хопіць мяне? Не магу падарыць абяцанне!
Колькі вершаў маіх, колькі слоў узляціць угару?
Мо сама й адлячу назаўсёды на крылах кахання,
Я смяротная ўсё ж — можа сёння ці заўтра памру.
Хай гучыць беларуская мова і ў хаце, і ў краме,
Хай гучыць і на спрэчках, і ў стогнах, калі жарсны сэкс,
Напішы беларускі радок сябру, дзецям ды маме,
Хай гучыць! Пераўзыдзе бяскрылы, інэртны мой тэкст.
Не чакайце, сябры, пазітыўнай чужынскай адзнакі,
Ані слоў 'благозвучная, что ж' ад "старэйшых братоў",
Не шукайце вы зоркі на небе, прычыны ды знакі:
Беларусь будзе жыць там, дзе памяць, дзе мова й любоў.

### НАДЗЕЮ ВЫТКАЦЬ

Я буду коўдру ткаць шаршаткаю нядолі
Тваёй. Пад навальніцаю прамокну я да ніткі,
Буду чакаць трывожна, як ільвіца ў няволі,
Дзіцячымі рукамі хачу надзею выткаць.
Штоноч запальваць свечкі я буду, калі трэба:
То светлячкі кахання супраць цемры ды грому,
І дамалюю мапу шляхоў зорных на небе,
Праз туманы, праз хмары, каб ты даплыў дадому.
А заўтра, да світання, я выйду зноў да мора
Пісаць тваё імя халоднай белай пенай,
Крычаць, прасіць у сонца, сустрэчу хай падорыць,
На беразе чакаць, маліцца на каленях.

### ПАД ЗЯМЛЁЙ

Ляціць натоўп перад вачыма,
З пякельным гукам пралятае,

Знікаюць твары з рэха, з дыму,
Нібы лістота залатая,
Ідзе цягнік забытых мараў,
Спяшае: накірунак – рай,
Ідзе цягнік старых udaraў,
Ідзе, бяжы, не прапускай!
Метро губляецца ў тунэлях,
Наперад – цёмная дарога.
Што мы згубілі? Што мы мелі?
Выходзім: станцыя — знямога.
Няхай агідна, крыўдна, горка,
І не змяняецца маршрут,
Табе адсюль не бачна зорак:
Не дам табе памерці тут.

### *РАЗМОВА*

Ты казаў: нам пара дарасці, стаць дарослымі трэба.
Я табе: паглядзі на блакітнасць бязмернага неба.
Ты казаў, што наперадзе толькі змаганне.
Я табе: вось квітнее, як ружа, святло прадкахання.
Ты казаў: гэты свет — гэта холад, бяссілле, труна.
Я табе: пасля вечнай зімы прыйдзе зноўку вясна.
Ты казаў: нас даўно загубіў першародны наш грэх.
Я табе: калі ўпалі з табой, дык як знічкі, як снег.
Ты казаў: толькі розум і боль на зямлі нас трымаюць.
Я табе: чую столькі любові, зірні, я ўзлятаю!
Ты казаў: не сыходзь, не ўзлятай, заставайся зямною.
Я табе: ты не бойся ляцець, заставайся са мною.

Віктар Варанец



...прыйдзе, сыне мой, час,
і гэтыя скарбы паслужаць вялікай справе...

# Гусарскі дом

*Два апавяданні*

## Золата Напалеона, альбо Як прагналі езуітаў

Напалеон Банапарт стаяў каля маленькага акенца і ўглядаўся ў ноч. Вар'яцела бязлітасная завіруха, ломячы галіны на дрэвах, зрываючы з хат саламяныя стрэхі. Але нічога гэтага вялікі палкаводзец не бачыў, бо ў вачах стаяў адзін і той жа ранішні малюнак: заснежанае поле, ледзь прыкметная каляіна ад саней і трупы, сотні змерзлых трупаў непераможнай французскай арміі навокал.

Напалеон павярнуўся тварам да вялізнай рускай печы, што займала ледзьве не палову хаты. Каля цёплай сцяны ў пашанотным маўчанні стаялі маленькі манах у сутане і волат у мундзіры палкоўніка.

– Я слухаю вас, панове, – ціха прамовіў Банапарт.

– Сір, – загаварыў палкоўнік. – Я прывёў чалавека, пра

якога расказваў Вам. Айцец Конрад з ордэна езуітаў – чалавек сумленны і адданы.

– Адданы каму? – яшчэ цішэй перапытаў Напалеон. – Вось Вы, Радзівіл, адданы мне, я адданы Францыі, а каму адданы айцец Конрад?

Манах дастаў з рукава пацеркі і ціхім спакойным голасам адказаў:

– Я адданы пану Богу і святой царкве. А яшчэ я адданы сваёй краіне, хаця яе пакуль і не існуе. А сёння, Ваша Вялікасць, мы патрэбны адзін аднаму.

Напалеон сеў у крэсла, рукою паказаўшы гасцям на вольныя месцы.

– І чым мне можа дапамагчы святая царква? – ужо больш зацікаўлена запытаўся Напалеон.

– Сір, – пачціва загаварыў манах. – Я даўно ведаю Дамініка Радзівіла, больш за тое, я з'яўляюся яго духоўнікам. І няхай Ваша міласць даруе мне, але я дакладна ведаю, што шанцаў на жыццё, а не тое, што на перамогу, у французскай арміі няма.

Пры гэтых словах Напалеон ускочыў і імкліва наблізіўся да Конрада.

– Гэта ты правільна сказаў, манах. У гэтай арміі шанцаў няма. Яе і самой няма, арміі. Ёсць толькі трупы: адныя ўжо ляжаць, іншыя яшчэ перамяшчаюцца. Але ёсць непераможная гвардыя. І хутка будзе новая армія, якая не ведала паразы і ніколі яе не зведае. Я еду ў Парыж, дзе мяне чакаюць тысячы адданых мне французаў. Мы пачнём усё спачатку. І свет яшчэ ўспомніць свайго Напалеона!

Радзівіл асцярожна кашлянуў.

– Вы нешта хочаце сказаць, палкоўнік? – спыніўся карсіканец.

Дамінік устаў з крэсла.

– Сір, я нітолькі не сумняваюся, што хутка ў Вас будзе новая непераможная армія. Але для будучых аперацый спатрэбяцца вялікія грошы. І тут дарэчы будуць канфіскаваныя ў Маскве каштоўнасці. Адвезці ўсё ў Парыж зараз немагчыма. Кутузаў дыхае нам у патыліцу. Таму будзе найлепшым, калі невялікую частку золата Ваша Вялікасць возьме з сабой, а астатняе перавязе святы айцец на маю радзіму, у Гародню, і схавае ў лёхах радавога замка.

– Але ж рускія кінуцца ўслед па золата, – запярэчыў Напалеон.

– А мы зымітуем на вачах у соцень сведак, што скінулі яго ў Бярэзіну. Ахвяруем малой часткай, каб выратаваць асноўнае.

Напалеон спыніўся позіркам на твары айца Конрада, доўга, пільна ўглядаючыся ў старыя пабляклыя вочы.

– Добра, – нарэшце выдыхнуў Банапарт. – Няхай так усё і будзе. Праз гадзіну я ад'язджаю. Вам, палкоўнік, даручаю камандаванне ар'ергардам. У Вас будзе мая непераможная гвардыя! Арганізуйце пераправу і дапаможыце маршалу Удзіна вывесці рэшткі маёй арміі з-пад удару рускіх. А за золата адкажаце абодва галавой. І дапаможа нам Бог!

Раніцай чатырнаццатага лістапада французская армія пачала пераправу праз Бярэзіну. Супраць іх з поўдня насоўвалася Малдаўская армія пад кіраўніцтвам адмірала Чычагава, а з поўначы армія генерала Вітгенштэйна. Аднак Дамінік Радзівіл удала выкарыстаў інфармацыю ад лазутчыкаў, што адмірал Чычагаў і генерал Вітгенштэйн ніяк не могуць дамовіцца аб каардынацыі сваіх дзеянняў і яўна ігнаруюць адзін аднаго. Пад прыкрыццём саракагарматнай батарэі Дамінік хутка пераправіў французскую армію праз Бярэзіну. Калі войскі Чычагава і Вітгенштэйна падышлі да пераправы, большасць французаў была ўжо вельмі далёка, ажно ў Плешчаніцах.

Рускім дасталіся сорак тысяч параненых і абмарожаных французскіх салдат. Еўропа замерла ў чаканні...

Чатыры чорныя вазкі ў акружэнні двух дзясяткаў вершнікаў імкліва набліжаліся да Гародні. Вось ужо заблішчалі на замарожаным сонцы строгія званіцы Езуіцкага касцёла. Айцец Конрад, не расплюшчваючы вочы, ледзь чутна прашаптаў:

– Гародня?

– Так, святы ойча! – адказаў малады манах, які суправаджаў Конрада.

– Дзякуй Богу, – прамовіў Конрад і двойчы перахрысціўся. – Казімір, скажы вазніцы, каб адразу ехаў да палаца Радзівілаў.

У палацы гасцей чакалі. Калі Конрад выбраўся з вазка, да яго падышоў высокі хударлявы чалавек з пісталетам за поясам. Ён пацалаваў руку манаху, узняў галаву, і ўсмешка асвятліла малады твар.

– Як я рады зноў Вас бачыць, святы ойча.

– Я таксама рады, Раман. Дзякуючы пану Богу, мы зноў сустрэліся ў любым Гродне. Але дарога стаміла мае старыя косці.

– Прашу прайсці ў палац, – ветліва запрасіў малады чалавек.

– Не, Рамане, – голас манаха загучаў строга і холадна. – Пакуль апошняя скрыня не зойме свайго месца ў чорнай зале, я не буду адчуваць сябе спакойна.

– Як скажа святы ойча, – пакорліва адказаў Раман. Затым павярнуўся тварам да палаца і гучна крыкнуў:

– Усе сюды!

Тут жа двор пачалі запаўняць моцныя маладыя людзі.

– Марцін, – працягваў распараджацца малады чалавек, – давай на вежу назіраць. Астатнія ўзялі па скрыні і за мной. І барані вас Божа хоць адну ўпусціць.

Раман упэўнена накіраваўся да невысокай пабудовы, што стаяла насупраць чорнага ўваходу ў палац. За ім пацягнуліся са скрынямі ў руках мужчыны. Замыкаў працэсію Конрад, стараючыся не адстаць ад іншых. Раман адчыніў дзверы, запаліў паходню і рушыў па калідоры, які вёў кудысьці ўніз. Усё мацней пахла вільгаццю, час ад часу пад ногі траплялі пацукі. Паступова галерэя станавілася ўсё больш вузкай і нізкай. Мужчыны ўжо шкраблі сцены плячыма, угінаючы пры гэтым галовы, каб не зачапіць звод. Неўзабаве яны дайшлі да тарцавой сцяны з паржавелымі жалезнымі дзвярыма. Такія ж дзверы былі справа і злева. Раман павярнуўся да спадарожнікаў і загадаў:

– Паклалі скрыні і на выхад.

Праз хвіліну яны засталіся ўдвух. Конрад падышоў да Рамана, паклаў таму руку на плячо і пранікнёна сказаў:

– Я ганаруся табой, Раман. Ці мог я ўявіць, што з таго маленькага абарванца, што пагрукаў у дзверы нашага касцёла дваццаць гадоў таму, вырасце такі слаўны рыцар, адданы Богу і нашай Бацькаўшчыне?

І на вачах Конрада бліснулі слязінкі.

Раман прыпаў на калені, паклаў рукі Конрада сабе на галаву і ўзрушана прагаварыў:

– Дзякуй, ойча мой! І ведайце: за Вас і святую царкву я аддам жыццё без ваганняў.

Конрад дастаў з кішэні ключ і ўставіў у адтуліну левых дзвярэй. Паварот – і дзверы лёгка адчыніліся.

– Пойдзем, сыне мой, – ціха прагаварыў Конрад. Яны прайшлі праз вузкі калідор і выйшлі ў прасторную залу. Раман запаліў паходняй вялікі каганец. Ад яго ланцужком прабег агеньчык па ўсёй сцяне. Зала была зусім пустая, толькі са столі звісалі чатыры металічныя клеткі са шкілетамі.

– Айцец, мы тут схаваем скарбы? – запытаўся Раман.

– Не, сын мой, не тут. Гэтая зала служыла справядлівай справе святой інквізіцыі. А каштоўнасці, канфіскаваныя братамі нашымі, захоўваліся ў наступнай зале.

– Але тут няма іншай залы, – здзіўлена прамармытаў Раман.

Конрад ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

– Дзякуй Богу, усе так думаюць. Ідзі за мной, Раман.

Конрад падышоў да сцяны з вялікай крывавай плямай, зняў з шыі крыж і адмераў ім ад цэнтра плямы тры адлегласці ўправа. Пасля чаго націснуў на адзін з камянёў у сцяне. Сцяна натужна застагнала, і невялічкая частка яе адышла унутр.

– Гэта дасталося нам ад братоў тампліераў. Яны былі вялікія мастакі на такія штукі, – патлумачыў Конрад. – А Матэус Радзівіл, продак нашага Дамініка, быў калісьці магістрам гэтага ордэна. Але мы, езуіты, змаглі паставіць яго на існы шлях. І цяпер гэта наша, езуіцкая скарбонка. Толькі я, Дамінік Радзівіл і ты, Раман, ведаем гэтую таямніцу. З гэтага моманту ты адзін з самых прысвечаных слуг нашага ордэна. Памятай пра гэта і не дай мне падставы расчаравацца ў табе.

Яны прайшлі праз адчынены ход і апынуліся зноў у доўгім цёмным калідоры.

– Запалі паходню! – загадаў Конрад.

Раман запаліў чарговую паходню, і яны пакрочылі далей. Неўзабаве над каменным зводам галерэі пачуўся нейкі шум, там-сям закрапала вада.

– Мы пад Нёманам, – патлумачыў Конрад. – Зараз будзе разгалінаванне да трох гарадзенскіх касцёлаў.

І сапраўды, крокаў праз дваццаць яны трапілі ў досыць вялікую залу, запоўненую рознымі скрынямі, мяхамі, скуранымі торбамі. З залы ў розныя бакі разыходзіліся тры хады.

– Гэта і ёсць багацце нашага ордэна. Многае засталося ад тампліераў. Але багата чаго за стагоддзі назбіралі і мы, езуіты. Прыйдзе, сыне мой, час, і гэтыя скарбы паслужаць вялікай справе святой царквы і адраджэнню нашай Бацькаўшчыны. Пакляніся, што будзеш захоўваць гэтую таямніцу да самай сваёй смерці.

Раман апусціўся на адно калена, прыклаў руку да сэрца і гучна адказаў:

– Клянуся!

Конрад зняў з сябе крыж, павесіў на шыю Раману і абвясціў:

– Уладай, дадзенай мне братамі езуітамі, абвяшчаю цябе, Раман Бязроднік, святым ахоўнікам гарадзенскай скарбніцы ордэна езуітаў. І дапаможа табе Бог!

Калі Раман і айцец Конрад выйшлі з падзямелля, ужо пачало вечарэць. Манах сеў на двары ў падстаўленае крэсла і з лагоднай усмешкай паглядзеў у чыстае неба. Праз хвіліну яго позірк згас, і душа Конрада з палёгкай адышла ў лепшы свет...

Ужо добра звечарэла, калі Кутузаў закончыў разбірацца з тэрміновымі паперамі. Фельдмаршал з крахценнем цяжка ўстаў з крэсла і зрабіў пару крокаў па пакоі. “А ці не выпіць крыху рэйнскага? – падумалася яму. – А потым пад коўдру ў цёплы ложак...”

Але тут раптоўна расчыніліся дзверы, і ў пакой літаральна ўляцеў атаман Платаў.

– Ваша светласць! – зароў той. – Толькі што атрымаў ад лазутчыкаў звесткі. Частку захопленых скарбаў Напалеон кінуў у Бярэзіну, а другую частку, самую значную, адправіў з манахам-езуітам у Гародню.

Кутузаў са шкадаваннем зразумеў, што ложак прыйдзецца на пэўны час адкласці.

– І што ты, душа мая, крычыш? Знойдзем, дагонім твайго манаха, але спачатку сядзь, атаман, выпей вось віна, і давай спакойна паразважаем.

Платаў зняў папаху, сеў у крэсла, наліў сабе добрую чарку гарэлкі і ўмомант выцягнуў яе. Крэхнуў, абцёр вусны шапкаю і з любоўю зірнуў на галоўнакамандуючага.

Кутузаў таксама апусціўся ў крэсла, на хвіліну задумаўся і паўшэптам запытаў:

– А што, і праўда не ўсе скарбы кінуты ў раку?

Платаў ажно падскочыў з крэсла.

– Ваша сіяцельства, пакуль не позна, трэба дагнаць гэтага манаха.

– Добра, атаман, я падумаю. Можаш ісці.

Толькі за Платавым зачыніліся дзверы, як Кутузаў схапіў са стала невялічкі срэбраны званочак і нецярпліва забразгацеў ім. Імгненна ў пакоі з'явіўся ад'ютант.

– А паклічце да мяне палкоўніка Давыдава.

Карнет Базыль Лягасаў знайшоў Дзяніса Давыдава ў крайняй ад лесу сялянскай хаце, дзе той моцна спаў на саломе, кінутай прама на земляную падлогу.

– Дзяніс Васільевіч, – ціхенька паклікаў карнет, – Вас выклікаюць у галоўную кватэру да фельдмаршала.

Давыдаў расплюшчыў вочы і ўскочыў на ногі.

– І дзе зараз знаходзіцца фельдмаршал?

– У Віленскім замку, гаспадзін палкоўнік.

Першага снежня невялічкі атрад з пяці вершнікаў на чале з Дзянісам Давыдавым дасягнуў Вільні. Вуліцы і двары былі цалкам застаўлены карэтамі, каляскамі і санямі. Вяльможы ў генеральскіх мундзірах, чыноўнікі рознага рангу запаўнялі залы старога замка, чакаючы міласці ад святлейшага. Давыдава тут жа правялі ў пакоі Кутузава.

– Ну што, партызан, не надакучыла яшчэ французаў пашчыпваць? – весела запытаў фельдмаршал.

– Ніяк не, – бадзёра адрапартаваў палкоўнік. – Няхай ведаюць, чыю зямлю топчуць.

– Хачу даць табе адно сакрэтнае заданне, Дзяніс Васільевіч, – пасур'ёзнеў Кутузаў. – Ёсць звесткі, што частку нарабаваных Напалеонам скарбаў вывез нейкі манах у Гародню. Падымай ты сваіх малайцоў, ды праверце, ці праўда гэта. У горадзе стаяць аўстрыйскія салдаты. Хоць ваякі з іх і ніякія, усё ж вазьмі два эскадроны ўлан для падмацавання свайго атрада. Ну і Гародню вызваліш. Тут табе гонар і пашана.

– Усё зразумела, ваша светласць. А што з каштоўнасцямі рабіць?

– А ты паціхеньку ў маю штаб-кватэру прывязі. Там разбяромся. І яшчэ, па загадзе нашага імператара ў Гародню накіраваны корпус генерала Ажароўскага з такой жа мэтай. Дык ты, голуб мой, пастарайся быць першым. Ну, з Богам, палкоўнік!

Калі атрад Давыдава ў сто семдзесят шабляў дасягнуў вёскі Капліца, што размясцілася недалёка ад Гародні, Давыдаў абвясціў адпачынак да самай раніцы. Выставілі каравулы, запалілі пару вялізных вогнішчаў і пачалі смажыць "жыўца" – так партызаны называлі запечаныя на штыках вялізныя кавалкі свежай свініны. Неўзабаве па крузе пайшлі бутэлькі з віном, загучалі гітары. З-за дрэў пачалі выглядваць цікаўныя сялянкі.

Бліжэй да поўначы ў хату, дзе размясціўся Давыдаў, увайшоў яго брат Базыль і паказаў рукой на выхад. Дзяніс Васільевіч зняў з каленяў мясцовую прыгажуню, кіўнуў галавою хаўруснікам, каб працягвалі гуляць, а сам выйшаў на вуліцу следам за братам. Марознае паветра крыху ацвярозіла партызана, і ён, пасур'ёзнеўшы, запытаў у Базыля:

– Здарылася што?

– Да Гародні падышлі войскі Ажароўскага і раніцай пачнуць штурмаваць горад.

– От, халера, – з роспаччу крэкнуў Давыдаў. – Усё ж апярэдзілі нас.

– Што будзем рабіць, брат?

Дзяніс Васільевіч на хвіліну задумаўся, гледзячы на заснежанае поле, і імкліва пакрочыў да хаты, на хаду аддаючы загады..

– Мне каня. Застаешся, Базыль, за галоўнага. Знайдзі Дорахава і Мартынава. Паедуць са мной. Усё.

На раніцу невялічкі атрад Давыдава павольным крокам наблізіўся да штаба Ажароўскага. Вершнікі спешыліся, але ў дом увайшоў адзін Дзяніс Васільевіч.

Ажароўскі сядзеў у крэсле і гартаў нейкія паперы. Давыдаў далажыў пра сябе і адразу ж перайшоў да справы.

– Ваша светласць, шмат чуў пра Вашы вайсковыя подзвігі і хацеў бы прысутнічаць пры гістарычнай падзеі: вызваленні Гародні ад ворага. Ці дазволіце, Ваша светласць?

Ажароўскі самазадаволена ўсміхнуўся: дзёрзкі паэт, гуляка, партызан так пачціва і нават ліслiва звяртаецца да яго. Шкада, што не чуюць штабныя афіцэры – праз тыдзень ведаў бы ўвесь Пецярбург. А з другога боку, Ажароўскі ведаў, што імператар Аляксандр непрыязна ставіцца і да Давыдава, і да партызанскага руху ў цэлым. Ці варта мець справу з апальным палкоўнікам і ў чым будзе выгода самому Ажароўскаму? Хаця, пажывем-пабачым...

– Добра, гаспадзін палкоўнік, я дазваляю Вам і Вашым людзям удзельнічаць у наступальнай аперацыі. А пакуль мы чакаем вяртання з Гародні парламенцёраў. Я буду памятаць пра Вас, палкоўнік.

Палкоўнік Траекураў, маёр Штэйн і карнет Грымаў у суправаджэнні ўзброенага каравула ўвайшлі ў Сенатарскую залу гродзенскага каралеўскага палаца. Пасярэдзіне залы стаяў доўгі стол, за якім сядзелі чатыры аўстрыйскія генералы на чале з камандуючым Гродзенскім гарнізонам генералам Фрэйліхам.

– Слухаю вас, панове, – вымавіў Фрэйліх і ўжо з непрыхаванай іроніяй дадаў: – Спадзяюся, вы з добрымі прапановамі завіталі да нас.

Сесці рускім ніхто не прапанаваў. Тады Траекураў узяў з рук Грымава папяровы скрутак, разгарнуў яго і зычным голасам пачаў чытаць:

"Руская армія паспяхова вядзе зімовую кампанію супраць французскай арміі. Поўны разгром Напалеонаўскага войска на Бярэзіне, уцёкі самога імператара, велізарныя страты ў жывой сіле паказваюць немэтазгоднасць

далейшага супраціўлення. Генерал-маёр Ажароўскі ад імя імператара Аляксандра Паўлавіча прапануе генералу Фрэйліху з гонарам, сцягамі, але без зброі добраахвотна пакінуць Гародню і такім чынам пазбегнуць непатрэбнага кровапраліцця".

Траекураў скончыў чытаць, скруціў паперу і працягнуў Фрэйліху. Той нацягнута ўсміхнуўся і ледзяным голасам абвясціў:

– Я даў прысягу майму імператару. У мяне дастаткова салдат, пораху і мужнасці. Мяне прыкрываюць надзейныя сцены Гродзенскай крэпасці. Паспрабуйце выбіць мяне адсюль, і вы ўбачыце, што такое мужнасць аўстрыйскага салдата. Перадайце генерал-маёру Ажароўскаму, што Гародня не па яго зубах... А калі мне і прыйдзецца пакінуць горад, дык я спалю перад гэтым усе правіянцкія і камісарыяцкія магазіны, у якіх знаходзіцца запасу больш, чым на мільён рублёў. Чым вы будзеце карміць армію і мясцовае насельніцтва?

Калі адказ перадалі Ажароўскаму, той упаў у крэсла і надоўга знерухомеў. Вакол генерала стаялі ад'ютанты, генералы штаба, парламенцёры, з трывогайназіраючы за сваім камандзірам. А ён маўчаў, гледзячы ў адну кропку. Прайшла хвіліна, другая, дзясятая, а генерал усё маўчаў. І ніхто не асмельваўся парушыць напружаную цішыню. Нарэшце Ажароўскі цяжка ўзняўся з крэсла і глухім голасам вымавіў:

– Строіць войска ў паходныя калоны, і рушым на Варшаву. Няхай Кутузаў ламае зубы на Гродне.

Калі Дзяніс Давыдаў даведаўся пра адступленне Ажароўскага, паляўнічы азарт ахапіў партызана. Ён тут жа адправіў Дорахава па свой атрад у Капліцу.

– Цудоўна, – заявіў партызанам Давыдаў. – Сёння мы адпачываем, а заўтра бяром Гародню.

– Ура! – гучна адказалі партызаны.

Раніцай 20 снежня аўстрыйскія часавыя са здзіўленнем назіралі, як да сцен Гародні набліжаецца дзіўная працэсія: расійскія ўланы на конях, з бутэлькамі шампанскага ў руках, за імі нейкія напаўвайсковыя, гледзячы на форму, пехацінцы, барадатыя мужыкі ў аўчынах, з віламі і косамі ў руках. Наперадзе ўсіх ехаў на добрым кані невялічкага росту вусаты гусар у званні палкоўніка. Ён падняў руку – і калона спынілася. А сам, не азіраючыся, прышпорыў каня і наблізіўся да гарадской брамы.

– Ты хто? – закрычалі са сцяны.

– Камандзір перадавога атрада арміі фельдмаршала Кутузава палкоўнік Давыдаў, – зычна адказаў вершнік. – Маю размову да генерала Фрэйліха.

У той жа сенацкай зале генерал Фрэйліх сустракаў дзіўнага палкоўніка рускай арміі.

– Мне даклалі, гаспадзін палкоўнік, што ў Вас ёсць паўнамоцтвы для перамоў ад самога фельдмаршала Кутузава.

– Так, Ваша светласць, – адказаў Давыдаў. – Кутузаў загадаў мне адправіцца з перадавым атрадам у Гародню і прапанаваць Вам з гонарам, сцягамі і зброяй пакінуць горад. За мной ідзе вялікая армія. Але і не гэта галоўнае. Нават пакінуўшы пад націскам рускай арміі Гародню, вы не дабярэцеся і да бліжэйшай дзяржаўнай мяжы. З намі тысячы раззлаваных мужыкоў і баб, якія будуць вас дзённа і кожнай ночы вынішчаць без усялякага шкадавання. Падумайце, хто дабярэцца з вас да роднай Вены? І яшчэ. Рускі народ – добры па сваёй сутнасці. Але зло памятае доўга. І калі вашы салдаты падпаляць гродзенскія магазіны, а разам з тым і сам

горад, я не ўпэўнены, што праз паўгода не выгараць ушчэнт прыгожыя аўстрыйскія гарадкі. Вы разумееце мяне, пан генерал?

Фрэйліх глядзеў на Давыдава шырока расплюшчанымі вачыма, няздольны вымавіць і слова. Усю ноч варта бачыла генерала, які хаатычна бадзяўся на крапасных сценах, калідорах палаца, абрывістых берагах Нёмана. А на раніцу ён аддаў загад пакінуць Гародню. Здзіўленыя і збянтэжаныя гарадзенцы стаялі на балконах, вулічных тратуарах, не разумеючы, што адбываецца.

А ўжо праз гадзіну ў горад урачыста ўвайшоў атрад Дзяніса Давыдава. З бутэлькамі шампанскага, гітарнымі спевамі гэтая разнамасная кавалькада адразу накіравалася ў палац Радзівілаў.

– Тут усё ваша, – жыццярадасна абвясціў Давыдаў паплечнікам, і адразу ж пачалося жахлівае марадзёрства. Паўваенныя партызаны хапалі ўсё, што толькі прыглянецца з радзівілаўскага багацця. На двор была выкачана двухсотлітровая бочка старога віна з падвалаў палаца, а неўзабаве і тут і там пачуўся віск служанак Радзівіла, якіх па пакоях расцягвалі партызаны.

Да Дзяніса Васільевіча прывялі скручанага ўпраўляючага палацам Радзівілаў Альберта Бургельскага.

– Дзе схаваны скарбы Напалеона? – адразу ж запытаўся Дзяніс Васільевіч.

– Якія скарбы Напалеона? – шчыра здзівіўся Бургельскі.

– Тыя, што прывёз сюды манах-езуіт па дамоўленасці з тваім панам.

– Пан палкоўнік нешта блытае. Ніякіх скарбаў сюды ніхто не прывозіў. А тое, што засталося, разрабавана Вашымі служкамі.

Давыдаў пільна паглядзеў на ўпраўляючага і загадаў:

– У лёхі! Заўтра-паслязаўтра прыедзе Тучкоў, вось яму ты ўсё і раскажаш.

На раніцу атрад Давыдава рушыў з Гародні. Палкоўнік адправіў ліст Кутузаву:

“Ваша светласць! Гародня наша! Ніякіх скарбаў Напалеона мы не знайшлі. Здаецца, гэта нечыя выдумка. Пытаўся ва ўпраўляючага. Падобна, што сумленны чалавек. І ён адмаўляе, што ёсць нейкія скарбы. Заўтра ў горад прыбудзе прадстаўнік імператара Тучкоў. Няхай паспрабуе адшукаць тое, чаго не існуе. Мой атрад ідзе на Варшаву. Чакаю новых загадаў. Палкоўнік Давыдаў”.

Корпус Сяргея Аляксеевіча Тучкова ўвайшоў у Гародню 22 снежня. Давыдаў перадаў яму параненых, абмарожаных і палонных, а сам кінуўся даганяць атрад. Тучкоў адразу ж узяўся за пошукі скарбаў. Ён спусціўся ў лёхі, дзе сядзеў арыштаваны Бургельскі.

– Чаму не ў жалезе?! – раз’юшана заверашчаў генерал. – На дыбу яго.

На ўпраўляючага начапілі кандалы, ад якіх працягнулі ланцуг да крука ў сцяне, паколькі дыбы ў Гродне не было спрадвеку.

– Ну што, паганец, – Тучкоў шчыльна падышоў да Альберта, – будзеш прызнавацца, дзе скарбы?

– Якія скарбы? – перапытаў Бургельскі.

– А вось такія! – закрычаў генерал і з размаху ўдарыў таго ў нос кулаком. Твар Бургельскага адразу ж заліло крывёй.

– А вось яшчэ адна падказка, – дадаў Тучкоў і нанёс моцны ўдар у жывот. Альберт склаўся ўдвая, прагна хапаючы ротам паветра...

Бургельскага білі ўсю ноч. Калі ён траціў прытомнасць, аблівалі халоднай вадой і зноў білі. На раніцу Альберт не вытрымаў і расказаў, дзе схаваны... скарбы роду Радзівілаў. Увесь наступны дзень казакі выносілі з патаемнага

пакоя палаца радзівілаўскую маёмасць. Дзесяць вазоў спатрэбілася, каб змясціць нарабаванае золата, срэбра, іншыя каштоўнасці.

Пра скарб Напалеона ніхто нічога не чуў. Раз'юшаны Тучкоў загадаў жорстка высекчы ўсю радзівілаўскую прыслугу, але вынік быў нулявы.

На ўсходзе прачыналіся першыя промні сонца, калі ў шыбу невялічкага доміка садоўніка, што месціўся ў канца радзівілаўскага саду, нехта асцярожна пастукаў.

– Хто там?– адарваў голаву ад подушкі Раман Бязроднік, а рука выцягнула з-пад подушкі пісталет.

– Гэта я, Дамінік Радзівіл, – пачулася з надворка.

Раман хуценька ўскочыў і адсунуў засаўку на дзвярах.

– Што Вы тут робіце? – здзіўлена запытаўся ён.

– Дзе айцец Конрад? – адразу ж, увайшоўшы, запытаў Радзівіл.

– Памёр, спакой яго душы, – адказаў Раман.

– А ты, бачу, жывы?

– Так, Ваша светласць, я пераапрануўся ў садоўніка і застаўся вартаваць даручаныя мне скарбы.

– Што знайшлі рускія? – зноў запытаўся Дамінік.

– Яны катавалі ўсіх, але знайшлі толькі чырвоны пакойчык, як Вы і планавалі, мой пане. Шэсцьдзесят пудоў фамільных каштоўнасцей Радзівілаў, золата Напалеона і скарбы езуітаў ім не знайсці ніколі. Я гарантую пану.

– Што ж, Рамане, ты прысвечаны, і твае жыццё належыць ужо не табе, а нашай беднай Айчыне. Я гэтай ноччу адпраўляюся да Напалеона. Упэўнены: мы яшчэ ўбачым нашу радзіму вольнай і багатай. Бывай, Рамане, і дай я абдыму цябе на развітанне!

Раман Бязродны са слязьмі на вачах распрасцёр рукі і з імпэтам абняў Радзівіла. Ён не бачыў, як Дамінік дастаў невялічкі кінжал з бота і ўсадзіў у шыю хлопцу. Той ахнуў і адразу абмяк.

– Даруй, Рамане, – ледзь чутна прашаптаў Радзівіл. – Але надта высокія стаўкі, каб рызыкаваць. А рускія цябе ўсё роўна знайшлі б...

Імператар Аляксандр I стаяў каля вакна і назіраў, як варона адбірае кавалак хлеба ў двух катоў. Ледзь чутна за спінай рыпнулі дзверы. Аляксандр павярнуўся. Перад ім стаяў міністр духоўных спраў імперыі князь Галіцын.

– Ну што, князь, новага па справе зніклых скарбаў?

– Ваша Вялікасць, – крыху схіліўся князь, – мы дапыталі ўсіх езуітаў у Гародні, Вільні, Варшаве, але ніхто пра золата Напалеона нічога не чуў.

– Гэта золата не Напалеона, – строга заўважыў Аляксандр, – а маё, уласнае. Хтосьці ж яго схаваў у гэтым Гродне? Дзе гэтыя людзі?

– Даруйце, Ваша Вялікасць, але галоўны злачынца, езуіт Конрад Велічкоўскі памёр, Дамінік Радзівіл знік у Еўропе, а яго выхаванец, галоўны ахоўнік маёнтка Раман Бязроднік, забіты невядомымі.

– Я перамог самога Напалеона Банапарта. А адшукаць свае скарбы не ў стане. Што ж, – Аляксандр нервова пакрочыў па зале, – тады пішыце мой загад. "Езуітаў, як асоб, якія забыліся пра святы абавязак не толькі ўдзячнасці, але і падданнай прысягі, і таму не ў праве карыстацца міласцю расійскіх законаў, выслаць пад наглядам паліцыі за межы дзяржавы і надалей ні пад якім выглядам не ўпускаць у Расію".

На двары ішоў 1815 год.

## Гусарскі дом

Іван Паўлавіч Таўстуха адчыніў цяжкія, абітыя дэрмантынам дзверы і моўчкі паказаў наведвальніку, каб праходзіў. Начальнік замежнага аддзела аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) Артузаў Артур Хрысціянавіч зрабіў некалькі крокаў наперад і апынуўся ў вялікім кабінеце, большую частку якога займаў доўгі стол. За сталом сядзелі ўсе члены Палітбюро ЦК ВКП(б): Рыкаў, Томскі, Молатаў, Калінін, Варашылаў, Рудзутак, Куйбышаў. Генеральны сакратар партыі Іосіф Сталін стаяў каля акна, трымаючы ў руцэ нязменную трубку. Усе з цікавасцю глядзелі на госця.

– А вось і наш новы начальнік замежнага аддзела, – парушыў цішыню Сталін. – Сядайце, таварыш Артузаў.

Артур Хрысціянавіч асцярожна прысеў на крайняе вольнае крэсла, адчуваючы, як моцна калоціцца сэрца.

– Палітбюро лічыць, – працягваў гаварыць Сталін, – што нам неабходна актывізаваць дзейнасць знешняй разведкі. Вы згодны з гэтым, таварыш Артузаў?

Начальнік замежнага аддзела імгненна ўскочыў і хрыплым ад хвалявання голасам вымавіў:

– Так, таварыш Сталін!

– Ну вось, таварышы, і начальнік замежнага аддзела АДПУ з намі поўнасцю згодны. Мы думаем, таварыш Артузаў, што асноўнымі задачамі знешняй разведкі павінны стаць: барацьба з антысавецкай эміграцыяй і тэрарыстычнымі арганізацыямі ў краіне і за мяжой; выяўленне інтэрвенцыяніслцкіх планаў варожых краін; барацьба з замежнымі шпіёнамі; атрыманне для нашай прамысловасці тэхнічных навінак, якія не могуць быць здабыты звычайным шляхам; контрразведчыцкае забеспячэнне савецкіх установаў за мяжой... І асабліва, таварыш Артузаў, – працягваў Сталін, – нас цікавіць польскі накірунак. Акупаваныя тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны – перспектыўны плацдарм для падрыхтоўкі дыверсійных груп, вярбоўкі ваенных і дзяржаўных чыноўнікаў, арганізавага нападу на Савецкі Саюз. Вам усё зразумела, таварыш Артузаў?

– Так, таварыш Сталін, – адказаў Артур Хрыстафоравіч.

– Тады мы вас болей не затрымліваем. Ідзіце і працуйце.

Гэтай жа ноччу ў кабінеце кіраўніка замежнага аддзела сабраліся начальнікі ўсіх аддзелаў знешняй разведкі АДПУ. Артузаў азнаёміў іх з рашэннем Палітбюро і кожнаму з васьмі аддзелаў вызначыў канкрэтныя задачы і тэрмін іх выканання. Усе разышліся, апроч начальніка трэцяга аддзелу (палітычная работа ў краінах Заходняй Еўропы і ЗША) Ігнатава Пятра Пятровіча.

– А з Вамі, таварыш Ігнатаў, мы павінны добра падумаць, – Артузаў сеў насупраць падначаленага. – У самы бліжэйшы час вам неабходна актывізаваць работу на тэрыторыі Польшчы. Дыверсіі, вярбоўка, сакрэтная інфармацыя. Ёсць якія ідэі?

Пётр Пятровіч узяў са стала востра заточаны аловак, пакруціў яго ў пальцах, паклаў на месца і нарэшце загаварыў.

– Я меркаваў, што рана ці позна кіраўніцтва зацікавіцца Польшчай: суседняя краіна, пастаянны ініцыятар агрэсіі, добрая фінансавая падпітка з боку еўрапейскіх дзяржаў...

– І што? – нецярпліва перабіў таго Артузаў.

– Наша аддзяленне распрацавала падрабязны план дзейнасці на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Праз дзесяць хвілін, з Вашага дазволу, я прынясу яго ў гэты кабінет. Але нам спатрэбяцца дадатковае фінансаванне і дапамога хіміка-біялагічнай лабараторыі АДПУ...

Паступова набліжаўся світанак. Але Ігнатаў гэтага не бачыў. Ён апошні раз перад засылкай прапрацоўваў план аперацыі са сваімі лепшымі агентамі.

Марыя Іванаўна Вішнявецкая, незвычайнай прыгажосці жанчына, дачка польскага арыстакрата, надзейшы таварыш па партыі бальшавікоў. Доўгія ногі, высокія пышныя грудзі, тонкая пяшчоная шыя, густыя каштанавыя валасы. І ўсмешка, прыцягальная, безабаронная і такая загадкавая. А ў спалучэнні з вялікімі зялёнымі вачыма гэта ўсё складала смяротную зброю. У свае 34 гады Марыя Іванаўна паспела павучыцца ў жаночым інстытуце ў Смольным, паваяваць у складзе І коннай арміі Сямёна Будзённага, скончыць разведшколу ў Разані і паспяхова правесці некалькі аперацый у Францыі і Венгрыі. Яе вельмі цаніла кіраўніцтва і выкарыстоўвала толькі ў крайніх выпадках.

Напарнік Марыі Іванаўны быў поўнай супрацьлегласцю. Невысокага росту з доўгімі, ніжэй за калена рукамі, абсалютна лысы. Высунутая наперад ніжняя сківіца амаль спалучалася з крукаватым носам. Грышын Сямён Сямёнавіч, садыст, прафесійны забойца, чалавек незвычайнай сілы – жалезную патэльню скручваў імгненна ў трубку, як папяровую. Разумова абмежаваны, ён заўсёды меў патрэбу ў валявым, рашучым напарніку. І такім чалавекам для яго вось ужо чацвёрты год была Марыя Іванаўна.

– І так, – працягваў інструктаж Ігнатаў, – Вішнявецкая – кіраўнік аперацыі, Грышын – выканаўца ўсіх яе загадаў. Гэта зразумела.

– Так, – лагодна ўсміхнулася Вішнявецкая. Сямён моўчкі матануў галавою.

– А зараз, Марыя Іванаўна, яшчэ раз паўтарыце план Вашых дзеянняў на першым этапе.

– Пётр Пятровіч, міленькі, – томна ўздыхнула Вішнявецкая, – ну колькі ж можна паўтараць. Я даю нагоду да сумненняў?

І грацыёзна, як хатняя котка, яна скочыла на калені Ігнатаву, абвіла яго шыю рукою і цмокнула ў лоб. Збянтэжаны, чырвоны, як рак, Ігнатаў ускочыў з крэсла, толькі раззяўляючы рот, не ў стане вымавіць і слова.

– Добра-добра, – засмяялася Марыя, – усё паўтару. Даязджаем з Сёмачкам да станцыі Гародня. Ідзем пешшу на вуліцу Нарутовіча і знаходзім дом, набыты на імя Баляслава Картынькага. Адчыняем дзверы вось гэтым ключом, і я станаўлюся пані Марысяй Картыньскай, а Сёмачка маім братам Баляславам Картыньскім. Затым адпраўляю пана Баляслава на пошту з карткай на адрас: Гародня, пану Адаму Леванцу. Да запатрабавання. Тэкст: “Запрашаю на народзіны а 19-й гадзіне ў свой дамок. Твая Марыся”. Пачынаем прымаць на працу супрацоўнікаў з рэкамендацыямі ад пана Адама.

– Што ж, – загаварыў Ігнатаў, – усё правільна. Не буду казаць пра важнасць вашага задання, самі разумееце. Сустрэча з сувязнымі кожны панядзелак. У экстраным выпадку – картка Адаму Леванцу. Што ж, жадаю поспеху і да сустрэчы на роднай зямлі!

Ён паціснуў кожнаму руку і выйшаў з пакоя.

Гародня спадабалася Вішнявецкай сваім правінцыяльным спакоем, архітэктурнай прыгажосцю і добразычлівасцю людзей. Нават чыноўнікі з усмешкай спяшаліся хутчэй дапамагчы ў разгортванні ўласнай справы пані Марысі, ці то зачараваныя яе прыгажосцю, ці то абяцаннем пра будучыя зніжкі для іх.

Гаспадары пасяліліся ў невялічкім дамку на чатыры пакоі, што стаяў за працоўным будынкам. А вось ужо ў самым прыгожым драўляным двухпавярховым доме размясціўся салон пані Марысі са сціплай назвай "Dom husarski". Увесь першы паверх займала вялікая зала з мяккімі канапамі і крэсламі, барам і невялічкай пляцоўкай для музычнага ансамбля. З залы драўляная лесвіца вяла на другі паверх, дзе месціліся восем аднапакаёвых нумароў для кліентаў. Супрацоўніцы падбіраліся невядомым панам Адамам, але пасля размовы з кожнай Марыся разумела: ён сапраўдны прафесіянал у сваёй справе. Паралельна з Масквы былі перапраўлены і тры супрацоўніцы АДПУ, пра якіх Вішнявецкая папярэдне атрымала паведамленне. Усяго на працу былі прыняты чатырнаццаць асноўных працаўнікоў, тры пакаёўкі, швейцар, бармен і начны вартаўнік. За бяспеку і парадак адказваў Баляслаў Картыньскі. А неўзабаве ў мясцовай газеце "Grodner Express" з'явілася аб'ява: "Для сапраўдных мужчын Гародні. Калі вы стаміліся на працы і прагнеце адпачыць у прыемным таварыстве вольных ад старасвецкіх комплексаў паненак, вас запрашае клуб "Dom husarski", што месціцца на вуліцы Нарутовіча. Першы візіт са зніжкамі".

Адкрыццё клуба прызначылі на 1 ліпеня. З раніцы пані Марыся сабрала ў холе першага паверха ўвесь персанал для інструктажу.

– Так, паненкі, сёння мы адчыняемся. Нагадваю, пра што вы абавязаны заўсёды памятаць. Па-першае, кліент павінен выйсці адсюль поўнасцю задаволеным. Як вы гэтага даб'ецеся, мяне не цікавіць, але паненка, якую не будуць запрашаць, а там больш, на якую паступяць скаргі, тут не затрымаецца. Мы не дабрачынная арганізацыя. У той жа час падарункі ад кліентаў – выключна ваш прыбытак. Па-другое, уласная гігіена. Так, у нас падпрацоўвае доктар, але ваша здароўе – ваша праца і вашы грошы. Таму раю: перад працай абмыць кліента лепш самой – і інфекцыі не будзе, і кліенту дадатковае задавальненне прынясеце. Выкарыстанне прэзерватываў выключна па вашым жаданні. Але ў аплату за паслугі яны не ўваходзяць. Можаце прыдбаць у Баляслава і прадаваць кліенту. Па-трэцяе, я не супраць вашых прыватных выступленняў за межамі нашага клуба, але адказнасць за вашу бяспеку мы нясём толькі на тэрыторыі клуба. І, нарэшце, апошняе. Загад гаспадыні клуба, гэта значыць, мой – святая справа. Невыкананне раўназначна звальненню. Ну а зараз – у добры шлях, паненкі!

Картыньская развярнулася і пайшла ў свой кабінет. Роўна праз дзесяць хвілін у дзверы пастукалі, і ўвайшлі тры дзяўчыны: Алена, Наталля і Вераніка. Марыя паказала ім на крэслы і, хвіліну счакаўшы, пакуль рассядуцца, загаварыла:

– Ну што, дзяўчаты, пачынаем службу. Масква, мяркую, усё вам растлумачыла, таму памятаем галоўнае: выцягнуць максімум інфармацыі з кліентаў. Цэнтр цікавіць літаральна ўсё: эканоміка, палітыка, грамадскія арганізацыі. Я пастараюся накіроўваць да вас значных асоб. Ну і вы праявіце пралетарскі энтузіязм.

– Ды не хвалюйцеся, таварыш Марыя, мы сваю працу ведаем, не першы год абворваем кліентаў.

– Не таварыш, Стэфанія, а пані. Потым, у Расіі, я буду таварыш Марыя, а ты таварыш Алена. А пакуль мы ўсе пані. Ты зразумела мяне? – строга запытала Картыньская.

– Так, пані Марыся, – крыху пачырванеўшы, адказала Стэфанія-Алена.

– Да мяне заходзіць не часцей разу на тыдзень. Калі атрымаеце цікавую інфармацыю, сказаць Баляславу. Я выклікаю вас. І ўвогуле, усе кантакты праз майго брата. Усё, рыхтуйцеся да працы.

"Гусарскі дом" пані Марысі вельмі хутка набраў вядомасці не толькі ў Гродне, але і за яго межамі. Душэўная атмасфера, поўная канфедэнцыяльнасць, высокі гігіенічны ўзровень выгодна адрозніваў гэты клуб ад вулічных прастытутак. Час ад часу нават строгія бацькі ў дзень паўналецця сына давалі таму грошы са словамі:

– Час, сынок, схадзіць да пані Марысі, павучыся жыццю...

У кабінет Картыньскай ціхенька пастукалі.

– Уваходзьце! – дазволіла гаспадыня.

Увайшоў Баляслаў. У касцюме-тройцы, пры гальштуку і ў лакавых штыблетах, ён ніяк не паходзіў на капітана НКУС з аддзела палітычных аперацый.

– Пані Марыся, – загаварыў Баляслаў, – мы атрымалі звесткі, што ў Гародню прыехаў Мікола Саўчанка, кіраўнік дыверсійнага цэнтра ўкраінскіх нацыяналістаў. Будзе праводзіць семінар для заходнебеларускіх калег. Цэнтр зацікаўлены ў ліквідацыі гэтага аб'екта.

– Дзе будзе праходзіць семінар?

– У маёнтку Станіслава.

– Добра, я зразумела. Пакліч да мяне Алену, Наталлю і Вераніку.

Семінар у маёнтку Станіслава, некалі загараднай каралеўскай рэзідэнцыі, быў на найвышэйшай эмацыянальнай ноце: удзельнікі намагаліся перакрычаць адзін аднаго, нешта даказваючы і апелюючы час ад часу да галоўнага выступоўцы, які сядзеў у крэсле на імправізаванай сцэне і іранічна пагладаў у залу. Тут ён заўважыў трох вельмі сімпатычных манашак, якія са скарбонкамі ў руках хадзілі паміж радоў, збіраючы ахвяраванні на нейкія боскія справы. Неўзабаве яны абышлі ўсю залу і, падняўшыся на сцэну, шчыльна акружылі Міколу.

– Ці шаноўны пан не дапаможа сіротам? – пявучым голасам прамовіла адна з манашак і як бы незнарок прыціснулася каленам да сцягна Саўчанкі. Таго як маланкай прабіла. Зблізку дзяўчаты былі яшчэ прыгажэйшыя. Ад іх прыемна пахла нейкімі незнаёмымі духамі, цнатлівасцю і распуствам адначасова.

– А ці дазволена нявестам боскім карыстацца парфумамі? – хрыплаватым голасам, у якім адчувалася хваляванне, запытаў Мікола.

– Час ад часу нам дазволена ўсё, – весела адказала другая і дадала, пяшчотна правёўшы рукою па валасах мужчыны: – Абсалютна ўсё...

У Міколы спёрла дыханне.

– Можа, пан не хоча афішаваць сваю шчодрасць пры калегах? – надаючы заклапочанасць голасу, запытала трэцяя. – Мы можам сустрэцца пасля імпрэзы. Чаму б і не пачакаць прыстойнага пана? Праўда, дзяўчаты?

– Да сустрэчы, пане! Да сустрэчы! – зашчабяталі манашкі і са смехам спусціліся ў залу.

Ніколі яшчэ семінар не цягнуўся для Міколы Саўчанкі так доўга і нудна. Ён нешта казаў, часам не ў лад, адказваў на пытанні і ўсё паглядваў на гадзіннік. Нарэшце мерапрыемства скончылася. Мікола паклікаў да сябе дужага, рослага хлопца, што ўвесь час сядзеў за кулісамі, уважліва назіраючы праз шчыліну за залай.

– Васіль, зараз я сустрэнуся з манашкамі. Магчыма, некуды паеду. Прасачы, што да чаго, і на ўсялякі выпадак будзь недалёка. Думаю, ніякай небяспекі тут няма, але, як кажуць, беражонага...

Манашкі сапраўды чакалі Міколу ў фае. Яны тут жа акружылі яго і павялі да выхаду.

– Калі пан Саўчанка паабяцае дадатковыя ахвяраванні і закажа аўта, мы запросім пана да сябе, – з усмешкай паведаміла манашка.

– У кляштар? – здзіўлена перапытаў Мікола.

– Ну, пану рана яшчэ ў кляштар, – засмяяліся дзяўчаты. – Мы здымаем невялічкі дамок на Лавецкай. Ці гатовы пан Мікола на ахвяраванні?

Пан Мікола быў ужо гатовы на ўсё. Яны выйшлі на вуліцу, і тут жа каля іх спыніўся таксаматор, за рулём якога сядзеў непрыемнага выгляду вадзіцель у кепцы.

– На Лавецкую! – загадала манашка і шчыльна прытулілася да Саўчанкі.

Была толькі чацвёртая гадзіна раніцы, калі манашкі, ужо прыстойна апранутыя і прычасаныя, разбудзілі Міколу.

– Пану Саўчанку час ісці дахаты. Раніцай да нас прыязджае маці-настаяцельніца. Яна не павінна бачыць пана.

Саўчанка, яшчэ крыху ашалелы ад перажытага ўначы, хуценька апрануўся, паклаў грошы на стол і, развітаўшыся, выйшаў на вуліцу. Глухая ўскраіна горада. Ні людзей, ні гукаў. Толькі рэдкі туман слаўся па зямлі. І тут Мікола ўбачыў на гэтай самай зямлі свайго целаахоўніка Васіля Друза. Той ляжаў, ненатуральна скруціўшы галаву ўбок. Мікола нахіліўся, каб праверыць пульс, як моцны ўдар у патыліцу збіў яго з ног. Затым пайшла яшчэ чарада ўдараў, але Мікола іх ужо не адчуваў. Ён быў мёртвы. Баляслаў Картыньскі зняў з рукі касцет, паклаў у кішэнь, затым выцягнуў з пінжака Саўчанкі партманет, зняў гадзіннік і пярсцёнак і накіраваўся да аўтамабіля. Ужо праязджаючы па мосце праз Нёман, ён на імгненне прыпыніўся і выкінуў у раку ўзятыя трафеі.

Быў цёплы сонечны дзень. Пані Марыся сядзела ў кавярні "Раскоша". Няспешна піла каву і праглядала апошні нумар гарадзенскай газеты.

– Дзень добры, пані, – раптам пачула яна мужчынскі голас, згарнула газету і падняла вочы. Перад ёй стаяў прыстойна апрануты пан у дарагім касцюме і ветліва ўсміхаўся.

– Добры дзень, – адказала Картыньская. – Але я пана, здаецца, не ведаю.

– Адам Скаўронак з Пяцельчыц, – адрэкамендаваўся той.

Марыя адчула, як на хвіліну сціснулася сэрца. "Адам Скаўронак з Пяцельчыц" – гэта быў асабісты пароль польскага рэзідэнта на самы крайні выпадак. Але жанчына тут жа ўзяла сябе ў рукі, усміхнулася ў адказ і рукою паказала на вольнае месца за столікам.

– Я журналіст з "Варшаўскага экспрэсу", – працягваў гутарку Скаўронак. – Наш рэдактар шмат чуў пра "Ґусарскі дом" пані Марысі. І даручыў мне напісанне артыкула. Ці магла б пані ахвяраваць колькі хвілін для інтэрв'ю і невялічкай экскурсіі па славутым доме?

– Чаму ж не? – згадзілася Картыньская. – Якраз у мяне зараз выпала вольная хвіліна. Таму запрашаю пана Адама да сябе ў госці.

Скаўронак удзячна прыціснуў руку да сэрца.

Пані Марыся крыху павадзіла журналіста па доме, прадстаўляючы яго сваім падначаленым, пасля чаго правяла ў рабочы кабінет.

– Тут нас ніхто не пачуе, – запэўніла яна госця. – Што здарылася?

– Ну, па-першае, дазвольце перадаць з Масквы ўдзячнасць за Вашу плённую працу і паведаміць, што вы ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Па-другое, справа сапраўды вельмі важная і тэрміновая. Таму я тут. 26 студзеня Польшча падпісала ў Берліне “Дэкларацыю аб мірным вырашэнні спрэчак і непрымяненні сілы паміж Польшчай і Германіяй”. Таксама наша разведка высветліла, што паралельна праводзіліся тайныя перамовы Берліна і Варшавы аб сумесным нападзе на Савецкі Саюз. Заўтра ў Гродне на базе 29-й пяхотнай дывізіі збіраюцца камандзіры і начальнікі штабоў дывізій 3-й корпуснай акругі. Нараду з імі будзе праводзіць начальнік Генеральнага штаба Войска Польскага, які і вязе з сабой планы мяркуемага нападу. Нам вельмі патрэбны копіі гэтых планаў.

– Зразумела, – Картыньская паднялася з крэсла і павольна прайшлася па кабінеце. – Вы калі вяртаецеся ў Варшаву?

– Зараз жа, – адказаў Скаўронак. – Ведаеце, Марыя Іванаўна, больш важнай справы, чым гэтая, у нас сёння няма. Цэнтр згодны ахвяраваць і базай, і супрацоўнікамі, але планы павінны быць. Для Вас на працягу тыдня будзе адкрыты на дзяржаўнай мяжы 2-гі калідор у мінскім напрамку. Адчуеце небяспеку – адразу эвакуацыя. Жадаю поспеху!

Скаўронак паціснуў Марыі руку, прыязна ўсміхнуўся і выйшаў з кабінета. Картыньская ў задуменні села на канапу.

Польская контрразведка зрабіла ўсё магчымае, каб арганізаваць поўную бяспеку ўдзельнікам нарады з начальнікам Генеральнага штаба Войска Польскага генерал-маёрам Янушам Гансяроўскім. І як высветлілася, клопаты былі недарэмныя. Нягледзячы на сакрэтнасць мерапрыемства, на скрыжаванні вуліц Лістоўскага і Ажэшкі кавалькада штабных машын была абстраляна невядомымі. Але ў машыне генерала не было. Яго даставілі ў *Dom strzelca* на паўгадзіны раней. Пасяджэнне прайшло плённа і досыць спакойна. А ўвечары ўдзельнікі раз’ехаліся па сваіх дывізіях. Паколькі машына генерал-маёра пацярпела ў выніку абстрэлу, а таксама ў мэтах большай бяспекі, Гансяроўскаму і яго ад’ютанту капітану Юзэфу Маўроцкаму былі зарэзерваваны два купэ ў цягніку “Гародня – Варшава”.

Генерал з ад’ютантам сядзелі ў вагоне-рэстаране і абмяркоўвалі за вячэрай нараду ў Гродне. Тым часам у рэстаран увайшла неверагоднай прыгожосці жанчына ў светлым дзелавым касцюме, агледзелася і рушыла да вольнага століка. За ёю ўварваўся маленькі лысы мужчына, не перастаючы гучна скуголіць:

– Як ты магла? Дзе ты была ўвесь дзень? Ты распусніца!

Жанчына прыпынілася якраз каля століка генерала, павярнулася да маленькага мужчыны і цвёрдым голасам загадала:

– Караль, спыніся. Яшчэ слова – і мы з табой развітаемся назаўсёды.

– А, дык вось ты чаго хочаш? Лярва! – істэрычным голасам заверашчаў той і нечакана для ўсіх заляпіў жанчыне добрага кухталя. Тая не ўтрымалася

на нагах і паваліласяна Маўроцкага. Гансяроўскі імгненна ўскочыў, перахапіў руку Караля і лоўкім прыёмам выкруціў яе. Мужчына ўзвыў ад болю.

– Ударыць пані? – аж закіпеў ад гневу генерал. – Вы не мужчына, а паганы смоўж!

Ён давёў скурчанага Караля да дзвярэй вагона і выпхнуў у тамбур. Пасля чаго вярнуўся да століка, каля якога ўжо стаяла раззлаваная жанчына з чырвонай прыпухлай шчакой.

– Я вельмі ўдзячна пану генералу, – вымавіла яна і, нягледзячы на боль, усміхнулася свайму заступніку.

– Дробязь, пані. Мяне, дарэчы, завуць Януш. Януш Гансяроўскі. А гэта мой ад'ютант Юзэф Маўроцкі.

– Марыя Дэмбоўская, – адрэкамендавалася і жанчына.

– Ці магу я прасіць пані прысесці за наш столік?

Дэмбоўская кіўнула галавой і села каля генерала.

– Як пані сябе адчувае? – зноў запытаўся Гансяроўскі.

– Дзякуй, але, здаецца, мне спатрэбіцца доктар. Калі падала, моцна ўдарылася аб край стала, і зараз вельмі баляць рэбры з левага боку. Пан генерал не спецыяліст па пераломах?

– У ваеннай школе мы вывучалі траўматалогію, агульную хірургію.

– Можа, шаноўны пан Гансяроўскі зірне, што там?

– Палічу за гонар.

– Тады запрашаю Вас прайсці ў маё купэ. Кароль не хутка вернецца, я ведаю.

– Кароль – Ваш муж? – недаверліва перапытаў генерал.

– Так, муж. Вельмі нікчэмны, вельмі раўнівы і вельмі багаты. І я шмат чым яму абавязана. Але, але...

Дэмбоўская паднялася і пайшла да выхаду. Гансяроўскі рушыў за ёй, кінуўшы ад'ютанту:

– Чакайце мяне ў купэ. І сачыце за партфелем, – ён кіўнуў галавой на вялікі скураны партфель, што быў прымацаваны сталёвым ланцужком да рукі Маўроцкага.

У купэ Марыя расшпіліла і рашуча зняла блузку, за ёй станчык. Вачам крыху ашалелага ад нечаканасці генерала прадсталі агаленыя жаночыя грудзі. Ён ледзь утрымаўся, каб не дакрануцца да іх рукой. Марыя непрыкметна ўсміхнулася, прамовіўшы:

– Яшчэ не зараз, пан Януш. Паглядзіце вось сюды, – і яна правяла рукой па целе крыху ніжэй за грудзі.

Гансяроўскі засяродзіўся і пачаў шчыльна абмацоўваць рэбры жанчыны.

– Упэўнены, пані, што пералому ў Вас няма. Максімум – трэшчына. Добра было б накласці спіртавы кампрэс.

– Што ж, кампрэс дык кампрэс. Таму чакаю Вас і Вашага ад'ютанта, пан генерал, праз гадзіну тут, у купэ. Я б хацела, каб вы пазнаёміліся з Каралем.

– Як гэта пазнаёміліся? – здзівіўся Гансяроўскі. – З гэтай брыдотай пасля ўсяго зробленага?

– Так, – жорстка адказала Марыя, – з Каралем. Ён баязлівец, і знаёмства з Вамі – мая гарантыя спакою на пэўны час. А потым, пан Януш, Вы паставіце мне кампрэс. Я буду вас чакаць.

Збянтэжаны, здзіўлены і амаль закаханы, генерал пакорліва выйшаў у калідор.

Калі Гансяроўскі з Маўроцкім увайшлі ў купэ, там ужо радком сядзелі Караль і Марыя Дэмбоўскія, на стале стаялі шампанскае і ваза з садавінай. Караль тут жа ўскочыў і, смешна кланяючыся, замітусіўся вакол гасцей.

– Прашу, паноў, сесці. Гэта вялікі гонар бачыць вас тут. Даруйце, панове, нам тую сцэну, што адбылася ў рэстаране. Усё мой раўнівы характар. Я так кахаю маю Марылю. Давайце вып'ем за прымірэнне і за знаёмства.

Ён павярнуўся да стала і пачаў адкаркоўваць бутэльку, а Дэмбоўская ў гэты час дастала з палічкі нейкі фотаздымак і працягнула афіцэрам.

– Ці не падкажуць паны, гэта ваенная форма якой краіны. Мой стрыечны брат так любіць загадваць мне розныя загадкі.

Мужчыны нахіліся на здымкам, уважліва разглядаючы.

– Я ўпэўнены, – загаварыў капітан, – што гэта форма японскіх лётчыкаў. Але як Ваш брат туды трапіў? Ён самурай?

– Не, – засмяялася Марыя, – ён акцёр, і любіць фатаграфавацца ў нечаканых уборах.

У гэты час да іх павярнуўся Караль і перадаў бакал з віном жонцы, затым генералу і яго ад'ютанту. Сам узяў апошні і вымавіў:

– За знаёмства!

Усе выпілі і паставілі бакалы на столік.

– Караль, – загаварыла Марыя, – ці маглі б вы з панам Юзэфам на пару хвілін адысці ў генеральскае купэ. А пан Януш (я казала табе, што ён доктар) паставіць мне кампрэс. Мы паклічам вас.

– Добра, каханая, як скажаш, – тут жа пагадзіўся муж і, падхапіўшы пад руку Маўроцкага, пакінуў купэ.

– Што ж, генерал, а зараз зоймемся кампрэсам, – шматзначна прамовіла Марыя і пачала паволі расшпільваць сукенку.

Генерал адкінуўся на спінку канапы і шчасліва ўсміхнуўся. Але праз імгненне вочы яго заплюшчыліся, і ён захроп. Дэмбоўская падышла да Гансяроўскага, расшпіліла каўнер кіцеля і асцярожна зняла з шыі генерала маленькі ключык на ланцужку. Затым выйшла з купэ і накіравалася да генеральскага. Там была такая ж карціна: Маўроцкі моцна спаў, а каля яго сядзеў Караль.

– Усё добра, Сямён?– запыталася Марыя.

– Так, усё па плане. Ключ ёсць?

Вішнявецкая моўчкі працягнула яго Сямёну. Той адчыніў партфель, выцягнуў дакументы і пачаў іх фатаграфаваць. Пасля чаго паклаў на месца і зачыніў партфель. Затым яны абчысцілі кішэні капітана і вярнуліся ў купэ Вішнявецкай. Там уладкавалі на свае месца ключык і выцерабілі кішэні генерала. А на бліжэйшым прыпынку пара спакойна пакінула цягнік.

* * *

*Марыя Іванаўна Вішнявецкая скарыстала падрыхтаваны для яе калідор на мяжы і даставіла ў Маскву фотаздымкі сакрэтных планаў. А праз два месяцы была арыштавана супрацоўнікамі НКУС за сувязь з польскай дыфензівай і па рашэнні судовай тройкі расстраляна.*

*Сямён Сямёнавіч Грышын вярнуўся ў Гародню і пэўны час працягваў сваю дзейнасць у вобразе Баляслава Картыньскага. Аднак ужо праз паўгода ён раптоўна знік, і ніякай інфармацыі аб яго далейшым лёсе не захавалася.*

*У 1939 годзе Савецкая ўлада нацыяналізавала "Тусарскі дом", размясціўшы у былых нумарах новых дзяржаўных служачых.*

*10 сакавіка 2012 года "Тусарскі дом", яскравы прыклад гарадзенскай драўлянай архітэктуры міжваеннага перыяду, быў знесены бульдозерамі.*

Кацярына Сянкевіч



...у рэшце рэшт
кожны
з нас
пуп свету...

# Бачу цябе

* * *

сяджу ў кухні і перамешваю нажом
думкі пра смерць
з думкамі пра цябе

залаты сум брыдоты пакуты
з касмічнай эсенцыяй
несмяротнасці
укідаю ў суп
змяняю смак шчопцем
імбіру з лімонам
ды не дасалоджваю
мёдам кахання

дбаю пра здароўе
думкі пра смерць з’яўляюцца
папрокам тугі
стомленай, цярплівай

* * *

я здрадзіла табе
са святаяннікам
таму што ты не
ўзяў тэлефон
блытаю дэпрэсію
з недахопам гармонаў

* * *

без цябе мае думкі
– кіслая рака крыві
з табою маё сэрца
наперад гоніць
салодкія рэкі

* * *

бачу цябе тым больш выразна
вачыма сэрца
чым даўжэй цябе не кранаю
вачыма цела
мае вушы засланяюць вочы
калі чую твой голас
за мяжой твайго горла
я па-за мяжой тваіх рук
па-за мяжой краіны
ў рамках твайго сэрца
кропка пасля кропкі
дыхаю цяжкасцю
і салодкасцю

* * *

калі ў мяне няма палатна
і фарбаў

пішу вершы

адзіныя словы, якімі
ўслых маўчу

іншыя становяцца
невыноснай цішынёй

некалькіх прымачоў
настроеных на розныя
радыёстанцыі

з якіх ніводная не
з’яўляецца маёй

у рэшце рэшт
кожны
з нас
пуп свету

для кагосьці

або для сябе самога

хіба што забівае свае
думкі цішынёй

* * *

пчала і ружа сястры

два целы

той жа душы

прыгажэйшая з іх
прычыняе боль шыпам
кахання

якога атрымлівае больш
чым можа

аддаць

што становіцца
прадметам яе пакуты

працагалічка прычыняе боль
джалам зацятасці

робіць усё для іншых

прычыняе боль абранай
душы праўдай

каб абараніць яе

і памерці

* * *

відаць
у левым вуху
дэманы спяць
калі я сплю
баліць мне




# Творы пераможцаў конкурсу «Экслібрыс» да 100-годдзя БНР

*У журы штогадовага літаратурнага конкурсу “Экслібрыс”, які ладзіцца ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”, сёлета ўвайшлі* ***Уладзімір Арлоў, Ірына Багдановіч, Валер Герасімаў, Вольга Іпатава*** *і* ***Анатоль Сідарэвіч****.*

*Гэтым разам конкурс быў прысвечаны знакавай падзеі – 100-годдзю абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Удзел у конкурсе ўзялі аўтары ва ўзросце да 35 гадоў, якія пішуць творы на гістарычную тэматыку ў паэзіі, прозе, эсэістыцы, драматургіі.*

*Вось імёны пераможцаў: дыпломам I ступені быў уганараваны* ***Зміцер Астроўскі****, дыпломам II ступені —* ***Андрэй Кулеш****, дыпломам III ступені —* ***Яўген Аснарэўскі****,* апавяданні якіх прапануем увазе чытачоў “Дзеяслова”.

*Заахвочвальныя дыпломы журы прызначыла* ***Марыі Шэбанец*** *і* ***Паўлу Бракаву****.*

*Шчыра віншуем лаўрэатаў!*

## Яўген АСНАРЭЎСКІ

# МАКСІМКА

Добры дзень, дарагія мае! Кланяюся ўсім тым, хто чытае гэты сшытак. Завуць мяне Максімка Багушэвіч. Ад нараджэння мне адзінаццаць гадкоў, а нарадзіўся я ў 1907 годзе, каля Гродна. Тата кажа, што я цямлівы не па гадах і што мне трэба шмат чытаць і вучыцца прыгожа пісаць. Часам ён жартуе, што я, можа быць, стану пісьменнікам. Мне насамрэч вельмі падабаецца пісаць, і таму я вырашыў весці дзённік. Для гэтай справы тата даў мне свой сшытак. Ён вельмі добры і вялікі. Я мяркую, калі-небудзь сшытак гэты хто-небудзь прачытае, і таму напісаў, што кланяюся таму, хто яго чытае.

*13 снежня, год 1918*

Мой тата ўжо месяц як прапаў. Пайшоў у лес па дровы і не вярнуўся дадому. Іншых родных у мяне няма, таму і адправілі мяне ў прытулак. Прытулак гэты займае манастыр святых Барыса і Глеба. Стаіць ён на гары над самым Нёманам, які я вельмі люблю. Раней мы лавілі ў Нёмане рыбу з маім старэйшым братам Лёвушкам. Лёвушка казаў, што Нёман – наш бацька, а потым смешна махаў рукамі і паўтараў вельмі грозным голасам: «Бацька!» Рыбы, бывала, выцягвалі шмат. Аднойчы злавілі нават велізарнага шчупака. Казаў Лёвушка, што гэты шчупак паўпуда вагой. Я дык брацьяго баяўся. Вельмі ўжо ў яго была страшная пашча. А Лёвушка смяяўся з мяне. Лёвушка мой загінуў на вайне з немцамі. Цяпер у мяне толькі тата.

*20 снежня, год 1918*

У прытулку ўбачыў я сцяг. Белы, а пасярэдзіне чырвоная паласа. Вісіць ён на самай браме. Ніколі такога не бачыў, але мне ён чымсьці спадабаўся. У нас ёсць школа, а ў ёй выкладае вельмі добрая настаўніца, якую я клічу цёткай. Цётка Тэкля Станішэўская, якая вучыць нас у школе, кажа, што гэта сцяг нашага народа. Я вельмі люблю цётку Тэклю і баюся яе. Адзін хлопчык сказаў мне, што яна першая настаўніца, якая вучыць на нашай простай мове. Не ведаю, адкуль ён гэта ўзяў. Можа быць, хто-небудзь са старэйшых распавёў яму гэта. Мой тата казаў, што я павінен вучыцца на нашай мове. А мне вось вельмі падабаецца руская мова, але я згодны з татам, што нашая мова нам родная да самых касцей, таму што яна ад нашай зямлі і продкаў.

*27 снежня, год 1918*

Цётка Тэкля казала сёння ў школе, што ў горад прыехаў важны чалавек, і ён будзе цяпер галоўным у краіне, у якой мы самі будзем свабодным народам і гаспадарамі на землях сваіх. Яго прозвішча Луцкевіч. Я хачу запомніць гэтае прозвішча. Цётка кажа, што ён наш вызваліцель і прарок. Я не вельмі разумею, што такое прарок. Цікава, што сказаў бы тата.

*29 снежня, год 1918*

Мы хадзілі ў горад з нашым выхавальнікам дзядзькам Пашам. Нейкі немец спыніў нас і смяяўся з нас. Ён казаў, што мы маленькі народзец і мы павінны падпарадкоўвацца немцам, а з-за таго, што немцы прайгралі

вайну, нас цяпер будуць рабіць палякамі. Немец толькі трохі ведаў рускую мову, і ў яго атрымліваліся вельмі смешныя словы. Ды, акрамя таго, ён яшчэ і не вымаўляе р. Дзядзька Паша сказаў нам, што мы не палякі і што ён бы палякаў вешаў, а немцаў усіх да аднаго расстраляў бы. Ён вельмі раззлаваўся, але хутка супакоіўся. У яго ёсць маленькая фляжка, з якой ён п'е самагонку, і пасля таго, як вып'е, – адразу супакойваецца. Мне здаецца, палякі нядрэнныя людзі, толькі вельмі ганарлівыя. Так казаў тата.

*1 студзеня, год 1919*

Спраўлялі ў прытулку Новы год. Я ўспомніў, як мы святкавалі з татам і Лёвушкам. Тады тата сам прыгатаваў нам вялікі пірог і наліў самаробнага віна. Я вельмі сумую па тату.

*2 студзеня, год 1919*

У нас ёсць у прытулку хлопчык, якога завуць Адамас. Прозвішча яго Казлаўскас. Ён кажа, што хутка Гродна будзе часткай Літвы і ўсе мы станем літоўцамі. Мне ён сказаў, што ў яго сапраўднае літоўскае прозвішча, і што маё прозвішча таксама стане літоўскім, і я буду звацца Багушавічус. Дзядзька Паша чуў нашую размову і адказаў, што гэта ў мяне сапраўднае літоўскае прозвішча, і што гэта Адамас павінен быць Казловічам, а не я Багушавічусам. Я б не хацеў, каб мяне клікалі Максімкас. А мы самі дражнім гэтага Казлаўскаса мянушкай Мадамас.

*15 студзеня, год 1919*

Мы гулялі з дзядзькам Пашам па набярэжнай ля Старога замка. Там сустрэўся нам нейкі паляк. Яны з дзядзькам Пашам разгаварыліся. Паляк гэты стаў даказваць, што Гродна заўсёды было польскім і хутка зямля гэтая зноў адыдзе да Польшчы, якая ўжо збіраецца з сіламі, каб зямлю гэтую канчаткова забраць сабе. Дзядзька Паша слухаў яго і толькі грозна вырушыў брывамі, а паляк усё казаў нешта. Потым ён стаў размахваць рукамі і нават крычаць, што і Брэст – іх горад, і што Менск – польскі, і далёкі Віцебск павінен належаць Польшчы, а не маскалям. А наш дзядзька Паша толькі моўчкі высмаркаўся. Тады паляк стаў казаць, што ніякіх беларусаў няма і што хутка кожны жыхар Гродна павінен будзе прызнаць сябе палякам, а калі хто не захоча добраахвотна, таго прымусяць. Вось пасля гэтых слоў дзядзька Паша размахнуўся і ўдарыў паляка ў сківіцу, ад чаго той адразу ўпаў і доўга ляжаў без прытомнасці. Мы прынеслі з Нёмана вады і вылілі яму на твар. Хутка пасля гэтага ён ачомаўся. Дзядзька Паша падняў яго пад пахі, даў яму сербануць сваёй самагонкі, сербануў сам і злёгку штурхнуў паляка ў спіну, а той пайшоў па набярэжнай: злёгку хістаўся і казаў сабе пад нос: «Курва». Пакуль мы ішлі назад у прытулак, дзядзька Паша крычаў, што вельмі не любіць палякаў, і тады я спытаўся ў яго: да якога народу ён сам сябе залічвае? Дзядзька Паша не адказаў. Тады я спытаў: ці не лічыць ён сябе беларусам ці тутэйшым? Тады дзядзька Паша сказаў, што ён паляк. Я падумаў: як дзіўна, што дзядзька Паша б'е палякаў і не любіць палякаў, але сам паляк, а ён, як быццам прачытаўшы мае думкі, дадаў, што ён тутэйшы паляк, а гэта нешта зусім іншае і вельмі адрознае ад паляка.

*7 лютага, год 1919*

Мы хадзілі з дзядзькам Пашам на Сянны рынак. Там рабіў выступ нейкі

габрэй у фуражцы з чырвонай зоркай. Ён казаў, што месца беларусаў у адзінай сям'і народаў Расійскай Імперыі, і што цяпер, калі гэтая імперыя развалілася, сапраўдную ўладу атрымаў просты рабочы народ. Ён махаў рукамі і крычаў: «Мы славяне! Нас не знішчыць клас рабаўнікоў-паноў!» Людзей было шмат, але яны ўсе адыходзілі ад габрэя далей і рабілі выгляд, што яго не заўважаюць.

*19 лютага, год 1919*

Сёння самы шчаслівы дзень майго жыцця! Вярнуўся мой тата! Аказваецца, калі ён быў у лесе, на яго напалі немцы марадзёры і сталі патрабаваць грошай, а калі ён сказаў, што ў яго нічога няма, яны яго збілі, парэзалі нажом і знялі з яго ўсю вопратку і абутак. Тата думаў, што памрэ і ўжо не ўбачыць мяне, але яго падабралі нейкія людзі з вёскі, якая была побач з лесам. Тата доўга хварэў, а яны яго выходжвалі, і цяпер ён нават не ведае, як ім аддзячыць. Цяпер я ўжо не ў прытулку. Тата забраў мяне ў маленькую кватэру, якую зняў на тыя грошы, што зарабіў да вайны. Аказваецца, закапаў ён іх у нейкім лесе.

*1 траўня, год 1919*

Мы з татам жывем цяжка, але з ім мне значна лепш, чым у прытулку. Я б хацеў трапіць на магілу Лёвушкі, але не ведаю, дзе яна. Цяпер у горадзе кіруюць палякі, а наша радзіма цяпер Польшча.

*25 траўня, год 1919*

Я бачыў незвычайны сон. Як быццам на месцы манастыра, у якім быў наш прытулак, пабудавалі дзіўны дом, з крывымі сценамі і статуяй каня над уваходам. Я быў унутры і бачыў, што гэта падобна на вельмі вялікі тэатр. Я адзін раз быў з татам у тэатры, і мне спадабалася. Дык вось, у гэтым тэатры выступаў нейкі чалавек, а на сцэне вісеў вянок з чырвонай зоркай. Чалавек казаў, што галоўнае гэта братэрскі саюз... і тут я прачнуўся...

*2 чэрвеня, год 1919*

Тата паклікаў мяне і сказаў, што раз цяпер мы жывем у Польшчы, то павінны стаць палякамі. Ён быў вельмі маркотны, мне нават здалося, што ён можа заплакаць. Але ён не заплакаў, а стаў гаварыць са мной пра польскую школу. Я не хачу ў польскую школу, але раз тата кажа, што мне трэба ў яе ісці, значыць – я так і зраблю!

*7 траўня, год 1926*

Я знайшоў гэты свой стары дзённік. Шмат гадоў прайшло з таго часу, як я пісалэм до него. Тэраз я амаль увесь час гавару на польскай мове. Цо ешчэ я мог бы додаць сюды. Старая настаўніца мая – Станішэўская – даўно памерла. Я пасля польскай школы хачу паступіць да польскага ўніверсітэта. Хачу вучыцца ў Варшаве. Жывём мы з татам нядрэнна. Польшча паволі ўпрыгожвае, на кшталт Еўропы, наш крэсовы гарадок. Я хачу пакласці гэты сшытак у бутэльку і выкінуць у Нёман. Можа хто-небудзь калі-небудзь знойдзе гэтыя запісы. Якімі б ні былі тады людзі, і ў якой краіне б ні жылі яны, я мам надзею, што яны будуць любіць свае родныя мясціны.

## Зміцер АСТРОЎСКІ

# АНДРЭЙ ВІЛЕНСКІ

Увечары, летам 1812 года, пасля спякотнага дня ў карчме сабралася спадарства. Шляхта сядзела за груваткімі сталамі. Як звычайна ў такіх месцах, тут было шумна. Грукалі чаркі з рознымі напоямі. Там-сям чулася лаянка і быццам у адказ на яе раз за разам уся зала залівалася смехам. Сама па сабе карчма была маленькай ды і знаходзілася яна не на самай людной дарозе, але гэта не замінала ёй быць перапоўненай ледзь не кожны вечар. У карчмара рук не хапала, каб усім напаўняць чаркі. А вось моцы голасу і сілы хапала, каб уціхамірыць буянаў. У асноўным тут збіраліся хоць і збяднелыя, аднак не пазбаўленыя ганарлівасці паны, якія былі не супраць лішні раз прадэманстраваць сваю прыналежнасць да шляхецкага роду ды развязаць бойку. З'язджаліся яны сюды з ваколіц. Большасць з іх – даўнія таварышы, якім было што ўспомніць за чаркай. Абмеркаваўшы дзённыя справы па гаспадарцы, яны пераключаліся на чуткі ды байкі. Пабываўшы ў карчме некалькі вечароў, можна было нават прадказаць, хто і пра што будзе гаварыць у наступны момант.

Але гэты вечар выдаўся незвычайным. Пакуль усе пілі і весяліліся, у карчму ўваліўся яшчэ адзін шляхцюк. Было відаць, што ён спяшаўся. Але яго заўважылі не адразу. Толькі калі стомлены пан цяжкім крокам прайшоўся праз залу да карчмара, на яго звярнулі ўвагу. Карчма адразу ж прыціхла. Мясцовы люд назіраў за прагнымі глыткамі госця. Усе ведалі прыезджага. Яго тут не вельмі любілі, але ведалі, што ён заўсёды прывозіць навіны, якія выклікаюць бурныя абмеркаванні. Таму ўсе заціхлі і чакалі, што скажа гэтым разам.

Госць нарэшце вымавіў:

– Паны-браты! З Вільні ехаў не спыняючыся. Такія навіны прывёз!

Ён так заўсёды пачынаў расказваць навіны. Але тут цішыня зацягнулася. Нехта з залы падагнаў расказчыка. Ізноў усе напружана чакалі.

– Напалеон Банапарт перайшоў праз Нёман! Карсіканец з вялікім войскам рухаецца на Вільню і ў бліжэйшы час павінен увайсці ў горад. А расейскі цар тым часам збіраецца бегчы, калі ўжо не збег у свой Пецярбург!

Зала запоўнілася гоманам. Не было ніводнага стала, за якім бы не абмяркоўвалі гэтую навіну. З розных кутоў пачалі гучаць тосты. Чаркі падымаліся ледзь не да столі. Нейкі шляхцюк выцягнуў шаблю з похвы і, падняўшы яе над галавой, прамовіў:

– Паны-браты, пры вас абяцаю... Клянуся! Што гэтая шаблюка верна будзе служыць вызваленцу Напалеону і нашай дзяржаве. Верыце ці не?! Дык вось, сёння ж выеду ў Вільню, каб сустрэць французскага імператара. Першым уступлю ў войска!

На гарачыя словы не менш гарачай галавы карчма адказала станоўча. Ізноў падняліся чаркі. Яшчэ шмат хто зрабіў падобныя заявы. Толькі адзін спадар, што сядзеў паблізу ад карчмара, на кожную заяву скептычна зморшчваў твар. Ён таксама быў з мясцовых паноў. Не багаты і не бедны Андрэй Віленскі бываў тут нячаста. Але рэгулярна – кожную другую суботу месяца. Шляхцюк быў ужо немалады. Паспеў пабачыць усе тры падзелы Рэчы Паспалітай. А потым узяць удзел у паўстанні на чале з Касцюшкам, і не толькі. Пасля паразы паўстання ўвесь ягоны баявы настрой выйшаў.

Пан Андрэй ператварыўся ў пацыфіста. Апошні раз давялося пазмагацца яму, калі прыйшлося пацвярджаць шляхетнасць і цягацца па судах некалькі гадоў. Сваё адстаяў, захаваў невялікую гаспадарку і жыў ціха, разам з жонкай выхоўваючы сына. Але сёння яму было што сказаць. Ён адарваў вочы ад чаркі і, гледзячы з-пад ілба, басам вымавіў:

– А што ж гэта вы радуецеся, паны-браты? Няўжо не бачыце, хто такі гэты ваш Напалеон?

Зала прыціхла, бо пан Віленскі карыстаўся павагай у мясцовых людзей і асабліва шляхты. Ён быў вядомым ваякам сярод тутэйшай шляхты. Панства прыціхла, быццам не разумеючы пытання.

– Дык гэта... Вызваленец ён, – нясмела выказаўся нехта.

– Вызваленец, кажаце. Ну-ну. А каго ж ён вызваліў?

Людзі пачалі перашэптвацца, ківаючы на Віленскага. Гоман павялічваўся. Але даволі хутка нехта даў адказ пану Андрэю:

– Палякаў. Польшчу вызваліў ад прусакоў! – зала зноў загаманіла. – Чаму ж Напалеон і Літву не вызваліць?!

– А з якой ласкі нейкі там французскі імператар будзе займацца невядомай яму Літвой? – рэзка выказаўся Віленскі, – ён што, вінен нам нешта?

– А з той ласкі, што мы дапаможам яму ў вайне з Расіяй! – не суцішаліся паны з натоўпу, – калі яму патрэбны хаўруснікі, ён верне нам Літву.

– Дарма думаць, што нехта прыйдзе з-за мяжы і верне нам нашую краіну! Не вам дыктаваць умовы іншаземцу з магутнай арміяй, спадары. Далёка не вам. Банапарт захопнік. Колькі палякаў паклала галовы ў Іспаніі?! Гэтак жа жадаеце? Шаноўны пан Касцюшка не проста так адмовіўся ўдзельнічаць у паходзе на Расію! Убачыў, кім Банапарт з'яўляецца насамрэч! І вы яшчэ ўбачыце!

– Дык што, нам сядзець насы павесіўшы?

– Толькі баязлівец не падымецца за Радзіму!

– Згодны! Віленскі – баязлівец!

Шляхта разышлася не на жарт. З усіх кутоў карчмы ляцелі лаянка і абразы ў бок пана Андрэя. Ён сядзеў нерухома. Лавіў кожны непрыемны выпад, але маўчаў і толькі абураўся сам сабе слепаце сваіх таварышаў і знаёмых. Дапіўшы піва, Віленскі ўстаў. Ён заўсёды быў стрыманы. Аднак сёння быў настрой выказацца.

– Баязліўцам назваць мяне можа кожны. Але ці кожнаму хопіць смеласці адказаць за свае словы? А? – Карчма сціхла. – Я патрыёт не менш за кожнага з вас! Але мне шкада, што вакол мяне сабраліся сляпыя шчанюкі.

Спадарства ў зале некалькі хвіляў стаяла знерухомеўшы. Апамятаўшыся, некаторыя схапіліся за шаблі. Зноў паляцелі абразы на адрас Віленскага. Але той ужо не звяртаў на іх ўвагі, выйшаў з карчмы.

Раніцай наступнага дня ў двор Віленскага на кані ўляцеў сын Жыгімонт. Пан Андрэй у гэты момант аглядаў гаспадарку. Сын саскочыў з каня і падышоў да бацькі.

– Што было ўчора ў карчме? Скажыце, тое, што я пачуў – паклёп! – хвалюючыся, пачаў Жыгімонт.

– А што ўчора было?

– Як?! Кажуць, быццам вы выступілі супраць Напалеона...

Бацька завагаўся з адказам. Але сын апярэдзіў яго:

– Я збіраюся ехаць у Вільню! Сёння. Мае сябры таксама едуць.

– Навошта? Што вы там забыліся? – тут захваляваўся і сам пан. Па твары Жыгімонта было відаць, што ён усё зразумеў. Тое, што казалі пра бацьку, было праўдай.

– У адрозненне ад некаторых, едзем вяртаць тое, што ў нас аднялі. Мы сядзець не збіраемся, – з'едліва адказаў сын.

– І ты ў той жа лес! На халеру табе гэта?

– Не хачу быць такім жа, як мой бацька! Не магу паверыць, што, прайшоўшы праз паўстанні і войны, зараз вы адступаецеся.

– Так. Адступаюся. Бо мне ёсць што губляць!

– У кожнага ёсць што губляць. Як мінімум жыццё...

– Банапарт згуляе сваю партыю вашымі рукамі. Не варта верыць яму. Падумай сын, ды застанься. Калі не дзеля мяне, то хоць бы маці пашкадуй.

Але Жыгімонт ужо не слухаў. Развярнуўся і, расчараваны, пакрочыў у дом. Маці намер сына не спадабаўся. Яна была супраць. Але прамаўчала, бо ведала, што сына ўжо не спыніць. Маці са слязьмі на вачах развіталася, хоць з болем і хваляваннем у сэрцы, ды ўсё ж адпусціла Жыгімонта ў дарогу. З бацькам хлопец не хацеў развітвацца, аднак падышоў. Яны абняліся. Пан Андрэй паспеў шэптам вымавіць: “Застанься”. Сын адступіў, скочыў на каня і ўжо ў сядле апошні раз агледзеў родны дом, глянуў на бацькоў і рушыў у дарогу.

Ад Жыгімонта прыйшло некалькі лістоў. Усе яны былі прысвечаныя таму, як сустракала Вільня французаў. У асноўным хлопец пісаў так, быццам звяртаецца толькі да маці. І гэта псавала настрой пану Андрэю. Успамінаючы сябе ў маладосці, Віленскі разумеў сына, але ў той жа самы час не хацеў разумець яго ўчынкаў. Абураўся ў думках на хлопца ды злаваўся з-за яго непаслухмянасці.

Аднойчы зноў прыйшоў ліст. Шмат узвышаных фраз ды патрыятычных слоў было ў ім. Усё гэта не дадавала настрою пану. Пануры, ён выйшаў вечарам з маёнтка. Вырашыў пайсці пешкам у карчму. Нейкая незразумелая надзея рухала Віленскім. Хацелася пабачыць таварышаў, пасядзець па-сяброўску ды пазбыцца цяжкіх думак.

Карчма аказалася не так ужо і блізка, калі ісці пешкі. Зайшоўшы, пан Андрэй яшчэ больш расчараваўся. Надзеі, і без таго прывідныя, абрынуліся. Зала была амаль пустая.

– О, якія людзі! Нешта вы зачасцілі, пан Андрэй! – бадзёра сустрэў карчмар нечаканага госця. – Вам як заўсёды? Ці мо што мацнейшае?

– Не, дзякую. Як заўсёды. – Віленскі падышоў да лаўкі. – Мае хлопцы не заязджалі?

– Ды не. Усе ж параз'язджаліся хто куды. Хто ў Вільню, а хто і з рускай арміяй адышоў, – карчмар зрабіў акцэнт на апошніх словах, але шляхцюк не звярнуў на тое ўвагі. Пан Андрэй узяў свой куфаль піва і сеў за адзін са сталоў, што месціўся ў куце побач з камінам.

Рэдка па карчме сядзелі незнаёмыя падарожнікі. У цэлым было ціха. Нават неяк тужліва. З-за такой атмасферы на пана найшла яшчэ большая туга.

“Эх.... Шмат давялося мне прайсці, – падумаў пра сам сабе Віленскі. – Яшчэ малым бачыў, як станавілася барская канфедэрацыя і як яна ўпала разам з бацькам. А ў трыццаць год і самому прыйшлося выступіць са зброяй у руках. Цяжка было. Адступалі з баямі здаючы рускім горад за горадам. І ўсё дзеля таго, каб даведацца за Бугам аб здрадзе караля. Радзіма не вытрымала. Як ні падтрымлівалі яе патрыёты... разарвалі яе. Падзялілі другі раз.

Але сапраўдныя сыны не суняліся. Не суняліся. Так. Выступіў Касцюшка са сваімі ўніверсаламі. Здолеў падняць людзей. І як было не пайсці за такім чалавекам?! І я пайшоў.... Шмат сілаў паклаў. Крыві прыйшлося праліць і чужой, і сваёй... Але ўсё дарма... Задушылі, сволачы...”

Віленскі паглядзеў на рэшткі піва. Трэба было дапіць.

“А што цяпер? Прайшоўшы столькі, сяджу адзін, абазваны баязліўцам... Усе адвярнуліся: і таварышы, і сын. А ад чаго адвярнуліся? Ад праўды ж...” – пан Андрэй рэзка ўзняў куфаль, адным глытком дапіў піва і з грукатам паставіў на стол.

У гэты момант ён заўважыў новага госця каля карчмара. Віленскі, пакуль быў у сваіх думках, не бачыў, як той зайшоў. Падарожнік выклікаў цікавасць. Пан Андрэй вырашыў прыслухацца да яго размовы з карчмаром.

– Я вам кажу! Усё так і было. Імператар гэты французскі, як яго там... Банапарт, вось, ён уласна займаўся справамі Літвы. Ну я вам кажу. Стварыў урад новы, праўда, кажуць у ім палякаў было шмат. Межы вызначыў, кажуць. Прадпісаў, каб войска літоўскае стварылі. А галоўнае, каб асобна ад палякаў. Самі сабе гаспадары. Вось так вось. І няхай хто скажа, што Напалеон гэты самы не вызваленец народаў. Во як. Так што не шкадуй, налівай хутчэй. Мне яшчэ ў Менск ехаць.

Віленскі ўзняўся з-за стала.

– Не брэшаш? – спытаў пан Андрэй. Але за скептыцызмам стаяла надзея. Шляхцюк хацеў пачуць, што ён памыляўся. Памыляўся ва ўсім. Іскра наіўнай патрыятычнасці ўспыхнула і не збіралася патухаць.

– Дык як можна, спадару? Праўду кажу. Усё сваімі вачамі бачыў. А што не бачыў, дык чуў ад надзейных людзей.

Віленскі павольна прысеў на месца.

– Во якое ліха! Няўжо я памыляўся? Яны ўсе мелі рацыю. Але ж карсіканец не проста так гэта зрабіў! Ведаю! Падкупіць вырашыў нас усіх. А што калі не? Я не верыў, што Літву вернуць. Аднак во як выйшла... Вярнулі. Во як выйшла. І так дрэнна, і так – не лепш. І каму верыць? Толькі сабе!

Пан Андрэй выйшаў з карчмы. Галава бурліла думкамі. Недавер змагаўся з абуджанай надзеяй. Сілы былі роўныя. Пераможцы не было відаць да самага маёнтка. Пакуль ён не зайшоў кабінет. Віленскі стаў перад сцяной, упрыгожанай дыванам. На ім вісела старая шабля. Шмат яна пабачыла разам са сваім гаспадаром. Доўга глядзеў на клінок. Перад вачыма праходзілі падзеі далёкіх гадоў. Шыхты жаўнераў, стрэлы гармат... Але хутка ўспаміны сышлі. Рукі пана Андрэя пацягнуліся да зброі. Першы раз за доўгі час шабля пакінула сваё месца. Сэрца гаспадара білася ў хвалюючай настальгіі. Віленскі агаліў частку клінка з надпісам: “Без патрэбы не даставай, без славы не ўстаўляй”. Рэзкі ўпэўненны рух – і лязо шаблі паказалася з похвы ва ўсёй прыгажосці...

**Андрэй КУЛЕШ**

## ПАЛЯВАННЕ НА СОКАЛА

### I

Святая Прачыста – у полі ўрачыста, але ж не, не ўрачыста – толькі чыста, ад агню чыста. Цяжка дыхаць, уявіць немагчыма. Хмары, што дзень і ноч цяжка плылі над кволымі баркамі ды скалечанымі лапікамі зямлі, здавалася, прапахлі смуродным дымам. Можа, яны спрабуюць забраць гэты боль? – шмат яго тут...

Полацак – чысты, але брудны ды спустошаны... Ён не такое бачыў – адродзіцца наш дуб-волат. Нібы моўчкі крычаў ён: “Жыцця, жыць... жыць!” Божухна, як не надакучыць ім – прышлым – усё адна і тая ж да дурноты крыважэрнасць дзікунская. Усё адно і тое ж які ўжо год – смерць ды галеча касматым ды жудасным Цэрберам ідзе па пятах... Паветра! Вясны, ратуйце! Няма пакуль ні вясны, ды сонца не бачна, але жывы – палёгка. Здаецца, уратаваліся...

Нічога. Узбуйніцца дзядзінец, адрастуць-адбудуюцца пасады ды ваколіцы, загояцца балючыя раны на ўсе сотні тысяч крокаў уздоўж ды шыр. Але пакуль тут – целы ды косці, голад ды мор – жудасная паўсядзённасць. Найміты глядзяць на гэта па-філасофску – проста і глыбока адначасна:

Жыццё – гэта ў косці гульня.
Каму як пашанцуе.
Адным лёс досыць шчодры,
Іншым – наадварот.

Гракі – чорныя, вугальныя, крычаць-крычаць: “Так, слушна-слушна, а мы далей!” Ляцяць не прыпыняючыся. Зніклі. Нават ім тут няма чаго шукаць, апроч забітых. Цікава: ахвяры ды забойцы для іх аднолькавая плоць?

Над Бастыянам не было нічога, як і навокал, апроч нябёсаў – высачэзных, пакрыўджаных, але ўсё ж невымерных у сваёй літасці да грэшных сыноў ды дачок. Памаліўшыся хутка і з жарсцю, занатоўваў сабе ў думках:

– Як жа ціха. Сапраўды. Гэта зусім не тое, як калі мы забягалі ўсёй бандай[1] – вось сапраўдная калатнеча атрымалася!, – разважаў ён крыху фанабэрліва, кідаючы між іншым калі-некалі позіркі на “кошкадзёрку”. Вядома ж. Колькі ўжо ратавала ў сутычках са стральцамі. Вір боек яму зразумелы – лютасць ды невядомасць, а ці вернешся? Няма часу зважаць на неба, асабліва, калі ворагу зусім не даспадобы і не прымальныя якіясьці там “кодэксы” ды “прынцыпы”. У дзікуноў, наводараных цыбуляй, была свая штука – боязь, боязь перад гаспадаром “всея земель”. Карпаратыўная прыстойнасць еўрапейскай эпохі слова ў процівагу халуйшчыне, гэта тое, аб чым асабіста дбалі “рамеснікі гарачых кропак”. І ніякая Нойбургская ганьба не зруйнуе бездакорную рэпутацыю. А калі ў жарсці і зірнуў у неба, то зусім не так паўзуць аблокі – спыняюцца?

Не надта і паразважаеш, калі ў вачах пылае, а ў жываце – вятрыска гуляе. Некалі прап’еш нарабаванае маркітанткам, сам жа потым у іх набудзеш тое нарабаванае, а тут – галяк. Тыя самі ўжо ледзь рухаюцца. Што засталося? Глядзець у нябёсы ды рухацца наперад. Усё пустое, усё падманлівае, акрамя гэтых міласэрных нябёсаў. Нічога, нічога няма, акрамя іх.

– Ты мне – я табе. Як для сяброў, так і для ворага – усё досыць проста, як дараваць або пазбавіць жыцця...

Оберст гэта ўсведамляў, вядома ж, лепш за нас з вамі. Дасведчаны ваяр, з юнацтва ўдзельнічаў у вайсковых авантурах, троссся верхам на баявых конях альбо хадзіў пехатою. Шыя была ўціснута ў панцыр, а дзіды ўжо напагатове – да бою! І страшэнны холад пранізваў да касцей, і яго сябры ўсе ў сіняках ззаду і спераду, і вораг ужо блізка... Тады, вядома ж, больш за ўсё хацелася схавацца глыбока-глыбока ў скляпенне, дзе ніхто і ніколі не змог бы адшукаць ні яго, ні паплечнікаў. Сарамлівымі ды грахоўнымі здаваліся яму тыя першыя ўражанні: таму і змываў іх – шалёна, да знямогі крывавымі рукамі тое брыдкае пачуццё...

– Не баіцца вар’ят альбо нябожчык, – разважаў ён пасля мноства па-

ламаных стрэл і незлічонай колькасці сутычак з ворагамі. Ён ведаў шмат чаго і патрабаваў ад банды яшчэ болей.

Доўга ішлі яны, доўга. Зброя на сабе, надзея – толькі на сябе. Змакрэлі, хоць зусім не спякотна – неба абдзяліла ўсіх вераснёвай цеплынёй – павосеньску халодна. Усё вакол было ў цемры жудаснай ажно да дрыжыкаў. Цішыня. Дзесьці ў вышыні, пад самым дахам свету, гучаў далёкі-далёкі, моцны і манатонны гул – вечны гул. Бастыян слухаў гэта бясконцае, тужлівае гучанне, ды так, што яму зрабілася неяк не па сабе:

– Што гэта? Можа, гэта галасы блукаючых светаў, мелодыя вечнасці?

Яны даўно для сябе запрыкмецілі, што варта ім пагаладаць колькі дзён запар, калі цяжкасці з забеспячэннем харчамі, як мозг пачынае нібы выцякаць і галава пусцее. Яны гэта разумелі. Галава Бастыяна становіцца лёгкай, ён фактычна не адчувае яе. Здавалася, што калі глядзіць на каго, дык у той жа момант вочы вываляцца на зямлю. Пачуццё голаду, якое трывалі яны, нельга аднесці да нейкага пэўнага органу або часткі цела – яно агульнае.

Іншая справа, калі на гэтую спустошаную глебу ў галаве сядаюць пустазельныя думкі-роздумы. Чым больш яны думалі пра гэта, тым неспасціжнасць уяўлялася ім, што менавіта яны абраны наравістым промыслам Божым. І дзіўна, што ва ўсім вялікім свеце, з усіх сыноў і дачок, ён адшукаў менавіта іх... Навошта? Спазнаць пазбаўленне і голад? Каб памяталі смак, пах ды кошт ежы і заўсёды жылі ў страху перад Усявышнім? Па мне – элементарная фізіялогія і праблемы ў забеспячэнні, аднак такая іх псіхалогія таго часу. Што там кіруе светам, вы кажаце? Багацце? Каханне? Голад? Усё адразу, гледзячы ад абставінаў?

Прыбылі да месца верагоднай пераправы войска. Жоўтая, шумлівая ў сутоцы плынь. Пахла глыбіннай вадзяной вільгаццю, рыбай і жабамі. Плыты зрабілі досыць хутка – вызваляльны для гэтай зямлі агонь рушыў цвёрдай пехатой па вадзе – вецер хуткай свабоды лунае са штандарамі войска.

Лагер зладзілі дзе хто – складаная мясцовасць, ды і вырашыцца ўсё можа ў любы момант – вораг відавочна занепакоены. Оберст даў пад Полацакам сысці тым, хто распавядзе астатнім пра немінучы скон. Усе павінны ведаць, ведаць і дрыжаць ад вяртання Караля на гэтыя абшары.

Заззялі вогнішчы вакол фартэцыі. Неабходна было дачакацца гарматаў ды загадаў караля. Оберсту кароль быў цікавы. Зусім іншае, ніж той прыдуркаваты “кароль-жанчына” Валуа. Так, яно неяк прыйшло, яно хутка сышло, яно было... Шмат ён чуў пра Баторыя. Хаця ён ніколі не адчуваў звышпіетэта да наймальнікаў – шмат іх было, але ж ён адчуваў, што ў яго з гэтым загадкавым мадзярам шмат яднае – аднолькавая пасіянарнасць? Так ці інакш ён не хаваў сваёй цікаўнасці да новага гаспадара. Як і не цікавіла войска і вызваленных людзей яго паходжанне – свой – ліцвін па духу.

Бавілі ўсе час хто чым, але ж – галоўнае – гульня, гульня ў косці... Пакуль толькі на дошцы і на грошы.

**II**

Спёка, спёка, спёка – пячэ... Ілля-Ілля, ну нарабі ты ўжо хаця б трошачкі гнілля! Ну, хаця б пасля абеду выратавальны подых восені! Скажы каму са знаёмых, што пад Полацкам таксама няма чым дыхаць – палыпаюць вачыма ды хмыкнуць:

– Хэ, дык на поўначы халадней!

Стэрэатыпы – яны такія.

Раскоп – пясочніца для цікаўных ды апантаных. Па хрэстаматыйным выразе Арцыхоўскага: “Археалогія ёсць гісторыя, узброеная рыдлёўкай”. Ведаем, чулі – баян! Шмат хто скажа. Але гэта як пісаць тэкст пра вандроўку у цягніку і нічога не сказаць пра грукат колаў – цяжка, а, можа, і немагчыма. А калі шчыра, то ўзбраенне больш шырокае: пэндзлікі, нажы, шпатэлі, лыжкі, а галоўнае – акрыленасць рамантыкай! Але вернемся да асноўнага...

Зямля бярэ сваё – яна захоўвае шмат чаго – пандора, якую трэба рупліва перабіраць слой за слоем. Пэўна, кожны памятае са школы тое, з чаго пачыналася вывучэнне гісторыі – стужка часу. Знізу ўверх праз часы і эпохі, здавалася тады, што кіно нейкае вясёлае – дзядзькі на гравюрах у прыгожым адзенні зброяй махаюць, рамантыка, як у куртуазных раманах. Са сталеннем прыходзіла ўсведамленне, што гэта не кіно з забаўляльным сюжэтам ды нейкім мастацкім экшэнам, а драма і трагедыя. Ды і тэза пра стужку выглядае ўсё больш умоўнай. Дэмакратыі топчуць варвараў усялякіх на любы густ, тыя ў сваю чаргу душаць дэспатыі, асвечаная дэспатыя атрымлівае кулю ў патыліцу ад неасвечанай, якая ў сваю чаргу можа з цягам часу прыняць іншыя формы, нават ператварыўшыся ў лепшую з дэмакратый альбо ў аўтарытарызм, які толькі называе сябе “лепшым”. Нейкая не стужка і не пас, замкнёны ў кола, атрымліваецца, а дзіўныя зігзагі – дыфузія, трапна дадаў бы фізік. Які тут лінейны рух? Але ж неяк ужо прывыклі да стужак і лінейнасці. Галоўнае, каб не звыкнуць да “генеральной линии”, але гэта ўжо крышачку іншае. Пераступіўшы праз стужку раскопу, ты глядзіш на мінулае ў гарызантальным вымярэнні, нібы спыніў вертыкальную стужку ды ўдзельнічаеш у раскадроўцы.

– Ка-а-а-нтэксты, калі ласка захоўваем! – просіць Шэф раз-пораз, гэта больш, чым артэфакт, – гэта той дзень, тая падзея, тая аўтэнтыка – сувязь. Што ж такое знаходкі без кантэксту? Хіба толькі ў якасці цацачных бэбрыкаў павесіць на шыю, або цягаць ў скрыначцы, як дурань фанцікі. Не, не навуковы гэта падыход.

Неахайна збіўшы чарговы кантэкст, цябе нешта сям-там грызе і дакарае, і гэта ў асноўным не авадні з камарамі, а недзе там – глыбей...

Жоўценькі мацярык, счарнелы слой – подых навальнічнага ліхалецця. Цікавы і каштоўны слой. Гэта лепей, чым мярзотны культурны слой часоў развітога сацыялізму ў час ратавальных раскопак у горадзе – шкляныя “амфары” па 0,5 ды 0,75 літра, “бычкі” цыгарэтак, палімерныя пакункі ды іншае смецце, бруд. У такім выпадку выграбная яма – нешта непажаданае. Гэта яны так на цэлы слой “культурна” адпачылі. Пахаваныя “на штык” рыдлёўкі прыкметы эпохі – пахаваная натура, хоць і не надта прывабная.

Колькі тых сышоўшых натур пахавана – адна на адной – таўшчэзны стос альбомаў жыцця цывілізацыі. Рупліва перагортваюць тыя старонкі – жывыя натуры ды асобы. Здавалася б: краявід і краявід. Рабі з ім што заўгодна – “вышэйшая ступень эвалюцыі”: засадзі, забудуй – што табе? Але гэта каму як – каму што і дзе баліць і ці баліць ўвогуле.

– Перапынак! Да без пятнаццаці – схавайцеся хаця б куды! – рупліва зазначае Шэф.

– Куды там, – заклапочана са злосцю кажа Дзюб, – грызуць і грызуць – пекла без вогнішча. Дзякуй, што без алею.

Сябра яго дадае:

– А чаго ты хацеў?! У файных такіх сабе мадняцкіх шортах ды сарочцы – эталонны калгасны пост-панк. Шмат бачыў на ўласныя вочы

ды чуў пра калгасны панк – бічы маляваныя, а вось “пост”, а можа і з допісам “рэвайл”, – сёння ды зараз, хэ-хэ-хээ! – наўмысна расцягвае “э-э”, відавочна не хаваючы іроніі.

– Цыц, – цыкнуў, выпусціўшы нават залішне паветра з грудзей – хапае новы, каб адказаць, – жартаўнік-жартаўлівы – дзе можна парагатаць?

– Ну, прабач, калі пакрыўдзіў.

– Ай-й, усё норм... яшчэ крапіва тая... ну вельмі шмат. – Шып кінуў рыдлёўку за адвал, чухаючы спіну, пайшоў да процьмы крапівы – венік у лазню хоча назбіраць? І хуценька ж, адбіваючыся, вярнуўся да Дзюба: – Так, хапае. Бабка некалі яшчэ ў дзяцінстве казала, звычайна як апякала ногі, што крапіва там, дзе грэшнік загінуў...

– Хм, Ш-М-М-АТ! – расцягваючы гэтую адносную велічыню ўслых так, нібы пра сябе лічыць, каб потым выдаць лічбу. Ускочыў з месца ды давай мераць крокамі адвал – добрыя ногі, у палату мер і вагаў – тэрмінова! Хударлявыя ногі заглыбляліся ў зямлю. – Мала, халера, тым грэшнікам крыві нашай было за стагоддзі – усё не нажаруцца... Колькі яшчэ, ну?!

– Супакойся ты, – спрабуючы злавіць яго за руку і сцягнуць з узвышэння, – не ўсе ж там чэрці звар’яцелыя былі, паднявольныя з большага – загад выконвалі. Ды і азіяцкая боязь “гнева государева” сёе-тое...

– Божухна! – відавочна, ён пачынаў закіпаць на літару “О”. Зачапілі яго тыя словы, як мантра, якая надакучыла. – Слухай, ёсць такі момант: калі ты не гатовы загінуць, не ведаеш, пэўна, усе тыя пафасныя словы пра жыццё? То і не гатовы забіваць. Зразумеў, а-а-а? Шмат хто з іх застаўся тут – была шмат у каго магчымасць выратавацца, але ж не! Яны засталіся, гатовыя забіваць, і загінулі. Дарэчы: прыйшоў ты ці хто заўгодна на маю зямлю са зброяй ды нянавісцю – загінь на маёй зямлі. Вось і ўсё.

– Прынцыповы. А ты гатовы? Гатовы загінуць сам ды ворага знішчыць? Ну, там у росквіце гадоў...

– А што ты хочаш пачуць? А? Калі падлавіць хочаш мяне, то адчапіся... А калі сапраўды цікава, то мяркую, што ўсё зразумела і так... Як пагляджу, любяць у нас прыгнятальнікаў шкадаваць: – Ай-ай-ай, загад, ай-ай-ай, натуральны адбор. Цьфу!

Думаю: словы, тэзы – гэта ж як фрэзы – наробяць парэзаў. Счапіліся. А калі паразважаць, то свет у асноўным складаецца з тых, хто ў вайне ўратаваўся ад знішчэння. Ну і вядома, тых, хто знішчаў другіх і паламаў зубы на іншых. Аднак не хапала тут, каб ацалелыя варагавалі – трэба неяк згасіць або накіраваць палеміку у іншае рэчышча.

– Ну, хадзем давай, – кажу, – крыху яшчэ пакапаем – знойдзем яшчэ што цікавае!

Цяжка з імі будзе, ох... Адзін кажа: “У кожнага грахі свае”, у іншага “душа за цела не адказвае”. Шмат яны спрачаліся, здавалася, пляваццa зараз пачнуць. Сядзіш над тым вуголлем ды попелам, слухаеш, капаеш і, неяк наглытаўшыся тлення паху і чужых ценяў, разумееш: нашае жыццё – вечны нескончальны напалм. Хто цалкам згарэў – фактычна нічога ад іх не засталося, а хто адчуў на шкуры або ў рэтраспектыўным вымярэнні – метафізічнай шкуры – таму доўга, а дакладней – усё жыццё невыносна баліць... Вось і гэтым хлопцам па-свойму баліць. Спрабуеш так сабе лагічна ў ланцужок усё скласці, але ж неяк у самога закіпае і выбухае з крыўдай. За тое, што хочаш жыць годна на сваёй зямлі, а потым прыходзяць нейкія чэрці (ідэйныя ці па загадзе – не істотна) і кладуць зарана ў родную

зямлю, ссылаюць на чужыну. І тут альбо бараніць сябе і перамагчы, альбо скласці лапкі і потым ўжо акупанта бараніць.

Невялічкі раён сам па сабе – маланаселены. А колькі сведчанняў нашых пакутаў? Тут і цяпер – раскоп знішчанай 438 гадоў таму фартэцыі ворага, крыху далей – месца бойкі войскаў Напалеона і расейцаў, крыху бліжэй, па расповедах мясцовых, – збіты над партызанскай зонай самалёт, у горадзе – перасяленцы Чарнобыльскай катастрофы, і гэта не поўны спіс...

– А што тым найманцам? Прыйшоў, забіў, а потым грошы атрымаў – усё! А калі хто больш прапануе – перапаўзці туды з нарабаваным майном – вось і ўвесь вершык! Які кодэкс, якая "працоўная" этыка? Чхаць яны хацелі на ўсіх... – гутарылі больш паблажліва ніж спачатку – вочы зрэдку падымалі. А ўсё пачалося ўсяго толькі з "мадняцкіх шортаў".

– Слухай: разумею тваю крыўду і спачуванне, мне таксама гэта блізка, але і крыніцы іншы раз пачытаць варта б было! – Сапраўды карысная заўвага па крыніцах.

– Потым надыктуеш, – прымірэнча прамовіў Дзюб, – трэба штось і даведацца, а не толькі ўсляпую паўзці ад навалы да Чарнобыля, а-а-д навалы д-а-а, пфффф, не-не-не-е...

Зараз бы над ямай дадаць смутку, але, можа, і не самае для таго месца?

## III

Папялішча. Крыкі з дымам ляцяць прэч. Гарэла добра:

– Няблага, заўсёды б так смажылі! – шмат хто зазначаў з банды. Пабаявому цынічна. А коней шкада... Біліся, крычалі, біліся глуха ў сцены, біліся і згасалі. Уцякалі – пакінулі, ганебна... ганебна бягуць.

Паляцелі коні! Лятуць, рвуцца наперад, мкнуцца дагнаць.

– Хэй-хэй, зараз альбо ніколі! Зараз! – Пан Збарожскі, стросшы здранцвенне, павярнуўся да загону.

– Сябры, калі і наканавана нам цяпер і тут загінуць, ніхто не скажа пра нас анічога ганебнага. А калі пераможам з Боскай дапамогай, то ўславім сябе на ўсё нашае гаспадарства! Вышэй штандар!

З вышыні, недасяжнай пешаму, ён перасцерагальна патрос кулаком у сталёвай пальчатцы так, каб увесь шыхт бачыў гэтую моц – літасці і кары:

– Клянуся Маці Боскай, каб усе бачылі і чулі, я пракляну кожнага, хто дрогне перад тымі пацукамі!

А з боку маскалёў хвалямі дакаціўся жахлівы баявы ці то кліч, ці то наўпрост крык.

Іх ваявода кідаўся сярод шэрагаў, што развальваліся, хвастаў з пляча булавой плазам па спінах баязліўцаў.

– Стоять! Стоять, сучьи выродки!

Ён згроб у ахапак нейкага звар'яцелага ад жаху воя, страсянуў яго, бы змакрэлага пацука: – Дурак ты окаянный! Думаешь, что далеко убежишь, Морда?!

Збарожскі, седзячы ў глыбокім сядле, перахапіў зброю і, рыхтуючыся да двубою, з ляскам апусціў забрала. Звонячы кальчугай і шорамі, рушыў на грэбень узгорка. Часу на роздум ужо не заставалася.

– Наперад! – ён прыўстаў на страмёнах. – Так, калі здагонім, са сваім загонам зойдзеш у тыл, – казаў ён свайму намесніку, – калі Гасподзь не пакіне нас, ніхто адсюль на Пскоў не выйдзе. Ды і куды ім ісці пасля такога адлупу?

Ён паглядзеў на вершнікаў. Тыя кіўнулі і заспяшаліся да сваіх людзей. Пара! Вораг пайшоў у прарыў.

Рэзалі, калолі, секлі. За гвалт ды нядолю? Мэта была дакладна справядлівай, заснаванай на праве і богаспадобнай, гэта апраўдвала вялікія жорсткасці, якія ўчыняюцца ў часе пагоні – біць, прыбіць, дабіць – незайздросная доля ў паразітаў.

– Шыхтуйся! – натхнёны поспехамі Дамброўскага і Збарожскага, Оберст скамандваў бандзе на штурм. Неаднойчы ён бачыў, як тыя сыны бароняць свой край – годна, зацята – страшна было б трапіць пад тую, руку, што вымятае смецце. Рушылі. На сценах ніякага супраціву ніхто не зладзіў – паніка, гняздо разварушана. Бастыян пераскочыў праз вялікае бервяно, нават не кранууўшы яго паверхні карычневымі скуранымі чаравікамі. Краем вока ён адразу заўважыў бляск варожых бердышоў і, павярнуўшыся, убачыў велізарныя пачварна-касматыя постаці – “вожык” раскідаўся – біць. Кінуліся ў звалку – хутка, каб прадухіліць пострапы.

Допельзольднеры, тыя, што дайшлі, спраўджвалі свой падвоены заробак – цвай-цвай – лятуць галовы, падаюць целы. Цвайхандэр[2] – мяняе колер, здавалася, ён дыхае крывёй. Злосць, нянавісць, бязбожнасць і жывёльны страх панавалі ў маленькіх пад вялікімі шапкамі вачах. Што ж:

Гуляем так, што дошка трашчыць,
Такі ўжо наш звычай.
Хто прайграў, у труне ляжыць
Расклад цалкам звычайны.

Лажыліся на зямлю. Іх твары былі такія ж нежывыя, як і майно, якое так рупліва рабавалі і так лёгка страцілі, калі прыйшоў дзень адказваць. Альбо – як адпаліраваная гарда – халодная і нежывая ў сваім металічным бляску. Гэтыя смерці былі пазбаўленыя нейкай патаемнасці. Яны ўсцешвалі ваяроў, якія прагнулі помсты за загінулых сяброў, лічы, братоў. Ты мне – я табе, кроў за кроў.

Карпаратыўнасць банды для іх – гэта не пусты гук. Над пафарбаванай крывёй зямлёй трапяталі мухі. Зямля ўпітвала – яна брала сваё – усё тое высмактанае. Бастыян шмат бачыў смерцяў, колькі разоў хадзіў поруч з ёю, раз-пораз выслізгваючы з яе жорсткіх абдымкаў. Гэта быў прыроджаны найміт і патомны гулец у косці. Ён мог загінуць шмат разоў. Сёння, калі не атрымаўся пачатковы штурм праз браму. Пад Полацакам, калі страла трапіла і заблыталася ў шыкоўна-стракатым буфе. Шкада, а так файна выглядала, але ўсё роўна прыгожая вопратка – адна з нешматлікіх радасцяў, апроч пітва ды дзевак. Мог і паблізу родных мясцінаў загінуць ад швейцарскай зброі. У тузе кавярнай атрымаць келіхам у патыліцу. І нават наняцца да маскоўцаў ды згарэць ад рук суайчыннікаў. Лёс – забаўляльна пакручасты і цалкам прадказальны: куды ні выверне – усё роўна загінеш. Але хочацца, каб як мага даўжэй выкручваўся. Што Бастыян паспяхова робіць.

– Я, Бастыян, абавязаны сваім сэрцам і станам міласці Госпада нашага Стваральніка і Панны Марыі, дзякуючы якой я выратаваўся, выжыў і пазбег усялякай небяспекі, якая мяне падпільноўвала на працягу доўгага часу і да сённяшняй гадзіны, – пакрысе суцяшаючыся з кожным словам, казаў ён сабе. Проста і шчыра.

Калі прыняць, што ў гэтай д’ябальскай каруселі ёсць канец, то ўсё скон-

чылася для Сокала. Усе ваўкавата сцягваліся сюды – наверх, як раптам многія з іх, падняўшы вочы, убачылі спаленае, выпаленнае.

Лютая, зверская, упартая бойка. Калі верыць маркітанткам, то крынічка ля фартэцыі, якая працякала ў нізкіх берагах, буйна разлілася ад крыві забітых, павялічаная не ліўнямі, як звычайна.

Яму хапіла той сваёй праўды, якую ён бачыў цяпер. Праўда ў гары забітых, у якой цяжка пазнаць, дзе свае, а дзе чужыя, – а імі тут зямля ўсланая. Нічога не бачна было з гэтага пачварнага месіва. Нібы ўсё спынілася; быццам сам час з жаху прытрымаў бег сваёй калясніцы. Гэта мы так? Д'ябал пагібельны або каральная прага Бога ў нашых руках і зброі? Пустэльня і тая больш жывая. Здаецца, нідзе ў свеце няма такога бязмоўя.

Оберст сам сябе не пазнаваў. Пачуццё скаванасці ў змакрэлым целе. Доўга і цяжка выдыхнуўшы, працадзіў, гледзячы на гэта ўсё:

– Колькі бачыў, колькі сутычак было (тут яму і Гданьск і іншае прыгадалася), але каб столькі забітых у адным месцы...

Але, спахапіўшыся, звярнуўся да жывых:

– Знайдзіце нарэшце нашых палеглых ды пахавайце як след – з гонарам! Яны таго вартыя!

## IV

Напярэдадні 7 лістапада яму прыйшла паштоўка, прымеркаваная да гэтай даты. Тэкст на картцы быў на беларускай мове. Ягоная знаёмая з Кубані, убачыўшы гэта, з лёгкім здзіўленнем прамовіла:

– Я, конечно, понимаю, что “Октябрь” принёс много горя белорусам, но чтобы его так назвать – кастрычнік! – мабыць, у суразмоўніцы паўсталі асацыяцыі з ветэрынарным тэрмінам, а не з восеньскімі вогнішчамі. Хоць тыя падзеі можна звязаць і з ветэрынарным тэрмінам, і з пажарышчам рэвалюцыі... Так, і тут пажарышча – уся гісторыя з дапамогай хімічнай рэакцыі акіслення. Усё цыклічна: і агонь з мячом, і пытанні а-ля: “А что мы-то? Чего вы на нас обижаетесь?” Ой, да краявідаў – маіх, тваіх, нашых...

Галоўнае адчуванне – невычэрпнасць. Мабыць, таму, што сапраўднае – невычэрпнае, а штучнае – абмежаванае пікселямі. Карацей, трэба вандраваць часцей у такую Беларусь. Пажадана на такія вось ускрыцці, надта падобныя на паталагаанатамічныя.

Такое вось табе пытанне, дружа, знаёмы і не зусім: а ці даўно, паважаны, апошні раз ты выходзіў на паветра без слухавак ці іншай цацачкі? Так, каб не наўпрост нешта там паламалася або абарвалася, менавіта валявое рашэнне зладзіць шпацыр без усяго? Я таксама не магу адказаць на гэтае пытанне – натуральна не памятаю.

Прывыклі. Грунтоўна. Апантана. Ды і ці толькі ў музыцы справа – усяго толькі прымітыўны прыклад у агульным ланцужку. Загнаўшы сябе ў лічбавы лагер, звыклі ўвесь час спажываць забавы, кантэнт. Ты можаш падзяліцца глыбокадумным постам пра нікчэмнае грамадства спажывання, цешыцца: “Які ж я разумны, ах-ах! Не такі, як усе, вах-вах!” А праз імгненне загразнуць за праглядам шматлікіх смешных мемчыкаў, відэа, запіваючы чыпсы па акцыі колай па чырвоным кошце, душачыся пры гэтым клінічным смехам.

Іншы раз падаецца, што ў сучасным свеце зусім іншыя прынцыпы выжывання. Трэба ўмець карыстацца камputарнай тэхнікай, а не, скажам,

умець раскласці вогнішча ў сырым лесе. Ведаць, як атрымаць поспех у кар'ерных скоках з перашкодамі, замест досведу арыентавацца ў цёмным лесе. Час істотна змяніўся, і нам наіўна можа падацца, што мы цалкам абаронены скрыначкамі мудрагелістымі, электроннымі, якія выконваюць наш самы дзівацкі выбрык і любую, нават гідкую, фантазію. Ну так, ну так. Гэта ўсё табе і для цябе гаворыцца, даражэнькі ўрбаноід-беларус. Не прапаноўваю нейкі патэнтаваны рэцэпт, прыемная такая шокатэрапія – заплечнік, намёт і... пальцам у мапу – толькі не падглядваць, а то ведаю некаторых хітруноў – тыркнуць у горад. Павер, дружа, пасля першых дзён (першыя згарэлыя ля вогнішча шнуркі "лідскачэй" і знаёмства з камарамі – чым не сістэма "ўсё ўключана"?) свет будзе здавацца іншым. А яшчэ крутая опцыя – пагутарыць і пасябраваць з жыхарамі адной вялікай хаты, а не разглядваць у чарзе крамы адзін аднаго і злавацца. Разумею, што гэта прыватны выпадак, але пацыентаў з іншымі адчуваннямі не бачыў. І ніякага рэтраградства тут няма. А то ўжо чую, маўляў: "Прапануе дровамі грэцца і морквай з лопухам лекавацца". Не, тут крыху іншае...

Дзядзька Рыгор усё сказаў даўно і досыць трапна: "Трэба дома бываць часцей, Трэба дома бываць не госцем, Каб душою не ачарсцвець, Каб не страціць святое штосьці..." – бясспрэчна. Аднак з сённяшняга дома (не, не хаты) трэба збягаць часцей. Пажадана за горад: у палі, лясы, хутары – шмат куды і ўсё з той жа мэтай: "Каб душою не ачарсцвець, І не страціць святое штосьці..."

Ідэальнае месца, каб паразумецца з сабой – сядзець ля вогнішча і падслухоўваць, як на мове між гушчароў перамаўляецца ўсё жывое беларускае. І не трэба казаць глупства, што вецер у лісці шуміць аднолькава: і ў Ардэнах, і на Урале. Не, зусім не падобна.

Усё як у песні: "Чорны хлеб і гарбата – Спадарожнікі самоты". Але няма тут калі самотнічаць – гэта выключана, цікавостак хапае. Асабліва калі Шэф узяў нівелір. Нівелір? А дванаццатай гадзіне ночы? Няўжо "мятода" нейкая цікавая?

– Куды гэта? – пытаешся з цікаўнасцю, мала што разумеючы.

– Туды, дзе сны здзяйсняюцца! Хадзем – пабачыш!

Ах, месячык-браточак разгарнуўся сёння іззяе-ззяе! Дзякуй табе – сілкаванне ў ліхтарыку цалейшае будзе.

– Ну, першы хто?! – наладзіўшы абсталяванне, запрашаў уласнік.

– Я-я-я! – хуценька і лёгка скокнула яна да партатыўнай абсерваторыі. Каго ці што яна там доўга назірала. Назад да зор хоча?!

– Ну, цяпер ты! Табе, як заўважыў, было болей за ўсіх незразумела!

– Іду.

Кусаю вокам гумовую астылую кружэлку. Шукаю-шукаю, выцэльваю: "Які ж ты здаравенны! – думаю. – Ну, сапраўды, як блінец на Масленку – не манілі продкі, значыць".

Цікава-цікава, але і астатнім трэба. Ідзеш за лагер, прыемна так травічка б'е па нагах, дзе нагавіцы падкасаныя. Бухаешся ў зялёную, зразаючы ўсё мокрае прэч з яе. Глядзіш у навісаючы небасхіл, лежачы ў квітнеючых травах, асэнсоўваючы межы свайго існавання:

– Нагаварыцца б з зоркамі, з гэтымі свечкамі. Пакуль не згаслі. А яшчэ надыхацца б на год наперад...



Рыгор Сітніца



...Тут не бывае даўно ці нядаўна.

Тут няма ні ўчора, ні сёння, ні заўтра...

# Фармат Вечнасці

***Драма ў дзвюх дзеях з пралогам і эпілогам***

А с о б ы :

**Святло** – *знак-сімвал найвышэйшай ісціны, сілы, чысціні, справядлівасці.*

**Душа Мікалай** – *у зямным жыцці вядомы прадстаўнік творчай інтэлігенцыі: мастак, пісьменнік, архітэктар, кампазітар...*

**Душа Андрэй** – *у зямным жыцці лепшы сябар Мікалая.*

**Душа Уладзімір** – *у зямным жыцці пісьменнік У.С. Караткевіч.*

**Душа Маці** – *у зямным жыцці маці Мікалая.*

**Душа "Куратар"** – *у зямным жыцці супрацоўнік дэпартамента дзяржаўнага парадку.*

**Цётка Марыя** – *цётка нябожчыка Мікалая.*

**Наталля Іванаўна** – *удава Мікалая.*

**Сняжана** – *дачка нябожчыка Мікалая.*

**Спадар Жывадзёрзкі** – *сябар дзяцінства нябожчыка Мікалая.*

**Васіль Шрайбовіч** – *пісьменнік, калега пісьменніка нябожчыка Мікалая.*

**Мадэст Алегрыч** – *кампазітар, калега кампазітара нябожчыка Мікалая.*

**Яўхім Пэцкальд** – *мастак, калега мастака нябожчыка Мікалая.*
**Пан Старшыня** – *старшыня таго альбо іншага творчага саюза, вядоўца памінальнай бяседы.*
**Брат Андрэя** – *сябра нябожчыка Мікалая.*
**Дыспетчар №1** – *супрацоўнік пахавальнай фірмы.*
**Дыспетчар №2** – *супрацоўнік пахавальнай фірмы.*
**Хлопчык**.
**Удзельнікі памінальнай імпрэзы**.

## УСТУП

*Зала ў прыцемках. Занавес сцэны захінуты. Гучаць рэзкія пранізлівыя гукі аўтааварыі: віскат тармазоў, грукат металу, звон пабітага шкла, сірэны аўтаінспекцыі ды хуткай дапамогі. Усё паступова сціхае, з ямы выплывае дым. Прамень святла высвечвае цэнтр аркестровай ямы. Па драбіне з ямы паволі падымаецца постаць у доўгім да пятаў белым балахоне. Постаць паўстае на авансцэне. Рухі запаволеныя, няўклюдныя. Постаць (здань) няўпэўнена, перарывіста, нібыта спатыкаючыся, чытае верш:*

І на цёмнай стаўшы мяжы,
Сам сабе адкажы:
Як ты жыў, палоннік аблуд?
Хто ты ёсць, ці ведаеш сам?
Чым мяркуеш застацца тут?
Чым апраўдвацца будзеш там?
На мяжы святла і пакут
Перагледзь свае дні, гады:
Што на памяць пакінеш тут?
Што на згадку возьмеш туды?
Перагледзь назбіраны скарб
Па капейчыне, па грашу,
Перад смутнай дарогай каб
Як да свята прыбраць душу.
Каб нязведаную далячынь
Ёй не засціў ні тлум, ні хлуд...
Каб валізы не валакчы
Па дарозе на Страшны Суд.

*Дым павялічваецца. Вельмі ціха пачынае гучаць III частка санаты №2 Шапэна b-moll. Музыка ўзмацняецца. Постаць (здань) знікае за заслонаю.*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Сцэна першая

*Два распарадчыкі пахавальнай канторы. Музыка паступова аціхае. Асвятленне прыцемненае. На тэатральнай заслоне – відэапраекцыя –партрэт нябожчыка ў жалобнай раме з чорнай стужкай. На авансцэне з'яўляюцца два распарадчыкі ў строгіх чорных гарнітурах з жалобнымі павязкамі на рукавах. Мітусліва ходзяць туды-сюды па авансцэне.*

*Дыспетчар №1.* Так, пане старшыня, вельмі сумная навіна. Так, на трасе Менск-Маладэчна, недалёка ад Заслаўя. Так, на жаль, – без варыянтаў. Канечне, пане старшыня, вельмі шкада, вельмі-і. Усяго ж пяцьдзясят шэсць гадкоў. Яшчэ б жыць і жыць... Але што тут зро-обіш...

*Дыспетчар №2.* ...Ужо зрабілі. Так точна, таварыш генерал! Ліст ужо ў мэрыі. Казалі, да вечара павінна быць прынята рашэнне. А як жа, канечне,

займаемся. Труна, катафалк, крыж, вянкі – усё ўжо аплацілі... Яшчэ не. Магіла – толькі пасля адпаведнага рашэння адказных службаў. Ну-у, канечне, спадзяемся, што на Усходніх. А як жа, такі чалавек быў, зямля яму пухам... Ёсць, таварыш генерал!

*Дыспетчар №1.* Слухаю вас. Пане міністр. Усё, што на гэты момант патрабуецца, ужо зроблена. Не, пане міністр, мы планавалі ў Кафедральным, і Уладыка не пярэчыў, але сям'я захацела, каб з ротай ганаровай варты, з дзяржаўнымі ўшанаванямі, а ў царкве так нельга. Ну, калі вы, пане міністр, пасадзейнічаеце. Так, так, пане міністр, дзякуй вам шчыры. А як жа, такі чалавек! Зала Калоннага Палаца. Было б цудоўна. Ды ён і заслужыў, якніяк. Дзякуй, пане міністр! На сувязі.

*Дыспетчар №2.* Пані Наталля, яшчэ раз мае вам спачуванні. Трымайцеся... Так, не турбуйцеся. Фірма бярэ на сябе ўсе выдаткі. Так, так. Памінальны стол? Ну, як скажаце. Чалавек на 60-70. Месца мы падшукаем. Не турбуйцеся. Гэта нашы клопаты. Трымайцеся, пані Наталля.

*Дыспетчар №1 (з вясёлым сарказмам).* Ну-у, блі-ін, нарабіў шухеру-у – усіх на вушы, блі-ін, паставіў: і міністраў, і камітэтчыкаў, дый нават... А мы, блі-ін, як заўсёды, крайнія...

*Дыспетчар№2 (весела).* Не бурчы-ы. Ды такому залатому кліенту дзякаваць трэба. Прыбытко-овы: адзін на тры месяцы нам план зробіць! Каб такія хоць раз у квартал загіналіся, дык глядзіш – і прэмія квартальныя падвоілася б. Пайшлі лепш памянём яго.

## Сцэна другая

*Удзельнікі памінальнай бяседы.*

*Заслона расхінаецца, на сцэне ледзь не на ўсю шырыню – стол, пакрыты чырвонай настольніцаю. На стале талеркі, бутэлькі, чаркі... З абодвух канцоў сцэны выходзяць панурыя людзі ў чорных жалобных гарнітурах. Моўчкі садзяцца за памінальны стол. Над сталом на ўзроўні двух метраў – партрэт нябожчыка. У цэнтры стала з чаркай у руцэ падымаецца мажны мужчына гадоў шасцідзесяці.*

*Пан Старшыня.* Дарагая Наталля Іванаўна, дарагая э-э-э, Сняжаначка, паважаныя таварышы. Вельмі цяжка, э-э-э, гаварыць, але сёння нас сабрала тут, э-э-э, самая сумная нагода, якая толькі й можа быць. Э-э-э. Няма з намі нашага дарагога, э-э-э, Мікалая Пятровіча *(чуюцца жаночыя ўсхліпы)*. Сумна і балюча, э-э-э, гэта ўсведамляць. Свядомасць не хоча з гэтым змірыцца, але што ж паробіш. Такі наш, э-э-э, чалавечы лёс. У кожнага свой. Таму ад імя Саюза архітэктараў нашай краіны і ад сябе асабіста я выказваю ўдаве *(чуюцца ўсхліпы),* дачцэ Мікалая і ўсім вам, э-э-э, таварышы, глыбокія спачуванні ў сувязі з гэтым горам. Трымайцеся. Будзьма разам і няхай светлая памяць пра нашага Мікалая, цудоўнага архітэктара, а нават і мастака, доўга жыве ў нашых сэрцах. Зямля яму пухам.

*Усе ўстаюць, моўчкі выпіваюць, садзяцца. Некалькі хвілінаў пануе маўчанне. Асвятленне паступова памяншаецца.*

## Сцэна трэцяя

*Душа Мікалай, пан Старшыня.*

*З левага боку на пляцоўцы другога ўзроўню – 2,7 метраў над сцэнай –з'яўляецца мужчынская постаць у белым да пятаў балахоне. Актыўнае святло скіраванае на постаць.*

*Душа Мікалай.* М-м-да-а. Выдатны, значыць, архітэктар і мастак я, аказваецца, цудоўны. Во як! Ці-і-ка-ва пачуць. М-да-а. А ці ж не ты мяне пляжыў зусім нядаўна за знесеную калісьці Нямігу? І публічна ж заявіў, што я, як тагачасны галоўны архітэктар горада, нясу персанальную адказнасць за знішчэнне гістарычнага сэрца сталіцы. А што я, член гаркама, дэпутат, галоўны архітэктар, што я мог зрабіць? Можа з тымі студэнцікамі ў пікет стаць? Пакрычаць “далоў!” і “ганьба”? Паглядзеў бы я на цябе тады. Цяпер лёгка вам героямі-барацьбітамі быць. Але хай гавораць, хоць пачую пра сябе, які я, аказваецца, выдатны і вялікі, хе-хе-е.

*Пляцоўка зацямняецца. Асноўнае святло скіроўваецца на сцэну. У цэнтры памінальнага стала зноў устае з чаркаю ў руцэ пан Старшыня.*

*Пан Старшыня.* Слова хоча сказаць чалавек, які больш як пяцьдзясят гадоў быў...

## Сцэна чацвёртая

*Душа Мікалай, Душа Маці.*

*Голас старшыні аціхае, сцэна зацямняецца, святло пераводзіцца на пляцоўкі другога і трэцяга ўзроўню. Справа на пляцоўцы трэцяга ўзроўню з’яўляецца жаночая постаць у белым. Яна вельмі павольна апускаецца па прыступках да цэнтра пляцоўкі другога ўзроўню.*

*Душа Мікалай прыглядаецца.*

*Душа Мікалай.* Ма-а, Мама-а? *(Узрушана.)* Ты-ы?

*Душа Маці.* Сыночак мо-ой!

*Падыходзяць, абдымаюцца. Душа Мікалай апускаецца на калені.*

*Душа Мікалай.* Ма-ма-а, мамачка-а-а.

*Душа Маці.* Сыно-ок, ну як жа ж так? Што ж так рана-а? Нават унучку маю замуж аддаць не паспеў. Ну як жа ж так? А-а-а?

*Душа Мікалай.* Ай, мама, я й сам не ведаю, як так выйшла: і ехаў жа, здаецца, ціха, і раптам – ліхтар. Ну і вось...

*Душа Маці.* Ды ведаю я, сынку. Тут усе ўсё загадзя ведаюць. Мы ж з бацькам, калі памятаеш, спрабавалі цябе папярэдзіць.

*Душа Мікалай.* Як гэта?

*Душа Маці.* Ну сніліся ж табе некалькі разоў. Акурат незадоўга да таго, як табе ліхтар быў пасланы. Памятаеш?

*Душа Мікалай.* А-а-а, ну-у та-ак, было нешта.

*Душа Маці.* Не-е-шта-а! Маці з бацькам сняцца, а яму – нешта. Сынок, сыно-ок *(з прыкрасцю)*. Нават і свечку на памін душаў нашых ніколі не паставіў.

*Душа Мікалай.* Ма-а, ну мама-а, ды я ж і помнікі надмагільныя вам унь якія ўзвёў, і агароджа каваная, і прыбрана ж амаль заўсёды...

*Душа Маці.* Дзякуй, сынку, мы ж бачым, добра гэта. Але ж душам не помнікі трэба, а каб іх паміналі як найчасцей.

*Душа Мікалай.* Ну-у я ж успамінаў вас, часта ж прыгадваў.

*Душа Маці.* Дзякуй, мілы, ведаем мы й гэта, але ж успамінаць і памінаць – зусім не адно й тое. Калі нехта з таго на гэты свет адыходзіць, дык да яго толькі праз малітву й можна дагукацца. Гэта – адзіная сувязь між намі й тымі.

*Душа Мікалай.* Даруй мне, мамачка. Ніхто ж не казаў, не тлумачыў. Ведаеш жа ў які час жылі: ні ў школе, ні ў інстытуце пра гэта ж – ні ні-і.

*Душа Маці.* Так то яно так, сынок. Але ж суседку нашу, а яна тут недалёка, дачка ой як часта памінае. А ты ж з той дачкою ў адзін клас хадзіў. Нехта ж ёй увёў у галаву. А суседцы ж – такая радасць, такая радасць! Ажно свеціцца ўся. *(Непрацяглая паўза.)*

*Душа Мікалай.* Што ж мне рабіць цяпер? *(Разгублена.)* Ма-а, даруй, калі гэта можна. Га-а-а?

*Душа Маці.* Сынок, сыно-ок, калі ўжо маці не даруе, дык і Ён *(паказвае рукой і поглядам наверх)* наўрад ці. Канечне ж, дарую, нездарма ж я цябе тут першая сустрэла. А што рабіць табе? Рыхтавацца, сынок, трэба. Сёння трэці дзень. Значыць, яшчэ трыццаць сем наперадзе. На тое й даецца сорак дзён, каб паспеў падрыхтавацца.

*Душа Мікалай.* Дзякуй табе, родная. А бацька ці даруе? Дарэчы, а чаму яго няма зараз?

*Душа Маці.* Даруе, не хвалюйся. На тое й бацька, які б ён ні быў. А няма, дык таму, што ў яго х-х-хвар – от халера-а, ніяк да гэтага слова не прывыкну – ну, х-х-хвармат куды меншы, чым у мяне. Ты ж ведаеш, – мы з ім і там не заўсёды блізкімі былі, асабліва як развяліся. А тут – яшчэ далей. Ягоны х-х-хвармат усяго на некалькі дзясяткаў крокаў. Так што...

*Душа Мікалай.* А што за фармат такі? Ты ж у тым жыцці і слова такога, здаецца, не ведала.

*Душа Маці.* Праўда твая, сынок, але ж тут зусім іншыя веды. А х-х-хвармат гэты – наколькі каму дазваляюць рухацца: каму болей, каму меней, а каму зусім ніяк – хто што зарабіў: колькі награшыў і ці раскаяўся. Мне дык адразу было больш-менш, а потым Яго Усясвятасць *(паглядзела наверх)* яшчэ дадаў, дзякуй Яму.

*Душа Мікалай.* Мама, прабач, калі ласка, а-а чаму ты цяпер такая маладая?

*Душа Маці.* А знешнасць, як і хвармат: што зарабіў, тое й дадуць. Ну ўсё, сыночак, пайду я. Трэба ўжо. Нам і так для першага разу болей, чым можна далі. Хутка яшчэ пабачымся. Старайся, сынку, старайся, і я за цябе прасіць буду.

*Абдымаюцца. Душа Маці падымаецца на трэці ярус.*

*Душа Мікалай. (Садзіцца на камень.)* Дзіўна, вельмі дзіўна-а. Пятнаццаць жа гадоў прамінула, а ўражанне такое, што толькі ўчора бачыліся. Дый пад семдзесят ёй было, а зараз выглядае не болей як на трыццаць. Гэта ж такой я й запомніў яе, калі сябе пачаў помніць. Ну так, тады мне гады тры было. Во-о, дзіва. А фармат гэты... Ну, зразумела, што часу тут няма. А прастора? Якая яна? Ад чаго і да чаго лічыць? Дый як адмераць? Дзіўна-а. Зрэшты, калі бясконцасць, дык жа межаў ніякіх. А калі так, дык навошта адмяраць, лічыць? Але фармат, відаць, не ў тым, у якіх вымярэннях ён азначаны, а ў магчымасцях перамяшчэння. Сказала ж, што ёй і напачатку было болей-меней, а пасля яшчэ пашырыў. Гм-м, а хто гэта пашырыў?

*На пляцоўцы чацвёртага яруса ўспыхваюць тры-чатыры сполахі зеленавата-блакітнага святла.*

## Сцэна пятая

*Душа Мікалай. Пан Старшыня, спадар Жывадзёрзкі, удзельнікі памінальнага стала. Святло на непрацяглы час высвечвае памінальны стол, у цэнтры якога постаць*

*пана Старшыні. Па міміцы, жэстах і рухах бачна, што ён штосьці эмацыйна прамаўляе. Затым галоўнае святло перамяшчаецца на левы бок пляцоўкі другога ўзроўню.*

*Душа Мікалай (сядзіць на камяні).* Дзіўная рэч, калі гэта здарылася, я нават не паспеў спужацца. Нейкая ўспышка, і ўсё – цемра. Потым трохі развіднела, і я ўбачыў усё тое збоку: разбітая машына, павалены ліхтар, між металічнага друзу – скрываўленае цела. Дзіўна, я зусім не шкадаваў сябе. Болей за тое, я нават не ўспрымаў тое цела маім: так, нейкае змятае, бруднае, агіднае ашмоцце. Нібыта гэта й не я зусім толькі што наляцеў на той слуп. Цікавая, зрэшты, штука: тысячу разоў ездзіў міма таго ліхтара, а выйшла, што ён стаяў усе гэтыя гады і чакаў пэўнага дня, пэўнага моманту і ў тым моманце – мяне. Выходзіць, што ліхтар той калісьці паставілі не столькі для таго, каб асвятляў дарогу, а найперш, каб аднойчы ён канчаткова мяне спыніў. Цікава было б ведаць гэта ад самага пачатку: вось ліхтар, які мяне назаўсёды спыніць. А ён, ліхтар гэты, ці ведаў сваё прызначэнне, ці падпільноўваў мяне між іншых? Відаць жа, так.

*Асвятленне змяншаецца, галоўнае святло перамяшчаецца на памінальны стол.*

*Пан Старшыня.* Дарагія Наталля Іванаўна і Сняжаначка, э-э-э, дарагія таварышы. Сярод нас ёсць чалавек, э-э-э, які з дарагім нашым Мікалаем Пятровічам паходзіць з аднае вёскі. Сябра дзяцінства, э-э-э, так сказаць. Яму слова.

*Голас за сталом.* Я-ак? А хіба Мікалай, прабачце, быў з вёскі-і?

*Спадар Жывадзёрзкі.* Папрашу не перабіваць. Дык вось, мы з Калянам, прабачце, з Мікалаем Пятровічам сябравалі з ранняга дзяцінства. Я, праўда, на два гады старэйшы, таму хадзілі ў розныя класы. Але ўвесь вольны час бавілі разам: ну там гулялі ў вайну, капалі зямлянкі, майстравалі рагаткі. Ну-у, усё такое, знаеце-е. Ну-у, канечне ж, у грыбы-ягады разам хадзілі. Ну й па суседскіх гародах лазілі разам, хе-хе. А як жа ж? І вось што я хачу сказаць: такога добрага, душэўнага чалавека я больш не сустракаў. Памятаю, быў такі выпадак. Адзін наш вясковы прыдурак забіў ката... Хар-рошы быў кот!

*Святло на непрацяглы час скіроўваецца на пляцоўку другога ўзроўню.*

*Душа Мікалай.* Што-о? Хто забі-іў? Які такі прыдурак? Што ён пляце-е?

*Святло перамяшчаецца на памінальны стол.*

*Спадар Жывадзёрзкі.* Жорстка так забіў па-жывадзёрзку, люта-а.

*Голас за сталом.* Як гэта-а? Навошта? Ён што, вар'ят?

*Спадар Жывадзёрзкі.* Ды не, нармальны. Проста яму падабалася забіваць. Вельмі-і падабалася-а. Але ж я не пра гэта. Ох, і плакалі ж мы тады з Колем! Столькі слёз вылілі! Потым мы таго бедненькага коціка пахавалі. Калі закопвалі, Колька рыдаў, як па самаму блізкаму чалавеку. Вось такі ён быў душэўны, чуллівы, добры. Ды я й сам такі: і добры, і душэўны, знаеце-е. Вось таму мы з ім і сябравалі... Хай зямля яму будзе пухам.

*Святло перамяшчаецца на пляцоўку другога ўзроўню.*

*Душа Мікалай.* Ш-што ты нясеш, су-у-ка-а? Гэта ж ты забіў таго ката. Ты ж проста смакаваў тое забойства. Яшчэ й мяне прымушаў, каб я ўдарыў. А пасля, калі я заплакаў, і мне па мордзе даў. Чуллівы ты на-аш-ш, душэўны ты на-а-ш. Відаць, я сёння багата яшчэ пачую.

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна шостая

*Душа Мікалай. Пан старшыня. Васіль Шрайбовіч. Удзельнікі памінальнага стала. Святло скіраванае на памінальны стол.*

*Пан старшыня.* Шаноўныя прысутныя. За гэтым, э-э-э, сталом выпадковых людзей няма. Кожны з нас можа сказаць, э-э-э, шмат харошага пра нашага дарагога юбіляра, э-э-э, даруйце, пра нашага Мікалая Пятровіча. У нашым саюзе пісьменнікаў, які я, э-э-э, узначальваю, Коля, прабачце, Мікалай, э-э-э, Пятровіч быў сапраўдным лідэрам, без якога не вырашалася ніякая праблема: ну-у там прэміі, званні, пуцёўкі, кватэры... Слова просіць вядомы наш пісьменнік, э-э-э, лаўрэат, э-э-э, спадар Алесь Шрайбовіч. Калі ласка, Алесь.

*Васіль Шрайбовіч.* Завуць мяне Васілём.

*Пан старшыня.* Выбачайце, калі ласка, пане Васілій.

*Васіль Шрайбовіч.* Так вот! Кагда мы толькі з Колей пазнаёміліся, я тагда ўжо зразумеў глыбіню яго таленту. Мы ведзь пачыналі з ім разам, кагда яшчэ былі студэнтамі, панімаіш. Умесці хадзілі ў літаб'яднані пры газетах, часопісах, панімаіш, умесці пачалі друкавацца, на семінары нас камсамол пасылаў, ну і ўсё такое разнае. Да-а, і мяне пробавалі вербаваць. Было-о, не скрою. Кватэру абяшчалі, ну там яшчэ ўсё ўсякае. Час быў такі. Ну хто ж ведаў, што ўсё так ляснецца. Пасля – перастройка, незалежнасць, панімаіш... Але, выбачайце, што адхіліўся. Я вось што хачу сказаць...

*Асноўнае святло перамяшчаецца на пляцоўку другога яруса.*

*Душа Мікалай.* Ну і што ж ты скажаш? Ну дава-ай, пры жыцці нічога добрага не казаў, дык мо хоць цяпер пачую.

*Святло перамяшчаецца на памінальны стол.*

*Васіль Шрайбовіч.* Я, як калега па пяру, заўсёды казаў і цяпер кажу, што Коля, дарагі Мікалай Пятровіч, сапраўды, меў вялікі талент. Я гэта яшчэ ў ягонай першай кніжцы заўважыў. Та-ак, там, канечне ж, відавочны ўплыў Буніна. Да-а. Але ж не абы каго! А напішыце вы так, каб на Буніна было падобна. Праўда, пасля той кніжкі гэты ўплыў амаль знік, Мікалай скіраваў свой талент на службу патрыяцічэскай тэме. А яна патрабавала іншага голасу, іншай манеры, панімаіш. А што тут такога? Уславіць подзвіг народных мсціцеляў – задача дужа складаная і адказная. Ды і каму з нас, пісьменнікаў, не хацелася атрымаць дзяржпрэмію, ці званне народнага? А без трылогіі паспрабуй, атрымай. Вот я і гавару, – выдаюшчыйся пісацель, настаяшчы. Зямля яму пухам *(выпівае)*.

*Зацямненне. Святло перамяшчаецца на пляцоўку другога ўзроўню.*

*Душа Мікалай.* Ну-у, дзякуй. Хоць першую кніжку маю згадаў. Так, канечне ж, "касіў" пад Буніна. Паспрабуй ты ад гэтай магіі адбіцца. Пасля толькі Джойсам ды Маркесам збольшага перабіў. Але ж калі я й быў хоць трохі пісьменнікам, дык хіба толькі ў той першай кніжачцы. А пасля панесла мяне нялёгкая. А тым часам Караткевіч...

## Сцэна сёмая

*Душа Караткевіч, Душа Мікалай, Святло (голас з чацвёртага яруса).*

*Высвечваецца левая пляцоўка трэцяга ўзроўню. Па прыступках да цэнтра пляцоўкі другога ўзроўню павольна апускаецца мужчынская постаць ў белым.*

*Душа Караткевіч.* І хто гэта мяне тут згадвае? О-о! Коля! І ты тут? Не чакаў? Ранавата нешта Хаця па тутэйшых мерках такога не бывае – рана, ці позна. Ну-у, вітаю цябе.

*Душа Мікалай.* П-п-п-прывітанне, В...Валодзя... Ну-у-у, як ты... тут?

*Душа Караткевіч.* Як? Хе-хе-е. Ды так, як і там, працую: перачытваю, пераглядаю, дапрацоўваю, нешта выпраўляю...

*Душа Мікалай.* Гм-м-м. Якім гэта чынам?

*Душа Караткевіч.* Ды проста ўсё, зямляк – кніжкі мае, ты ж ведаеш, там чытаюць, перавыдаюць, і нават без цэнзурных правак, на мае вершы песень панапісвалі, спектаклі мае ідуць, дый мае фільмы раз-пораз паказваюць. Во-о, зусім нядаўна "Ладдзю роспачы" зноў паставілі. Парадавалі, што й казаць, дый павесяліліся, ха-ха-ха. Так рэжысёр пастараўся, што я й сам ледзь пазнаў сябе, ха-ха-ха. Але ж цікава, хал-ле-ра-а! Моладзь! Хай сабе... Ужо тое добра, што не забываюць. А ты, бачу, нейкі разгублены, ці як? Хаця што ж дзівіцца, – не звыкся яшчэ.

*Душа Мікалай.* Д-ды не-е, я вось што, Валодзя, Уладзімір Сямёнавіч, ты-ы даруй мне, калі ласка, за тое, ну-у-у...

*Душа Караткевіч.* За што ж гэта?

*Душа Мікалай.* Ну-у, памятаеш, як нас тады на дзяржаўную прэмію вылучылі. Нехта ж спецыяльна нас ілбамі сутыкнуў. Відаць, пасварыць хацелі.

*Душа Караткевіч.* А-а-а, ты вось пра што. Кінь дурное, Коля. Ды я й забыўся даўно пра тое. Было б там што памятаць. Глупства, пане дабрадзею, як казаў Купалаў Пранцісь Пустарэвіч, ха-ха-а.

*Душа Мікалай.* Можа цяпер і так, Валодзя, але ўсё ж прабач, дружа. Гэта ж ты павінен быў атрымаць, а далі мне-е. Чорт бы яе пабраў, тую прэмію.

*На пляцоўцы чацвёртага яруса ўспыхвае святло.*

*Святло (голас).* Не памінайце нячысціка. Забараняю! Тут вам не там.

*Душа Мікалай.* Д-дар-руйце, В-ваша Усясвятасць. Гэта ж я так, па звычцы.

*Святло (голас).* Адвыкайце, не забывайцеся.

*Душа Мікалай.* С-с-слухаюся, Ваша Усясвятасць *(кароткая паўза).* Валодзя, усё ж прабач, браце. Трэба было мне зняць сваю кандыдатуру. Зараз уяўляю, як людзі ацанілі б. І тады, і цяпер. Не-е-е, не хапіла мне моцы. Дый баяўся: а што зверху скажуць?

*Святло (голас).* Гэта ты каго меў на ўвазе?

*Душа Мікалай.* Д-ды-ы, н-не, Ваша Усясвятасць, г-гэта я н-не п-пра Вас. Даруйце.

*Святло (голас).* А хіба яшчэ нехта ёсць зверху? Ха-ха-ха...

*Душа Мікалай.* Даруйце, даруйце. Я й, праўда, Валодзя, баяўся: на пасадзе ж быў, дый партбілет у кішэні. Сам разумееш. Табе прасцей было: вольны мастак, – што хочаш, тое й рабі. Мне ж таксама з вашай кампаніяй у "Мутным воку" пасядзець ох як хацелася! Але дзе там – павязаны па руках і па нагах.

*Душа Караткевіч.* А хто цябе павязаў, Коля?

*Душа Мікалай.* Ды сам, вядома ж: хацеў і пасадаў, і званняў. Кватэру вунь якую далі! Дабра ўсялякага накапіў... А на халеру? Усё мітусіўся,

разменьваўся, а ліхтар чакаў. Відаць, кожнага чакае свой ліхтар, ці слуп, ці вяроўка, ці куля. Бо трэба ж своечасова нас спыняць.

*Душа Караткевіч*. А цябе як?

*Душа Мікалай*. Ды слуп ліхтарны. Сотні разоў паўз яго праязджаў і не думаў, што ён мяне падпільноўвае. А ён чакаў, чакаў, дый ...

*Душа Караткевіч*. Та-ак, у кожнага свой вартавы. А ўвогуле – адзін. Ву-у-нь сядзіць (паказвае наверх).

*Святло (голас – жартаўліва)*. Гм-м-м, прызнаў-такі!

*Душа Караткевіч*. А наконт той прэміі, Коля, сапраўды пакінь. Дый не крыўдаваў я ніколі. Было б на што. А яны ж, ха-ха-а, на наступны год мне яе пасмяротна прысудзілі. Во-о, прыдуркі! Ха-ха-а. Я так рагатаў! Вунь Яго Усясвятасць не дасць схлусіць.

*Святло (голас)*. І праўда, вельмі смешна было: нейкая дзяржаўная прэмія, ды яшчэ й пасмяротна. Ха-ха-а. І праўда – прыдуркі, ха-ха-а.

*Душа Караткевіч*. Прэмію прысудзілі, а грошы на той, ну на гэты свет пераслаць забыліся. Ха-ха-а. А то тут няма за што й выпіць.

*Святло (голас – дабрадушна)*. Зноў ты, Уладзімір, са сваімі жарцікамі. Мо ўжо хопіць?

*Душа Караткевіч (па-свойску)*. Даруйце, Ваша Усясвятасць, то ж я так сабе, каб і Вам весялей было.

*Святло (голас)*. Ну-у добра, добра, весялун ты мой *(з лагоднай іроніяй)*. Вы з Галчынскім ніколі мне сумаваць не дасце. А яшчэ, калі Моцарт да вас далучаецца, хе-хе-е, то хоць і мне хавайся ў бульбу, хе-хе-е.

*Душа Караткевіч*. Даруй, Бацька, мы трохі цішэй будзем, хе-хе *(непрацяглая паўза)*. А прэмія, Коля, гэта калі цябе памятаюць: чытаюць, карціны твае глядзяць, фільмы, спектаклі, песні твае спяваюць, ад будынкаў, табой спраектаваных, не гідзяцца, а ганарацца, гасцям паказваюць. Вось гэта – прэмія! Ну, а калі яшчэ на тваю магілу кветкі прыносяць, на Радаўніцу і Дзяды памінаюць, – дык чаго яшчэ й жадаць. Мне вунь і помнікаў, хе-хе-е, наставілі, хоць гэта й залішне, мабыць. Лепей бы на доме, дзе “Мутнае вока” было, шыльду павесілі. Колькі ж нас там кожны вечар перабывала! І Грышка Барадулін, і Міша Стральцоў, і Паша Дубашынскі, і Рома Філіпаў, і Валодзя Высоцкі неяк да нас заходзіў. Нават Быкава разы два зацягнулі. Э-э-эх, былі часы-ы!

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна восьмая

*Пан Старшыня, кампазітар Мадэст Алегрыч, душа Мікалай, Спадар Жывадзёрзкі, Сняжана, удзельнікі памінальнай бяседы.*

*Пан Старшыня*. П-пра-ашу-у ўва-агі-і *(стукае відэльцам па бутэльцы)*. Па-аслухайце, дзіўнае маю... Ну, па-аслухайце ж! Дзіўнае, кажу вам, маю адчуванне – э-э-э: з аднаго боку – сум, журба, непапраўнасць страты, з іншага, э-э-э – душа мая поўніцца цудоўнымі мелодыямі нашага дарагога Мікалая Пятровіча. Як кампазітар, э-э-э, як кіраўнік Саюза кампазітараў, заяўляю цвёрда і ўпэўнена: Коля, ну-у, Мікалай, э-э-э, Пятровіч, канечне ж, э-э-э, ужо сёння з’яўляецца класікам нашай, – ды што нашай? – сусветнай музычнай, э-э-э, культуры. Больш поўна, я думаю, пра гэта нам скажа наш вядомы кампазітар, э-э-э, лаўрэат, э-э-э, Мадэст Алегрыч.

*Мадэст Алегрыч.* Дарагія Наталля, Сняжана, шаноўная публіка. Мы з Мікалаем былі разам болей як трыццаць гадоў: разам вучыліся ў кансерваторыі, разам уступалі ў саюз, разам ездзілі па камсамольскіх пуцёўках на БАМ. Ну што я магу сказаць...

*Святло высвечвае пляцоўку другога яруса.*

*Душа Мікалай (іранічна).* Ну і што ж ты можаш сказаць? Напэўна скажаш, што я вялікі кампазітар. А як жа ж, на памінках усе нябожчыкі – геніі, вялікія ці хаця б проста цудоўныя, выдатныя, найлепшыя, хе-хе-е.

*Мадэст Алегрыч.* Дык вось, як калега, як прафесіянал, заяўляю, – наш Мікалай Пятровіч – вялікі кампазітар.

*Душа Мікалай (саркастычна).* А як жа ж. Канечне, цяпер вялікі ды геніяльны. А што раней ты казаў, асабліва пра маю сімфанічную паэму, ліха яе пабяры?

*Мадэст Алегрыч.* Музыка нашага Мікалая перажыве шматлікія пакаленні нашых нашчадкаў. Яго сімфанічная паэма "На сцягу і ў сэрцы" – выдатнейшы, я б сказаў, геніяльны прыклад увасаблення гістарычнай, патрыятычнай, выхаваўчай ідэі ў сучаснай музыцы не толькі постсавецкай, але й агульнаеўрапейскай прасторы. Музычная мова названай мною сімфанічнай паэмы настолькі сучасная, што будзе зразумелая і сённяшняй моладзі, і тым, хто яшчэ народзіцца. Я думаю, Сняжаначка пацвердзіць мае словы. Праўда ж, Сняжаначка?

*Сняжана (манерна).* Ну-у-у ва-а-ще то да-а, при-и-кольно. Немножко на рэп смахивает. Папик ва-а-ще был чувако-ом продвинутым. Хэви-метал, правда, не просекал, но-о у самого, если вслушаться, ну-у, правда ж, при-и-кольно?

*Спадар Жывадзёрзкі.* Во-во, правільна. Я таксама, знаеце, неяк папаў на яго, ну на Колін канцэрт: доўга з ім не бачыліся, а тут раптам сустрэліся, і Калян, ну, Мікалай, прабачце, Пятровіч зацягнуў мяне, э-э-э, запрасіў у гэтую, ну, у філармонію.

*Пан Старшыня.* Спадар, – як вас там? – Жы, э-э-э, Жывадзёрзкі, не перабівайце.

*Мадэст Алегрыч.* Ды нічога, нічога, хай ужо скажа.

*Спадар Жывадзёрзкі.* Дык во-ось, у той філармоніі такую, знаеце, штуку ігралі, ну-у, я вам скажу, такую штуковіну – у адным, знаеце, месцы сыгралі так, ну як каты крычаць, калі іх мучыш. Ну вельмі было падобна. Гэта ж трэба было ўмець – такое напісаць.

*Пан Старшыня.* Якія, э-э-э, каты-ы? Хто мучае? Вы гэта пра што-о?

*Спадар Жывадзёрзкі.* Ды не, нічога. То ж я так, кажу ж, што выдатны, знаеце, кампазітар быў наш Коля. Праўда ж?

*Мадэст Алегрыч.* Праўда, праўда... Я думаю, Мікалай акурат пачаў выходзіць на новую, яшчэ больш сучасную музычную мову, і можна толькі ўяўляць, якія музычныя шэдэўры мы яшчэ б пачулі, каб не той ліхтар.

*Душа Мікалай.* Во-во – ліхтар. Бекар, калі казаць прафесійнай музычнай моваю, – у нотнай грамаце знак адмены. Паўстаў на шляху і ўсё адмяніў. Бекар шляху, бекар руху, бекар жыцця. Усялякая партытура лёсу завяршаецца знакам бекар. Гм-м-м, пацешна – ліхтар-бекар.

*Мадэст Алегрыч.* Канечне ж, як і ў кожнага генія, у яго былі зайздроснікі і ворагі, якія, ну вы ведаеце, пра што я. Але хто б што ні плявузгаў, гэта не пахісне велічы нашага Колі. І не слухайце, што нехта абвінавачвае

яго ў плагіяце. Які, на хрэн, плагіят? Прабачце. Ну й што з таго, што нехта на кагосьці падобны? Сем нотаў усяго! Се-е-ем! Паспрабуй ты не пападзі ў нешта, напісанае іншымі. Галоўнае – пападаць у рытм часу, эпохі, генеральнай, так сказаць, лініі. А ў гэтым Мікалай Пятровіч нідзе не схібіў. Зямля яму пухам. *(Выпівае).*

*Зацямненне.*

## Сцэна дзявятая

*Душа Мікалай, Святло, Душа Маці. Пляцоўка другога ўзроўню.*

*Душа Мікалай.* Ну-у што ж гэта такое? Каб быў я ў ранейшым фармаце, дык не абыйшлося б зараз без нефарматнай лексікі. Бо ўсё гэта было б вельмі смешна, калі б не было так скрушна і нават гідка. Калі ты не вар'ят, дык слухаць пра сваю выключнасць, веліч і нават геніяльнасць не проста няёмка ці сорамна, а невыносна брыдка. Ну як можна цвяроза без іроніі чуць, што ты – геній, калі ў сусвеце ёсць Моцарт, Шэкспір, Мікеляндждэла, Купала, Пікаса і дзясяткі, а можа й сотні іншых, чый фармат ні ў зямным, ні ў гэтым вымярэнні не мае межаў? І нават іх, чыя веліч цяпер не падлягае сумненню, падчас зямнога жыцця ніхто геніямі не лічыў. Ну які жыццёвы шлях і сыход былі ў таго ж Моцарта, Цвятаевай, Багдановіча, Ван Гога? Ці мог хто тады думаць, што яны геніі? Пытанне, вядома ж, рытарычнае, бо відавочны адказ. А тыя ўнізе *(паказвае на пляцоўку сцэны)* нібы звар'яцелі: выдатны, выключны, непаўторны, геніяльны! Брыдота, дый толькі! Ну няўжо, каб усвядоміць сваё месца і фармат, трэба памерці? Зрэшты, апошняе слова, мякка кажучы, недакладнае, бо ніяк не адлюстроўвае сутнасці падзеі, якую называе. Ну што значыць – памерці?

*Святло (голас).* Штосьці, здаецца, ён пачынае разумець. Можа не такі й безнадзейны?

*Душа Мікалай.* Няўжо ж можна называць мёртвым Шэкспіра, чые п'есы ўжо больш за пяць стагоддзяў не сыходзяць са сцэнаў? Ці той жа Моцарт? А Пікаса? А Багдановіч? Няўжо нехта, хто з мокрымі штанамі валяецца пад плотам, жывейшы за іх ды іншых нефарматных? Не-е, кім нам застацца ў фармаце Вечнасці, вызначаем не мы, а той, хто, пускаючы нас у зямны фармат, дае кожнаму з нас пэўнае заданне. І наколькі мы тое заданне зразумелі ды выканалі, такім і будзе наш фармат у Вечнасці.

*Святло (голас).* Бач ты на яго, – зразумеў нарэшце. Шкада толькі, што там, унізе, не надта пра гэта задумваўся. Таленту ж яму я не пашкадаваў, адважыў не нашмат меней, чым Караткевічу, ці, скажам, Гогалю. Вось толькі маё заданне кожны зразумеў па рознаму. А гэты, дык толькі цяпер. Шкада-а-а. (*Зацямненне).*

*На пляцоўцы трэцяга яруса святло высвечвае жаночую постаць.*

*Душа Маці.* Сынок, сыно-о-ок, ты ж такі ў мяне быў харо-о-шы. Ну, а як жа? Я ж маці. А для маці хто самы лепшы? Ну вядома ж. Думай, сынку, старайся, мой даражэнькі. Хоць і пазнавата, але ёсць яшчэ шанец трохі пашырыць твой х-ф-фармат. Ніяк я да гэтага слова не прывыкну. Па-нашаму дык лепей было б – дзялянка, ці мо яшчэ як. Але не пра гэта зараз. Я, шчэ калі ты там, унізе, быў, пачала Яго *(паказвае на чацвёрты*

*ярус)* маліць, каб пашкадаваў цябе, хоць на два-тры крокі табе дабавіў. Прасі, сыночак, прасі-і. Ён усё чуе, можа разам і дапросімся.

*Зацямненне.*

### Сцэна дзясятая

*Пан Старшыня, душа Мікалай.*
*Пляцоўка другога яруса.*

*Душа Мікалай.* Як дзіўна ўсё. Колькі я тут? Ды ўсяго нічога. А які вал інфармацыі! Ды якой! Зрэшты, ці ж можна называць інфармацыяй тое, што хутчэй за ўсё з'яўляецца ісцінай?

*Непрацяглая паўза. Душа Мікалай павольна садзіцца на камень.*

*Душа Мікалай.* І так проста ўсё, так ясна, зразумела. Нібыта новы зрок займеў, ці ўсё ж новую свядомасць. І чаму там, унізе, гэта ўсё было не тое каб дужа складаным, а проста не бралася да ўвагі, валялася недзе на перыферыі свядомасці, як зараз у тых, хто мяне цяпер памінае. Бедныя-а, а некалі ж таксама спахопяцца, таксама ж фармату большага захочуць.

*Зацямненне. Святло скіроўваецца на памінальны стол.*

*Пан Старшыня.* Та-ав-варыш-шы-ы, э-э-э, с-спа-а-дары-ы, праба-ачаюся-а-а. Ёс-сць прапанова-а, э-э-э, трохі перакуры-ыць, выбачайце, зрабіць невялічкі пера-апынак, так бы мовіць, э-э-э, антракт, як кажуць у тэатрах. Хоць мы й не ў тэатры, але хвілінаў пятнаццаць, э-э-э, давайце-е перакурым. Згода-а? Ну й добранька. Пасля працягнем.

*Зацямненне. Святло скіроўваецца на пляцоўку другога яруса.*

*Душа Мікалай.* Нешта я прытаміўся: столькі ўсяго новага, столькі новых эмоцыяў. У-у-ф-ф. Трэба, відаць трохі адпачыць. Нават унізе, у тым тэатры абсурду, антракт абвясцілі, ну то й я сабе зраблю антракт.

*Зацямненне.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Уступ

*Авансцэна. На тэатральнай заслоне відэапраекцыя іканастаса. Гучыць харал заўпакойнай малітвы. Некалькі чалавек – удава, дачка, сябры, калегі, радня – стаяць спінамі да залы. У руках свечкі. Людзі сыходзяць за заслону. Неўзабаве заслона расхінаецца.*

### Сцэна першая

*На сцэне памінальны стол. За сталом удава, дачка, пан Старшыня, сябры, калегі, цётка Марыя.*

*Пан Старшыня.* Таварышы, э-э-э, спадары, мінула ўжо сорак дзён, як наш дарагі Мікалай Пятровіч нас, э-э-э, пакінуў. Давайце ж нальем, э-э-э.

*Цётка Марыя (падымаецца і жэстам спыняе старшыню).* Пачакай, чалавеча. Давайце хоць сёння зробім усё па-людску, так, як трэба. Устаньце, даражэнькія.

*Усе ўстаюць.*

*Сняжана (незадаволена).* Ма-а, чего это она-а? Заче-ем?

*Наталля Іванаўна (сцішана).* Памаўчы. Хоць сёння, хоць тут, за памінальным сталом не матай мне нервы.

*Сняжана.* Да-а чё-о ты, ва-аще-е, фу-у-у.

*Цётка Марыя.* Ойча наш, які ёсць у нябёсах (*на пляцоўцы чацвёртага яруса ўспыхвае святло. Яно пульсуе рознымі колерамі, пераліваецца...),* хай свяціцца імя Тваё, хай прыйдзе валадарства Тваё, хай будзе воля Твая, як у небе, так і на Зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння, і выбачай нам правіны нашыя, як і мы выбачаем вінаватым нашым, і не ўвядзі нас у спакусу, але збаў нас ад злога. (*Тройчы хрысціцца.)* Амін.

*Наталля ды яшчэ два-тры чалавекі таксама хрысцяцца. Сняжана з незадаволенай грымасаю адварочваецца. Шмат хто сядае.*

*Цётка Марыя.* Пачакайце сядаць *(невялікая паўза).* Са святымі супакой, Госпадзе, душу спачылага раба Твайго Мікалая. Выбачай яму правіны свядомыя і несвядомыя і пасялі яго ў нябесным Тваім Валадарстве. Амін.

*Тройчы хрысціцца. Бальшыня прысутных пераглядаюцца, перамінаюцца з нагі на нагу, не ведаючы, што далей рабіць.*

*Цётка Марыя.* Можна сядаць. Цяпер трэба ўсім з’есці хоць трошачкі куцці. Та-ак, вось гэтай кашкі. Гэта і ёсць куцця. Так трэба. Так заўсёды мы робім. Дый дзяды-прадзеды нашыя рабілі так.

*Непрацяглая паўза. Усе ядуць куццю. Сняжана есць з гідлівасцю.*

*Цётка Марыя.* Даруйце мне, людцы. Вы ўсе вучоныя, культурныя, а я – простая, з вёскі, як вы сказаць не ўмею. Але ж скажу, як магу. Сёння саракавіны. Сорак дзён душа нашага Колі хадзіла па нябесных сцежках: з мамай пабачылася, з бацькам, дый багата з кім, хто раней пайшоў. І нас усе гэтыя дні і бачыў, і чуў, дый зараз чуе.

*Сняжана (хмыкае).* При-и-кольно-о, бли-и-ин.

*Наталля Іванаўна (раздражнёна, паўшэптам).* Заткніся, пра-ашу цябе. Потым пагаворым.

*Цётка Марыя.* Хутка ўжо душа Колева стане перад Госпадам, а там ужо будзе, як будзе. Усе гэтыя дні я малілася за яго душу, бо толькі так і можна яму памагчы. Ён мне быў як сын, і любіла я яго як сына роднага. І што тут яшчэ можна дадаць? Пакуль жыцьму – ужо колькі Бог мне яшчэ адпусціць – буду маліцца за Колеву душу. А Бог мяне чуе *(на пляцоўцы чацвёртага ўзроўню ўспыхвае святло).* Памінайма яго.

*Зацямненне. Асноўнае святло пераводзіцца на пляцоўку другога ўзроўню.*

*Душа Мікалай.* І я цябе чую, цётачка. Дзякуй табе, родненькая. Мне й праўда лягчэй ад тваіх малітваў. Ведаў бы раней, што так можна з памерлымі гаварыць, цяпер і маці не крыўдавала б.

*Зацямненне.*

## Сцэна другая

*Пан Старшыня, Сняжана, Наталля Іванаўна.*

*Пляцоўка сцэны. За памінальным сталом пан Старшыня штосьці амаль бязгучна прамаўляе. З-за стала падымаецца Сняжана і адыходзіць у левы кут сцэны. Тэлефануе.*

*Сняжана*. Хел-лоу-у, Кису-уля. Ну-у, ка-ак ты там? *(Непрацяглая паўза.)* Ну-у, поздра-авляю-у, чувишка-а, ты как всегда-а в тренде-е. Жа-алко, что тебя здесь нет. Тут та-ак прикольно ва-аще-е. Ты бы угорела-а. Слы-ишь, оказывается, ха-ха-а, папик мой и видит нас, и слышит. Ну-у чума полная-а. Тут папикова тётка только что щебетала. Ну-у чудо-юдо какое-то колхозное. Ну просто ископаемое какое-то-о. Так я тут, слышь, ну угорала-а ва-аще-е. Маман чуть по фейсу мне не врезала-а. При-и-кол, правда ж, Киссу-у-ля-а, ха-ха-а.

*Наталля Іванаўна (з раздражнёнай катэгарычнасцю)*. Сняжана, вярніся за стол.

*Сняжана*. Ну-у, ма-а, чё-о уж и па-а-писать нельзя-а?

*Наталля Іванаўна (ледзь сябе стрымліваючы)*. Зараз жа вяртайся! Я сказала! Пра ўсё астатняе – дома. *(Напаўшэптам.)* Сучка драная.

*Пан Старшыня*. Сябры, калегі, слухай маю каманду. Налівай.

## Сцэна трэцяя

*Пан Старшыня, Душа Караткевіч, Душа Мікалай, Святло (голас).*
*Пляцоўка сцэны. Памінальная бяседа.*

*Пан Старшыня*. Як старшыня саюза пісьменнікаў нашай краіны, э-э-э, адказна заяўляю, што наш Мікалай, э-э-э, Пятровіч стаіць у адным шэрагу з такімі імёнамі як Быкаў, Барадулін, Караткевіч, а калі глыбей, э-э-э, капнуць, дык можа й вышэй за іх усіх. А чаму й не? Ну-у што, скажам, той жа, э-э-э, Караткевіч?.

*Душа Караткевіч (весела)*. Ну і што Караткевіч? Ха-ха-а. Хто гэта там унізе *(схіліўся і ўглядаецца ўніз)* пра мяне, грэшнага, ха-ха-а, згадаў? А-а, гэты, ха-ха-а, з пагонамі. Усё кіруе, усё пры начальніках. Ну-ну-у...

*Павольна сыходзіць на пляцоўку другога ўзроўню. Душа Мікалай ступае яму насустрач.*

*Душа Мікалай*. Прывітанне, Валодзя.

*Душа Караткевіч*. Вітаю, Мікола. Ну як ты, збольшага ўжо асвойтаўся?

*Душа Мікалай*. Ну так, хіба што збольшага: ўсё ж новая, нязвыклае. Столькі ўсяго перагледзець, перадумаць давялося. Столькі ўсяго, здавалася б, раней вядомага й зразумелага цяпер бачыцца зусім іначай.

*Душа Караткевіч*. Ну, гэта з кожным так. На тое ж і іншы свет, каб усё па іншаму.

*Душа Мікалай*. Дый напісанае сваё перачытаў за гэты час.

*Душа Караткевіч*. Ну і як?

*Душа Мікалай*. Ды абы як, Валодзя, асабліва раман, за які я ў цябе прэмію перахапіў.

*Душа Караткевіч*. Ды не пераймайся залішне, – раман як раман, някепска зроблены.

*Душа Мікалай*. Можа й так, Валодзя, але каму ён патрэбны, хто яго чытаць цяпер будзе? Хіба, можа, якая аспірантачка ад літаратуры. А так...

*Душа Караткевіч*. Ведаеш, дружа, давай не будзем пра гэта. Дый няма мне цяпер калі. Спяшацца трэба.

*Душа Мікалай*. А што такое?

*Душа Караткевіч*. Выбачай, Коля, але мушу ўжо бегчы. Тут хутка канцэрт Шапэна пачнецца. (*Чуюцца гукі фартэпіяннага эцюда Шапэна.)* Во-о, чуеш? Відаць, рэпетыруе перад пачаткам. Зусім нядаўна бачыліся, дык запрашаў.

*Душа Мікалай.* Хто запрашаў?

*Душа Караткевіч.* Кажу ж табе, Шапэн, ну той, каторы Фрэдэрык. Трэба схадзіць. Няёмка ж адмовіць, ўсё-ткі ж Шапэн. Там, дарэчы, у фае і Ван Гог сваю выставу ладзіць. Таксама цікава. *(На заднім плане сцэны – відэапраекцыя твораў Ван Гога.)* Яго Усясвятасць таксама, відаць, прыйдзе.

*Святло (голас з чацвёртага яруса).* А як жа, буду. Шапэн з Ван Гогам – не абы-хто. Толькі мне хадзіць неабавязкова, я ж і так паўсюль. А гэтых ушаную як мае быць.

*Душа Караткевіч.* Гэты Шапэн ну вельмі цікавы дух: удумлівы, глыбокі, засяроджаны, да філасофскіх развагаў дужа схільны. Не тое, што Моцарт, хе-хе-е. Не-е, ён, канечне ж, таксама і глыбокі, і ўдумлівы, і філасофскі. Адзін "Рэквіем" чаго варты! Але ў паводзінах – ну такі шалапутны, такі весялун: бегае, мітусіцца, рагоча, усіх пад'ялдыквае – як дзіця малое! Але ж геній, што тут казаць. Мне дык з ім заўсёды хораша. Да філасофскай зануранасці тут амаль усе схільныя, а вось так як ён – павесяліцца, свята без прычыны зладзіць, настрой усім падняць! Малайчына.

*Душа Мікалай.* Дык ты што, вось так запраста з самім Моцартам?

*Душа Караткевіч.* А што тут такога? Во зусім нядаўна Апалінэр заходзіў. Найцікавейшы дух. Ён жа па бацьку з нашых, з Кастравіцкіх. Тут нашых, дарэчы, шмат: і Міцкевіч, і Купала, і Багдановіч, і Колас, і Гарэцкі, і Жылка, дый іншыя пастраляныя. А з Быкавым ды Барадуліным мы заўсёды разам. Як там, так і тут. Так што не здзіўляйся, калі раптам убачыш мяне, напрыклад, з Кантам, ці, скажам, з Цвятаевай альбо з Галчынскім. Між іншага, мяне Мандэльштам нядаўна з Хэмінгуэем пазнаёміў, дык сышліся, як калісьці там унізе казалі, душа ў душу.

*Душа Мікалай.* Ну-у ты дае-эш, Валодзя, ну-у дае-эш. Слухай, а можа ты й мяне... ну-у на канцэрт Шапэна, ну ўзяў бы, га?

*Душа Караткевіч.* Не, Мікола, выбачай. Табе туды пакуль нельга. Яшчэ ж сёння, калі не памыляюся, толькі саракавы дзень мінае. Хто ж ведае, які фармат прасторы табе дадуць? Так што не крыўдуй, зразумей правільна. Чакай. Хутка ўжо даведаешся.

*Душа Мікалай.* Ды я разумею. Што ж рабіць... Слухай, а ў цябе які фармат?

*Душа Караткевіч.* У мяне абмежаванняў няма ні ў перамяшчэнні, ні ў кантактах. Напачатку трохі былі. Можа за тое хіба, што на зямлі з Бахусам, хе-хе-е, сябраваў. Было ж. Але абмяжоўвалі не доўга: паўшчувалі, пасарамацілі, трохі папалохалі дый далі поўную вольніцу.

*Душа Мікалай.* Я вельмі рады за цябе, Валодзя. Ты ж і там нефарматны быў, вось і маеш.

*Душа Караткевіч.* Дзякуй на добрым слове. Ну-у, шчасліва заставацца. Не сумуй, яшчэ пабачымся. Трэба бегчы, бо ўжо пачынаецца. Чуеш? *(Гучаць фартэпіянныя гукі.)*

*Душа Караткевіч спешна адыходзіць.*

*Душа Мікалай (прысеўшы на камень).* Ну што ж, усё правільна. Хто што зарабіў, тое й мае. Дзе ж яму быць? Вядома ж, сярод геніяў. А геніям дзе? Ну ясна ж, што недалёка ад Бога. (*На чацвёртым ярусе ўспыхвае святло.)*

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна чацвёртая

*Наталля Іванаўна, Мадэст Алегрыч, пан Старшыня, памінальнікі.*

*Пляцоўка сцэны. За памінальным сталом – перапынак. Пан Старшыня і яшчэ сем-восем бяседнікаў працягваюць. У левым куце авансцэны Сняжана бязгучна, але дужа эмацыйна гаворыць па тэлефоне. На заднім плане самотна і вельмі павольна туды-сюды ходзіць і раз-пораз хрысціцца цётка Марыя. У правым куце авансцэны бязгучна гутараць Васіль Шрайбовіч і Яўхім Пэцкальд. У цэнтры авансцэны – Наталля Іванаўна і Мадэст Алегрыч.*

*Мадэст Алегрыч.* Наташа, ну я прашу цябе, супакойся. Ну што ты так нервуешся?

*Наталля Іванаўна.* А ты думаеш, што можна настолькі абстрагавацца, нібыта ў нас з табой нічога й не было?

*Мадэст Алегрыч.* Ды я не пра гэта, хе-хе-е.

*Наталля Іванаўна.* А я акурат пра тое. Ты што, сапраўды думаў, што Коля ні пра што не здагадваўся?

*Мадэст Алегрыч.* Ну-у, Наташка, ну мы ж з табой, здаецца, настолькі акуратненька ўсё рабілі, што-о...

*Наталля Іванаўна.* Эх, Модзя, Модзя, а добрыя людзі нашто? Заўсёды ж знойдуцца тыя, хто са свечкаю не стаяў, але ўсё бачыў. Ды я й сама разы два не стрымалася, ледзь не адкрытым тэкстам яму сказала.

*Мадэст Алегрыч.* Я-ак? Наво-ошта? Ты што-о?

*Наталля Іванаўна.* Ды цішэй ты, а то за сталом пачуюць.

*Мадэст Алегрыч.* Але ўсё ж патлумач.

*Наталля Іванаўна.* Ну што тут тлумачыць. Проста адпомсціць хацелася, калі даведалася, што ягоная сакратарка, сучка драная, сына яму гадуе.

*Мадэст Алегрыч.* А-а-а. Ну пра гэта ў нас у саюзе ўсе ведаюць. Ужо дванаццаты год хлопцу пайшоў. А з твару – ну чысты Мікалай, гы-гы-ы.

*Наталля Іванаўна.* Табе гы-гы, а ў мяне ну проста нутро ўсё выгарала. Ты думаеш, што я на цябе, на такога крутога мачо запала?

*Мадэст Алегрыч.* Ну-у, Наташка-а, ну не гані-і...

*Наталля Іванаўна (раздражнёна).* Калі жанчынай кіруе помста, дык нават такія, як ты, робяцца патрэбнымі.

*Мадэст Алегрыч.* Ну ўсё-о, усё. Цішэй. Але ж адпомсціла! Ды яшчэ й як! І так адпомсціла, і гэтак, і яшчэ неяк. Хе-хе-е!

*Пан Старшыня.* Спадарства, сябры, прашу за стол. Наталля Іванаўна, Мадэст, Сняжанка, э-э-э, хопіць курыць, вяртайцеся. Цёця, як вас там, э-э-э, Марыя, прашу-у.

*Усе вяртаюцца за стол.*

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна пятая

*Душа Мікалай, Святло, Душа Андрэй, Душа Маці.*

*Пляцоўка другога ўзроўню.*

*Душа Мікалай.* Ну вось і пацвердзілася. Аказваецца, ніякія гэта былі не плёткі. Мадэст, сука-а, ну як ён мог? А Наталля? А што – Наталля? Дзіўная, аднак, штука выходзіць, – каб быў я зараз у зямным фармаце, дык з Мадэста, напэўна, кішкі выпусціў бы дый Наташу не пашкадаваў бы. А цяпер не так, каб было ўсё "да ліхтара" – во, ё-маё, зноў ліхтар – а

нeяк і думаць пра тое лайно лянуюся. Нібыта яно мяне й не датычыць. А можа гэта й так. Бо я ў фармаце зямным, і я ў фармаце нябесным – хіба адно й тое ж? Наўрад ці. Дый якія могуць прэтэнзіі да іншых, калі й сам не лепшы.

*На пляцоўцы чацвёртага яруса – сполахі.*

*Святло (голас).* Што праўда, то праўда. Самі ж прыдумалі прымаўку “што пасееш, тое й пажнеш”. Вось і пажынаем. Хутка й падлічым умалот: чаго болей, зярняткаў ці мякіны.

*Зацямненне. Асвятленне перамяшчаецца на пляцоўку другога і трэцяга ярусаў. На пляцоўцы трэцяга яруса з’яўляецца постаць хлопца гадоў дваццаці пяці. Ён павольна ў задуменні ідзе ўздоўж пляцоўкі. На сярэдзіне спыняецца, паварочвае галаву, глядзіць уніз, углядаецца на постаць душы Мікалая, затым рэзка, нібы раздражнёна адварочваецца і хутка сыходзіць.*

*Душа Мікалай (збянтэжана глядзіць услед хлапцу).* Андрэ-эй? Няўжо ён? Ну-у вельмі ж падобны. Але ж... але ж нешта тут не так. А можа нехта проста яго нагадвае. У Андрэя ж, ажно ўспамінаць жахліва, – палова цела засталася: ні рук, ні ног, дый твар скалечаны быў. А ў гэтага ўсё на месцы: высокі, прыгожы, на сваіх нагах. Не-е, відаць, гэта ўсё ж нехта іншы. Дый мяне не пазнаў. Не-е, напэўна я ўсё ж памыліўся. Але ж і Андрэй дзесьці тут. І як я яму ў вочы зірну, калі сустрэнемся?

*У правым куце пляцоўкі трэцяга яруса з’яўляецца душа Маці.*

*Душа Маці.* Сыно-о-чак мой мі-і-ленькі. Як жа яму, беднаму, цяжка зараз. Пашкадуй яго, Госпадзе, памажы-ы яму-у (хрысціцца).

*На пляцоўцы чацвёртага яруса ўспыхвае святло.*

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна шостая

*Пан Старшыня, Яўхім Пэцкальд, Душа Мікалай, “Куратар”.*
*Пляцоўка сцэны, памінальны стол.*
*Пан Старшыня (з чаркаю ў руцэ).*

Слухай маю каманду, папрашу ўсіх, э-э-э, налі-іць. Як старшыня саюза мастакоў нашай, э-э-э, краіны, ад імя, так с-сказаць, і па даручэнню-у ўсяго шматлікага, э-э-э, калектыва пра-апаную т-тост, э-э-э, прабачце, пра-апаную ўшанаваць памяць сапраўднага класіка нашага мастацтва. Тое, што Коля, э-э-э, к-класі-ік, не падлягае сумненню, але гэта зараз падцвердзіць яшчэ адзін к-класі-ік, э-э-э, наш вядомы жывапіс-сец Яўхім П-пэцкальд, які, да ўсяго ўсякага, і заслужаны-ы, і лаўрэат, э-э-э, і ўсё такое ўсякае. Давай, Фіма-а, скажы нам, ну-у-у ты ж ведаеш, што да чаго (*выпівае*).

*Яўхім Пэцкальд.* Ну-у што я магу-у сказаць... Мы з Колем вучыліся ў адной групе. Коля не толькі быў таленавітым, але й вельмі актыўным ва ўсіх студэнцкіх справах: ну-у там збіраў камсамольскія ўзносы, ну-у хадзіў у дружыну, часта выступаў на сходах. Актывіст – адным словам. І нездарма ж яму, а не каму іншаму, аказалі такі давер – прапанавалі ўступіць у партыю. А-а ш-што? Гэта ж сапраўды высокі давер: студэнту – і ў партыю! І ўжо ў яго дыпломнай рабоце “Хадакі ў Леніна” – во, якую тэму дазволілі! – Коля паказаў сябе майстрам гісторыка-патрыятычнай тэмы. А пасля пайшло-паехала.

*Хтосьці з памінальнікаў.* А што паехала і куды?

*Яўхім Пэцкальд (не зважаючы).* І што б там ні казалі зайздроснікі і няўмекі, а хай паспрабуюць падняць такую тэму. Вось жа цыкл жывапісных палотнаў “Камсамольскія будні” – сапраўдны гімн, так сказаць, маладосці, мэтанакіраванасці, патрыятызму... Нездарма ж Коля і памеры браў ого-о якія, і фармат заўсёды незвычайны. З такім фарматам можна, хе-хе-е, і за вечнасць, так сказаць, зачапіцца. І прыйдзе час...

*Зацямненне.*

## Сцэна сёмая

*Душа Мікалай, Душа “Куратар”. Пляцоўка другога яруса.*

*Душа Мікалай (скрушна).* Эх, Фіма, Фіма, што ты ведаеш пра фармат, дый пра Вечнасць таксама? І якія там камсамольскія будні? Ты ж памятаеш – дачу трэба было дабудоўваць, а тут такі заказ падвярнуўся! Хто ж адмовіцца? Але пры чым тут жывапіс, Фіма? А вось калі мы з табой, учарашнія студэнты, паехалі на Браслаўшчыну. Успомні! Які гэта быў цуд! Якое дзіва! Божа, Божа. (*На пляцоўцы чацвёртага яруса ўспыхвае святло).* Калі і было ў маім жыцці мастакоўскае шчасце, дык тыя два тыдні на Браславах. І калі я й быў сапраўдным жывапісцам, дык хіба ў тых сямі-васьмі краявідах, што там напісаў. Вось гэта і ёсць патрыятызм – ціхі, спакойны, праўдзівы. Няўжо Левітан ці нашы Бялыніцкі-Біруля ды Цвірка – меншыя за нас патрыёты? Э-эх, Фі-іма.

*Высвечваецца пляцоўка трэцяга ўзроўню. На ёй стаіць сутулая старэчая постаць мужчыны гадоў 75-ці. Постаць топчацца на месцы, паварочваецца то ўправа, то ўлева, няўклюдна імітуючы хаду. Раз-пораз постаць спрабуе зрушыцца з месца, але бачна, што ёй нешта замінае. Душа Мікалай спачатку абыякава разы два-тры азіраецца на тую дзіўную постаць, затым, нібы спахапіўшыся, паварочваецца, углядаецца больш пільна.*

*Душа Мікалай.* Гм-м-м, нешта, здаецца, знаёмае. Ну так, дзесьці я яго бачыў. Але дзе-е, калі-і? Хто такі? (*Намагаецца ўспомніць.*) Сярод старых у мяне дакладна такіх знаёмых не было. Але чаму сярод старых? А можа гэта калісьці?

*Ён зноў углядаецца і ўрэшце лёгенька б’е сябе па галаве.*

*Душа Мікалай.* А-а-а, ну так і ё-осць. Ё-он, ну канечне ж, ён. Толькі састарэў моцна. Цяжка й пазнаць. А калісьці ж... Але калі тое было, пан “Куратар”?.. Толькі што ж гэта з ім? Чаго тузаецца туды-сюды? Дзі-іўна. Во-о, ёлкі, нават і не ведаю, як яго ўнізе звалі – усё “Куратар” ды “Куратар”... Начальнік курэй, хе-хе-е.

*Зацямненне.*

## Сцэна восьмая

*Васіль Шрайбовіч, Сняжана, Душа Мікалай, памінальнікі, Святло.*

*Пляцоўка сцэны. Пан Старшыня ды іншыя памінальнікі бязгучна, але з нецвярозым імпэтам, працягваюць памінаць. У левым кутку авансцэны – Сняжана і Васіль Шрайбовіч, які спрабуе кавалерыцца перад дзяўчынай.*

*Васіль Шрайбовіч.* Сняжаначка, гм-м-м, вы-ы такая, гм-м-м, такая цудоўная! Гэта не камплімент, гэта канстатацыя ачэвіднага факта.

*Сняжана.* О-ой, спа-а-си-и-ба, Васи-илий, извините-е – забыла, как вас по отчеству.

*Васіль Шрайбовіч.* Для вас, Сняжаначка, проста Васілій, можна нават, гм-м-м...

*Сняжана.* Спа-а-си-иба, о-очень при-иятно.

*Васіль Шрайбовіч.* Я ж вас, Сняжаначка, знаю ад самага вашага раждзенія. Ужо тады было бачна, што расце красавіца. Ну а цяпер вы проста супермадэль! Самы круты глянцавы журнал чахне без вашага фота. Каб вас у "Плэйбой", Сняжаначка, – усе б крутыя мачо былі б ля вашых ног, гм-м-м, но-ожак!

*Сняжана.* Ну-у вы мне льсти-ите, Василий.

*На пляцоўцы другога ўзроўню высвечваецца постаць Душы Мікалая. Ён пільна прыглядаецца і прыслухоўваецца да заляцанняў Шрайбовіча.*

*Душа Мікалай (саркастычна).* Ну-у, Васіль. Ну казёл стары! Гляньце вы на яго – кавалер драны!

*Зацямненне. Святло – на пляцоўку сцэны.*

*Васіль Шрайбовіч.* А скажыце, Сняжаначка, вам не надаела гэтая, гм-м-м, кампанія? Даруйце, я, канечне ж, панімаю – памінкі па бацьку, але ж...

*Сняжана.* Ну-у как вам ска-а-за-ать? Сами ведь понимаете.

*Васіль Шрайбовіч.* А што, еслі...

*Сняжана.* Вы что-то хотите предложить?

*Васіль Шрайбовіч.* А што, еслі нам з вамі ціхенька здзелаць ногі, хе-хе, ды працягнуць гэты вечар у якім-небудзь клёвым рэстаранчыку?

*Сняжана.* При-и-кольно-о...

*Васіль Шрайбовіч.* Ну дык як? Які вам рэстаран больш нравіцца?

*Сняжана.* Изви-и-ните, Василий, мне нужно срочно-о позво-онить (*адыходзіць на правы бок авансцэны).*

*Сняжана.* А-а-лё-о, Ки-ису-уля-а, при-иветики-и, хо-хо-о. Слы-ышь, ты пре-едставляешь, – меня тут папиков дружбан пытается, хо-хо-о, закадрить. Та-акой при-икол, я про-осто угораю. При-икинь. (*Кароткая паўза.)* Ну-у как тебе ска-азать, песок, вроде, ещё не сыплется, но-о, как говорится, третьей свежести, хо-хо-о. *(Кароткая паўза.)* Не-ет, с ба-абло-ом у него всё как раз на ма-ази-и. Ты так считаешь? Умничка-а. Ну-у что ж, крутане-ем старичка. Собирайся. Чуть позже перезвоню, хо-хо-о. *(Вяртаецца да Шрайбовіча).*

*Васіль Шрайбовіч.* Ну-у што-о, Сняжаначка?

*Сняжана.* Всё-о кла-ас! Ва-ась, а ты-ы такой при-ико-ольный, хо-хо-о.

*На пляцоўцы другога ўзроўню высвечваецца постаць душы Мікалая.*

*Душа Мікалай.* З глузду можна з'ехаць, – мая дачка, мая Сняжанка, – і з гэтым старым казлом. А зрэшты, не старэйшым за мяне. Ду-ур-до-ом нейкі! Але ж каб якая іншая, а то ж дачка! Поўная шыза-а! Во-о выхаваў! Во-о пастараўся! Бо-ожа-а, мая Сняжанка-а-а.

*На пляцоўцы чацвёртага яруса ўспыхвае святло.*

*Святло (голас).* Пажынай, што пасеяў. Дый што за імя такое дачцэ прыдумаў? С-с-сня-жа-ана-а, цьфу-у-у. Калі-небудзь нават памянуць не будзе як. Калі будзе каму.

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна дзявятая

*Цётка Марыя, пан Старшыня, Наталля Іванаўна.*

*Пляцоўка сцэны. Памінальны стол у цьмяным асвятленні. Святло высвечвае левы куток авансцэны, дзе стаіць цётка Марыя. Яна павольна рухаецца да цэнтра авансцэны. Спыняецца, звяртаецца да залы.*

*Цётка Марыя.* Божа, Божухна-а. (*На пляцоўцы чацвёртага яруса ўспыхвае святло.)* Даруй нам, грэшным, не папусці, каб самыя блізкія нас ацураліся, каб дзеці не помнілі бацькоў сваіх, ні дзядоў, ні прадзедаў. Бо няма горшае долі, калі цябе ўсе забылі, калі тваю душу няма каму памянуць, нібы ты й не быў на свеце гэтым. Не прывядзі, Госпадзе. Уразумі тых, хто забыўся, чый ён, якога ён роду-племені, хто ацураўся свайго, каб слугаваць чужому. Адвядзі ад нас гэты грэх, Госпадзе. *(Хрысціцца.)*

*Непрацяглая паўза. Цётка Марыя павольна ідзе ў правы бок авансцэны.*

*Цётка Марыя (сама сабе).* А гэтая ж цаца маляваная нават з бацькавых памінак уцякла. От гора-а-а. Ды яшчэ й з гэтым карчом старым – ліха на яго. Божа, Божа-а, даруй ім, неразумным, бо не ведаюць, што вытвараюць.

*Святло – на памінальны стол.*

*Пан Старшыня.* Панове-е, на-алівайма-а. Цё-о-ця-а, э-э-э, як вас там, Мар-Мар-рыя-а, – за сто-ол! А дзе-е Ш-шрайбо-ові-іч? А С-сняжанка дзе-е?

*Наталля Іванаўна (спрабуе змякчыць сітуацыю).* Яна, гм-м-м, ту-ут. Ёй трошачкі зрабілася блага-а. Нічога, яна зараз вернецца. Працягвайце-е.

*Пан Старшыня.* Ва ўсіх наліта-а?

*Зацямненне. Святло перамяшчаецца на пляцоўку другога і трэцяга ярусаў.*

## Сцэна дзясятая

*Душа Мікалай, душа "Куратар", Святло, душа Андрэй.*

*На левым баку пляцоўкі другога яруса сядзіць душа Мікалай. Заўважыўшы на правым баку трэцяга яруса постаць душы "Куратара", падымаецца. Душа "Куратар", убачыўшы душу Мікалая, няўклюдна падымаецца, прыглядаецца.*

*Душа "Куратар".* Эй, унізе-е, паслухайце, здаецца, я вас недзе бачыў. Тут у мяне сустрэчы вельмі рэдкія і абмежаваныя, і тое, што нам дазволілі пабачыцца, сведчыць, што мы былі калісьці знаёмыя. Але дзе і калі? Чакайце, чакайце, я паспрабую сам. Гм-м-м, та-ак: школа, войска, інстытут, служба... Так-так, менавіта служба. Скажыце, вы ў мастацкім інстытуце вучыліся? Я не памыліўся?

*Душа Мікалай.* Не. Я сапраўды там вучыўся.

*Душа "Куратар".* Ну так і ёсць. Да мяне ваш аб'ект курыраваў, здавалася б, даволі вопытны аператыўнік. Не вытрымаў, павёўся з нейкай вашай прыгажуняю, ну і... Карацей, заваліў службу. Пасля яго мяне на ваш аб'ект прызначылі. Тады мы з вамі й пазнаёміліся. Памятаеце?

*Душа Мікалай (неахвотна).* Ну-у та-ак, хіба ж вас забудзеш?

*Душа "Куратар".* О, так. Таму, хто на нас забыўся, мы заўсёды нагадаем. Вы ж ведаеце.

*Душа Мікалай.* Яшчэ як!

*Душа "Куратар".* Прабачце, а як вас там звалі?

*Душа Мікалай.* Мікалай, Мікалай Пятровіч.

*Душа "Куратар".* Цікава. Толькі тут па-людску знаёмімся, хоць ужо й не людзі, хе-хе-е. Я ж там, ну, у зямным фармаце, вас толькі пад службовым псеўданімам ведаў. Дарэчы, як вас там?.. Чакайце, зараз успомню. Ага, аператыўны псеўданім "Белетрыст". Ну так жа, а-а?

*Душа Мікалай.* Ды так.

*Душа "Куратар".* Ну вось, таварыш "Белетрыст", бачыце, дзе сустрэцца давялося? І не па службе. А вы нешта ранавата сюды. Самі, ці дапамог хто?

*Душа Мікалай.* Ну як вам сказаць? Можа й сам, а можа... Ды банальны выпадак: наскочыў на ліхтарны слуп, і вось я тут. Я й не думаў, што гэта будзе так проста.

*Душа "Куратар".* Ніхто не думае. Кожны лічыць сябе нейкім адметным, асаблівым, а ўрэшце рэшт у кожнага ёсць, як у вашым выпадку, свой ліхтар ці свой кавалак сала, як у выпадку маім.

*Душа Мікалай.* Як гэта?

*Душа "Куратар".* Я-ак? Ды банальней і не прыдумаеш. Але каб толькі банальна, а тут нават ганебна, як для афіцэра: выпіў, закусіў, папярхнуўся і, як некалі ў вёсках казалі, не ў тое горла пайшло. Мне, палкоўніку, і так ганебна закончыць. Як глыбей падумаць, дык проста дзікі сорам: ты жыў, зоркі на пагонах памнажаў, службу адказную нёс, а недзе ў хляве падрастала свіння, якую пасля пусцілі на сала, якім ты потым закусіў і ўрэшце падавіўся. Свінскі фінал. Сорам і ганьба! Так што вам болей пашанцавала: ліхтар – у гэтым ёсць нават штосьці рамантычнае.

*Душа Мікалай.* Можа й так, але ж вынік адзін і той жа.

*Душа "Куратар".* Ну-у не скажыце-е. Вынік жа не толькі ў тым, як цябе ўперад нагамі вынясуць, але і якім запомняць, з чым звяжуць: вас – з ліхтаром, мяне – з салам, а лічы, са свіннёй. Палкоўніка – і са свіннёй. Ганьба! Я вось ду...

*Тым часам у левым кутку трэцяга яруса з'яўляецца постаць душы Андрэя. Душа "Куратар", убачыўшы яго, рэзка змаўкае і застывае ў нерухомасці. Душа Мікалай пільна прыглядаецца і ўрэшце пазнае душу Андрэя.*

*Душа Мікалай.* Ан... А-андрэ-эй (*нерашуча*). Анд...

*Душа Андрэй, заўважыўшы душу Мікалая, рэзка паварочваецца і знікае.*

*Душа Мікалай (скрушна).* Зразуме-э-ла... бачыць мяне не хоча. Ну-у ш-што ж, усё правільна.

*Святло (голас).* Пажынай, што пасеяў.

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна адзінаццатая

*Пан Старшыня, брат Андрэя, Душа Мікалай.*
*Пляцоўка сцэны. Памінальны стол.*

*Пан Старшыня.* Та-а-ак. У-усім наліць. Ну-у хто-о яш-шчэ, э-э-э, не гаварыў, а-а? А-а во-ось.

*Брат Андрэя.* Хто, я?

*Пан Старшыня.* Ну-у. Да-авай, скаж-жы-ы нам.

*Брат Андрэя.* Мы з Колем пазнаёміліся, дзякуючы майму брату Андрэйку, царства яму нябеснае *(непрацяглая паўза)*. Андрэй і Коля вучыліся ў адной групе і моцна пасябравалі. Такое сяброўства, трэба сказаць, не

часта сустрэнеш, – радней чым браты былі. І ўсё было цудоўна. Але пасля, як мне расказваў Коля, у іхняй групе завёўся стукач, які брата майго залажыў. На жаль, мы з Колем так і не змаглі вызначыць гэтую сволач. А шкада-а... Андрэйку з інстытута турнулі. Коля расказваў, што ён і да рэктара хадзіў, і подпісы збіраў, і ў міністэрства пісаў, каб Андрэя аднавілі. На жаль, не дапамагло. Брат пасля ў Аўган загрымеў, а там *(выцірае слёзы)*. Ну-у што ж, цяпер яны там напэўна сустрэліся. Будзе пра што пагаварыць *(выпівае, скрушна садзіцца)*.

*Святло высвечвае пляцоўку другога ўзроўню. Душа Мікалай у роспачы аберуч сціскае галаву і павольна апускаецца на калені.*

*Душа Мікалай (скрушна).* Ну-у во-ось, ўсе тыя гады я баяўся вось гэтага. Здаецца дачакаўся.

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна дванаццатая

*Душа Мікалай, Душа "Куратар", Святло (голас).*

*Святло высвечвае пляцоўку другога ўзроўню. Душа Мікалай стаіць на каленях, сціскаючы рукамі скроні, злёгку гайдаючыся ў бакі. Святло высвечвае пляцоўку трэцяга ўзроўню, на якой амаль нерухома стаіць постаць Душы "Куратара". Урэшце ён заўважае Душу Мікалая.*

*Душа "Куратар".* Гэй, калега, што з вамі? Хто тут вас мог пакрыўдзіць?

*Душа Мікалай (падхопліваецца).* Д-ды не-э, н-нічога, прыгадалася адна тагасветная прыкрасць. Але гэта драбяза, нічога.

*Душа "Куратар".* То й добра. Гэта ж – не салам падавіцца.

*Душа Мікалай.* А-а, вы ўсё пра тое.

*Душа "Куратар".* Як казалі пры тым жыцці, каму што баліць...

*Душа Мікалай.* Выбачайце, але мне здаецца, што вы перабольшваеце. З чаго вы ўзялі, што ваша імя сэнсава звяжуць са свіннёй? Ну ці ж мала, хто чым давіўся? А, каб, напрыклад, яблыкам ці слівай, дык што тады?

*Душа "Куратар".* О-о, каб жа яблыкам, а лепей персікам ці вінаградам! Дык жа не-э, не даў, а даў сала. Свінню, значыць, падклаў ка-анкрэтную!

*Душа Мікалай.* Хто не даў? Хто падклаў свінню?

*Душа "Куратар".* Як гэта хто-о? Ды вунь жа сядзіць, назірае (*паказвае на пляцоўку чацвёртага яруса)*. Гэта ж мы думаем, што ліхтар, свіння, пятля, куля ці яшчэ нейкая трасца – выпадковасць. Не-е-е. Гэта Ён сядзіць і выдумляе, каму ліхтар на дарозе падсунуць, а каму салам горла заткнуць.

*Святло (голас).* Ха-ха-ха-а-а...

*Душа "Куратар".* Во, чуеш? Смешна яму, бачыце, а мне – ганьба.

*Душа Мікалай.* Ды кіньце вы дурное. Каму гэта ў галаву прыйдзе нябожчыка са свіннёю звязваць толькі таму, што ён падавіўся кавалкам сала?

*Душа "Куратар".* Ну, мабыць, не толькі. Вось таму й не яблыкам і не абрыкосам. А пра тое, каму гэта прыйдзе ў галаву, дык на сваіх памінках я такога наслухаўся! Дакладней, усё ж не наслухаўся, а, так бы мовіць, падслухаў у галовах. Бо гаварылі ўсе – ух як хараша! Пры жыцці такога й блізка не чуў. А тут, аказваецца, усе так мяне любілі, так паважалі: і такі я ў іх цудоўны, выдатны, самы найлепшы. Гавораць, самі сваімі словамі любуюцца і не ведаюць, што я чую не толькі прамоўленае, але й тое, што не сказалі. А там – ой-ёй-ё-ой! З таго непрамоўленнага й выйшла, што не проста так мне сала падсунулі, каб падавіўся. Бо, маўляў, і сам

я – яшчэ тая свіння. А вы, калега, хоць прыслухаліся, што зараз унізе пра вас гавораць?

*Святло на 10-15 секундаў высвечвае памінальны стол.*

*Душа Мікалай.* Ды так, гамоняць, то й хай сабе.

*Душа "Куратар".* А ўсё ж я раіў бы вам паслухаць уважлівей. Вунь хаця б тых *(паказвае ўніз).*

*Зацямненне.*

## Сцэна трынаццатая

*Яўхім Пэцкальд, брат Андрэя, памінальнікі.*

*Святло высвечвае пляцоўку сцэны. За памінальным сталом нарастае разлад: памінальнікі бязладна гамоняць хто з кім, пан Старшыня, падпёршы галаву рукой, дрэмле. На авансцэне – Яўхім Пэцкальд і брат Андрэя.*

*Яўхім Пэцкальд. Ды* як жа? Канечне ж ведаў – у адной жа групе амаль чатыры гады правучыліся. Яго ж акурат напрыканцы чацвёртага курса выключылі. О-ох, шкада-а!

*Брат Андрэя.* Ну а як жа, спадар Яўхім, гэта адбылося? За што-о?

*Яўхім Пэцкальд.* Ды ў тым та й бяда, што ні за што. Андрэй некалькі разоў схадзіў на нейкія неафіцыйныя лекцыі: хтосьці з Акадэміі навук у майстэрні нейкага мастака пра гісторыю нашу старажытную расказваў. Ну пра тое, пра што ў кніжках тады не пісалі: ну там пра князёў нашых, пра Літву гістарычную, пра Грунвальд і Оршу, пра БНР... Андрэй нам пра ўсё тое расказваў, і ніхто з нас не думаў, што гэта нешта крамольнае. Але знайшлася гніда – хтосьці настукаў, ну а далей вам усё вядома.

*Брат Андрэя.* А хто ўсё ж тая гніда, як вы думаеце?

*Яўхім Пэцкальд.* Ця-ажка сказаць. Не хацелася б на кагосьці нагаворваць, але ж...

*Непрацяглая паўза.*

*Брат Андрэя.* Што, што-о але ж?

*Яўхім Пэцкальд.* Разумееце, ваш брат быў неверагодна таленавітым мастаком. Трэба прызнаць, што Андрэй быў на дзесяць галоў вышэй за ўсіх нас, калі казаць пра талент. Зайздросцілі яму многія. Але найбольш, мне здаецца, гэта прыгнятала Колю. Коля заўсёды імкнуўся быць першым. Але што ты зробіш, калі ёсць такі Андрэй? Ну і, як мы ўсё тады падумалі...

*Непрацяглая паўза.*

*Брат Андрэя.* Ну-у, ну, гаварыце.

*Яўхім Пэцкальд.* Ведаеце, я нічога не магу сцвярджаць, зразумейце мяне правільна, але толькі Коля, адзін з нас, быў ужо тады кандыдатам у партыю. Ну-у, самі разумееце, маглі даручыць... Ну-у так жа...

*Брат Андрэя.* Ведаеце, я й сам быў блізкі да гэтае думкі. Ну што ж, спадар Яўхім, цяпер ужо не нам з вамі ў гэтым разбірацца. Ну а калі так, як мы з вамі мяркуем, дык цяпер ім тым болей будзе пра што там пагаварыць.

*Зацямненне.*

## Сцэна чатырнаццатая

*Душа Мікалай, Душа "Куратар".*

*Душа Мікалай роспачна, нібы абяссілена, сядае на камень.*

*Душа "Куратар"*. Ну-у во-ось, а вы казалі, маўляў, гамоняць там нешта, той хай сабе. Не-е, калега. Але не раскісайце. А думалі вы так таму, што вам пашанцавала: ліхтар паслалі насустрач. Цудоўна! Гэта, напэўна, таму, што вы і самі неяк свяцілі. Іншая справа, што, магчыма, не туды і не для тых. А можа й сляпілі каго. Як самі думаеце?

*Душа Мікалай*. Ды так цяпер і думаю. Лічыў, што свячу ў патрэбным накірунку, а выйшла, што часта памыляўся. Дый расцерушыў я святло сваё. А калі й асляпіў каго, дык найперш сябе самога.

*Душа "Куратар"*. Ну не толькі, не то-олькі.

*Душа Мікалай*. Што вы маеце на ўвазе?

*Душа "Куратар"*. Ну-у як жа, хто-хто, а вы павінны памятаць: прынамсі аднаго вы асляпілі фатальна. Успомнілі? Думаю, ён быў далёка не адзіны, але яго-та я до-обра запомніў. Такіх крыштальных ідэалістаў мне больш не траплялася: чысты да агіднай стэрыльнасці, сумленны да шызафрэніі, наіўны да дзіцячай нявіннасці. Вам ён верыў, як нікому болей. Самым блізкім сябрам вас лічыў. Та-ак?

*Душа Мікалай*. Усё так, але ж...

*Душа "Куратар"*. Ніякіх "але ж", калега. Можа вы й пераканалі сябе, што ні ў чым не вінаватыя, але мяне, прафесіянала, пераконваць не варта. Ён па наіўнай шчырасці даверыўся вам, а вы перадаверылі гэтую шчырасць нам. Хоць што там было перадавяраць – нейкае дзіцячае дысідэнцтва з местачкова-нацыянальным ухілам. Аднак жа вашай ініцыятывы хапіла, каб з інстытута ён выляцеў, дарма, што суперталент і круглы выдатнік.

*Душа Мікалай*. Дык то ж ваша служба пастаралася.

*Душа "Куратар"*. А вы, значыць, не наша служба. Вы – звяно ў ланцугу, калега, і тое, што адбылося з вашым сябрам потым – найперш заслуга ваша. А далей быў Аўган, адкуль ён не вярнуўся, дакладней, вярнулі толькі палавіну ад яго: ні рук, ні ног, з адным вокам. Паўчалавека – ні паесці, ні, выбачайце, падцерціся, ні пачухацца, ні... павесіцца. Аднак жа неяк здолеў, ці можа дапамаглі, жменю нейкіх таблетак з'есці. Ну і ўсё. Фініта-а...

*Душа Мікалай*. Не трэба ўсё валіць на мяне. Дый, што я мусіў рабіць? Я ж ужо кандыдатам у партыю быў, нагрузкі кандыдацкія выконваў. А тут бачу – сябрук памыляецца, на слізкую сцежку скіроўваецца. Я ж па-сяброўску дапамагчы хацеў, думаў – папужаеце яго, дый усё. А яно вунь як выйшла.

*Душа "Куратар"*. Дык мы й папужалі. Усяго трошачкі. А ваш рэктар давай старацца. Рэктар спужаўся нашмат болей, чым той хлопец, дый давай шчыраваць перад начальствам. Вось так яно і бывае: пасвеціш – думаеш, дарожку асвяціў, а выходзіць, што асляпіў. А потым на вашай дарозе паўстае ліхтар.

*Душа Мікалай*. Ці свіння, э-э, выбачайце – сала.

*Душа "Куратар"*. Ну вось і паразумеліся.

*Душа Мікалай*. А вы даўно тут?

*Душа "Куратар"*. Пытанне недакладнае, калега. Тут не бывае даўно ці нядаўна. Тут няма ні ўчора, ні сёння, ні заўтра. Час – катэгорыя вельмі ўмоўная і дужа адносная. Гэта там, унізе, ён быў патрэбны, а тут... Што лічыць: ад чаго і да чаго? Дый навошта? Час ёсць там, дзе ёсць рух і мэта. А тут ёсць вельмі ўмоўная прастора і магчымасць болей ці меней у ёй перамяшчацца. Альбо адсутнасць такой магчымасці. У мяне акурат

такі паскудны варыянт. Мая тэрыторыя, калі браць па зямных мерках, – прыкладна паўтара на два метры.

*Душа Мікалай*. Нічо-ога сабе-э! Ды гэта ж нават не турма – ціскі нейкія.

*Душа "Куратар"*. Вось-вось, турма была б раскошаю ў пяць зорак. А тут адзіны плюс, калі хто знаёмы па зямным жыцці трапіцца. Хоць пагаворыш. Але ж такія сустрэчы даюцца не для таго, каб проста пагаманіць, а каб навабранец успомніў усё, на што так стараўся забыцца. На тое й даецца яму сорак дзён, каб прыгадаў нават ката, пакрыўджанага калісьці, не кажучы ўжо пра забытых бацькоў, здадзенага сябра. А ўспомніць трэба, каб уявіць, на які фармат ты можаш разлічваць у Вечнасці. Так што рыхтуйцеся, калега, галоўная ваша сустрэча, я думаю, яшчэ наперадзе. Напэўна ж, здагадваецеся з кім.

*Душа Мікалай*. Я ведаю дый гатовы.

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна пятнаццатая

*Наталля Іванаўна, цётка Марыя.*

*Пляцоўка сцэны. Памінальны стол ужо амаль нічым не нагадвае памінкі: гамана, анекдоты, часам смех. У левым кутку сцэны – Наталля Іванаўна, у правым – цётка Марыя.*

*Наталля Іванаўна*. Ну вось і ўсё, цяпер ты ўжо зусім далёка, калі верыць тваёй цётцы. А калі не *(паўза)*, дык нідзе, ніхто, нічога. Пустата пустаты ў пустаце. Бр-р-р (*страсянула галавой)*. Як гэта-а? Абсалютная пус-та-та-а. Як яе ўявіць? Ці ж гэта можна, – уявіць нішто? Ой. проста галава можа трэснуць. Не-е, лепей усё ж паспрабаваць так, як цётка. Добра ёй, калі думае, што гэта не канец. А можа й праўда, не канец? Бо як яго ўявіць, ды і што ўяўляць? Але ж заўсёды з канца нешта пачынаецца. Ну як бы там ні было, але на ўсякі выпадак даруй мне, Коля, бо й я табе ўсё даравала. А там, як ужо будзе. Калі цётка твая праўду кажа, дык мо калі й сустрэнемся. Бывай.

Ц*ётка Марыя*. Госпадзе літасцівы і міласэрны, прымі яго, грэшнага, выслухай яго, пашкадуй яго. Маці Божая Балесная, заступіся за яго. *(Хрысціцца.)*

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна шаснаццатая

*Душа Мікалай, Душа Андрэй, Святло (голас).*

*Высвечваецца левы бок пляцоўкі другога ўзроўню. Душа Мікалай сядзіць у скрушным задуменні. Высвечваецца правы бок пляцоўкі трэцяга ўзроўню, на якой з'яўляюцца постаць Душы Андрэя. Душа Мікалай узрушана падхопліваецца, робіць некалькі крокаў да цэнтра пляцоўкі.*

*Душа Мікалай*. Андрэй, ты-ы? Андрэйка, як я рады!

*Душа Андрэй*. А-а-а, і ты ўжо тут. Ну, ну-у *(абыякава)*.

*Душа Мікалай*. Я, праўда, рады, Андрэйка! Не чакаў цябе так блізка ўбачыць.

*Душа Андрэй (неахвотна)*. Прызнацца і я не чакаў, дакладней, не збіраўся. Але ж загадалі, то што ўжо рабіць... (*непрацяглая паўза)*. Ну-у бачыў, як ты на той ліхтар наскочыў. Колькі было табе, пяцьдзясят

шэсць? Ну-у, дзіва, што той ліхтар так доўга цябе чакаў. Хоць пытанне не да яго. Вунь уверсе *(паказвае на Святло чацвёртага яруса)* які Ліхтар свеціць: усё асвятляе, усё высвечвае, усё бачыць. Ён і вырашае, каго, дзе і як спыніць.

*Святло (голас – мякка).* Ну не бурчы ўжо, не бурчы-ы. Ты ж сам вырашыў сябе спыніць. Я ж не караў цябе за такое свавольства: рукі, ногі, вока табе вярнуў, ля сябе пасяліў, прастору даў неабмежаваную. Што табе яшчэ, мой харошы?

*Душа Андрэй.* Ды не бурчу я, Бацька, даруй. То ж я так, – убачыў во гэтага – успомнілася ўсякае такое.

*Святло (голас).* Нічога, мой дарагі. Супакойся. Усё ж добра. Ці ж не?

*Душа Андрэй.* Так. Дзякуй. Бацька.

*Душа Мікалай (лісліва).* А й праўда ж, Андрэйка, і рукі твае, і ногі цэлыя, дый вока. Во, дзіва!

*Душа Андрэй (абыякава).* Ну, гэта Яго Усясвятасці работа. Ён і вырашае, каму што аднавіць, у які ўзрост каго вярнуць. Ды не ў нагах-руках была праблема. Душа мая была на кавалкі падраная. І значна раней, чым мне рукі-ногі адарвала. А душу маю пакалечыў ты, Коля, бо не бывае большай раны, чым подласць самага блізкага чалавека.

*Душа Мікалай (узрушана).* Андрэй, паслухай, ды я ж зусім не-е...

*Душа Андрэй.* Маўчы. Што б ты тады ні хацеў, чым бы сябе ні апраўдваў, але ты растаптаў мяне, Коля. Пасля цябе нікому ўжо верыць было немагчыма. Гэта называецца – роспач, і сярод усіх найцяжэйшых грахоў – гэты самы цяжкі. Пасля такога мне было ўжо ўсё роўна, ёсць у мяне рукі-ногі ці няма. Калі ад майго цела засталася толькі палова, я нават ніякага шкадавання да сябе не адчуў. Дый ніякай крыўды на Лёс. Душа пустая была, выпатрашаная. І калі ўрэшце я патрапіў сюды, дык ногі з рукамі хутка аднавіліся, балазе не цялесныя ж. А вось з душой Бацьку *(паказвае на святло чацвёртага яруса)* доўга давялося павалтузіцца. Яе ж, душы маёй, амаль не засталося. З невялічкіх кавалкаў ледзь-ледзь наноў зляпіў.

*Душа Мікалай (са слязой у голасе).* Андрэ-эй, брат мо-ой, даруй мне пра-ашу цябе *(становіцца на калені).*

*Душа Андрэй.* Устань. Не перад тым кленчыш. Вунь перад кім трэба *(паказвае наверх).*

*Душа Мікалай.* Даруй мне, малю-у-у. Разумею, няма мне апраўдання, але ж талентам загубленым, напэўна, я хоць трохі заплаціў за той грэх.

*Душа Андрэй.* Талент, Коля, хоць і банальна гучыць, гэта дар Божы.

*Святло (голас).* Што ж тут банальнага?

*Душа Андрэй.* І калі ты гэты дар знішчыў, дык у тым не нашмат меншы грэх, чым той. Таму дараванне трэба выпрошваць не ў мяне, а вунь у Таго *(паказвае на Святло).* Ён жа добры, усіх любіць, можа й не паселіць цябе ў фармат паўкрока туды-сюды.

*Душа Мікалай.* А які мне фармат свеціць, Андрэй?

*Душа Андрэй.* Ды такі й свеціць. Так што прасі, каб хоць гэткі далі. Старайся, за цябе ж ужо вунь як просяць.

*Душа Мікалай.* Ты пра што гэта?

*Душа Андрэй.* Глянь уніз. Такая сябе замардуе, а за бліжняга душу гатовая аддаць. Пашанцавала табе.

*Зацямненне.*

## Сцэна сямнаццатая

*Цётка Марыя, Душа Мікалай.*

*Пляцоўка сцэны. Памінальная бяседа амаль аціхла: хтосьці дрэмле, хтосьці ледзь чутна гамоніць, хтосьці сядзіць самотна. Над памінальным сталом з'яўляецца абраз Маці Божай Вострабрамскай. З левага боку авансцэны – цётка Марыя. Становіцца на калені.*

*Цётка Марыя.* Усемагутны Божа. Ты пажадаў так рана паклікаць да сябе раба твайго Мікалая. Шчырым сэрцам, якое зранена болем растання, даручаю яго Тваёй бязмежнай міласці. Прашу Цябе праз заступніцтва Марыі, Маці Балеснай, якая стаяла перад крыжам Ісуса, прабач яму ўсе правіны, адары сваёй любоўю і прабачэннем, вызвалі ад усяго, што з'яўляецца прычынаю яго цярпення ў чыстцы і дазволь яму як мага хутчэй спазнаць паўнату жыцця ў еднасці з Найсвяцейшай Тройцай, Беззаганнай Дзевай Марыяй і ўсімі Святымі, праз Хрыста, Госпада нашага, Амін *(хрысціцца)*.

*Душа Мікалай.* Дзякуй табе, цётачка, дзякуй, родная. Даруй мне, мілая, што забываўся на цябе, што так рэдка адведваў тваю адзіноту, што заблытаўся ў тлуме, шукаючы нейкія дробныя ісцінкі, і нават не здагадваўся, што табе, амаль непісьменнай сялянцы, галоўная Ісціна вядомая і зразумелая. Даруй мне, неразумнаму. Дапамажы мне.

*З а ц я м н е н н е.*

## Сцэна васямнаццатая

*Душа Мікалай, Душа Андрэй.*

*Пляцоўка другога ўзроўню. Душа Андрэй набліжаецца да Душы Мікалая.*

*Душа Андрэй.* Вось бачыш, здавалася б, простая сялянка, малапісьменная, разумных кніжак, відаць жа, не чытала, для твайго зямнога асяроддзя – некультурная дурніца. Ну так жа? А вось жа мае ўсе шанцы калісьці атрымаць вельмі прыстойны фармат, не тое што шматлікія высакалобыя й нібыта культурныя прайдзісветы.

*Душа Мікалай.* А што ты лічыш галоўнай зямной ісцінай?

*Душа Андрэй.* Сумленне і міласэрнасць. Без іх усялякая прыватная праўда – падманная, з незайздроснай перспектываю на адпаведны фармат.

*Душа Мікалай.* Скажы, а які тут фармат найменшы?

*Душа Андрэй.* Х-м-м, бываюць такія, што меней за макавае зерне.

*Душа Мікалай.* І каго ж туды?

*Душа Андрэй.* О, гэткіх шмат: ну-у, Гітлер, Берыя, Чыкаціла, Сталін, Дракула, Менгеле, Пол Пот... А за ўсю гісторыю людства – безліч нягоднікаў, крывапійцаў, людажэраў, маньякаў, службістаў. Ну падумай, а якога фармату заслужылі тыя, хто за адну толькі ноч расстраляў 28 маладых беларускіх паэтаў, а нараніцу яшчэ чатырох? А той, хто нашага Купалу ў лесвічны пралёт спіхнуў? А Васюра, што паліў Хатынь? Цяпер, Коля, ты напэўна разумееш, які шыкоўны фармат чакае цябе? Гэта, калі параўноўваць з макавым зернем. Крок туды-сюды – гэта ж проста вольніца. Да таго ж маеш шанец гэты фармат паціху-патроху пашырыць.

*Душа Мікалай.* Як гэта?

*Душа Андрэй.* Ну тут усё залежыць ад глыбіні і шчырасці пакаяння. У параўнанні з Васюрам ці Берыяй твой грэх – грэх дзіцяці, што наклала ў штаны, з той толькі розніцай, што ты, Коля, наклаў сабе ў душу, дый шмат у якія душы яшчэ. Так што старайся, можа й адпрацуеш. Дый цётка

дапаможа – вунь як стараецца. Больш-менш вольны фармат табе, канечне ж, не свеціць, але пару-тройку метраў, магчыма, калі-небудзь і вымаліш. Ну ўсё, бывай *(адыходзіць)*. Думай, Коля, думай.

*Зацямненне.*

## Сцэна дзевятнаццатая

*Душа Мікалай, Святло (голас).*

*Асвятленне – на пляцоўку другога ўзроўню. Душа Мікалай знясілена апускаецца на камень, абхапіўшы галаву рукамі.*

*Душа Мікалай.* Во-ось яно як выйшла: жыў, мітусіўся, грошы зарабляў, лічыў сябе не абы-якім творцам, дабра ўсякага накапіў, на тлум розны сябе разменьваў. А яно ўсё аказалася хлудам, смеццем, пустатой. І што цяпер, што, як кажуць, у сухім астатку? Пус-та-та-а. І гідка нават чуць, што там унізе за памінальным сталом плятуць. Нават у геніі мяне запісалі. Смех дый годзе. Геній – гэта той, каму ўрэшце даецца неабмежаваны фармат прасторы ў Вечнасці. Гэта калі маеш фармат існавання паўсюль, ва ўсім і назаўсёды. І можна быць залежным ад Бахуса ды іншых грахоўных спакусаў, але напісаць геніяльны раман, ці дзівосныя вершы; можна быць напаўвар'ятам, які ў прыступе шаленства адрэзаў сабе вуха, але ў неабмежаванай прасторы застацца Ван Гогам; можна быць нейкім бажаволкам, амаль крэтынам для звычайных людзей, невыносным, але ў фармаце Вечнасці застацца Моцартам. І нават можна застацца напаўчалавекам без рук, без ног, амаль без зроку, але ўратаваць сваю душу. Вось і ўсё, бадай. *(Падымаецца.)*

*Святло (голас).* Ну калі ты ўжо так думаеш, дык падымайся, пагаворым.

*Душа Мікалай.* Я гатовы. Іду.

*Падымаецца па лесвіцы да вышэйшага яруса. Гучыць царкоўны харал, званы. З левага і правага бакоў пляцоўкі трэцяга ўзроўню з'яўляюцца постаці Душы Маці, Душы Андрэя, Душы Уладзіміра. За памінальным сталом усе ўстаюць. Стаяць нерухома.*

*Заслона.*

## Эпілог

*На авансцэне з'яўляецца хлопчык гадоў дзесяці ў белым адзенні. Выразна чытае:*

І на цёмнай стаўшы мяжы,
Сам сабе адкажы:
Як ты жыў, палоннік аблуд?
Хто ты ёсць, ці ведаеш сам?
Чым мяркуеш застацца тут?
Чым апраўдвацца будзеш там?
На мяжы святла і пакут
Перагледзь свае дні, гады:
Што на памяць пакінеш тут?
Што на згадку возьмеш туды?
Перагледзь назбіраны скарб
Па капейчыне, па грашу,
Перад смутнай дарогай каб
Як да свята прыбраць душу.
Каб нязведаную далячынь
Ёй не засціў ні тлум, ні хлуд...
Каб валізы не валакчы
Па дарозе на Страшны Суд.

*1.01.–15.01.2018 г.*

Томас Вянцлава



...ці ёсць сэнс у літасці й пакутах
і ці ацалее мастацтва,
пазбаўленае нормаў...

# Пейзаж з Паліфемам

* * *

Гэтак – буду, а потым знікну,
Хоць пакуль што яшчэ жывы,
З нас, аднак, свет расце вялікі
Тоўшчай цёплай высокай травы.

Ўрэшце будзе крышталь дапамогай –
Дзе чатыры ёсць грані святла,
Вапняковая алгебра мовы,
Інтэгральная з мелу страла.

*1961*

### БЕРЛІНСКАЕ МЕТРО. СТАНЦЫЯ “ГАЛЕШЭС ТОР”[1]

*Пераклад
з літоўскай
Лявона
БАРШЧЭЎСКАГА.*

У Еўропе зіма. Пад магутным асфальтам палі́ –
Ўсе ў маршчынках: трашчаць, як засохлыя скуркі
каштана,

Лагаднее драпежны абшар. І зіма на зямлі,
Косць, бетон і кардон на паўвыспе Берліна ад рана.

Бачым бок адваротны нябёс. У адзін, другі бок
Ходзіць варта ў святле між муроў, дзе і плямы, і латы.
Нерухомасць пустэчы. А ніткі зматанай клубок
Не вядзе ў іншасвет[2]. На Еўропу снег сыпле заўзята.

Колькі міляў, гадоў ты вандрueш, што цяжка пазнаць,
Дзе, урэшце, апынешся, у Ерыхоне ці ў Мітэ[3], –
Пошум гэты з трубою біблійнаю не параўнаць:
Планы местаў мяняюцца[4], рупна працуюць тэрміты[5].

Павярніся назад і з учора – у заўтра зірні:
Там ляжыць чалавек чорнай плямай на снезе між бруду[6],
І яму ўжо не ўбачыць: на "Галешэс Тор" з цішыні
Выпаўзае кардонны вагон з ніадкуль і ў нікуды.

*1979*

## *ВУЛІЦА ПЕСТЭЛЯ[7]*

*...a low dishonest decade...[8]*

**W. H. Auden**

Горад, затоплены летам,
Пыл толькі ў шыбах адбіты,
У задымлёным бакале
Ўспыхваюць вінныя кроплі.
З сонца прыправай паветра,
Ку́палаў бляск пазалоты,
Водарасці, як пісьмёны,
Ў цемрадзі вузкіх каналаў.

Што тут шукаеш, паэце?
Даўні балкон, ледзь відочны,
Знак на парэпаным тынку,
Свет, што ўсцяж пылам зрабіўся.
Гордзіеў вузел рассеклі,
Вапна, асфальт і дахоўка,
Смецце на лесвічных клетках,
Бруд, бачны ў пройме дзвярэй.

Тут – дзе калісьці супалі
Жэсты, жыццё, гук – натоўпы
Вулічныя прамаўляюць
Моваю, зменяенай трохі.
Чэрвень трапечацца ў белі,
Мозг скамянелы, асleплы

Болей ужо не змяшчае
Часу, што страцілі мы.

Ў нас век стварае вымову,
Сінтаксіс, архітэктуру,
Кроплі святла на калонах,
З бронзы усмешку – у нішы.
Можа, бяда толькі й голад
Супрацiўляюцца веку,
Можа, адно цені й страхі
Ў нас засталіся з юнацтва.

Звыкніся ж плаваць у страху,
Як у вадзе тая рыба.
Страх тут нашмат больш трывалы
За чалавечыя целы.
Дым у сярэдзіне дня
Пляцам адкрытым да смаку.
Вапна і гіпс, і дахоўка,
Знакі на тынку лядашчым.
Што нам з жыцця засталося? –
Колькі мядзяных манетак:
Час аддаў рэшту на месцы
Ў банку тутэйшым абсурдным.
Жэст і матыў камянеюць.
Вуліца ў спрэчцы з праспектам.
Дзіўна, што ўбачыцца нам тут
Выпала неяк раней –

Не ў Язафатавым доле
І не ў гаі каля Леты,
Нават не ў космасу пустцы,
Дзе, як багі, валадараць
Кельвін ужо з Бекерэлем.
Кроплі сцякаюць глінтвейну,
Порстка сплываюць аблокі,
Ў чэрвені белым, гарачым.

Тлумы плывуць, гукі мовы,
Праўда, сэнс нашага ўмельства –
Страхі разменьваць на словы,
Час сканцэнтроўваць у сэнсы,
Пыл задрыжыць толькі й голас.
Голас жа ведаць не можа,
Колькі напраўду змясціць
Бляску й самоты ён здольны.

*1988*

### ЗАРЭЧЧА[9]

Паміж ліпаў шумных, на ўзятым у камень
беразе рэчкі бурлівай, падобнай да Тыбра,
з маладзёнамі-барадачамі мы п’ем джын “Gilbey’s”.
Сутонее. Дым навокал, чутно пазвоньванне шклянак.
Абодвух не знаю. Сяброўства меў з бацькамі.

Што ж, мяняюцца пакаленні. З дыктафонам
непарадак: заядае. Маіх суразмоўцаў
цікавіць тое, што й мяне калісьці:
ці ёсць сэнс у літасці й пакутах і ці
ацалее мастацтва, пазбаўленае нормаў.

Быў я гэткі, як яны, аж пакуль дзіўны
лёс мяне не напаткаў – а й ад іншых не лепшы –
ды я ведаю: зло ніколі зусім не знікне,
слепату ж магчыма пераадолець,
а за сны куды болей значаць вершы.

Улетку часта, прачнуўшыся на світанку,
я адчуваю без страху набліжэнне часу,
калі прыйдуць новыя пакаленні
і ўсё ад нас пяроймуць: слоўнік, неба,
соль, хлеб, а мне застанецца адно свабода.

*1998*

### ДЫКТАТАР

На фабрыцы, за кратамі, на троне быў ён селянінам.
Вучыў мякіну аддзяляць ад збожжа. Умеў запрэгчы пару
валоў упартых. Клопат гэтакі бывае добрым дарам
жывёле свойскай ды прыладам; стымулам – для чалавека.
Саломай, бізуном. Ён ведаў, як яму служыць павінны
сябры ды ворагі. Стлуміў усё благое й небяспеку,

жыць загадаў на новы лад. Яго тэатры забаўлялі.
Як да яго прыходзіць пачалі і прызнавацца проста
ў правінах, тут яму ўжо не ставала сцэны ды падмосткаў,
Ён з мармуру ды яшмы ўзвёў на месцы сметніц вавілоны –
сабор Пятра, Вестмінстэр, Нотр-Дам маглі змясціцца ў зале,
што з плітаў выклалі пустых: каб сілуэт той, на балконе
з’явіўшыся, бы клічнік, разглядаць мог, як натоўп шалее –
і стукачы, й даяркі – проста на вялізнай плошчы,
на Елісейскіх тых палях (узору роўных у сваёй раскошы,
і нават больш маштабных, хоць зусім і не ў Парыжы).
Ды ўсё пайшло не так. Ён пахаваны ў іншым Элізеі,
пад слоем глебы, у пякельнай спёцы, пад пахілым крыжам

і зоркаю чырвонай (каб грахі багі абодва адпусцілі).
Над насыпам вунь сцяг відаць у колерах дзяржаўных
і штучныя вяргіні, бы разявіўшы раты цікаўна,
у небагатым сціплым згуртаваліся фаянсе.
Лісток і словы: “Дзякуй за свабоду”, бо сабе зманілі б
усе, банальна кажучы яму на гэтае: *sic transit*.

Далей там – пліты мёртвыя, парэпаныя карты-вокны.
Нібыта на канверце, цэнзарам ускрытым, плямка клею,
бляск неба жорсткага. Сталіца плакаць жа не ўмее.
Працятыя склерозам трубы. Беспрацоўе, шмат бязладу.
Мільёны без прытулку (ён яшчэ забараніў спароны),
сабакі валацужныя паўсюль. Тут так і доўжацца Каляды

з тае пары, калі скрываўленым брызентам яго цела
накрылі й засыпа́лі чарназёмам вечка дамавіны.
Да смерці верыў ён: яго ў вяках абагаўляць павінны
ўсе людзі. Там варона ткнецца, дзе жабрацкі шум тапаляў.
Шкаляр яго імя ў падручніку захлопнуў смела
і не ўзгадае болей.

*2009*

* * *

Нібыта вечны, нам здаваўся перадых
па ўсім тым гараванні і няладзе:
сябры, ўздыхнуўшы ад турбот сваіх,
чыталі вершы й гаманілі ў садзе.

Дух мудрасці над школамі ўзышоў,
плыло гучанне флейты пад калоны,
на плошчах не сціхаў гул кірмашоў,
туды прыправы везлі галеоны.

Нас цешылі мазаік прыгажосць,
пладоў раскоша, што пад сонцам спела,
ды змрочныя прарокі нам, як ёсць,
адны сказалі праўду, зразумела.

Ў пакоі сталь грукоча. Ў вышыні –
цямрэча, булькатанне мора.
Хай згасне свечка. Дзверы зачыні:
Калігула за імі ды паморак.

*2014*

## ПЕЙЗАЖ З ПАЛІФЕМАМ

Тут у бурай гары – прорвы й пячоры гулкія.
Лёд сцяжыну закуў. Восень ваду ўскалыхвае.
Краявід, як сляпы, нашыя ловіць воклічы –
Вушы, нерваў вузлы, мозг яго, нібы ў волата.

Не падманвай свой лёс, цешся днём і прасоленай
Стужкай пены: адплыў на пясчынках пазначаны.
Вецер лісце сарве, ўзбурыць травы ды вогнішча –
На вяршыні хрыбта вочнай ямай чарнеючы.

Праясненне нябёс. Бог зрушыў мапу зорную.
Ноч лістапада, ўсцяж бляск яе мельхіёравы.
Леанідаў паток б'е ў гарады аскепкамі:
Ў полымі іх плывуць разам яры з пратокамі.

*2014*

---

[1] Так называецца станцыя метро ў Берліне. У часы існавання Берлінскага муру была адной з першых станцый на заходнім баку. Аўтар у вагоне метро праехаў з Заходняга Берліна ва Усходні і вярнуўся назад.

[2] Вобраз з верша Райнэра Марыя Рыльке.

[3] Мітэ (*ням. Mitte*) – тут: цэнтр Берліна, па якім праходзіў Берлінскі мур.

[4] Прыхаваная цытата з Шарля Бадлера.

[5] Метафара для абазначэння будаўнікоў Берлінскага муру.

[6] Маецца на ўвазе застрэлены з усходняга боку Берлінскага муру ўцякач.

[7] Вуліца ў Ленінградзе (Пецярбургу), на якой доўгі час перад сваёй эміграцыяй жыў Іосіф Бродскі.

[8] *...подлае, хлуслівае дзесяцігоддзе...* У.Х. Одэн

[9] Раён (*літ. Užupis*), які прымыкае да цэнтра Вільні. Улюбёнае месца сустрэч мастакоў і наогул творчых людзей.

[10] У вершы, створаным па матывах і, пэўным чынам, на ўзор вядомага верша "Смерць тырана" амерыканскага паэта У.Х. Одэна, апісваецца палац, падобны да таго, які быў пабудаваны ў Бухарэсце на загад камуністычнага дыктатара Нікалае Чаўшэску, расстралянага пасля рэвалюцыі 1989 г. у Румыніі.

[11] Паводле гамераўскай "Адысеі" Паліфем быў адным з цыклопаў, сынам бога Пасейдона і німфы Таосы.

О. Генры



...водар рэзеды ахутваў яго,
пах, які яна любіла і зрабіла яго сваім –
адкуль ён з'явіўся?..

# Адно жаданне

***Тры апавяданні***

## Тысяча даляраў

– Тысяча даляраў, – строга і ўрачыста паўтарыў адвакат Талман, – і вось грошы...

Дакрануўшыся да танюткага стосіка новых пяцідзесяцідаляравых купюр, малады Джыліян не стрымаў усмешку.

– Чорт ведае што за сума, – дабрадушна патлумачыў ён адвакату. – Каб было дзесяць тысячаў, можна было б іх пусціць на вецер, быццам феерверк... Нават пяцьдзясят даляраў стварылі б меншую праблему.

– Вам даведзена да ведама апошняя воля вашага дзядзькі, – працягваў Талман з прафесійнай сухасцю. – Не ведаю, ці звярнулі вы ўвагу на дэталі. Мушу пра іх нагадаць. Вы павінны даць справаздачу пра сродкі з рахунку памерам у тысячу, як толькі здолееце іх патраціць. Гэта выключна

важная ўмова. Пра далейшыя інструкцыі будзе сказана пазней, як таго і пажадаў містэр Джыліян.

– Можаце на мяне разлічваць, – ветліва адказаў малады чалавек, – нягледзячы на дадатковыя выдаткі, якія, пэўна ж, спатрэбяцца. Мне давядзецца наняць сакратара. Ніколі не быў моцны ў кіраванні рахункамі.

Джыліян пацёгся ў свой клуб. Там ён знайшоў чалавека, якога ўсе звалі Старым Брайсанам.

Стары Брайсан быў спакойны, саракагадовы і самотны. Ён чытаў кнігу ў куце і, пабачыўшы Джыліяна, толькі ўздыхнуў, адкладаючы кнігу ды здымаючы акуляры.

– Стары Брайсан, прачніся, – сказаў Джыліян. – Я распавяду табе адну смешную гісторыю.

– Лепш бы ты распавёў яе камусьці ў більярднай, – прамармытаў Стары Брайсан. – Ты ж ведаеш, я цярпець не магу твае гісторыі.

– Гэта гісторыя лепшая за тыя, што звычайна, – адказаў Джыліян, пакручваючы цыгарэту, – і я рады распавесці яе першаму табе. Занадта сумна і смешна, каб ганяць пад яе більярдныя шары. Я толькі што з юрыдычнай канторы дзядзькі-нябожчыка. Ён адпісаў мне ажно тысячу даляраў. Ну і што чалавек можа зрабіць з тою тысячаю?..

– А я думаў, – сказаў Стары Брайсан, дэманструючы столькі цікавасці, колькі яе мог бы выявіць графін воцату, – што стары Сэпцімус Джыліян каштаваў з паўмільёна.

– Гэтак яно і было! – весела пагадзіўся Джыліян. – І вось яму цюкнула пажартаваць. Усе свае капіталы ён пусціў на мікробы. Частка пойдзе мужыку, які вынаходзіць новую бацылу, а рэшта – на заснаванне бальніцы, якая працягне гэта далей. Ёсць пару дробязяў са спадчыны, якія дастануцца чужым людзям. Дварэцкі ды ахмістрыня атрымліваюць па імянным пярсцёнку-пячатцы і па дзесяць даляраў кожны. Ягоны пляменнік атрымлівае тысячу...

– Ты заўсёды меў шмат грошай, каб пускаць іх па ветры, – падсумаваў Стары Брайсан.

– Тоны! – адказаў Джыліян. – Дзядзька быў што тая добрая феяхросная, настолькі ён клапаціўся.

– А яшчэ ёсць нейкія спадчыннікі? – запытаўся Стары Брайсан.

– Няма, – Джыліян хмурна ўтаропіўся ў сваю цыгарэту і занепакоена паторкаў мяккую скуру канапы. – Толькі міс Хэйдан, гадаванка дзядзькі, што жыла ў ягоным доме. Ціхая, як музыка, дачка кагосьці, каму пашанцавала быць ягоным сябрам... Я забыўся сказаць: яна таксама носіць імянны пярсцёнак і з дзесяцідаляравай бздурай. Хацеў бы і я... Тады я б мог узяць сабе пару бутэлек брута, тыкаць тою пячаткаю ў гарсона і не пакутаваць... Так што не будзь занудам ды не крыўдуй, Стары Брайсан, – лепш скажы мне: што рабіць з тысячай даляраў?

Стары Брайсан працёр свае акуляры і ўсміхнуўся. А калі Стары Брайсан усміхаўся, Джыліян ведаў: ён будзе больш з'едлівы, чым звычайна.

– Тысяча даляраў, – здалёк пачаў ён, – можа значыць "шмат" – альбо "шматок". Адзін можа набыць дом для шчасця і смяяцца з Ракфелера. Другі – адправіць жонку лячыцца на поўдзень і ўратаваць ёй жыццё...

На тысячу даляраў можна было б купляць крыху малака для ста немаўлят цягам чэрвеня, ліпеня і жніўня, што захавала б жыццё пяцідзесяці з іх...

Ты мог бы разлічваць на паўгадзінны падманны манеўр пры гульні ў фараона ў адной з арт-галерэй...

Можна было б даць адукацыю амбіцыйнаму маладзёну...

А я не распавядаў, што арыгінал Каро быў рэалізаваны якраз па гэткім кошце на ўчарашнім аўкцыёне?

Яшчэ табе хапіла б перабрацца ў Нью-Гэмпшыр і рэспектабельна жыць два гады на гэтыя грошы. Альбо... ты змог бы арэндаваць сад на Медысан Скверы на адзін вечар ды чытаць лекцыі сваёй аўдыторыі, калі б яе меў, – пра ненадзейнасць прафесіі патэнцыйнага спадчынніка...

– А ты мог бы падабацца людзям, Стары Брайсан, – спакойна, як заўжды, прамовіў Джыліян, – калі б толькі не чытаў маралі. Я прасіў цябе сказаць, што б мог зрабіць з тысячаю даляраў я!

– Ты? – з іранічнай ухмылкай перапытаў Брайсан. – Што ж, Бобі Джыліян, ёсць адзіная лагічная рэч, якую б ты мог зрабіць – пайсці набыць міс Лоце Лур'еры дыямантавы кулон за наяўнасць, а потым ні з чым зваліць у Айдаха ды ўганараваць сваёй прысутнасцю ранча. Раю табе авечае. Я на дух не выношу авечак.

– Дзякуй, – сказаў Джыліян, падымаючыся. – Так я і думаў, што магу на цябе разлічваць, Стары Брайсан. Ты мяне ўразіў, гэта годная схема. А то я хацеў трымаць грошы ў кішэні, каб ператварыць іх потым у рахунак, але ж я цярпець не магу гэтыя ўсе пералічэнні.

Джыліян выклікаў кэб і сказаў фурману:

– Сцэнічны ўваход у Каламбіян-тэатр.

Міс Лота Лур'ера якраз скончала аздабляць прыродную прыгажосць прыпудрываннем, амаль гатовая да выхаду на падмосткі, калі яе касцюмер назваў імя містэра Джыліяна.

– Няхай увойдзе, – дазволіла міс Лур'ера. – Што такое, Бобі? У мяне праз пару хвілінаў выхад.

– Лапачка, але паслухай, – рашуча запярэчыў Джыліян. – Яно варта таго, каб змарнаваць пару хвілінак. Як ты ставішся да такой маленечкай штучкі на ланцужку? Я магу паставіць тры нулікі на цэтліку адной з такіх...

– О, якраз дарэчы! – зашчабятала міс Лур'ера. – Правая пальчатка, Адамс! Скажы, Бобі, ці бачыў ты каралі, у якіх Дэла Стэйсі была неяк надоечы? Дзве тысячы дзвесце даляраў такія каштуюць у Ціфані. Але, вядома... Падцягніце мне пояс крыху злева, Адамс!

– Міс Лур'еру на сцэну! – раздаўся ў гэты момант покліч аднекуль звонку.

Джыліян вярнуўся на вуліцу да кэба.

– Што б вы рабілі з тысячай даляраў, калі б яе мелі? – спытаў ён у фурмана.

– Адчыніў бы салун, – імгненна прахрыпеў той. – Я ведаю месца, дзе можна заграбаць бабло ў абедзве рукі. Цагляны чатырохпавярховік на рагу. Я скеміў! Другі паверх – кітайская ежа і адбіўныя; трэці – манікюрня і замежнае прадстаўніцтва; чацвёрты – більярдная. Калі ты разважаў, як уцячы ад копаў...

– О, не! – сказаў Джыліян. – Я спытаў проста так, з цікаўнасці. Наймаю цябе на гадзіну. Едзь, пакуль не скажу спыніцца.

Праз восем кварталаў ніжэй Брадвея Джыліян выйшаў, стукнуўшы па ходніку кійком. Насупраць, седзячы на ўслончыку на рагу ходніка,

прадаваў алоўкі сляпы. Перайшоўшы вуліцу, Джыліян спыніўся акурат перад ім.

– Выбачаюся, – сказаў ён, – але не маглі б вы ўявіць і сказаць мне, што б рабілі, маючы тысячу даляраў?

– Вы выйшлі з таго кэба, што толькі што праехаў, так? – спытаўся ў адказ сляпы.

– Так, – пацвердзіў Джыліян.

– Здагадваюся, у вас усё ў парадку, раз раз'язджаеце сярод белага дня, – сказаў алоўкавы дылер. – Вось зірніце, калі хочаце.

Ён трымаў у руках маленькую кніжачку, выцягнутую з кішэні паліто. Разгарнуўшы яе, Джыліян пабачыў, што гэта банкаўская дэпазітная кніжка. Яна паказвала баланс рахунку сляпога: адна тысяча семсот восемдзесят пяць даляраў.

Джыліян аддаў дэпазітку і вярнуўся ў кэб.

– Я забыў сёе-тое, – сказаў ён. – Едзем да адвакацкага офіса "Талман і Шарп" на Брадвеі.

Адвакат Талман зірнуў на яго непрыязна і запытальна праз пазалочаныя акуляры.

– Прашу мяне прабачыць, – ветліва павітаўся Джыліян, – але ці можна задаць пытанне? Спадзяюся, вы не палічыце яго надта дзёрзкім. Ці пакінуў мой дзядзька штосьці для міс Хэйдан, апроч пярсцёнка і дзесяці баксаў?

– Нічога, – адказаў Талман.

– Вельмі ўдзячны вам, сэр, – вымавіў Джыліян і рушыў назад да экіпажа. Ён даў фурману адрас старога дома свайго дзядзькі.

Міс Хэйдан якраз пісала лісты ў бібліятэцы. Яна была маленькая, грацыёзная і апраналася ў чорнае, але яе вочы заставаліся ў памяці кожнага. Джыліян пачуваўся ніякавата ў такім непаслядоўным свеце.

– Я толькі што з канторы старога Талмана, – патлумачыў ён. – Яны там працягваюць вывучаць паперы. Яны знайшлі, – Джыліян перагарнуў памяць у пошуках правільнага тэрміну, – знайшлі нейкую папраўку, ці нейкае ўказанне пастскрыптум на тое, што мае быць. Здаецца, стары трохі ачомаўся ад другасных думак ды пажадаў пакінуць тысячу даляраў для вас. Я прыехаў, і Талман прасіў мяне прывезці вам тыя грошы. Вось яны. Можаце пералічыць, каб упэўніцца, што ўсё правільна. – Джыліян паклаў грошы на стол ля самай яе рукі.

Міс Хэйдан павярнулася да яго.

– А-ёй! – сказала яна, і зноўку: – А-ёй!

Джыліян, адвярнуўшыся, углядаўся ў вакно.

– Спадзяюся, канечне, – ціха вымавіў ён, – што вы ведаеце: я вас кахаю...

– Я выбачаюся, – пачала міс Хэйдан, кранаючыся грошай.

– І ніякай надзеі для мяне? – амаль легкадумна спытаў Джыліян.

– Я выбачаюся, – паўтарыла яна.

– Магу я напісаць цыдулку? – запытаўся Джыліян з усмешкаю, сядаючы за вялікі бібліятэчны стол. Выдаўшы яму паперу і асадку, яна вярнулася за свой сакрэтнік.

Джыліян аздобіў свой банкаўскі рахунак у тысячу даляраў наступнымі словамі:

"Унёсак паршывай авечкі, Роберта Джыліяна, $1000 на рахунак вечнага шчасця, абяцанага Нябёсамі, для самай лепшай і найдаражэйшай жанчыны на зямлі".

Пасля паклаў сваю пісаніну ў канверт, развітаўся і рушыў сваёю дарогай.

Ягоны экіпаж ізноў спыніўся ля офіса Талмана і Шарпа.

– Я выдаткаваў тысячу даляраў, – бадзёра паведаміў ён у залатыя акуляры Талмана, – і прыйшоў даць справаздачу пра іх, як і быў абавязаны. Быццам бы ў паветры ўжо адчуваецца лета – як мяркуеце, містэр Талман?

І кінуў белы канверт на стол адваката.

– Тут вы знойдзеце, сэр, мемарандум – *modus operandi* – па выдатках сродкаў.

Не кранаючы канверта, містэр Талман выйшаў і паклікаў свайго партнёра Шарпа. Разам яны скарысталіся нетрамі бяскрайняга сейфа, у чатыры рукі выцягнуўшы адтуль велізарны канверт, запячатаны воскам. Зламаўшы пячатку на канверце, яны разам схілілі свае сівыя галовы над зместам. Урэшце Талман пачаў прамову.

– Містэр Джыліян, – фармалістычна прамовіў ён, – гэта дадатак да запавету, складзенага воляй вашага дзядзькі. Усё гэта было даверана нам асабіста, з інструкцыямі не адкрываць канверт, пакуль вы не выдаткуеце ўсю атрыманую суму памерам у адну тысячу даляраў, згодна з запаветам. Паколькі ўмову вы выканалі, мы з маім партнёрам прачыталі дадатак. Я зусім не жадаю абцяжарваць вас юрыдычнай фразеалогіяй, але азнаёмлю з сутнасцю.

– Калі вынік вашага зняцця тысячы даляраў дэманструе, што вы валодаеце пэўнымі якасцямі, якія заслугоўваюць узнагароды, то большасць сумы дастаецца вам. Містэр Шарп і я пакліканыя рассудзіць, і гарантую вам, што мы выканаем свой абавязак строга ў адпаведнасці з законам. Мы абсалютна не маем ніякай непрыязнасці ў адносінах да вас, містэр Джыліян. Але дазвольце вярнуцца да зместу дадатка. Калі вы знялі грошы на вырашэнне разумнага пытання, мудрую альбо бескарыслівую рэч, гэта нагода перадаць вам аблігацыі агульнай вартасцю ў пяцьдзясят тысяч даляраў, якія былі выдадзены нам у рукі з гэтай мэтаю. Але калі – як наш кліент, старэйшы містэр Джыліян гэта наўпрост прадугледзеў, – вы патрацілі гэтыя грошы так, як рабілі гэта ў мінулым, я цытую старэйшага містэра Джыліяна – “у заганным рассейванні сярод нядобрасумленных хаўруснікаў”, – то пяцьдзясят тысяч даляраў выплочваюцца Мір’ям Хэйдан, падапечнай містэра Джыліяна, без затрымкі.

Цяпер, містэр Джыліян, містэр Шарп і я будзем правяраць ваш рахунак што датычыцца тысячы даляраў. Я так разумею, вы выклалі свае тлумачэнні пісьмова. Што ж, спадзяюся, што вы ўспрымеце наша рашэнне спакойна і з даверам.

Містэр Талман пацягнуўся да канверта.

Джыліян аказаўся трохі спрытнейшым, каб паспець яго выхапіць.

Павольна, не спяшаючыся, ён разарваў свой рахунак на папяровыя стужачкі і паклаў у кішэню.

– Усё правільна, – урэшце вымавіў ён, зззяючы ўсмешкаю. – Дробязі, не вартыя вашых турботаў. Няма сумневу, што вы разглядаеце гэты заклад дэталёва, як бы там ні было. Я прайграў тысячу даляраў на скачках. Добрага дня вам, спадарства!

Талман і Шарп змрочна хіталі галовамі ўслед Джыліяну, слухаючы, як той гарэзліва пасвіствае ў холе, чакаючы ліфта.

*Пераклад з ангельскай Таццяны ЖДАНОВІЧ.*

## Мэбляваны пакой

Неспакойнае, хуткабежнае, няўрымслівае, як і сам час, – так можна сказаць пра насельніцтва чырвонацагляных дамоў раёна ніжняга Ўэст-Сайда[1]. Не маючы дома, маюць сотні прытулкаў. Яны змяняюць адны мэбляваныя пакоі на іншыя, у любым жытле праездам, у сэрцах і галовах праездам, заўжды праездам. Яны спяваюць “Дом, мілы дом” у рытме джаза, захоўваюць сваіх лараў і пенатаў[2] ў кардонных скрынях, а іхні хатні дух змяшчаецца ў дарожнай сумцы.

Таму дамы ў гэтым раёне, праз якія прайшлі тысячы пастаяльцаў, захоўваюць тысячы гісторый. З большага, безумоўна, не вельмі цікавых. Але было б дзіўна, каб усе гэтыя вандроўнікі не пакінулі пасля сябе хаця б аднаго-двух прывідаў.

Аднойчы вечарам, калі сонца ўжо зайшло, тут, сярод старых цагляных шмакватэрных дамоў блукаў малады чалавек і званіў у дзверы. Каля дванаццатага дома ён паставіў сваю невялікую дарожную сумку на прыступкі і змахнуў пыл з капелюша і з лоба. Званок прагучаў слаба, недзе далёка ў пустой глыбіні.

Дзверы дванаццатага дома адчыніла гаспадыня. Яна нагадала маладому чалавеку агіднага перакормленнага чарвяка, які выеў знутры ўвесь свой арэх і пакінуў толькі пустую абалонку, якую цяпер хоча запоўніць кватарантамі, прыдатнымі для далейшага харчавання.

Малады чалавек запытаўся, ці ёсць вольныя пакоі.

– Заходзьце, – сказала гаспадыня такім голасам, нібы ейнае горла было абабіта ўсярэдзіне футрам. – На трэцім паверсе задні пакой, ужо тыдзень вольны. Хацелі б паглядзець?

Малады чалавек пайшоў за гаспадыняй па лесвіцы. Слабае святло, якое ішло невядома адкуль, змякчала цені ў калідорах. Яны бясшумна падымаліся па прыступках, засланых такім дываном, які, здавалася, не прызнаў бы нават свой ткацкі станок. Здавалася, пад нагамі было вязкае арганічнае рэчыва. Нібы дыван стаў нейкай гароднінай і ў гэтым смуродным паветры, без сонца, вырадзіўся ў пышны лішайнік альбо паўзучы мох, які плямамі пакрыў лесвіцу. На кожным павароце лесвіцы ў сценах былі пустыя нішы. Напэўна, у іх калісьці стаялі вазоны з кветкамі. Калі так, яны, канечне, памёрлі ў гэтым брудным сапсаваным паветры. Маглі там стаяць і статуі святых, тады было б зусім нескладана ўявіць, як сам чорт цягнуў іх у цемры ў якую-небудзь жудасную мэбляваную яміну.

– Вось пакой, – сказала гаспадыня сваім футравым горлам. – Добры пакой. Ён рэдка пустуе. Мінулым летам тут жылі вельмі інтэлігентныя людзі – ніякіх праблем увогуле. Плацілі загадзя і своечасова. Кран у тым канцы. Міс Спроўлз і містэр Муні жылі тут тры месяцы. Яны гралі ў вадэвілі. Міс Бірэта Спроўлз – магчыма, вы пра яе чулі. Дарэчы, гэта толькі сцэнічнае імя, акурат там, над камодай, вісела іхняе пасведчанне аб шлюбе, у рамцы. Газа для лямпы тут, шафа ўмяшчальная. Усім падабаецца гэты пакой. Ён ніколі доўга не стаіць пустым.

– А ці часта ў вас пастаяльцы з тэатра? – запытаўся малады чалавек.

– Яны прыходзяць і сыходзяць. Так, сэр, даволі шмат маіх кліентаў

---

[1] Ўэст-Сайд (*анг.* – West Side) буйны раён у заходняй частцы Манхэтана, Нью-Ёрк.

[2] Устойлівы выраз, які значыць “асабістыя бытавыя рэчы”. Утварыўся ад імёнаў рымскіх багоў-абаронцаў жытла і хатняга агменя.

звязаныя з тэатрам. Гэта тэатральны раён. Акторы ніколі нідзе надоўга не затрымліваюцца. І я з гэтага маю капейку. Так-так, яны прыходзяць і сыходзяць.

Малады чалавек заняў пакой і заплаціў адразу за тыдзень. Развітваючыся, ён сказаў, што стаміўся і хацеў бы засяліцца адразу. Гаспадыня сказала, што пакой падрыхтаваны, у тым ліку ручнікі і вада. Калі яна ўжо збіралася сыходзіць, ён у тысячны раз задаў пытанне, якое так і круцілася ў галаве:

– Маладая дзяўчына... міс Вэшнер... міс Элаіз Вэшнер... ці не памятаеце такой сярод сваіх пастаяльцаў? Хутчэй за ўсё яна магла быць сцэнічнай спявачкай. Прыгожая дзяўчына, сярэдняга росту, стройная, з залатымі валасамі і радзімкай каля левага брыва.

– Не, такога імя я не памятаю. Гэтыя людзі сцэны змяняюць імёны таксама, як і пакоі. Не, не прыпамінаю.

Не. Заўжды не. Пяць месяцаў безупынных роспытаў, і непазбежны адмоўны адказ. Столькі часу праведзена ўдзень у распытваннях дырэктараў, адміністратараў, школьных супрацоўнікаў і харавых спевакоў; а ў позні час – тэатральнай публікі ад першакласных спектакляў да эстрадных прадстаўленняў такой нізкай якасці, што ён баяўся знайсці там тое, што больш за ўсё спадзяваўся знайсці. Ён, хто ўсім сэрцам кахаў яе, спрабаваў яе адшукаць. Ён быў упэўнены, што пасля яе знікнення з дома гэты вялікі, абкружаны вадой горад дзесьці хавае яе. Але горад – гэта велізарны плывун, які пастаянна перасоўвае свае пясчынкі. Не маючы падмурка, ягоныя сённяшнія верхнія слаі заўтра ўжо будуць пахаваныя ў ціне і глеі.

Мэбляваны пакой прыняў свайго госця ліхаманкавай успышкай фальшывай гасціннасці, знясіленым вітаннем для прыліку, падобным на крывадушную ўсмешку авантурыста. Ілюзорнае адчуванне камфорту ішло ад старой мэблі: абарванай парчовай абіўкі канапы і двух крэслаў, вузкага таннага трумо паміж двума вокнамі, адной-дзвюх карцінных рам і металічнага ложка ў куце.

Госць павольна адкінуўся на спінку крэсла, пакуль пакой блытана і сумбурна – нібыта быў папулярны, як кватэра ў Вавілоне – намагаўся распавесці яму пра сваіх разнастайных пастаяльцаў.

Шматкаляровы квяцісты дыван, нібы прамавугольны трапічны астравок, ляжаў у хвалістым моры брудных палавікоў. На сценах з пярэстымі шпалерамі віселі такія карціны, якія нязменна пераследуюць падарожнікаў: «Палюбоўніца гугенота», «Першая сварка», «Шлюбны сняданак», «Псіхея ля фантана». Строгі і вытрыманы контур каміна быў неахайна завешаны бесцырымоннай драпіраванай тканінай, накінутай наўскасяк, як шаль на плечы балерыны. На каміне былі абломкі караблекрушэння, закінутыя і забытыя, калі ветразь удачы клікаў пастаяльцаў да яшчэ нязведанага порта: пару танных ваз, фотаздымкі актрыс, бутэлечкі з-пад лекаў, некалькі выпадковых карт з калоды.

Адзін за адным, як праяўляюцца сімвалы зашыфраванага тэксту, набывалі сэнс невялічкія знакі, пакінутыя гасцямі мэбляванага пакоя. Працёртае месца на дыванку каля туалетнага століка магло расказаць, як шмат прыгажунь прайшло праз яго. Адбіткі пальчыкаў на сцяне распавядалі пра маленькіх зняволеных, якія хацелі выбрацца з чатырох сценаў да сонейка і свежага паветра. Пляма на сцяне разыходзілася промнямі ва ўсе бакі, як цень выбуху бомбы, пазначаючы месца, дзе разам са сваім змесцівам разляцелася на аскепкі кінутая шклянка альбо бутэлька. Праз усё люстэрка трумо няроўнымі літарамі было накрэмзана імя “Мэры”.

Здавалася, што жыхары мэбляванага пакоя адзін за адным спаганялі тут сваю злосць, магчыма, выкліканую не толькі пакорнасцю пакоя, але і ягонай зыркай халоднасцю. Мэбля была падрапаная і пакалечаная. Канапа, прабітая спружынамі, здавалася жудаснай і агіднай пачварай, памерлай у сутаргах. Мармуровая камінная паліца з адарваным кавалкам, напэўна, таксама перажыла нейкую вялікую катастрофу. Дошкі ў падлозе енчылі і рыпелі кожная на свой манер, нібы кожная з іх перажывала свае асабістыя пакуты. Здавалася неверагодным, што ўсе гэтыя пашкоджанні былі нанесены пакою тымі, хто на пэўны час называў яго сваім домам. Магчыма, гэта было справакавана падманутым хатнім інстынктам, які штучна быў захаваны і ператварыўся ў сляпую злосць і крыўду на фальшывых гнеўных хатніх багоў. Бо любую хаціну, калі яна нашая ўласная, мы будзем прыбіраць, упрыгожваць і пяшчотна любіць.

Малады пастаялец, седзячы ў крэсле, дазволіў усім гэтым думкам бязгучна прайсці праз ягоную свядомасць. Тым часам пакой напаўняўся гукамі і пахамі. У адным з суседніх пакояў глуха чулася то хіхіканне, то нястрыманы смех. У іншых – лаянка, стук ігральных костак, калыханка і глухі плач. Акурат над ягоным пакоем натхнёна брынкала банджа. Дзесьці грукнулі дзверы. Час ад часу даносіўся гул цягніка. Нейкі кот жаласна выў на плоце ў заднім двары. І малады чалавек адчуваў дыханне дома – гэта хутчэй быў сыры прысмак, чым нейкі пах – халодныя, затхлыя выпарэнні, як з падвала, змяшаныя са смуродам лінолеума, цвілі і гнілога дрэва.

Раптам у пакой нібыта парывам ветру прынесла моцны салодкі водар рэзеды. Водар так выразна і цвёрда адчуваўся, што здаваўся жывым наведнікам. І мужчына ўскрыкнуў: «Што, дарагая?», нібыта яго паклікалі, затым падскочыў і абярнуўся. Насычаны водар прыляпіўся да яго і ахутаў з усіх бакоў. Мужчына пацягнуў да яго свае рукі, на імгненне ўсе ягоныя адчуванні зблыталіся і перамяшаліся. Хіба можа пах так настойліва клікаць кагосьці? Напэўна, гэта быў гук. Але ці не быў гэта той самы гук, які так пяшчотна дакрануўся да яго?

«Яна была тут», – гучна прамовіў ён. Затым ускочыў, каб перахапіць гэты знак, бо ведаў, што пазнае самую тонкую дробязь, што належала ёй ці да якой яна дакраналася. Водар рэзеды ахутваў яго, пах, які яна любіла і зрабіла яго сваім – адкуль ён з'явіўся?

Пакой быў упарадкаваны, але неяк неахайна. На камодзе былі раскіданыя па сурвэтцы з тонкай тканіны некалькі шпілек – гэтых незаўважных, няпрыкметных жаночых сяброўак, безасабовых, жаночага роду, умоўнага ладу. Але на іх ён не звярнуў увагі, выдатна разумеючы, што шпількі абсалютна нічога з сябе не ўяўляюць. Ён абшукаў усе шуфляды камоды, але натрапіў толькі на нікому не патрэбную, парваную, тонкую насоўку. Ён прыклаў насоўку да твару. Яна востра і нахабна пахла валяр'янам. Ён кінуў насоўку на падлогу. У іншай шуфлядзе ён знайшоў некалькі гузікаў, тэатральную праграмку, картку ламбарда, два згубленыя кавалачкі пасцілы, соннік. У апошняй шуфлядзе быў жаночы чорны атласны бант. Малады чалавек паглядзеў на яго і замёр на імгненне, ахоплены ці то холадам, ці то гарачынёй. Але чорны атласны бант – гэта таксама даволі распаўсюджаны какетлівы жаночы атрыбут, звычайнае безаблічнае ўпрыгожанне, якое ні пра што не можа распавесці.

Пасля ён абшнырыў пакой, як паляўнічы сабака па следзе, – праслізгаў па сценах, на карачках даследаваў вуглы выпуклага дыванка, выцягнуў усё з каміннай паліцы і са сталоў, ператрэс шторы і фіранкі, шафку-бар у куце

ў пошуках хоць нейкага прыметнага знаку і не мог да канца ўсвядоміць, што яна была ў гэты час у пакоі побач, вакол, насупраць, унутры, па-над ім, тулілася да яго, мілавала яго, клікала яго так пранізліва праз самыя тонкія адчуванні, што нават ягоныя, больш грубыя, улавілі гэтае гуканне. І зноў ён уголас адказаў "Канешне, дарагая!" і павярнуўся са здзічэлым позіркам, каб зазірнуць у пустэчу, бо ён яшчэ не мог распазнаць ні форму, ні колер, ні каханне, ні працягнутыя рукі ў водары рэзеды. Божа мой! Адкуль гэты пах і як даўно пахі маюць голас, каб клікаць? І ён працягваў пошукі.

Ён капаўся ў шчылінах і кутах, знаходзіў коркі і цыгарэты. Пагардліва адкідваў іх. У складцы дывана знайшоў недакурак, які растаптаў абцасам і груба вылаяўся. Ён працерушыў увесь пакой, з канца ў канец. Ён прачытаў пакой як запісную кніжку з нецікавымі і нават ганебнымі нататкамі пра вандроўных пастаяльцаў. Але пра тую, каго ён шукаў, якая, напэўна, пасялілася тут і чый дух тут лунаў, пра яе ніводнага радка.

І тады малады чалавек падумаў пра гаспадыню.

Ён выбег з населенага прывідамі пакоя, спусціўся па лесвіцы і падышоў да дзвярэй, праз якія прабівалася святло. Яна выйшла на ягоны грукат. Ён, як толькі мог, хаваў хваляванне.

– Калі ласка, мадам, скажыце, – упрошваў ён, – хто да мяне займаў мой пакой?

– Канешне, сэр. Скажу вам яшчэ раз. Міс Спроўлз і містэр Муні, як я ўжо і казала. Міс Бірэта Спроўлз – так яе называлі ў тэатры, але насамрэч яна была місіс Муні. Мой дом шырока вядомы сваёй прыстойнасцю. Пасведчанне аб шлюбе вісела ў рамцы на цвіку, акурат над...

– Якой была міс Спроўлз? Я маю на ўвазе, як выглядала?

– Ну што ж, сэр, чорныя валасы, кароткія і густыя, вясёлы твар. Яны з'ехалі тыдзень таму, у аўторак.

– А хто быў да іх?

– Ну, быў адзінокі мужчына, займаецца возніцтвам. З'ехаў, але застаўся вінны мне за тыдзень. Да яго месяц гасцявала місіс Краўдар з двума дзецьмі. Яшчэ да іх быў стары містэр Дойл, за якога плаціў сын. Ён трымаў пакой шэсць месяцаў. Тое, што было раней за год, сэр, я не памятаю.

Ён падзякаваў і пацягнуўся ў свой пакой. Пакой быў мёртвы. Штосьці, што ажывіла яго, знікла. Водар рэзеды развеяўся. На ягонае месца вярнуўся затхлы пах старой мэблі і падвала.

Згасанне надзеі спустошыла ягоную веру. Ён сядзеў, утаропіўшыся ў жоўтую газавую лямпу і слухаючы яе шыпенне. Потым падышоў да ложка і стаў ірваць прасціну на палоскі. Лязом нажа туга загнаў іх у кожную шчыліну вакол вокнаў і дзвярэй. Калі ўсё было дастаткова шчыльна забіта, ён пагасіў лямпу, зноў адкруціў газу і лёг на ложак з адчуваннем палёгкі.

У той вечар была чарга місіс МакКул ісці па піва. Яна прынесла яго і села разам з місіс Пурды ў адным з тых падзямелляў, дзе збіраюцца домаўладальніцы і дзе *чарвяк іхні памірае рэдка*.

– Здала я сёння пакой на трэцім паверсе, – паведаміла місіс Пурды, гледзячы паўзверх пеннай шапкі. – Малады чалавек узяў. Ужо дзве гадзіны, як пайшоў спаць.

– Дык няўжо здалі?! – з нястрыманым захапленнем сказала місіс МакКул. – Ха, у вас, дарагая, і праўда талент здаваць пакоі. А сказалі яму пра во *гэна*? – скончыла яна хрыплым шэптам, з выразным намёкам на нейкую таямніцу.

– Пакоі, – вымавіла місіс Пурды сваім самым футравым тонам, – для таго і мэбляваныя, каб іх здаваць. Я нічога не казала яму, місіс МакКул.

– О, гэна правільна, дарагая. Мы здаем пакоі і з таго жывём. Вы добра разумееце дзела, дарагая. Вядома, шмат хто адмовіўся б наймаць пакой, дзе хтосьці аддаў канцы проста ў ложку.

– Як вы і сказалі, місіс МакКул, нам трэба з чагосьці жыць, – адзначыла місіс Пурды.

– Так, дарагая, сапраўды. Ха, гэта ж сёння роўна тыдзень, як я дапамагала вам упарадкаваць задні пакой на трэцім паверсе. А харошанькая была дзеўчына. Чаго ж забівацца газай, калі такі мілы тварык, місіс Пурды?

– Так, сапраўды, прыгожая дзяўчына, як вы і сказалі, – згадзілася місіс Пурды, але прыдзірліва дадала: – Хіба што тая радзімка каля левага брыва... Налівайце сабе яшчэ, місіс МакКул.

## Адно жаданне

Мядовы месяц быў у самым разгары. Кватэра стракацела новымі чырвонымі дыванамі, уваходы ў пакоі былі аздобленыя парцьерамі з кутасікамі, а шэсць куфляў з алавянымі накрыўкамі былі расстаўлены па-над панэльнай абшыўкай сцен сталовай. У паветры лунала пачуццё цуду. І ён, і яна наўрад ці змаглі б паказаць, у якім баку неба ўзыходзіць зорка Венера, але, калі б хтосьці цяпер у іх запытаўся, то, безумоўна, калі яны спаткаліся, *зорка Венера ўзышла над зямлёю*[1], а яны... карацей, яны адчувалі ўсё тое, што павінны былі адчуваць героі верша паводле задумы аўтара.

Маладая сядзела ў крэсле-качалцы, і ўвесь свет нібыта ляжаў каля яе расслабленых ног. Яна была ахутаная ружовымі марамі і шаўковым халацікам такога самага колеру. Думкі маладой займала пытанне, што кажуць пра яе шлюб з Малышом МакГары ў Грэнландыі, Тасманіі і Белуджыстане. Хаця не тое, каб гэта мела нейкае значэнне. Ад Лондана да Паўднёвага Крыжа не знойдзецца ніводнага баксёра ў паўсярэдняй вагавай катэгорыі, які пратрымаўся б супраць яе мужа прынамсі чатыры гадзіны. Ды што там гадзіны! Чатыры раўнды – і тое наўрад ці. А ён належыць ёй ужо цэлыя тры тыдні, і яна адным сваім мезенцам можа зрабіць тое, чаго не можа сваім кулаком ніводзін 65-кілаграмовы баксёр у свеце.

Каханне, калі яно сваё, – гэта другое імя для самаадрачэння і ахвярнасці. Калі яно належыць камусьці праз сцяну, яно азначае пагарду і фанабэрлівасць.

Маладая паклала ножкі ў туфліках адна за адну і задуменна паглядзела на столь, распісаную купідонамі.

– Каханы, напэўна, я з задавальненнем пачаставалася б персікам, – вымавіла яна так, нібы Клеапатра загадала Антонію прынесці ёй Рым на сподачку.

Малыш МакГары ўстаў, апрануўся, надзеў капялюш. Ён быў сур'ёзны, спрытны, сентыментальны і паголены.

– Добра, – адказаў ён так цвёрда, нібы згадзіўся падпісаць дамову на бойку з чэмпіёнам Англіі. – Я прынясу табе персік.

– Толькі нядоўга. Я буду сумаваць без майго гарэзлівага хлопчыка. Знайдзі для мяне самы прыгожы і спелы персік.

---

[1] У арыгінальным тэксце О. Генры выкарыстоўвае цытату з паэмы англійскага паэта-рамантыка Ўільяма Ўордсуорта (William Wordsworth) “Peter Bell: A Tale in Verse”.

Пасля доўгага развітання, быццам ён выпраўляўся ў цяжкую дарогу па далёкіх землях, МакГары спусціўся на вуліцу.

І тут ён небеспадстаўна засумняваўся: у горадзе стаяла ўсяго толькі ранняя вясна. А значыць, не было амаль ніякага шанцу перамагчы ў бойцы з гэтымі змерзлымі вуліцамі і азяблымі крамамі за такую жаданую сакавітую ўзнагароду – напамін пра залатыя летнія дні.

Малыш спыніўся каля італьянскай палаткі з садавінай і кінуў пагардлівы позірк на прылавак з запакаванымі апельсінамі, паліраванымі яблыкамі і беднымі ад суму па сонцы бананамі.

– Персікі е? – далікатна запытаўся Малыш на мове Дантэ, палюбоўніка з палюбоўнікаў.

– Ах, нье, – уздыхнуў гандляр. – Праз мьесяц будуць пьерсікі. Йашчэ рана. Майу добрыйа апьельсіны. Хочацье апьельсіны?

Непарушны МакГары працягнуў свае пошукі. Ён зайшоў у кругласутачную закусачную-кавярню, а таксама адначасова і боўлінг-клуб свайго сябра і фаната Юстуса О'Кэлахана. О'Кэлахан акурат быў у клубе па справах.

– Ты мне вельмі патрэбны, – сказаў МакГары. – Мая крошка надумала паласавацца персікам. Так што, Кэл, калі ў цябе ёсць персік, давай сюды. А калі ёсць некалькі – яшчэ лепш, цягні ўсе.

– Мой дом – твой дом, – адказаў О'Кэлахан. – Але персікаў няма. Яшчэ рана для персікаў. Сумняюся, што іх можна знайсці нават дзе-небудзь на Брадвеі. Вельмі дрэнна. Бо калі жанчына захацела пэўны фрукт, то больш нічога іншага не падыдзе. Ужо занадта позна для палатак з садавінай. Але, калі міс можа гэта задаволіць, у мяне акурат ёсць скрыня цудоўных апельсінаў.

– Вельмі ўдзячны, Кэл. Але ў правым вуглу рынга персікі. Пашукаю яшчэ.

Было каля поўначы, калі Малыш ішоў па Уэст-Сайд авеню. Некалькі крамаў былі адчыненыя, аднак гандляры гатовыя былі абсвістаць адну толькі ідэю знайсці і набыць персікі.

Але там у кватэры, як у з*а*мку, абнесеным ірвом, маладая, поўная ўпэўненасці, чакала жаданых персідскіх пладоў. І няўжо ён, чэмпіён у паўсярэдняй вагавай катэгорыі, не знойдзе нейкага персіка? Не возьме трыумфальны рэванш у паядынку з сезонам, з календаром, з усёй астраноміяй адразу, каб толькі атрымаць у поўную ўласнасць які-небудзь Амсдэн або Дыгомі[1]?

Малыш запрыкмеціў асветленае вакно, якое было расквечана самымі прывабнымі фарбамі. Раптам святло патухла. Малыш падляцеў да гандляра садавінай, які ўжо зачыняў дзверы лаўкі.

– Персікі? – ветліва звярнуўся Малыш.

– На жаль, няма, сэр. І не будзе бліжэйшыя тры-чатыры тыдні. Я нават не ведаю, дзе іх цяпер шукаць. Магчыма, у горадзе ёсць парачка персікаў з аранжарэі, але знайсці іх усё роўна было б вельмі цяжка. Хіба што ў якім-небудзь вельмі дарагім гатэлі альбо падобным месцы, дзе грошы не пераводзяцца. Але я магу прапанаваць вам цудоўныя апельсіны. Сёняшняя партыя.

Малыш на хвіліну затрымаўся на рагу, а затым скіраваў да зялёных агеньчыкаў, якія абрамлялі прыступкі будынка ў канцы цёмнага завулка.

– Ці на месцы капітан? – запытаўся Малыш у сяржанта паліцэйскага ўчастка.

Капітан выйшаў у той самы момант. Ён быў у цывільным адзенні і відавочна чымсьці заклапочаны.

---

[1] Гатункі персікаў.

– Прывітанне, Малыш. Я думаў, ты ў шлюбным падарожжы.

– Учора вярнуўся. Цяпер я добрасумленны гараджанін. Мяркую, буду цікавіцца муніцыпальнымі справамі. Як ты глядзіш на тое, каб сёння накрыць Дэнвера Дыка, Кэп?

– Цягнік пайшоў, – адказаў капітан, пакручваючы вусы. – Дэнвера ўзялі два месяцы таму.

– Так і ёсць, – сказаў Малыш. – Раферці выкурыў яго са свайго раёна. Цяпер ён на тваёй тэрыторыі, а ягоныя абароты выраслі як ніколі. Я не пераношу іґральныя аўтаматы. Магу арганізаваць вам сустрэчу.

– Дэнвер Дык на маім раёне? – прароў капітан. – Ты ўпэўнены, Малыш? Буду мець за гонар. Але як мы да яго зойдзем?

– Будзем ламаць. Яны яшчэ не паспелі ўмацаваць дзверы. Спатрэбіцца дзесяць чалавек. Мяне яны проста так не пусцяць. Дэнвер хацеў расправіцца са мной. Ён думаў, што я залажыў кантору, калі яго ўзялі ў мінулы раз. Хаця гэта быў не я. Лепш паспяшацца. Мне трэба яшчэ вярнуцца дадому. Дэнвер за тры кварталы адсюль.

Не прайшло і дзесяці хвілін, як капітан са сваім праваднікам і тузін хлопцаў праніклі ў вітальню ўжо цёмнага будынка, які цяпер выглядаў даволі добранадзейна, нібыта ўсё, што магло абдыцца тут, адбывалася ўдзень.

– Трэці паверх, у канцы калідора, – ціха сказаў Малыш. – За мной.

Два хлопцы з сякерамі стаялі перад дзвярыма, якія ім паказаў Малыш.

– Даволі ціха, – з сумневам сказаў капітан. – Ты ўпэўнены ў сваёй наводцы?

– Ламайце! Пад маю адказнасць.

Сякеры ўвайшлі ў сапраўды дагэтуль не ўмацаваныя дзверы. Раптоўнае святло пралілося з сярэдзіны праз праламаныя панэлі. Дзверы ўпалі, і хлопцы ўваліліся ў памяшканне з пісталетамі ў руках.

Вялікае памяшканне было абсталявана пышна, але безгустоўна, дзякуючы заходнім ідэям Дэнвера Дыка. Кліенты тоўпіліся вакол іґральных аўтаматаў. Калі з'явілася паліцыя, каля паўсотні гульцоў кінулася бегчы ў надзеі выратавацца. Хлопцы ў цывільным пачалі наводзіць парадак, але больш за палову наведнікаў уцяклі.

Дэнвер Дык акурат у гэты вечар ушанаваў клуб сваёй прысутнасцю. Ён толькі хацеў рынуцца бегчы, маючы надзею праскочыць меншых па колькасці няпрошаных гасцей, як пабачыў Малыша МакГары. Тады ім сталі кіраваць іншыя, вельмі асабістыя матывы. Маючы даволі цяжкую вагавую катэгорыю, ён без роздумаў кінуўся на свайго лёгкавагавага праціўніка, і яны, счапіўшыся, пранесліся па лесвічным пралёце. На лесвічнай пляцоўцы расчапіліся, падняліся, тады Малыш нарэшце змог скарыстаць адну са сваіх прафесійных тактык, якую не было сэнсу выкарыстоўваць дагэтуль, ў смяротным счэпе з 90-кілаграмовым спартыўным джэнтльменам, які вось-вось згубіць маёмасць на $20.000.

Пасля перамогі Малыш паспяшаўся наверх, затым праз іґральную залу ў меншае памяшканне.

Там стаяў доўгі стол, сервіраваны адборным фаянсавым посудам і срэбрам, шчодра застаўлены ежай, вельмі эфектнай і дарагой, акурат такой, якую любяць прыхільнікі азартных спаборніцтваў. Тут зноў не абышлося без марнатраўных і вычварных густаў джэнтльмена з прозвішчам, аднайменным з адным заходнім горадам[1].

[1] Дэнвер – горад на захадзе ЗША, сталіца штата Каларада.

З-пад абруса высунулася некалькі сантыметраў лакіраванага скуранога туфля. Малыш заўважыў гэта і выцягнуў з-пад стала цёмнаскурага хлопца ў адзенні прыслугі.

– Падыміся! – скамандаваў Малыш. – Хто адказны за ланч?

– Я, сэр. Нас шыто, зноў прыцыснулі? – запытаўся цёмнаскуры хлапец з акцэнтам.

– Падобна, што так. Слухай сюды. Тут ёсць персікі? Калі няма, то я буду вымушаны прызнаць паразу.

– Быць тры тузына, сэр, напачатку вэчара. Але думаць, шыто джэнтльмены іх прыкончыць. Можа, сэр хацець апельсінаў? Я знайсці вам.

– Варушыся і рабі што хочаш, але каб у мяне былі персікі. Інакш будуць праблемы, – строга загадаў Малыш МакГары. – Калі сёння хтосьці яшчэ раз прапануе мне апельсіны, я разнясу гэтага чалавека.

Рэйд на шыкоўны і марнатраўны ланч Дэнвера Дыка выявіў адзін апошні персік, які цудам пазбегнуў ласых да гастранамічных уцех ратоў гэтых шукальнікаў хуткай выгады. Персік адправіўся ў кішэню Малыша МакГары, і наш нястомны здабытчык неадкладна выправіўся дадому са сваёй узнагародай. Літаральна кінуўшы вокам у бок паліцэйскіх, якія пакавалі арыштантаў у патрульныя аўтамабілі, Малыш рушыў дадому шырокім хуткім крокам.

Калі ён сышоў, то адчуў неверагодную палёгку. Напэўна, так ехалі рыцары ў Камелот пасля рызыкі і подзвігаў дзеля забавы сваіх дам. Ягоная дама загадала, і ён пакарыўся. Няхай, няхай яна прагнула ўсяго толькі персік. Але гэта быў варты ўчынак – знайсці персік у гэтым начным, яшчэ скаваным лютаўскім снегам горадзе. Яна, ягоная жонка, папрасіла персік. Ён трымаў сагрэты персік рукой у кішэні, каб – барані Божа! – той не выпаў і не згубіўся.

Па дарозе Малыш зайшоў у кругласутачную аптэку і звярнуўся да супрацоўніка ў акулярах:

– Скажыце, прыяцель, ці не паламаныя ў мяне рэбры? Праверце, калі ласка. Я трапіў у невялікую сутычку і праляцеў пару лесвічных пралётаў.

Аптэкар зрабіў агляд і пастанавіў:

– Рэбры цэлыя, аднак тут такі кровападцёк, нібыта вы двойчы ўпалі з Флэтайран-білдынг[1].

– Гэта не страшна. Пазычце мне, калі ласка, вашую шчотку для адзення.

Маладая чакала, ахутаная ружовым святлом ад пунсовага абажура лямпы. Яшчэ адчувалася прысутнасць цуду. Усяго толькі праз адзіны подых жадання нейкай дробязі – кветка, гранат... ах, канешне! Персік! – яна можа адправіць свайго мужчыну ў гэты начны горад, і ніхто і нішто не можа перашкодзіць яму выканаць яе загад.

І вось ён стаяў каля яе крэсла з персікам у руках.

– Ах, ты мой гарэза! – сказала маладая пяшчотна. – Хіба я прасіла персік? Напэўна, з нашмат большым задавальненнем я з’ела б апельсін.

Блаславёная будзь, маладая.

*Пераклад з ангельскай Сашы САЙКОЎСКАЙ.*

*Перакладчыца выказвае шчырую падзяку за дапамогу ў працы Ганне Шакель, Наталлі Голавай, Ягору Кісялевічу.*

[1] 22-павярховы хмарачос на Манхэтане ў Нью-Ёрку, вядомы таксама як «Прас».

Станіслаў Ежы Лец



...а можа, Бог стварыў мяне,
каб я быў атэістам?..

# З непрычасаных думак

**А** аднак, цвік быў вынайдзены для мэт менш практычных, чым прыбіванне да крыжа.

Аазісы – гэта заправачныя станцыі для вярблюдаў.

Абмежаваны мозг змяшчае неабмежаваную колькасць глупства.

Авечка, што мела залатое руно, не была багатай.

Агідныя сны ветэранаў на пуховых ложках.

Адам быў першым чалавекам, які гэта ўсвядоміў.

Адзіная старажытная валюта, якая і сёння ва ўжытку – трыццаць срэбранікаў.

Адзін бярэ за сэрца, другі – за морду.

Адзін мудрэц заўсёды адбіваў паклоны ўладару такім чынам, каб адначасова паказваць зад яго прыслужнікам.

Адзін паклон святарам значыць больш, чым сто паклонаў багам.

Адзін памылковы крык – і ты каля іншай мэты.

*Пераклад з польскай Міхася МІРАНОВІЧА.*

Адзін раз я бачыў нешта глыбока чалавечае. На вакзале кабета хустачкай выцерла слёзы, энергічна высмаркала ў яе нос і потым памахала ёй услед цягніку, які ад'язджаў.

Адзін садаміт узбуджаўся пры праглядзе падручніка заалогіі. Ці не трэба прызнаць тую кніжку парнаграфічным выданнем?

Адзін сваёй творчасцю будуе сабе надмагільны помнік, другі капае сабе магілу.

Адкрыццё Амерыкі не з'яўляецца заслугай амерыканцаў. Сорам!

Адкуль узяць адвагу? Адважныя яе не аддаюць.

Аднак на чыёйсьці там галаве павінна затупіцца і вострая гільяціна!

Аднойчы я бачыў тытана, што цыраваў шкарпэткі. Гэта было яго сапраўды тытанічнае намаганне.

Аднойчы я паглыбіўся ў аптымізм. Ледзьве мяне ўратавалі.

Адны хацелі б разумець тое, у што яны вераць, другія – паверыць у тое, што разумеюць.

Адныя тыя, што сядзяць у залатых клетках, маюць надзею на вызваленне.

Адсутныя ніколі не маюць рацыі, але вельмі часта зберагаюць жыццё.

А здавалася б, няма нічога больш умяшчальнага, чым публіка з пустымі галовамі.

Акно ў свет можна засланіць газетай.

Акрамя думкі, існуюць яшчэ інтэлектуальныя памкненні.

Актрыса X. мае такі выдатны склад цела, што на ёй не бачна ніякай сукенкі, у якую яна апранаецца.

Але, дзякуй Богу, ёсць яшчэ і чорт.

А можа, Бог стварыў мяне, каб я быў атэістам?

А можа, мы проста нечыя ўспаміны?

А можа, ужо вычарпаны запасы часу?

Анёлы бясполыя, могуць размнажацца толькі агітацыяй.

Апазіцыя трыумфавала, падкідваючы ўверх свае галовы.

Аптымізм і песімізм адрозніваюцца толькі датай канца свету.

Арлы павінны быць здольнымі вылупіцца нават з зязюлінага яйка.

Асіны дрыжаць пры кожным дзяржаўным ладзе. Але ж, чорт пабяры, яны пры кожным і зелянеюць!

Асцерагайся, каб праз няўвагу не стварыць чагосьці векапомнага. Колькі ж людзей будзе змушана прысвяціць сваё свядомае жыццё, каб гэта знішчыць!

Аўтары пячорных малюнкаў мелі дасканалую зброю супраць крытыкаў – дубіны.

Ахвяра заўсёды бярэ ўдзел у злачынстве. І, як правіла, негатыўны!

Ах, калі б казка заканчвалася так: “Ішоў да смерці, але заблудзіўся ў жыцці”.

Ах, калі б мы маглі бачыць жыццё, а не сітуацыі!

Ах, шаўцы, як бы вам хацелася, каб мы хадзілі на карачках, але боязна, што можам узнесціся ў паветра!

Ах, што гэта за пакуты! Навокал адны голыя жанчыны, апранутыя ў доўгія сукенкі без дэкальтэ.

“Ах, як бы я хацеў быць яшчэ раз старым!” – сказаў малады нябожчык.

**Б**айкі – гэта рэальныя дзеянні нерэальных істот.

Барабаншчыкі, якім вынік важней, чым такт, адразу б'юць публіку па галаве.

Барацьба за ўладу вядзецца з ёй жа.

Бедная зямля! Усе нашы цені падаюць на яе.

Бедны той, хто не бачыць зорак, папярэдне не атрымаўшы па зубах.

Бедны чалавек: кажаш “Пасля мяне хоць патоп!” і ўсяго толькі цягнеш за ланцуг туалетнага бачка.

Бездапаможная злосць творыць цуды.

Бессмяротны пісьменнік памірае ў сваіх эпігонах.

Блыха і слон не ведаюць пра існаванне адно аднаго.

Блыха на шыі жырафы пачынае верыць у бяссмерце.

“Бог павінен мець цудоўную калекцыю матылькоў”, – думае сабе малы Ясь.

Богу – богава, кесару – кесарава. А што людзям?

Бокс – гэта закон кулака ў пальчатцы.

Большасць людзей мае вызначаны светапогляд. Меншасцю.

Босыя не ступаюць па шляхах, што ўсыпаны ружамі.

Будзем самі дзьмуць у свае ветразі!

Будзь рэалістам: не кажы праўды.

Будзьце самавучкамі, не чакайце, пакуль вас навучыць жыццё.

Будуем на вякі, разбураем назаўсёды.

Бывае, што адкрываеш рот у захапленні, і закрываеш яго, пазяхаючы.

Былі часы, калі нявольнікаў патрэбна было купляць легальна.

Быў час, калі вымяралі адлегласць па сіле настальгіі.

Быць Богам і стварыць смертных людзей?

Быць у пашчы льва – гэта яшчэ нічога, але падзяляць яго густы – гэта страшна!

Бяда, калі галава таго, каму апладзіруюць, апынецца між далоняў тых, хто апладзіруе.

Бязглуздасць забівае. Іншых.

Бярыце прыклад з Бога – дзесяць загадаў склаў эпіграматычна.

**В**айна полаў вядзецца традыцыйнай зброяй.

Ваўкі больш высакародныя, чым авечкі. Яны з цяжкасцю ўяўляюць сваё існаванне без тых апошніх. А авечкі... Што і казаць!

Велізарны гном.

Верабей у клетцы для арлоў свабодны.

Вертыкаль з гарызанталлю ўтвараюць між сабой крыж.

Веру ў канец арганічнага жыцця на зямлі, але ніколі – у канец арганізацыйнага.

Вось што я думаю пра Ікса: я пра яго наогул не думаю.

Вочы – люстэрка душы. Каб толькі мухі пра тое не даведаліся!

Вы гадаеце, што брыдкія словы лепшаюць, калі іх не ўжываць?

Выйце! Адчуйце сябе маладзей на мільёны гадоў.

Вы можаце сабе ўявіць жанчыну, якая дазволіла б свайму каханку апавядаць байкі на працягу тысячы і адной ночы?

Вынайсці клізму для мозга.

Выпадковасць майго існавання абражае мяне.

Выхаванне геніяў не абавязкова трэба пачынаць з крэтынаў!

Вычварэнцы! Языком гвалтуюць мову.

“Вышэй галаву!” – сказаў кат, накідваючы пятлю.

Вялікая сіла нікчэмнасці, нічога з ёй нельга зрабіць.

Вялікія часы могуць змясціць значную колькасць маленькіх людзей.

Вяршыня ведаў пра чалавека – дасье тайнай паліцыі.

Вятрак шаткаваў неба, як капусту.

***Г***алава выказалася так ясна, што розум адмовіўся зразумець.

Галодны да славы з’есць і чалавека ў сабе.

Гарантыя міру: закапаць сякеру вайны разам з ворагам.

Гвалт аргументаў і аргументы гвалту – гэта два розныя стылі.

Геніяльныя людзі сустракаюцца не часта. Ёсць альбо геніі, альбо людзі.

Геракліт сказаў: “Panta rhei!” (Усё цячэ!) Кавальскідэс прамовіў: “Халера!” Крытык рэзюмаваў: “Яны змагаліся паміж сабой у эпіграматычнай сцісласці”.

Героі даўніх міфаў былі амаль распранутыя, героі сучасныя – поўнасцю голыя.

Гістарычныя даследаванні мовы не павінны абмінаць рапартаў стукачоў – гэта мова эпохі.

Глупства ніколі не пераходзіць межаў: дзе ступіць – там яго тэрыторыя.

Глыбіня і высокі ўзровень – гэта не адно і тое ж.

“Горача толькі, пакуль вараць”, – суцяшалі тыя, каго ўжо елі, тых, каго яшчэ гатавалі.

Грамадская думка павінна ўстрывожыць сваім неіснаваннем.

Грампласцінкі нашай маладосці хрыпяць нашымі галасамі.

Грошы не пахнуць, але хутка выпараюцца.

Гук ніколі не вяртаецца ў струну, што яго нарадзіла.

“Гусь любіць яблыкі”, – такое меркаванне кухара.

Гэта прафесіянальны чалавек!

Гэта страшна, што ад кожнага рання аддзяляе нас цёмная ноч.

“Гэта ўсяго толькі метэор”, – пагардліва заўважыла свечка.

Гэтая брудная лужына была белым снегам. Абыходжу яе з пашанай.

Гэтая жанчына была як манета – пераходзіла з рук у рукі, але страціла вартасць.

Гэтая кабета доўга ляжала пад папарам.

Гэты вецер гісторыі? Гэта ад размахвання сцягамі.

Гэты мысляр ловіць думкі, але адрывае ім крыльцы.

***Д***а адукацыі жанглёра абавязкова павінна належаць няведанне законаў фізікі.

“Дабрадзей!” – сказаў з пагардай кепскадзей.

Давайце жыць даўжэй! Чым іншыя.

Дакрануўся да Венеры Мілоскай. “Рукі прэч!” – сказала яна. Комплекс!

Дамагайся лаўраў! Але не з чужой галавы.

Да мэты! Там выходзім.

Данос: “Ecce homo!” (Се чалавек!)

Дату стварэння свету маглі б вызначыць толькі бухгалтары.

Даўжыня ланцуга вызначае падвор’е – гэта погляд дварняка.

Да ўсяго толькі два крокі: адзін уперад, другі назад.

Два нулі расказвалі бабулі з грамадскага туалета: “Калісьці мы былі адной васьмёркай”.

Двое людзей тушаць святло ў пакоі не толькі тады, калі не могуць глядзець адно на аднаго.

Дзве генерацыі: мы спалі разам, яны спяць адзін з адным.

Дзве паралельныя лініі перасякаюцца ў бясконцасці – і яны ў гэта вераць.

Дзікая свіння – гэта гучыць больш высакародна, чым проста свіння.

Дзіўна, што заўжды праўду кантрабандай перавозяць у краіны, дзе яна каціруецца ніжэй. Што за інтарэс?

Дзіўна, што рыбы маўчаць аб Патопе. Гэта быў іх вялікі час.

Дзіўна, што слугі і наложніцы каралёў ніколі не бачаць, што тыя голыя.

Дзіўная другая палова XX веку. Палова стагоддзя астранаўтаў і астролагаў.

Для коней і закаханых сена пахне па-рознаму.

Для многіх культура з’яўляецца першай неабходнасцю, якую не абавязкова здавальняць.

Дно будзе дном, нават калі яго перавярнуць дагары дном.

Добрае надвор’е абараняе ад дажджу лепш, чым парасон.

Дом публіцыстычны.

Думай – можа, табе штосьці і прыйдзе ў галаву.

Думаю, што вы былі б здзіўлены, калі б карова раптам стала размаўляць па-англійску, але паверце мне, што ў дзясяты раз вы сталі б ставіцца да яе са спачуваннем, бо яна не мае оксфардскага акцэнту. Канечне, калі б вы самі ведалі яго.

Думка павінна быць глыбейшай, чым могуць дасягнуць рукі ўлады.

Думка спяшаецца, як сабака да мэты, але па дарозе, як той сабака, то пагрызе нейкую старую абгрызеную костку, то пагоніцца за пер’ем, то панюхае абпісаную фіялку.

Думкі скачуць з чалавека на чалавека, як блохі. Але не ўсіх кусаюць.

Думку, сустрэтую ноччу, патрэбна, як кабету, агледзець пры дзённым святле.

Дурні штораз становяцца разумней, разумныя штораз дурнеюць, а тым не менш адлегласць паміж імі па-ранейшаму расце.

Дыктатары не маюць сілы – маюць насілле.

Дылетант у першым жа баі забіў майстра. Але калі б той уваскрэс!..

Дэманстравалі мне ў Вене ложак, у якім спаў Грыльпарцэр. Здзівілі! Я часта бачыў ложак пані X., у каторым спалі паэт A., кампазітар B., мастак C., артыст D. Як і цяпер.

*(Працяг будзе).*



ВЫТОКІ

Эма Яленская



...і ў нашы палескія вёскі паволі прыходзяць
розныя змены, і чысты самародны арыгінальны
беларускі тып не можа ўстаяць
перад чужым уплывам...

# Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце

*Працяг. Пачатак у №97.*

*Пераклад з польскай Уладзіміра ВАСІЛЕВІЧА.*

## ***ІІІ.***

Вёскі Камаровічы і Заполле выцягнуліся ў доўгую лінію: Камаровічы – з поўдня на поўнач, Заполле – з паўднёвага ўсходу на паўночны захад. Такога парадку ў будаванні вёскі трымаліся, відаць, яшчэ з даўнейшых часоў, калі на адным баку вуліцы стаялі жылыя дамы, а на другім ставілі "клеці", свіронкі, а крыху далей ад хат – агароджы з гумнамі і азяроды. Цяпер ужо інакш; пры павелічэнні колькасці насельніцтва хаты будуюць па абодва бакі вуліцы, толькі гумны засталіся на адным баку і цягнуцца крокаў дзвесце на аднолькавай адлегласці ад гаспадарчых збудаванняў, нібыта ўтвараючы яшчэ другую, меншую вёсачку. У Камаровічах пры ўваходзе ў вёску на першым жа кроку бачыш карчму, праўда, вельмі сціплых памераў, якая, тым не менш, умяшчае ў сабе даволі шматлікую і гучную грамаду. Карчма, а таксама некалькі першых хацінак

стаяць яшчэ на панскай зямлі. У гэтых хацінах жывуць ляснік, былы аканом, пячнік і яўрэй-крамнік, які разам з гандлем тэкстыльнымі таварамі і рознымі дробязямі часам яшчэ больш спекулюе гарэлкаю, валамі і г.д. У гэтым месцы знаходзіцца даволі шырокі невялікі пляц, пасярод якога стаіць драўляны крыж, заўсёды абвешаны яркімі кавалкамі паркалю – гэта маленькія, старанна пашытыя фартушкі, часам нават з вышыўкаю. Палескія жанчыны вешаюць іх на крыжах, калі ім сасніцца нешта благое, са спадзяваннем, што гэтая ахвяра абароніць іх ад няшчасця. Побач з крыжам ёсць студня, пры ёй карыта і вечна напоўненая лужына. Направа ад гэтага пляца адбягае нібыта асобная вулачка, на якой у вялікім велічным доме з ганкам на слупах жыве праваслаўны святар і яшчэ некалькі гаспадароў. Якім чынам гэтыя некалькі хат адарваліся ад астатняй вёскі, не ведаю. Калісьці гэта маглі быць хаты панскай прыслугі ці рамеснікаў, што пасля надзялення іх зямлёю засталіся на даўніх сядзібах. Сёння яны карыстаюцца тымі ж правамі, што і іншыя сяляне.

На поўнач раскінулася сама вёска – доўгая, не менш за ¾ вярсты. *Вуліца* альбо *вулка* не ўсюды аднолькавай шырыні, часам яна звужаецца, часам пашыраецца, нідзе, аднак, няма ў ёй менш як 10-12 локцяў. Працягваецца вуліца прама аж да пясчанага ўзгорка, на якім зноў жа стаіць крыж. Далей ужо ідзе грэбелька, і пачынаецца вялікі, забалочаны г .зв. *Дзедоўскі луг.* Нават пры самай нязначнай непагадзі вуліца пакрываецца гразёю настолькі, што восенню і вясною яе амаль немагчыма перайсці. Што-небудзь зрабіць з гэтым нашы вяскоўцы дагэтуль не могуць: ніякіх равоў, ні сцёкаў яны не капаюць; толькі калі ўжо ног нельга выцягнуць з гразі, засыпаюць яе пілавіннем ці высцілаюць галлём малыя сцяжынкі ад хаты да хаты, альбо ад хаты да студні і г.д. У цэлым жа вяскоўцы не надта пра гэта клапоцяцца, бо з маленства прызвычайваюцца да макрэчы. Часамі можна бачыць дзяцей, якія, высока падымаючы кашулі, стараюцца перайсці на другі бок вуліцы і гразнуць па калена ў густым чорным месіве. Улетку, калі суха, вуліца становіцца месцам для гуляння дзяцей, дзе таксама збіраюцца сабакі, куры і свінні. Апошніх заўсёды можна бачыць па некалькі разам; яны ляжаць, выцягнуўшыся пад плотам. На прызбах пад вечар любяць пасядзець і пагаманіць людзі сталага веку. У нядзелю ўся вёска стракаціць ад чырвоных спадніц і белых світ. Збіраюцца невялікімі грамадамі, гавораць: тут і старыя мужчыны паляць люлькі, сплёўваючы перад сабою, і бабы – заўсёды крыклівыя, і маладыя “жанк*і*” з немаўлятамі на руках, і хлопцы з дзяўчатамі, – усе грэюцца на сонцы альбо шукаюць ў цению хаты адпачынку пасля тыднёвае працы. Вуліца таксама служыць танцавальнай залай, дзе веснавымі вечарамі моладзь скача пад гукі скрыпкі і барабана. Затое ўзімку вуліца пустуе. Хіба толькі пад вечар яшчэ збіраюцца каля студні, а потым ужо толькі цікаўныя твары выглядваюць з вокнаў, калі ёсць што пабачыць.

Хаты стаяць па абодва бакі вуліцы на неаднолькавай адлегласці адна ад другой. Часам, калі сям’я вельмі вялікая, у адной агароджы месцяцца дзве хаты. Тады адна да другой павернуты дзвярыма. У Камаровічах хаты збудаваны каля самай вуліцы, так што, праходзячы па ёй, можна зазірнуць у вокны. Стаяць яны бокам да вуліцы і дзвярыма да падворка. З вуліцы ў двор вядзе брама: два крыху абчасаныя слупы, загнаныя ў зямлю, злучаюцца ўверсе паўкругам. Для іх выбіраюць адмысловае дрэва, галіна якога выгінаецца менавіта так, каб магла ўтвараць закруглены верх. Палешукі, не шкадуючы часу, гатовы шукаць у лесе такое патрэбнае ім дрэва, каб потым пазбегнуць розных злучэнняў, прымацаванняў і да т.п. Таму на кожным кроку мы можам заўважыць такія амаль зусім неапрацаваныя выгібы, якія яны ўмеюць выкарыстоўваць дзеля сваіх патрэб. Самі дзверы пры гэтай браме сколачаны з дошак і прымацаваны да такой галіны, якая выходзіць ужо з меншага пня, рухома асаджанага ў адным са слупоў, і які служыць у якасці завесы.

Падвор’е, як правіла, падоўжанае, з двух бакоў акружанае рознымі гаспадарчымі збудаваннямі. Насупраць галоўнай брамы ёсць другая брамка, ніжэйшая, дзеля выхаду ў сад і агарод, якія пачынаюцца за хатай вузкай палоскаю і даходзяць ажно да другой агароджы, дзе месцяцца стадола, стагі жыта, часам сушня і азяроды. Кожная гаспадарка, такім чынам, займае сваю вузкую і даўгаватую частку зямлі. На *подвор’і*, па правы бок ад брамы, першаю стаіць хата, за ёю знаходзіцца *поветка* без трох сцен, толькі пакрытая дахам, дзе састаўляюць сані, вазы, запасныя колы, часам сена і да т.п. Потым ідзе *свіронак*, у якім складваюць розныя гаспадарчыя рэчы. Такіх свіронкаў бывае па некалькі ў двары. Стаўляюць іх абы-дзе, часам ля самых варот, ці прыбудоўваюць да нейкае сцяны. Далей – *гумно*, у ім складаюць жыта, там жа і малоцяць на таку; *варыўня* з печчу (толькі ў багацейшых), *хлеў* для нерагатай жывёлы і *обора* для быдла (там жа ставяць і коней, калі няма асобнае *стаёнкі*). Усе гэтыя будынкі ціснуцца на невялікім падвор’і, у большасці выпадкаў яны вельмі малыя, нізкія, крытыя “драніцай”, часам саломаю, сцены ўзведзены з круглякоў. Палешукі не захапляюцца прыгожымі будынкамі, нават і багацейшыя з іх жывуць у брудных, нізкіх, закопчаных памяшканнях. Дрэў амаль не відаць пры хатах. Дзікіх – яны катэгарычна не прызнаюць; часам хто-небудзь садзіць ігрушы, слівы або яблыні, аднак такіх знойдзецца няшмат – ва ўсіх Камаровічах, можа, з пару чалавек. У Заполлі ж крыху больш людзей, якія займаюцца садаводствам, напэўна, дзякуючы той акалічнасці, што там жыве нейкі Сенька, колішні панскі садоўнік, вялікі аматар гэтай справы. Прыклад яго, відаць, уздзейнічае і на іншых.

Хата палешука арыгінальная сваім спосабам будавання. На першы погляд, яна хутчэй падыходзіць для ўтрымання жывёлы, чым для людзей, аднак, нягледзячы на гэта, яна нядрэнна задавальняе патрэбы сваіх уладальнікаў. Паляшук не прагне бачыць каля сябе вялікае прыгажосці, яму не трэба ні арнаментаў, ні эстэтычных ліній, ні маляўнічых узораў. Ён толькі хоча, каб было цёпла, калі на двары стаіць мароз, каб дождж не ліў яму на галаву, каб ён мог уночы выцягнуцца, а ўдзень – выпрастацца ці сесці. Большую частку свайго жыцця ён праводзіць на лугах, на лясных палянках, у полі і ў лесе. Па тыдню і больш, калі праца земляроба закідвае яго на далёкія астравы, ён спіць на голай зямлі, каля вогнішча, пры святле зорак. Хата для яго не з’яўляецца тым агменем, каля якога круціцца і засяроджваецца жыццё. Яна існуе для яго толькі як ахова ў непагадзь, прытулак у вялікі мароз ці ў летнюю спёку і, нарэшце, змяшчае яго багацці. Калі хата адпавядае гэтым патрэбам, ён задаволены і больш нічога не жадае. Хата звычайна невялікая, 14-16 аршынаў у даўжыню і 7-8 аршынаў у шырыню. Залежыць гэта, магчыма, ад таго, што малыя дамы лягчэй будаваць, а таксама ад самога характару палешука, які толькі тады лічыць сябе шчаслівым, калі бачыць перад сабою знаёмыя, родныя твары. Наш селянін не ведае цесляроў. Кожны сам будуе сабе дом – ад прызбы да даху. Большае – гэта калі вясковы муляр, рамеснік-самавук злепіць у хаце з нявыпаленай цэглы (г.зв. *сыроўкі*) печ. Дрэва на хату заўсёды бяруць здаровае, жывое. З сухога, мёртвага дрэва жылую хату няможна будаваць. Яго, аднак, ахвотна выкарыстоўваюць пры ўзвядзенні іншых гаспадарчых будынкаў. Дрэва, амаль заўсёды сасну, апрацоўваюць у лесе, нават часам там і сцены складаюць. Але часцей матэрыял вязуць валамі на падворак і там на шырокай пляцоўцы складаюць у *ключы*. Круглыя калоды, замацаваныя на канцах у такія ключы, трымаюцца вельмі шчыльна і моцна – так, што потым усе чатыры сцяны разам удаецца пасунуць на тое месца, дзе павінна стаяць хата. Паміж бярвенняў дзеля ацяплення густа кладуць мох, а шчыліны з унутранага боку ў хаце залепліваюць яшчэ і глінаю. Падмуркаў тут зусім не робяць. Дубовыя падваліны кладуць проста на зямлю, а на падвалінах узводзяць сцены. Са знешняга боку каля сцен, адступіўшы прыкладна паўаршына, кладуць папалам перапілаваныя ўздоўж

бярвенні, а прастору паміж імі і сцяной засыпаюць моцна ўбітым пяском; такім чынам вакол дома ўтвараецца свайго роду лава, якую называюць *прызбаю*, і на ёй часта садзяцца для адпачынку сталыя людзі ці бавяцца дзеці. Вышыня сцяны ад зямлі да даху ніколі не перавышае чатырох аршынаў. Сустракаюцца і такія нізкія, што чалавек сярэдняга росту без цяжкасці дастае столь. Каркас даху зроблены з драўляных кавалкаў, г.зв. *какошын*, якія падпіраюць галоўную сярэднюю круглую бэльку (называецца яна *сволок*) даўжынёю на ўсю хату, якая мацуе і ўтварае апору ўсяго даху. Какошыны абапіраюцца на сцены ўздоўж хаты, а канцы іх звісаюць вонкі; звычайна яны старанна апрацаваныя, абчасаныя і закругленыя знізу накшталт літары “s”. На іх ляжыць працягнутая ўздоўж усёй хаты цяжкая і тоўстая дошка – *закрыліна*, часта з выразанымі на ніжняй звісаючай старане вострымі зубкамі, якая падтрымлівае пакрыццё даху. Пакрыццё гэтае – магчыма, самае старажытнае, якое можа трапіцца: яно складаецца з цяжкіх няроўных дошчак, не пілаваных, а драных, таму і называецца *драњь*; кідаюць іх тут у вялікай колькасці адна на адну. Іх канцы выступаюць уверх; даўжэйшыя і карацейшыя, ніколі не абрэзаныя, яны ўтвараюць дзіўныя зубчатыя хрыбты. Коміна амаль не відаць: ён нізкі, ледзьве бачны. Яшчэ да нядаўняга часу пра коміны наогул не ведалі, сёння ж у Камаровічах і Заполлі курныя хаты трапляюцца рэдка.

Сама хата ўсярэдзіне дзеліцца на тры няроўныя часткі: самая меншая – сенцы (*сінь*), па правы бок – жылая хата, якая займае больш паловы ўсёй забудовы, па левы бок – *клець*, своеасаблівы свіронак, кладоўка. У некаторых дамах, калі сям’я значна павялічылася, замест клеці ёсць яшчэ адно жылое памяшканне, і тады яна называецца *светліца*, але гэта пакуль што вельмі рэдкія выключэнні. Сенцы, у якія ўваходзяць праз вельмі нізкія дзверы, часта служаць для розных гаспадарчых работ; там стаяць жорны, цэбры, вёдры, непатрэбныя бочкі і інш. прылады. З сенцаў па драбіне можна залезці на гарышча, дзе таксама захоўваюцца розныя рэчы. У клеці складзены ўсе найбольш каштоўныя запасы: вопратка ўсяе сям’і ў вялізных лубяных кублах (скрыняў нашы сяляне амаль не ведаюць), палатно ў штуках, намёткі, вышываныя кашулі, вялікія пакункі ільну і воўны, матк*і* напрадзеных нітак, нарэзанае сала, сушаныя грыбы, лыка на лапці, лісце тытуню, соль, *ліпоўкі*[1] з мёдам, пух і пяро ў мяхах і г.д. Сама хата не больш за 8 кв. аршынаў, сустракаюцца таксама і нашмат меншыя. Зноў нізкія дзверы вядуць у хату, а парог заўсёды вельмі высокі, і калі ўваходзіш, трэба згінацца ўдвая. Адразу каля дзвярэй, з левага боку, амаль чацвёртую частку хаты займае вялікая печ – цяжкая, з мноствам пячурак і сховішчаў, ёсць і *падпеч’е*, дзе сядзяць куры, і *прыпечэк*, на якім можна сесці ці разлегчыся; ёсць малая ямка, прызначаная для зграбання гарачага вуголля, што тлее пад попелам, каб за кожным разам не распальваць агню; ёсць, нарэшце, шырокае месца на печы, якое моцна награецца, дзе зімою ўвесь дзень сядзіць дзятва, а ўночы спяць старэйшыя ў сям’і. У печ кладуць вялікія палены дроў, а калі печ напальваецца, то, каб затрымаць цяпло, зачыняюць адтуліну ў коміне жалезнай бляшкаю. У хаце страшэнна горача, і можна толькі здзіўляцца здароваму арганізму людзей, якія выходзяць з гэтае лазні ў хатнім адзенні, часта басанож, проста на снег і мароз, і лёгка вытрымліваюць падобныя перамены. Па другі бок ад дзвярэй, направа, аж да самога вугла хаты цягнуцца дзве паліцы, на якіх стаяць гаршкі, міскі, шклянкі (іх заўсёды шмат у кожнай хаце), фаянсавыя талеркі, размаляваныя чырвонымі кветкамі, і драўляныя самаробныя лыжкі. Сцяна ад двара направа мае два вакны: першае, ад уваходу – звычайна меншае, шырокае і нізкае; другое – крыху большае. Трэцяе вакно, таксама большае, размешчана ў сцяне ад вуліцы, насупраць дзвярэй. Вокны гэтыя

---

[1] *Ліпоўка* – своеасаблівая бочачка, выдзеўбаная з ліпавага пня. Гэта вельмі трывалае і шчыльнае начынне, паколькі зроблена з суцэльнага кавалка.

складзены з розных кавалачкаў шкла нейк крыху змацаваных паміж сабою, неўпрыкмет то тут, то там украдзеных, бо шкло, цвікі і вяроўкі - такія рэчы, якіх ніводзін паляшук ніколі не купляе і якія ўкрасці з панскага двара ці яшчэ аднекуль зусім не лічыцца за грэх. Тыя маленькія, розных памераў шыбкі не акітаваныя, але кожная ўстаўлена ў сваю асобную драўляную рамачку, утвараючы арыгінальную мазаіку. У вакне ад вуліцы звычайна ёсць шыбка, якую можна адсунуць убок – аднак не дзеля таго, каб упусціць свежае паветра; патрэбы ў ачышчэнні паветра ў хатах наш вясковец зусім не разумее. Часам толькі, калі з коміна дыміць, шырока адчыняюць дзверы. Зрэшты, праз вакно ўвайшло б няшмат паветра, бо адтуліна настолькі малая, што праз яе не зможа прасунуцца нават дзіцячая галоўка. Пад вокнамі ўздоўж сцен стаяць лавы. Месца ў кутку хаты насупраць дзвярэй паміж двума вокнамі называецца *покуць*. Гэта ганаровае месца ў хаце. Там звычайна сядзіць гаспадар, калі палуднуюць ці вячэраюць, там рассаджваюць ганаровых гасцей, а ўвечары, напярэдадні Ражства Хрыстовага там жа на жмуце сена стаіць міска з куццёю. Перад лаваю пад вакном стаіць стол, збіты з некалькіх дошак. Часам, хоць і вельмі рэдка, у ім ёсць шуфлядка. Стол гэты ўвесь дзень накрыты саматканым абрусам, на сярэдзіне стала ляжыць бохан хлеба. Над вакном адзін пры адным у рад вісяць абразы. Цяпер усё часцей набываюць распаўсюджанне брыдкія, друкаваныя, страката размаляваныя гравюры, але яшчэ амаль ва ўсіх хатах сустракаюцца і старыя іконы, уручную намаляваныя на дрэве. Яны вельмі недасканалыя і смешныя, але выкананыя з сапраўды наіўнай і шчырай верай. Звычайна выстаўляюць якуюсьці *Прачысту*, з вялікай галавою на тонкай шыі, святых *Петро-Паўло*, што стаяць поруч, з кнігаю і ключамі, св. *Юр'я*, часам Міхаіла, калі-нікалі св. Тройцу. У маладзейшых сярод абразоў і ў адным радзе з імі вісіць яркая алеаграфія з выяваю цара і царыцы ў каранацыйных строях. Усе абразы зверху пакрытыя ручніком, канцы якога вытканы чырванню і звісаюць па абодва бакі. Там жа затыкаюць пасвячоную вярбу, грамнічную свечку і пасвячоныя ў царкве зёлкі, якімі потым абкурваюць хворых. Паміж печчу і сцяной, налева ад дзвярэй, стаіць *полка* або *ложа*. Звычайна гэта доўгі і шырокі тапчан, нерухома прымацаваны да сцяны, на якім могуць спаць разам некалькі асоб. Найчасцей гэтае месца займаюць гаспадар з жонкаю, старэйшыя людзі спяць на печы, а маладзейшыя сцелюць сабе на лавах пад вокнамі. Колькасць спячых у адной хаце часам даходзіць да 14 і больш асоб. Улетку ўсе маладзейшыя спяць у стадоле, у гумне або на свежым паветры. Наогул трэба прызнаць, што вялікіх выгод палешукі не шукаюць: на дошкі кладуць сяннік, пад галаву падушку з пер'ем, пакрытую каляровым паркалем, а за пакрывала служыць ваўняная, досыць цёплая *прасцілка* ці кажух. Старэйшыя часам спяць на пярыне. Могуць, аднак, абыйсціся без усіх гэтых рэчаў, ім зручна бывае спаць і на голых дошках са скручанай пад галавою адзежынай замест падушкі. Поўнасцю перад сном не распранаюцца. Мужчыны скідаюць толькі боты або лапці, камізэльку і паясы, жанчыны застаюцца ў кашулі, у лёгкай спадніцы, з малой хустачкай на галаве. Калі ў хаце ёсць маленькае дзіця, то калыска, звычайна лубяная, падвешваецца на вяроўках, што спускаюцца ад столі, блізка каля ложка, каб матка магла, не ўстаючы, пагушкаць яго, калі закрычыць. За бэлькі пад столлю, як правіла, затыкаюць розныя рэчы: верацёны, вязанкі ільну, ссохлыя макавіны, лучыны, сухія зёлкі, лыка на лапці і г.д. Усё гэта так нізка, што дастаткова падняць руку, каб нешта дастаць, калі трэба. Таксама пад столлю каля ложка вісіць доўгая папярочная жэрдка, якая служыць вешалкаю для разнастайнага адзення, якое трэба мець пад рукою; яшчэ там сохне бялізна, пялёнкі і г.д. Столь з драўляных бэлек ніколі не беляць. Сцены раней таксама не бялілі, толькі штотыдзень мылі гарачай вадою, з-за чаго яны з цягам часу рабіліся гладкія і бліскучыя, нібы паліраваныя. Цяпер гэты звычай адыходзіць, і замест мыцця раз або два разы на

год іх беляць крэйдай. Гэта выглядае брыдка на драўлянай сцяне. У хаце амаль ніколі не бывае падлогі, яе замяняе звычайная зямля, прыбітая глінаю, няроўная і поўная дзірак. Паміж двума вокнамі і насупраць двара, можа, на паўтара локця ад сцяны знаходзіцца *лучнік*. Гэта арыгінальная і вельмі практычная прылада для асвятлення і, наколькі я ведаю, чыста палескага паходжання – свайго роду "комін", які спускаецца са столі ўніз, вузкі ўверсе і пашыраны ўнізе. Ён сплецены з лазы, абгорнуты грубым палатном і аблеплены зверху і ўсярэдзіне глінаю. Унізе на даволі доўгіх кручках падвешваецца жалезная рашотка, на якую кладуць запаленую смольную лучыну. Дым выходзіць праз лучнік уверх, на двор, паветра ў хаце ачышчаецца, а лучына лье яснае, прыгожае, вясёлае святло, якое ружовым бляскам асвятляе маладыя твары, што схіліліся над прасніцаю, старыя сівыя галовы і закопчаныя тварыкі дзяцей. Само памяшканне палескай хаты пры святле лучніка ўяўляе сапраўды маляўнічае відовішча. Нейкі водар старажытнасці, даўно мінулых гадоў сыходзіць з гэтага зацішнага свету, для якога чужымі здаюцца агульначалавечыя, грамадскія і палітычныя інтарэсы і які пра тое, што хвалюе ўсю астатнюю Еўропу, не мае найменшага ўяўлення і зусім не прагне вырвацца з гэтага зачараванага кола, спрадвеку яшчэ распачатага продкамі. Нагледзеўшыся на цывілізаваныя краіны, на адукаваныя народы, цяжка паверыць, што гэтая палеская хата ці яе жыхары, усе гэтыя прыстасаванні і ўвесь гэты першабытны лад сапраўды існуюць пасярод зменлівага еўрапейскага грамадства на схіле XIX стагоддзя. Такія гэтыя людзі яшчэ простыя, самародкавыя, наіўныя, поўныя дзіцячай абаяльнасці і такія блізкія да першабытнай прыроды!

Тое, што я расказала пра хату і сялянскія будынкі ў Камаровічах, аднолькава адносіцца і да Заполля, з той толькі розніцаю, што хаты тут стаяць крыху далей ад вуліцы – на локаць або два па-за плотам, які адгароджвае іх ад вуліцы. Чаму гэтак – не ведаю. Вёска Заполле таксама размясцілася на забалочанай глебе, каля лесу, да якога яна даходзіць. Весялейшы выгляд вёска мае з боку Камаровічаў, акружаная з абодвух бакоў палямі, заключанымі ў цёмныя рамкі сасновага лесу. Направа, сярод падобных на ланцуг малых узгоркаў з карлікавымі хвойкамі, знаходзяцца старадаўнія паганскія могілкі, раскапаныя некалькі гадоў таму археолагам праф. Завітневічам. У Заполлі знаходзіцца валасная канцылярыя, лазня, шпіталь з жытлом фельчара, школа і кузня. У сярэдзіне вёскі стаіць даволі прыкметная карчма, арандуе яе багаты яўрэй Хаім, які мае поўнае права лічыцца носьбітам цывілізацыі. Тут у яго звычайна адбываюцца ўсялякія яўрэйскія набажэнствы. І хоць у Камаровічах жыве шмат яўрэяў, тым не менш сваёй школы яны не маюць.

Наш народ не вызначаецца чысцінёю. Хаты, як правіла, брудныя і настолькі перапоўненыя рознымі насякомымі, што непрызвычаенаму да гэтага чалавеку цяжка тут доўга вытрымаць. Жывёл, праўда, апроч курэй і катоў, у хатах не трымаюць, часам толькі прыганяюць свінню, каб пакарміць яе каля печы, і адразу выганяюць. Хату, праўда, замятаюць кожную раніцу, але пры бясконцым засмечванні, выліванні і сплёўванні тут ніколі не бывае чыста. Па вуглах відаць шэрую імглу павуціння, а летам заўсёды поўна мух і камароў. Двара не замятаюць літаральна ніколі, таму смецце на ім ляжыць кучамі, і нікога гэта не хвалюе. Перад вялікімі ўрачыстасцямі ў хаце наводзяць парадак, прыбіраюць непатрэбныя старыя рэчы, а стол і лавы мыюць гарачаю вадою. Чысціня ўласнага цела, як можна здагадацца, залежыць ад асабістых поглядаў на гэтую справу. Наогул мыюцца штодзённа, адразу пасля ўставання, наступным чынам: набіраюць з кубка ваду ў рот, выліваюць яе з вуснаў у далоні і ёю мыюць сабе твар. Прычэсваюцца рэдка, бадай што толькі адзін раз у тыдзень, у нядзелю з раніцы. У жанчын доўгія прыгожыя валасы, расчэсваюць іх часта звычайным грэбенем з кляновага дрэва, які служыць ім таксама і для часання ільну. Бялізну перамяняюць у нядзелю, або калі выпадае якое свята, або калі ідуць на важныя адведкі. Улетку вельмі

любяць халоднае купанне і пасля доўгага працоўнага дня грамадамі цягнуцца за тры вярсты да ракі Арэсы і там купаюцца і адпачываюць. Зімою ходзяць у лазню, якую валасны наглядчык павінен прапальваць перад кожным святам на працягу некалькіх дзён, каб усе маглі ўволю напарыцца. А ўвогуле чысціню тут дагэтуль успрымаюць як нейкае прыхарошванне і святочную празмернасць, і яна не лічыцца паўсядзённай патрэбай.

І тым не менш нельга адмовіць нашым сялянам у пэўным адчуванні прыгажосці. Ёсць цяга да арнаментоўкі хатніх прылад, ёсць моцнае жаданне прыгожа апранацца. Зразумела, што ўсё гэта прадстаўлена яшчэ ў маларазвітых формах, што дамарослыя мастакі не выяўляюць надта вялікай разнастайнасці ў творчых ідэях, але іх майстэрства сапраўды вырасла на мясцовым грунце, без ніякіх чужых уплываў. Не ведаю, ці можна аднесці да тутэйшага тыпу архітэктуры старажытныя ўніяцкія цэркаўкі, якія яшчэ дзе-нідзе сустракаюцца, але ва ўсялякім выпадку яны выглядаюць прыгожа і маляўніча. З хатняга ўжытку – гаршкі і міскі часта бываюць аздоблены пэўным арнаментам светлага колеру на цёмным фоне гліны. Дробныя вырабы з дрэва – такія, як лыжкі, сальнічкі, кублы і г.д. – зроблены з сапраўдным густам і дакладнасцю. Найлепш, аднак, праявілася мастацкае вынаходніцтва ў строях і тканінах. Цікаваю магла б быць калекцыя палескіх тканін і ўзораў, якімі іх аздабляюць нашы жанчыны. Я не ведаю настолькі добра гэтую справу, каб магла гаварыць пра яе; ведаю толькі, што чырвоныя ўзоры на рукавах саматканых кашуль, клеткі ці палосы на спадніцах, канцы намётак або ручнікоў і паясы, якімі падпярэзваюцца, уяўляюць такую вялікую разнастайнасць, што цяжка сустрэць два разы дакладна такі самы ўзор. Амаль кожны ўзор мае сваю, характэрную для яго назву: *на ўкоскі, на тры крыж'я, по-пілітоўіцкі, гускі* і г.д. Колеры, ужываныя ў вырабах з воўны, бываюць: чорны, чырвоны, зялёны, жоўты, сіні і белы, але дзеля гэтага апошняга бяруць бавоўну. Сам працэс ткання вельмі адмысловы, індывідуальна прадуманы, і здатная майстрыха можа выткаць на невялікім варштаце прыгожыя ўзоры-дарожкі на абрусы або ручнікі. У варштат (кросны) састаўнымі дэталямі ўваходзяць: *вороціло, дошчэчкі, ніты,* якіх можа быць чатыры, шэсць, восем і больш, *бердо* і *чоленко* (чаўнок). Паяскі ткуць нейкім дзіўнаватым спосабам, і адзінай прыладай тут з'яўляецца цвік, убіты ў сцяну, на які прымацавана ўся работа, а далей усё робіцца ў руках.

Адзенне палескага народа вельмі прыгожае. Назіраецца вялікая разнастайнасць у спосабе павязвання хустак, у крої світак і гарсэтаў; амаль у кожнай вёсцы ёсць свае адметныя рысы. У Камаровічах, нягледзячы на пранікненне новых павеваў, дагэтуль захоўваюцца адвечныя мясцовыя ўборы.

Мужчына носіць кашулю з самаробнага хатняга палатна, доўгую, амаль да каленяў, з малым адкладным каўняром (*калнір*), завязаным пад шыю чырвонай тасемкай (*косінка*). Штаны летам носяць найчасцей палатняныя, або з льнянога даматканага матэрыялу, які называюць *летнік*, у клетку, белае з блакітным. Часам на штаны купляюць корт або сукно, але гэта рэдка бывае. На нагах перш за ўсё носяць палатняныя *анучы*, якімі абгортваюць нагу аж да калена, а потым абуваюць лапці з ліпавага лыка, завязаныя чорнымі раменнымі аборамі такім самым спосабам, што і пры костцы; там, дзе нага танчэйшая, наматваюць аборамі густа, адзін віток каля аднаго, далей – шырока накрыж і потым зноў пад каленам густа абвязваюць нагу. У дадатак да адзежы носяць таксама боты (*чоботы*), зробленыя яўрэем-шаўцом з дамашняй скуры. Нідзе босыя не ходзяць, хіба толькі каля дома, па двары, а калі трэба ісці далей, то абуваюць лапці. Штаны запраўляюць у боты, альбо аборамі ад лапцёў завязваюць ля каленяў. На кашулю, якая надзета паверх штаноў, апранаюць даўгаполую камізэльку з глыбокім выразам каля шыі, ззаду яна палатняная, а спераду – са свайго дамашняга сукна, чырвонага ў клетку, альбо ў чорныя, зялёныя ці жоўтыя палосы. Зашпільваецца камізэлька на куплёныя масянжовыя

гузікі. Кашулю падвязваюць *пояском* – або чырвоным, тканым у празрыстую сетку, з вісячымі па канцах хвосцікамі, якія завуцца *махры,* або featrзнакаляровым, шырынёю ў тры пальцы, густа тканым, з рознымі ўзорамі. На гэтым поясе вісіць *каліта* або *шабета* – скураная сумачка дзеля захоўвання труту і крэменю, *ножный* (для нажа) скураны футарал, *огніво*, кавалак каванага жалеза дзеля выкрасання агню. Запалкі дзеля ашчаднасці выкарыстоўваюць як мага менш. Трут робіцца з драўлянага грыба, які доўга вараць, потым прысыпаюць салетрай або порахам. Суконная світа звычайна бывае белая альбо светла-попельнага колеру, доўгая да каленяў, часам крыху вышытая сінім шнурком пры кішэнях. Сукно звычайна даматканае, але світу павінен пашыць яўрэй-кравец. Зімою носяць кажухі. Шапкі па большай частцы купляюць, аднак зімовай парою сустракаюцца яшчэ і шапкі, пашытыя дома: суконныя белыя, уверсе чатырохкутныя, аздобленыя па швах сінім шнурком, аточаныя на адвароце футрам, якое можна апусціць на вушы і завязаць пад барадою. Такія шапкі называюцца *аблаухі* і носяць іх толькі вельмі старыя людзі.

Жанчыны прыбіраюцца наступным чынам: лапці альбо боты, як і ў мужчын. Доўгая кашуля, якая зашпільваецца на шыі маленькім каўнерыкам, з шырокімі рукавамі, аздобленымі ля далоняў вузкай абшыўкай. Гэтая абшыўка, каўнерык і ўвесь рукаў ад пляча да локця *перэткани* чырвонымі ўзорамі, толькі дзе-нідзе ўпрыгожанымі вузкай блакітнай палоскаю. Жаночая кашуля складаецца з трох нясточаных кліноў (*полкі*), акрамя таго ёсць *рукава*, а пад імі касыя *куточкі* або *ласточкі*, на плячах *выстаўкі*, пры шыі і рукавах – *каўнерыкі, пазуха*, з тылу ж, на карку, матэрыял збіраецца ў *закладкі*. Спадніца доўгая, да зямлі, зморшчаная каля пояса і заўсёды звязаная тканым *пояском*, канцы якога звісаюць збоку. Спадніца гэтая пашыта з ваўнянога матэрыялу, чырвоная ў клетку ці ў чорныя, сінія або зялёныя палосы; гэты ўласнаручны тканы выраб завецца *андаракі*. Летам ужо часта можна бачыць у святы паркалёвыя спадніцы, звычайна чырвоныя. На работу таксама надзяваюць, як больш зручныя і танныя, льняныя спадніцы; яны лягчэйшыя і таннейшыя, белыя з блакітным – *летнікі*. Маюць жанчыны на кожны дзень палатняныя фартухі,ператканыя чырвоным, на святы – белыя, паркалёвыя, куплёныя ў яўрэек, з нашыўкамі альбо з вязанай устаўкаю. За такі фартух, абы-як пашыты, плоцяць па 5 злотых і больш. *Горсэты* робяць часцей за ўсё цёмныя: шарсцяныя чорныя, сінія, а часта нават чорныя з аксаміту; маладыя жанчыны да свайго строю выбіраюць чырвоныя паркалёвыя з жоўтымі і зялёнымі кветкамі. Такі гарсэт шыецца без рукавоў, з глыбокім выразам каля шыі і зашпільваецца на бліскучыя гузікі; ён шчыльна аблягае фігуру і дасканала падкрэслівае яе формы. На шыі мноства шкляных пацерак, крыжыкаў, латунных медалікаў, разнастайных бліскучых цацак, павязаных стужкамі самых яркіх колераў. І ніколі іх не бывае зашмат. На галаве дзяўчаты носяць паркалёвыя хусткі, завязаныя ззаду так, што два канцы вісяць па абодва бакі. Валасы над ілбом раздзелены і гладка зачасаныя. Цяпер і замужнія жанчыны пачынаюць насіць такія хусткі, але да нядаўняга часу адзнакай замужніцы (*жонкі*) была *намётка*. У дзень шлюбу яна была абавязковым убраннем кожнай замужняй жанчыны. На намётку бяруць самае тонкае і самае лепшае палатно, яго нацягваюць на лубяную формачку ў выглядзе кароны, якая завецца *лямец*; адзін яе канец абрамляе твар, больш свабодна яна прылягае каля вушэй, а другі канец спадае на спіну ніжэй пояса. На гэтую намётку завязваюць яшчэ каляровую хустку, звычайна чырвоную (бо гэта любімы колер), і прымацоўваюць бліскучымі заколкамі. Жанчыны носяць такія самыя, як і ў мужчын, белыя світы і падпяразваюцца чырвонымі паясамі. Калі гразка ці снег, яны вельмі спрытна падымаюць спадніцу і падтыкаюць яе вышэй каленяў. Прыгожа тады выглядаюць іх зграбныя постаці, што рухаюцца шырокім крокам. Рукі яны трымаюць часцей складзенымі на грудзях, а калі нясуць дзіця або нешта цяжкае, дык заўсёды ў лубяной кашолцы на плячах.

Трэба прызнаць, што палескія жанчыны маюць вельмі прывабны выгляд і ў цэлым прыгажэйшыя за мужчын. Сярэдняга росту, яны ніколі не бываюць ні надта худымі, ні празмерна тоўстымі; яны шырокія ў плячах, з выразнымі грудзьмі і стройнай шыяй, рухаюцца свабодна, размашыста і паважна. Галаву трымаюць узнята, глядзяць прама ў вочы, у маладзейшых вочы так і блішчаць ад какетлівасці. Ёсць у іх штосьці гордае і няскоранае, калі яны ў святочны дзень стаяць са складзенымі на грудзях рукамі, абапершыся на вароты, упэўненыя ў сабе, стройныя, свежыя, асляпляючы яскравасцю колераў. На прывітанне чалавека з панскага двара “Добры вечар!” яны, злёгку ківаючы галавою, спакойна адказваюць: “А добры, пане!” Бабулі, добразычлівыя і даверлівыя, ахвотна затрымліваюцца для даўжэйшай гамонкі. Мужчыны ж наогул маюць сярэдні рост і шмат сярод іх вельмі нязграбных, цяжкіх, з доўгімі рукамі і крывымі нагамі. Але часта сустракаюцца і вельмі малыя. Відаць, іх развіццё адбываецца вельмі запознена, бо часта 22-гадовыя юнакі яшчэ не маюць і следу вусоў і барод і выглядаюць такімі маладымі, што часам іх можна прыняць ледзь не за дзяцей. Барод і вусоў тут ніколі не голяць, хіба як выключэнне, і то толькі тыя, хто нядаўна вярнуўся з войска. Валасы носяць даволі доўгія і стрыгуць іх роўна вакол галавы. У мужчын заўважаецца таксама больш агіднай прыніжанасці перад тымі, каго яны лічаць лепшымі за сябе, кланяюцца ім у пояс, пакорліва прыгінаюцца і наогул яны менш, чым жанчыны, размоўныя, а больш дзікія.

Пераважны колер валасоў на Палессі – светла-русы, крыху залацісты. Сустракаюцца, аднак, вельмі часта зусім чорныя галовы і, што цікава – яны амаль ніколі не сівеюць. Ведала я і 80-гадовых бабуль з абсалютна чорнымі валасамі. Вочы амаль ва ўсіх светла-шэрыя; не памятаю, каб калі-небудзь бачыла чорныя або нават піўныя. Пры цёмных валасах такія шэрыя вочы, акружаныя чорнымі вейкамі, робяць вельмі прыемнае ўражанне. Сустракаюцца таксама і блакітныя вочы, але не так часта. Твары звычайна круглыя, свежыя, з зусім некласічнымі рысамі, вызначаюцца раскошнымі зубамі. Наогул жа, вельмі прыгожых твараў мала, але і выразна брыдкіх не відаць, асабліва сярод жанчын. Гэта пераважна мілыя тварыкі, ад якіх павявае здароўем і весялосцю.

Маладыя хлопцы вельмі дбаюць пра сваю знешнасць і ўмеюць кідаць свае забойчыя позіркі на дзяўчат. Ёсць таксама сярод іх вельмі настырныя і адважныя і ў дачыненні да жанчын. Аднак іх ідэалам з’яўляецца не тая гожая, здаровая, свежая і румяная дзеўка, якую мы звычайна лічым за тып вясковай прыгажосці. Палеская моладзь схільна закахацца ў жанчын хілых, далікатнага выгляду, якія маюць *цела бела, чорны бровы* і *русу косу*, а яшчэ трохі падобныя да “паненак”. Такія карыстаюцца вялікім поспехам.

## IV.

Становішча вясковай жанчыны на Палессі здаецца цяжкім і невясёлым ад самога пачатку. Слабейшая па сваёй прыродзе за мужчыну, яна вымушана ва ўсім падпарадкоўвацца капрызнаму і грубаму гаспадару, для якога абсалютна не існуе паняцця далікатнасці і які ніколі не ўмее стрымаць выбуховага гневу або зайздрасці. Грубае абыходжанне мужа з жонкаю, калі ён б’е яе, праклінае, выганяе з хаты, становяцца такой звычайнай і штодзённай з’явау, што гэта нікога не здзіўляе і не абурае; нават больш таго, калі б муж не біў сваёй жонкі, гэта лічылася б дзіўным, і ён успрымаўся б усімі як нейкі няздара і недарэка. Песні і казкі перапоўнены нараканнямі жонак на грубую сілу мужоў. У прыказках гавораць: “Як муж жонкі не б’е, то ў её лёгкае гніе”, “Любі жонку, як душу, а калаці, як грушу”. Так адбываецца і ў жыцці. Усе жонкі без выключэння бываюць бітыя і пакрыўджаныя, зняверaныя ў сваіх мужоў, і факт гэты настолькі вядомы, што ніхто не лічыць патрэбным ані ўтойваць гэтага, ані саромецца. Маладая жанчына, у якой пытаюцца, ці добрага

мужа яна мае, заўсёды адказвае: “А чэму ж, добрый!” – “А ці цебе б’е?” – “Неўжэ ж!” – гаворыць са смехам, без ценю няёмкасці. І трэба прызнаць, што самі жанчыны толькі тады адчуваюць сваё бядотнае становішча і крыўду над сабою, калі яно прыносіць ім боль ці засмучэнне. Яны не ўяўляюць, каб магло быць іначай, не адчуваюць патрэбы, каб змяніць усё гэта, а сваёй чалавечай годнасці яшчэ цаніць не навучыліся. Пакуль яна маладая, увесь навакольны свет так вабіць яе, а яе ўласная натура поўніцца такой жывасцю, што для смутку і меланхоліі не застаецца ніякага месца. Пасля бурлівай сямейнай сцэны з нявысахлымі слязьмі на вейках бяжыць яна да суседак і ў даверлівай гаворцы, што перапыняецца выбухамі смеху, хутка забываецца на сваю бяду. Бо жанчыны, нягледзячы на знясільваючую працу і грубае абыходжанне, вельмі вясёлыя. Яны па-дзіцячы цешацца любой забаваю, радуюцца падарунку, гадзінамі смяюцца і рагочуць, і, як ва ўсім свеце, так і тут, вызначаюцца гаманлівасцю, якая часта пераходзіць у сварку і нараканні. Дзяўчаты і маладыя “жонкі” надзвычай любяць танец, і нават старэйшыя бабы, калі крыху падап’юць на нейкай гулянцы, ахвотна пускаюцца ў скокі, падпяваючы і прытупваючы нагамі. Наогул, усе яны любяць збірацца разам, самая цяжкая работа не палохае іх, калі яна выконваецца шматлікім гуртом. Капанне бульбы, напрыклад, на панскім полі пры спрыяльным надвор’і лічыцца найвялікшай прыемнасцю, і кожная з нецярплівасцю чакае гэтае пары. Затое цяжкай караю для кожнай становіцца адзінота, адасобленасць; таму стараюцца, наколькі магчыма, пазбягаць гэтага, і пры пэўных выпадках дамаўляюцца так, каб можна было працаваць разам. Калі ў абедзвюх сясцёр паспела грэчка, то адзін дзень яны разам ідуць рваць яе да аднае, а на наступны – да другое. Тлумачаць гэта тым, што так спарней ідзе работа. Позняй восенню, калі надыходзіць пара прадзення, некалькі пралляў наймаюць сабе разам нейкую хату, і вечарамі, з прасніцай у руцэ і песняй на вуснах збіраюцца там пры бляску лучніка. Тады гучаць песні, кружаць байкі і загадкі, а то і маладыя хлопцы прыходзяць на тыя *вечэрніцы* забаўляць дзяўчат размовамі. Часта бывае, што позным вечарам, калі дзяўчаты пакідаюць хату, хлопцы нападаюць на іх з-за вугла, палохаюць і ганяць па вуліцы. Колькі разоў такая, на першы погляд, нявінная забава не для аднае з іх мела згубны канец; не адна ў такую восеньскую ноч амаль неўпрыкмет і міжволі страчвае свой дзявочы вяночак. Бо і тут таксама найчасцей праяўляецца брутальная жарсць і гвалт мужчын, нежаданне стрымліваць сваіх жаданняў. Здараецца такое вельмі часта і, на жаль, робіцца ўсё больш распаўсюджаным. Калісьці пры паншчыне за дзявочай цнотай як быццам бы пільна сачылі. Так, ва ўсякім выпадку, сцвярджаюць старыя людзі. Пачцівая дзяўчына знаходзіла падтрымку і заахвочвалася з боку панскага двара, а тая, што дрэнна сябе паводзіла, выклікала агульнае асуджэнне. Пры ўступленні ў шлюб вялікую ролю адыгрывала цнатлівасць дзяўчыны. Сёння ўсё больш паслабляюцца вузлы звычаяў і маралі. Я чула ад некалькіх асоб, якія добра ведаюць тутэйшыя ваколіцы, і сама магу пацвердзіць такую думку, што дзяўчына, якая не мела кахання да шлюбу, лічыцца рэдкім выключэннем. Несумненна, ёсць яшчэ і ў нашы дні такія дзяўчаты строгай маралі, якіх цэняць вышэй за астатніх. Але ці не падвергнецца неўзабаве фатальнаму скажэнню, пры пастаянным падзенні маральных асноў, і гэтае паняцце пра дзявочую чысціню як яе несумненную вартасць? Няма ў тутэйшага люду ніякіх досыць пераканаўчых фактараў, якія б супрацьдзейнічалі голасу прыроды і ўжо вельмі сапсаваным уяўленням пра дзявочую нявіннасць, а поспех, якім карыстаюцца ветраныя дзяўчаты, і разнастайныя выгоды і прыемнасці, якіх яны дасягаюць за кошт сваёй нявіннасці, могуць толькі заахвоціць таварышак пайсці па іх слядах, тым больш што кепскія паводзіны ніколькі не ўплываюць на ўступленне ў шлюб, і неаднойчы вядомая сваімі любоўнымі прыгодамі дзяўчына заканчвала тым, што вельмі добра і з карысцю для сябе выходзіла замуж. І сама я ведала дзяўчыну, якой, можа, жартам, аднак не без ценю праўды, прыпісвалі 30

палюбоўнікаў. Год таму, хоць ужо была і не першай маладосці, і не прыгожая, і не багатая, яна выйшла замуж за гаспадаровага сына і цяпер стала шчасліваю маткаю прыгожага хлопчыка. Бацькі таксама ў сваёй большасці даволі абыякавыя і праз пальцы глядзяць на паводзіны дачок. Часта здараецца, што калі бацька ці матка схопяць дзеўку на любоўным спатканні з хлопцам, то адлупцуюць яе так, што на пэўны час адаб'юць у яе ахвоту да падобных сустрэч. Але на гэтым усё і заканчваецца. Матка не лічыць сваім абавязкам пільнаваць і ўшчуваць сваю падрастаючую дачку, для бацькі ніжэй яго гонару засланяць яе ад выпадковых кавалераў. Дзяўчына, пакінутая сама сабе і ўласным інстынктам, часта рызыкуючы, доўгі час назіраючы за рознымі спакуслівымі сцэнамі і не маючы ў душы ніякіх засцярог ад кепскіх намераў, паддаецца першым-лепшым спакусам, і потым, калі зроблены пачатковы крок, усё далей і лягчэй рухаецца па тым шляху. За гэта атрымлівае зусім дастатковую, паводле агульнапрынятага тут уяўлення, узнагароду: каханы купляе пацеркі, часам хустку, абаранак ці чарку гарэлкі, а калі ён вельмі шчодры, то прывозіць з якога-небудзь кірмашу пару ботаў. Гэта, аднак, не перашкаджае яму не раз атрымліваць узаемнасць сваёй дзеўкі; яна павінна пашыць яму кашулю, выткаць паясок, памыць і залатаць бялізну, і разам з тым – неаднойчы моўчкі сцярпець яго гнеў і кулакі. Бо палюбоўнікі ў нас у большасці не саромеюцца і тым смялей спаганяюць сваю злосць на дзяўчыне, ведаючы, што ёй няма каму паскардзіцца.

Ці маюць такія стасункі штосьці агульнае з каханнем? Вельмі цяжка гэта разгадаць. Мне здаецца, што ў большасці выпадкаў адыгрывае ролю толькі фізічнае прыцягненне, якое кідае дваіх людзей ва ўзаемныя абдымкі. Можа, не аднойчы такі шлюб вырашае адна хвіліна, а потым прывыканне і ўзаемная згода замацоўваюць гэтыя мімалётныя пачуцці. Часта, аднак, імі кіруе нейкі больш узнёслы, вышэйшы фактар, і я перакананая, што, можа, даволі рэдка, але і сярод нашых сялян узнікае сапраўднае і глыбокае каханне. Вядома, што калі я распытвала ў іх пра каханне, яны не маглі яго акрэсліць, але адчуваць яго ўмеюць: яно набывае часта характар нястрыманых пачуццяў, якія неаднойчы прыводзяць да сапраўднае драмы. Дазволю сабе прывесці пару фактаў. У адной з навакольных вёсак служыла ў багатага гаспадара дзяўчына, была яна таксама і яго каханкаю. Іх адносіны працягваліся даволі доўга, пакуль жонка, даведаўшыся пра гэта, не прымусіла мужа выправадзіць служку. Тая сышла, відаць, пасля бурнай сцэны, але праз нейкі час, перапоўненая пачуццём помсты, вярнулася да сваіх гаспадароў і люта забіла абоіх. Яшчэ адна маладая і вельмі прыгожая дзяўчына была выдадзена замуж супраць сваёй волі і знайшла сабе ўцеху ў некім іншым; яна закахалася ў маладога хлопца з Камаровічаў, уцякла ад мужа спачатку да сваіх бацькоў, і калі яны зноў яе выдалі згаданаму мужу, то спрабавала яго атруціць, каб навекі пазбавіцца нялюбага. Задума яе не ўдалася, але расчараваны муж ужо не затрымліваў яе пасля гэтага. Вярнулася яна ў Камаровічы, пасялілася ў родзічкі і цалкам аддалася сваім пачуццям. Аднак, нядоўга гэта працягвалася, бо каханага ўзялі ў войска. Я сама бачыла яе менавіта тады, калі яго лёс быў вырашаны, прыгажуня Аксеня пасля сваіх беспаспяховых зваротаў да пісара, старшыні і іншых уладаў вымушана была пагадзіцца з такім лёсам. Але схуднела, збялела і плакала паціху некалькі тыдняў.

Не ведаю, да якой катэгорыі пачуццяў можна залічыць такую іх праяву. Калі нешта падобнае сустракаецца ў асяроддзі вытанчаных людзей, мы гаворым пра духоўную еднасць, пра ўзаемную сімпатыю параднёных сэрцаў, пра боскія вытокі пачуццяў. Для простых жа сялян усё гэта было б залішне прыгожа. Але мне здаецца, што не адна толькі пачуццёвая жарсць, але іншае, больш узнёслае і невытлумачанае прыцягненне, агульнавядомае пад назваю "каханне", дзейнічае і сярод іх. З прыемнасцю пацвярджаю гэта, бо пры частых нараканнях на тое, што ў "хлопаў" няма сэрца, прыемна адзначыць і гэты факт, які хоць часткова, але абвяргае гэтае сумнае перакананне.

Дзяўчаты карыстаюцца, можна сказаць, самай неабмежаванай свабодаю, бацькі ж клапоцяцца толькі пра тое, каб выкарыстаць іх сілы і ўменне ў гаспадарцы і каб з цягам часу выдаць іх замуж, як найлепей і з меншымі для сябе выдаткамі. Такім чынам, дзяўчына цешыцца жыццём і сваёй маладосцю, гуляе, прыгожа апранаецца, наколькі гэта магчыма; са шматлікім гронам сябровак, спяваючы, бегае ў лес *по грыбы* ці *на арэхі*, усміхаецца і какетнічае з хлопцамі, адказвае пацалункам на пацалунак і кулаком на штуршок. У запусты танцуе, вясною гуляе на лугах, на Купаллі скача і танчыць каля вогнішча – і так весела сыходзяць гады маладосці. Толькі пасля замужжа пачынаецца сур'ёзнае жыццё, звязанае з клопатамі і парою з цяжкой працай. Бо менавіта ёю абцяжарана жанчына-гаспадыня на Палессі. Апрача хатняй гаспадаркі, догляду жывёлы і ўсялякага набытку, абмывання, абшывання сям'і, гадавання і выхоўвання дзяцей, ёсць яшчэ работа ў полі і на агародзе, якую, вядома, яна сама павінна выконваць, бо ніводзін мужчына не дакранецца да яе. Каб усяму гэтаму даць рады, трэба быць актыўнаю, працавітаю і перш за ўсё здаровaю. Акрамя цяжкой працы, жанчыне, што выходзіць замуж, заўсёды пагражае прывід мужавай сям'і – нязменна патрабавальнай, часта варожа настроенай і нядобразычлівай. Вобраз *свекрухны*, паводле ўяўленняў тутэйшых людзей, становіцца ўвасабленнем зласлівасці, разладу і лютасці.

Вось чаму шлюб, прынамсі для дзяўчыны, не ўяўляецца вяршыняй зямнога шчасця. Кожная ведае, што гэта яе не міне, бо старых дзяўчат тут амаль не сустрэнеш, але ніводная не рвецца да алтара. Наадварот, адцягваюць і марудзяць, стараючыся рознымі спосабамі адсунуць гэты момант як найдалей. Кажуць: “Будзе часу! Шчэ ж пар*а*!” Таму што пры ўступленні ў шлюб вельмі рэдка бярэцца пад увагу ўзаемная схільнасць. Бацькі дамаўляюцца паміж сабою з дапамогаю сватоў, і ў гэтай згодзе найважнейшую ролю адыгрываюць дастатак, працавітасць, цвярозасць, а не ўзаемныя сімпатыі зацікаўленых бакоў. Вядома, што ні з аднаго, ні з другога боку ні прымусу, ні гвалту не ўжываюць. Наадварот, у дзяўчыны нават пытаюць, ці згаджаецца яна на выбар такога мужа, а калі яна сапраўды не жадае ісці за яго, то заўсёды можа адмовіць. Але такое здараецца рэдка. Як правіла, вельмі маладая і недасведчаная дзяўчына (настолькі, каб магла кіраваць сваім розумам) давяраецца бацькам і падпарадкоўваецца іх волі. Але ці аказваецца выбар бацькоў шчаслівы? Здараецца па-рознаму, але часцей, можа, чым дзе-небудзь, сустракаем тут жонак, якія кідаюць мужоў і ўцякаюць назад, у бацькоўскую хату. Амаль кожная праходзіць праз такую фазу роспачы, пакуль не зжывецца з новым акружэннем і не звыкнецца з цяжкай доляю.

Шлюбы тут заключаюцца ў вельмі маладым узросце: жанчыны – у 17-20 гадоў, мужчыны – у 18-22. У сваёй большасці хлопцы, якіх бяруць у войска, ужо жанатыя. Таксама часта здараецца, што жонка нашмат старэйшая за мужа. Перыяд, у які адбываецца найбольш вяселляў, – гэта запусты, ад Раства да Вялікага Посту. Бывае, што жэняцца перад Калядным Постам, пасля заканчэння палявых работ, але гэта толькі ў выключных выпадках. Поўнае апісанне вяселля патрабавала б асобнага разгляду, бо засталося вельмі шмат цырымоній і абрадаў, якія да гэтага часу захоўваюцца ў сваім старажытным выглядзе, пра што сведчаць такія назвы, як *князь*, *баяры*, дадзеныя маладому і дружкам. Песні, што выконваюцца на вяселлі, вельмі разнастайныя і ўсе бываюць прыстасаваныя да пэўных абставін; асабліва некаторыя, якія апяваюць нядолю маладой замужніцы ў чужой незнаёмай сям'і і яе тугу па родных і блізкіх, надзіва ўзрушальныя. Ёсць таксама песні, складзеныя выключна для сіраты, якая выходзіць замуж – яны журботныя і чуллівыя. Паміж так званымі *змовінамі* і шлюбам перапынак вельмі кароткі. Часта на змовінах прызначаюць і тэрмін шлюбу: праз тыдзень, праз 10 дзён, і заўсёды выбіраюць для шлюбу нядзелю або іншы святочны дзень. Трэба, аднак, адзначыць, што, паводле народнай традыцыі, царкоўны шлюб яшчэ не лічыцца правамоцным дзеля

сумеснага жыцця маладых, не царкоўная цырымонія дае канчатковае права на іх з'яднанне. Часцей здараецца, што з царквы маладыя разыходзяцца кожны да сябе і застаюцца яшчэ нейкі час чужымі, да дня, прызначанага на вяселле. Гэты дзень выбіраюць у залежнасці ад жадання бацькоў або нейкіх акалічнасцяў праз тыдзень або два пасля шлюбу. На працягу гэтага часу маладая жыве ў бацькоў і з мужам зусім не сустракаецца, а той і не прэтэндуе ні на якія правы ў адносінах да яе і толькі пасля вяселля забірае яе ў сваю хату, і ўжо з гэтага часу прызнаецца і з'яўляецца яе сапраўдным мужам. Гэта можа служыць доказам таго, наколькі мала да цяперашняга часу нашы людзі пераняліся царкоўным духам, калі нават таінства яны лічаць толькі як абавязковую форму, а зусім не як рэч самую важную і значную, і наколькі кансерватыўна яны трымаюцца старажытных звычаяў, якія замянілі ім недахоп рэлігійнага пачуцця, сталі яго вераю і найвышэйшым законам. Нікому, нават самаму беднаму чалавеку, не прыйшло ў галаву выдаць замуж дачку, не згуляўшы *вяселля*. Шлюб лічыўся б несапраўдным, калі б спыніліся на адным толькі вянчанні.

Вяселле заўсёды працягваецца некалькі дзён. Спачатку ў абедзвюх хатах паасобку з вялікім цырыманіялам і песнямі пяклі каравай. Назаўтра малады ў акружэнні дружыны прыязджае да жонкі, яна з др*у*жкамі чакае яго ў хаце. Яго адразу не пускаюць туды, і ён мусіць даць выкуп дружкам і ледзь не гвалтам здабыць права ўвайсці. Потым ідзе частаванне прысутных, танцы, якія адбываюцца, не зважаючы на зімовыя маразы, на падворку перад хатай. Госці п'юць гарэлку, ядуць разнастайныя прысмакі, адпаведныя заможнасці гаспадара. Маладую садзяць на дзяжы, падпальваюць ёй і мужу валасы, завіваюць намётку, дзеляць каравай. Нарэшце, адбываецца ад'езд маладых у хату мужа разам з вясельным пасагам, які ў кублах і каробках пакуюць на вазы, і пры гэтым увесь час спяваюць адпаведныя песні. А ў мужавай хаце далей працягваюцца розныя забавы, частаванне, выпіўка, танцы, свавольствы і жарты, усё больш і больш разняволеныя. Працягваецца гэта да позняе ночы, пакуль, нарэшце, свахі не правядуць маладажонаў у "клець" і не пакінуць там адных. Даўней, калі звычаі былі нібыта больш суровыя, весялосць і забавы залежалі ад таго, аказалася маладая дзеўкаю, ці наадварот. Пры шчаслівым выпадку ў хаце панавала агульная радасць: упрыгожвалі вокны, коміны, абразы, гаршкі і ўсё, што можна было ўпрыгожыць, чырвонымі стужкамі, а так званыя *прыданкі* (прыяцелькі), прысланыя маткаю, каб даведацца пра дачку, адвозілі з трыумфам у бацькоўскую хату кашулю сумленнай дзяўчыны. Гулялі і танцавалі цэлы дзень, і кожны ўслаўляў нявіннасць маладой і прадбачлівую апеку яе маткі.

Цяпер жа, калі большасць дзяўчат выходзіць замуж зусім не ў стане дзявочай нявіннасці, гэтыя звычаі павінны былі змяніцца. Вельмі многіх трэба было б асуджаць. У выніку найчасцей малады па сваёй дабраце, якая можа здацца вытанчанай далікатнасцю, прымае ўсю віну на сябе, і назаўтра, пасля шлюбнай ночы, гулянка працягваецца далей найлепшым чынам, а прыданкі звычайна адвозяць бацькам добрыя весткі. Аднак я таксама чула і пра іншыя выпадкі. Малады адмовіўся ўдзельнічаць у ашукванні староннiх, праўда раскрылася, і дружкі маладога, помсцячы за таварыша, надзелі свасе хамут на шыю. Усе дзяўчаты пакінулі гулянку, і маладая на доўгі час была выстаўлена на жарты і здзекі прысутных, а потым пакінута на непрыязнасць мужа і ўсёй яго сям'і. У цэлым жа цяпер усё больш паблажліва ставяцца да ўсялякіх дашлюбных выбрыкаў.

Якое ж становішча жонкі ў мужавай сям'і? Бо часцей за ўсё яна ўваходзіць у шматлікую грамаду і мусіць жыць не толькі з яго бацькамі, але і з братамі, і з іх жонкамі, а потым сутыкнуцца з самымі рознымі характарамі і патрабаваннямі, з якімі неяк трэба знаходзіць паразуменне. Усё гэта залежыць ад яе такту і ўмельства. Калі яна лагодная, ціхая, пакорлівая і працавітая, то неўзабаве стане падпарадкоўвацца больш энергічным родзічам, якія пачнуць эксплуатаваць яе

на кожным кроку; калі ж яна рэзкая і дэспатычная, і трапіць на адпаведныя характары, то адразу ператворыць хату ў сапраўднае пекла. Часта так і здараецца, бо тутэйшыя жанчыны, як правіла, ні саступіць, ні змаўчаць не ўмеюць. Такім чынам, сваркі, інтрыгі, змовы, плёткі, паддраджніванні, жаданні рабіць на злосць працягваюцца бясконца. А калі ў дадатак мужыкі пачнуць бараніць сваіх баб, то даходзіць часта да бойкі, а часам і да раздзелу сям'і. Наконт гэтага ў сялян існуе таксама перакананне, што некалькі жанчын не можа жыць у згодзе пад адным дахам. Памятаю, як здзівіўся адзін з мужыкоў, калі я сказала яму, што хоць у двары жыве некалькі паняў, але яны ніводнага разу яшчэ не пасварыліся. Ён з недаверам паглядзеў на мяне і, пачухаўшы галаву, сказаў: "Да як жэ гэто можэ буці? У нас як толькі жонкі зберуцца, то нашэму брату – хоця з хаты ўцекаць!"

Не зважаючы на грубасць і імпульсіўнасць мужчын, найчасцей, аднак, у хаце пануе жанчына. І тут, як і на ўсім свеце, пацвярджаюцца словы: "Мы кіруем светам, а намі – жанчыны". Жанчына паводле сваёй натуры больш рухавая і хітрая, яна ўмее распазнаць слабыя бакі свайго гаспадара і неўзабаве з дапамогаю разнастайных, уласцівых ёй спосабаў кіруе ім. Яна часта, калі ўзнікае патрэба, становіцца яму дарадцаю. Парою ўмее навязаць яму сваю волю, і хоць мужчыны заўсёды з вялікай пагардаю адгукаюцца пра бабскі розум, тым не менш, часта знаходзяцца пад уплывам сваіх жонак. Але звычайна іх поле дзейнасці падзелена: у хаце гаспадарыць жонка, а ў астатняй гаспадарцы – муж. Калі хата даволі багатая, каб можна было распараджацца нейкімі даходамі, незалежна ад заробленых у полі грошай (напр., калі мае жарэбчыка, вала або крыху жыта на продаж), і гэтага дастаткова для аплаты падаткаў, то кожны з членаў сям'і захоўвае заробленыя грошы для сябе і выкарыстоўвае іх на адзежу, боты і г.д. Жанчыны таксама карыстаюцца гэтымі прывілеямі, і рэдка здараецца, каб муж адабраў у жонкі заробленыя ёю *грошы*. Дзяўчаты таксама маюць сваю асобную *ка*су і з яе купляюць сабе патрэбныя строі, або збіраюць на пасаг, што здараецца досыць часта. У такім разе яны хаваюць сваё багацце звычайна ў выглядзе срэбраных залатовак і сараковак на дне кубла ў шматку палатна альбо ў маленькай бляшаначцы з-пад цукерак. Аднак калі ў сям'і не хапае на абавязковыя выдаткі, то і сыны, і дочкі ахвотна аддаюць бацьку свае заробкі. Грашовыя спрэчкі рэдка здараюцца ў сям'і, і калі, напр., муж вельмі шмат траціцца на гарэлку, жонка скардзіцца, наракае, але плоціць за яго, калі трэба.

Дзяўчаты, апрача заробкаў на рабоце ў полі, маюць яшчэ адну крыніцу прыбытку – збіраюць грыбы, ягады і арэхі, нясуць іх у панскі двор, дзе заўсёды гэтыя прадукты ахвотна прымаюцца і аплочваюцца срэбранай манеткай, хустачкай або кавалкам паркалю, што прыносіла нашмат большае задавальненне. Яўрэі таксама купляюць у вясковых жанчын арэхі і грыбы. Сялянкі прыносяць у двор на продаж яйкі і курэй. Аднак калі прыходзяць у двор па якую-небудзь раду ці па лякарства, дык ахвяруюць звычайна пару жменяў гарбузовых зярнят або чорных сушоных ягад – *гасцінца*, і за гэта ніякае платы браць не хочуць. Самі яны таксама вельмі гасцінныя, у хаце любяць частаваць аладкамі, або нават яешняй, а калі капаюць бульбу, дык абавязкова запрашаюць на печаную ў прыску.

Са шкадаваннем трэба прызнаць, што маральны ўзровень замужніх жанчын хоць і значна вышэйшы, чым у дзяўчат, але небездакорны. Цяжкая хатняя праца і пільнае вока мужа, які прыглядаецца і абураецца за парушэнне вернасці і сваё абурэнне выказвае вельмі простым і брутальным спосабам, адбівае ахвоту да пазавугольных любошчаў. Дык калі і здараецца такое каханне, то працягваецца яно нядоўга. Вядома, што салдаткі, якія засталіся дома, заўсёды маюць палюбоўнікаў. Але на гэта і людзі, і самі мужы глядзяць паблажліва, тлумачачы, што калі ён сам у гэты час мае стасункі з рознымі жанчынамі, то чаму і яна павінна быць пазбаўлена такой свабоды.

З большай суровасцю і нават з абурэннем глядзяць яны на недазволенае каханне між крэўнымі. А выпадкі такія сустракаюцца. Не ведаю, наколькі гэта праўда, але кажуць, што блізкія адносіны свёкра з нявесткаю часта бываюць зусім не платанічныя. Чула я тое самае пра пэўных сясцёр і братоў.

Акрамя такіх вычварных уяўленняў і вельмі непрыстойных паводзін наогул, ёсць яшчэ пэўная катэгорыя злачынцаў, пра якіх тут не ведаюць. Я маю на ўвазе дзетазабойства. Два фактары, якія звычайна правакуюць такое злачынства – беднасць і сорам – тут абсалютна не існуюць. Дзяцей, народжаных у сям'і, заўсёды вітаюць з радасцю, бо з імі прыбывае бясплатная рабочая сіла, а пры існуючых умовах – лёгкая для выжывання. Незаконнанароджаных дзяцей ахвотна лічаць за сваіх па той жа самай прычыне. Калі ж матка замужніца, то часта ніхто не ведае, што дзіця прыйшло на свет нелегальна. Мужы пасля першага выбуху гневу пагаджаюцца прыняць чужое дзіця за сваё, і з цягам часу цалкам сціраецца памяць пра мінулае. Значна цяжэй, калі дзіця нарадзіла дзяўчына. З песні мы бачым, што гэта выклікае ў сям'і вялікае абурэнне, а віноўніца застаецца з сорамам назаўсёды. Аднак такога практычна ніколі не здараецца. Палескія знахаркі ведаюць тысячы спосабаў выйсця з такога становішча, і дзяўчаты, калі трэба, спехам бягуць да іх. І можна толькі дзівіцца моцнаму арганізму тутэйшых жанчын, што ўжываныя імі лекі не надрываюць іх здароўя.

## V.

Сялянскія сем'і на Палессі, як вядома, даволі вялікія. Мне не даводзілася чуць, каб калі-небудзь гаварылі пра сям'ю, у якой менш за трое дзяцей. Часта трапляюцца сем'і, якія маюць іх дзесяцёра і больш. Рэдка сустрэнеш хату, дзе не памерла некалькі дзяцей, і амаль кожнай матцы даводзілася перажываць такую балючую страту. Злейшым ворагам гэтых маленькіх стварэнняў бывае дыфтэрыт, які ўжо неаднойчы на працягу нейкіх двух тыдняў забірае дзясяткі большанькіх і меншанькіх дзетак. У хатняй цеснаце і душным паветры хутка перадаюць яны адно аднаму хваробу. Частыя хваробы ўзнікаюць яшчэ і таму, што не хапае догляду і разумнай апекі. Дзеці зімою і летам з усёй адзежы маюць адну і тую ж кашулю, ходзяць амаль заўсёды басанож, так што вымакнуць і прастыць бывае вельмі лёгка, тым больш што зімою ў хаце страшэнна горача, і дзеці, седзячы на распаленай печы, потым адразу выбягаюць на снег і вецер. Але ўжо тыя, хто выгадуецца ў такіх умовах, у выніку нялёгка паддаюцца хваробам, бо атрымліваюць у спадчыну ад бацькоў моцнае здароўе і вялікі запас сіл – асабліва моцна складзеныя жанчыны, што пацвярджаецца тым, з якою лёгкасцю яны выношваюць і нараджаюць дзяцей. Усе яны без выключэння да апошняй хвіліны працуюць у полі, жнуць, поляць, прадуць, нават перасоўваюць цяжкія рэчы. Здараецца, і даволі часта, што пасярод поля пачынаюцца схваткі, і не паспее яна дайсці дадому, як народзіць дзіця. Жывот, як правіла, баліць нядоўга, і ўсё заканчваецца паспяхова. Праўда, я чула ад аднае вельмі дасведчанае жанчыны, якая ўжо даўно і добра напрактыкаваная ў гэтых справах, што найбольшая колькасць цяжкіх родаў прыпадае на восень. Яна тлумачыла гэта працаю цяжарнай у полі і тым, што жняі даводзіцца ўвесь час нахіляцца, а гэта шкодна ўплывае на роды. Таксама па гэтай прычыне дзеці часцей нараджаюцца нежывымі менавіта ўвосень.

Зразумела, пры кожнай парадзісе звычайна знаходзіцца г. зв. *бабка.* У вёсцы некаторых жанчын асабліва цэняць за іх умельства і дасведчанасць у прыняцці родаў, але бабкаю можа быць любая замужняя жанчына, толькі не родная матка. Гэтай "бабе" нельга знаходзіцца пры дачцы. Аднак часта здараецца, што ў выніку празмернага старання немаўлятку, а ў некаторых выпадках і матку, адпраўляюць на той свет. Пры нараджэнні дзіцяці прытрымліваюцца пэўных правілаў: парадзіха павінна не

ляжаць у ложку, а нараджаць стоячы. Калі пачынаюцца вострыя схваткі, цяжарную жанчыну тры разы абводзяць вакол стала. Раскладваюць таксама на падлозе мужавы споднія штаны, праз якія парадзіха павінна некалькі разоў пераступіць. А калі цяжкія роды зацягваюцца, і жанчына вымушана цярпець невыносны боль, то просяць святара адчыніць у царкве дзверы, якія завуць “царскімі варотамі”. І толькі калі дзіцятка прыйдзе на свет, іх зачыняюць. Часам таксама парадзіху накрываюць яшчэ і епітрахіллю, якую надзяе на сябе святар у часе набажэнства.

Калі, нарэшце, дзіця народзіцца, яго купаюць і спавіваюць. Пялюшкі заўсёды робяць са старых кашуль. Нельга даваць дзіцяці на працягу першага года жыцця новага палатна, бо потым, у будучым, яно не будзе багатым. Яшчэ лепей, калі старыя пялюшкі, у якія загортваюць дзяцей, выпрашаны або падораны. Нельга таксама надзяваць на галоўку шапачку, а ахінаюць яе хустачкай. Першыя два дні немаўлятку пояць выключна цёплым рамонкам, што ачышчае яму ўнутранасці. І толькі на трэці дзень матка дае яму цыцку. Часцей увесь гэты час матка яшчэ ляжыць у ложку, хоць здараецца, калі адчувае ў сабе сілу, устае на другі дзень пасля родаў. Бабка наглядае за ёю, смажыць ёй яечню, варыць кашу ці пячэ аладкі і прыносіць ежу ўсе гэтыя два дні. Падаючы першы раз яешню, яна гаворыць: “Н*а* табе, мая ўнучэчка, штоб тэ месцечко, гдзе було поўненько, зноў напоўнілось!” Даюць таксама хворай гарэлку і ўговорваюць пад’есці, пераконваючы, што трэба запоўніць тое пустое месца, што засталося ў жываце пасля дзіцяці. Прыходзяць і суседкі, і кожная павінна з сабою нешта прынесці: або яешню, або чорныя ягады, звараныя з ігрушамі, або сыр з малаком і да т.п. рэчы. Звяртаючыся да маці, гавораць ёй: “З’еш, ад таго – малака прыбудзе”.

Калі дзіцятка хілае, і баяцца, што яно можа хутка памерці, нясуць яго як мага хутчэй да святара; калі здаровае – чакаюць нядзелі. Тады прыходзяць запрошаныя бацькамі кумы і забіраюць з сабою дзіця, спавітае ў чыстыя пялюшкі і абвязанае чырвоным паяском. Святару нясуць намётку, булку хлеба і кварту гарэлкі. Святар прапануе бацькам некалькі імёнаў на выбар, звычайна з тых святых, якія прыпадаюць на гэты тыдзень. Вярнуўшыся дадому, кума прыходзіць да маткі і, аддаючы ёй дзіцятка, цалуе яе і гаворыць: “Нехай жэ Бог гадуе хрэсьніка”. Усе п’юць гарэлку і жадаюць узаемна ўсялякіх поспехаў. Матка дорыць куму і куме па намётцы ўласнае работы, а тыя даюць для свайго хрэсніка па пары манет. Потым падаюць *абед*, на якім выстаўлены галоўным чынам прынесеныя суседкамі падарункі. На заканчэнне абеду бабка прыносіць сваю кашу, гэта г. зв. “бабчына каша” – звычайная прасяная каша, звараная з мёдам. Кум бярэ ад бабкі гаршчок і кідае яго на сярэдзіну стала – гаршчок разбіваецца. Тады бабка здымае вяршок, кладзе на яго залатоўку ці саракоўку і, абгарнуўшы хусткаю, па чарзе пада*е* яе ўсім прысутным, і тыя сыплюць наверх грошы, хто колькі хоча і можа. Сабраныя ад прысутных грошы бабка хавае для сябе, а залатоўку ад бабкі належыць аддаць для дзіцяці. Потым усе ядуць кашу, і на гэтым урачыстасць заканчваецца.

Дзіця гадуецца больш-менш як Гасподзь Бог даў, без асаблівых клопатаў пра яго і стараннаяў. Зімою яно ляжыць у лубяной калысцы, якая мае форму квадратнай ці падоўжанай каробкі, падвешанай на шнурах, прымацаваных да бэлькі пад столлю і адхінутай палатняным покрывам. Калыска выслана мяккім сенам, а падушачка, набітая пер’ем, часцей за ўсё абшыта чырвоным паркалем; дзіця ляжыць на г.зв прасцілцы. Яно моцна спавітае пялюшкаю і абвязанае некалькі разоў паяском. Як толькі дзіцятка закрычыць, матка адразу ж дае яму грудзі, каб супакоіць. Калі ж ёй трэба на даўжэйшы час пакінуць хату, яна завязвае ў анучку кавалачак хлеба і кладзе яму ў роцік. Старэйшы брацік або сястрычка калыша калыску і манатонна спявае калыханку: “О ты, коцік, не хадзі” і г.д. Вельмі часта ў якасці ўсыпляючага сродку ўжываюць мак: вараць у малацэ лупінне макавых галовак і даюць дзіцяці на ноч дзве малыя лыжачкі адвару. У большасці выпадкаў не дапускаюць, каб гэта магло нашкодзіць, і гавораць: “Калі паганэ дзіця, так што ж ему зрабіць”.

Некаторыя больш дасведчаныя жанчыны кажуць, што гэтага рабіць не трэба, бо потым дзіця будзе неразумнае. Купаюць яго два разы на тыдзень, а калі матка дбае пра здароўе свайго дзіцяці, то кладзе ў гарачую ваду пучкі засушаных зёлак: прыбытнік, макрыцу, мяту, браткі, папараць, і гэта, напэўна, павінна адагнаць усе хваробы яшчэ ў самым зародку. Дзіця кладуць у начоўкі з цёплаю вадою, у якой гэтыя зёлкі заварваліся, пакрываюць пялёначкаю і ўвесь час паліваюць вадою; потым памыюць яму галоўку і выціраюць. Нарэшце, хвілін праз 15 пасля такога купання яго загортваюць у цёплую, нагрэтую ля агню пялёнку, даюць яму грудзі і толькі потым надзяюць кашульку і кладуць спаць.

Наогул жа як мала відаць стараннясць каля дзяцей. Па большай частцы яны худыя, бледныя, часта абсыпаныя рознымі болькамі, ходзяць у брудных кашулях з вечна бруднымі насамі. Прусакі і блохі, якімі перапоўнены хаты, пакідаюць знакі ўкусаў на іх целе. Летам матка, адыходзячы на поле, забірае з сабою дзіцёнка. Яна вешае сабе за плечы “каробку” з дзіцем і акрывае ўсю яе палатняным покрывам. Рухамі пры хадзьбе яна хутка ўсыпляе яго, а калі яно пачынае плакаць, матка пачынае трэсці плячыма і гэтакім спосабам зноў закалыхвае яго, аж пакуль тое не засне. Потым, калі дойдзе да месца, яна стаўляе тры кіі ў козлы, якія падтрымліваюць калыску, а сама час ад часу заглядвае да дзіцяці і, калі трэба, трохі калыша яго. Часам, аднак, здараецца і нядобрае з беднымі, безабароннымі немаўляткамі: неаднойчы яны аказваюцца пакусаныя сляпнямі, камарамі і мошкамі, часам нават змеямі, якія могуць лёгка праслізнуць у калыску. Чула я нават і пра такое здарэнне. Маленькае спавітае дзіцянё ляжала ў калысцы на полі, а матка дзесьці далёка адышла. Вароны, заўважыўшы лёгкую для сябе здабычу, зляцеліся да калыскі і пачалі дзяўбсці дзіцятка. Матка не пачула крыку, а калі пасля работы вярнулася да дзіцяці, то знайшла ўжо толькі нежывое крывавае месіва, над якім лятАлі драпежныя птушкі.

Калі ўжо дзіця пачынае прама трымаць галоўку і яго можна насіць на руках, малое даручаюць старэйшым брацiку ці сястрычцы, і разам са сваім апекуном яно доўгія гадзіны сядзіць у пяску перад хатаю, у акружэнні равеснікаў, сабак і свіней. Праходзячы па вёсцы, можна бачыць такія групкі дзяцей, з якіх старэйшаму, можа, не больш за шэсць гадоў. Летам, калі бацькі на полі, дзеці застаюцца самі сабе і так праводзяць большую частку дня. Вядома, што могуць здарыцца самыя разнастайныя выпадкі. Яны забаўляюцца пяском, палкамі, дражняць свойскіх жывёл.

Трэба заўважыць, што маткі даволі доўга кормяць дзяцей грудзьмі – часткова з-за іх слабасці і часткова, каб зноў не зацяжарыць. Часамі яны не адлучаюць іх ад грудзей да двух год і больш, што, аднак, не перашкаджае дзіцяці ўжываць і іншую ежу і есці ўсё, што трапіць яму ў руку. Нарэшце, калі матка вырашыць адлучыць дзіця ад грудзей, дык звычайна чакае першай нядзелі пасля маладзіка. У гэты дзень яна згатуе яму кашку, зварыць яечка, купіць у яўрэя кавалак булкі ці абаранка, апошні раз накорміць грудзьмі, а потым, даючы іншую страву, гаворыць: “Н*а* табе хлеб і соль, ужэ годзі матчыной ласкі патрэбоваць”. Пры гэтым часам варожаць пра будучы лёс дзіцяці, падаючы яму ў адной руцэ яечка, а ў другой – кавалак хлеба. Калі дзіця возьме хлеб – будзе ўсё жыццё багатым, а калі яечка – будзе бедным і голым да смерці. Апрача таго, кормячы апошні раз, матка садзіць яго на кажух, вывернуты воўнаю наверх, каб было багатае.

Наогул, ці з вялікай стараннасцю даглядаюць дзяцей? Гэта тое пытанне, на якое цяжка адказаць, бо ўяўленне пра старанны догляд даволі шырокае, і можна з пэўнасцю сцвярджаць, што спосаб абыходжання з вясковымі дзецьмі на Палессі і іх гадаванне не адпавядаюць нават дастаткова памяркоўным патрабаванням. Несумненна, нараджэнне дзяцей у палескай хаце з радасцю вітаецца ўсёй сям’ёю. Жанчына, у якой няма дзяцей (з’ява даволі рэдкая) ужывае разнастайныя сродкі, каб зацяжарыць. Самае меншае дзіцятка звычайна бывае пестуном і ўцехаю для ўсёй

сям'і, аднак часта і яе дэспатычным гаспадаром. Псаванне малых дзяцей і дагаджанне ўсім іхнім прыхамацям і капрызам з'яўляюцца тут звычайнай з'яваю. Датуль дзіцяці не даюць нейкую цацку або ласунак, пакуль яно моцна не заплача, а тады ўжо найхутчэй даюць тое, чаго яно дамагаецца. Звычка гэтая настолькі пашырана, што нават перайшла ў вераванне: матка, у якой на працягу года памерла дзіця, усё лета, аж да Спаса (6-га жніўня) не бярэ ў рот ніякай садавіны, бо яе дзіцятку на тым свеце не дадуць ні грушкі, ні яблычка. А кожнаму на небе даюць яблычка для забавы; але калі матка на зямлі есць садавіну, то яе дзіцятку гавораць: "Табе не дадзім, бо твае яблочко сьвіня з'ела". Кожны поспех у авалоданні моваю, кожную прыкмету развіцця розуму вітаюць з радасцю. І хоць часта здараецца, што матка не дбае пра сваё дзіця, кідае на Божую ласку, калі ідзе на гулянку або пагаварыць з суседкамі, пакідае яго на доўгі час дома адно, або пад вельмі ненадзейнай апекаю, тым не менш любіць яго па-свойму, песціць, прыхоўвае для яго лепшыя кавалкі і з захапленнем гатова кожнаму шмат пра яго расказваць: "Якое ж ано разумнінькe! А поцешнэ, поцешнэ!" Я ведала адну маладую жанчыну, якая, пахаваўшы адзіную двухгадовую дзяўчынку, доўгі час ніяк не магла суцешыцца, кожны раз бачыла яе ў сне і нават удзень чула яе голас і шчабятанне недзе зусім блізка каля сябе, а на чужых дзяцей без слёз глядзець не магла.

Чысціня ў хаце даволі сумніцельная, а дзеці, вядома, яшчэ больш брудныя, чым дарослыя. Пакуль дзеці малыя, іх купаюць часта; потым гэты пахвалёны звычай паступова неяк знікае, і з цягам часу маці здавольваецца мыццём і часаннем па нядзелях; тады ж дзіця атрымлівае чыстую кашулю. Вядома, гэтага недастаткова, і з вялікай прыкрасцю трэба заўважыць, што сялянскія дзеці надзвычай брудныя, а іх валасы, звычайна даволі густыя і падстрыжаныя вакол галавы, кішаць агіднымі насякомымі. Адзежа малога гадоў прыкладна да пяці – як зімою, так і летам – кашуля з хатняга палатна. Гадавалая і нават да двух год малеча носіць на галаве чэпчык, пашыты часцей за ўсё з чырвонага паркалю. Потым хлопцы атрымліваюць старую бацькаву шапку, якая спаўзае ім на твар (але і яе надзяваюць толькі ва ўрачыстыя моманты), і чырвоны паясок, якім пры неабходнасці падвязваецца кашуля. Дзяўчынкі павязваюць на галаву паркалёвую хустачку і калі-нікалі надзяваюць лёгкую саматканую спадніачку сіняга і белага колеру ў клетку. Здараецца таксама, што хтосьці з сям'і сплаце для малога лапцікі, а матка зашнуруе іх чырвонымі аборамі. Гэта лічыцца выключна прыгожым убраннем. Старэйшыя хлопцы з узростам пераапранаюцца ў суконную камізэльку, палатняныя споднікі, якія носяць пад кашуляю, і світку з даматканага сукна, пашытую краўцом. Дзяўчаткі, падрастаючы, паступова пачынаюць насіць андарак і фартух, а хустку ніколі не здамаюць з галавы. Дома яе завязваюць канцамі ззаду галавы, а на выхад падвязваюць пад барадою.

Хваробы ў дзяцей, гэтаксама, як і ў старэйшых, лічацца ўсімі як непазбежныя, якім нельга даць рады. Напачатку на хваробу часцей за ўсё ніхто не звяртае ўвагі, і толькі тады, калі яна набывае пагражальныя формы, пачынаюць непакоіцца і шукаць паратунку – спачатку ў баб, потым у фельчара альбо ў панскім двары. Вядома, што ратаваць у такім выпадку часта ўжо проста немагчыма, што таксама выклікае страту веры да лекара і ўзмацняе павагу да баб і знахароў. Звычайна нечаканую слабасць дзіцяці прыпісваюць пярэпалаху: "Улякнуўса", кажуць. І ў такім выпадку ёсць два спосабы лячэння. Трэба ўзяць у якую-небудзь пасудзіну вады і праз рэшата прасеяць на яе накрыж попел, потым у той вадзе выкупаць дзіця і ваду выліць дзе-небудзь як найдалей, у такім месцы, дзе ніхто не ходзіць. Калі гэта не дапаможа, дык другі спосаб такі: трэба спячы шэсць маленькіх булачак хлеба, пакласці іх хвораму дзіцятку на жыватоk і качаць да таго часу, пакуль не заўважыш на хлебе нейкія валаскі – г. зн. такім вось спосабам выходзіць *зляк*. Той хлеб даюць з'есці сабаку, а дзіця паправіцца. Часамі таксама здараецца, што дзіця, хоць і здаровае, і добра выглядае, але ўсю ноч бесперастанку капрызіць,

не бярэ грудзей. Гэта так званыя “начнікі”, злыя духі, якія дакучаюць дзіцяці, шчыкаюць яго, драпаюць, колюць і не даюць яму заснуць. На гэта існуе адзіная парада: трэба пад калыску паставіць міску, пакласці ў яе верацяно, нож і тры іголкі або шпількі. З гаршка ў міску ўліць кіпячае вады. Потым з той жа міскі назад зліць ваду ў гаршчок і прыкрыць яго міскаю. Зрабіць гэтак раз пад вечар, другі раз назаўтра з раніцы і яшчэ на другі дзень вечарам. Ваду выліць пад плот, і начнікі прападуць, а дзіця будзе вельмі добра спаць. Яшчэ перасцерагаюць, каб не калыхалі пустую калыску, бо праз гэта дзіця губляе сон.

Валасы дзецям стрыгуць вельмі рэдка і пры гэтым пільнуюць, каб састрыжаных валасоў не кідаць абы-дзе. Бо калі іх выпадкова схопіць птушка і занясе ў гняздо, то на галаве абавязкова саўецца каўтун. Тое ж самае і з зубамі, калі выпадаюць. Калі мыш зацягне іх у сваю нару, то і новыя, маладыя зубы будуць крышыцца.

Дзіцячыя забавы і гульні не надта разнастайныя. Малыя парою гуляюць наступным чынам. Двое кладуць адну руку на другую, злёгку трымаючы за скуру, тады павольна падымаюць іх разам угору, накшталт таго, як ляцяць птушкі, і гавораць: “Сарока, варона, сарока, варона!”, а потым, як толькі рукі пачынаюць разлятацца ў розныя бакі, крычаць: “Шугі! Шугі!”. Альбо, трымаючы ручку малога, водзяць яму пальцам па далоні і гавораць: “Сарока варона, по сьметніку скакала, дзеткам кашку збірала, на прыпечку варыла, под прыпечком студзіла, на лавочцэ карміла, – і гэтаму дала...” Тут бяруць першы палец: “І гэтаму дала...”, і гэтак робяць па чарзе з усімі пальцамі, аж даходзячы да малога: “а гэтаму не дала...”. Тады казычуць дзіця пад пахаю, прыгаворваючы: “Што вады не насіў, што дзежы не месіў, што круп не драў, да й з хаты ўцекаў!” Аднойчы я бачыла, як некалькі шасці-сямігадовых хлопчыкаў гулялі на вуліцы ў такую гульню. Кожны паасобку круціўся, расставіўшы рукі, і ўвесь час гучна крычаў: “Дзеду, дай меду, дзеду, дай меду, дзеду, дай меду” і г.д., аж пакуль не сутыкнуўся з таварышам, і тады ўжо, з закручанымі галовамі, абодва падалі на зямлю. Такое заканчэнне гульні суправаджаў выбух смеху кожнага, хто перакруціўся. Праз хвіліну гульня пачыналася спачатку.

Дзяцей вельмі рана выкарыстоўваюць у разнастайных хатніх справах: яны калышуць і даглядаюць малодшых дзяцей, падмятаюць хату, мыюць міскі і лыжкі, пазней пасвяць свіней і птушак і, нарэшце, загадзя прывучаюцца да палявых работ. Васьмігадовы хлопец, напрыклад, выязджае з бацькам на далёкія палеткі і там, наколькі можа, дапамагае яму на працягу дня. Дзяўчынка ў свае 10 год ужо ўмее нядрэнна прасці, пачынае жаць, і неаднойчы можна пабачыць, як 12-гадовыя дзяўчынкі наймаюцца капаць бульбу і працуюць увесь дзень нароўні са старэйшымі. Наогул для жанчыны здабыць славу добрай работніцы – вялікі скарб, які можа паўплываць хутчэй на шчаслівы лёс, чым нават на багацце. У песнях мы часта чуем словы, што працавітая жонка лепшая, чым багатая, якая “пушна ходзіць”, у той час як працавітая “дзело робіць”. У жыцці таксама гэтым кіруюцца: ствараючы сям’ю, маладыя людзі шукаюць перш-наперш добрую гаспадыню, “ахвочую і рабочую”. Дзяўчына заўсёды стараецца праславіцца як добрая “пралля” або “жніца”. І нават малыя дзяўчаткі імкнуцца да прасніцы ці да сярпа і любяць хваліцца сваім умельствам.

Бацькі і не ставяць перад сабою іншых мэт у выхаванні дзяцей. Навучыць усяму таму, што самі ўмеюць, – то і досыць. Яны не імкнуцца пратарваць для іх новых дарог. Няхай жывуць у дастатку і спакойна ў той самай вясковай загарадцы. Гэта ўсё, пра што мараць яны для сваіх дзяцей, гэта для іх адзінае і найвышэйшае жаданне. Таксама не вельмі яны клапоцяцца і пра іх будучыню. Нічога новага не адбываецца ў гэтым маленькім замкнутым свеце. Як пражылі прадзеды, так пражывуць і ўнукі. Абы толькі дзіця выгадаваць, то яно і само навучыцца ўсяму, чаму трэба. А потым пойдзе далей спрадвеку пракладзеным шляхам. Дык навошта турбавацца? “Калі Бог дасьць, то і добрэ будзе”.

## *VI.*

У Камаровічах пры валаснoй управе ёсць школа. Выкладае ў ёй цяпер немалады ўжо чалавек, відаць, вельмі прыстойны, усе яго завуць “настаўнікам”. Утрымлівае яго воласць. Вучні ў школе падзелены на дзве групы: пачаткоўцаў і старэйшых, ужо больш навучаных. Як там вучаць і ці ёсць для дзяцей карысць, не ведаю. Чула, што няшмат дзяцей наведваюць школу, ды і тыя без вялікае ахвоты, а бацькі, не жадаючы губляць памочнікаў у хаце, стараюцца ўсялякімі спосабамі выкруціцца ад гэтага яшчэ вельмі загадкавага для іх дабрадзейства. Таму і колькасць школьнікаў вельмі невялікая. У мінулую зіму ў камаровіцкую валасную школу (а Камаровіцкая воласць ахоплівае 13 вёсак) хадзіла ўсяго 42 хлопцы і адна дзяўчынка. Калі пасля заканчэння школы дзеці вяртаюцца дадому, то вельмі хутка настолькі забываюць усё, чаму іх навучылі, што кніжка становіцца для іх зусім не існуючай рэччу. Ніколі мне не даводзілася бачыць кагосьці за чытаннем або заўважыць у хаце хоць якую кніжку. Чытанне па-за межамі школы, як мне здаецца, зусім не практыкуецца. Сумняваюся, ці знайшлося б у вёсцы чалавек дзесяць дарослых, якія б здолелі распісацца, а пра напісанне ліста і гаворкі быць не можа. Цемра тут яшчэ вельмі глыбокая, а колькасць чараў, вераванняў, самых дзівосных забабонаў незлічоная. Уяўленні пра аддалены свет надзвычай цьмяныя і блытаныя. Шараговы селянін чуў пра Мазыр, у якім адбываюцца суды; пра Петрыкаў, адкуль прывозяць соль, гаршкі і насенне; ведае, што рака Прыпяць працякае праз абодва гэтыя гарады і што, сеўшы на *параход*, можна паплысці ажно да Кіева, дзе знаходзяцца велічныя і раскошныя цэрквы. Ведае ён, што ёсць горад Мінск і што туды ўжо нельга дабрацца параходам, а трэба сесці на *чугунку* і ехаць праз Гомель, а ў Гомелі ёсць прыгожыя і танныя тавары, а яшчэ цудоўная садавіна і гародніна. Тою ж самаю “чугункай”, едучы ў другі бок, праз Пінск, можна трапіць у *Аршаву*, але гэта ўжо страшэнна далёка. Ведае ён, што цар жыве ў Пецярбургу або ў Маскве, але туды цяжка даехаць, бо па дарозе – *сініе морэ*, і гэта небяспечнае падарожжа. Ведае яшчэ, што ёсць такія горы, якія называюцца “Каўказ” – такія высокія, што цалкам закрываюць неба, і наогул там сонца не свеціць. А пра больш далёкія краіны ўжо нічога не ведае. Жывуць там розныя людзі: немцы, туркі, татары (гэтыя апошнія нібыта цалкам пакрытыя валасамі). Але ўсё гэта страшэнна далёка, і ніхто нават не праверыў, ці існуюць яны на самой справе. “Мала што людзі гавораць!” Салдаты, вярнуўшыся з войска, расказваюць пра бачаныя імі краіны, але вялікай веры яны не выклікаюць. Людзі слухаюць іх гавэнды, ківаюць галовамі, але не ва ўсім ім вераць. Дапытлівасць або захапленне яшчэ спіць у іх, і тое, чаго яны самі не бачылі, нават не абуджае ў іх інтарэсу.

Паводле іх перакanання, *мужык* ёсць усюды, на ўсёй зямлі, ён цалкам падобны да іх і гаворыць па-беларуску, *по-просту*, і вызнае такую самую праваслаўную веру.

Да пана трэба звяртацца па-польску і быць католікам, інакш не быў бы ён сапраўдным панам. Іншых паноў на зямлі яны дагэтуль не лічаць за сапраўдных паноў, называюць іх толькі па прозвішчы, а пра польскіх паноў заўсёды гавораць: “капцэвіцкі пан, дарашэвіцкі пан, камароўская пані”. Зразумела, аднак, што з цягам часу, паступова, па меры таго, як сюды прыбывалі і прадстаўнікі іншых народаў, такія ўяўленні змяняліся.

Даволі прыхільна згадваюць “паншчыну”. Перад панамі, відаць, жадаючы ім дагадзіць, нават хваляць тыя часы, калі да пана можна было прыйсці са сваёю бядою, прыкінуцца гаротнымі бедакамі, каб не плаціць падаткаў, і калі пан “хоць крэпко наб’е, такі часам пажалуе”. Аднак, калі пачуюць меркаванне, што цяпер і ім, і панам лепей, што паны цешацца ад дадзенай ім вольнасці, тады і яны пачынаюць хваліць існуючы парадак, гаворачы, што цяпер яны і шчаслівейшыя, і здаравейшыя, і багацейшыя, чым раней: “Ведомо, панейко, як дзень, так дзень,

хадзі ў двор на работу, толькі ж у тыдню адзін дзянёк для себе. І як жэ тут жыці было!" Напэўна, тыя часы не былі надта цяжкія, бо згадваюць пра іх з ахвотаю і расказваюць розныя анекдоцікі пра старога пана (бацьку памерлага спадчынніка), у якіх той паўстае як патрабавальны, злосны і разам з тым дабрадушны шляхціч, які быў запанібрата з сялянамі, часта ядуч*ы* з імі з аднае міскі, палячы іх люлькі і дасканала ведаючы ўсе іх патрэбы. Ён мог раптоўна выбухнуць ад злосці і гэтак жа хутка астынуць. Расказваў мне адзін гаспадар, што калі каму-небудзь удавалася ўцячы ад непазбежнага пакарання ці выкруціцца ад яго, дык сам потым смяяўся ад душы і гаварыў: "От, добрэ зрабіў, што ўцёк, а так надралі бы шкуру!" У песнях зусім не трапляюцца нараканні на самавольства і бесчалавечнасць паноў.

Наогул жа, нягледзячы на даволі прыхільнае стаўленне простых людзей да паноў, народ мае вельмі слабое ўяўленне пра іх маральныя вартасці. Не верачы ў іх добрую параду, падазраючы нейкія нядобразычлівыя намеры, дзівяцца з іх ладу жыцця: доўга спяць зранку, а ноччу сядзяць, ходзяць без усялякае патрэбы то ў лес, то праз вёску, у "пакоях" у іх панастаўляна розных *цацэк*; саджаюць дзікія, пазбаўленыя карысці дрэвы каля дома, пры дарогах, выдумляюць "якіе-то штукі", напр., ездзяць на веласіпедах або малююць звычайныя старыя сялянскія хаты. "Нашто ім гэто? От, ведомо, паны!" Здаецца ім таксама, што паны ніколі нічога не робяць, што гэта непатрэбнае на свеце племя. У пацврджанне таго – пустыя каласы, якія заўсёды высока галаву ўгору падымаюць, называюць *паны*! Аднак, ніколі ў нашай мясцовасці не было ніякае варожасці да паноў, ніякіх бунтарскіх хваляванняў. Паляшук, паводле сваёй прыроды, мае абыякавы характар. Яму бывае няпроста абурыцца і выйсці з сябе; дзеля гэтага патрэбна выклікаць вялікае ўзрушэнне ці нанесці суровую крыўду. Цяпер ён усё лепей усведамляе свае правы, адстойвае іх катэгарычна, але без запальчывасці. Нядаўна камаравічане выдатна прадэманстравалі ўзровень сваёй спеласці ў такім, здавалася б, дробным і, тым не менш, даволі значным здарэнні. Некалькі панавых валоў зайшлі ў шкоду на сялянскае поле, іх затрымалі і запатрабавалі законнай аплаты па рублю за штуку. Атрымлівалася гэта каля 20 руб. срэбр., якіх пану не хацелася плаціць. У выніку ён, жадаючы памяркоўна завяршыць справу, прыслаў ім праз свайго аканома вядро гарэлкі. Сяляне не прынялі пачастунку, патрабуючы належнай аплаты, і дамагліся свайго. Трэба ведаць, чым з'яўляецца для палешука гарэлка, каб ацаніць значнасць гэтага ўчынку. Гэта, аднак, не перашкаджае ім выкручвацца, як яны толькі могуць, калі даводзіцца самім плаціць штрафы.

Палешукі – людзі не вельмі набожныя і не надта прывязаныя да сваёй веры. Яны занадта цёмныя, каб угледзець розніцу ў веравызнаннях; абстрактныя паняцці застаюцца недасягальнымі для іх розуму. Пра рэлігію маюць вельмі блытаныя ўяўленні. *Господ Бог* стварыў свет і ўсё, што ў ім знаходзіцца, а таксама даваў зразумець людзям, як яны павінны сябе паводзіць, найчасцей караў за правіннасці, і гэта было павучэннем на будучыню. А пакаранні гэтыя былі надзвычай дзіўныя: напр., за ігнараванне святой нядзелі загадаў адной жанчыне цэлы год карміць уласнымі грудзьмі двух шчанюкоў, пасля чаго тая памерла. У даўнейшыя часы "Госпад" часта набываў аблічча старога дзеда з доўгай барадою і хадзіў па зямлі, проста размаўляючы з людзьмі. *Ісус Хрыстос* рабіў тое самае, але цяпер ужо такога не бывае. Пра нараджэнне Хрыста распавядаюць, што адбылося тое ў нядзелю рана; калі Прачыста не ведала, якое імя даць дзіцяці, то занесла яго ў царкву. Там хацелі яго назваць Пятро-Паўло, што вельмі не спадабалася Прачыстай. Патушыўшы ўсе свечкі, яна выйшла з царквы, загадала званам замоўкнуць, і пасля гэтага сама з дзіцем зноў пайшла ў царкву. Толькі тады святары далі яму імя – Ісус Хрыстос, і Прачыстая пагадзілася. Песню, у якой пераказваецца гэтае паданне і якую спявалі падчас святкавання Раства, я маю ў трох варыянтах: два запісаныя ў Камаровічах і адзін з Івашкевічаў – вёсках,

што знаходзяцца ў некалькіх вёрстах ад Камаровічаў; гэта добра вядомая калядка. Пан П.В. Шэйн у сваёй кнізе “Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю”, т. I, ч. 1, с. 56, № 36 цытуе гэтую самую песню, запісаную ў в. Мялешкавічы Мазырскага павета, але з некаторым адрозненнем: у ёй папоў просяць даць імя дзіцяці, два разы яны памыляліся, давалі імя Іллі і Пятра, потым, нарэшце, далі імя Ісуса Хрыста і задаволілі Матку. Такі варыянт у нашай мясцовасці не сустракаецца. Тое, што жыды Хрыста мучылі, пра гэта тут ведаюць, але за што і навошта – не надта разумеюць. Ёсць яшчэ на небе *янгалы*, якія кланяюцца перад Богам і спяваюць яму розныя песні. Ёсць і вялікая колькасць святых. А неба – гэта вельмі прыгожае месца, куды пойдуць усе справядлівыя людзі, адпакутаваўшы за грахі. Гэтыя пакуты найчасцей тут, на зямлі, трэба адбыць, таму душа пасля смерці мусіць яшчэ блукаць, бадзяцца па свеце і шмат пакутаваць, пакуль яе, нарэшце, не дапусцяць у “святы рай”.

Аднак маральныя ўстоі нашага народа маюць мала агульнага з рэлігіяй. Калі не дазваляецца рабіць нешта кепскае, то выключна з іншых, практычных меркаванняў. За кожнае злачынства карае закон і асуджаюць людзі. Бог не надта ўмешваецца ў людскія справы, часам толькі прыглядвае, каб выконваліся царкоўныя правілы святкаваць нядзелю, каб прытрымліваліся посту і г.д. Кожнаму чалавеку ён прызначае долю, з якою нават і змагацца не варта. Калі каму прызначана быць багатым, то хоць бы нічога і не рабіў, дастаткі самі прыйдуць да яго ў рукі; каму суджана быць бедным, таму ані працавітасць, ані стараннасць нічым не дапамогуць, бяда ўчэпіцца за яго і не адпусціць да канца жыцця. Ёсць цэлы шэраг учынкаў, якія лічаць грахом (“грых”). Але менавіта гэтыя ўчынкі, магчыма, менш чым іншыя, заслугоўваюць асуджэння. Напрыклад: зрываць у купальскую ноч кветку папараці, адбіраць з дапамогаю чараў малако ў чужых кароў, праклінаць страшным праклёнам, жадаць каму-небудзь, каб той тры дні канаў, або каб яго хату пярун спаліў. (Звычайныя ж праклёны, такія, як “трасца тваей маці!”, “каб цебе чорт узяў!”, “кабы цебе ваўкі зарэзалі!” ужываюцца даволі часта і не выклікаюць вялікага абурэння.) Помсцячы, падпальваць чужую сядзібу, двор ці хай сабе гаспадарчыя будынкі, выдзіраць пчолы з вулляў – гэта злачынствы, якія называюць грахамі, якіх трэба асцерагацца, нават калі за іх нібыта не адбудзецца відавочнага пакарання; бо яны абцяжарваюць сумленне і не даюць потым спакойна памерці. Але іншыя – як крадзеж, п’янства, пралюбадзеянне, абгавор, нават забойства, учыненае ў часе гневу, помста, бойкі і г.д. настолькі страшныя, наколькі цягнуць за сабою ліхія вынікі. Разумны чалавек павінен усяго гэтага пазбягаць і жыць у спакоі і згодзе з бліжнімі, нікога не крыўдзіць і нікому не даваць падставы крыўдзіцца.

Зразумела, што і ў гэтых учынках існуюць розныя ступені зла. Крадзеж – гэтае, бясспрэчна, самае распаўсюджанае злачынства сярод людзей, не заўсёды ўспрымаецца як зло. Напрыклад: украсці штосьці ў пана – гэта толькі паўграха, у яўрэя – амаль заслуга, але ў суседа, аднавяскоўца – гэта вялікае злачынства. Украсці грошы, выцягнуць са стадолы або свірна крыху жыта, залезці ў замкнутую камору – гэта сапраўдны крадзеж. Але сцягнуць кавалак жалеза альбо вяроўкі, выняць з рамы ў парніку шыбу, сцягнуць якую бутэльку або слоік, ухапіць, ідучы па дарозе, крыху гародніны, паслаць дзіця, каб крадком нарвала гароху на панскім полі, нарэшце, ссячы ў лесе пару дрэў – гэтыя ўчынкі наогул не лічацца заганнымі. Я моцна перакананая, што ў абедзвюх камароўскіх вёсках няма ніводнага чалавека, які б не рабіў такіх учынкаў амаль кожны дзень. Той самы чалавек, які без найменшых дакораў сумлення крадзе цвікі, рамяні і яблыкі, калі б знайшоў на дарозе мяшок з брыльянтамі, напэўна ж, ніводнага не ўзяў бы сабе. У якасці прыкладу, што наш народ не мае моцнае цягі да крадзяжу, хачу звярнуць увагу на той факт, што ў панскім двары, у стайнях і аборах ніколі, нават ноччу, не замыкаюць дзверы на ключ; вокны ўсё лета, удзень і ўночы, застаюцца адчыненымі, начнога вартаўніка няма,

гэтаксама як і сабак на ланцугах; вароты толькі прычынены, ніводнай стрэльбы ў хаце няма, а часцей за ўсё там жывуць адны жанчыны. Не было б нічога лягчэйшага як усё абрабаваць, украсці і вывезці далёка. Але ніколі нікому такая думка і ў галаву не прыйшла. Самае большае – калі выцягнуць з вяндлярні некалькі штук вяндлін ці трохі медзі з вінакурні. Канакрадства, гэтае сапраўднае бедства ў некаторых ваколіцах, у нас абсалютна невядомае. Коні заўсёды свабодна пасуцца на начлезе і хіба толькі воўк на іх нападзе. Разам з тым нельга развешваць дзікі вінаград на сценах дома, бо праз нейкі час усе цвікі будуць выцягнуты. Бутэлькі з-пад старых лякарстваў, нягледзячы на папярэджанне і абяцанне вярнуць, ніколі назад не вяртаюць у рукі ўладальнікаў; я ўжо не кажу пра вяровачкі і раменьчыкі. У адносінах да сваіх суседзяў сяляне досыць памяркоўныя, і нават можна здзіўляцца, як пры такім блізкім жыхарстве, пры магчымасці ўзяць чужое (бо і ў іх дзверы ў хатах, аборах і стадолах ніколі не бываюць замкнутыя) адносна рэдка здараюцца крадзяжы. Гэтым пацвярджаецца факт, што ў прынцыпе характар нашых людзей вызначаецца пачцівасцю і сумленнасцю. Іх сумленне лёгка пагаджаецца з дробнымі правіннасцямі, якія, паводле іх свядомасці, не лічацца злачынствам, але яны абураюцца, калі здарыцца сапраўды вялікае злачынства.

Забойствы – вельмі рэдкая з’ява сярод нашых людзей, а калі яны і здараюцца, то бываюць справакаваныя гневам, прагаю помсты, зайздрасцю і робяцца звычайна ў нецвярозым стане. Свядомыя забойствы з мэтаю грабяжу належаць хіба да незвычайных выключэнняў. За ўсё жыццё я чула толькі пра адзін падобны выпадак у суседняй вёсцы, а абурэнне, якое выклікала паведамленне пра яго сярод нашых камаравічан і запалян, пераконвае, што то было сапраўды нечуванае да гэтай пары здарэнне. “Таго ніколі ў нас не бувало!” – паўтаралі і старыя, і маладзейшыя. У песнях і казках я таксама ніколі не сустракала згадак пра забойцаў-разбойнікаў і пра іншых падобных герояў. Відаць, спакойны і памяркоўны лад жыцця нашых людзей ніколі не быў прыдатнай глебаю для авантурыстычных ідэй.

Затое бойкі, сваркі, скандалы – цалкам звычайныя з’явы. Я ўжо згадвала пра тое, што кожны муж б’е сваю жонку як за нейкія справы, так і па прыроднай схільнасці. Жонкі не заўсёды цярпліва гэта пераносяць і могуць даць здачы. Дзеці, калі ёсць за што, таксама атрымліваюць штурханца ці кіем па спіне, або лыжкаю па галаве. Горш за ўсё, калі дзеці таксама часта крыўдзяць старых бацькоў. Калі аднойчы справа аб тым, што сын б’е свайго старога бацьку, дайшла да суда, абвінавачаны са шчырай наіўнасцю апраўдваўся: “Да як жэ гэто будзе! Штоб я не мог роднаго бацькі і родну жонку набіць!” Аднак, нельга сказаць, каб гэта былі подлыя дзеці. Бацькі, пакуль маюць хоць якую сілу працаваць і цвярозы розум, застаюцца гаспадарамі ў хаце. А калі ўжо зусім састарэюць і вымушаны апусціць рукі, то дзеці бяруць верх, і тады здараецца рознае. Але ніколі бацькі не ідуць на старасці гадоў жабраваць, а заўсёды заканчваюць жыццё ва ўласнай хаце, і я не чула, каб ім калі-небудзь было адмоўлена ў харчаванні, у адзенні або ў цёплым прытулку. Больш ці менш багатае пахаванне бацькоў, у залежнасці ад дастатку, дзеці спраўляюць за свой кошт. Нябожчыка заўсёды апранаюць ў найлепшае ўбранне, прызначанае ім на смерць яшчэ пры жыцці, як ён тое наказваў. Перадсмяротную волю бацькоў дзеці лічаць сваім абавязкам, выканаць які яны павінны як мага дакладней, іначай душы памерлых не далі б ім спакою. Калі ў абыходжанні простыя людзі бываюць грубыя і жорсткія, то, можа, не столькі ад таго, што злыя па сваёй прыродзе, як хутчэй па недзе прыхаванай у іх глыбіні дзікасці, якая пры пэўным выпадку выходзіць на паверхню. Зрэшты, выбух гневу, паводле іх уяўлення, не з’яўляецца грахом, і я ўпэўнена, што ніхто пасля таго, як наб’е жонку або старую маці, не адчувае ў сабе згрызот сумлення.

П’янства – гэта сапраўднае бедства ў нашых вёсках. П’юць усе: маладыя, старыя, мужчыны, жанчыны. Большая частка зарobленых грошай ідзе на гарэлку, а ёсць

людзі, якія толькі тады перастаюць піць, калі ўжо не маюць чым заплаціць. Само сабою, мужчыны трымаюць у гэтым першынство, закаранелых жанчын-п'яніц няшмат, але на кожнай урачыстасці, пры любой магчымай аказіі і яны могуць зраўняцца з мужчынамі. Само па сабе п'янства не лічыцца злом, калі б не траты, што вядуць да нястачы. П'яны чалавек не выклікае ні абурэння, ні пагарды, бо гэта занадта распаўсюджаная з'ява.

Палавыя адносіны, пра якія я згадвала, калі гаварыла пра жанчыну, даволі свабодныя, а ўяўленні пра амаральнасць у гэтым сэнсе амаль адсутнічаюць. Мужчыны не настолькі цэняць дзявочую нявіннасць, каб непакоіцца і хвалявацца, жанчыны ж заўсёды гатовыя пазбавіцца сваёй цноты. Наколькі я ведаю, імі кіруе не нейкая прадажнасць і прага прыбытку, але іх сэрца мае свае фантазіі, прыхамаці і парыванні, якім яны аддаюцца, не зважаючы на абавязкі. Здаецца мне, што жанчын, якія прадаюць сваю годнасць і прыгажосць таму, хто лепей заплоціць, вельмі мала. У кожнай любоўнай гісторыі ёсць хоць бы малая часцінка бескарыслівага пачуцця. Нярэдка дамінуючым фактарам, нават у найбольш распусных, з'яўляецца прага вясёлага жыцця, бесклапотнага і бестурботнага. Мужчыны не кіруюцца ў адносінах да спакушаных імі дзяўчат ніякімі меркаваннямі прыстойнасці і гонару і не адчуваюць абавязку кампенсаваць нанесеную ім шкоду жаніцьбаю на каханцы. Калі іх адносіны працягваліся доўга і ўрэшце надышла хвіліна расставання, то самае большае – гэта грашовая ўзнагарода, якая часам даходзіць да 3-4 рублёў. Згодна з агульнай думкаю, ён цалкам апраўданы. Мужчыны, калі і жэняцца, то зыходзяць пераважна з практычных меркаванняў, каб мець у хаце гаспадыню, і з такім разлікам часта выбіраюць сабе каханку. Здараецца гэта, напр., з усімі, хто служыць у дварах за парабкаў, батракоў і г.д. Не маючы пры сабе ні маткі, ні жонкі, ён урэшце мусіць знайсці сабе "бабу", якая б клапацілася пра яго. Каханка хоць за які падарунак будзе мыць яго бялізну, латаць яго світу, старанна захоўваць яго рэчы або заробак, выплачаны натураю, будзе чакаць яго з цёплай стравою, калі ён позна вяртаецца з работы, урэшце, будзе штодзённай прыслугаю, якая патрабуе вельмі невялікую аплату. Бо кожны, хто спыняецца дзесьці на больш-менш доўгі час, абавязкова стараецца знайсці сабе такую дапамогу і не зазнае ў гэтым цяжкасцяў, паколькі і такой, скажам, работніцы ў фальварку выгадна мець сярод парабкаў надзейнага апекуна, які не раз замест яе і па ваду да студні падбяжыць, і дроў насячэ, а як трэба, то і заступіцца, калі нехта паспрабуе пакрыўдзіць. Гэта ўзаемны абмен паслугамі, і нічога больш. Жонкі, якія засталіся дома, ніколькі гэтым не абураюцца.

Вайсковая служба, трэба разумець, робіць пэўны ўплыў на салдат і на іх акружэнне, але мясцовыя фактары ўздзейнічаюць настолькі моцна, што ўплыў гэты хутка згладжваецца. Застаюцца толькі ўспаміны пра бачаныя краіны, крыху салдацкіх песень, старыя шапкі ды выказванні, ад якіх павявае чужыною. Зрэшты, салдат, прыйшоўшы дадому, хутка вяртаецца да таго, што было ім забытае, і зноў яго розум замыкаецца ў цесным вясковым коле. Праз некалькі гадоў ужо цяжка адрозніць колішняга салдата ад іншых вяскоўцаў. Знаходжанне ў войску пакідае найбольш выразныя адбіткі ў мове: мноства выразаў, якія зусім не стасуюцца з характарам беларускай мовы, часта неяк дзіўна перакручаных, уплятаюцца нават у яго паўсядзённую гаворку і вельмі псуюць яе, адбіраючы натуральную, так уласцівую ёй красу прастаты і старасветчыны. Наслаенні паступова замацоўваюцца, павялічваюцца, і сёння відавочна сярод маладога пакалення няшмат ёсць такіх, якія б умелі чыста гаварыць на сваёй мове. Мода, як і ўсюды, так і тут, усемагутная, а моладзь хутка ўсё пераймае. І ў нашы палескія вёскі паволі прыходзяць розныя змены, і чысты самародны арыгінальны беларускі тып не можа ўстаяць перад чужым уплывам.

*(Працяг будзе).*



Кастусь Цвірка



...пра ўсё можна выказвацца цяпер без “эзопавай мовы”...

# Мой дзве тысячы шаснаццаты

Прачнуўся ад пасвятлення ў акне: раніца. Першая раніца новага года. На вуліцы прыціхлага ўжо горада – бела ад снегу: намяло, накідала за навагоднюю ноч, калі я, не ў прыклад многім, спаў. Усё, як у Анатоля Вялюгіна:

Гудзеў, мільгаў мяцеліцы прапелер,
да ранку снег вірыўся ля варот.
І вось, як чысты-чысты ліст паперы,
ляжыць перад вачамі новы год.

Гляджу з акна на яго нечапаную белізну. Што ж чакае нас у гэтым 2016 годзе? Што ўпішу я ў разгорнуты перада мною вялікі, у дванаццаць паўнюткіх месяцаў, “чыставік”?

***

Першае, за што бяруся ў першы дзень новага года – план. План “Беларускага кнігазбора”.

З 1996 года, калі мы з Генадзем Вінярскім распачалі гэты “праект”, з нашых рук, нібы птушанят з гнязда, вылецела ў свет на сённяшні дзень не многа, не мала – восемдзесят тры кніга-

збораўскія тамы. З задуманай 200-тамовай серыі, у якой мы надумаліся раскрыць перад светам “красу і сілу” беларускага пісьменства за ўсю яго тысячагадовую гісторыю.

Дваццаць гадоў назад, кідаючыся са сваім планам-праспектам “Беларускага кнігазбора” ў пошуках спосабу спраўдзіць задуманае, набіўся на сустрэчу з Нілам Гілевічам, з якім таварышаваў са студэнцкіх часоў. Сустрэчу гэтую ён прызначыў у будынку Вярхоўнага савета (былым ЦК КПБ), у сваім шыкоўным кабінеце, што адвялі яму як старшыні пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Мы больш за гадзіну сядзелі з ім за сталом і меркавалі, як здзейсніць гэты план-мару. “Я быў бы шчаслівы, – казаў ён, – калі б яшчэ пры жыцці ўбачыў хаця б адзін том “Беларускага кнігазбора”.

Сталася ж так, што Ніл Гілевіч змог убачыць не адзін, а ўсе гэтыя восем дзясяткаў тамоў нашай серыі. Да двух з іх – аднатомнікаў Максіма Багдановіча і Янкі Купалы – па маёй просьбе з ахвотай напісаў ён і ўступныя артыкулы. А потым з вялікай радасцю ўзяў у рукі і свой уласны том “Беларускага кнігазбора”.

З невыказнымі намаганнямі зрушаны з месца кнігазбораўскі воз, пераадольваючы на шляху ўсялякія камяні ды выбоіны, паволі, але няўхільна рухаецца ўсё ж уперад. І на маёй кніжнай паліцы выстройваецца паціху даволі ладны шэраг нашых зграбных, з добрым мастацкім густам афармленых мастаком Міколам Казловым тамоў серыі, якую людзі, мусіць, не без падстаў празвалі “залатой”. І мне цяжка ўстрымацца, каб не падыйсці да той сваёй паліцы і яшчэ раз не разгарнуць любы з серыйных тамоў; у іх жа – уся краса створанага кожным з аўтараў, узнёслы дар іхніх сэрцаў.

Часцей за ўсіх просяцца мне ў рукі раней занядбаныя з розных прычын Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Аляксандр Ельскі, Вацлаў Ластоўскі, Францішак Аляхновіч, Рыгор Крушына, Наталля Арсеннева, Казімір Сваяк, Вінцук Адважны... Усе яны цяпер разам з прызнанымі класікамі – назаўсёды з намі.

З намі ўжо і невядомыя раней шырокаму (ды і “вузкаму”) чытачу нашы славутыя літаратары-асветнікі далёкага мінулага, якіх мы, скажу не хвалячыся, проста вырвалі з бяспамяці. Гэта – княгіня Францішка Уршуля Радзівіл, маці небезвядомага Мікалая Радзівіла Пане Каханку, і апантаны гісторык-самавук са Случчыны, адкрывальнік дахрысціянскага славянства легендарны Зарыян Далэнга-Хадакоўскі, паслядоўнікам якога лічыў сябе нават славуты расіец Аляксандр Пушкін ( “Я мещанин, как вам известно, и в этом смысле демократ. Но каюсь; новый Ходаковский, люблю от бабушки московской я слушать толки о родне, об отдалённой старине”).

Думаю, праўдзівым адкрыццём для беларусаў былі і выпушчаныя намі ў свет “Мае падарожжы” Ігната Дамейкі, “Рэчыцкае Палессе” Часлава Пяткевіча, “Беларускія летапісы і хронікі”, “Старажытная беларуская літаратура”, зборнік сярэднявечных аповесцяў “Беларускія “Александрыя”, “Троя”, “Трышчан”...”, “Філаматы і філарэты” ды вельмі балючы том-анталогія загубленых бальшавіцкімі карнікамі 67 таленавітых беларускіх пісьменнікаў “Расстраляная літаратура”.

Што ж запланаваць далей у “Беларускім кнігазборы”? Вельмі многіх хацелася б бачыць у нашай залатой серыі. З якой прыемнасцю ўзяў бы кожны ў рукі аднатомнікі такіх самабытных і па-свойму цікавых пісьменнікаў, як Уладзімір Дубоўка, Алесь Звонак, Лукаш Калюга, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Уладзіслаў Галубок, Язэп Лёсік, якія доўгі час былі пад забаронай. А як бы хораша глядзеліся ў бардовых кнігазбораўсіх вокладках выдатныя майстры слова, што нядаўна пайшлі ад нас – Максім Лужанін, Вячаслаў Адамчык, Міхась Стральцоў, Павел Місько, Барыс Сачанка, Уладзімір Дамашэвіч, Янка Сіпакоў, Валянціна Коўтун, Яўгенія Янішчыц, Анатоль Кудравец, Сакрат Яновіч...

Усё яшчэ неапраўдана коса глядзяць нашы ідэолагі на беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, якіх злая доля разлучыла з радзімай. Думаю, даўно пара ўсіх іх вярнуць у лона нашай літаратуры. Як бы пабагацела яна, калі б у ёй занялі свае месца Уладзімір

Дудзіцкі, Міхась Кавыль, Леў Гарошка, Юрка Віцьбіч, Аляксандра Саковіч, Аўген Калубовіч, Янка Золак, Уладзімір Клішэвіч, Алесь Салавей, Хведар Ільяшэвіч...

Шырэй хацелася б бачыць у «Беларускім кнігазборы" і сённяшніх нашых пісьменнікаў, што сказалі ўжо свае слова ў літаратуры. Яны ж сваёй беларускай творчасцю, скажу без перабольшвання, ратуюць ад згубы саму Беларусь. Згадайма Адама Міцкевіча:

О песня люду родная! На варце
Ты храма нацыі...

Літаратура – тая ж песня. Яна надзейна стаіць і будзе стаяць на варце нашай Беларусі.

***

Фадзей Булгарын: "Когда у народа есть история и литература, он никогда не забудет своего существования».

***

Зычліўцы "Беларускага кнігазбора" не раз падбівалі мяне напісаць яго гісторыю. Так, гэта была б цікавая гісторыя! Пачыналі ж мы нашу вельмі многакоштную задуму з нуля. Без капейкі ў кішэнях. Спадзяванне было толькі на тых, хто разумеў важнасць вяртання з цемры на святло нашай вялікай, часта "засакрэчанай", схаванай за сямю замкамі многавяковай літаратуры. Калі б расказаць, як шукаліся спосабы для яе выдання і патрэбныя сродкі, атрымаўся б вельмі займальны, папраўдзе дэтэктыўны раман. Але каб напісаць гэты "раман", патрэбен час. Мяркую, чым пісаць гісторыю, лепей яе ствараць.

***

Кажуць, летні дзень год корміць. У мяне ж наадварот, зіма "корміць" год. Каб вызваліцца для свайго лецішча ў Зялёнай Дуброве ў цёплыя месяцы года, усю зімовую пару аддаю на падрыхтоўку кнігазбораўскі тамоў.

Вельмі памагае мне тут наша Нацыянальная бібліятэка, што не вельмі даўно ўзнеслася насупраць майго дома. У ёй жа можна знайсці ўсё. Кожную хвіліну я магу скокнуць сюды, каб нешта ўдакладніць, вывудзіць з кніжна-газетна-часопіснага мора.

***

Зіма сёлета як зіма. І ў горадзе яна паказвае сябе. Некалькі дзён добра падбадзёрваў усіх мароз-пякун. Ярчэй, чым у салонах прыгажосці, фарбаваў ён жанкам насы ды шчокі.

А сёння памякчэла. І – памалу, памалу – разышоўся, завірыў угары снег. Поўнае неба снежнага пуху! Вецер круціць ім, як толькі хоча. Шырокімі хвалямі кідае то ў адзін, то ў другі бок, узвіваецца віхрам. Як уседзець у такую вясёлую куламесу ў хаце, як не кінуцца ў гэтую белую крутаверць? Іду, і снежныя злепкі цаляюць мне ў вочы, у вушы, у нос, залятаюць за каўнер, абкідваюць шапку, плечы. Але я не ўцякаю ад разбушаванай стыхіі. У ёй мне як нідзе лепей, у ёй я жыву! Шугай жа на мяне, вольная віхура-шугавея, укручвай у свой жывы вір, вымятай з галавы ўсё дурное, усё ліхое, скідвай з яе валуны-думы!

***

Сонца.

Ізноў яно ў небе.

Недзе гэтак жа ярка свеціць яно і над маёй Зялёнай Дубровай. Над нашай прыціхлай вуліцай. Над маёй сядзібай. Дарэмна толькі заглядвае ў мае вокны: за імі – ціхата.

А як добра б было хоць дзень-другі пабыць там, парыпець снегам па вуліцы, пратаптаць сцежку к ганку, распаліць у хаце грубку, глядзець праз адкрытыя дзверцы на рухлівы, заўсёды вясёлы агонь. А калі нагрэецца хата, пасядзець на мяккім крэсле з кнігай у руках.

Ды ці ж адпусціць мяне мой пан План?

***

На маім варштаце – Янка Маўр. Даўно марыў я ўбачыць яго ў залатой серыі. Бо каго з нас не чараваў ён у маленстве?

Юначымі гадамі я захапляўся кнігамі, здаецца, усіх фантастаў і аўтараў прыгодніцкага жанру свету, пачынаючы ад Жуля Верна... Ды вот дзіва; самымі цікавымі, самымі зманлівымі былі для мяне якраз кнігі Янкі Маўра. Чаму так? Думаю, ад таго гэта, што пісаў іх беларус для беларусаў. Ён, шматгадовы настаўнік беларускіх школ, добра ведаў, што трэба было нам, вучням-беларусам, што сама больш нас цікавіла і захапляла.

***

Цікавае адкрыццё: аказваецца, Янка Маўр, наш славуты фантаст і "прыгоднік", быў і сур'ёзным гісторыкам! Даведаўся пра гэта ад Марыі Міцкевіч, унучкі адразу двух нашых класікаў – Якуба Коласа і Янкі Маўра, з якой рыхтаваў да выдання апошняга. У даволі пухнатай папцы з рукапісамі дзеда, якую яна падала мне ў сваёй кватэры, я не без здзіўлення ўгледзеў аддрукаваную на машынцы і пакуль што нікому не вядомую кнігу Янкі Маўра пад назвай (відаць, часовай, "дзяжурнай") "Старонкі гісторыі".

Цікавыя старонкі! Глыбока закінуў у раку гісторыі свае вуды дасужы Іван Фёдараў. Не толькі славянскія крыніцы абшнырыў, але і нямецкія хронікі добра пералапаціў. Мяне асабліва зацікавіў першы нарыс – "Вялікі паварот", які пісаўся пад канец вайны, калі Чырвоная армія гнала фашысцкія орды назад, на захад ("Скончыўся многавекавы Drang nach Osten – ідзе драп nach Westen", радаваўся Янка Маўр). Ён дакументальна паказаў, што вялікая частка ўсходняй Германіі некалі была славянскай. Найперш – гэта землі Усходняй Прусіі. Нават Берлін узнік на колішняй славянскай тэрыторыі. Гэтак жа, як і Брандэнбург, які меў раней і назву славянскую – Бранібор. Славянскай была Памеранія, якую насялялі плямёны, што жылі "па моры". Па Лабе (Эльбе) жылі палабскія славяне. Далей былі землі бодрычаў (ці абадрытаў) і люцічаў.

Як жа зрабіліся нямецкімі ўсе гэтыя спрадвеку славянскія землі? Пра тое, як заваёўвалі іх нямецкія агрэсары, падрабязна расказвае Янка Маўр. Бальшыня славян была вынішчана ў крывавых войнах, частка анямечана, а частка выцеснена за межы іх земляў на ўсход. Гэтых выгнаных з роднай зямлі славян, трэба думаць, па-братэрску сустрэла старажытная Беларусь. Верагодней за ўсё сярод выгнанцаў было і славянскае племя літва, верхаводы якога і ўтварылі ў сярэдзіне 13 стагоддзя Вялікае Княства Літоўскае з цэнтрам у нашым Наваградку.

Чаму засталіся "Старонкі гісторыі" неапублікаванымі? Відаць, не ўсё адпавядала ў іх паноўнай тады камуністычнай ідэалогіі. Думаю, сёння прыйшоў час выдаць, нарэшце, гістарычныя нарысы Янкі Маўра асобнай кніжкай з каментарыямі вольных ад "абэцэдараўшчыны" гісторыкаў. У кнігазбораўскім жа томе мы змаглі змясціць толькі два з іх – "Вялікі паварот" і "Лівонскі ордэн, першая партыя псоў".

***

Якіх толькі не бывае памылак друку і як пільна трэба глядзець рэдактару, каб не праскочыла якая абракадабра! Два разы чытаў, рыхтуючы да друку, прадмову да Янкі Маўра і толькі на трэці раз наткнуўся на нечаканку: было напісана, што Янка Маўр пабываў "у Турцыі". Якая Турцыя! Ён жа ніколі не выязджаў за межы Савецкага Саюза! Аказваецца, у артыкуле было напісана: "у Турцы"( мястэчка ў Карэліцкім раёне), але наша кампутаршчыца падумала, што тут памылка, і выправіла яе, дапісала літару "і".

***

У адрыўным календары "Родны край" чытаю пра аўтара вершаваных зборнікаў на рускай мове з Брэстчыны: "беларускі рускамоўны паэт". Думаю, зусім правільнае азначэнне паэта-беларуса, які піша на рускай мове. Значыць, па аналогіі вельмі правільна будзе называць і Адама Міцкевіча гэтакім чынам: "беларускі польскамоўны паэт". На гэта, думаецца, ёсць усе падставы: ён жа быў не толькі беларусам па паходжанні і лічыў Беларусь, якую раней называлі Літвой, сваёй радзімай, але і па-сутнасці прысвяціў ёй усю творчасць, узнаўляў яе гісторыю ў "літоўскіх" вершаваных аповесцях і паэмах "Мешка, князь Наваградка", "Гражына", "Конрад Валенрод", "Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве" – гэтых шэдэўрах сусветнай літаратуры. Дарэчы, гэтыя творы я планаваў выдаць у серыі "Беларускі гістарычны раман", якую распачынаў у выдавецтве "Беллітфонд". Янка Брыль у сваёй кнізе "З людзьмі і сам-насам", паказваючы, як польскія міцкевічазнаўцы стараюцца ўсяляк "абыходзіць беларушчыну" Адама Міцкевіча, сцвярджаў, што ім, "каб не лічыць Міцкевіча беларусам, лепш, зручней лічыць тую Беларусь Польшчай".

***

Вельмі цікавае перадаў мне Адам Мальдзіс пісьмо. Яго прыслаў яму з Сібіры Аляксей Кухта, супольнік Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага. Звяртаючыся да Адама Мальдзіса, ён пісаў: "У мяне да Вас ёсць адна прапанова, тэма для артыкула, можа, яна Вас зацікавіць. Я не ведаю, што з гэтаю тэмаю рабіць: тут, у Іркуцку няма ніякіх магчымасцяў высветліць гэтае пытанне, а так, можа, хоць артыкул з'явіцца, хто-небудзь з даследчыкаў зверне ўвагу...

Справа ў наступным. Калі я рыхтаваўся да літаратурнае вечарыны пра беларускіх паэтаў XIX стагоддзя, я чытаў і пра Яна Чачота. Усе ягоныя творы на беларускай мове, якія захаваліся да нашых дзён, можна пералічыць па пальцах. Даследчыкі (напрыклад, Кастусь Цвірка), здаецца, іх усе ведаюць. Але ў адной з польскіх анлайн-бібліятэк я знайшоў кніжку 1902 года, у якой ёсць яшчэ адзін верш, па словах аўтара, напісаны Чачотам. Я спрабаваў знайсці ў Сеціве радкі з гэтага верша альбо якую-небудзь інфармацыю, але нічога не знайшоў. Выглядае на тое, што аўтар кніжкі, нейкі Духінскі, меў у сваіх руках Чачотаў верш, які нідзе больш не захаваўся, надрукаваў яго ў сваёй кніжцы, і пасля гэтага нікому з беларускіх літаратуразнаўцаў не выпадала пачытаць гэтую кніжку.

Мне б вельмі цікава было самому займацца гэтаю тэмаю. Калі гэта праўда невядомы раней твор Яна Чачота, дык нават цэлую дысертацыю можна было б напісаць. Але ў Іркуцку гэтым займацца немагчыма, гэта ж, напэўна, трэба шукаць сляды таго Духінскага, можа, засталіся якія-небудзь ягоныя паперы... Але ездзіць у архівы Беларусі, Польшчы і Літвы я таксама не маю магчымасцяў. Адзінае, што я магу зрабіць – зацікавіць гэтаю тэмаю беларускіх даследчыкаў, хай яны займаюцца. Можа, вы знойдзеце якіх-небудзь літаратуразнаўцаў, можа, таго ж Цвірку, можа, яшчэ каго, хто добра ведае Чачотаву творчасць, напішаце артыкул у газету... Гэта лепей, чым увогуле нічога не зрабіць".

Да свайго ліста Аляксей Кухта далучыў і той верш, які называўся "Калі б я быў каралём" з пазнакай "Беларуская фантазія". Прыводжу яго цалкам:

Мусіў то я сягоння рана устаць,
Штоб табе што-нібуць сказаць;
А штоб сказаць складней і к рэчы,
Сеў я сабе каля печы.

Сеў, нагу за нагу залажыў,
Дабыў ражка і табакі зажыў;
А як мой мальчык крычаць пірастаў,
Так я сабе такую думку здумаў:

Штоб-то я на свеце быў каралём!
І меў бы пітнаццаць рублей грошы!
То б я табе што нядзелю вечаром
Справіў бы банкет харошый.

Ты б у мяне заліўся гарэлкай,
Ад мяса трэснуў бы табе пуп,
Масла піў бы поўнай тарэлкай
І кашу еў бы з тонкіх грэцкіх круп.

А як прышлі б твае імяніны,
Купіў бы табе мёду дзьве тарэлкі;
Купіў бы парася з скаціны
І поўную пляшку гарэлкі.

К гарэлцэ купіў бы перцу за грош,
І за тры грошы у краме ляку;
Ад ляку быў бы там калёр харош,
А перац быў бы дзеле смаку.

І так, як наелі б ці й напілі,
Ляглі б на печы пад кажухом;
Там бы то весяло запелі,
І ты пры мне быў бы каралём!

Перадаючы з пісьмом Аляксея Кухты гэты верш, Адам Мальдзіс папрасіў мяне выказаць сваю думку пра яго аўтарства. Сам ён засумняваўся, што напісаў яго Ян Чачот, і выказаў меркаванне, што аўтарам яго мог быць Адам Міцкевіч. Ён папрасіў мяне як знаўцу творчасці Яна Чачота і Адама Міцкевіча і перакладчыка польскамоўных твораў аднаго і другога выказацца пра гэта. Так, пададзены верш усім сваім ладам розніцца з вершаванымі творамі Яна Чачота. Яго вершы больш разняволеныя, песенныя, напісаныя лёгка, як выдых. Гэтую “песеннасць” вершаў Яна Чачота бачыў і Адам Міцкевіч, высока ацэньваючы іх у пісьме яму ад 27 лістапада 1819 года: “Што мяне ўзрадавала – прызнаюся табе па-філамацку – гэта... твае песні, я бачу агромністы і хуткі прагрэс з часу твайго ўступлення на пісьменніцкую дарогу. Лёгкасць ды яшчэ агонь, проста піндараўскі, пераўзышлі нават тыя надзеі, якія я ўскладаў на цябе. Прэч з дарогі, Заны, прэч, Адамы! Не лянуйся, калі ласка! Ты пішаш усё лепш...” Перададзены Адамам Мальдзісам верш мне здаўся больш строгім, ён вытрыманы ў класічным стылі, тым стылі, які быў характэрны для Адама Міцкевіча. Гэтую думку я і выказаў Адаму Мальдзісу. На яе ён і спаслаўся ў сваім артыкуле “Чечот?” – “Мицкевич!”, или Рождение литературной сенсации”, апублікаваным у “Советской Белоруссии” (7. 04. 2016).

У сваім артыкуле Адам Мальдзіс выказаў і меркаванне, што гэты верш мог быць Міцкевічавым адказам на вядомы беларускамоўны верш Яна Чачота “На прыезд Адама Міцкевіча”. Аб сваім прыездзе з Коўні, дзе настаўнічаў, Адам Міцкевіч загадзя паведаміў сябрам-філаматам, і яны гуртам выйшлі яго сустракаць. Калі ён пад’ехаў на сваім кані, падараваным яго каханай Марыляй Верашчака, Ян Чачот выступіў уперад і прачытаў яму гэты верш, які пачынаўся такімі словамі.

Едзе міленькі Адам,
Глядзеце, а онь, а онь!
Ды ён харашэнькі сам,
Пад нём – вараненькі конь.

Золатам поясззяе,
Аж ад блеску сніг тае.
На шапцы сіні баран, –
Хто бы думаў, што ён пан!

Так адзет харашэнька,
Едзе, едзе барздзенька.
Г а й д а!

Адчыняйце ж варотца!
Да ужо ж на двары Адам,
Да прымайце ж малотца,
Да кажы ж, ці здароў сам?..

Пэўна ж, на такое прывітанне сябрука Адам Міцкевіч не мог змаўчаць. Трэба думаць, і ён адказаў Яну Чачоту ў вершаванай форме, адказаў экспромтам: ён жа быў адмысловы майстар імправізацый. З імі ён выступаў перад маскоўскай інтэлігенцкай публікай, якая была ад іх у захапленні. Выступаў перад ёй на пашыранай тады французскай мове. Ну, а тут на Чачотава прывітанне па-беларуску ён таксама не мог не адказаць яму ў тон на беларускай мове, якую выдатна ведаў і якую высока цаніў. Так што вельмі верагодна, што адказаў ён Яну Чачоту таксама вершам, магчыма, акурат гэтым прысланым з Сібіры Аляксеем Кухтам... А Ян Чачот (ці мо хто іншы?) мог яго па гарачых слядах запісаць на паперу. Праўда, арыгінала верша Адам Мальдзіс не бачыў. Яго, як і шмат чаго іншага, можна б было знайсці ў архіве супольніка Таварыства філарэтаў Леанарда Ходзькі, які, выехаўшы ў эміграцыю, забраў з сабою 125 тамоў дакументаў па гісторыі Беларусі, Польшчы і Украіны. Архіў гэты знаходзіцца цяпер у музеі польскай эміграцыі ў швейцарскім горадзе Рапперсвіле, дзе працаваў і публікатар загадкавага беларускага верша. На думку Адама Мальдзіса, гэты музей тоіць у сабе нямала цікавага для нас, беларусаў. Сам Адам Мальдзіс, як і Аляксей Кухта, ездзіць па швейцарыях ужо не мае магчымасці. У сваім артыкуле ён кліча зрабіць гэта маладзейшых беларускіх даследчыкаў.

***

Патэлефанаваў Аляксандр Вашчанка, здольны малады літаратар. Прапануе выдаць у "Беларускім кнігазборы" Міколу Лобана. Аляксандр знайшоў у архівах яго неапублікаваныя ўспаміны і дзённікі.

Прызнацца, Міколу Лобана я не планаваў у сваёй серыі. Мо і дарэмна? Трэба лепш пазнаёміцца з яго творчасцю: аднымі ўспамінамі і дзённікамі, хоць гэта, можа, найбольш цікавае ў любога пісьменніка, не абыйдзешся ў "выбраным".

Калі ў адной з мінскіх "публічных" бібліятэк я папрасіў кнігі Міколы Лобана, дзяўчына за бар'ерам, пакорпаўшыся ў картатэцы, толькі развяла рукамі:

– Была у нас трилогия Миколы Лобана "Шэметы", но ее... списали.

Спісалі, пусцілі пад нож. Вялікі твор, якому аўтар аддаў вялікую частку жыцця, стаў ужо нікому не патрэбным. Якая можа быць горшая для пісьменніка доля?

Знайшоў трылогію ў іншым месцы. Уважліва прачытаў усе тры кнігі.

Добрыя, пахвальныя былі ў Міколы Лобана намеры: расказаць пра свой народ на крыжавых дарогах гісторыі.

З сапраўдным эпічным размахам пачынаў ён сваю трылогію, першы яе раман "На парозе будучыні": "Гадоў за дзесяць да турэцкай вайны ў пушчу пад Некрашы прыйшоў незнаёмы чалавек. Апрануты ён быў у шэры даматканы курцік, перацягнуты

путам, і зрэбныя, да каленяў заброджаныя нагавіцы. На чорнай, як асмалак, галаве блінцом сядзела прапацелая бесказырка мікалаеўскага салдата, а на нагах – лапці з валасянымі аборкамі...”

З рамана чытач нібы ўвачавідкі бачыць беларускую вёску ў вядомых завіхрэннях першай чвэрці мінулага стагоддзя. Папраўдзе таленавітая проза. Жывыя чалавечыя вобразы, каларытная беларуская мова, мова роднай аўтару Случчыны. Чытаецца раман лёгка, з неаслабнай цікавасцю.

Аўтар не абмінуў у ім і самых вострых момантаў “трыумфальнага шэсця” па беларускай зямлі савецкай улады. Пад сумненне браў ён, напрыклад, краевугольны камень бальшавіцкай палітыкі на вёсцы – апору на беднякоў. Вунь як смела выступае ў рамане супроць гэтай палітыкі на вясковым сходзе з удзелам валаснога начальства просты селянін, не багаты і не бедны Платон Гострык: “А бядняк – ён бядняк. З яго многа не возьмеш. Выходзіць так, што таго, хто нічога не дае, вы па галоўцы гладзіце, а хто сваім хлебам корміць – вы яго адпіхваеце. Якая ж апора? Апора на беднасць? Вы хочаце стварыць дзяржаву беднякоў? А хто ж іх карміць будзе?”

Нідзе не чытаў я ў нашай літаратуры і пра дзяржаўны бандытызм бальшавікоў, што называўся харчразвёрстка. Мікола ж Лобан не абмінуў яе ў рамане. Не здолеўшы сам адабраць у сялян “лішкі хлеба”, старшыня Некрашоўскага рэўкама Кандрат Сарока, “выпатрабаваў у Некрашы прадатрад”, які з’явіўся раніцай – “пяць узброеных салдат ды начальнік з наганам пры боку...” Вельмі наглядна паказвае Мікола Лобан, як “дабравольна” здавалі “лішкі хлеба” сяляне (падаю фрагментарна):

“Першага выклікалі Івана Сядуру...

– Грамадзянін Сядура...

“Бальшавіцкім “таварышам”, ліха яго матары, не хоча назваць”, – падумаў Іван.

– ...У нас ёсць дакладныя звесткі аб тым, – пачаў Кандрат, – што вы маеце вялікія лішкі хлеба. У краіне голад, насельніцтва гарадоў без хлеба. Вы павінны разумець, што становішча сур’ёзнае. І мы не спынімся ні перад якімі мерамі, каб хлеб узяць.

– Колькі?

Вызначыныя камбедам пяцьдзясят пудоў Кандрату здаліся ў гэтую хвіліну мізэрнай лічбай, і ён не адважыўся яе назваць.

– Семдзесят пудоў, – адрэзаў Сарока і паглядзеў на начальніка прадатрада. Той у знак згоды павёў галавою ўніз...

Другім увайшоў старэйшы з братоў Рэйтанаў. Перад начальствам кучомку зняў...

– ...Вы павінны сёння ж здаць дзяржаве пяцьдзясят пудоў.

Рэйтан пакруціў галавою, быццам яму аплік з каўняра ў шыю ўпіўся, і тонкім голасам пачаў:

– Няма столькі. Мятлою падмёўшы – пятнаццаць пудоў...

– Мы вас сюды выклікалі не таргавацца, а абвясціць развёрстку рэйкама.

– А я стары, нічога не ведаю, што гэта за нячыстая сіла такая “ракам”.

Сарока аж усхапіўся ад злосці, упіўся вачамі ў аброслы з сівізной твар старога...

– У “халодную” яго! Мы яшчэ з ім пагаворым!”.

Такая была “тэхналогія” вымагальніцтва ў сялян хлеба.

А хто з нас чытаў дзе пра масавае супраціўленне беларускага сялянства гэтаму бальшавіцкаму гвалту? Мне такое не помніцца. А Мікола Лобан не пабаяўся расказаць пра сапраўднае сялянскае паўстанне супроць савецкай улады на Случчыне. Пра тое, як паўстанцы разграмілі той рэўкам у Некрашах, як расправіліся з савецкімі актывістамі і забілі самога кіраўніка рэўкама Кандрата Сароку.

Але як можна было друкаваць такую антысаветчыну ў савецкія часы? Пільная савецкая цэнзура патрабавала ад аўтара паздымаць усё “очернительное” з тэксту рамана.

Дачка Лобана Ірына Мікалаеўна расказвала мне, як выкручвалі яму ў Галоўліце рукі. Які змрочны і злы прыходзіў бацька з тых экзекуцый.

Каб пакінуць самае важнае ў творы, ён змушаны быў “прыглушыць” той антысаветызм, кінуць літаратурным цэрберам нейкія косткі, каб адсталі ад яго. Адна з такіх “костак”: працавітае беларускае сялянства пісьменнік мусіў называць ва ўгоду ўладам “кулакамі”, нават “кулаччом”.

Мусіць, спадзяваўся аўтар, што праніклівы чытач (як “проницательный читатель” у Чарнышэўскага) зразумее, якое гэта было кулацтва, калі ў адной толькі Некрашэўскай воласці выступіла цэлае войска паўстанцаў (“паўтысячы”), на ўціхамірванне якіх быў пасланы чырвонаармейскі батальён, а таксама аддзелы чырвонаармейцаў “з Арлоўскай, Смаленскай і Разанскай губерняў”, у дапамогу якім былі накіраваны яшчэ і “атрады камуністаў і камсамольцаў, мабілізаваных у навакольных паветах, у Мінску і Гомелі”.

Недарэмна ж Янка Брыль у аглядзе літаратуры на адным з пісьменніцкіх пленумаў хваліў Міколу Лобана за “смеласць”

Раман “На парозе будучыні” разам з даволі цікавымі дзённікамі, якія вёў Мікола Лобан з першага дня вайны, і ўспамінамі, асабліва з дакументальнай аповесцю “Паэма маленства”, і склалі вельмі прыстойны яго аднатомнік у нашай серыі. Тым самым мы вярнулі да жыцця гэтага нашага пісьменніка, чыё імя носіць адна з вуліц Слуцка.

Два другія раманы трылогіі – “Тарадок Устронь” і “Шэметы” – здаліся мне менш цікавымі. Тут Мікола Лобан зусім не мог выбавіцца з цесных рамак сацыялістычнага рэалізму. Асабліва няўдалым мне ўяўляецца апошні раман трылогіі, у якім пісьменнік спакусіўся на настойлівыя заклікі партыі ствараць ідэальнага героя “вялікай савецкай эпохі”. Так, Мікола Лобан стварыў такога героя – нязгібнага камуніста Андрэя Шэмета. Ды ён аказаўся наскрозь фальшывым, нежыццёвым, схематычным. Таму чытач і не прыняў раман, а з ім – і ўсю трылогію “Шэметы”.

Усё ж першы раман, хай і з няўдалай назвай “На парозе будучыні”, шкада выкідаць з нашай літаратуры: як бы там ні было, у ім у цэлым праўдзіва раскрыў аўтар гісторыю беларускага сялянства пачатку XX стагоддзя. Праўда, калі хто захоча перавыдаваць раман, гэты трохі пакалечаны савецкай цэнзурай твор, мусіць, нельга пускаць у людзі без патрэбных каментароў. У нашым выданні яны былі заменены адпаведнымі заўвагамі ва ўступным артыкуле.

***

Угледзеў у кнігарні аб’ёмісты аднатомнік Янкі Купалы ў зялёнай чаргінцоўскай серыі з дзвюма назвамі – “Библиотека Союза писателей Беларуси. Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі”. Што ж, хай наталяюцца людзі красой сапраўднай паэзіі. Ды калі пагартаў кнігу, настрой мой быў дарэшты сапсаваны: каму нашым часам спатрэбілася ўпіхваць у купалаўскі том культаўскія вершы народнага паэта, якімі ў крывавыя 30-я гады, гады нечуванага чырвонага тэрору, змушаны быў ён абараняцца ад сталінскай апрычніны?

На пачатку 70-х гадоў, калі я збіраў “матэрыял” для дысертацыі, у бібліятэцы літоўскай акадэміі навук у Вільні разгаварыўся з яе (бібліятэкі) супрацоўніцай, праўдзівай беларускай патрыёткай Нінай Ляшкевіч. Яна расказала мне пра сустрэчы там з жонкай Янкі Купалы Уладзіславай Францаўнай. Калі зайшла гаворка пра тыя яго сталінскія вершы, цёця Уладзя сказала ёй, што гэта былі “косткі, якія кідаў Іван Дамінікавіч, каб адчапіцца ад сталінскіх сабак” і якія, як яны абодва меркавалі, будуць выкінуты на сметнік, “калі здохне Сталін”.

Чаму ж нават цяпер спатрэбілася некаму выцягваць са сметніка тыя “косткі”, паказваць людзям не ўсё сапраўднае ў спадчыне народнага песняра, а тое смецце? Тым “дабрадзеям”, якія гэта робяць, злосным недабразычліўцам беларускай літаратуры, а, значыць, і Беларусі, хочацца сказаць: прэч брудныя рукі ад нашай шматпакутнай літаратуры!

***

Што гэта – спрэчка пакаленняў? Ці проста розныя разуменні?

Пры падрыхтоўцы аднатомніка Алеся Наўроцкага “каменем спатыкнення” з яго складальнікам Віктарам Жыбулем сталі Алесевы “Элегіі”. Віктар напорна настойваў уключыць іх у том. Але як было не “спатыкнуцца” там на такія радкі:

Перамінаўся хлопец з нагі на нагу,
Нарэшце асмеліўся
“Я кахаю цябе” дзяўчыне сказаць.
Да пафарбаваных пазногцяў
Вусны яго прыліплі.
З-пад аднаго пазногця выпаў
Кавалак бруду
І ўпаў на белага гусака,
Які цёрся ля ног, –
Белы гусак адышоў чорным...

Або:

Я страшэнна мух не люблю.
Перад тым, як легчы спаць, іх лаўлю
І запіхваю ў нос: усё роўна яны туды залазяць,
Дык я рашыў іх сам запіхваць...

Ясна – сарказм, гіпербала...

Цікава, як жа паставілася да гэтых радкоў і ўвогуле да “Элегій” Алеся Наўроцкага крытыка? Падымаю ў бібліятэцы рэцэнзіі на яго першую кніжку паэзіі “Неба ўсміхаецца маланкаю”, дзе яны змешчаны. Рэцэнзенты сур’ёзныя: Анатоль Клышка, Рыгор Бярозкін, Мікола Арочка, Уладзімір Караткевіч, Максім Лужанін... Усе яны, можна сказаць, у адзін голас вітаюць прыход у нашу літаратуру цікавага паэта і ў цэлым высока ацэньваюць яго кніжку. Што ж да “элегій”, то – наадварот. А. Клышка, убачыўшы ў іх “непатрабавальны густ” аўтара, якога называе “яркім талентам”, выносіць ім такі вырак: “Нізка “Элегіі” – самая слабая ў зборніку” (“Полымя”, 1962, №7). Р. Бярозкін, які таксама лічыць маладога паэта “светлым, арыгінальным і самабытным талентам”, зазначае: “Разам з тым трэба сказаць, што Наўроцкі часта зрываецца ў элементарную безгустоўшчыну, у натуралістычны гратэск, у бяссэнсіцу. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прачытаць цыкл “Элегіі”, пра які, дарэчы, ужо гаварылася ў друку, і гаварылася слушна як пра крыўдную няўдачу паэта” (“Беларусь”,1962, №12). З гэтакай ацэнкай “Элегій” згодны былі таксама М. Арочка (“Лім”, 1962, 12 чэрв.) і М. Лужанін у сваёй кнізе “Вачыма часу” (1964).

Больш спакойнай здалася мне тут пазіцыя У. Караткевіча (“Маладосць”, 1962, №12). Не, і ён не ўхваляе “безгустоўшчыну”, але знаходзіць яе як “фальшывую ноту ў добрай сімфоніі” не ў “Элегіях”, а ў паэме “Стрэл у твар смерці”, у такіх радках: “Можа, сёння твая рука выцадзіць смяротную кроплю малака”. У “Элегіях” жа ён убачыў найперш сатыру: “Лепшыя з “Элегій”, змешчаных у зборніку, сведчанне таго, што Алесь Наўроцкі валодае пяром сатырыка”. Таму раіць яму развіваць сатырычны “зрок”.

Ясна, Караткевіч гэтую здольнасць маладога аўтара заўважыў у элегіі пра Нос. У ёй Наўроцкі добра паздзекаваўся з дзейснага тады кіраўніка вялікай савецкай імперыі Мікіты Хрушчова, не пабаяўшыся помсты. Пра бруд жа ў пазногцях ды мух у носе – Караткевіч не сказаў ні слова.

Першы ў радках пра гэта ўбачыў немалаважны сэнс вядомы крытык, мой блізкі сябар Янка Шпакоўскі, з якім я рыхтаваў анталогію “Літаратура Беларусі XIX стагоддзя”, цяпер, на жаль, нябожчык. Во яго ацэнка: “У элегіях не толькі асуджэнне брыдкага і адмоўнага... Паэтава думка бунтуе, яго так і падмывае дух супярэчнасці,

непрыняцця прапісных ісцін, абрыдлых канонаў. Таму ён па-свойму шакуе чытача, казыча звыклыя густы, перабіраючы падчас і праз край" ("Узрушанасць". Мінск, 1978).

Пра тое, як "скаланулі роўны бег думак літаратурнай "абоймы" "крамольныя вершы – перад усім дзесяць элегій, дзесяць сатырычна-філасофскіх абразкоў" Алеся Наўроцкага, расказала ў новым ужо часе і дачка рэдактара яго першай кніжкі Алеся Сёмуха ("Роднае слова", 1995, №3).

Бунт – так трэба, мусіць, трактаваць "Элегіі" Алеся Наўроцкага. Бунт-пратэст не толькі супраць "прапісных ісцін, абрыдлых канонаў", але і супраць усёй паноўнай тады камуністычнай ідэалогіі, што скоўвала думку чалавека. Якраз у тое застоенае, ушчэнт забросненае балота прагнілай савецкай Сістэмы і шпурнуў беларускі рызыкант свой камень.

Так што зусім не "бяссэнсіцу" ўбачыла ў "парадаксальных" элегіях Алеся Наўроцкага новае пакаленне.

Гэты бунт Алеся Наўроцкага я параўнаў бы з "неадэкватнымі" паводзінамі на розных прадстаўнічых сходах другога выдатнага нашага паэта – Анатоля Сыса, які па-свойму пратэставаў супраць грамадскай заспакоенасці, змірэння з тым гвалтам, што і сёння чыніцца з культурай і мовай нашага народа расійскімі імперцамі і іхнімі халуямі ў самой Беларусі.

Часы, калі "фуліганіў" Алесь Наўроцкі, сёння шмат у чым змяніліся: знік усёпажыральны монстр – Галоўліт, адкрылася неабсяжнае поле інтэрнэта... Пра ўсё можна выказвацца цяпер без "эзопавай мовы".

Хоць новае пакаленне знайшло такім чынам "сэнс" у "Элегіях" Алеся Наўроцкага, але сам аўтар з часам вельмі крытычна падыйшоў да іх. І не ўключыў як цэласны твор у кнігу свайго выбранага "Пакаленні і папялішчы", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1990 годзе, хоць Алесь Наўроцкі цяпер мог ужо гэта зрабіць, балазе і рэдактарам кнігі быў той жа Васіль Сёмуха. З нізкі "Элегіі" аўтар змясціў там толькі асобныя з іх, прытым моцна перарobleныя, адкінуўшы ўсё ж "элегіі" пра "мух у носе" і "бруд пад пазногцямі". І яе, гэтую нізку, думалася, не было патрэбы ў першапачатковым выглядзе ўключаць у кнігазбораўскі том. Я так і сказаў Віктару Жыбулю. Але ён і пасля ўсіх маіх аргументаў не згадзіўся са мною. Пра сваю нязгоду, пра тое, што гэты артадокс Цвірка не пускае ў друк такія выдатныя творы, як "Элегіі" Алеся Наўроцкага, ён запусціў у інтэрнэт. І там "зашумела, загуло, бы землятрасенне". З усіх бакоў пачалі бэсціць таго артадокса, не даходзячы "да цяму", чаму ён не ўключае ў кнігу элегіі... Толькі тое землятрасенне яго не пахіснула. Так што выбачай, дарагі Віктар Жыбуль, што не паслухаў цябе. А нашу спрэчку мне хацелася б трактаваць так, як у вершы Пімена Панчанкі:

Гэта не двух пакаленняў сварка,
Гэта эпохі гарачая зварка.

*(Заканчэнне будзе).*



Валянцін Акудовіч



...бумбамлітаўцам

трэба нарадзіцца...

# Бум-Бам-Літ

***З новай кнігі “Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)”***

*Працяг. Пачатак у №№95-97.*

Пасля стварэння літаратурна-філасофскага сшытка “ЗНО” ў рэдакцыю “Культуры” пацягнуўся розны нефарматны народ. Бо хаця час ужо быў адносна вольны і з’явіліся незалежныя выданні, але іх інтэнцыі пераважна кіраваліся ці на разбурэнне савецкіх стэрэатыпаў, ці на фармаванне стэрэатыпаў нацыянальнага Адраджэння. А тут запрашалі да нязмушанага мыслення і нічым не скутай творчасці. Да таго ж гэта была не нейкая самаробная брашурка (якіх тады ўжо хапала), а паважнае дзяржаўнае выданне з шырокім чытацкім кантэкстам.

Так пакрысе на старонках сшытка асвойталіся Юрась Барысевіч, Зміцер Вішнёў, Ілля Сін, Альгерд Бахарэвіч, Валерка Булгакаў, Сяржук Мінскевіч, Алесь Туровіч, Усевалад Гарачка і шмат хто яшчэ. (Дарэчы, ладная частка з іх потым у розныя гады будзе працаваць у рэдакцыі “Культуры”, а Ілля Сін нават стане галоўным рэдактарам.)

Натуральна, акрамя ўласных тэкстаў, маладых *геніяў* ва-

біла і жывая публічная прастора. На розных пляцоўках яны чыталі сваю прозу, дэкламавалі вершы, спявалі песні... Усё гэта разам якраз і зрабілася падставай новага і ці не самага яркага літаратурнага руху беларускай сучаснасці... Вось як апісвае гэты *пралог* Сяржук Мінскевіч у сваёй кнізе "Я з Бум-Бам-Літа" (між іншым, выдатнай кнізе):

«У рэдакцыі газеты "Культура" сабраўся штаб правядзення паэтычнага канцэрта ў менскім парку культуры і адпачынку імя Горкага. Тут і паўсталі пытанні: "як назваць імпрэзу", "якая будзе канцэпцыя" і самае галоўнае – "хто мы"? Адказы знайсці было складана, тым больш літаратары не ведалі, перад якой публікай яны будуць выступаць. Але пытанні самі сабой зняліся, калі Зьміцер Вішнёў прапанаваў у якасьці заклічнага гонга выкарыстоўваць на сцэне рондаль – "бум-бам" – проста біць у яго малатком.

– Эўрыка, – усклікнуў аўтар гэтых радкоў, – Бум-Бам-Літ! (...) Калі твор не зробіць бум, то няхай ён зробіць бам.

Акцыя была названая "Farmatвory Бум-Бам-Літу", і хоць назва плянавалася толькі на адну гэтую акцыю, дзіўнае слова Бум-Бам-Літ замацавалася за ўсім рухам.

Адсюль усё і пачалося. Хаця перад самім выступленнем пры дэталёвым аглядзе кватэры Сержа Мінскевіча ў ёй не было знойдзена непатрэбнага-патрэбнага рондаля, затое гаспадар заўважыў на балконе даўно забыты суседзямі пакамечаны алюмініевы тазік з чарназёмам. Тазік быў памыты, а на яго баках былі напісаны, падобна промням купальскага сонца, літары БУМ БАМ.

Так паўстаў Бум-Бам-Літ».

Гэта ўвогуле цікава, чаму ў нейкую пару літаратурныя суполкі ды рухі растуць як грыбы пасля дажджу, а потым мінаюць дзесяцігоддзі – і ніякага варушэння? У прыклад мог бы звярнуцца да гісторыі еўрапейскай ці рускай літаратураў, але ў мяне і так зашмат літаратуразнаўства. Навідавоку хіба адна досыць устойлівая прыкмета: найчасцей такое здараецца на зломе эпохаў, і не абавязкова сацыяльна-палітычных, але і эстэтычных.

У дзевяностых гадах (ХХ ст.) у нас акрамя шырока вядомых "Тутэйшых", "Таварыства вольных літаратараў" і "Бум-Бам-Літа" яшчэ трохі заявіла пра сябе суполка "Вулей" (лідэр Антон Тарас) і, здаецца, "Вецер ды плынь" (лідэры Ігар Бабкоў і Міхась Баярын). Апошнюю згадваю адно каб трохі падвесяліць сябе ў гэты шэры і мокры лістападаўскі дзень...

Відаць, пад уплывам публічнага поспеху Бум-Бам-Літа глыбока сімпатычныя мне Ігар з Міхасём таксама надумалі нешта падобнае выштукаваць, толькі з радыкальна іншай (элітарнай) праграмай. Яны сабралі невялічкую сціжму ахвочых, паехалі на ноч у Вязынку і ля вогнішча рэфлексавалі ды медытавалі скрозь алкагольнае паўсонне да ранку. А як вярнуліся ў Мінск і добра выспаліся, дык хутка забыліся і на *плынь*, і на *вецер*...

***

Я ў Вязынку не змог паехаць, а вось на першы выступ Бум-Бам-Літа ў парку імя М. Горкага патрапіў. Што праўда, не без прымусу – бо ўжо тады моцна не любіў публічныя імпрэзы.

Ну што тут сказаць – скрыня Пандоры адчынілася, і адтуль павылятала чорт ведама што. (Вочы мае б не бачылі і вушы не чулі.) Бо адна рэч, калі ты друкуеш *страхалюдныя* тэксты, якія нехта будзе чытаць ў адлюдстве сам сабе, і зусім іншае, калі нешта падобнае слухаеш разам з размаітым натоўпам, зважаючы не столькі на выступоўцаў, колькі ўслухоўваючыся ў калектыўнае падсвядомае гэтага натоўпу.

Хаця фармальна ўсё выглядала як мае быць: сцэна, канферанс, публіка – хто паводле абвестак, хто з адпачываючых... Разам з тым усё было як не мае быць,

пачынаючы ад грукату малатка ў пакамечаны тазік (потым малаток зменіць цыркавая булава жанглёраў)...

Перадусім шмат незразумелых словаў, а яшчэ больш незразумелых сэнсаў ды рухаў... Відавочна, хлопцы і не мерыліся спадабацца публіцы. Тым болей, быць зразумелымі. А чаго яны хацелі, запрашаючы людзей і выступаючы перад імі? Напэўна, каб сказаць класічнае: "Шаноўныя, ужо «няма таго, што раньш было». Новы час патрабуе новых формаў, словаў і сэнсаў. І мы іх шукаем... А вы не спяшайцеся нас ганіць, бо не толькі мысленню і паэтычным формам, але і вам самім ужо час мяняцца".

Нягледзячы на ўвесь гэты літарацкі шабаш, публіка нават трохі пляскала ў ладкі. Нехта таму, што на канцэртах трэба пляскаць, а хтосьці вітаючы новую дзёрзкасць...

Пасля канцэрта мы сядзелі на беразе Свіслачы з півам, і хлопцы абмяркоўвалі, як ім жыць далей? Сярод усяго іншага нехта запрапанаваў скласці маніфест Бум-Бам-Літа. Прапанова была слушная, і таму ўсім спадабалася. Пакуль яны абмяркоўвалі тэзы, мне падумалася...

– Слухайце, – сказаў я, – а чаму б кожнаму са слупоў Бум-Бам-Літа не напісаць уласны маніфест, а я іх надрукую ў "ЗНО". Такога нашэсця маніфестаў паводле адной літаратурнай падзеі яшчэ ніколі не было.

Пасля маўклівай паўзы хлопцы хутка ажылі, вочы загарэліся, пляшкі з півам бадзёра стукнуліся адна аб адну. А як піва глынулася, я дадаў: тым болей, у кожнага постмадэрніста a priori ўласны постмадэрн.

***Слупы Бум-Бам-Літа:*** *Барысевіч Юрась, Бахарэвіч Альгерд, Васанская Жанна, Вішнёў Зміцер, Гарачка Сева, Мінскевіч Сяржук, Сін Ілля, Патаранскі Сяргей, Туровіч Алесь... (Пазней да гэтага спісу прылучацца новыя героі, найперш згадаю Жыбуля Віктара, Морт Вальжыну, Кавалеўскага Арцёма, Усевалада Гарачку...).*

*P.S.* У згаданай вышэй кніжцы Сержа Мінскевіча "Я з Бум-Бам-Літа" сцвярджаецца, што менавіта я прыдумаў калектыўную мянушку лідэрам руху – "слупы". Аднак гэта не зусім так. Напачатку хлопцы чамусьці называлі сябе па-руску "столбами", а я толькі нагадаў ім пра адказнасць перад роднай мовай. Такую драбязу быццам і не варта было чапляць, толькі перакладзенае слова, як і "тазік", сталася вітрынным у лёсе гэтага руху.

***

Маніфесты былі надрукаваныя ў вераснёўскім нумары "ЗНО" за 1995 г. Яны захапілі тры паласы сшытка і ўжо толькі гэтым фактам як бы прадвызначылі маштаб падзеі. Але іх інавацыйная эўрыстыка не магла быць вымерана ніякім фармальным маштабам.

Дзеля прэзентацыі ў мемуарах з усяго масіву тэкстаў я быў вымушаны адабраць толькі невялікую частку фрагментаў. Псіхалагічна гэта была цяжкая праца, бо за маім выбарам засталося куды больш не-выбраным таго, што мусіла тут апынуцца. Цяжкай яна была яшчэ і таму, што чым далей я ўчытваўся ў тыя даўнія тэксты, тым больш выразна ўсведамляў, наколькі з той пары змізарнела наша літаратурная інтэлектуалістыка.

Але на астачу гэтага эпізоду трохі вясёлага...

Позна ўвечары "сшытак" з маніфестамі быў звярстаны, і я паехаў ночыць (а хлопцы яшчэ засталіся ў рэдакцыі). Не паспеў увайсці ў хату, як яны тэлефануюць і з рогатам паведамляюць, што ўпрасілі вярстальшчыка прыціснуць да суплёта маніфестаў абвестку (цытую паводле арыгінала):

*БУМ – НАВІНА*

*Калі гэты выпуск ЗНО быў ужо*
*звярстаны, мембры (слупы, зрухары,*

*бубнары і г.д.) Бум-Бам-Літа ўсеагульным грукатаннем вырашылі надаць Акудовічу Валянціну, слупу ад нараджэння, тытул БЕССМЯРОТНАГА ХРОСНАГА БАЦЬКІ БУМ-БАМ-ЛІТа, а таксама ганаровае права першачарговага бумкання ў Тазік новай літаратуры.*

*Штаб ББЛ*

Праслухаўшы абвестку, я хацеў моцна абурыцца, але адно дыпламатычна выказаў глыбокі сумнеў у мэтазгоднасці яе публічнай агалоскі. Толькі хлопцы ўжо наперад вымудрылі, быццам вярстальшчык сышоў да хаты і цяпер нічога нельга змяніць, бо трэба тэрмінова везці макет газеты ў друкарню...

Натуральна, у той вечар я нават падумаць не мог, што гэты сітуацыйны жарт некалі станецца трывалым фактам маёй біяграфіі і яго («Хросны бацька Бум-Бам-Літу») раз-пораз стануць згадваць розныя літаратурныя крытыкі ды аглядальнікі, аналізуючы нечаканы феномен (не)прыгожага беларускага пісьменства. Я да гэтага настолькі прызвычаюся, што пазней і сам неаднойчы ў артыкулах да розных даведнікаў нагадваў пра "хроснага бацьку" – праўда, не без стоенага прысмеху.

Дарэчы, для мяне гэты статус аказаўся зручным яшчэ і таму, што, шчыльна хаўрусуючыся са слупамі руху, я рашуча не пагадзіўся кааптавацца ў ягоны склад, паколькі што ў грамадскай дзейнасці, што ў творчасці мне больш натуральна фармалізавацца выключна вакол самога сябе. Але з статусу "хроснага бацькі" я атрымаў і даволі лішніх турботаў, бо, не зразумеўшы жарту, журналісты чапляліся да мяне ці не часцей, чым да якога з бумбалітаўцаў.

**Серж Жук-Мінскевіч**

**Маніфест Бум-Бам-Літа**
(*фрагмент*)

Бум-Бам-Літ – гэта не аб'яднанне, не таварыства, не суполка, не саюз, гэта – рух. Рух дзейнай, жвавай беларускай літаратуры, творы якой імкнуцца зрабіць бум... А бум бывае розны: бум захаплення, бум пераймання, бум чаравання, бум сенсацыйнасці і адчування незвычайнага і нават бум неразумення... А калі ніякі з усіх бумаў для пэўнага абы-абыякавага зямляніна зусім і не бум, то тады... няхай гэта будзе (для яго) проста бам – воплеск паветра, – чым, насамрэч, і з'яўляецца любы прамоўлены твор літаратуры.

Як усялякі вольны рух, Бум-Бам-Літ можа прыхопліваць усіх, хто захоча прыхапіцца, і можа выпускаць усіх, хто захоча адчапіцца. А ўдзельнікі – "зрухары" – могуць ствараць у яго глыбінях свае адмысловыя плыні (накірункі творчасці), свае віры (літаб'яднанні). Іх творы могуць быць усялякімі: ад рэалістычных да інсінуацыйных, ад псіхалагічных да шызарэалістычных, ад прымітывісцкіх да транслагічных, ад сентыменталісцкіх да татальна эпатажных. Няма аніякіх абмежаванняў творавыяўлення, акрамя ўласнаабраных крытэрыяў самаацэнкі...

**Ілля Сін**

**Маніфест X**
*(скарочана)*

**X** з'яўляецца задзіночаннем людзей, *якім надакучыла*. Нудота – вось што забівае нас, але адначасова і падштурхоўвае да дзеяння, і мы нешта чынім, пішам творы і ствараем усялякія літаратурныя аб'яднанні ды партыі.

***Мэта Х:*** 1. Уплыў яе сяброў на аб'ектыўнае становішча рэчаў. У гэтым дачыненні Х з'яўляецца арганізацыяй не дэмакратычнай, а хутчэй аўта-таталітарнай, бо за мэту прымаецца неабмежаваны ўплыў нейкай абмежаванай колькасці асобаў на шырокія пласты грамадства.

2. Звяржэнне з пастаменту аб'ектыўных ісцінаў і замена іх суб'ектыўнай бязглуздзіцай. Кожны чалавек мае права абсталёўваць свет на свой лад.

3. Здзек са святыняў (маральныя устоі, культура, іерархіі каштоўнасцяў і г.д.). Мы не сцвярджаем, што яны недасканалыя, але ўсё, што створана, мусіць быць дэканструяванае на ўзроўні асобы.

***Шляхі дасягнення*:** эпатаж і буйнамаштабныя правакацыі. Эпатаж – сродак самаабароны Асобы ў грамадстве эпохі постмадэрнізму.

(...)

**Х** не можа мець пэўнай структуры і не прадугледжвае аніякіх кіраўнічых пасадаў. Індывідуальнасць кожнага з яе сяброў мусіць напоўніцу прымацца ўсімі. З гэтай жа прычыны арганізацыя не можа мець аніякае агульнапрынятае сімволікі і мастацкіх прынцыпаў.

**Юрась Барысевіч**

**Літаратура з першых рук**
(*фрагмент*)

Бум-Бам-Літ – гэта рух за вызваленне літаратуры ад друкарскага станка ды іншых прыладаў індустрыі друкарскага пісьменства, якая ўжо даўно ператварыла паэзію ў нейкую галіну капіталістычнай эканомікі або народнай гаспадаркі сацыялізму. Індустрыялізацыя літаратуры спрычынілася не толькі да апартэіду ўнутры самой мовы (падзелу лексікі на ўнармаваную і вульгарна-жаргонную, друкаваную і моўленую – прычым такі падзел мае месца і ў граматыцы, і ў фанетыцы), але і да класавай сегрэгацыі сярод літаратараў, іхняга падзелу на мэтраў і графаманаў. У эпоху механічнага тыражавання літаратуры значнасць пісьменніка вымяраецца лічбай накладаў ягоных твораў, як жыццёвы поспех бізнесмена – колькасцю нулёў на ягоным банкаўскім рахунку. Калі паэзія сканала – дык, напэўна, таму, што была атручана друкарскімі фарбамі.

Першае, што мы бачым, калі зазіраем у які-кольвек зборнік паэзіі – на белых прасцінах паперы ляжаць чорныя абвугленыя словы. Гэта нават не фатаграфія паэзіі, а толькі яе негатыў, бо пры жыцці гэтыя словы, пакуль з іх не выціснулі душу – дыханне і жывую інтанацыю, былі невымерна святлейшымі за навакольную прастору. У лепшым выпадку, друкаванае слова – гэта стэрылізаваны і абрэзаны па лінейцы цень слова прамоўленага.

Паводле Антанена Арто, у кнігах укрыжоўваецца не толькі паэзія, але і само жыццё, і мы павінны хоць нешта зрабіць, каб вызваліць яго са смяротных абдымкаў паперы.

На сваіх шумлівых імпрэзах бумбамлітаўцы чытаюць уголас зусім незнаёмым, выпадковым слухачам свае невыдадзеныя (а часам – і ненапісаныя) творы. Не проста чытаюць, але і паказваюць, бо многія людзі беларускай мовы не ведаюць, і таму ім цікавей бачыць паэзію, чым яе разумець. Гэта ў літаральным сэнсе жывая літаратура, бо зроблена не з паперы, а з голасу і цела аўтара. Яна дыхае, гаворыць і крычыць, махае рукамі і крыламі.

Паэзія, якая хоча быць сучаснай, павінна не проста прамаўляцца, а пражывацца – г. зн. па магчымасці цалкам супадаць з абрысамі і рухамі цела паэта. Тэкст, які нараджаецца ў вымаўленні і жэстыкуляцыі, нараджаецца “тут-і-цяпер”, адначасна з ударамі сэрца, і імкнецца да найбольш чыстага і яснага – цялеснага ўвасаблення. І звяртаецца ён не да розуму аўдыторыі, а да яе ўласнага цела, прымушаючы

назіральнікаў не разумець паэзію, а суперажываць яе, хай сабе і на фізіялагічным узроўні, бо толькі ўласныя адчуванні, а не чужыя думкі, здольныя пераадолець чалавечую абыякавасць.

***

Ужо ў наступным нумары “ЗНО”, падахвочаны маніфестамі, я адгукнуўся на з’яўленне Бум-Бам-Літа вясёлым тэкстам (скарочаны).

**Афрыка – радзіма тазікаў,**
*або Я хачу ў Бум-Бам-Літ*

Ніколі не хацеў быць сябрам (членам) Саюза пісьменнікаў, “Тутэйшых”, ПЭН-цэнтра, ТВЛ... Не, калі быць зусім дакладным, то адзін раз хацеў, бо пачаў моцна кашляць і з гэтага думаць пра смерць. І не так мяне тая смерць палохала, як вечная нястача грошай. Дзе ж гэта мая жонка, – думаў, – якой да палучкі грошай ніколі не хапае, набярэцца іх, каб прыдбаць труну, замовіць аўтобус ды справіць хоць якія хаўтуры. Дарэчы, з хаўтурамі найгорай, бо чым-чым, а сябрамі і прыяцелямі лёс мяне ніколі не крыўдзіў. Як уявіў сабе, колькі іх адусюль панацягнецца і кожнаму трэба паводле праваслаўнай завядзёнкі тры чаркі наліць (але гэта можа вашым сябрам было б даволі тры чаркі, а маім, ды яшчэ з такой нагоды – смеху вартыя тыя тры чаркі)...

Карацей, як уявіў сабе ўсё гэта, то зразумеў, што пасля хаўтураў маім сямейнікам таксама жыцця не будзе... І вось тады я згадаў, што сяброў (членаў) Саюза пісьменнікаў за дзяржаўны кошт хаваюць і моцна пашкадаваў, што я не сябар (член) гэтага “саюза”. Трэба, – пачаў ліхаманкава прыкідваць варыянты, – хуценька сфастрыгаваць якую-кольвек кніжыцу і прасіцца ў “саюз”. Тым болей, ў мяне там шмат знаёмцаў, можа паспрыяюць, каб прынялі і за дзяржаўны кошт пахавалі.

Магчыма, я і здзейсніў бы сваю задуму, але раптам кашляць перастаў...

Усё гэта я распавёў дзеля таго, каб шчыра засведчыць, што не хачу ні ў які літарацкі хаўрус. А вось у Бум-Бам-Літ хачу. Бо ў бумбалітаўцаў ёсць Тазік (ні ў кога болей Тазіка няма), і кожны, хто бумбамлітавец мае ганаровае права грукаць у яго алюмініевае дно...

Мне моцна карціць грукнуць у Тазік, толькі ў бумбамлітаўцы мяне не возьмуць, бо бумбалітаўцам нельга стаць, як сябрам Саюза пісьменнікаў, бумбамлітаўцам трэба нарадзіцца. Тут я маю на ўвазе не столькі біялагічны факт народзін, хаця гэта, як вы разумееце, таксама істотна, колькі экзістэнцыйны.

Няма ніякіх шанцаў зрабіцца бумбамлітаўцам таму, хто сфармаваўся як літаратар у эпоху сацрэалізму. Але не нашмат болей шанцаў і ў таго, хто сфармаваўся як літаратар, змагаючыся з сацрэалізмам вонкі і ў самім сабе.

Для бумбалітаўца сацрэалізм і не ўтульнае жытло, і не страхалюдная вязніца, а ўсяго адзін з эстэтычных дыскурсаў адкрытай ва ўсе бакі постмадэрнай прасторы.

Бумбалітавец – ад прыроды натуральны постмадэрніст. Ён не выбірае постмадэрн з таго, што той яму падабаецца. Бумабалітавец проста не можа не быць постмадэрністам, як негр не можа не быць неграм.

(...)

Дарэчы, ці чулі вы, што бумбалітаўцы збіраюцца ў Афрыку. Насамрэч збіраюцца. (Між іншым, заўважце, у Афрыку, а не па месцах баявой славы гетмана Астрожскага і не па месцах працоўнай славы будаўнікоў Мірскага замка, як гэта зазвычай рабілі і па сёння робяць літаратурныя папярэднікі бумбамлітаўцаў.)

Я не пытаўся ў слупоў Бум-Бам-Літа чаму ў Афрыку, а не, скажам, у Антарктыду? І не буду пытацца, бо не перакананы, што яны самі гэта ведаць. А я вось ведаю. Пацягнула бумбамлітаўцаў менавіта ў Афрыку таму, што Афрыка – радзіма

тазікаў. І хаця тамтэйшыя тазікі называюцца тамтамамі, этымалагічная пераемнасць відавочная. Як відавочная пераемнасць функцыянальная, эстэтычная і сакральная.

Але Афрыка не толькі радзіма тазікаў, яна – прарадзіма Бум-Бам-Літа. Гэтую выснову я раблю вось з чаго. Культуралагічную прастору Бум-Бам-Літа арганізуе бумбамістае рэха ад грукання ў дно Тазіка. Аднак і культуралагічная прастора Афрыкі была арганізаваная рытмагукамі тамтамаў, якія адвеку нагадвалі кракадзілам, джунглям і акіянам, што акрамя іх у сусвеце ёсць яшчэ нехта. А чалавеку (гэта значыць негру, прапродку бумбамлітаўца) гэтыя гукі ў непралазных джунглях былі тым самым, што перагук званоў хрысціянскаму адлюдніку ў Налібоцкай пушчы.

Таму на заканчэнне сваіх разваг хачу звярнуцца да беларускіх спонсараў. Дапамажыце, чым атрымаецца, каб бумбамлітаўцы змаглі наведаць сваю (і Тазіка) гістарычную прарадзіму. Самі разумееце, як сэрца па радзімай старонцы баліць.

*P.S.* ...Між іншым, трохі пазней на нейкім літаратурным фестывалі Уладзімір Арлоў са сцэны сказаў, што ахвяруе ў фонд афрыканскага падарожжа Бум-Бам-Літа свой сціплы ўнёсак і паклаў у тазік адзін амерыканскі *даляр*.

Бумбалітаўцы тады моцна ўзганарыліся, бо такім спосабам знакаміты пісьменнік як бы ўхваліў іхні чын. Што на пачатку рушэння было надзвычай істотна.

***

Яны і потым заставаліся неабыякавымі да таго, як успрымалі іх *жывыя* класікі. Пры кожнай магчымасці Зміцер Вішнёў пытаўся, што тыя (Быкаў, Барадулін, Бураўкін, Некляеў...) думаюць пра Бум-Бам-Літ? Досыць парадаксальная сітуацыя. Гэта, лічы, тое самае, калі б кат на эшафоце чакаў ад сваёй ахвяры камплімента. Бо не толькі сваімі маніфестамі, але ўсім корпусам тэкстаў бумбалітаўцы адмаўлялі традыцыйным пісьменнікам у праве на актуальнае месца ў літаратуры. Аднак я не стаў бы параўноўваць бумбалітаўцаў, скажам, з рускімі футурыстамі. У эпоху постмадэрна нешта падобнае выглядала б глупотай. Паколькі актуальнасць зусім не вяршынства, а ўсяго толькі актуальнасць тут і цяпер.

Хаця ўсё гэта драбяза. У феномене Бум-Бам-Літа мяне найбольш уражвала тая хуткасць, з якой рух набываў сабе вядомасць. Не шмат перабольшваючы, можна сказаць, што гэты працэс адбываўся ў фармаце выбуху. Асабліва тое стала заўважным, калі "Культура" надрукавала іх маніфесты і тым самым разняволіла ўсе дзяржаўныя СМІ (значыць, і нам можна пра гэта пісаць і гэта друкаваць).

У той палітычнай сітуацыі згаданы факт быў загалоўным, хаця і не самым важным. Асноўная прычына надзвычай хуткага пашырэння вядомасці Бум-Бам-Літа паходзіла з таго, што тэатралізаваныя выступы, перформансы ды іншыя літаратурныя акцыі сяброў гэтага руху сталіся зручнымі для інфармацыйнай інтэрпрэтацыі, вабнымі ў сваёй кідкасці тэлежурналістам, прыцягальнымі ў сваёй скандальнасці для рэцэнзараў і крытыкаў.

Зрэшты, усё гэтае спрыянне было б мала чаго вартае, каб не талент, маладая дзёрзкасць і шалёная актыўнасць саміх бумбалітаўцаў. Яны гатовыя былі выступаць дзе заўгодна і перад кім заўгодна. Асабліва іх вабілі глыбока маргінальныя месцы, як псіхбальніца "Навінкі" ці вечаровыя могілкі, дзе яны чыталі вершы мёртвым (або помнікам мёртвых). Толькі не спяшайцеся абвінавачваць бумбамлітаўцаў у некрафіліі. Не з меншай апантанасцю хлопцы збіраліся разам і дэкламавалі свае творы перад дрэвамі, птушкамі ды аблокамі.

Безумоўна, галоўным завадатарам усяго гэтага вэрхалу быў Зміцер Вішнёў. Уласна, без яго і ніякага Бум-Бам-Літа ўвогуле не было б – сцвярджаю як шматгадовы сведка, якога яны бясконца абцяжарвалі сваімі задумамі і праблемамі.

Між іншым, сам Зміцер паходзіў з рускамоўнай сям'і і мову вывучаў, як кажуць мілітарысты, на маршы. Але яго адданасць літаратуры і беларускаму слову

былі неверагоднымі. Ён ні пра што іншае не мог гаварыць і нічога не рабіў іншага, што было не літаратурай (хіба ў дадатак маляваў фігуратыўныя карціны). Можа яшчэ і таму, што амбіцыі Зміцера былі ўсясветнага маштабу. Але на тую пару хто з бумбалітаўцаў не меў вялікіх амбіцый? Давайце звернем на стылістку хаця б гэтага абзаца з кнігі зноў жа Сержа Мінскевіча: “Ужо на другую канферэнцыю (ладзіла ТВЛ, 1995 г.) мы былі запрошаныя як зрухары Бум-Бам-Літа. У кавярнях праходзілі дыскусіі і закусіі, спяванні і выпіванні. Шырокі свет даведаўся пра незвычайны літаратурна-мастацкі рух, што нарадзіўся ў Беларусі. Пра нас загаварылі ў Расіі, Украіне, інфармацыя дасягнула Польшчы, Балканаў...”

***

Я не ўмею пераказваць літаратурныя анекдоты, аднак паспрабую...

Здаецца, у 1997 годзе сядзелі мы з галоўным рэдактарам часопіса “Фрагменты” Ігарам Бабковым у нашым пакойчыку гатэля “Готліб”, што на беразе знакамітага Вохрыдскага возера ў Македоніі, і гаварылі не пра вялікага святога Клімена Вохрыдскага, помнік якому быў непадалёку, і не пра яшчэ больш вялікіх святых, салунскіх братоў Кірылу ды Мяфода, якія бліз гэтых мясцінаў выштукавалі для ўсіх усходніх славянаў моўную парадыгму, а пра Бум-Бам-Літ. Гэта трэба было цягнуцца праз усю Усходнюю Еўропу няведама куды, за гэты час наглядзецца і наслухацца няведама чаго, каб напрыканцы дня, забыўшыся на ўсе дзівосы, абмяркоўваць блазнаванні невялікай сціжмы маладых беларускіх літаратараў

...Ды не проста абмяркоўваць, а спрачацца з такім напалам, быццам на кон, як у пар*у* Кірылы ды Мяфода, зноў пастаўлены лёс калі не ўсёй славяншчыны, то найменш яе сярэдзіннага краю – Беларусі.

У той вечар Ігар Бабкоў выступаў у ролі пракурора і ў нечым (у чым ужо, зразумела, не памятаю) моцна вінаваціў Бум-Бам-Літ, а я быў адвакатам. У тую пару гэта была мая звыклая роля, якая пакрысе пачынала мне надакучваць, аднак тут ужо нічога не паробіш, бо ўсе мы палоннікі тых або іншых міфаў, незалежна ад таго – ствараем іх самі ці яны ствараюць нас.

Палеміка была доўгая і зацятая, аргументы абвінаваўцы ўсё больш жорсткія і безальтэрнатыўныя, абарона патроху ніякавела і ліхаманкава шукала хоць чаго яшчэ на карысць сваіх кліентаў, але без асаблівага плёну... І тут расчыніліся дзверы, і ў пакой увайшлі вядомы польскі культуролаг, галоўны рэдактар часопіса “Краснагруда” Кшыштаф Чыжэўскі і паэт, галоўны рэдактар часопіса “Час культуры” Пётр Кэньпінскі. Яны толькі што прыехалі на канферэнцыю (зразумела, мы з Ігарам Бабковым былі тут з гэтай самай нагоды), павячэралі і зазірнулі да нас у госці.

Як толькі яны ўвайшлі ды павіталіся, адразу і здарыўся анекдот. Яшчэ не зачыніўшы за сабой дзверы, Пётр Кэньпінскі выгукнуў:

– О, Бум-Бам-Літ – гэта клас! (Ці нешта падобнае да таго.)

– Якія файныя хлопцы (ці нешта падобнае да таго), – пацвердзіў Кшыштаф Чыжэўскі.

Я выхаваны чалавек, і таму нейкі час не глядзеў у бок Ігара Бабкова. Канешне, у яго меліся моцныя аргументы супраць бумбамлітаўцаў, але чаго яны былі вартыя цяпер, калі першае, што ён пачуў у Македоніі ад толькі што сустрэтых польскіх калег – гэтае захапленне Бум-Бам-Літам.

Значна пазней, ужо ў Мінску, я даведаўся, што Пётр Кэнпіньскі надрукаваў у сваім часопісе “Час культуры” артыкул пра Бум-Бам-Літ. Калі часопіс патрапіў мне ў рукі, то высветлілася, што там не толькі пра “маіх” хлопцаў.

Пётр Кэнпіньскі паспрабаваў даць агульны абрыс культурнай сітуацыі сучаснай Беларусі, але, безумоўна, галоўным яго героем выступаў Бум-Бам-Літ. Больш за тое, *лагатыпам* “Бум-Бам-Літ” аўтар увогуле пазначаў усё тое новае, нестандартнае, рэвалюцыйнае, што з’явілася апошнім часам у нашай літаратуры...

Дарэчы, я адразу пераклаў ладную частку таго артыкула з польскай мовы і надрукаваў у "Культуры".

***

У тыя гады журналісты ды літаратурныя крытыкі часта дзівіліся з мяне: чаму гэта сталы мужык (даўно барадаты) хаўрусуецца з яшчэ ні разу не голенымі падшыванцамі? Кожны раз я адказваў па-рознаму, але найбольш у смак казалася наступнае: мне больш цікава быць з тым, хто яшчэ нічога не напісаў, чым з тымі, хто ўжо напісаў усё.

І гэта была праўда, хаця галоўную праўду я зразумеў адно цяпер, калі пачаў фастрыгаваць хронікі і напісаў: "...пасля эсэ «Эгаізм», надрукаванага ў «ЛіМе» вясной 1992 г., усё маё былое крэмзанне паперы як карова языком злізала. Знікла дазвання. Гэта значыць, што насамрэч толькі ў 42 гады я надрукаваў ***свой*** першы тэкст".

Гэтая нечаканая эўрыстыка шмат што патлумачыла мне самому ў маіх персанальных стасунках з літаратамі і філосафамі ранейшых пакаленняў, калі я тым ці іншым чынам пачаў да іх далучацца. Часам амаль роўны з імі гадамі, я заўсёды пачуваўся сярод іх пачаткоўцам. Да месца згадалася, як ужо ў часопісе "Крыніца" Някляеў з Разанавым зачынілі мяне ў адным з пакояў рэдакцыі з пагрозай: калі не стану звяртацца да іх на "ты", то яны не адчыняць мне дзверы да бліжэйшага Апакаліпсісу. Толькі нічога ў іх не атрымалася...

А вось з бумбамлітаўцамі я быў літаратурным раўналеткам. Мы з імі, лічы, у адначассе пачалі пісаць сваю літаратуру. Хіба з той розніцай, што для мяне гэта ўжо была другая спроба, а яны спрабавалі яшчэ з "чыстага ліста".

Была ў гэтых хлопцаў яшчэ адна рэдкая ваба, якую мала хто мог разгледзець за творча *выпендрожнымі* і пабытова скандальнымі біяграфіямі. Так, яны не аднойчы патраплялі ў міліцэйскія пастарункі, так, пасля лішняй чаркі маглі да крыві пабіцца міжсобку, так, у гуллівым настроі без перабору чапляліся да дзяўчат, так...

Але пры гэтым яны нават ведаць не ведалі, як можна здраджваць, хлусіць, ліслівіць перад кімсьці, абгаварыць канкурэнтаў па літаратурным цэху, тым болей шкодзіць ім.

Я б нават сказаў, што этычная цнота, якая атуляла іх духовыя эманацыі, была аж залішне шчыльнай. Таму, нягледзячы на шырокую вядомасць, яны лічы ўсе гады заставаліся без замежных грантаў. Ды і ўвогуле, калі нейкая дапамога звонку і здаралася, дык хіба гады ў рады. Бо самыя чыстыя дармовыя грошы, відаць, заўсёды патрабуюць, каб рукі былі не зусім чыстыя. А ў іх яны былі менавіта чыстымі.

Ну і апошняе ў гэтым пафасным пераліку. Сумоўнічаць гадзінамі за куфлем піва (ці чаркай чаго там яшчэ) з Юрасём Барысевічам, Іллём Сінам, Альгердам Бахарэвічам і шмат з кім яшчэ – было сапраўднай інтэлектуальнай асалодай. Бум-Бам-Літ быў першым інтэлектуальным хаўрусам беларускіх літаратараў. І хаця там хапала самага markdown рознага люду, але рэй вялі менавіта інтэлектуалы.

***

У 1998 годзе бумбамлітаўцы выдалі зборнік тэкстаў, які назвалі "Тазік беларускі". Мне назва спадабалася. Постмадэрная гульня з класічнай "Дудкай беларускай" Францішка Багушэвіча ідэальна пасавала канцэпту Бум-Бам-Літа.

Зборнік прэзентавалі восем слупоў і хросны бацька. Кожны з аўтараў да сваіх тэкстаў мусіў дадаць уласны малюнак. Я спрабаваў адпрасіцца, бо ну зусім не ўмею маляваць. Толькі мне не саступілі. Нічога лепшага не прыдумаўшы, шчыльна запоўніў аркуш паперы адным і тым жа сваім аўтографам. Між іншым, атрымалася, здаецца, неблага.

Усе хлопцы былі моцна таленавітыя, таму зборнік атрымаўся вартым увагі. І яна была, хаця, магчыма, слупы чакалі большага розгаласу.

У гэтым розгаласе бадай самым грунтоўным і ёмістым артыкулам вызначыўся паэт і літаратурны крытык Леанід Галубовіч. Таму трохі працытую з ягоных рэфлексій, надрукаваных у "ЛіМе".

"Ужо месяц ляжыць перада мной на стале "Тазік беларускі" – альманах творчай суполкі "Бум-Бам-Літ"... Я чытаў яго спачатку і з канца, з сярэдзіны і па дыяганалі, зверху ўніз і наадварот – усяк не сумна, па-рознаму цікава... І чытаць, і сузіраць... (...)

Акінуў памяццю нашу літаратуру, што ўзгадаецца, як папярэдняе "бум-бам-літу"?

"Узвышша", "Маладняк", "Тутэйшыя", "тэвээлаўцы"...

"Тутэйшыя" блізкія па амбіцыях, накірунках, талентах і асобах – да "Узвышша", "Бум-Бам-Літ" – хай не крыўдуюць не тыя і не гэтая – да "Маладняка"... Я хачу сказаць, што ў пераважнай большасці сваёй яны такія ж хаатычныя і шукаюць сабе пэўнай заангажаванасці... Іншая справа – калі, дзе і кім... (...)

Тэксты спадара Барысевіча я чытаў з такім нязмушаным эстэтычным задавальненнем і разумовым асляпленнем, што нават яшчэ разгарнуў вокладку кніжкі, каб упэўніцца: што гэта – "Тазік беларускі" ці салідная культуралагічнае выданне кшталту "Фрагментаў"?

Пра Валянціна Васільевіча Акудовіча я ўжо казаў больш чым трэба – ён і так вялікі галавой, а ў цёмных акулярах і пры барадзе – рыхтык наш літаратурны "Чэ Гевара"... (...)

Асобна я выдзеліў бы Віктара Жыбуля. У зборніку выдрукавана яго паліндромная паэма "Рогі гор". Класная рэч, я вам скажу! Ну, калі ўжо скупы на пахвалу Алесь Разанаў, пачытаўшы, паказаў вялікі палец!.."

Ад сябе замест кропкі ў гэтым аповедзе пра "Тазік беларускі" адзін з вершаў Усевалада Гарачкі.

*Не хадзі на завод.*
*Там рагоча*
*Страшэнны рабочы.*
*Не хадзі на завод.*

*А калі дабравата сцямнее –*
*Чырванее,*
*Ён бы поўня тады чырванее.*
*Не хадзі на завод.*

*Не хадзі на завод.*
*Кожнай ноччу*
*Рагоча рабочы.*
*Не хадзі на завод.*

*Але толькі ледзь-ледзь развіднее –*
*Ён чарнее.*
*Нібы дзірка рабочы чарнее.*
*Не хадзі на завод!*

***

Мне істотна сказаць яшчэ вось што... Многія літаратары з іншых, ад бумбамлітаўскага, асяродкаў лічылі, што я быў стваральнікам Бум-Бам-Літа (і ня-

добра касавурыліся ў мой бок). Але калі б гэта было насамрэч так і мая роля тут аказалася вызначальнай, дык я б ад пыхі ўжо даўно пэнкнуў, як перадзьмуты балончык. Бо гэта ж вам не жарты, быць завадатарам такой гурмы талентаў, да таго ж паяднаных рэвалюцыйнай эстэтычнай задачай.

Насамрэч у падобных меркаваннях усё аблуда. Версія аб маёй загалоўнай ролі ў паўставанні Бум-Бам-Літу з'явілася амаль адразу пасля таго, як у "ЗНО" да маніфестаў слупоў гэтага руху была прыціснутая гуллівая абвестка пра "вечнага хроснага бацьку" Бум-Бам-Літа. Спачатку я пярэчыў супраць прыдумкі наконт сапраўднага стваральніка, а потым скарыўся, бо ніхто не зважаў на мае пратэсты. З цягам часу я, здаецца, трохі зразумеў, чаму так сталася. Гэтай версіяй нядобразычліўцы (а іх у Бум-Бам-Літа было як у нікога яшчэ) падмацоўвалі творчую нягегласць (з іх гледзішча) бумбамлітаўцаў фактам іх эўрыстычнай несамастойнасці. Маўляў, Бум-Бам-Літ нават аб'явіцца сам сабою не мог, дык пра што тут увогуле казаць...

Што праўда, Серж Мінскевіч ў сваёй кнізе згадвае: "У 1994 г., на папярэдняй канферэнцыі, якую ладзіла ТВЛ, Валянцін Акудовіч у акулярах у кулуарах сказаў: "У культурным беларускім дыскурсе павінна нешта адбыцца, штосьці выбухнуць, штосьці постмадэрнае... Ніхто тады не звярнуў увагу на гэтыя словы, але цяпер зразумела, што ён напрарочыў утварэнне Бум-Бам-Літа".

Толькі напрарочыць і ўтварыць – гэта, як той казаў, дзве канцэптуальныя розніцы.

У каторы раз заакцэнтую, калі я і меў нейкае дачыненне да паўставання Бум-Бам-Літу, дык досыць ускоснае. Болей за тое, па вялікім рахунку Бум-Бам-Літ і не бумбамлітаўцы стварылі. Я ўжо недзе пісаў, што на тую пару беларуская літаратура да апошняга скраю набрыняла чаканнем сябе новай, іншай, постмадэрнай. Карацей кажучы, яна сама была цяжарнай Бум-Бам-Літам. І калі нехта ўсё яшчэ ўпарта не хоча разумець, што Бум-Бам-Літ – гэта *жыванароджаны* феномен, што гэта *сама* беларуская літаратура яго спарадзіла, а не нейкая індывідуальная сваволя, дык дазвольце выказаць скепсіс адносна аналітычных здольнасцяў такога недаверка.

Разам з тым, я ніякім чынам не хацеў бы зменшыць і ролю саміх "слупоў" Бум-Бам-Літа ў той падзеі, якую яны ўвідавочнілі сваім феерычным з'яўленнем у тадышнім шэра-панылым дыскурсе беларускага пісьменства. Дзеля вырашэння ўласных канцэптуальных задач літаратура *абы каго* не абірае.

Завершыць гэты фрагмент хацеў бы вяртаннем да ягонага пачатку, каб шчыра запытацца ў самога сябе: а насамрэч ці была (ёсць) у мяне хоць якая роля ў гэтай гісторыі з Бум-Бам-Літам, акрамя міфапаэтычнага «хроснага бацькі»? Бадай што была (ёсць). Гэта роля *адваката* Бум-Бам-Літа. І хаця публічна мне не надта часта даводзілася выступаць у ягоную абарону, але ў такім азначэнні найболей праўды...

На гэтым я пакідаю Бум-Бам-Літ. Пакідаю ў пару яго росквіту. Наперадзе яшчэ о-го-го колькі ўсяго. І славутага, і прыкрага. Можа, яшчэ некалі будзе ў мяне раздзел "Бум-Бам-Літ у працяг", а, можа, і не. Бо залішне шмат чаго просіцца быць згаданым. Нават не ведаю, за што хапацца? Час быў такі – навальнічны. Як з рога ўсё сыпалася адразу, і ўсё падавалася не проста значным – фантастычным...

## Даробак-4

Чым болей улягаю ў працу, тым больш востра адчуваю, што ў мяне не стане ні моцы, ні часу, а мо і жадання, каб напоўніцу ахапіць і разгорнута запрэзентаваць усе інтэлектуальныя праекты таго пасіянарнага часу. Тым болей у той запаволенай стылістыцы і ў тых ёмістых фарматах, што вызначыў дзеля расповеду пра вялікія наратывы, у якіх сам браў чынны ўдзел. А без напаміну пра агульны кантэкст, у які былі ўпісаныя і "Культура" ("ЗНО"), і "Наша Ніва", і "Крыніца", і "Беларускі

калегіюм" будуць выглядаць моцна фанабэрыстымі і з гэтага не зусім праўдзівымі. Таму паспрабую хаця б намінатыўна апазнаць бальшыню з таго мноства, якое тады раптам забуяла на закарэлых раней палетках айчыннай культуры.

Адным з першых праектаў у гэтым пераліку мусібыць названы Скарынаўскі цэнтр, які адасобіўся з амаль цалкам зрусіфікаванай Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, каб сабраць і задзіночыць раскіданых паасобку нацыянальна заангажаваных інтэлектуалаў дзеля супольнай працы (кіраўнік Адам Мальдзіс).

Менавіта ў дзейнасці Скарынаўскага цэнтра напрыканцы васьмідзясятых гадоў акрэсліўся базавы корпус персаналіяў (Уладзімір Конан, Алесь Анціпенка, Ігар Бабкоў, Алег Бембель, Мікола Матрунчык, Віталь Зайка, Захар Шыбека, Алесь Жлутка, Галіна Дубянецкая і іншыя), з якімі я схільны звязваць тое, што можна было б назваць першай хваляй беларускага інтэлектуалізму, якая выявілася ў формах філасофіі і культуралогіі. Гэты, знешне як быццам фармальны, крок насамрэч аказаўся надзвычай істотным, бо сабраны пад адным дахам ладны хаўрус таленавітых асобаў увідавочніў і для іх саміх, і для ўсяго грамадства немалы патэнцыял ужо ўласна беларускага мыслярства.

А калі пераходзіць ужо непасрэдна да новых выданняў, то паперадзе ўсіх згадаю часопіс "Унія" (1990 г.). Рэлігійны паводле ідэі ды зместу, гэты першы незалежны беларускі часопіс перадусім выяўляў прагу актуалізацыі сучаснага беларускага мыслення. (Дарэчы, у яго стваральнікаў досыць цікавыя лёсы. Галоўны ініцыятар выдання Ірына Дубянецкая і яе найбліжэйшая хаўрусніца Караліна Мацкевіч потым абароняць доктарскія дысертацыі па тэалогіі: першая ў Лёване (Бельгія), другая – у Парыжы. А яшчэ адзін чалец гэтага хаўрусу, вядомы паэт і культуролаг Алег Бембель стане манахам славутага на Беларусі Жыровіцкага манастыра.)

Наступнымі па часе былі "Наша Ніва" і "Культура" (1991 г.), але пра іх ужо казалася.

Адметнай падзеяй у працэсе разгортвання інтэлектуальнага дыскурса сталася з'яўленне суполкі "Крыўе" і выпуск "крывамі" некалькіх альманахаў ("Vieda", "Крыўе"). Інтэлектуальным лідэрам "крываў" быў Сяргей Санька, філосаф з крытычным ладам мыслення, што адбівалася і на падборы тэкстаў для альманахаў, і на выбары тэмаў канферэнцыяў, якія ладзіліся гэтай суполкай.

Для той першапачатковай пары інтэлектуальнага чыну вельмі карыснай і заўважнай была дзейнасць штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", асабліва з гледзішча таго, што друкавалася ў яго колькігадовай рубрыкі "Ідэальная Беларусь". Шэраг артыкулаў і гутарак, якія ў межах гэтай рубрыкі арганізоўваў Юрась Залоска, шмат чаго дадалі да асэнсавання Беларусі як інтэлектуальнай праблемы.

Буйной структурнай падзеяй, якая кардынальна перамяніла культуралагічны ландшафт Беларусі, сталася выданне кніг серыі "Адкрытае грамадства". Каардынатар праекта філосаф Алесь Анціпенка змог за вельмі кароткі час наладзіць эфектыўную перакладніцкую і выдавецкую дзейнасць, у выніку чаго мы досыць хутка займелі ладны стос выданняў на беларускай мове па філасофіі, культуралогіі, гісторыі, паліталогіі, сацыялогіі, псіхалогіі...

Новай "Крыніцы" таксама яшчэ будзе адведзена значнае месца ў гэтых хроніках, таму абмяжуемся адно напамінам.

Ніяк не выпадае абмінуць і персанальную ініцыятыву Юры Гарбінскага. У яго атрымалася праз Польскую Акадэмію навук выдаць унікальную анталогію: "Беларуская думка XX стагоддзя" (Варшава, 1998 г.), дзе сабраныя найбольш адметныя беларускія тэксты гэтага перыяду з абсягаў філасофіі, рэлігіі ды культуры. У пэўным сэнсе працягам праекта Юры Карпінскага можна лічыць капітальную "Анталогію сучаснага беларускага мыслення", падрыхтаваную да друку з ініцыятывы Беларускага Калегіюма і выдадзеную ў 2003 годзе. Персанальна над ёй працавалі Алесь Анціпенка і Валянцін Акудовіч, а фінансава гэты праект

падтрымаў Васіль Лявонаў. У ёй былі сабраныя лепшыя філасофскія і культуралагічныя тэксты першага перыяду фармавання сучаснага беларускага мыслення.

Адной з найбольш адметных падзеяў у гэтым залішне сціплым пераліку слушна будзе назваць першы ў Беларусі філасофскі часопіс “Фрагменты” (галоўны рэдактар Ігар Бабкоў).

А далей яшчэ колькі словаў пра ініцыятывы трохі пазнейшага часу, дзе значную ролю адыгрывала ўжо наступная генерацыя беларускіх інтэлектуалаў, якая, у пэўным сэнсе, сама з сябе дэманструе плён стваральнай працы сваіх папярэднікаў. Найперш тут згадваюцца часопісы “Калосьсе”, “nihil”, “Архэ”, “Дзеяслоў”, “Скарына”, “Партызан”, “Зямля Н”, “Паміж”, “Палітычная сфера”... І хаця ніводзін з іх не з’яўляўся ўласна філасофскім, але кожны ў асобных тэкстах дэманстраваў памкненне да інтэлектуальнай рэфлексіі і тых ці іншых фрагментаў філасофскай веды.

З усяго папярэдняга відавочніцца, што сучаснае беларускае мысленне паўставала і разгортвалася пераважна на старонках розных літаратурна-мастацкіх альбо культурніцкіх выданняў, у прасторы супольных хаўрусаў ці прыватных ініцыятываў – дзе заўгодна, але толькі не на тэрыторыі легітымна вызначаных дзеля гэткага роду дзейнасці прафесійных інстытуцыяў (пад апошнімі разумеюцца Інстытут філасофіі Акадэміі навук, філасофскі факультэт БДУ, кафедры і аддзяленні культуралогіі і гуманістыкі шматлікіх беларускіх ВНУ).

Што і казаць, сітуацыя цалкам ненатуральная. Таму напрыканцы гэтага допісу я і хацеў бы звярнуць увагу на падзею фармальна не самую адметную, але якая, хацелася б верыць, засведчыла пра магчымасць пералому гэтай цалкам ненатуральнай сітуацыі. А менавіта пра семінар Уладзіміра Абушэнкі ды Ігара Бабкова (“Беларускае мысленне: генеалогія, кантэкст, перспектыва”), які некалькі год запар ладзіўся ў Інстытуце сацыялогіі Акадэміі навук з удзелам прафесійных філосафаў з дзяржаўных інстытуцыяў...

Натуральна, на гэтым інтэлектуальнае жыццё не спынілася, але пра тое гаворка яшчэ наперадзе.

Таццяна Кабржыцкая



...Леся Украінка і Мяржынскі імкнуліся пераўтварыць грамадства...

# Волат украінскага Адраджэння

## *Клімент Квітка і Беларусь*

*...Клімент Квітка стаў alter ego Лесі Украінкі. Аднак да канца жыцця ён не хацеў рабіць асабістыя іх адносіны не толькі прадметам навуковых даследаванняў, а нават аб'ектам увагі прэсы. Нашая спроба прачытання ўнікальнага жыццёвага і творчага саюзу гэтых людзей – адна з першых...*

Клімент Васілевіч Квітка (1880, Сумская вобл., – 1953, Масква). Апошнія дзесяцігоддзі імя гэтага выдатнага вучонага актыўна ўваходзіць у навуковы ўжытак шырокага сусветнага кола даследчыкаў слоўнага фальклору і народнай музыкі. Аднак сталася так, што ў Беларусі пра Квітку на працягу XX ст. калі і згадвалі, то найперш тыя інтэлектуалы, хто з'яўляўся прыхільнікам украінскай літаратуры. Клімент Квітка быў мужам Лесі Украінкі. Паэтэса пазнаёмілася з ім, студэнтам-юрыстам, на творчай сустрэчы з кіеўскай універсітэцкай моладдзю ў 1898 г. Леся прапанавала слухачам толькі што напісанае апавяданне «Над морам», пранізліва аўтабіяграфічнае, псіхалагічна-аналітычнае.


Клімент КВІТКА.

Ужо цэлае стагоддзе творы Лесі Украінкі чытаюць, асэнсоўваюць, даследуюць у розных аспектах, з большай альбо меншай мерай прафесійнага пазнання, паглыбляюцца ў сакрэты яе майстэрства, у глыбіні філасофскай шматпланавасці. І толькі яе асабістае «я», інтымна жаночае, што накладае адбітак на псіхалогію яе творчасці, і дагэтуль застаецца не спазнаным. Спытаецеся, чаму? Прычыны розныя. Перадусім праз нашу заганную абыякавасць да папярэднікаў, да нацыянальных аўтарытэтаў. Чую пярэчанні: тут жа яшчэ і праблема этыкі! Так, сапраўды, у свой час не дапускалі шараговага чытача ў «святая святых» – інтымнае жыццё Лесі Украінкі – і яе маці, і іншыя сямейнікі. Але сёння яе біяграфія, яе духоўнае жыццё належыць не асобным людзям, а ўсёй сусветнай культуры. Тым больш, што характар гэтага інтыму дае падставы гаварыць пра высокі ўзровень Годнасці, а з боку псіхалогіі жаночай душы сведчыць яшчэ і пра дзіўнае выяўленне генетычнага коду ўкраінскай мяккасці, лірызму, сардэчнасці. «Сэрца маё, сэрцайка» – самы пашыраны зварот да бліжняга сярод даўніх украінцаў. І яшчэ менавіта яе, Лесіна: альтруізм, бачанне ў рамантычнай афарбоўцы будзённага як выключнага, рэдкаснага, чысціні і красы, адвагі. Гатоўнасць да подзвігу – і самаахвярнасць. І яшчэ: эмансіпацыя жанчыны, якая ішла з еўрапейскага Захаду. Эмансіпацыя, сексуальная рэвалюцыя і ўкраінскі традыцыяналізм жаночай цноты, нацыянальны кодэкс маральнага самавыяўлення. Гэта тыя пытанні, што паўсталі перад Лесяй Украінкай у жыцці. Яна, як мастак, не магла абмінуць іх у творчасці...

Апавяданне «Над морам», з якім Леся Украінка выступіла перад студэнцкай аўдыторыяй, – дзівосна тонка перададзенае праз мастацкае слова адлюстраванне ўнутранага стану душы пісьменніцы, роздумаў над яе асабістым жаночым лёсам.

За год да сустрэчы з Клімента Квіткам Леся Украінка пазнаёмілася з Сяргеем Мяржынскім. Пра іх узеемаадносіны пісалася ў Беларусі неаднойчы. І найперш таму, што ў Мяржынскага, які рана застаўся без маці, дзіцячыя гады правёў з бабуляй у Кіеве (радзіма маці), самастойны працоўны шлях інжынера-чыгуначніка быў звязаны з Мінскам (радзіма бацькі). Праўда, трэба заўважыць, што асоба Мяржынскага ў гістарычнай літаратуры рассакрэчана толькі ў паслясталінскія гады, калі дазволена было чытаць матэрыялы са звесткамі пра першапраходцаў марксізму, кніжкі, у якіх гісторыя паказвалася больш аб'ектыўна, без упісвання ў яе, як таго хацеў Сталін, ягонай уласнай старонкі. Калі адкрыўся доступ да наступных выданняў: И.Н. Мошинский. На путях к I съезду РСДРП. 80-е годы в киевском подполье. М., 1908; П.Л. Тучанский. Из пережитого. Одесса, 1923; В.Г. Крыжановская-Тучанская. Из моих воспоминаний, часопіс «Каторга и ссылка», 1930, № 6, – пра Мяржынскага пачынаюць пісаць як пра аднаго з першых прапагандыстаў марксізму ў Кіеве ды Мінску, актыўнага арганізатара ў Мінску I з'езда Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі.

У захапленні дазволенасцю сёй-той з беларускіх аўтараў спяшаецца апублікаваць матэрыялы пра Мяржынскага. Так, у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі з'яўляецца артыкул М. Мельнікава – нявывераны, з памылкамі і перакручваннямі (т. 7, с. 341). Гэты ж аўтар, гонячыся за «свежымі» фактамі, выступае на тым жа павярхоўным узроўні з артыкулам «Сяброўства моцных творцаў» у часопісе «Вітчизна», 1960, № 7. Аб'ектыўная ж рэальнасць наступная: Леся была ў Беларусі не

тры разы (як падае БелСЭ), а чатыры. У 1900 годзе – у лютым, сакавіку, верасні. Апошні яе прыезд у 1901 годзе быў выкліканы безнадзейным станам хворага на сухоты Мяржынскага. Леся была каля яго неадступна з 7 студзеня і да ягонай смерці 3 сакавіка і выехала з Мінска 5 сакавіка 1901 года пасля пахавання сябра, выканаўшы ягоную волю і свой абавязак да канца. Унясем папраўку і ў дату з БелСЭ стварэння яе магутнай па энергіі жаночага пачуцця і філасофскай думкі паэмы «Апантаная» («Одержима»). Галоўны лейтматыў паэмы – спалучэнне ў лёсе чалавека асабіста-інтымнага і вышэйшай ідэі духоўнасці. Паэма была напісала на працягу адной ночы каля ложка паміраючага сябра, дакладна – 18.01.1901 г., у стане фізічнай знямогі і ўсплеску надчалавечай мабілізацыі творчай энергіі.

Відавочна, што Леся Украінка і Мяржынскі імкнуліся перайначыць грамадства, іх грамадзянская пазіцыя была сфармаваная пад сцягам гуманістычных ідэй «свабоды, роўнасці, братэрства», якія на той час яшчэ не былі скампраметаваныя. І сапраўды, пад уплывам Мяржынскага Леся чытала сацыял-дэмакратаў і нават папулярызавала іх, выявіўшы цікавасць і да «Капіталу» Карла Маркса. Аднак узаемаадносіны Лесі Украінкі і Сяргея Мяржынскага залішне ідэалагізаваліся, настойліва падкрэсліваўся ўплыў рэвалюцыйнага светапогляду Мяржынскага на ўкраінскую паэтэсу. Крытычныя думкі Лесі адносна марксізму старанна прыхоўваліся. Сёння ж вядома, што Леся не ўспрымала русіфікатарскіх тэндэнцый з боку расійскіх сацыял-дэмакратаў, катэгарычна выступала супраць ігнаравання марксістамі нацыянальнага пытання, не стала пад сцяг бальшавізму. Яе пазіцыя адносна расколу РСДРП была непахіснай: «Евангелле» Лесі – сацыяльна-нацыянальнае вызваленне ўкраінцаў. «Гэта не наша справа служыць «абрусенню», няхай нават і рэвалюцыйнаму», – сцвярджала яна.

У 1987 г. у Мінску выйшла кніга ўрача па прафесіі, аматара літаратуры Якава Басіна «Зов Прометея», своеасаблівая эсэістычная аповесць пра Лесю і Мяржынскага (Басин Я. Зов Прометея. Повесть о Сергее Мержинском). Я. Басіна зачароўвала рамантычнасць адносін вядомай украінскай паэтысы і мінскага рэвалюцыянера. Для паглыблення псіхалагізацыі адлюстраваных падзей Басін падключае шырокае цытаванне расійскага паэта Надсана. Сапраўды, былі з імі і Надсан, і Гейнэ... Але ж найперш была цудоўная душа яе, Лесі Украінкі, праблемы яе творчых планаў і іх рэалізацыі. І гэта павінна было легчы ў аснову канцэпцыі аповесці. Аднак асэнсаваць кантэкст творчасці самой Лесі Украінкі аўтару было не пад сілу. Паказваць жа Лесю Украінку без украінскага нацыянальнага каларыту ў яго актыўнай духоўнай форме выяўлення – прынцыповая памылка. Заўважым, што пазнаёмілася паэтэса з Мяржынскім летам 1897 г., будучы чалавекам цалкам сфармаваным. І, ведаючы моц яе перакананняў, светапогляд, неад'емным складнікам, а нават і дамінантаю якога была нацыянальная ідэя, – ці ж можна спрашчаць разуменне іх узаемаадносін?

Гэта першая прыступка да аб'ектыўнай паўнаты ў пытанні «Леся Украінка і Беларусь». Другая – у наступным.

За энцыклапедычна скупымі радкамі пра побыт Лесі Украінкі ў Мінску стаіць цэлае эпічнае палатно з многімі дзейнымі асобамі, што не знайшло адлюстравання ў згаданай аповесці. Учытаемся ў Лесіна ліставанне. Відавочна, што найбліжэйшыя людзі разумелі ўсю глыбіню яе пачуццяў і перажыванняў. У Мінск да Лесі прыязджала ёй на дапамогу з Прыбалтыкі бацькава сястра цётка Эля, самая любімая Лесіна сястра Ліля, з якой яны былі найбольш блізкімі ў сям'і, давяраліся адна адной у найпатаемнейшым, інтымным, жаночым. Даўні сябар, нарачоны сястры Лілі Міхайла Крывінюк прыехаў да Лесі 23 лютага 1901 г. і быў з ёй да таго яе «апошняга бывай», дапамог ёй ва ўсім, да найменшых драбніц, выканаць волю Мяржынскага адносна ягонага пахавання. Леся не выехала з Мінска на святкаванне 25-годдзя літаратурнай творчасці сваёй маці. Трэба думаць, што падымалася ў Кіеве пытанне пра адзначэнне і яе ўласнага трыццацігоддзя! Але яна непахісна была ў Мінску. Ці можна ўсё гэта патлумачыць выкананнем «рэвалюцыйнага сяброўскага абавязку»?

Ды і навошта? З імі альбо без іх, гэтых бясконцых «азіранняў на добрапрыстойнасць», Леся – несумненна! – кахала.

Яна рыхтавала сябе да гэтага пачуцця даўно, у найранейшым дзявоцтве, яшчэ не ведаючы, у якім вобліку яно да яе прыдзе. Перачытваючы яе творы, выразна адчуваеш, што Леся працавала над сабой, не дазваляючы «душы ляніцца», яна выхоўвала ў сабе свой уласны Талент кахання.

Здзіўляе тонкасць у перадачы душэўных нюансаў дзяўчатак у аповесці Лесі Украінкі «Сяброўства», што мае падзагаловак «Апавяданні з жыцця валынскага Палесся». Унутраная прыгажосць, таленавітасць, далікатнасць, надзвычайная пачуццёвасць – і фізічныя недахопы, рысы, якімі надзелена дзяўчына Насця з твора «Гучныя струны», за імі стаіць аўтабіяграфічнасць Лесінага вобразу. Жанравае вызначэнне гэтаму твору аўтарка дала вельмі спецыяльнае і спецыфічнае – «нарыс», жанр, у якім звычайна мастацкі вымысел альбо адступае на другі план, альбо моцна пераплецены з рэчаіснасцю, з канкрэтыкай фактаў...

Звернемся да ўжо згаданага апавядання «Над морам». Пад апавяданнем стаіць дата 19 лістапада 1898 года. Леся Украінка, па парадах лекараў, ужо год прабыла ў Ялце. Безліч пачуццяў, назіранняў, уражанняў ад «свабоды нораваў» курортнага жыцця. І – выбар уласнай канцэпцыі паводзін. Цэнтральная фігура твора – капрызнае, лянівае, пустое, знеахвочанае да ведаў маскоўскае дзяўчо. Пісьменніца не жорсткая да сваёй гераіні. Яе сутнасць поўнасцю раскрываецца наступнай фразай: «З вамі, «светскими барышнями», суцэльная нудота – бясконцае валаводжанне, не ўмееце вы быць ні да канца цнатлівымі, ні да канца распуснымі, але ўсё напалову».

Так, Лесін персанаж Ала Міхайлаўна – «ні тое, ні сёе». З прозы Украінкі відаць, што ёй была вядомая французская бульварная літаратура: раман Жып (па-французску *Gip*) *L'Amoure Moderne* і творчасць Эжэна Прэво, які ў сваіх тэкстах спалучаў апісанне ад'юльтэра, дакладныя эратычныя сцэны з пералікам хрысціянскіх цнотаў і абавязкаў. Лесіна апавяданне, па сутнасці, указвае на твор Прэво «Паўдзевы» – пра сексуальнае жыццё і разбэшчанасць свецкіх маладых дзяўчат Парыжа. Твор атрымаў акурат у той час сенсацыйную вядомасць.

Такім чынам, адны гераіні пісьменніцы трымаюць у шуфлядах і пад падушкамі Жып і Прэво, захопленыя цыганшчынай, легкаважна і распусна хочуць «урваць ад жыцця», іншыя, як паратунак ад хваробы, чытаюць Тургенева, яго аповеды пра дзяўчат, адкрытых прыгажосці, ведам, духоўнасці, чыстаму каханню. А што да самой Лесі Украінкі, дык тут варта дадаць і яшчэ адну яе бясспрэчную рысу – актыўную гатоўнасць да дзейнасці ў імя прыгнечаных. Нездарма яе гераіня, што выступае нібы рупарам аўтарскіх ідэй, параўноўваецца ў апавяданні з асобай англічанкі *miss Forester*, пра якую тады шмат гаварылася. Бо, сапраўды, учынак яе быў варты павагі: яна прыехала з Англіі ў Маскву, каб сабраць там грошы і выехаць на дапамогу да далёкіх якутаў. «Утешительницей прокажённых» называлі яе, хтосьці, відаць, з павагаю, іншыя – з дамешкам мяшчанскага скептыцызму і іроніі. Але якраз такі характар быў блізкі Лесі Украінцы. Не знешняя праява гераізму, не гучнасць подзвігу, а ўнутраная сіла духу, прыхаваны стаіцызм, непахіснасць, непаказная высакароднасць, ахвярнасць.

Ахвярнасць. Гэту якасць Леся зрабіла дамінантаю сваіх арыгінальных паэтычных вобразаў – Мірыям, Далорэс, жонка Дантэ, Маўка. Маўка, якая кахае, не патрабуючы задатку і абяцанняў, кахае, не адчуваючы патрэбы ў афіцыйных кантрактах, дае, не беручы ў заклад і не патрабуючы сплаты доўгу. Трактоўка свабоднага кахання? Так, але такога, што «скарби творить», спараджае цуды, што праз боль дае натхненне, што, нароўні з мастацтвам, дае чалавеку душу!..

Варты нашай увагі і празаічны твор Лесі Украінкі пад назвай «Памылка». «Я брав навмисне «об'єктивні» теми, ніби з історії або з чужого мені соціального осередку, але ж се був тільки «маскарад душі», – люди не пізнавали її, мою «суб'єктивну,

індивідуальну» душу, часом навіть приймали її за «колективне сумління», але якби хто знав її до дна, то сказав би: «Я пізнав тебе, маско!» Я уділяв своїм героям по часточках своє серце, а з різних об'яв їх любові... (здавалося, таких діаметрально різних об'яв) можна було б скласти одну велику і цілу мою любов...».

Здаецца, у гэтых радках – «замаскіраванае» асэнсаванне Лесяй Украінкай свайго жаночага лёсу. «Дыяметральна рознымі» – з аднаго боку, і ў той жа час падобнымі ў сваёй чалавечай годнасці, з другога, – былі яе абраннікі, Сяргей Мяржынскі і Клімент Квітка. Яе ж сэрца, «складзенае з частачак», напоўненае «рознымі выявамі любові», было адным вялікім Сэрцам. Такім чынам, нязгаснае святло высокага пачуцця асвятляла ўсю творчасць Лесі Украінкі. Той стан душы, які можна назваць Талентам кахання, яна выгадавала ў сабе і не здрадзіла яму да канца...

Яшчэ ў час першай сустрэчы з Лесяй Украінкай першакурснік юрыст Клімент Квітка расказаў ёй пра сваю захопленасць фальклорам, паказаў ужо зробленыя ім запісы ўкраінскіх народных песень. У яго біяграфіі ёсць свая трагедыя: ён рана застаўся без бацькі. Маці, не маючы сродкаў на ўтрыманне сына, аддала яго на выхаванне ў чужую сям'ю. Клімент быў маладзейшы за Лесю на дзевяць гадоў. Сціплы, але вельмі сур'ёзны і мэтанакіраваны, ён занураны ў культуру Антычнасці, паспеў атрымаць адукацыю па класе фартэпіяна ў Кіеўскім музычным вучылішчы, у студэнцкія гады любоў да музыкі рэалізаваў як універсітэцкі хормайстар.

Прыгадваюцца песенныя радкі з рэпертуара сучаснага артыста Вахтанга Кікабідзе: «Вот и встретились два одиночества, У ручья разложили костёр. А костру разгораться не хочется, Вот и весь разговор...». Здаецца, баладны настрой гэтага шчымлівага тэкста мог бы стасавацца і нашых герояў. Аднак у жыцці Лесі і Клімента сталася ўсё інача. Далейшыя кантакты гэтых двух неардынарных людзей выявілі ментальную блізкасць, роднаснасць іх душ.

На ўзроўні эмацыянальнай памяці Леся Украінка трымала пры сабе вобраз Сяргея, яму прысвяціла нямала выдатных твораў – узораў інтымнай лірыкі; сярод іх вершы «Я бачила, як ти хиливсь додолу...», «Порвалася нескінчена розмова» і іншыя. Заўважым, што ў друку яны пачалі з'яўляцца, дзякуючы навукоўцам, толькі ў пасляваенны час.

У перыяд «апагею яе смутку», як Леся Украінка сама характарызавала свой стан пасля смерці мінскага сябра, яе моцна падтрымліваў Квітка. Квітка, як і Мяржынскі, хварэў на спадчынны туберкулёз. Абвастрылася тая ж хвароба і нават пашырылася пасля мінскіх хваляванняў і ў Лесі: да туберкулёзу костак, што з ранняга дзяцінства мучыў Лесю, далучыўся працэс у лёгкіх. І менавіта далікатнасць, спагада, высакароднасць сталі вызначальнымі ў адносінах паміж Лесяй і Кліментам. Кожны ў гэтай па́ры на побытавым узроўні выявіў вялікую цярплівасць і самаахвярнасць, на духоўным – дапамагаў разгарацца вогнішчу творчых патэнцыялаў. Бо яднала іх яшчэ і адданае служэнне агульна абранай мэце – украінскасці. Леся, нягледзячы на катэгарычнае пярэчанне яе рашэнню з боку бацькоў, пераходзіць жыць да Квіткі. І толькі з цягам часу, у 1907 г., яны афіцыйна пабраліся царкоўным шлюбам...

Па сканчэнні ўніверсітэта Клімент Квітка свае правазнаўчыя веды рэалізуе ў адвакацкай практыцы. Вольныя хвіліны і дні Квіткі – Квітачкі, як называлі яго ў бліжэйшым асяроддзі, – былі аддадзены Лесі. Яны разам едуць лячыцца ў Ялту. І гэта ратуе Квітку: каварная хвароба адступае ад яго. Квітка суправаджае Лесю ў яе паездках на лячэнне за мяжу. І яшчэ, Квітка глыбей занурваецца ў сваё фалькларыстычнае хобі, што ўрэшце перарасце ў галоўную мэту яго жыцця. Разам з Лесяй яны арганізуюць фалькларыстычныя экспедыцыі заходніх украінскіх культурнікаў на Палтаўшчыну, робяць запісы на фанограф песняў украінскіх кабзароў. І пры гэтым імкнуцца ўсяляк прыхоўваць сваё спонсарства, не выстаўляючы на паказ сябе як мецэнатаў. Сёння вядома, што спадчына Лесі Украінкі, якую яна атрымала

пасля смерці бацькі, была выкарастаны менавіта на ўкраінскія культуралагічныя патрэбы.

Дзякуючы Квітку былі зроблены запісы больш як 200 песняў з голасу Лесі, больш за 30 песняў з голасу Івана Франко. Гэта пры Квітку Леся Украінка ажыццявіла сваю даўнюю мару – «вывесці ў людзі» любых ёю з дзяцінства фальклорных персанажаў роднай Валыні. Фальклорная канва шэдэўра Лесінай творчасці – паэмы «Лясная песня» – насычана новым лірыка-драматычным гучаннем, асучаснена новымі філасофскімі ідэямі. Заўважым, што ў час працы над «Лясной песняй» былі запісаны Квіткам ад Лесі фальклорныя творы палескага арэала, не толькі ўкраінскія, але і беларускія, не толькі тэксты песняў, але і іх мелодыі.

Вядома, што менавіта музыка, фальклор, нацыянальная гісторыя і гісторыя антычнасці адыгралі агромністую ролю ў станаўленні Лесі Украінкі. Леся Украінка вырастала ў творцу, які, па словах Ліны Кастэнка, «узнімаўся шляхамі гігантаў». Клімент Квітка стаў *alter ego* Лесі Украінкі. Аднак да канца жыцця ён не хацеў рабіць асабістыя іх адносіны прадметам нават навуковых даследаванняў, а не толькі аб’ектам увагі прэсы. Наша спроба прачытання ўнікальнага жыццёвага і творчага саюзу гэтых людзей – адна з першых...

Як чалавека і вучонага К. Квітку характарызуюць такія якасці, як выключная інтэлігентнасць, прынцыповасць, крытычны талент, узорная этыка. Ён не прымаў палітыкі ў яе жорсткіх, ваяўнічых праявах. Аднак быў глыбокім патрыётам, і менавіта гэта прывяло яго ў склад ураду УНР. Пасля смерці Лесі Украінкі (1913) Квітка пакідае Грузію, дзе яны шукалі паратунку ў клімататэрапіі, пасяляецца ў Кіеве, падтрымлівае цесныя стасункі з Міхайлам Грушэўскім, з 1918 г. афіцыйна лічыцца таварышам (намеснікам) міністра юстыцыі УНР. Далейшыя ўдакладненні вельмі істотныя. У міністэрстве Квітка поўнасцю аддаўся справе, якую лічыў асабліва актуальнай для новага часу, распрацоўвае ўкраінскую юрыдычную тэрміналогію. Паралельна Квітка працуе і як выкладчык, чытае лекцыі па фальклоры і музыказнаўстве ў Кіеўскім інстытуце народнай адукацыі, Археалагічным інстытуце, Кіеўскай кансерваторыі, на дырыжорскім аддзяленні Вышэйшага музычна-драматычнага інстытута ім. М. Лысенкі. З 1921 г. Квітка ўзначальвае Кабінет музычнай этнаграфіі пры АН Украіны. Калі ж у Акадэміі ініцыявалі вылучэнне Квіткі на званне акадэміка, вучоны выступае з рашучым пратэстам, бо, як ён лічыў, гэтая акцыя па тым часе была залішне палітызаванай.

Урэшце не абмінуў К. Квітку лёс тагачаснай сумленнай інтэлігенцыі. У першы раз на пачатку 1930-х гг. яго арыштоўваюць у Кіеве за ранейшае супрацоўніцтва з «украінскай нацыяналістычнай буржуазнай уладай», сувязь з дзеячамі Цэнтральнай Рады. Другі раз – у 1934 г., ужо ў Маскве, па сфабрыкаванай «Справе славістаў» як «расійскага нацыяналіста». Квітку, прафесара Маскоўскай кансерваторыі, знявольваюць, высылаюць у казахстанскі канцлагер, сумнавядомы Карлаг. Аднак у жыцці, хоць і зрэдку, здараюцца дзівосныя парадоксы: філалагічныя таленты Квіткі выратавалі яго. Начальнік лагера ў прыватных мэтах пакарыстаўся тым, што рэпрэсаваны вучоны – бліскучы знаўца больш як дзясятка замежных моў. Квітка, маючы яшчэ і не абы-якія здольнасці педагога, грунтоўна адукоўваў дачку начальніка лагера: веданне моў адкрывала перад ёю дарогу ў высокую кар’еру. Квітка, пасля трох гадоў зняволення, урэшце атрымаў ад лагернага начальства станоўчую характарыстыку, быў датэрмінова вызвалены з правам вярнуцца на папярэдняе месца працы.

З 1937 г. і да канца жыцця Клімент Васільевіч Квітка – прафесар кафедры гісторыі і тэорыі музыкі Маскоўскай кансерваторыі. Выкладаючы фалькларыстычныя дысцыпліны, ён паралельна ўзначальвае арганізаваны ім у Маскве Кабінет па вывучэнні музычнай творчасці народаў СССР. Сваю задачу як загадчыка кабінета Квітка бачыў у распрацоўцы аптымальных варыянтаў навукова-метадычнай

дзейнасці, што была скіравана на збіранне, захаванне, апрацоўку, даследаванне так званага «палявога матэрыялу». Гэтая ўстанова існуе і сёння, функцыянуе пад назвай «Навуковы цэнтр народнай музыкі імя Клімента Квіткі».

К. Квітку выпала місія арганізатара і ўдзельніка выязных экспедыцый па цэнтральных расійскіх абласцях. Фальклорныя экспедыцыі па Беларускім Палессі былі здзейснены яшчэ ў 1934 г., Квітка ў іх удзелу не прымаў, бо знаходзіўся ў зняволенні. Аднак і ў час камандзіровак па Расіі беларускі матэрыял быў аб'ектам яго ўвагі, у прыватнасці, на Смаленшчыне. Увогуле ёсць падставы лічыць, што Кабінет пад кіраўніцтвам Квіткі працягваў лепшыя традыцыі Музычна-этнаграфічнай камісіі пры Таварыстве аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі Маскоўскага ўніверсітэта, якая існавала ў 1901-1921 гг. і была арганізавана знакамітым вучоным і пісьменнікам, славістам і фальклярыстам Міколам Янчуком (1859 – 1921). Нагадаем, што ў першыя паслярэвалюцыйныя гады М. Янчук выкладаў у Маскоўскім ўніверсітэце курсы гісторыі ўкраінскай і беларускай літаратур, затым пераехаў у Мінск, быў абраны прафесарам БДУ.

Даследчыкі адзначаюць шырыню і глыбіню інтэлекту Квіткі, яго эрудзіраванасць ва ўсіх галінах гуманітарных навук, у гісторыі і правазнаўстве, геаграфіі, сацыялогіі, музычным мастацтве і літаратуры. Зыходнай для навуковай працы Квіткі была ідэя самабытнасці, суверэннасці народаў, сувязь народнай музыкі з этнагенезам. Паводле канцэпцыі Квіткі фальклор з'яўляецца вынікам двух прыродных працэсаў: эвалюцыі чалавецтва і этнагенезу. Яго погляды былі блізкімі да пазіцый Льва Гумілёва, які развіццё фальклору народаў ставіў у залежнасць ад геаграфіі і гісторыі, этналогію бачыў на памежжы гэтых навук.

К. Квітка – не толькі збіральнік і захавальнік фальклору. Як вучоны ён распрацаваў моцную практычную і тэарэтычную аснову музычна-фалькларыстычнай тэксталогіі, методыку дакументавання народнай музыкі. Сярод многіх праблем, якія даследаваў Квітка, важнае месца займае праблема строфікі і рытмікі музычнага фальклору. Наватарскім у фалькларыстыцы быў зварот даследчыка К. Квіткі да рытмаструктурных тыпалогій і арэальных даследаванняў. Яго праца «Ритмічні паралелі в піснях слов'янських народів» («Музика», 1923, №1) месціць глыбокі аналіз рытмічных асаблівасцяў двухрадковай страфы сілабічнага сяміскладовіка. На шматлікіх прыкладах, узятых з шырокага поля тэкстаў славянскага фальклору, вучоны паказвае, што такая рытма-інтанацыйная структура народных песняў уласцівая не толькі ўкраінцам, але і іншым славянскім народам.

Гады свайго жыцця сярод крымскіх татар, прычарнаморскіх каўказцаў, што было абумоўлена хваробай Лесі Украінкі, К. Квітка выкарыстоўваў для вывучэння фальклору аўтэнтычных, карэнных народаў, і гэта значна паглыбіла навуковую базу даследчыка. Пазней К. Квітка выступіць у друку супраць пашыранай на той час думкі пра залежнасць славянскага меласу ад цюркскіх уплываў. Вучоны – знаўца культуры індаеўрапейскіх народаў, абвяргаў пануючую канцэпцыю пра запазычанні ўсходнімі славянамі мінорных гукарадаў з павялічанымі секунднымі інтэрваламі, з'яву, якая нібыта прыйшла да славян праз цюркаў ад арабаў і іранцаў. Гэтыя меркаванні Квітка выклаў у сваім артыкуле «До питання про тюркський вплив на українську народну мелодику» (Вісник історико-філологічного відділу ВУАН, 1928, №76).

Украінскі даследчык вёў актыўнае ліставанне з еўрапейскімі, амерыканскімі вучонымі. У навуковых украіназнаўчых працах ён разглядаў таксама культуру тых народаў, якія жывуць на тэрыторыі Украіны: беларусаў, рускіх, балгараў, малдаванаў, татараў, грэкаў, туркаў, армян. Запісы фальклорных тэкстаў Квітка заўсёды дапаўняў уласнымі навуковымі анатацыямі. Фалькларыст-музыказнаўца, ён даследаваў песенныя тэксты, іх мелодыку праз шырокія супастаўленні на тэарэтычным, эстэтыка-псіхалагічным, гісторыка-філалагічным узроўнях. Сотні твораў, запісаных

ім, былі выкарыстаныя прафесійнымі кампазітарамі як тэмы для сімфанічна-інструментальных твораў, сярод іх – шанавальнік украінскага фальклору, немец па бацьку, паляк па маці, сусветна вядомы Рэйнгольд Гліер і інш.

Такім чынам, увага К. Квіткі яшчэ ў гады яго працы ў так званы дамаскоўскі, украінскі перыяд была скіравана на праблемы сусветнага этнічнага мастацтва. Ён па-наватарску распрацоўваў тэарэтычныя асновы этнамузычнай сацыялогіі, методыку гісторыка-параўнальнага вывучэння народнай музычнай спадчыны этнічна блізкіх народаў (славян, цюркаў, угра-фінаў).

Найбольш вядомае і грунтоўнае даследаванне К. Квіткі 1920-х гг. – яго фальклырыстычныя запісы, выдадзеныя пад назвай «Українські народні мелодії» (К., 1922). У 2005 г., да 125-годдзя Клімента Квіткі, Інстытутам мастацтвазнаўства, фалькларыстыкі і этналогіі імя М. Рыльскага НАН Украіны было здзейснена перавыданне згаданай працы 1922 года. Новае выданне мае форму своеасаблівай дылогії: складаецца з «Українських народних мелодій» і аб'ёмнага аўтарскага «Коментаря», што з'яўляецца вынікам 25-гадовай удумлівай навуковай апрацоўкі К. Квіткам апубікаваных запісаў (К., 2005; упоряд. і ред. А.І. Іваницького. – 480 с.).

Апублікаваная навуковая спадчына К. Квіткі дае падставы сучасным навукоўцам сцвярджаць наступнае: «Квітка абгрунтаваў навуковы погляд на этнамузыкалогію як гістарычную дысцыпліну і стаўленне да народных мелодый як гістарычных дакументаў, не меншай вагі, чым археалагічныя знаходкі. Паводле энцыклапедычнасці ведаў, глыбіні апрацаваных праблем, аналітычнага таленту К. Квітка не мае сабе роўных у сусветнай этнамузыкалогіі» (перавыд. «Укр. народ. пісні», с. 479). Адзначаецца таксама, што К. Квітка ахапіў у сваёй даследчыцкай лабараторыі фактычна ўсе жанры песеннага фальклору, за выключэннем галашэнняў, дум, русальскіх песняў, паколькі яны, як лічыў даследчык, патрабуюць іншай даследчыцкай метадалогіі – фалькларыстычна-культуралагічнай. Трэба прызнаць, што станаўленне музычнай этнаграфіі на пачатку XX ст. адбывалася ў пэўнай «канкурэнцыі» з філалагічнай фалькларыстыкай. Музыказнаўцы часам ігнаравалі запісы тэкстаў. Аднак Квітка быў сумленным, высокакультурным даследчыкам, ён імкнуўся па магчымасці фіксаваць і рытміка-інтанацыйны, і зместава-эмацыянальны характар фальклору.

Шырыня прафесійнасці К. Квіткі пацвярджаецца і яго беларусазнаўчымі матэрыяламі. Так, у прыватнасці, сярод фальклорных тэкстаў, апублікаваных ім, існуць тэксты 23 песняў, запісаных ад людзей, што былі вывезены са сваіх родных куткоў у час Першай сусветнай вайны, у прыватнасці, з Холмшчыны, спрадвеку заселенай украінцамі і беларусамі. Фальклор, як вядома, можа лічыцца маркерам нацыянальнай ідэнтычнасці. Аднак запісы ў дадзеным выпадку вяліся ад людзей, вымушана паселеных у пунктах бежанцаў на тэрыторыях Данбаса, Кіеўшчыны. Тэкставы матэрыял у такіх выпадках суправаджаецца сумленным каментаром даследчыка. Напрыклад, вартыя ўвагі наступныя заўвагі Квіткі: «Песняў тая жанчына, што спявала, навучылася ад сваёй маці, месцам нараджэння і пражывання якой быў Пружанскі павет... Фанетычны бок не можа тут быць пэўным сведчаннем таго, што песня паходзіць з украінскай часткі Пружаншчыны, паколькі сама спявачка пражывае на ўкраінскай тэрыторыі, пераймаючы песню, яна магла ўнесці ў яе украінскую фанетыку...» (перавыд. «Укр. народ. пісні», с. 349).

Маскоўскі даследчык А. Гашоўскі, найбольшы знаўца спадчыны К. Квіткі, вылучае ў працах Квіткі ролю геаграфічнага фактара ў пашырэнні песенных тэкстаў, магчымасць выкарыстання іх для гістарычных і этнагенетычных даследаванняў. Сам Квітка адзначаў, што асаблівую цікавасць для яго ўяўлялі паўночна-заходнія тэрыторыі Украіны, а гэта значыць (нават калі і ўскосна) і асаблівасці беларускай народнай творчасці. Яшчэ ў аўтарскай прадмове да зборніка «Українські народні пісні», выдадзенага яшчэ ў 1922 г., Квітка засведчыў, што ў зборніку змешчана каля

сотні запісаў, зробленых ім на пагранічных украінскіх тэрыторыях – Мазыршчыне, Берасцейшчыне, Гродзеншчыне.

Прывядзем тут у арыгінале поўную цытату з «Каментара» (перавыд. «Укр. народ. пісні», с. 363), якая сведчыць пра ўважлівае стаўленне Квіткі да навуковых беларусазнаўчых студый, скрупулёзнае пашпартызаванне навуковых крыніц: «До розділу набожних пісень залучено пісню ч. 305, належну до так званих на Білорусі волочебних, т. є. пісень, що співаються на Великдень, так само аналогічно з колядуванням. Акад. Є. Карський, утверджуючи, що волочебні пісні є виключно власитвість білорусів, і що їх нема в українців (Карский Е. Белорусы. – М. – 1916. – Т. 3. – С. 147), не звернув уваги на «Материалы по этнографии Гродненской губ.» (под ред. Е. Романова, Вильно, вып. 1. – 1911), де наводиться свідоцтво, що в українців цеї губ. волочебні пісні звуться «рогульки» або «рогульчаті» (С. 104). Пісня ч. 305 походить з Пружанського повіту цеї губернії, але чи з української її частини – з певністю невідомо. Текст порів.: Материалы для истории и статистики России. Гродненская губерния. – 1863. – Ч.1. – С. 109; Веселовский А.Н. Разыскания в области русского духовного стиха / Сборник Отделения русского языка и словесности Академии наук. – СПб. – Т. 32. – № 4. – С. 457, 458, 112, 113). З музичної сторони пор. з рефреном волочебної пісні у Шейна (Шейн П.В. Материалы для изучения быта и языка русского населения северно-западного края / Сборник Отделения русского языка и словестности Академии наук». – СПб. – Т. 41. – №3, нотний додаток). Подібні до волочебних пісень галицькі «риндзівки» (Матеріали до української етнології НТШ. – Львів. – 1909. – Т. 12. – № 228). «Волочильне» в українських піснях – див.: Потебня А.А. Объяснение малоруських и сродних песень. – Т. 2. – С. 56, і Zbior Wiadomośći do antropologii krajowej. – Kraków. – T. 11. – S. 163».

На падтрымку меркаванняў К. Квіткі ўкладальнік перавыдання А. Іваніцкі дае свежую інфармацыю, у якой адзначаецца наступнае: Рындзіўка-рагулька – велічальная песня, функцыянальна вельмі блізкая з калядкай, але выконвалася яна на Вялікдзень. Рындзіўкі роднасныя з беларускімі валачобнымі. Дагэтуль сустракаюцца ў Надсянні. Каля двух дзясяткаў мелодый гэтага жанру было запісана Я. Рыжык, што зафіксавана ў кнізе «Рагулькi Підляшша», выдадзенай у Роўна ў 1994 г. (с. 363).

Паказальная для творчага почырку К. Квіткі і падрабязная ацэнка запісанай ім самім песні пра Мядзведзеўку, пададзенай у зборніку пад рубрыкай «Кіеўская губернія». Абапіраючыся на «Труды Общества Исследователей Волыни», а таксама на выданне Б. Грынчанкі «Из уст народа. Малороссийские рассказы, сказки и прочее» (Чарнігаў, 1900), вучоны характарызуе песню наступным чынам: «Яна нязнаная, мае, як для абрадавых, чужую для ўкраінскіх гістарычных песень аснову і ўласцівую некаторым расійскім, усходне-беларускім (лірычным, побытавым і баладам)» (Перавыд. «Укр. народ. пісні, с. 225). Апісваючы звычай ваджэння казы, Квітка карыстаецца для параўнання заўвагамі з выдання З. Радчанка «Сборник малорусских и белорусских народных песень Гомельского уезда» (СПб., 1911, Ч. 83).

Увогуле ж скласці рэальнае ўяўленне пра напрацаванае К. Квіткам проста немагчыма. Да 1970-х гг. працы Квіткі фактычна былі выключаны з навуковага ўжытку, замоўчваліся з ідэалагічных меркаванняў. Велізарны аб'ём яго рукапіснай спадчыны захоўваецца ў архівах Масквы і Кіева. Многія цікавыя старонкі з навуковай спадчыны К. Квіткі яшчэ не надрукаваны. Наколькі пошукавая праца ў архівах вучонага з'яўляецца плённай, сведчыць наступны факт. На падставе архіўных матэрыялаў, сабраных В. Гашоўскім, у Ерэване ў 2001 г. з'явілася выданне «К. Квитка. Фольклор и фольклористика на Кавказе».

Заўважым, што для асэнсавання працы К. Квіткі вельмі важна ўлічваць тое, што яшчэ ў 1898 г., у год яго знаёмства з Лесяй Украінкай, 18-гадовы юнак атрымаў ад саліднага, аўтарытэтнага выдання «Киевская старина» запрашэнне на падрыхтоўку да друку фалькларыстычных матэрыялаў беларуска-ўкраінска-польскага вучонага

Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага. У абавязкі Квіткі павінна была ўваходзіць сістэматызацыя тэкстаў, лінгвістычная апрацоўка запісаў. Праз праблемы матэрыяльнага характару выданне ў той час не ажыццявілася. Аднак важкім з'яўляецца сам факт далучанасці Квіткі на самым пачатку яго фалькларыстычнага шляху да падзвіжніцкай працы Даленгі-Хадакоўскага. Можна лічыць, што шматгранная этнакультуралагічная дзейнасць Даленгі-Хадакоўскага была тым узорам і праграмай, на якія арыентаваўся Квітка. Археалагічны, дыялекталагічны, этнаграфічны, фальклорны матэрыял славянскіх і суседніх народаў Даленга-Хадакоўскі імкнуўся вывучаць комплексна, што дазволіла вучонаму яшчэ на пачатку XIX ст. узнімаць пытанні пра славянскі этнагенез, распрацаваць тэорыю пашырэння беларускай мовы. Здаецца, ёсць усе падставы гаварыць пра тое, што прынцыпы практычна-навуковай дзейнасці З. Даленгі-Хадакоўскага знайшлі сваё выяўленне як стрыжнявая традыцыя ў практычна-навуковай дзейнасці К. Квіткі. Як нам вядома, спецыяльнай увагі да гэтых акалічнасцяў яшчэ ніхто не выявіў.

Зрэдку пра дачыненні К. Квіткі да вывучэння беларускага фальклору згадваюць сёння ўкраінскія навукоўцы. Так, адзначаецца, што ў 1941 г. Квітка напісаў працу «Беларускія песні», якая «ўносіць сутнасныя карэктывы ў пануючыя схематычныя ўяўленні пра беларускую, расійскую і ўкраінскую народную музыку». Сярод найбольш важкіх распрацовак Квіткі апошніх гадоў жыцця вылучаецца яго артыкул «Пра гістарычнае значэнне каляндарных песень» (музычна-этнаграфічнае і марфалагічнае апісанне абрадавых жанраў усходніх славян» (Сторожук А.І. Історизм етномузикології К. Квітки. К., 2000).

Існуюць паасобныя ўпамінанні дзейнасці К. Квіткі на ніве беларусікі і ў нашым навуковым асяроддзі. Так, Арсень Ліс, асэнсоўваючы жыццёвы і навуковы шлях беларускага фалькларыста, этнографа, музыколага Антона Грыневіча, згадвае пра ліставанне Квіткі з Грыневічам (Ліс А. Выбранае. Мінск, 2014, с. 232). Квітка, высвятляючы гісторыю беларускага этнакультурнага руху, звярнуўся да беларускага адраджэнца з просьбай даслаць яму аўтабіяграфію. Лагічна меркаваць, што ў архіве Квіткі захоўваецца яго перапіска і з іншымі беларускімі рупліўцамі на ніве нацыянальнай культуры, блізкімі яму па духу і мэтах дзейнасці. Энцыклапедыя «Беларускі фальклор» змяшчае асобны артыкул «Квітка Клімен Васілевіч», у якім называецца праца вучонага «Аб абласцях пашырэння некаторых тыпаў беларускіх каляндарных і вясельных песень» (т. 1, с. 681). На навуковай канферэнцыі, прысвечанай памяці К. Квіткі, што адбылася 25. IX. 2003 г. у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора імя М. Рыльскага НАН Украіны, прагучала на пленарным пасяджэнні выступленне Г.В. Таўлай «Спасцігаючы ідэі К. Квіткі. Песенная культура беларускай моўнай вобласці ў параўнальным вывучэнні».

Г.В. Таўлай – супрацоўнік Расійскага інстытута гісторыі мастацтваў. Аднак сфармавалася яна як навуковец у Беларусі. Даследуючы на працягу 1970-1990-х гг. у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі праблемы функцыянавання, стылістыкі, музычнай тыпалогіі, меліграфіі беларускага песеннага фальклору, В.Г. Таўлай абапіралася на працы ў сферы народнай музыкалогіі Л.С. Мухарынскай, якая ў Беларусі і ў еўрапейскім замежжы ў другой палове XX ст. карысталася вялікім аўтарытэтам. Так, Т. Якіменка ў энцыклапедыі «Беларускі фальклор» (т. 2, с. 184) адзначае, што заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Л.С. Мухарынская «шырока распрацоўвала і пашырала ў беларускім навуковым асяроддзі прынцыпы вывучэння тыпалогіі самых глыбінных пластоў беларускага традыцыйнага меласу, стылістыкі і дыялектаў народнай музычнай мовы ў яе рэгіянальных праявах і стылёвых сістэмах культуры. Сфармулявала законы, на якіх трымаюцца традыцыі вуснай народнай творчасці, выявіла асновы гістарычных стыляў песень.., працы Мухарынскай спрыялі ўсталяванню этнамузыкалогіі ў шматвяковым комплексе беларускага народазнаўства». Л.С. Мухарынская была паслядоўнай у даследаванні

генетычнай прыроды, семантыкі і эстэтычнай сутнасці народнай музыкі; тыпалогію народнага меласа звязвала з палеапсіхалогіяй, палеалінгвістыкай.

Паводле прыведзенай характарыстыкі можна з упэўненасцю сцвярджаць, што за навуковымі прынцыпамі беларускай даследчыцы стаіць моцная школа К.В. Квіткі. Л.С. Мухарынская і сама лічыла сябе вучаніцай К.В. Квіткі і гэтым ганарылася, пра што сведчыць, у прыватнасці, яе выступленне ў зборніку «Памяти К. Квитки», выдадзеным у Маскве ў 1983 г. Ужо згаданая інфармацыя пра вучонага, змешчаная ў энцыклапедыі «Беларускі фальклор», таксама належыць Л.С. Мухарынскай.

У межах аднаго артыкула пытанне «Беларусіка Клімента Квіткі», зразумела, не высветліць. Зробленыя ж у гэтай публікацыі штрыхі да панарамнага партрэта К. Квіткі даюць усе падставы з упэўненасцю лічыць, што беларусазнаўчыя дачыненні гэтага знакамітага вучонага, імя якого апошнім часам усё часцей гучыць ў сусветным культуралагічным асяроддзі, могуць стаць у Беларусі арыгінальным дысертацыйным праектам.

Прыемна адзначыць і тое, што беларускія старонкі маюць у сваім набытку і мастацкае наватарскае прачытанне асобы Лесі Украінкі. Тут і пераклады твораў Лесі Украінкі на беларускую мову, і знакамітае эсэ У. Караткевіча з моцным нацыятворчым стрыжнем «Абраная». Тут і цікавая паэма С. Грахоўскага «Ростань на світанні», у якой, паводле версіі аўтара, Леся Украінка на пачатку XX ст. маленькаму хлопчыку Янку, што піша вершы – так дзіўна! – па-беларуску, напрарочыла будучыню вялікага Песняра Беларусі.

Эпоха нацыянальнага адраджэння стварала сваіх волатаў. Дзякуючы ім, нацыянальная самабытнасць не толькі захоўвалася, вывучалася, але і працягвала сваё фарміраванне. На гэтым шляху ўкраінцы і беларусы былі блізкімі ў сваіх трагедыях і драмах. І ў сваіх дасягненнях, якія крочаць праз вякі!

Васіль Дранько-Майсюк



...фанатычнае спавяданне любой (нават самай добрай) ідэі можа прывесці толькі да трагедыі...

# "...Душагуб беларускай сцэны"

***Уладзіслаў Галубок і яго Муму***

І сябры, і ворагі прызнавалі – у 20-я гады ягоны вандроўны тэатр быў самы папулярны ў Беларусі. Любоў гледачоў Галубок тлумачыў як сапраўдны галівудскі рэжысёр: "Яны прагнуць відовішча... Зацікавіць іх можна толькі моцнымі перажываннямі. Падзеі павінны быць цікавымі! І – зразумелымі. Хай гэта будзе адвечная барацьба паміж сумленнем і [падступствам], чысцінёй і брудам, святлом і цемрай, але толькі так, каб глядач суперажываў разам з акторам!"

На свае спектаклі прыдумляў нечаканую рэкламу. У "Савецкай Беларусі" за 1925 год чытаем пра гастролі Галубка ў Слуцку: «З самай раніцы красаваліся непамерна вялікія плакаты: "Стой! Ты бачыў "Ганку"? Сыпяшы купіць білет, дармова завязём на спэктакль на пажарнай лінейцы". І доўгая пажарная лінейка з гэткімі плакатамі праз увесь дзень круцілася па ўсім Слуцку. – Твой білет, – чуецца голас пажарнага. – Садзіся. – Пусціце мяне, – чуваць голас маладухі, – я купіла білет раней. – Не, я раней: я чакаю даўно. І нарэшце ўвесь пажарны карнавал

падаецца да народнага дому. Звіняць званкі, гоман, хохат. Яскравы агонь з факелаў разлівае шырокі свет на публіку...»

Эстэцка-паэтычны тэатр Аляксандра Таірава альбо авангардныя вычварэнні Усевалада Меерхольда былі аднолькава чужымі для Галубка. Паводле ўспамінаў мастака Яўгена Ціхановіча: «Яму не падабаўся Меерхольд... У п'есе “Лес” ніякіх дэкарацый, сцэна пустая... на фанернай скрынцы сядзяць Аркашка ды Нешчасліўцаў, ловяць рыбу. Ні табе вудаў, ніякіх снасцяў... Адной толькі мімікай ды жэстыкуляваннем дасягаецца ўражанне, быццам трапечацца ў руках Аркашкі вялікі лешч. Гэты спектакль мы з Галубком глядзелі ў Ленінградзе, дзе ён увесь час ірваўся пакінуць залу і бегчы дамоў: “Што гэта за відовішча, калі глядзець няма чаго?”» У пастаноўках жа Галубка былі “сапраўдныя яечня з двух дзесяткаў яек, украінскі боршч, катлеты з гарачай бульбай і кіслым малаком, якія... падаваліся на сцэну па ходу спектакля”.

З юнацтва Галубку было чужое “высокае мастацтва”. Ён “захапляўся танцамі цыганятак і аддаваў апошнія грошы /.../, каб яны танцавалі, а ён мог любавацца”. Быў вялікім прыхільнікам нямога кінематографа. Асабліва любіў глядзець нямецкія прыгодніцкія стужкі пра следчага Сцюарта Уэбса, серыял “Гамункулус” Ота Рыперта, не прапускаў меладрам з Даніі рэжысёра Петэра Урбана Гада, дзе іграла першая ў сусветным кіно жанчына-вамп Аста Нільсэн.

Першым спектаклем, які ўбачыў у сваім жыцці ў 15-гадовым узросце, была меладрама “Нешчаснэ каханьне”. /.../ П'еса была ўспрынята як сапраўднасць і пакінула надзвычайна моцны след на вельмі доўгі час. Уладыслаў паўгода хадзіў сам не свой...” – успамінаў М. Каспяровіч.

З гэтага часу – меладрама любімы жанр героя нашага артыкула, з-за чаго многія крытыкі ганілі п'есы Уладзіслава Язэпавіча. Віталь Вольскі, напрыклад, пісаў: “Яго сцэнічныя творы складаліся з мяшчанскіх п'ес, з грубых бытавых камедый і слязлівых меладрам”. Галубок на гэта адказваў: «Чаму гэта меладрама раптам раз'юшыла абаронцаў высокага мастацтва? Нават В. Меерхольд пачаў з пераасэнсавання меладрамы! Меладраматызм проста ўрываўся ў яго праграмныя пастаноўкі “Зоры” Э. Верхарна і “Вялікадушнага раганосца” Ф. Комелінка. Паспрабуйце прыбраць меладраму з “Адысэі”, з “Дон Кіхота”! З “Вайны і міра”! Яна не замінае вялікаму мастацтву, а ўпрыгожвае яго».

Змітрок Бядуля гэтаксама адзначаў, што пастаноўкі Галубка маюць “чыста кінемотаграфічны характар. Ён дае ў сваіх п'есах танны гумар і галаваломныя эфекты”. А Зоська Верас проста была абурана адной з першых рэжысёрскіх прац Галубка, камедыяй “Забыўся падперазацца”: «Гэта была не камедыя (...) а нешта такое пошлае і грубае, што і акрэсліць трудна... Мо дзе на кірмашы ў балагане мела б поспех... Але ці аўтар меў права прынізіць і сябе, і родную мову, каб спадабацца публіцы на найніжэйшым узроўні культуры /.../ я змагла толькі сказаць: “Як вы, пане Ўладыславе, маглі пасля “Апошняга спаткання”, пасля ўсіх апавяданняў, якія я вам перапісвала, як вы маглі так сябе прынізіць?”».

Так, на спектаклях Уладзіслава Галубка, па ягоных жа словах, “глядач не шукае шапэнаўскіх арый, ён рад, калі яму пагрconsiderае гармонік ды цымбалы”. Яго пастаноўкі падкрэслена простыя, пазбаўленыя складаных метафар, тонкіх мастацкіх сімвалаў, тут няма паўтаноў і багацця псіхалагічных адценняў, яны і сапраўды ў нечым нагадвалі кірмашовыя дзействы. Галубок дакладна ведаў, для якой публікі ставіць, і таму, у адрозненне ад Францішка Аляхновіча, пазбягаў уплыву Ібсена альбо Гаўптмана, ашчаджаў простую душу селяніна ад таго, каб “радаваць” яго экспрэсіяністычнымі наследваннямі ці адкрытым сімвалізмам, як гэта любіў рабіць у сваіх п'есах Янка Купала. Гэтаксама не ператвараў пастаноўкі ў адкрытыя сацыяльныя выказванні, на манер Фларыяна Ждановіча. Уладыслаў Язэпавіч жыў, як вядома, у час авангарду, адкрытых смелых пошукаў ва ўсіх сферах мастацтва,

і таму яго эстэтычныя погляды на тое, якім павінен быць тэатр, не заўсёды знаходзілі паразуменне. Напрыклад, знакаміты тэатральны мастак Аскар Марыкс, якога камандзіравалі афармляць пастаноўкі Галубка, адкрыта прызнаваўся: «Я і многія іншыя не разумелі яго. Ён шукаў лаканічнага ўвасаблення думкі. Марыў аб выразнасці ў “дзвюх прасцінах”. А для мяне ісці да У. Галубка – азначала адмовіцца ад прасторы сцэны, азначала ідэю, выказаную на велізарным палатне, раскрываць у кавалку бервяна».

Скепсіс Марыкса не падзяляў драматург Міхайла Грамыка, які адзначаў: «Абстаноўка ігры Галубка і яго трупы па многаму нагадвае першабытны шэксьпіраўскі тэатр, калі пісалі на аншлагу “лес” і публіка бачыла лес, хоць ніякіх дроў на сцэне не было. Так і ў Галубка. Трэба самому надзвычайна захапляцца ігрой, захапляць ёю другіх, каб не зьвяртаць увагі на тое, што ў самы трагічны момант акту ледзь не на галаву артысту ляціць кавалак сцяны. І заўважце: толькі два-тры чалавекі ў залі паспрабавалі хіхікнуць! Лягчэй захапляць ігрой, калі дапамагаюць сцэнічныя эфекты; лёгка на аўто зрабіць 50 вёрст, куды цяжэй пехатой прайсьці 7-8».

У той жа час іншыя гледачы лічылі, што асноўны недахоп спектакляў Уладзіслава Язэпавіча заключаўся ў неадпаведнасці сціслай сцэнічнай прасторы і манументальна-бязмежнай імпэтнасці жарсцяў, якімі былі насычаны яго творы. Паэт Алесь Дудар (дарэчы, былы ўдзельнік галубкоўскага тэатра), які схаваўся пад псеўданімам А. Зьніч, адзначыўшы вялікія вартасці спектакля “Блуд” (“Пан Сурынта”), лічыў, што “выканана п’еса была не надта добра. /.../ масавыя сцэны ў першым акце выйшлі зусім няўдала з прычыны малой сцэны”.

Калі, прыгадаўшы крытычныя шпількі Змітрака Бядулі, пара́ўноўваць спектаклі Галубка з кінематографам, дык ён быў сапраўдным Жоржам Мельесам, з яго падкрэслена-маляванымі заднікамі, адсутнасцю глыбіннай перспектывы і адпаведна-кірмашовым акцёрскім выкананнем. Калі казаць пра псіхалагічную напоўненасць яго пастановак, то двухмерная сцэнічна-мастацкая прастора спектакляў Галубка была прасякнута чорна-белым успрыняццем рэчаіснасці. Персанажы дзяліліся ў асноўным на тры катэгорыі: цалкам станоўчых (сярод якіх часам трапляўся адзін супер-герой), страшных пачвар-садыстаў і бязвольных ахвяр. Але разам з тым нельга было сказаць, што Галубок адно толькі быў рэжысёрам спектакляў класа “Б”. Умоўна-шаржыраваны грым артыстаў, пакрэсленая лубачнасць маляванага задніка, вострыя дыялогі, нечаканае спалучэнне гумару і брутальнасці, шалёная рэжысёрская энергетыка, якой былі напампаваныя спектаклі Галубка, цудоўная беларуская мова – стваралі сваю эстэтычную адметнасць і тое пачуццё мастацкасці, пра якую, магчыма, і не думаў сам рэжысёр.

Што яднала Галубка з Меерхольдам ды іншымі творча далёкімі яму калегамі-эстэтамі – дык гэта імкненне рабіць свае спектаклі як мага больш дынамічнымі. Вядомы факт, што Усевалад Эмільевіч на рэпетыцыях хадзіў з секундамерам і як агню баяўся неапраўданых псеўда-глыбакадумных паўз. Падобнае рабіў і Галубок. У яго спектаклях няма чэхаўскага маўчання, шэпту, дзеяння, атуленага хваравіта-вялым рытмам ды інерцыяй. Кожная пастаноўка Уладзіслава Язэпавіча – гэта ўмела скамбінаваная серыя эмацыйных выбухаў. Героі тут не думаюць, яны дзейнічаюць (забіваюць, гвалтуюць, кідаюцца ў бой, кахаюцца, помсцяць), жывуць хутчэй паводле інстынктаў, а не развагі. Тут шмат крыку, песень, мардабою, абдымкаў, палымяных прамоў. Ціха гаварыць героі Галубка не ўмеюць. Яны рабы сваіх жарсцяў, а таму гінуць, як мухі, трапляюць у турмы, становяцца банкрутамі і калекамі, вар’яцеюць.

Уладзіслава Язэпавіча называлі “душагубам беларускай сцэны”. Вінавацілі, што ў яго п’есах памірае шмат герояў. Галубок адказваў: «Мяне празвалі душагубам беларускай сцэны, а вось у Шэкспіра ў “Гамлеце” аж пяць смерцяў, але ж яго не называюць душагубам».

“Маладняковец” Анатоль Вольны высмейваў “крывавасць” п’ес Уладзіслава Галубка. У гумарыстычнай падборцы “Як бы гэта выглядала, каб беларускія пісьменнікі пісалі аб Лютаўскай рэвалюцыі”, чытаем пародыю на тэатр Галубка: “Падымаецца заслона. За сцэнай – страляніна.

МІКАЛАЙ II (*выходзіць з задніх дзвярэй*):

– Ах, Божа мой! (*страляніна*).

*Мікалай плача, лезе пад стол (страляніна).*

(*Заслона*).

*Выпаўзае танк, а на ім Керанскі. (Страляніна). За сцэнай лупяць з гарматаў. (Страляніна).*

КЕРАНСКІ (*крычыць*):

– Вайна да пераможнага канца. Ура! (*Страляніна*). Ранены куляю ў самае сэрца Керанскі падае, потым падымаецца і ўцякае за граніцу (*страляніна*).

*На сцэне ллецца кроў, якая паступова затапляе ўсю залю. З-за куліс на чоўне выплывае Галубок і гавора прамову на антырэлігійную тэму. (Страляніна. Заслона)”.*

Галубка (які, дарэчы, быў сябрам “Маладняка”) раздражнялі такія жартачкі. Аднойчы, вярнуўшыся дамоў са сходу гэтага літаратурнага аб’яднання рэжысёр, па ўспамінах Яўгена Ціхановіча, ускрыкнуў: “Маладняк, каб ты не ўзрос!”

Але, як вядома, крыўдзімся мы звычайна на праўду. Гумарэска Анатоля Вольнага дастаткова пераканаўча перадавала рэжысёрска-драматургічны стыль пастановак Галубка. Ён і праўда любіў натуралістычныя эфекты. І калі, падчас эпізодаў баляў, застолляў, гулянак, выпівак (абавязковых амаль для кожнага яго спектакля) на сцэне была сапраўдная ежа і пітво, то забойствы выглядалі не менш праўдзіва, чым кадры разрэзанага вока жанчыны з “Андалузскага сабакі” (1929 г.) Луіса Бюнюэля.

Паводле гісторыка Анатоля Валахановіча, “каронным нумарам Галубка была сцэна смерці пана Сурынты. У актора Б. Бусла, па п’есе – яго праціўніка, бліснула лязо нажа. Удар! Сурынта схапіўся за сэрца, пахіснуўся, і ўсе гледачы ўбачылі, як праз яго пальцы цячэ кроў, расплываючыся чырвонай плямай на белай кашулі. У залі крыкі, ледзь не страта прытомнасці /.../. У выніку – адмоўныя адносіны да станоўчага героя, але забойцы, і гром апладысментаў Галубку – пану Сурынту. Усе ў залі рады, што ён жывы... Галубок павязваў пад кашулю мяшэчак з журавінамі”.

Калі Анатоль Вольны любіў пакпіць з падобнай эстэтыкі, то згаданы ўжо Міхайла Грамыка на старонках “Савецкай Беларусі” ў артыкуле “Галубок у Мар’інай Горцы” пісаў: «Канечне, лёгка крытычна падыйсці да любой рэчы. Можна вынайсці слабыя бакі нават і ў Шэкспіра: “Ужо занадта трупаў на сцэне”, гаварыў, здаецца, Гамсун пра Шэкспіра. Ёсць мерцвякі і ў Галубка; ёсць, можа, не зусім даведзеная псіхалагічна дзейнасць герояў. Галубок бярэ жыццё, кавалак жыцця, выхоплівае яго, як яно ёсць; дзьме ў гэтую сырую гліну жыцця моцным духам сваёй жвавай, захапляючай ігры, – і ты /.../ перажываеш тое, што павінен перажываць кожны глядач у добрым тэатры».

Пачуццё штохвіліннай небяспекі – абавязковы псіхалагічны чыннік яго спектакляў. Героі рызыкуюць кожнае імгненне. Просты глядач назіраў за персанажамі Галубка з такім жа вострым адчуваннем, з якім публіка ў цырку дзівілася на які-небудзь карказломны акрабатычны нумар. Нечаканае адчуванне страты, раптоўная трагедыя, якую перажываюць героі амаль кожнай п’есы Уладзіслава Язэпавіча, гэта – з яго страшнага дзіцячага ўспаміну, калі раптоўна “7-га кастрычніка 1895 году” гіне бацька, “майстар слясарнай справы”, які “у часе звароту са службы дадому быў забіты злачынцамі рэвальвэрнымі стрэламі”, – успамінаў М. Каспяровіч.

Вандроўная трупа рэжысёра дастаткова рызыкавала ў часе сваіх гастрольных паездак па Беларусі. Этнограф Міхась Грынблат пісаў: “Успамінаецца паездка з

Негарэлага ва Ўзду зімою ўначы на развалках, калі паабапал нашага абозу доўга суправаджалі нас дзве гайні ваўкоў, і іх вочы свяціліся злавеснымі агеньчыкамі...”

Падчас адных гастроляў у Галубка стралялі. Было гэта, па словах артысткі Тацяны Шашалевіч, «на Аршаншчыне... у час спектакля “Дыктатура” І. Мікіценкі... стралялі ў Галубка з-за кулісы». Актор Уладзімер Дзядзюшка ўспамінаў: “Мы кінуліся ў грымёрку на гук стрэла... Бачым – шкло ў вакне разбітае... Уладзіслаў Язэпавіч выцірае кроў са шчакі. Бурчыць: “З абрэза... кавалкам шкла шчаку прыхапіла. Грыміравацца цяжка будзе...”

Але не толькі гэтыя асобныя небяспечныя для жыцця эпізоды суправаджалі яго тэатр. У першай палове 20-х гадоў калектыў Галубка бытаваў у надзвычай цяжкіх варунках. Вось як пра гэта пісаў А. Зьніч (Алесь Дудар): “Аж да красавіка 1921 г. трупа была ў вельмі цяжкім становішчы. Яна мела вельмі слабую матэрыяльную дапамогу. Артыстаў разглядалі, як аматараў /.../ з яе адзін за адным выходзяць лепшыя працаўнікі. Тыя працаўнікі, што засталіся, матэрыяльна не забяспечаны, бо трупа грае для рабочых, якія не маюць магчымасці дорага плаціць за білеты. На нітачцы вісела жыццё трупы. /.../ Зімою трупа не зважае ні на якую пагоду. Напрыклад, у пачатку гэтага году трэба было паставіць спектакль у адной вёсцы вёрст за 7 ад гораду. Мяцеліца была страшэнная. Чакалі падвод – не дачакаліся. І вось, сабраўшы патрэбныя рэчы, выбіраюцца артысты і цягнуцца па снежнаму полю з вузламі “по образу апостальского хождения”. Гэты эпізод з “мяцеліцай” пацвярджае, наколькі Галубок быў па-сапраўднаму яркім лідарам, магчыма самым харызматычным сярод тагачасных беларускіх тэатральных рэжысёраў. Бо, цікава, змог бы Фларыян Ждановіч, Еўсцігней Міровіч ці Францішак Аляхновіч знайсці патрэбныя словы, каб заахвоціць сваіх артыстаў, без усялякіх падводаў, з рэквізітам і касцюмамі на плячах, адправіцца на злом галавы, у снежную завею, дзе акрамя ўдзячна-безграшовых сялян ды заўсёдна-галодных ваўкоў іх больш нічога не чакае?

Не ведаю, хто яшчэ валодаў бы такой гіпнатычнай сілай пераканання. Галубок мог угаварыць якога заўгода ўпартага чалавека. Менавіта ён быў адзіны сярод менскіх беларусаў, хто змог залагодзіць па-дзіцячы ўпартага Максіма Багдановіча. Аўтар “Вянка”, як вядома, меў дастакова цяжкі характар, любіў спрачацца з роднымі, сябрамі, настаўнікамі (асабліва з адным бацюшкам, якому даводзіў, што Бога няма). Па ўспамінах бацькі: “У патэтычных месцах, каб падкрэсліць сваю думку, ён [Максім Багдановіч] б’е кулаком па стале, а калі няма аргументаў, абодва кулакі прыціскае да грудзей альбо да плячэй, быццам адтуль хоча выціснуць больш сілы...”

Мала хто мог пераканаць Багдановіча. Зоська Верас згадвала пра менскія падзеі часоў Першай сусветнай вайны: «Мы вымушаны былі перавозіць дзіцячы прытулак у Ратамку. Дні ўжо былі кароткія, холад, а ехаць трэба фурманкай вёрст 30... Раптам М. Багдановіч кажа: «І я паеду». Мы ўсе ахнулі: «Што вы кажаце! У такі холад!..» Зазлаваў Максім: «Што я – маленькі? Волі сваёй мець не магу? Сказаў – паеду, і паеду! Не забароніце». Зноў пасыпаліся пратэсты. Адзін Галубок маўчаў. Калі ж пачалася сапраўдная сварка, Галубок абазваўся: «Ціха, ша! Успакойцеся! Я пайду і хутка вярнуся, тады пабачым». Не было Галубка з гадзіну. Нарэшце... уваходзіць Галубок з аграмадным кажухом! «Маеце, дзядзька Максім, паедзеце».

Умеў Галубок знаходзіць выйсце з цяжкой сітуацыі і для свайго тэатра. Аднаго разу, калі ізноў не з’явілася абяцанай падводы, а шлях быў надзвычай далёкі, Галубок, пашкадаваўшы сваіх артыстаў, падгаварыў выпадковага міліцыянера «арыштаваць» яго тэатр. Скрыпач Міхась Лучанок узгадваў: «Гастралявалі мы ў мястэчку Лоеў. Адсюль трэба было ехаць у вёску Жары. На прыстані нас чакалі з падводамі. Давезлі да вёскі. Паказалі мы спектакль, а назад ехаць – няма падвод...

На параход мы спазніліся, трэба было пеша ісці аж да Лоева... Што рабіць?.. На шчасце, з намі быў міліцыянер з раёну. Ён спыніў выпадковую падводу і загадаў загрузіць нашы рэчы, сказаўшы, што мы арыштаваныя і нас трэба пераправіць у раён... "Арыштаваныя" трымаліся бадзёра і весела. Я граў на скрыпцы "Вызваленьне славян", а хормайстар Несьцер Сакалоўскі заўзята біў у бубен».

Многія крытыкі (ды і сам Галубок, калі выступаў на сваіх абавязковых прамовах-мітынгах, якімі заўсёды распачыналіся яго спектаклі) сцвярджалі, што ягоныя п'есы маюць падкрэсленна-рэвалюцыйнае гучанне, там выкрываецца крывавае мінулае царскага ладу, дзікасць паноў, жандараў і г.д., і.г.д. З аднаго боку ўсё гэта, быццам і так, але, калі чытаеш уважліва, то прыходзіш да крыху іншых высноў. Жыхары вёскі не маглі так непадманна-моцна любіць тэатр Галубка, калі б там была толькі адна бальшавіцкая агітацыя. Калі вандроўны тэатр паказваў спектакль з жыцця дзяцей сялян, што паехалі ў горад за навукай, а сталі рэвалюцыянерамі-бамбістамі ("Апошняе спатканне"), то перад гледачамі разгортваўся не гераічны баявік пра тое, як смелыя хлопцы "завалілі" царскага чыноўніка, а гісторыя таго, як дзеці становяцца фанатыкамі, што прыводзіць некалі дружную сялянскую сям'ю да пагібелі. Калі сяляне глядзелі гэтую сапраўдную трагедыю, то, хутчэй за ўсё станавіліся на бок не галоўнага героя, а простага турэмнага стоража, які казаў пра гэтых рэвалюцыянераў: "Чаго трэба ім... Якой скулы не хапае ім... сытыя, здаровыя, жыць і не думаць пра турму... І хто іх бацькі, уразумець трудна, гэта каб не расталкаваць дурням, што забіваць нікога не можна, што святыя божыя запаведзі забараняюць рабіць гэта..." Стораж, безумоўна, не быў у "Апошнім спатканні" станоўчым персанажам, але, як вядома (і Галубок гэтым прыёмам цудоўна карыстаўся), калі хочаш сказаць пры таталітарнай сістэме тое, што думаеш, укладзі свае словы ў вусны адмоўнага героя.

У трохактавай драме "Бязвінная кроў" (захаваўся толькі першы акт) – перад намі два фанатыкі – Гаспадар (заможны шляхціц, які ненавідзіць сялян) і яго сын-сацыяліст Студэнт. Напрыканцы дзеі яны паміж сабой сварацца. Гледачы, па логіцы, павінны быць на баку юнака, але аднолькава аслепленыя сваёй лаянкай, бацька і сын, даводзяць Гаспадыню (маці Студэнта) да смерці. Такім чынам, Галубок пераканаўча паказвае: фанатычнае спавяданне любой (нават самай добрай) ідэі можа прывесці толькі да трагедыі.

У многіх сваіх "антыпанскіх" спектаклях ("Ганка", "Пан Сурынта") Галубок не столькі выяўляе і асуджае злачынствы шляхты, колькі выступае супраць тупой, запалоханай пасіўнасці большасці, якая нічога не робіць, каб памяняць сваё жыццё. У "Ганцы" вінаватая ў смерці галоўнай гераіні-сялянкі не каварная Палкоўніца, якая разлучыла яе, цяжарную, з каханым Васілём, а менавіта гэты бязвольны сынок, бо дазволіў карыстацца сабой, як марыянеткай. Галоўнай пачварай у п'есе "Пан Сурынта" (твор напісаны пад уплывам "Бутрыма Няміры" Францішка Аляхновіча) быў не тыран і дэспат Сурынта, які катаваў прыгонных, пазбаўляў цноты дзяўчат, жыў з уласнай дачкой, як з жонкай, а хітры, падступны, бы шэкспіраўскі Яга, Аканом, які з аднолькавым спрытам дурыць і свайго пана і паўстанцаў. Гераіня п'есы "Бязродны" простая дзяўчына Гапка, будучы цяжка хворай, паддалася ўплыву айчыма-алкаголіка, пакідае разам са сваім дзіцяткам-немаўлём родную хату і гіне дзесьці на дарозе. Калі вяртаецца маці (якая бегала па доктара), то, не вытрымаўшы гора, вар'яцее. Магчыма, менавіта гэтую п'есу меў на ўвазе Змітрок Бядуля, калі пісаў пра "кінематаграфічны характар" і "галаваломныя эфекты" твораў Галубка.

Амаль у кожнай сваёй п'есе Галубок усімі даступнымі сродкамі (для большай выразнасці часам, нават выходзіць за межы эстэтыкі, як у апошнім прыкладзе) вучыць, настаўляе, заклікае свайго простага гледача-беларуса скінуць з сябе рызманы памяркоўнай рахманасці, навучыцца нарэшце думаць, не паддавацца

нічыім уплывам, не быць, кажучы словамі філосафа Валянціна Акудовіча, “вечнымі дзецьмі”. Бо інача, паводле Галубка, беларусаў не чакае нічога іншага, як гібель.

У вобразе Гапкі з п’есы “Бязродны” Уладзіслаў Язэпавіч, па-сутнасці, выявіў саму Беларусь – пасіўную, несамастойную, інертную. Рэжысёр яскрава паказаў – калі мы будзем слухаць чужыя намаўленні, то ў фінале ад усіх нас застануцца адно толькі раскіданыя па метафарычнай пушчы Еўропы косці, і ніхто ўжо не пазнае, чые яны і якому народу належалі. І тут можна зразумець нелюбоў Уладзіслава Галубка да эстэцтва. Якая можа быць гульня ў вытанчанае мастацтва, якімі можна займацца фармальнымі пошукамі, калі народ не навучыўся казаць «не», калі ў яго яшчэ і намёку на думкі не ўзнікла, што трэба абрэзаць на сабе тыя вяроўкі, якія ператвараюць кожнага з нас у марыянетак.

Адным з любімых твораў Галубка было апавяданне Тургенева “Муму”. “Каб стаць свабодным, трэба знайсці ў сабе сілы ўтапіць сваё Муму, – казаў Галубок, – рускі мужык Герасім гэта зрабіць здолеў. А мы, беларусы? Калі зможам здабыць волю і стаць па-сапраўднаму свабоднымі? Калі ўтопім гэтае Муму?”

Пытанне застаецца адкрытым і да гэтага часу.

Вольга Бабкова



…каб быць сапраўдным слухачом,
трэба нарадзіцца рудым грушаўскім катом!..

# Грушаўка і Падгрушша

*Прамайляе над местам зора:*
*Шчэ не позна, шчэ не позна.*
*Месяц звонку малітву твора:*
*Яшчэ можна, яшчэ можна.*

Пошум студзеньскага начнога дажджу за вакном нітуецца з гукамі ў прыцішанай кватэры. Да слыху даносіцца мокрае варушэнне ключа ў дзвярах, рыпучыя крокі, глыбокія ўздыхі, шэпт чыіхсьці галасоў, такханне вялікага гадзінніка, поканне мыльных пухіроў ля вуха... Усё гэта струменіць за вакном і ўва мне самой. Забаўляе і трывожыць, лучыць у адно цэлае, робіць празрыстымі сцены.

Я жыву ў Падгрушшы Грушаўкі, аднаго з першых менскіх раёнчыкаў, які мог бы называцца Ліпаўкай, Арабінаўкай ці Каштанаўкай, але ж завецца спрадвеку ў гонар грушы – дрэва, прыгажосцю якога дзівавaліся людзі з антычных часоў. *Pirus communis!*

Разумеючы, што час Грушаўкі скарачаецца ды сціскаецца, каб неўзабаве сысці ўнівеч, захацелася скласці наўздагон гэтаму сыходу “грушавую мапу”, каб накрэсліць на ёй высозныя, раскош-

ныя квеценню ў траўні ўлюбёныя дрэвы. А за адным разам пазначыць грушаўскія гісторыі, абрысы знаёмых і выпадковых сустрэчных, пачутыя тут галасы птушак ды катоў. Грушаўка наскрозь працятая нягучнымі галасамі цягнікоў са сваіх ускраінаў. З поўдня, усходу і поўначы гэтая частка горада адрэзаная ад рэшты Менска рэальнымі рэйкамі, па якіх ходзяць самыя розныя цягнікі – імклівыя віленскія, рэдкія варшаўскія, стандартныя берасцейскія, цяжкагрузныя праштампаваныя таварнякі, недалёкія “электроны” ды рахманыя паравозікі-дрызіны, што возяць гліну ажно з Навалукомля. Калі рытм жалезных колаў вялікіх цягнікоў заціхае даволі хутка, тужлівае рэха з вузкакалейкі перацякае начамі ў сэрцы бяссонных на былой Лютэранскай вуліцы. А можа быць – толькі ў маё.

Грушаўка стаіць на плывуне-шатуне ды пераплеценая наскрозь старымі падземнымі рэчышчамі, сцішанымі крыніцамі, вільготнымі ўспамінамі былых стаўкоў ды ручаінаў. Паўз Грушаўку церабіла шлях таксама бяссонная Няміга. На глыбіні і бліжэй да паверхні зямлі паціху бруіцца стоенае жыццё, што наталяе ды жывіць шматлікае грушаўскае зяленіва. Часам Грушаўку атуляе шчыльны туман, які павольна точыцца з утравелых падземных шнараў. Ён з’яўляецца спакваля і гэтак жа незаўважна расце і гусцее. Мае лёгкі водар грыбніцы, мокрых валуноў, а таксама белых кветак. Аднаго разу гурма дзяцей раскатурхала гліністае цела Грушаўкі і, запрыкмеціўшы варушэнне зямлі, пачала гушкацца на пругкай паверхні, пакуль тая раптам не раскрыла прагны раток ды не ўсмактала са спрутавай сілай баламутныя ножкі. Тату давялося рыдлёўкай адкопваць тады мой чырвоны боцік з левай нагі.

Насамрэч, сэрца Грушаўкі тахкае на поўдні, недзе паблізу старой музычнай школы і каля бяздумна спляжанага ўвосень 2018 года старажыла- кінатэатра “Авангард”. Школа ў грушаўскай камянічцы выгадавала плойму цудоўных музыкаў (Косця Гарачы з *Apple Tea*!), а ў “Авангардзе” рыпеў фанернымі крэсламі ўвесь сёмы шэраг. Гэта тут, у дварах з садамі, ахутанымі дымам брыкетаў з нешматлікіх комінаў, яшчэ і сёння можна заблукаць паміж чырвонымі цаглянымі гаражамі і нацягнутымі наўскос вяроўкамі з бялізнай. Заўсёды кранае вопратка шырачэзных начных кашуль, нібы толькі што знятых з ружовага распаранага цела, кухонных *сціpачак*, сапраўды сцертых да празрыстасці, і цяжкіх узорыстых капаў.

Начытаўшыся ў бібліятэцы “Алі і Ніно”, мая дачка па дарозе з тутэйшага метро аднаго разу заміж літоўскага цыклону пачула дух нафтавага брызу, а насамрэч мы ўсе прапахлі водарам Грушаўкі. І мне гэта падабалася.

Адзін бок Грушаўкі парос ужо белымі, бліскучымі на сонцы высознымі гмахамі, а на другім баку яшчэ капаюць грады, дужэе ў зямлі часнык, набрыньвае залатым сокам падтыннік, носяць ваду з калонак ды адвозяць у вёдрах ці алюмініевых бідонах на самакаце. Мне здаецца, адчуванне вастрыні гэтага кантрасту, такой гарадской “мяжы”, у розныя перыяды і ў розных формах працінае жыццё кожнага.

Ёсць у нашым горадзе і на Грушаўцы такія людзі, на якіх хочацца азірнуцца, правесці поглядам, не прыспешваць хаду, калі апынаешся побач. Невядомыя мне людзі. Хіба некаторых ужо міжволі пазнаю. Аднаго разу ішоў па менскім праспекце стары. Ахайны і засяроджаны. Бачыла яго раней на Нямізе. Вельмі шмат у горадзе прыгожых твараў, але каб вось так – ішоў і думаў. Вельмі менскі чалавек. А аднойчы восеньскай раніцай па распластаным целе Грушаўкі рухаліся дварамі да вялікай дарогі дзве жаночыя постаці. Узбоч платоў і котак, запацелых машын і пажухлага дзядоўніка, пераступаючы пакрытыя першым лёдам калюжыны. Ішлі сабе ды ішлі адна з адной у нагу, а здавалася, што тупаталі на месцы, бо ўяўная брама дарогі ніяк не набліжалася. Штосьці было такое ў іхняй пары, што прыцягвала ўвагу. Але не расчуленасць ад кволасці старой ці дзябёласці маладзейшай. Яны ішлі па старым менскім квартальчыку амаль бясшумна, сувора гледзячы наперад, і на іхніх спінах нерухома віселі торбы ўзору першай сусветнай, зацягнутыя вузлом за адзін канец. Такі самы “сідар” вісеў у сорак чацвёртым годзе на спіне майго дзеда Паўла, калі яго



гналі этапам з Ваўкавыска на Магадан. Ватоўка і плюшаўка, баваўняныя панчохі і лямцавы абутак. Выцвілыя хусткі на абедзвюх, завязаныя пад падбароддзем. Суворы выраз на простых тварах. Аніякіх пазнакаў, па якіх гэтых жанчын можна было б апазнаць як сучасніц. Жабрацтвам, бядотай, бежанствам былі наладаваныя іхнія торбы. Як чужаніцы для кожнага часу, яны былі пазнавальныя паўсюль. Іх бачылі мільёны людзей у розныя часы. Яны не паспелі састарыцца дарэшты і сысці ўнявеч. Адыходзілі іншыя, паўз якіх яны праходзілі моўчкі, не сцішаючы хады..

Пабачыўшы тых дзіўных жанчын, я ўразілася падабенству іх хады з няспыннай хадой цыбатагаківача ў старым насценным гадзінніку, які здольны павярнуць час у адваротны бок. Здранцвенне ахапіла мяне ў тую хвіліну. Трывожнае прадчуванне бядоты. Неўзабаве пачалася вайна ва Украіне.

У нас самыя прыгожыя на свеце назвы месяцаў года і самога Месяца! Вельмі адметныя назвы гарадскіх прадмесцяў-урочышчаў – *Серабранка, Ляхаўка, Добрыя Мыслі, Уборкі, Козырава, Плешчанка, Старажоўка, Татарская Слабада*... А таксама імёны раслінаў, якія можна сустрэць і на Грушаўцы: *скрыпень, срэбнік, сухавейка, жабіныя вочкі, белая яснотка* ды *джыгучка, крываўнік, ксяндзоў плеш, лопух, казелец, ясная цыкора, стакротка, доля, малачай-дзьмухавец, нячуйвецер, прытуліца, шыпшына, мацярдушка* і нават *лубін*... З-пад драўлянага плота ў кастрычніку (не ў траўні!) да мінакоў прыглядаецца юлёвае вока *ўразніка*. Растуць сямейкамі. А ў жніўні з рэшты агародаў густа пахне вечарамі *вінными грушамі*. Зранку да іх злятаюцца восы.

Усё ж самыя блізкія родзічы людзей – дрэвы. І жаўцеюць яны, як людзі сівеюць, – спакваля, і карані іхнія пад зямлёй – як нашыя вены, а равочкі на кары – чыста зморшчыны. І шапочуць яны няўцямна ды самотна. І балюча ім, калі іх рэжуць, ломяць, пілуюць па жывым. І высока яны глядзяць і далёка бачаць. Могуць прытуліць, а могуць з галіны скінуць. Напояць і накормяць. У сталасці яны рыпяць, як дзяды, а могуць наспяваць калыханку. Маюць кусцістую нервовую сістэму, амаль як у анатамічным атласе чалавека. Дзеляцца на пары дзе б ні знаходзіліся – у лесе, парку, шэрагам у прысадах. Відавочных крокаў насустрач адно аднаму не робяць, але жывуць у карнявой згодзе на адлегласці. Часам хварэюць. Робяць выгляд мёртвых узімку, але ўвесну квітнеюць і буяюць. І так круглы год. Нібы паміраюць – і абавязкова ўваскрасаюць. Узімку пазнаюцца і без вопраткі, бо застаюцца самі сабой – хто дубам, хто ліпай, хто вольхай, а хто грушай.

Грушаўскія грушы бяруць вышынёю і раскошаю. У траўні да іх кіпені злятаюцца не толькі пчолы. Кароткі тыдзень іх красавання можа падараваць назіральным запас трываласці на рэшту года. Гэтыя дрэвы тут сапраўдныя старажылы, што засталіся ад старых сядзібаў. Іх шурпатая патрэсканая кара часам нагадвае панцыр нагрэтага на сонцы цмока. Да яе хочацца дакрануцца. Нездарма ходзяць старыя показкі пра цмокаў ды чарадзеяў, якія любілі ўладкавацца на іхнім галлі. Грушы растуць скрозь. І там, і тут, і там. На ўсе бакі грушаўскага свету. Увесну Грушаўка – сад, у засені

якога жыве шмат розных людзей.



Падгрушша Грушаўкі ўлучае ў сябе былы Нямецкі квартал з прылегласцямі і ўмоўна расцягваецца да лініі метро, якая дзеліць раёнчык напалам. Сюды ж я самахоць адношу і Маламядзвежынскі сквер, насупраць якога стаіць мой дом, азярынку Мухлю і Лютаранскі сквер на месцы старых Нямецкіх кладоў. Апошнім часам даведалася пра яшчэ два пахаванні на могілках, якія былі двойчы парушаныя (напрыканцы 1970-х і ў 2016 годзе). Дарэчы, тады апошні раз праявіўся брук даўняй Нямецкай вуліцы (цяперашняй Карла Лібкнехта). Яго выкапалі пры будаўніцтве дарогі, каб пазбыцца на гэты раз даастатку.

Менавіта тут, на Лютаранскіх могілках, знайшоў спачын бацька славутага, вельмі паважанага мной гісторыка Мікалая Улашчыка – Мікалай Феліцыянавіч. Пра гэта распавяла ягоная ўнучатая пляменніца Таццяна Уладзіміраўна, былая першая настаўніца ў беларускім класе маёй дачкі. А святар Хведар Крыванос распавёў пра трагедыю, што адбылася тут у 1933 годзе. Якраз сюды, на тагачасную ўскраіну горада, канваіры менскай турмы прывезлі і расстралялі епіскапа слуцкага Мікалая Шамяцілу. Настаяцеля Слуцкага Свята-Мікалаеўскага сабора, аднакурсніка рэлігійнага філосафа Паўла Фларэнскага, знаўцу старажытных моваў, святара, які падтрымаў антыбальшавіцкае Слуцкае паўстанне, які выступаў за беларускія школы і сам служыў у царкве па-беларуску. Сведкам расстрэлу быў выпадковы мінак-чыгуначнік, жыхар Грушаўкі, які ведаў епіскапа Мікалая ў твар. Мікалай Шамяціла нарадзіўся ў 1877 годзе. Акурат тады на Лютаранскіх могілках пахавалі славутага менскага акушэра Вільгельма Гіндэнбурга.

Блізкае сонца прадчуваюць рудыя ствалы хвояў Маламядзвежынскага сквера. Сонца яшчэ і блізка няма, а яны, нібы нагрэтая печ, пачынаюць выпраменьваць не толькі цяпло, але і святло. Хвоі першымі вітаюць сонечны дзень. Пасля далучаюцца птушкі. І сабакі. Адно крумкачы сядзяць, як сычы, нерухома колькі гадзінаў і маўкліва паглядаюць на поўдзень. Нядаўні Хаўер пашкодзіў вершаліну высачэзнай хвоі насупраць дома, і цяпер на гэтым ссохлым рудым урочышчы штодня адбываюцца сходы, соймы, суды-перасуды ўсіх мажлівых маламядзвежынскіх птушак. Калі найбольш шчыруюць сарокі – чакай непагадзь. А ў красавіку птушкі сваімі галасамі пераймаюць тэлефонныя званкі. Дастаеш мабільнік з кішэні, а гэта сінічка праспявала, пралятаючы...

...Стукат абцасікаў пад акном падаецца мне самым аўтэнтычным гарадскім гукам. Часам яны цокаюць на світанку. Заўсёды прыдумляю сабе гісторыю вяртання-ўцёкаў. Але шчаслівую гісторыю. Бо занадта лёгка і імкліва стукаюць абцасікі ў свежым прыцемку. Чамусьці паўстае вобраз Міхася Стральцова ў балоневым плашчы. Нібы яны да яго скіраваныя.

Калі не спіцца, заўсёды ўяўляю сабе прытульнае месца ў прасторы, дзе гэта можна было б зрабіць у асалоду. Напрыклад, пад старой перакуленай лодкай на пясчаным беразе. Запаўзеш туды, як у схованку, кінеш на пясок якую посцілку, уладкуешся, прыслухаешся да голасу вады, праз шчыліны ды адшчэпы паўзіраешся ў прыцемкі, а пасля з адчуваннем поўнай адасобленасці ад свету засынаеш. Аднаго разу начны

штармавы вецер з боку Кальварыі і Маламядзвежынскага сквера дапамог “заснуць” у рыбацкім буданчыку на беразе батумскага мора, бо пляскатыя каменьчыкі не даляталі да сценаў, а толькі з шумам накочваліся на бераг і перайначвалі ягоны зменлівы краявід дарэшты.

У небе над Грушаўкай з Падгрушшам пралягаюць нябачныя з паверхні зямлі паветраныя шляхі, і яно раз-пораз разрываецца ад гуду цяжкагрузных самалётаў. Асабліва церпяць грушаўскія жыхары, улучна з птушкамі, коткамі ды сабакамі ў дні рэпетыцый парада. Мілітарны дух падхопліваюць сірэны машын, і тады над раёнчыкам распачынаецца апраметны шал. Думаю ў такія моманты пра маці. Калі ёй было гадоў дзесяць, яна разам з бацькамі, ратуючыся ад нямецкіх налётаў, хавалася ў выкапаных на гародзе за домам у Ваўкавыску ямінах. Гэта было страшна. А што цяпер? Чаму яна, такая слабенькая, мусіць ізноў праз столькі гадоў уціскацца ў ложак, прачынацца ад гуду над галавой, згадваючы той дзіцячы жах? Навошта?

Насамрэч, Грушаўка з Падгрушшам, калі іх пакідаюць у спакоі бамбавікі і газонакасілкі, – ціхуткае месца. Прынамсі, добра чутныя адно сваркі з фортак дамоў ды шчыраванні хрушчоў, што шчэмяцца ўночы ў шчыліны вокнаў хрушчовак. Асабліва чуйныя тутэйшыя каты. Адзін такі руды кот моцна здзівіў мяне аднойчы па дарозе да метро. Ён з будыскім спакоем сядзеў пасярод сцяжыны і мружыўся на сонцы. Ідучы нягучнай хадой у мяккіх туфліках метраў за пяць ад занураная ў нірвану ката, раптам паскрэбла пазуркамі па галаве. У тое самае імгненне кот, відавочна пачуўшы нечаканы рып, ажно падскочыў, натаропіўся, выструніўся ў дугу і, з асцярогаю гледзячы, збочыў са сцяжыны ў прысень юлёвага бэзу. Каб быць сапраўдным слухачом, трэба нарадзіцца рудым грушаўскім катом!

У нашым раёнчыку шмат людзей, пра якіх памятаю, што гэта былы вайсковец, шавец, кіроўца... А цяпер яны сядзяць на лаўках ап’янелыя і пакамечаныя... Заўсёды вітаюцца, часам пазычаюць крыху грошай, часам паміраюць... Але, што дзіва, яны ў гэтых старых дварах засталіся, бадай, адзінымі носьбітамі памяці пра ранейшых жыхароў... І бывае, запыняюць і згадваюць-згадваюць, – дзе тут бэз рос, дзе дзікая сліва, дзе трытоны вадзіліся... Можа, таму, што і я памятаю пра гэта. А Эдзік-футбаліст з суседняга дома, які заўсёды насіў паласатыя гетры, быў хударлявым бландзінам,



а цяпер распаўнеў, кульгае і мае чырвоны твар.. Але чулліва прыгадаў даўнюю дзіцячую дражнілку: “Эдзя-Бэдзя футбаліст, у цябе ў кішэні гліст!” Пасмяяліся. А на развітанне пацалаваў руку.

З вышыні майго чацвёртага паверха часам чуваць, як рыпіць снег пад нагамі мінакоў. А раніцой, ступаючы па пратаптаных у глыбокім снезе сцежках, з удзячнасцю прымаеш гэта як клопат нябачных людзей, як бескарысную ўвагу нібы і да цябе таксама.

*Яны запаволена крочылі*
*па бруку маёй вуліцы,*
*міналі гаўбцы і выгбіны*
*і шэрыя сцены дамоў.*
*Быў вечар – гадзіна няшпорная,*
*ды толькі зэгар на ратушы*
*настойліва сведчыў ноч.*
*На тварах іх несмяротных*
*луналі ціхія цені*
*пустэльнікаў ці выгнанцаў,*
*ды толькі не мінакоў.*
*Калі ўзыходзіла сонца*
*над бедным маім местам,*
*такім пустым і бязмежным,*
*ужо не было слядоў.*
*Трыпутнік – насенне Богава.*

Чарговая сустрэча ў траўні на Грушаўцы. Незнаёмая бабулечка спыніла на хаду і звярнулася з парадаю, як лекаваць вочы, каб выбавіць іх ад уяўнага пяску ды туману. Маўляў, стань роўненька, каб каленкі побач, але без напругі, і ўяві водаправодны кран, які ты мусіш павярнуць у іншы бок – супраць гадзіннікавай стрэлкі. І калі пальецца ўяўная вада – падстаўляй пад “струмень” вочкі, каб прамыліся... Я яе ні пра што не пыталася. Ішла сабе і ішла, але ж з трывожнай думкай пра свае вочы, што апошнім часам стамляюцца і туманяцца... Бабулечка-анёліца, што зляцела з галіны заквітнелай грушы?

– Я дзяўчынкай думала, што чалавек народзіцца і будзе жыць... А аказалася, што ўсё не так, усё занадта хутка... Час ад сямідзесяці да васьмідзесяці быў самым імклівым, – падзялілася спадарыня Валянціна, жыхарка Снежнага завулку, з якога акурат бачная мая ўлюбёная Каралева-Груша на ўскрайку Падгрушша. Яна сядзела на арэлях з цыратавай торбай на каленях, і яе ногі не даставалі зямлі. Сухенькія пальцы моцна трымаліся за парэнчы, а нагамі намагалася надаць рух цяжкому жалезу... Кабета казала па-беларуску, і я раптам згадала, якім дзівам было сустрэць у маім гарадскім дзяцінстве гаворку на нязвыклай мове. Прайшло столькі часу, але выразна памятаю дзве няспешныя постаці ў даўгіх палітонах і капелюшах у парку Горкага, якія размаўлялі на незразумелай птушынай мове. На ідыш. Тут, у Грушаўцы з Падгрушшам, таксама можна было пачуць калісьці розныя мовы, а беларускую – найперш ад паэта і кампазітара Сяргея Новіка-Пеюна, а яшчэ ад пісьменнікаў, паэтаў і гісторыкаў, якія ў розныя часы дзівоснай чарадой праляталі і прызямляліся ў гэтым менскім раёнчыку.

Аднаго разу мая малая дачка прыдумала, што сусвет знаходзіцца на кончыку языка сабакі. А мы са школьнай сяброўкай Ірай уяўлялі сусвет сінім плашчом, на манжэце якога месціцца нашая не самая вялікая галактыка. Мажліва, той сабака і цяпер сядзіць пад дрэвам у грушавым садзе, а ягоны сівы гаспадар у сінім плашчы кліча яго на шпацыр.

*Фотаздымкі аўтаркі.*



Марына Яўсейчык



...Цяпер іх у камеры двое.

Двое асуджаных на смерць.

Ён і ягоны Крык...

# Замова ад "вавка"

## 1

*Ён* ужо бачыў Смерць. Яна прыходзіла да яго не ў шахматы гуляць. Ды і ўвогуле, не да яго яна спяшалася пехам па той самай шашы, дзе *ён* ехаў на ровары, па-добраму ўсміхаючыся сам сабе.

Наглядзеўшыся ў дзяцінстве амерыканскіх жахліўчыкаў, *ён* думаў, што Смерць прыходзіць толькі ўначы ці на досвітку. Прыходзіць у выглядзе духу смерці, які пужае, а пасля забівае чалавека, калечачы, раздзіраючы яго цела на шматкі.

Але цяпер быў абедзенны час, тая летняя пара, калі паветра, добра разагрэтае сонцам, нібыта скварчыць, як яешня на патэльні. У такія дні *ён* казаў маці, паказваючы рукою на далягляд: *"Глядзі! Бачыш, як паветра трымціць?! Гарачыня калоціцца"*. Пра ўсе свае назіранні расказваў з захапленнем у позірку, з іскрынкай у вачах. Як *ён* любіў жыццё! А жыццё таксама любіла яго, паказваючы свае праявы. Маўляў, на, глядзі, нікому больш такое не паказваю, толькі табе. І сёння жыццё паказала яму Смерць. Паказала, як тая рухалася, углядаючыся пустым позіркам у далячынь, ідавочна, шукаючы ў прасторы чалавека, якога мусіць забраць з сабою.

Калі *ён* убачыў касу, перакінутую праз плячо, іранічна ўсміхнуўся: *“Дык яна сапраўды такая, якой апісваюць у казках? Аднак яна яшчэ больш абыякавая і спустошана-гнілая, чым пра яе ўяўляюць. І каса. Чаму яна не ўзвышаецца над галавою Смерці, а панура вісіць на плячах? Можа, яна стамілася несці касcё свайго смяротнага сцяга, высока падняўшы яго ўгару, а можа, проста самлела на сонцы і, пакуль не дасягне сваёй мэты, не акрыяе яе смярдзючы дух”.*

Яшчэ хвіліну таму *ён* ляцеў на ровары, адчуваючы лёгкасць і свабоду, дыхаючы неўтаймоўным ветрам. Калі Смерць параўнялася з ім, *ён* скінуў хуткасць, на якой імчаў. Цяпер толькі паволі перабіраў педалямі. Пры гэтым паглядваў улева, стараючыся падрабязней разгледзець вобраз сваёй спадарожніцы. Нездарма ж тая крочыла нага ў нагу з ім. Праўда, рабіла гэта, не дакранаючыся да нагрэтай паверхні асфальту. Бачная толькі яму здань спаважна крочыла, перабіраючы нагамі ў паветры. Адмыслова рухалася з такой хуткасцю, каб праваруч яе заўжды быў раварыст, які аглядаў яе. *“Можа, ёй таксама цікава хоць адным вокам павывучаць мяне? Але не бачу яе вачэй. На іх месцы заўважны толькі яміны”. Ён* узгадаў свае школьныя гады: поле, праз якое хадзіў на ўрокі; сцежку, утаптаную за дзень сотнямі ног; яміны на той сцежцы. Як збіралі яны ваду і снег, назапашваючы іх надалей. І што ў гэтых ямінах нельга было ўбачыць збітага нагамі, цвёрдага і цёмнага, як чортаў камень, дна. *“Цікава, што чакае мяне пасля гэтай таемнай сустрэчы са Смерцю?”* – разважаў *ён*.

За першай сустрэчай была яшчэ другая і трэцяя, чацвёртая і пятая. *Ён* перастаў ужо лічыць іх, бо ў яго з’явілася здольнасць бачыць Смерць і яе акрываўленую касу. Часам, калі яна з’яўлялася, яго думкі пачыналі рыфмавацца ў няскончаныя вершы, якія *ён* ніколі ў жыцці не стаў бы запісваць на паперы:*“Што нясу я? Касу нясу, ссяку я тваю галаву, на далоні мне ўпадзе, душу тваю ў змрок занясе”.*

Аднойчы ўбачыў, як Смерць выходзіць з дома яго бацькоў, дзе ён жыў. *“Напэўна, справы мае дрэнь, калі яна ўжо тут”.* Але *ён* узгадаў, што жыццё любіць яго і не дасць у крыўду, і яму стала крыху спакайней.

*Ён* не бачыў, што Смерць выйшла з яго пакоя, але інтуітыўна адчуў гэта. Яна была *там*, стаяла ля чорна-белых фотаздымкаў яго дзядоў, якія пад шклом ў рамках былі развешаны на сцяне. Яна ўглядалася ў твары людзей, шукала, хто якой смерцю памёр. *“Самагубстваў і забойстваў у маім родзе не было. Мужчыны адыходзілі кожны ў свой час, праўда, маладымі”. Ён* запытаўся ў свайго сэрца: *“Няўжо яна і па іх прыходзіла?! Бо ўглядалася ў твары так, быццам бы ведае іх”.* Аднак яго сэрца не ўмела гаварыць, таму прамаўчала. *“Няўжо мае справы яшчэ горшыя, чым я думаю?”*

*Ён* не баяўся Смерці, яе бязгучнага з’яўлення. *Ён* ведаў, што яго моцна трымае зямля, нібыта ён яе карэнне. Аднак з’явілася думка, ад якой ёкнула сэрца: *“Што ж чакае мяне, калі я не патрэбны нават Смерці?! Не забраць мяне прыходзіць, з’яўляецца, як здань, толькі на хвіліначку хоча пабачыцца. Цьфу ты!* – ён плюнуў праз левае плячо. – *Смярдзючая палюбоўніца!”*

Смерць сапраўды смярдзела. Пахнуць яна не ўмела, бо ад свайго з’яўлення не была прывучана да прыхарошвання і ўсмешак, не было ў яе пекнай дзявочай красы, жаночага харàства. Яна ўмела толькі біць у нос сваім смуродам, падказваючы пра чыйсьці хуткі скон. І чым бліжэйшай была чыясьці згуба, тым мацней смярдзючае патыханне напаўняла прастору вакол Смерці.

*Ён* узгадаў, што бабуля ўмела шаптаць замовы ад крыксаў, ад зыксаў, ад начніц, ад злякаў і прыстрэкаў, ад пераходу, ад ятрасці, ад залатніка, ад жывата, ад скулы, ад гадзюкі, малітвы ў дарогу і малітвы для скаціны.

*Ён* пайшоў па бабульчын сшытак з чарадзейнымі словамі ў свой пакой, з якога пару хвілін таму выйшла Смерць. Адчыніў шафу, там, паміж коўдрамі, намацаў чорную слізкую вокладку. *“Так, гэта той, паўагульны сшытак у клетачку”.* Пачаў

гартаць старонкі, шукаючы замову ад Смерці. Але не знайшоў. *“Адкуль жа яна тады шаптала?”*– здзівіўся *ён*.

Унук сваёй бабулі, *ён* яшчэ з дзяцінства памятаў, як старая штосьці шаптала над дзіцём, што памірала, якому і годзіка не было. Выратавала немаўля ад магільнага холаду, хоць тое ляжала ўжо счарнелае. Жыцця ў целе заставалася на адну валасіну. Бабуля моцна трымала яе абедзвюма рукамі і змагла-такі ўтрымаць. Калі вечны сон папусціўся, немаўлятка пачало наліваcца сокамі жыцця, нібыта яблычак, які спеў на вачах. *“І гэта быў цуд! Цуд для бацькоў таго дзіцяці і для мяне, малога”*.

Таму зараз *ён* быў упэўнены, што знойдзе сярод бабульчыных запісаў і замову ад Смерці, каб тая больш не прыходзіла да яго. Але не знайшоў. Раптоўна адчуў, што ў хуткім часе яму будзе пагражаць вельмі моцная сіла, якую не адужае. Сілу гэтую будзе трымаць у руцэ невядомы. Ад нечаканай веды, што адкрылася яму, стала млосна і душна. *“Значыць, я не сам памру? Памру не сваёй смерцю? Вось чаму смярдзючая прыходзіла да мяне і не забрала з сабою...”* Яго голас дрыжэў, сам *ён* сцяўся, зацвярдзеў, як камель дужага дрэва.

## 2

Столькі харастава, народжанага прыродай, ззяння, бліштэння, зіхацення, свячэння, прамяністасці, грання святла і сонечных пераліваў, як у сённяшні жнівеньскі дзень, *ён* не бачыў за ўсё лета! Такой ураджайнай прыгажосці і асляпляльнай любові касмічнага, боскага святла ў прыродзе не было нават на сонцастаянне ў чэрвені – у самы доўгі летні дзень, на свята Сонца.

Тады наваколле радавалася, смяялася і рагатала; буяла, свавоціла, юрліла; жартаўліва заляцалася, паказваючы сваю раскошу. Прырода клікала да сябе і за сабою. Цяпер жа, на Іллю, яна спыніла свой бег, лёгкай павольнай хадою завяла ў свае чары, даўшы паглядзець на магію святла ў травах і кветках, дрэўцах, яблычках і грушках *яго* саду. Напоўненыя сонечнай празрыстасцю і чысцінёй, яны спаражнялі, выпраменьваючы з сябе, назапашанае святло.

Адчуваючы хуткі пераход з лета ў восень, кветкі туліліся адна да адной – сяброўкі, цягнуліся да касмічнага Сонца, каб памілавацца ў апошнім цяпле. Хутка ўжо адбудзецца згасанне летняй сілы і моцы, яе гаючасці. Яна пяройдзе з траваў у крыніцы, перадаўшы ім свой агонь жыцця і волі.

Гэта быў яго апошні дзень на волі. Назаўтра *яго* забралі ў якасці падазронага ў жорсткім забойстве аднавяскоўцаў. Баяна і яго жонку Маланю з двума дзецьмі знайшлі ў ванне парэзанымі на кавалкі бензапілой.

Сапраўднае імя Баяна – Барыс, 1980 года нараджэння. Яго пазбавілі жыцця ў 38 гадоў. Беспрацоўны, хадзіў у калым, гэта значыць выконваў работу, якую прапаноўвалі аднавяскоўцы. Плацілі яму самагонкай ці гарэлкай ды абедам, часам давалі рублі. Некалькі разоў сядзеў у ЛПП (лячэбна-працоўны прафілакторый). Біў жонку, пра што ведала ўся ваколіца. Меў дваіх няпоўнагадовых дзяцей, якіх таксама біў.

*“Мяне хутка адпусцяць, я ж нікога не забіваў. Толькі дам паказанні і вярнуся дадому. Яны не мусяць надоўга затрымліваць невінаватага. Сапраўднага забойцу абавязкова знойдуць”*, – думаў *ён*, пераступаючы парог дома ў накірунку да міліцэйскай машыны. Не ведаў, што сапраўднага забойцу ўжо знайшлі. Ім быў Грымслаў – жыхар суседняй вёскі Каразнішчыцы. Прыходзіў у Чырвоную Горку да субутэльнікаў, сярод якіх найлепшым сябрам быў забіты Баян.

Барыса празвалі Баянам за яго здольнасць так распавядаць выдуманыя гісторыі, нібыта ён і сапраўды бачыў усё апетае ім ці быў удзельнікам прыгод, пра якія з ятрасцю, не помнячы сябе, апавядаў. *“Я ведаю яшчэ адзін сакрэт мянушкі Баян. Барыс пераўтвараўся ў Баяна, калі бегаў, як дзікун, па доме з заведзенай бензапілой і разносіў на шмаццё мэблю, ліхім крыкам крычучы, нібыта яго хто рэзаў.*

*На ўсю моц крычаў-рычэў, абліваючы мацюкамі спалоханых жонку і дзяцей. Нема крычаў. Гэты крык быў для Барыса як песня, якую ён спяваў усёй сваёй душой. Здавалася, яго чула ўся наша Чырвоная Горка. І ніхто не бег ратаваць Маланню і яе сыноў. А Барыс, ператварыўшыся ў Баяна пад уздзеяннем алкаголю, ва ўсёй красе паказваў свой звярыны твар. Аднойчы я таксама ўбачыў гэты твар, калі не вытрымаў і ўсё ж убег у іх дом. Тады, падалося, сустрэўся не з Баянам, а з вобразам смерці, такі ён быў страшны. Хто ведае, можа, Барыс быў пярэваратнем, гэткім павей-ветрам, які пераўвасабляўся ў міфічных істот?..”*

Грыміслава знайшлі ноччу. Пануры, ён сядзеў на ўзлессі за сваімі Каразнішчыцамі. На яго руках былі заўважныя плямы засохлай крыві – не ўсю абцёр. Пры затрыманні на мужчыну напала трасучка. Каб вы толькі бачылі, як яго цела хадзіла хадуном! Сядзеў, нібы сабака, падцяўшы хвост, а вочы – поўныя страху. Сваю віну прызнаў не адразу. Доўга аднекваўся. Але навідавоку былі доказы, супраць якіх не пойдзеш, таму і сазнаўся. Праўда, зрабіў гэта няшчыра, п’яным языком прыплёўшы да справы свайго знаёмага, Баянавага суседа, якому ўсё жыццё зайздросціў. Языча, язычa, які чорт цябе кліча? Грымíславу п’янства розум з’ела, таму і пацягнуў за сабой на дно невінаватага, бо “языку дай волю – завядзе ў няволю”, а пазней выказанага слова да губы не вернеш.

З таго здарэння і пачаліся пакуты бязвіннага. Забіралі *яго*, дарэчы, калі неба бралася ўжо развідняць. Акурат пеўні яшчэ не спявалі – такая пара была. У гэтую самую пару і прыходзіць Смерць. А яна і сапраўды прыйшла пастаяць, паглядзець на тое, што адбываецца. Арыштаваны міліцыянерамі заўважыў яе і ў думках пачаў праганяць: *“І ты тут, пачвара?! Згінь, крывуля! Выпруціся, кавенька! Не дачакаешся маёй смерці!”*

Пра смерць *ён* ведаў шмат чаго. Напрыклад, што за асабліва цяжкія злачынствы ў Беларусі маглі даць вышэйшую меру пакарання – расстрэл. Тады па асуджанага прыходзіла не міфічная істота ў вобразах Мары ці Чорнай альбо Белай Бабы, а самы звычайны чалавек, з жывым гучным сэрцам у грудзях і цёплай крывёю, якая цякла па жылах. Гэты чалавек (выканаўца) мусіць узяць у рукі расстрэльны пісталет і пад прыглядам кіраўніка расстрэльнай каманды і начальніка СІЗА спакойна і стрымана стрэліць у патыліцу асуджанаму.

*Ён* быў моцным чалавекам, меў жыццёвую закалку, але ненавідзеў гвалт і ў сэрцы гневаўся з жорсткага абыходжання людзей з людзьмі. *Ён* ніяк не мог усвядоміць, што ў дзевяцімільённай Беларусі ёсць работа выканаўцы, лічы – забойцы. *“Гэта ж колькіх людзей трэба псіхалагічна ператварыць у звяроў, каб здзейсніць расстрэл аднаго чалавека! Суддзі, пракуроры, супрацоўнікі СІЗА, расстрэльная каманда, сам выканаўца, медыкі... Яны ўсе частка нашага грамадства, бо мы дазволілі ім быць нашай супольнасцю”.*

Пра смерць *ён* ведаў шмат чаго, бо шмат чытаў. Аднойчы яму ў рукі трапіла кніга пра смяротнае пакаранне ў Беларусі, якая акрамя заканадаўчых дакументаў утрымлівала інтэрв’ю з праваабаронцамі і, галоўнае, з былым начальнікам СІЗА №1 у Мінску Алегам Алкаевым, пад чыім кіраўніцтвам было здзейснена каля 150 смяротных прысудаў. *Ён* чытаў і разумеў, што ў большасць апісаных фактаў яму цяжка паверыць. Яны, гэтыя факты, скалыхнулі яго душу, прымусілі пражыць асобнае жыццё пад знакам смяротнага пакарання. Чытаў і, падавалася, адчуваў у роце рэзкі, востра-горкі прысмак небяспекі, з-за якога не мог ні піць, ні есці, а цягнула на ваніты.

*Ён* пражыў, а не прачытаў тыя трыста старонак з гісторыі смяротнага пакарання яго краіны, яго незалежнай дзяржавы. Яна адзіная з усіх постсавецкіх краін трымаецца, што ёсць моцы, за крывавыя кіпцюры савецкай спадчыны, выносячы ў якасці прысудаў расстрэлы.

*“Маё сэрца баліць і плача, што наш край спасцігла няўдача. Ды песні-жальбы не ўваскрэсяць нікога. Расстраляных – сотні мужчын. Асірацелыя маці і жонкі*

*льюць слёзы, слепнуць вочы іх. Целы сыноў і мужоў забаронена аддаваць. Забітых пахаваюць забойцы на невядомых могілках. Родным дашлюць толькі форму з літарамі "ИМН". Вышэйшая мера пакарання. У выканаўцы ці ёсць міласэрнасць? А ў дзяржавы ці ёсць Закон? Ганебна! Вельмі ганебна выносіць прысуды невінаватым. Памылка! Памылка судовая можа адбыцца! Чарговая. Разумееце, чарговая! І зноўку пральецца бязвінная крой... Рэабілітаваным імёнам не вернеш жыцця! То горкая праўда. Ды ланцуг смерцяў не перарываецца, нібыта яго трымае сам чорт. Пладова-ягадным абпіўся ён! Але яшчэ і яшчэ ў горла сваё залівае. Ліе і крывавы ланцуг моцна трымае. Лапамі трымае Апівень, ніколі не п'янее ён. Дагары нагамі свет перакуліўся, раз мірнай куляй смерці выклікаюць ды на расстрэл людзей пускаюць. Жорсткі прыгавор!" Ён* ніяк не мог суняцца, каб не думаць пра смяротнае пакаранне, пра несправядлівую смерць, пра смерць увогуле. *Ён* ніяк не мог суцішыцца з-за сваіх надрываў.

Вар'яцтва асуджаных на смерць, іх самазабойствы ў турме; садызм, жаданне выканаўцы прычыніць боль падчас смяротнага прысуду і задавальненне ад працэсу яго выканання; знявага чалавечай годнасці асуджаных у камеры смяротнікаў – пра ўсё *ён* перажываў душою, перажываў як сваё ўласнае. *"Можа, ад усіх гэтых жахаў, якія пусціў у сваё сэрца, і пачаў бачыць Смерць? Але дзіўна, што яна сама прыходзіць да мяне. Я ж не клічу яе. З'яўляецца нечакана і маўчыць. Хоць бы ўжо загаварыла калі..."*

Яна сапраўды прыходзіла да яго сама, *ён* не клікаў яе. Але аднойчы гасцяваў у яе сценах. У крэматорыі былога канцэнтрацыйнага лагера Аўшвіц-1, куды трапіў у складзе групы наведвальнікаў Дзяржаўнага музея "Аўшвіц-Бірнекау" ў Асвенцыме. Некаторыя ўстрымаліся ад паходу ў крэматорый, але *ён* пайшоў, аб чым моцна пашкадаваў. Бо ад жудасці не мог ісці ды разглядваць сцены, падлогу, дзве газавыя печы, рэканструяваныя з сапраўдных металічных элементаў, якія захаваліся з часоў Другой сусветнай. За суткі гэтыя печы спальвалі каля 350 цел.

*Ён* ішоў, апусціўшы галаву, нібыта пакараны на смерць. На колькі мог, затрымліваў дыханне, каб не ўдыхаць паветра з водарам смерці, які, нібыта якасная парфума, апынуўся даволі трывалым, жывучым, змог захавацца амаль на стагоддзе. У гэтай яго жывучасці і была небяспека, водар быў такі праўдзівы, што ўводзіў у зман людзей, якія мелі неасцярожнасць надыхацца яго ў крэматорыі. Падман быў просты: асобы страчвалі пачуццё рэальнасці і набывалі прыгнечанасць, эмацыйную падаўленасць, страх не выйсці з памяшкання, адмыслова пабудаванага для спальвання цел. Хто адчуваў жах – прыспешваў крокі ў надзеі хутчэй выйсці на вуліцу. Але штораз даводзілася прыпыняцца з-за цікаўных, якія няспешна ішлі наперадзе, як сапраўдныя музейныя вароны, разглядалі экспанаты, фатаграфавалі іх з розных бакоў, забыўшыся, што гэта і не экспанаты зусім, а сведкі генацыду, які людзі ўчынілі над людзьмі.

*"На тэрыторыі былога канцлагера Аўшвіц-Бірнекау я правёў некалькі гадзін. Там мяне таксама цягнула на ваніты, як і падчас чытання кнігі пра смяротнае пакаранне ў Беларусі. Я адмаўляўся верыць у тое, што бачылі мае вочы, што адчувала маё цела на тэрыторыі канцлагераў, і не мог паверыць у тое, што пазней прачытаў у кнізе. У 1996 годзе грамадства мірнай Беларусі шляхам галасавання на рэферэндуме вырашала, ці пакінуць у Беларусі смяротнае пакаранне. Тады 80,44 працэнта прагаласавалі "так". Сярод гэтай большасці маглі ж быць і тыя, хто выжыў у Другой сусветнай (Вялікай Айчыннай) вайне. Сярод гэтай большасці дакладна быў і я, унук сваёй бабулі, якая перажыла вайну. Быў і я, бо тады яшчэ не валодаў такой колькасцю інфармацыі пра смяротнае пакаранне, якую ведаю цяпер. Гэтае пытанне рэферэндуму мела кансультатыўны, а не абавязковы характар. Мы лёгка вынеслі вырак сваім грамадству, пазбавіўшы яго гуманнасці і чалавечнасці. Але як цяжка і пакутліва нам цяпер жывецца са сваім выбарам!.."*

*Ён* чытаў, што на момант рэферэндуму ў крымінальным заканадаўстве Рэспублікі Беларусь яшчэ не было такога віду пакарання, як пажыццёвае зняволенне. Найбольшы тэрмін, на які маглі пазбавіць волі, – 15 гадоў. *"Смяротнае пакаранне такое вузкапрафесійнае пытанне, такое складанае пытанне! Але нас, выбаршчыкаў, ніхто не кансультаваў па ім. Ад нас патрабавалася толькі прагаласаваць, выказаць асабістае меркаванне... Увогуле нельга было выносіць гэтае пытанне на ўсеагульнае галасаванне!"*

Грамадскае меркаванне, між іншым, сапраўды паўплывала на пазіцыю ўладных структур. Пасля рэферэндуму, у 1997 годзе, на смерць асудзілі 46 чалавек, у 1998-м расстралялі 47 асуджаных. Да рэферэндуму колькасць "убывших по приговору" не перавышала 30 чалавек.

Адзін з прыхільнікаў смяротнага пакарання сцвярджае, што "злаякасныя пухліны трэба выдаляць, а не песціць". Але, як паказвае сусветны досвед, пасля адмены смяротнага пакарання забойстваў не становіцца больш. Увогуле, злачынца, калі здзяйсняе забойства, не думае пра тое, што сам стане ахвярай у руках закона. *"Няхай бы дзяржава лепш паклапацілася аб прафілактыцы алкагалізму! Паводле статыстыкі праваахоўных органаў за 2014 год, у Магілёўскай і Гродзенскай абласцях усе (!) забойствы былі здзейснены ў стане алкагольнага ап'янення. Вы чуеце мяне? УСЕ забойствы! 100 працэнтаў забойстваў было ўчынена пасля алкагольнага ап'янення! Прасцей жа прадухіліць алкагалізм, чым забойства. Тады дзяржаве не спатрэбяцца і яе надзейныя хаўруснікі з расстрэльнай каманды".*

## 3

У *Яго* пашчыпвае ранка крыху вышэй правай лапаткі. Скура пачырванела і нібыта гарыць унутры, так моцна яму пячэ. Але гэтая балючая акалічнасць, здаецца, не турбуе яго. Сядзіць ці то стомлены, ці то пануры. Заўважна, што зацюканы, абяздолены і падаўлены. Твар хваравіта-бледны, ні крывінкі ў ім. Схуднелы і такі ўжо высахлы, як сцябло вераснёвага сланечніка, які з апошніх сіл цягне сокі з зямлі, каб толькі не ўпасці. *Яго* не пазнаць! Прыгнечаны горам чалавек сядзіць на нарах, утаропіўшы вочы ў кут сцяны, дзе поўзае маленькі чорны павук – яго сакамернік.

Падаецца, гэта было зусім нядаўна, у жніўні. Яго ашаламіла нечаканае здарэнне, якое адбылося з ім акурат у той час, калі Святы Ілля чарцей на зямлі ганяў ды гніллё на палі клаў. *"Лепш бы той Ілля мяне ў крыўду не даў! Відаць, спазніўся трохі са сваім з'яўленнем у нашу вёску, раз галоўнага чорта і не вывеў на чыстую ваду! Не выгнаў яго з Грыміслава, што той забойствы і ўчыніў. Сядзі цяпер тут, рыхтуйся... Да незваротнага. Праўду кажуць, што на рынку долі не купіш, а ў судзе праўды не знойдзеш".* Адбылася судовая памылка. Каго такім здарэннем цяпер здзівіш?

*Ён* памятаў пра справу Міхасевіча. Калі абвінавачаны ў забойстве жанчыны Уладзімір Гарэлаў адседзеў у турме 6 год і асляплым быў выпушчаны на волю. На следстве Гарэлаў прызнаў сваю віну, бо падвяргаўся катаванням. У 1986 годзе яго рэабілітавалі. Судовая памылка адбылася і з Алегам Адамавым, абвінавачаным у забойстве студэнткі ў 1984 годзе. Мужчына атрымаў 15 гадоў, але адседзеў толькі няпоўныя два гады. Самы трагічны выпадак па справе Міхасевіча адбыўся ў 1979 годзе, калі невінаватага ў забойстве жанчыны Мікалая Цярэню асудзілі да смяротнага пакарання і ў 1980 годзе расстралялі. Усяго было асуджана 14 бязвінных! А вінаватых у ціску на абвінавачаных, падробцы доказаў і дакументаў было каля 200 чалавек.

*"Ну і што зрабілі з тымі ірадамі? Далі вымовы і звольнілі альбо адправілі на пенсію! Рэальны тэрмін у чатыры гады атрымаў толькі Сарока, пракурор*

*Беларускай транспартнай пракуратуры, кіраўнік следчай групы па "справе Адамава". Траім далі ўмоўныя тэрміны пакарання – ад двух да двух з паловай гадоў пазбаўлення волі з прыцягненнем да працы на будоўлях народнай гаспадаркі. Суддзя патлумачыў іх дзеянні як "з ілжыва зразумелых інтарэсаў справы". Следчага Жаўняровіча ніяк не пакаралі, бо той быў ветэранам вайны. Разумееце?! Ён быў ветэранам вайны!"*

Мечыслаў Грыб, начальнік Упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама, які браў удзел у вышуку забойцы – Міхасевіча, тлумачыў судовыя памылкі як памылкі сістэмы, бо спакуса раскрыць забойствы любой цаной узнікае за ўзнагароды і прэміі.

* * *

У Каразнішчыцах і Чырвонай Горцы не змаўкалі вяскоўцы, абмяркоўвачы забойства сям'і Баяна. Імя Грымслава было на языках і ў старых, і ў маладых. Грымслаў нарэшце атрымаў вядомасць, якая адпавядала значэнню яго імені. Ды кепска, што вядомасць гэтая прыйшла з людабойнасцю. Другога забойцу не абмяркоўвалі, імя яго не ўзгадвалі. Бо той быў чалавек прыстойны, адукаваны і, галоўнае, непітушчы. Людзі не маглі даўмецца, як *Ён* мог стацца згубіцелем. Калі і казалі пра яго, дык толькі займеннікамі: *"той"*, *"гэты"*, *"ён"*. Казалі так, нібыта пісалі з вялікай літары, *"Той"*, *"Гэты"*,*"Ён"* – інтанацыйна, голасам вылучаючы літарную велічыню, якая наўмысна падкрэслівала павагу да аднавяскоўца.

Мужчыны, абмяркоўваючы судовую справу, перашэптваліся пра "вышку" – вышэйшую меру пакарання і пажыццёвае зняволенне. І гэтак жа шэптам выказвалі думку пра невінаватасць *"Таго"*. Чуйка ў мужыкоў была, што справа Барыса смярдзіць паленым. Але пра акалічнасці стану зняволенага, пра яго турэмны побыт не ведалі нават бацькі арыштаванага.

Атмасфера вакол *яго* была да жудасці змрочнай. З абласной турмы перавезлі ў Мінск. У гэтай камеры *ён* сядзіць адзін, падаўлены і гаротны. Сядзіць ужо некалькі месяцаў! Падаецца, жыццё нарэшце разлюбіла яго, адпусціўшы ў свет. *Ён* больш не быў карэннем, за якое так моцна трымалася яго зямля. *Ён*, нібыта раздроблены, стаў яе каменнем, а камяні зямля выкідвае з сябе. Камяні ёй не патрэбны. *Ён* адчувае сябе развеяным на ветры, нібыта попел. *Ён* адчувае сябе нікому не патрэбным вырадкам, нелюдзем. *"Мой Род. Што будзе з маім родам?"* – сядзіць і думае свае журботныя думкі, а яны, як песні-жальбы, усё цякуць няспынна ракою.

Цяпер яго жыццё – гэта камера памерам 3 на 6 метраў у новым спецкалідоры на Валадарцы. Корпус для падследных, зняволеных і смяротнікаў знаходзіцца на месцы былой стайні, пад адным крылом якой надбудавалі другі паверх. Стары спецкалідор, што існаваў пры Алкаеве, былым начальніку СІЗА №1, асуджаным падаваўся пеклам. Там бачылі самога Сталіна, які выходзіў з апраметнай і ўказваў пальцам на смяротніка, якога хацеў забраць з сабой. Таго і сапраўды расстрэльвалі на наступную ноч пасля з'яўлення прывіда.

*У камерах новага корпуса заўсёды цёпла, побач знаходзіцца бойлер. Ці горача, ці халадна, а ўсё адно трапіш у калідор смерці. Жывым з яго выйшаў толькі адзін смяротнік – памілаваны Сяргей Праціраеў. Яго перавялі ў Глыбокае, у "крытую зону". Для ўсіх астатніх соцень мужчынаў* камера смяротнікаў была "самым цэнтрам безнадзеі", як пісаў пра яе праваабаронца Алесь Бяляцкі.

*Адчынілася "кармушка", прынеслі абед. Ён з агідай узяў пахлёбку. "Ужо б і не карміліі..." – так яму надакучыла гэтае турэмнае жыццё са штодзённым чаканнем! Пластыкавая аранжавая лыжка, пластыкавая аранжавая талерка, пластыкавы аранжавы кубак. "Яшчэ крыху, і я заспяваю сваю аранжавую песню*

*вар'ята". Вар'яцтва ў камерах смяротнікаў праяўляецца па-рознаму. Расстраляны Васіль Юзэпчук качаўся па падлозе і спяваў: "А я сяду в кабриолет и уеду куда-нибудь..."Канечне, ён нікуды не з'ехаў, а, як і ўсе, "убыл по приговору". Раней, пры Саветах, у пасведчанні аб смерці маглі напісаць не "расстрэл", а "запаленне мозгу". Пра гэтую цікавую акалічнасць распавялі даследчыку Юрасю Копціку сваякі расстраляных, з якімі ён сустракаўся.*

*Каб змагацца з вар'яцтвам смяротнікаў, іх "падкормліваюць" транквілізатарамі і антыдэпрэсантамі. Але дзеяння лекаў хапае ненадоўга, таму дозу павялічваюць штодня.*

Перыяд паміж вынясеннем прысуду і яго выкананнем можа доўжыцца больш за год, таму не дзіва, што людзі страчваюць розум, седзячы ў камерах і чакаючы расстрэлу. У часы працы Алкаева, былога кіраўніка СІЗА №1, была група асоб, якія пісалі наглядныя скаргі, касацыйныя скаргі ў Вярхоўны суд, хадайніцтвы ў Камісію па памілаванні. Тыя асуджаныя чакалі выканання прысуду паўтара года. *"Я не скардзіўся і скардзіцца не буду нікому. Асабліва прэзідэнту. Ён усё роўна не памілуе. Памілаванне – гэта ж праява гуманізму, чалавекалюбства і міласэрнасці. А як можна пашкадаваць чалавека, прачытаўшы яго крымінальную справу? Асабліва радок пра "забойства з асаблівай жорсткасцю". Калі сам суд даў "вышку", як прэзідэнт можа аспрэчваць такі вырак? Пра судовую памылку даведаюцца хіба што пасля маёй смерці. Ці не даведаюцца? Альбо, даведаўшыся, моўчкі, ціхенька схаваюць ад грамадства?"*

У краіне ёсць альтэрнатыва смяротнаму пакаранню – пажыццёвае зняволенне. Разам з ім у грамадстве існуе трывалае меркаванне пра занадта дарагое для дзяржавы ўтрыманне злачынцаў у турме. Аднак адкрытай інфармацыі пра гэта няма.

*"Каб жа ведаць пра свой канец! Каб жа ведаць яго дакладную дату! Але не кажуць. Нікому і ніколі не кажуць. Можа, у Смерці запытацца, калі па мяне прыйдуць тыя звяры, тыя каты? Можа, у Смерці запытацца, калі, у які дзень якога года? У гэтым альбо ўжо ў наступным годзе завяжуць мне вочы, завядуць у спецпамяшканне з выканаўцам, з пісталетам? Мне праўда стрэляць у патыліцу? Мяне заб'юць? Мяне заб'е чалавек? Не! Нееее! Каты, іроды праклятыя, душагубы! Я жыць хачу! Сволачы! Сукіны сыны! Нееее!..."*

*Ён* крычыць на ўсё горла. Крычыць на ўсе турэмныя бэжава-жоўтыя сцены. На ўсе турэмныя лыжкі, кубкі і талеркі. На аранжавыя лыжкі, кубкі і талеркі. *Ён* так крычыць, так заходзіцца, так дзярэ сваё горла, што яго бледны, як вымачаны, твар пачырванеў, наліўся крывёю. *Ён* хоча, усім сваім целам хоча, усімі сваімі касцьмі хоча, каб яго разарвала. Разарвала зараз, у гэтае імгненне, калі яго крык праявіўся, аддзяліўшыся ад *яго*, стаў самастойным, выпрастаў сваю спіну, зрабіўся высокім і дужым. Цяпер іх у камеры двое. Двое асуджаных на смерць. *Ён і ягоны Крык.*

* * *

*"Не ламі белай касці, не ламі жоўтай касці... Кіеўскія, пячэрскія... Маці Божая хадзіла, Хрыста за ручку вадзіла... Быў явар, за тым яварам... Першым разам, Гасподнім казам... Другім разам, Гасподнім казам... Першаю зарою, другою зарою... Зара-зараніца, чыста дзявіца... Куркі-сястрычкі..."*

*Ён* перабірае ў памяці словы-замовы з бабульчынага сшытка ў клетачку, спрабуючы знайсці тыя самыя, запаветныя, самыя патрэбныя, так патрэбныя яму зараз словы-замовы. Але іх няма. Знерваваны, лёг на нары, скруціўся абаранкам і задрамаў, сасніўшы маму.

З маці *ён* бачыўся адзін раз, калі сядзеў у абласной турме. Толькі тады мама змагла адужаць кіламетры, што раздзялялі яе з сынам. Прыезд у Мінск быў для яе ўзросту ўжо непераадольны.*"У свае 71 год матуля што ні дзень хварэла на новы боль. То ногі ацякуць, зробяцца як калодкі, што ні сагнуць, ні разагнуць; то*

*сэрца паміраць збіраецца, і маці дзень ляжыць, у думках рыхтуючыся да свайго скону. А назаўтра, акрыленая, пачынае порацца па гаспадарцы. Бацькі ўжо даўно не трымалі скаціну. Усяго і клопатаў было, што гарод. Ды і той упарадкоўвалі з апошніх сіл, цягнулі, як запрэжаныя коні цягнуць непадымны воз з дажынкамі. Дапамагаў ім, вядома. Але я не такі апантаны земляроб, як яны. Зараз бы на зямлі папрацаваць... Ох, як бы я папрацаваў на сваёй зямлі!.. Але яна адрынула мяне, хоць нават зелле трымае пры сабе".*

*Яго* маці толькі аднойчы загаварыла з суседзямі пра сына: *"Ён трапіў у лапы следчых, а там усё могуць прыпісаць. Не было такога, як яны кажуць, вот што я скажу вам, людцы добрыя".* Пра "лапы *следчых*", якія прыпісваюць ўсё, што заўгодна, казала і маці Паўла Селюна, расстралянага ў 2014 годзе. Супрацоўнікі СІЗА запомнілі 23-гадовага хлопца як кніжніка, бо той не выпускаў з рук гісторыю і філасофію. *"А ці можна ўвогуле давяраць тым следчым? Я ж не ведаю, што казалі маёй матулі пра мяне і ці паверыла яна. Мой следчы мог адрэзаць словамі следчага па справе Ігара Гершанкова: "Нават не рыпайцеся, яму канец". З дня затрымання Гершанкова прайшло толькі некалькі дзён, а на ім ўжо паставілі крыж. Гэтак робіцца ў мэтах запужвання родных? Альбо каб паказаць сваю ўсеўладную моц над чалавекам? Ці з мэтай прыніжэння арыштаванага, каб абязлічыць яго?"*

Расстрэл можа стаць развязкай у жыццёвай гісторыі толькі для чалавека, пазбаўленага жыцця. Для яго родных расстрэл – гэта кульмінацыйны момант у нясконченай гісторыі роду, пасля якога іх чакае працяг – незваротна змененае ўласнае жыццё. *"Жыццё дык працягнецца, гэта, канечне, бясспрэчна. Але якім пакутлівым яно будзе для дзяцей расстралянага, для яго бацькоў, для братоў і сясцёр! Іх жа ніхто не падтрымае псіхалагічна. У Беларусі няма адмысловых службаў, якія рабілі б гэта. А што адбудзецца з душою расстралянага? Яна трапіць у апраметную да Сталіна ці на неба да Хрыста?"* Нібыта ў пацвярджэнне *яго* развагам на сайце праваабарончага цэнтра "Вясна" з'явіўся артыкул "Лепш бы яны мяне расстралялі". Як жывуць родныя асуджаных на смяротнае пакаранне". Шкада, *Ён* ужо не прачытае гэтае інтэрв'ю з маці і роднымі, чые сыны і мужы "убыли по приговору".

* * *

Хадзіць у царкву *ён* любіў толькі ў дзяцінстве, калі свет здаваўся яму магічным і бязмежным у сваіх праявах. Тады жыццё паказвала яму не Смерць, а Радасць. Маці Божая радавался разам з ім, малым. Усміхалася яму, як усміхалася яго бабуля-лекарка. *Ён* думаў, што бабуля жыве дзесьці высока на небе, побач са святымі, але сыходзіць на зямлю, каб дапамагаць людзям, выганяючы з іх целаў розныя злякі і прыстрэкі, сурокі і немачы.

*Ён* ведаў, што царква лічыць жыццё Дарам Божым, але не разумеў, чаму некаторыя святары раскідваюцца гэтым Дарам, падтрымліваючы смяротнае пакаранне. *"А яно ж "яшчэ адзін цвік ва ўкрыжаванні Хрыста", як выказаўся мітрапаліт Філарэт. Уяўляеце, які грэх на душу бярэ дзяржава, здзяйсняючы забойствы рукамі выканаўцы прысудаў?! Грэх помсты! Нельга адказваць забойствам на забойства, чуеце? Нельга! "Звычай "вока за вока" робіць свет сляпым", – падаецца, менавіта так сказаў Махатма Гандзі. А я кажу, калі свет аслепне, усе людзі ператворацца ў зграю крыважэрных ваўкоў".*

*Ён* разумеў, што жудаснае ператварэнне ўжо даўно пачалося і яго не спыніць. Цела пацяжэла, *ён* пачуў выццё ў галаве. Абхапіў яе рукамі, заплюшчыў вочы і, не памятаючы сябе, зваліўся з нізюткіх нараў на падлогу. *"Выыыы! Вууууу! Ваўкі выюць! Вёска ваўкамі вые. Ваўкі вітаюць вандроўніка. Ваўкі восенню ветрам выюць. Ваўкі вартуюць ваколіцу. Выюць. Вартуюць. Выюць. Вартуюць. Вуліцай ваўкі вядуць вандроўніка. Выюць вайною. Выыыы! Вууууу!..."*– не сунімаецца выццё ў *яго* галаве. Здаецца, яна расколецца, як спелы кавун. *Ён* пачаў яйкам качацца па

падлозе, галосячы: *“Бабулька! Мілая мая бабулька! Абарані мяне ад ваўкоў! Яны ўжо ідуць па мяне, іх зграя набліжаецца... Бабулька, мілая мая, чараўніца мая! Спусціся са свайго неба ды на маю зямлю, пабудзь маёй заступніцай!”* Перастаў качацца, але баіцца выпусціць з рук галаву. Нечакана ў вачах мільганулі сполахі. Галава ў адначассе спаражнілася, і *ён* убачыў старонку бабульчынага сшытка з тэкстам. То была яе замова ад вавка. Ваўкоў яна называла “ва**в**ка́мі”, а парэзы ды ранкі – “ва́**в**камі”. Бабульчына замова ратавала і ад ваўкоў, і ад іх ран. *Ён* пачаў гучна чытаць яе: *“Першым разам, Божым часам, Госпаду богу памалюся, святой Божай Мацеры пакланюся...”* З першымі словамі *Ён* адчуў цяпло, што разлівалася па ўсім целе. Замова кароткая, але шмат у ёй незразумелых слоў і сэнсаў. Чытае і дзівіцца, як лёгка ў яго атрымліваецца. *“Ва́вку чорнай рызай вочы закрываю, заставляю і замыкаю губы, зубы, ногці, когці залатымі замкамі, сярэбранымі ключамі. Я ж тыя ключы вынімаю і в сіне мора кідаю...”* – сказаў і расплюшчыў вочы. *“А што гэта?”* – сумеўся *ён*. Над ім стаіць бабуля і жагнае свайго ўнука. Рука накладвае на *яго* крыжык за крыжыкам. *Ён* сочыць за рухамі бабулі і ўголас паўтарае: *“Ва імя айца, і сына, і духа святога. Амінь! Ва імя айца, і сына, і духа святога. Амінь! Ва імя айца, і сына, і духа святога. Амінь!”* Змучанага, яго агарнуў сон. Толькі і паспеў, што пазяхнуць.

Прачнуўся ад тупату на калідоры. Разносілі вячэру. Устаў з падлогі. Не разумеючы, што з ім адбываецца, сеў на нары. Усё цела зрабілася лёгкім. У галаве не было ніякіх думак, ні пытанняў, ні надрываў з перажываннямі. *“Як так?”* – недамяўвае. Каб упэўніцца, што *ён* яшчэ жывы, пачаў абмацваць сваё цела рукамі. *“Я вызваліўся?! Я стаў вольны?! Так, я вызваліўся! Цяпер я вольны!”* – закрычаў *Ён* турэмным бэжава-аранжавым сценам.

Гэтым вечарам *ён* адчуў сябе шчаслівым. Шчаслівым у нагавіцах і блакітна-шэрай куртцы з няроўна напісанымі белай фарбай літарамі “ИМН” – “исключительная мера наказания”. *Ён* адчуў сябе шчаслівым нават у форме смяротніка.

*Ён* зноўку палюбіў жыццё, а жыццё палюбіла *яго*. І ў знак узаемнасці іх пачуццяў паказала *яму* Смерць. Як тая адчыніла дзверы і зайшла ў камеру, хоць па турэмных правілах іх маглі адчыняць толькі ў прысутнасці начальніка СІЗА ці для правядзення тэхагляду. Тады заходзілі кантралёры з драўлянымі дубінкамі і малаткамі... Іншых выпадкаў адчыненых дзвярэй не было. Толькі “кармушка”, праз якую кармілі, выдавалі сродкі гігіены, кнігі ды цыгарэты. Усё гэта захоўвалі ў агульнай на ўсіх вязняў тумбачцы.

*“На вячэру прыйшла? Дык частуйся! Тут кормяць лепей, чым у фашысцкіх канцлагерах смерці. У былым Аўшвіцы табе прапанавалі б 300 грамаў чорнага хлеба – у лепшым выпадку (!) – і грамаў 30 маргарыну ды так званую“каву”. А тут, глядзі, мой стол багаты і на бульбу з катлетай, і на салат, на гарбату з цукрам і батон!”* – з усмешкай, іранічна *ён* пажартаваў са Смерці. Але яна ўсур’ёз села разам з ім за стол. *Ён* звонка зарагатаў з гэтага. Калі б зараз побач з ім сядзеў чалавек, яму заклала б вушы ад такога рогату.

*“Чуй!* – сказаў *ён* шэптам, нахіляючыся бліжэй да маўклівай сяброўкі. *“Забяры мяне! Забяры мяне з сабою!”* – вымавіў настойліва. *“Што? Не можаш? Не можаш забраць мяне?”* – *ён* перарваў маўчанне. *“Бо не табе даручана...”*– пачаў зноўку гаварыць, але змоўк. Цяпер камера патанала ў цішыні. *“Тады вось што,* – крыху памаўчаўшы, працягнуў *ён, – калі прыйдзеш па маіх забойцаў, а ты абавязкова па іх прыйдзеш, назаві ім маё імя. Бенядзікт. Бласлаўлёны. Каб ведалі”.*

**Ад аўтара.** *Шчыра дзякую праваабаронцу **Андрэю Палуду**. Ён быў маім дарадцам і першым чытачом эсэ. Таксама дзякую **Амбасадзе Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь** за магчымасць адукацыйнага візіту ў траўні 2017 года ў дзяржаўны музей “Аўшвіц-Бірнекаў” у Асвенцыме. Успаміны ад яго наведвання прыгадала ў сваім творы.*

Уладзімір Сіўчыкаў



...памяць –

пані даволі падступная і здрадлівая...

# Сонечны творца

## *Словы пра Настаўніка*

Калі быў я падлеткам, дык не даваў веры, што людзі сталага веку могуць папраўдзе, нават у дробных дэталях, памятаць тое, што было дваццаць-трыццаць гадоў таму. А цяпер вось яскрава прыгадваю, як упершыню, яшчэ першакласнікам Жодзінскай школы-інтэрната, пабачыў сонечнага чалавека, чалавека-творцу пры сцяне школьнага фае, які складаў, ствараў з каляровых аскепачкаў шкла мазаіку на актуальную і модную ў сярэдзіне шасцідзясятых гадоў касмічную тэму. Былі на той мазаіцы касманаўт, ракета, зоры, пазнавальны Сатурн з яго кольцамі, але перадусім – гіганцкае, жыццядайнае, прамяністае свяціла, якое выклікала ў памяці словы шлягера пра касманаўтаў, што далятуць да самага Сонца дый вернуцца дадому, на Зямлю. У контрсвятле агромністага акна ягоныя ярка-рудыя валасы выдавалі ці то шлемам скафандра, ці то залацістым німбам. Дый сам ён, малады і падцягнуты, пачуваўся на саматужных рыштаваннях лёгка і ўпэўнена.

Ад нас, цікаўных выхаванцаў, яго адгароджваў шэраг знарок выстаўленых крэслаў. Праўда, агароджа тая неўзабаве знікла.

Уладзімір Мікалаевіч Макараў прыйшоў у мой клас настаўнікам малявання. Калі знаёміўся па спісе з вучнямі, то дазнаўся, што не толькі імем, але і імем па бацьку я ягоны цёзка. Настаўнік асабліва прыязна ўсміхнуўся мне і сказаў, што неадменна пасябруем. Увогуле падавалася, што выпраменьвае ён невыказную энергію. Паводзіў сябе так далікатна, што свавольнічаць на ягоных уроках не дазвалялі сабе нават заўзятыя гарэзы. Тым болей, што вёў Макараў несур'ёзны, невызначальны паводле тагачасных уяўленняў прадмет. А што да мяне, дык сярод інтэрнатаўскай казёншчыны гадзіны тыя былі за святы. Хапала ў Макарава часу і на маляванне паводле праграмных тэмаў, і на нескладаныя пастаноўкі-нацюрморты. Даваў Уладзімір Мікалаевіч і нямала карысных, чыста практычных парадаў: як лепш завастрыць аловак, якая папера найбольш прыдатная на маляванне, а выбіраць у краме пэндзлік для акварэлі раіў ён так: трэба цішком адвярнуцца ад прадавачкі ды аблізнуць яго – добры той, што займее гожую форму накшталт полымя свечкі. Нечакана мог з'явіцца з настаўніцкага сакваяжа альбом, і праграмныя заняткі ператвараліся тады ва ўрок любавання. Адклаўшы алоўкі, дзівавaліся мы на мастацкае шкло і на незвычайныя тканіны, на паліваныя керамічныя вазы і на мудрагелістыя карункі разьбяроў. Другім разам гартаўся альбом па графіцы, і даведваліся мы не толькі імёны мастакоў і найменні іх твораў, але і пра тэхнікі, у якіх яны былі выкананыя. А гучалі тыя словы прывабна і таямніча: афорт, ксілаграфія, лінарыт, цынкаграфія, эстамп... Яшчэ болей вабілі назвы музеяў, дзе захоўваліся шэдэўры, – Галерэя Уфіцы, Луўр, Прада, Музей Метрапалітэн, Мюнхенская Старая Пінакатэка, Сікстынская капэла... Мабыць, было гэта і праз тое, што гучалі яны ў паўзмроку – у атынкаваную сцяну ўпінаўся прамень фільмаскопа, ручку якога калі-нікалі шчасціла пакруціць і мне. Было шкада, але непазбежна прыходзіла хвіліна, калі запальвалася святло, а стужкі скручваліся і хаваліся ў дзюралевыя канвалюткі.



*Уладзімір МАКАРАЎ. Фота У. Сіўчыкава.*

Пазней у Макараўскім гуртку выяўленчага мастацтва рабіў я кволыя спробы напісаць акварэллю зімовы адлiжны краявід. Падыходзіў настаўнік, і на маім аркушы пад ягоным упэўненым шырокім пэндзлем бэзавыя заліўкі абарочваліся цяжка навіслым па-над хвойнікам небам, кранутая дзе-нідзе папера станавілася набрынялым вільгаццю снегам, а сухія пастозныя штрыхі – чэзлым брунатным хмызняком. Той пэндзаль з каланка Уладзімір Мікалаевіч падараваў мне, калі заўважыў, як зайздросна паглядаў я на яго: здавалася, што варта толькі займець такі каланок, і рука з ім сама пацягнецца да патрэбнай кюветы, пасля да палітры і пэўна пакладзе фарбу на фактурную паверхню!

А як я быў усцешаны, калі даволі нечакана для мяне, пяцікласніка, Уладзімір Мікалаевіч прапанаваў дапамагчы яму аздобіць школьную галерэю. Мяне, а не каго іншага, запрасіў у падмайстроўі любімы настаўнік!

Галерэя мелася быць у доўгім калідоры на трэцім паверсе, а складалася яна з адмыслова тыражаваных для школ аркушаў. Найболей уразілі мяне тры. Гэта былі рэпрадукцыі з палотнаў рускага, савецкага і беларускага мастакоў, што адпавядала тагачаснай схеме адукацыі ды іерархіі каштоўнасцяў. Брулоўскі “Апошні дзень

Пампеі" і Дайнэкаўская "Абарона Севастопаля" гіпнатызавалі крывава-вогненнымі бліскавіцамі, напятасцю чалавечых эмоцый перад тварам смяротнай небяспекі. І, мусібыць, па кантрасце запомнілася палатно "Зімовы сон" Вітольда Бялыніцкага-Бірулі з ягоным адвечным спакоем і тугою па чымсьці незваротна страчаным.

А непасрэдная праца заключалася ў тым, што мы прыбіралі рэпрадукцыі ў паспарту са шчытнага кардона і пад загадзя нарэзанае ў сталярнай майстэрні шкло. Потым развешвалі іх з дапамогаю адмыслова загнутых бляшаных палосак і капронавага шнура. Беражліва і спасцярожліва прытрымліваў я шкло, але ўсё ж не асцярогся, парэзаў далонь. Не так дапякаў боль, як крыўда, што не спраўдзіў даверу. Наракаў на самога сябе, на здрадлівае шкло. Было няёмка перад настаўнікам, які, згледзеўшы парэз, прымусіў узяць ягоную насоўку, каб заціснуць, спыніць здрадніцкі пунсовы струменьчык.

***

Сталася так, што неўзабаве перайшоў я ў іншую школу, і не Уладзімір Мікалаевіч бласлаўляў мяне паступаць у мастацкую вучэльню.

А зноў сустрэўся я з ім праз два гады пасля таго, як скончыў яе, у Мінску, дзе сям'я наша атрымала новую кватэру. На той час паспеў я адслужыць і ў войску, і працу шукаў у сталіцы. Разгаварыліся, і колішні настаўнік малявання запрасіў да сябе, на Барысаўскі камбінат Мастацкага фонду, дзе быў ён за галоўнага мастака, а ў школе вёў усяго толькі некалькі гадзін на тыдзень.

...Пах лакаў і фарбаў поўніў агромністую камбінатаўскую майстэрню, якую небеспадстаўна можна было б назваць і цэхам. Сцены скрозь былі пазавешаныя скарыстанымі трафарэтамі – арнаментамі, зоркамі ды сярпамі з молатамі. Хінуліся да іх бялюткія планшэты і падрамнікі, абцягнутыя рэвалюцыйна-пралетарскім паркалём. Паказное, плакатнае жыццё ўспрымаў я ўжо тады іранічна, як своеасаблівую дэкарацыю, але і як належнае, як умоўнасць і дадзенасць, якія не варта і бессэнсоўна аспрэчваць.

Пасярэдзіне афарміцельскага цэха, пры бочцы з водаэмульсіёнкаю, прыладзіліся на зэдліках сталяры і мастакі-выканаўцы. З самае раніцы "падлечваліся" яны "чарнілам", прыкусвалі класічнаюількаю ў таматным соусе ды капусна-грыбной салянкаю. Курылі, спрачаліся пра заробкі, а лаяліся не злосна, дзеля звязкі слоў.

Зайшоў у цэх Макараў. "Вось зараз, – падумаў я, – дасць перцу з імберцам за такі гармідар!" А Уладзімір Мікалаевіч на ўсё тое – нуль увагі, нібыта так і належала быць. Праўда, адмовіўся ад прапанаванай чаркі, загадаў заканчваць снедаць, брацца за працу, а мяне павёў аглядаць камбінат.

Але чамусьці асабліва не ўразілі ні славутыя габелены, ні керамічныя кашпо, ні рэкламныя альбомы ды буклеты з фотаздымкамі камбінатаўскай прадукцыі. Не захацеў я неблагіх па тым часе заробкаў з пастаўленай на канвеер агітацыйна-прапагандысцкай халтуры. Дый недарэчна было б штодня ездзіць працаваць з Мінска ў Барысаў, як ездзіў электрычкаю з Жодзіна мой былы настаўнік.

***

Неяк гасцяваў я на Каляды ў сваякоў у родным горадзе.

Захацелася наведаць Уладзіміра Мікалаевіча, зрабіць і яму святочны сюрпрыз, а таму адшукаў у тэлефонным даведніку патрэбны нумар...

Пасля нядоўгай паўзы ўспомніў ён мяне, сказаў, што быў бы рады пабачыцца, надыктаваў свой адрас.

Дзверы таксама адчыніў сам. Доўга сціскаў у далонях маю руку, усміхаўся крыху стомлена, казаў, што яшчэ не адагрэўся, бо толькі што вярнуўся з дачы. Дапамог распрануцца, правёў у пакой, пасадзіў на канапу і нецярпліва стаў распытваць, што раблю, дзе працую, чым займаюся. Я зноў быў удзячны яму, а гэтым разам


*“Старая званіца”, 1990 г.*

і за разуменне, не давялося доўга тлумачыць, што мой пераход ад выяўленчага мастацтва да спраў літаратурных – гэта не здрада, а ўсяго толькі змена выяўленчых сродкаў, іншая, а дакладней, яшчэ адна форма творчасці. Калі збольшага задаволіў ён сваю цікаўнасць, дык стаў дапамагаць жонцы збіраць на стол.

А я змог няспешна агледзець прахадны пакой “хрушчоўкі”. Пасярэдзіне яго стаяў прафесійны мальберт з нясконачаным нацюрмортам, у якім дамінавала паўфантастычная кветка дзівоснай красы, а таксама вялікі набор пастэлі ў скрыначцы. Кніжныя шафы ды стэлажы, дзе пераважалі зборы твораў, а таксама альбомы па мастацтву, сярод якіх пазнаваў нібыта знаёмых, бо ў маёй хатняй бібліятэцы былі такія самыя. На адной сцяне – партрэт бацькі-франтавіка Мікалая Фролавіча, шматфігурная ікона на дошцы і абраз Святога Міколы, фота з ацалелай званіцай, а таксама памятныя ды юбілейныя медалі з шамоту, прысвечаныя Жодзіна, выдумляючы герб якога мадэльеры аніяк не ішлі далей за сілуэт самазвала. На другой – гаспадаровы акварэлі, забраныя пад шкло, поруч са старасвецкім гадзіннікам, які таксама навяваў думкі пра няўмольнасць часу. Мімаволі адзначыў сам сабе, што рудыя валасы ў Макарава, якія можна было называць ільвінай грываю (тым болей што паводле гараскопу ён Леў), ссівелі, бязвольна вісяць, а не стаяць дыбарам, як раней. Плечы нібыта апусціліся, сталі пакатыя, ды ўвесь ён, здалося, крыху здрабнеў, стаў меншы ростам.

Падчас вячэры гаворка чамусьці не надта ладзілася. Праўда, шчыра ўзрадаваўся Уладзімір Мікалаевіч, калі падпісаў я яму сваю кніжку п’ес і апавяданняў. Але потым зноў замаркоціўся і, гледзячы ўбок, сказаў, што апошнім часам ён нібыта “разгубіўся”. І было ў тым слове штосьці шматзначнае, глыбіннае, але недагаворанае. Можа, падсумоўваў ён зробленае, а можа, пабачыўшы мяне, аддаўся ўспамінам пра маладосць?

Калі стаў ён паказваць фотаздымкі дзяцей, дык зноў ажывіўся, расказаў, як складаюцца іх лёсы. Да маці, якая жыве ў паўзакінутай вёсцы на Пензеншчыне, Уладзімір Мікалаевіч узяў за звычку ездзіць зімою, калі ёй асабліва патрэбныя дапамога і падтрымка.

Павесялеў ён і тады, як загаварыў пра дачу, якую збудаваў сваімі рукамі ад падмурка да вільчыка. Схапіў нават кардонку і цангавы аловак, стаў крэсліць крыжападобны план, вымалёўваць яе ў аксанаметрыі спрактыкаванай і па-ранейшаму пэўнай рукою. Было відаць, што домам гэтым ганарыўся і даражыў бязмерна.

Тым разам спрэзентаваў ён мне цукарніцу – керамічную, з роспісам, паліваную, каб, жартаваў, жыццё падавалася саладзейшым.

***

Калі я быў юнаком, дык, бывала, задумваўся: “Няўжо і праўда дажыву да наступнага стагоддзя, якім пачнецца і наступнае тысячагоддзе? І які ж я буду стары – мінецца мне ажно сорак два гады!”

З цягам часу з’явілася сівізна і на маіх скронях, розніца ва ўзросце з маім цёзкам нівелявалася ўсё болей, затое, можна сказаць, расло ды шырылася пачуццё

роднаснай блізкасці. Сустрэч з тым, да каго tête-à-tête звяртаюся цяпер папросту – Мікалаіч, было яшчэ нямала – і ў нашай сталіцы, і ў горадзе па-над Плісою.

Былі гэта спатканні на імпрэзах у Палацы мастацтва, на навукова-практычных канферэнцыях, а таксама падчас Радзівілаўскіх чытанняў, выставачных камітэтаў, на пленэрах і на эцюдах, на персанальных выставах нашых сяброў і калегаў, а таксама калі рыхтавалі да друку літаратурна-мастацкі альбом "Жодзінцы. *Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова*", бралі ўдзел у складанні грунтоўнага, важкага альбома "Жодзіна Art".

Ці не на адной з такіх імпрэзаў я выразна ўсвядоміў, што памяць – пані даволі падступная і здрадлівая, а таму нарэшце знайшоў час і на дыялог з настаўнікам пры дыктафоне, частку якога паклаў і на паперу.

***– Адна з першых маіх згадак пра Вас, Уладзімір Мікалаевіч, знітаваная з аматарскай, саматужнай галерэяй…***

– Працаваць пачаў я ў школе, і тады рабіць школьныя галерэі было прэстыжна. Сямён Філімонавіч Костылеў, дай Бог яму добрае месца на нябёсах, дырэктар школы-інтэрната, падтрымаў мяне, і наша галерэя стала ў Жодзіне першай і адзінай. З Ленінграда, дзе служыў на Балтыйскім флоце, а потым і вучыўся, я прывозіў адмыслова выдрукаваныя для школьных "Трэццяковак" тэматычныя наборы рэпрадукцый. Яны і склалі нашу тагачасную экспазіцыю.

***– А ў Жодзіне Вы з якога года?***

– З 1963-га, адразу пасля сваёй дэмабілізацыі. Цесця-вайскоўца накіравалі тым часам у Печы, а з ім прыехала ў Жодзіна і мая жоначка Людміла.

***– Ну, а хаця б напалову беларусам Вы, ураджэнец Пензеншчыны, "пензюк", як часам самаіранічна сябе імянуеце, пачуваецеся?***

– Канечне!

***– А ў мяне на тое ёсць вобразнае сведчанне!***

– Якое?

***– Двойчы Вы адкладалі гэтую нашу сустрэчу, казалі, што трэба выкапаць бульбу на дачы пад Калюжкамі. Выбраць, спарадкаваць сваю бульбу на зіму – гэта для беларуса святое!***

– Значыць, і ў літаральным сэнсе судакрануўся з беларускай зямлёю. Тут нарадзіліся мае дзеці і ўнукі. Праўда, унучка Яўгенія Барысаўна, якой вельмі ганаруся, вучыцца цяпер у нарвежскім Осла. Яна – скрыпачка, таксама чалавек мастацтва!

***– Але за правa даносіць мастацтва даводзіцца часам змагацца.***

– Бач ты, у рыфму атрымалася!

***– Колькі гадоў жодзінцы, а найперш Вы асабіста, "бадаліся" за карцінную галерэю ў горадзе? Вы былі адным з ініцыятараў і актыўнейшых арганізатараў, упартым змагаром за яе ў чыноўніцкіх кабінетах, але і першы ўзялі кувалду, каб раскрышыць перагародкі колішніх навучальных класаў прафтэхвучэльні і ператварыць іх у сапраўдную галерэю, дзе могуць выстаўляцца сёння не толькі жодзінцы.***

– Актыўна пачалі мы працаваць недзе з 1986 года.

***– Гэта ж колькі мэраў, выбачайце, старшыняў гарвыканкама змянілася? Выбачаюся, бо мэраў усё ж выбіраюць, а ўсе нашыя "граданачальнікі" – прызначэнцы са сталіцы.***

– Па-мойму, чатыры. Пытанне, як яны кажуць, вырашыў пяты, Амельянчук. А спачатку мастацкія выстаўкі праходзілі ў кінатэатры "Юнацтва", а таксама ў гарадской бібліятэцы, гаспадыні якіх прымалі нас вельмі ахвотна. Вельмі значная, адметная выстаўка была ў будынку жодзінскага палітэхнікума, філіяла мінскага, у 1974 годзе. Тады ўдзельнічалі Аляксей Марачкін, Юры Праскуракоў, Мікола Крайко, Георгі Міхейчык, Аляксандр Ксяндзоў, Аляксандр Сярмяжка, Уладзімір Гладкевіч і многія іншыя.



*“Па слядах Чарнобыля”, 1995 г.*

***– Была ж яшчэ сумнавядомая экспазіцыя ў Палацы культуры БелАЗа, дзе пралетарыі парэзалі некалькі палотнаў, а ў іх ліку твор Алеся МаRа “Цётка (Алаіза Пашкевіч). Нас кавалі ў пламенні…”***

– Тую выстаўку ў канцы 70-х гадоў арганізоўваў Мастацкі музей Беларусі.

***– Вы назвалі некалькі імёнаў мастакоў-жодзінцаў. А з кім яшчэ з вядомых творцаў зводзіў Вас лёс?***

– Я лічу час сваёй працы на Барысаўскім мастацкім камбінаце ці не самым шчаслівым. У 1965 годзе я скончыў завочна Інстытут жывапісу, скульптуры і дойлідства імя І. Рэпіна ў Ленінградзе, атрымаў акрамя мастакоўскай адукацыі яшчэ і дыплом мастацтвазнаўцы на факультэце гісторыі і тэорыі выяўленчага мастацтва. Пайшоў працаваць на Барысаўскі камбінат ужытковага мастацтва, як ён тады зваўся, спачатку мастаком-афарміцелем. Быў камбінат прадпрыемствам мясцовай прамысловасці, а перадалі яго Мастацкаму фонду. Асноўным на камбінаце, які ачольваў Зільберт Фёдар Фёдаравіч, быў керамічны цэх, туды пераважна і размяркоўвалі керамістаў з Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Творча-вытворчую базу мелі там і тэкстыльшчыкі, і мадэльеры. Усе яны стваралі ўнікальныя мастацкія творы невялікімі тыражамі пад кіраўніцтвам Сакаловай Веры Сяргееўны. Пры галоўным мастаку Гаркунове Генадзю Рыгоравічу былі ўтвораны ткацкі і габеленавы цэхі, а таксама цэх сцэнічнага касцюма.

Тым часам Савіцкі Міхаіл Андрэевіч, Кішчанка Аляксандр Міхайлавіч рабілі эскізы, а пасля і кардоны сваіх габеленаў у натуральную велічыню, і ўсе гэтыя габелены выробляліся ў Барысаве. Гэта і габелены для Опернага тэатра, і для Мінскай музычнай вучэльні...

Саша Сурмач рабіў даволі манументальныя керамічныя рэчы, пазней пайшлі заказы і для Мінскага метро, напрыклад, кафля для станцыі Якуба Коласа. Валянцін Прыешкін, Мікалай Байрачны распрацоўвалі кераміку для гасцініц “Планета”, “Інтурыст”, для кафэ “Батлейка”, іншых буйных аб’ектаў кшталту кінатэатраў і канцэртных залаў. Больш за тое, заказы на адмысловыя вырабы паступалі да нас з усяго Савецкага Саюза. Таму практычна няма беларускіх мастакоў-манументалістаў, з якімі я не судакранаўся б у Барысаве...

***– Уладзімір Мікалаевіч, я ведаю, што пра камбінат Вы можаеце расказваць гадзінамі, што можаце сыпаць дзясяткамі імёнаў і датаў і што нават рыхтуеце да выдання вялізны альбом па ягонай гісторыі, але давайце вернемся да Вас.***

– Я і вяду да таго, – зазначаю сціпла, што дзесяць гадоў прапрацаваў там галоўным мастаком. Поруч з нашымі мэтрамі трэба было высока трымаць планку, таму і сваю творчасць ніколі не закідваў. Ды і ў Жодзіне, лічу, склалася шматлікая і непаўторная мастакоўская супольнасць з такімі адметнымі творцамі як Аляксандр Фралянкоў, браты Андруковічы, Мікалай Шышлоў, Аляксандр Сабалеўскі. У многіх нашых імпрэзах прымаў удзел Валеры Славук, а з выставаю “Жодзінцы” мы, як тыя “перасоўнікі”, аб’ехалі ажно сем беларускіх гарадоў!

***– А я згадваю, як Вы не раз казалі: “Вось паеду на радзіму і там папішу ад душы…” Сёлета модна, ідэалагічна выверана апеляваць да штампаў “Малая радзіма”, “Год малой радзімы”. Але, пагадзіцеся, любому чалавеку месца, дзе ён нарадзіўся і быў узгадаваны, ці не самае вялікае і значнае ў жыцці.***

– У вёску Сабанава, што на Пензеншчыне, найчасцей езджу ўзімку. Мне падаецца, што зімою больш серабрыстыя, спакойныя, складаныя колеры, больш вытанчаныя адценні. Восеньскія і вясновыя эцюды нярэдка даводзілася дапрацоўваць дома. А зімою заўсёды больш трапляў і ў матыў, і ў каларыт.

***– Паэт Алесь Пісьмянкоў напісаў пра сваю вёску: “Проста ў вёсцы Белы Камень / Самы белы ў свеце снег”. У Вас ёсць краявід з роднай вёскаю, які завецца “Па слядах Чарнобыля”…***

– А я сам ніколі не мог бы нават падумаць, што Чарнобыль закране і маю радзіму, што аблокі адтуль далятуць і да майго Нікольскага раёна!

***– Няўжо праўда?!***

– Так, гэта адна з чарнобыльскіх зон, і людзі там выходзяць на пенсію на два гады раней! Афіцыйна прызнана, што там некалькі радыяцыйных плямаў...

***– А што значаць для вас паездкі на радзіму?***

– Там мая калыска, там бацькоўскія магілы, там і бацькоўскі дом, у які мы з братам з задавальненнем вяртаемся. Беларусь я палюбіў усёй душою, ад яе я ў захапленні, і ўсё ж... На маёй радзіме, да прыкладу, няма такога дзікунства, каб руйнавалі апусцелыя і закінутыя хаты.

***– Дзякаваць Богу, здаецца, у нас гэта адмянілі… Скажыце, а што падабаецца Вам найболей з беларускай літаратурнай класікі? У кагосьці Вы ўчыталіся?***

– Найболей люблю Уладзіміра Караткевіча. З задавальненнем прачытаў раман “Людзі на балоце” Івана Мележа дый усю ягоную трылогію. Са сваімі аднавяскоўцамі з захапленнем глядзеў і беларускія экранізацыі пра Другую сусветную вайну...

***– А цяпер давайце перанясемся ў зусім дальнія абсягі. Хто з творцаў з краёў далёкіх Вам найбольш блізкі і цікавы? Творы каго з мастакоў Вы хацелі б пабачыць у арыгінале?***

– Калі быў навучэнцам мастацка-графічнага аддзялення Пензенскага педвучылішча, дык, як той беспрытульнік, ездзіў з сябрам на дахах вагонаў у Маскву паглядзець выстаўку Давіда Сікейраса! Я бачыў і ахвотна паглядзеў бы ізноў выставы Сальвадора Далі. У Эрмітажы мяне ўразіла ў свой час даволі камерная, палотнаў на дваццаць, выстаўка Пабла Пікаса, на якую стаялі даўжэзныя чэргі, асабліва ягоныя ружовы і блакітны перыяды. Тамсама я некалькі разоў хадзіў на Эль Грэка. Падабаецца ён мне сваёй экспрэсіўнасцю, “стальным”, шэрым, бліскучым жывапісам, нязвыклымі, “гатычнымі” прапорцыямі, энергічным і хвосткім мазком.

Доўга шукаў я ў Эрмітажы Леанарда да Вінчы. Мне здавалася тады, што ягоныя творы “Мадона Літа” і “Мадона Бенуа” – гэта вялікія, алтарныя працы.

На маё вялікае здзіўленне, “Мадонна Літа” аказалася зусім невялічкай – усяго толькі 42х33 сантыметры!

***– А наогул, Вашыя ўлюбёныя мастакі – гэта…***

– З часам некаторыя ўпадабанні, зразумела, мяняюцца... Але і сёння вельмі люблю Бялыніцкага-Бірулю. Я ў захапленні ад Васіля Сурыкава, ад Валянціна Сярова. Як па мне, дык гэта штосьці недасяжнае. З савецкіх мастакоў шаную Сяргея Герасімава, Таццяну Яблонскую. Фенаменальным і ў чымсьці недаацэненым быў наш найвыдатнейшы жывапісец Альгерд Малішэўскі...

***– Цесны свет – Альгерд Адамавіч выкладаў у мяне на чацвёртым, выпускным курсе вучэльні жывапіс і кампазіцыю! А скажыце, калі ласка, кім сябе лічыце найперш – мастаком, мастацтвазнаўцам, педагогам, грамадскім дзеячам?***

– Ну, выкладаў я, настаўнічаў усё жыццё дый на пенсію стараўся сысці як педагог. Калі працаваў нават галоўным мастаком на камбінаце, браў настаўніцкія гадзіны ў школе...

***– І колькі набегла педагагічнага стажу?***

– Ад дыплома педвучэльні, дзе, дарэчы, быў у мяне выдатны настаўнік, графік Васіль Афанасьевіч Ісаеў, ад 1960 года і да пазамінулага года, калі я скончыў выкладаць, атрымліваецца 56 гадоў!.. Мне заўсёды падабалася працаваць з дзецьмі, у кожным я стараўся разгледзець, раскрыць талент, але разам з тым ніколі не расставаўся і з пэндзлем. Выгадаваў, да прыкладу, такіх мастакоў, як браты Асташонкі – Віця і Гена. Сфарміраваўся як мастак, архітэктар і дызайнер мой вучань Аляксандр Патомскі. Лічу, што тых, каго вучыў, акрыляў, нямала...

***– Сёлетнюю персанальную, юбілейную выставу Вы назвалі “Імкненне”. Імкнуліся і імкнецеся да чаго?***

– Апошні твор я яшчэ не напісаў, таму ёсць памкненне дагаварыць, давыказацца, дарэалізавацца. Задумаў і планаў шмат.

***– Спадзяюся, што сярод іх і творчыя партрэты мастакоў, а ў іх ліку і Вашых вучняў. Жадаю, каб усё задуманае здзейснілася!***

Павал Абрамовіч



...шаноўныя пісьменнікі,
не нервуйце чытачоў...

# Мой чытацкі лёс

## Нядобрае прадчуванне?

Каменнае сэрца, як у героя нямецкай казкі, трэба мець для працы ў літаратурных архівах ці чытання прыватнага ліставання нашых класікаў...

Янка Купала піша з Масквы Браніславу Эпімах-Шыпілу 28 верасня 1915 года: “Настраенне няважнае, – найгорш тое, што чалавек не ведае, якое ліха цябе чакае заўтра. Масква мне не зусім падабаецца – нейкая яна заплутаная і не зусім выразная”. У той жа час згадкі паэта пра Петраград зусім не змрочныя.

Да “заплутанай” смерці Купалы ў Маскве застаецца 27 гадоў. І звярніце ўвагу на лічбу “28”. Яго жыццё скончыцца менавіта 28-га.

## Каштоўней за карону

У лонданскім доме-музеі Джона Кітса ўжо амаль 200 гадоў захоўваецца пасма валасоў паэта.

О, вялікая тая краіна, якая беражліва зберагае падобныя “матэрыі” – яны важаць больш, чым карона каралевы!

А што маем мы, беларусы? Напрыклад, асобнік вершаў Анатоля Сыса, заліты крывёю паэта. Ёсць такі... Сыс – са словамі: «Трымай, гэта мой падарунак табе!»– падпісаў сваю кнігу адной нашай маладой паэтцы. Вокладка была ў крыві. Ён патлумачыў, што быў парэзаў руку, а кроў не выводзіцца з паперы, не ў пральную ж машыну яе класці?..

## Новае прачытанне Купалы

Зладзіў цяпер досыць вялікі эксперымент: чытаю Купалу *ab ovo*, то бок з першага зборніка, "Жалейкі", дый яшчэ з паралельным росшукам яго вершаў на старонках "Нашай Нівы" (маю адлічбаваную падшыўку за ўсе гады), каб бачыць, якія тэксты іншых аўтараў атачалі ягоныя вершы.

Першае, што заўважыў у сабе падчас чытання, – напаўсвядомае, цьмянае, але ўстойлівае і адчувальнае: цяпер мне, сталаму чалавеку, чытаць (і перачытваць) наноў Купалу... страшнавата. Нават удзень. Яго моцная паганская стыхія захлістае душу – і гэта пераважна цёмная магія. Як удалося 26-гадоваму хлопцу авалодаць ёю? Канечне, яго вуснамі прамаўляе сама тагачасная Беларусь – Янка проста вельмі добры медыюм, яго абралі:

Толькі шнур мой вузкі,
Град на полі пажне,
І залом ведзьмакі
Заплятуць на мяне...

Да таго ж мне чамусьці хочацца чытаць Купалу ўслых – выразная і адметная рытміка ягоных вершаў нібыта прымушае. Відаць, толькі цяпер, а не ў юнацтве, я гатовы да такога чытання.

Непрыкметна некаторыя Купалавы вершы ўводзяць у транс, гучаць як калыханкі, якія не абяцаюць добрыя сны:

І старая і крывая
Хатачка мая, –
Уся злеплена, як будка,
З аднаго гнілля.
На страсе, як на балоце,
Зрос зялёны мох;
Каты часам і сабакі
Лазяць па вуглох.

Паглядзім, як яно далей будзе, што яшчэ адкрые мне гэтае новае знаёмства...

## Зямля – мая!

У юнацтве мы гулялі ў "зямлю". Гэта калі акрэсліваецца кола на зямлі, а кожнаму з гульцоў "адразаецца" аднолькавы кавалак, на якім ён стаіць нагамі. Хлопцы кідаюць ножык і імкнуцца, не саступаючы з месца, адзін у аднаго як мага болей адцяпаць, адмежаваць сабе "зямлі". І, пашыраючы межы, клічуць сваю тэрыторыю па назве якойсьці абранай краіны (краін).

Ну дык вось у Віктара Марціновіча – Літва і Аўстрыя, у Альгерда Бахарэвіча – Францыя, у Славаміра Адамовіча – Нарвегія, у Андруся Горвата – Італія і Нідэрланды, у Артура Клінава – Нямеччына...

Мы, чытачы, напружана сочым за гульнёй. Пісьменніцкія нажы ўтыркаюцца ў зямлю, ажно дрыжаць дзяржальны.

## Мастацтва і фэйк-навіны

Падчас наведвання Вільні ў 1911 годзе Максім Багдановіч упершыню пабачыў старажытныя нацыянальныя артэфакты, змог патрымаць іх у руках, насалодзіць вока і паэтычную душу. Браты Луцкевічы, як вядома, мелі ва ўласным прыватным музеі шмат унікальных рэчаў – яскравых сведчанняў велічы матэрыяльнай культуры беларусаў. Былі тут і слуцкія паясы.

Няма сумневу, Багдановіч прыйшоў у захапленне ад гэтых багаццяў і зладжанай для яго мініэкскурсіі. У выніку на свет з'явіўся верш "Слуцкія ткачыхі" – моцнае па энергетыцы выказванне, чыя форма і галоўны месідж былі зразумелыя простаму люду, узгадаванаму ў лоне вуснай паэтыкі – гаротнай і тужлівай, як песні жняі.

Законы мастацтва запатрабавалі, каб паэт пераўвасобіў рэчаіснасць. Але тут Багдановіч хапіў цераз край зубчаты бору. Неверагодна складаныя ў плане вытворчасці паясы ў яго ткуць (без належнай прафесійнай падрыхтоўкі) "забітыя" прыгонныя жанчыны!

Наўрад ці паэт – дапытлівы, кемлівы юнак, які, па ўспамінах Вацлава Ластоўскага, імкнуўся зразумець гармонію паэзіі пры дапамозе матэматыкі – прапусціў міма вушэй у часе гасцявання ў Ракуцёўшчыне альбо не запытаўся ў Луцкевічаў, як насамрэч функцыянавалі мануфактуры Слуцку і хто там працаваў. І прыкладам, не звярнуў увагі, што "шэраговы" слуцкі пояс утрымлівае да 200 грамаў золата. Ці ж бы даверылі такое багацце "паны" сваім "рабам", нават пад пільным наглядам?

Верш "Слуцкія ткачыхі" быў разлічаны не на тое, каб пастутова, страфа за страфой, узбудзіць жаласлівасць у душах чытачоў, а праімчаць, як гіперкар, у цэнтр калектыўнай душы. Багдановіч абраў самы просты, прамы і хуткасны, шлях.

Як высветлілася, скажоная паўсядзённасць сапраўды можа падмяніць сабою рэчаіснасць. Ні сам паэт, ні ягоныя рэдактары і выдаўцы не ведалі, што літаральна праз 5-10 гадоў "Слуцкія ткачыхі" стануць моцнай прапагандысцкай зброяй у руках бальшавікоў, фэйк-паведамленнем для вялікай усесаюзнай аўдыторыі: вось так жылі беларусы і не мелі яны ў сваёй гісторыі нічога, акром здзеку, рабскай працы, слёзнай бяздольнасці.

## Машына часу

На адваротным баку паштоўкі Уладзіміра Караткевіча, якую пісьменнік адправіў з Друскенікаў Зосьцы Верас, чытаю: "... заедзе па мяне Васіль Быкаў на машыне (недзе ён тут круціцца) і павязе мяне ў Мінск праз Гродню". І дата пазначана: 6 жніўня 1980 года. Гэта была серада.

Вось бы напісаць на белым аркушы паперы вялікімі чырвонымі літарамі: "МНЕ ТРЭБА Ў МЕНСК!", а потым выкарыстаць машыну часу і, стаўшы на шашы, злавіць такую папутку: Караткевіч – на пасажырскім спераду, а кіроўцам у яго сам Быкаў!

А потым на заднім сядзенні "маўчаць і слухаць", "маўчаць і слухаць", і глядзець на ўсе вочы – да самай сталіцы.

## Нацыянальная кніжная ежа

Пішуць і лайкаюць: хто не любіць дранікі, у таго няма сэрца.

Калі дранікі – наша нацыянальная ежа, то чаму іх ніхто не есць у беларускай класічнай літаратуры? Дранікаў няма ў Баршчэўскага і Багушэвіча, Ядвігіна Ш. і Каруся Каганца, Гарэцкага і Зарэцкага, іх ніхто не смакуе ў раманах "На ростанях" і "Людзі на балоце", нікому не прапаноўваюць дранікі ў кнігах Караткевіча...

Наша літаратура па праву пахваляецца рэалістычнасцю перад сваімі чытачамі і ўсім светам. Таму, калі дранікаў няма ў беларускіх "класічных" кнігах, – іх няма і ў

беларускім свеце. Відавочна, нашы пісьменнікі-класікі абміналі маўчаннем дранікі, бо апошнія не былі нацыянальнай ежай!

У цэнтры нашага стала круглай вежай узвышаліся... бліны: "Яшчэ ад рання блінцы пякліся на сняданне" (Якуб Колас). У прыватнасці, Янка Купала аж млеў ад бліноў з верашчакай (мачанкай) і сам іх рыхтаваў усюды, дзе можна было, і ў кнігах сваіх таксама: "Але ўсё-такі гэта для нас блін ды яшчэ маслам падмазаны".

## Прынцыповая размова

Як кажуць, "быў час, быў век, была эпоха".

Вясной 1982 года таварыства кнігалюбаў менскага завода "Электроніка" арганізавала сустрэчу з Уладзімірам Караткевічам. Пра яе вынікі ў нумары ад 15 красавіка распавяла газета прадпрыемства – "Интеграл".

Вось, напрыклад, якія пытанні задавалі работнікі завода пісьменніку: "Ці не здаецца Вам, што цяпер складваецца тэндэнцыя да зніжэння ролі беларускай мовы?", "Як вы ацэньваеце пераклады Вашых твораў на рускую мову?"

Пытанні не састарэлі, пісьменнікі і рабочыя, а таксама антыбеларуская дзяржава ў нас і сёння ёсць, але ж чаму так цяжка ўявіць падобныя сустрэчы цяпер?

## Ненармальная норма

У Беларусі стала нормай, калі рэцэнзія на кнігу значна апераджае выхад той самай кнігі з друкарні, старт продажаў.

У выніку чытачы разгубленыя. Яны чуюць, што з'явілася літаратурная цікавостка, хочуць яе набыць і пачытаць, ацаніць самастойна, але гэта зрабіць немагчыма – здараецца, месяцамі! А водгукі і рэцэнзіі ідуць аж гудуць, разумнікі абмяркоўваюць навінкі – вось ужо першы "дыскурс" пайшоў. І кнігі новыя, калі паслухаць, – усе такія глыбокадумныя, прыгожыя, як жа пашчасціла чытачам і беларускай літаратуры!

Першыя (сігнальныя) асобнікі загаддзя раздаюцца самым лепшым сябрам і самым пазітыўным рэцэнзентам. (Сапраўды, ці ж бачылі вы негатыўныя рэцэнзіі на беларускія кнігі-навінкі?) І ляціць у сацыяльных сетках "постынг" вокладак з вясёла-прыдуркаватым воклічам, багатым на смайлы: "А я ўжо гэты твор маю-чытаю, ля-ля!" Як быццам новая кніга – тое новы айфон (добра, каб так было, але).

Карацей, шаноўныя пісьменнікі, не нервуйце чытачоў. З раніцы – рэцэнзіі, вечарам – новая кніга ў продажы.

## Знікненне прыгажосці

Шкада, што ў літаратурна-мастацкіх творах цяпер амаль не засталося гэтых грацыёзных жывёлаў.

Сама іх назва настолькі прыгожая, што Леў Талстой, напрыклад, выкарыстоўвае толькі яе, сказ за сказам, зусім без займеннікаў: "Лошади, и рыжие и гнедые, все казались вороными от струившегося с них дождя. Шеи лошадей казались странно тонкими от смокшихся грив. От лошадей поднимался пар".

## Працадаўцы і мецэнаты

Не адразу знайшоў імя Радзівіла, у якога працаваў бацька Якуба Коласа – Міхал Міцкевіч. Сам Колас ва ўсіх анкетах пісаў абязлічана: "Бацька служыў лясніком у князя Радзівіла". Менавіта так, нават без першай літары імя. Якія на тое былі прычыны? Вось некалькі магчымых варыянтаў: 1) непатрэбная для анкеты дэта-

лізацыя, 2) наўмыснае абагульненне Радзівілаў, каб новая бальшавісцкая ўлада не абвінаваціла ў "сімпатыі", 3) Колас проста не ведаў, як звалі князя.

Савецкаму літаратуразнаўству імя таго ідэалагічна варожага арыстакрата было ўтрая непатрэбнае. Але купка дакументаў засталася. Напрыклад, інвентарнае апісанне хутара Ласток Менскага павета Менскай губерні, дзе жыла сям'я Міхала Міцкевіча. І вось яно, імя ўладальніка хутара: князь Антоні Вільгельм Фрэдэрык Аўгуст Мікалай Радзівіл (гады жыцця: 1833-1904). Цікава, што Антосем звалі і дзядзьку Коласа па бацькоўскай лініі.

Дык вось адзін Радзівіл, чый герб быў "Трубы", даў Міхалу Міцкевічу працу, хоць і вельмі цяжкую (гл. падрабязнасці ў паэме "Новая зямля"), а другі прадстаўнік Радзівілаў з гербам "Лебедзь" (Марыя Магдалена Радзівіл) ужо дапамагаў ягонаму сыну ў справе выдання кніг.

Лічу, імёны Радзівілаў мусяць быць агучаныя для наведвальнікаў у тым ліку Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і пазначаны на ўсіх сайтах, прысвечаных творчасці нашага класіка.

І, галоўнае, прыведзены ў падручніках.

## Літаратура на выспах

Пасля звыклага пейзажу еўрапейскага і амерыканскага рамана, пасля нават самага вытанчанага тутэйшага краявіду іншым часам стамляецца вока, сціхае душа і тады хочацца не проста новых *impression*, а мастацкай інакшасці на мяжы з "чужынскасцю".

У такі час я звяртаюся да японскай літаратуры. Адзін толькі крой яе, абалонка літар-словазлучэнняў-сказаў ужо ўзрушвае сваім непадабенствам да ўсяго, што бачыў, чуў у роднай старане.

"Час, калі з абедзеннага стала знікаюць маладыя атожылкі акебіі".

Вельмі кранальны паэтычны роспіс па літаратурным шоўку (адзін з сотняў!) – у рамане аб зіме, "Снежнай краіне" Ясунары Кавабата. Я ўпершыню тут, у гэтай кнізе. І з самага пачатку, чыгуначнай дарогі, і да самага дальняга горнага адхону рамана – іншыя, нязвыклыя, варункі жыцця.

"Пад банкет знялі памяшканне, якое звычайна выкарыстоўвалі для тэатральных прадстаўленняў ці адкорму шаўкоўнічных чарвякоў".

Але самае галоўнае – адносіны між людзьмі, японцамі, у рамане. Знешне здаецца, нічога новага. Старыя і маладыя, мужчыны і жанчыны, гараджане і сяляне, слугі і гаспадары, заможныя і бедныя.

О, не верце, калі нехта з нашых скажа, што спасцігнуў японскае грамадства "ў цэлым" – па кнігах ці па ўласных назіраннях, як падарожнік. Калі ты не нарадзіўся там, гэта немагчма зрабіць нават на адну мільённую частку. Найскладаная рытуальнасць, рэгламентаванасць, нават прадвызначанасць стасункаў людзей пранізвае японскую літаратуру. Нешматслоўная і ўпарадкаваная – не наўмысна пісьменнікамі, а самім жыццём на выспах.

Я схіляю галаву над старонкамі, я нібыта ўгледжваюся ў складаны ўзор – здаецца, яшчэ хвіліна і я зразумею вось гэты нядоўгі дыялог жанчыны-гейшы і мужчыны, якія сядзяць поруч ля катацу (стала з падаграваннем), схаваўшы ногі пад коўдрай.

Але не, ізноў снег пайшоў. Цямнее.

## Жыццё без мора

Пачуў неяк ад маладой жанчыны: "Было б у Беларусі мора, была б і літаратура".

І вось прыйшла навіна аб катастрафічна хуткім росце ўзроўня мора. Запасаў лёду ў Антарктыдзе хопіць, каб вада ў Сусветным акіяне паднялася на 58 метраў.

То бок Парыж, які цяпер знаходзіцца над морам на вышыні 42 метры, у выпадку раставання айсбергаў цалкам схаваецца ў вадзе. А вось Брэст (280 м) і Менск (281 м) – ім нічога не пагражае.

Будзем мы і ў гэтым выпадку без мора.

## Дзеці-дзеці, куды вас падзеці?

Нават, калі ты – Вацлаў Ластоўскі, гэта не значыць, што дзеці ў цябе будуць такімі ж геніямі-энцыклапедыстамі, дый таксама саматужнымі. Хутчэй, наадварот.

Як сведчыць эпісталярная спадчына, Ластоўскі-бацька цвяроза ацэньваў поспехі сваёй старэйшай дачкі, Ганны. “Выходзіць усё ж такі, што з Ганкі хвалёнай векшненскай працавітасці нічога не выйшла: экзаменаў за 4 клас не выдзержала”, – піша ён у лісце да сваёй першай жонкі, Марыі. (Малодшая дачка Стаська гэтым часам толькі рыхтуецца да падрыхтоўчай класы.)

Піша Ластоўскі сухавата і, як бачна, выкарыстоўвае двухкроп’е, нібыта жонка яшчэ не ведае аб правале Ганны.

Цікава, што быць асабіста настаўнікам, рэпетытарам для сваіх родных дачок (нават непрацяглы час – хаця б улетку!) Ластоўскі зусім не збіраецца, як і ўсё жыццё стаяць над імі з бізуном.

Вацлаў жадае толькі, каб Ганна прыехала да яго ў Коўна і “калі хоча вучыцца, тут можна вучыцца, а не хоча вучыцца – то трэба працаваць, дык прыстрою дзе-небудзь да працы”.

Практычны Ластоўскі мяркуе, што Ганне трэба паступаць на фельчарскія курсы: “Скончыўшы курсы, калі будзе вучыцца, а гэта знача не гультаіць, а працаваць, – можа паступіць у універсітэт і быць доктарам. У кожным разе і фельчарыцай без хлеба сядзець не будзе”.

І як quīnta essentia усяго ліста датычна старэйшай дачкі: “Галоўнае і найважнейшае, каб мела Ганка акрэсленую працу, не кісла на вёсцы і не развівала істэрыі”.

Ліст датаваны жніўнем 1922 года – ужо тады, значыцца, беларуская вёска “закісала”, не магла анічога парадзіць нашай моладзі, якой, відавочна, заставаўся адзін шлях: рушыць у горад.

Наогул быць бацькам дзяўчат не соладка: Ластоўскі, сувора выступаючы супраць хатняга рэпетытара, у пункце (!) два свайго ліста прыводзіць такі аргумент: “Немінуча замест навукі вывяжуцца аморы, прыйдзецца грошы плаціць не за навуку, а за «забавы»”.

У першым пункце, даводзячы сваёй жонцы марнасць хатняй навукі, Ластоўскі кажа, што “паслугі корэпетытара-літвіна будуць каштаваць дорага, а за вынікі гарантый ніякіх, як, зрэшты, заўсёды бывае з «дамовай навукай»”.

Карацей, калі б на вёсцы з’явіўся (такім некалі быў сам Ластоўскі!) малады і беспрацоўны ліцвін-“энцыклапедыя”, то ў хаце Ластоўскага яму б рашуча адмовілі. Сапраўды, беларускае жыццё ў 20-х гадах мінулага стагоддзя перайшло на новыя рэйкі.

## Вялікае ў маленькім

У “маленькім фельетоне” “Пасля канцэрта Яна Кубеліка” (1909 год) Максім Багдановіч паказаў праз імклівыя, ёмістыя рэплікі, дыялогі неназваных людзей, як цяжка чалавеку з чулай, гарманічнай душой апынуцца ў натоўпе. Сярод тых, хто хадзіў у выходныя “акультурыцца”, хто пасля выступу чэшскага скрыпача здольны толькі пазласловіць, пазайздросціць, гідка пажартаваць з мастацтва. Хто судзіць скора і лёгка, нібыта збягае да рамізніка з прыступак гарадскога тэатра, ва ўсім задаволены сабой.

"Хутка я буду дома і адпачну", – суцяшае сябе персанаж, у якім пазнавальны сам Багдановіч, бо акром "першай асобы" персанаж гэтак жа хутка, як сам аўтар, стамляецца і нервуецца, калі чуе і бачыць поруч з сабою пошласць.

І як заўжды ў самім Багдановічы (і ягоных літаратурных, публіцыстычных творах) – ані кроплі, ані каліва злосці датычна цынічных мяшчанаў – толькі адно шкадаванне. Сам паэт, гэта таксама заўважна, падзяляе адчуванне свайго героя: як мага хутчэй зачыніцца ад людзей, публікі. Пекла – гэта іншыя, безумоўна.

Маленькі тэкст і вялікі сум, адзінота 18-гадовага журналіста газеты "Голос", будучага класіка беларускай літаратуры.

## Прыцягальнасць палеаліту

У пячоры Шаве (*Chauvet*), дзе выяўлена 435 дагістарычных малюнкаў, ёсць і такія, розніца ў стварэнні якіх сягае 6 тысяч гадоў, аднак намаляваны яны ў аднолькавай манеры. То бок шэсць тысячагоддзяў мастакі не адчувалі патрэбы ў зменах!

Так, тыя малюнкі былі найперш рытуальнымі, магічнымі, над імі як дамоклаў меч вісеў суворы канон. Але калі ты кожны дзень палюеш на жывёл, то з дзяцінства ведаеш іх і малюеш іх дакладна, праўдзіва. Навошта тут "новая школа", суперніцтва кірункаў і стыляў, выдумлянне ўсялякіх Цяні-Талкаяў дзеля таўстасумаў-галерыстаў?

Вось яна, магія праўды: калі "карціна" антылопы ці статку бізонаў была недакладная, на паляванні ўсіх чакала няўдача.

Як жа я здзівіўся, калі ў "Гісторыі мастацтва" Эрнста Гомбрыха прачытаў, што ангельцы доўгі час малявалі карціны конскіх скачак недакладна, а менавіта – ніжнюю частку тулава каней! Толькі са з'яўленнем фотакамер "абазнаная" грамада пабачыла, што ногі ў коней аніколі не выглядаюць так, як на іх "старых добрых" віктарыянскіх палотнах.

Спадарства, я хачу ў палеаліт!

Леанід Галубовіч



...паэт спадзяецца, што піша свой час,

а насамрэч ён піша сябе...

# "Я зайздрошчу сваім ненапісаным вершам..."

***Рэцэнзія на кнігу Міколы Пракаповіча***

***Мікола Пракаповіч. Прытулак памяці. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 110). – 260 с.***

З Міколам Пракаповічам мы пазнаёміліся ў сярэдзіне 1980-х гадоў, а вершы яго я пачаў чытаць яшчэ напрыканцы 1970-х. Калі шчыра, прыйшоў я да паэзіі М. Пракаповіча праз захопленасць творчасцю А. Разанава і Я. Янішчыц ды праз абвостраную маладую цікавасць да публікацый берасцейскіх паэтаў Н. Мацяш і А. Каско... Пазней да гэтай сябрыны паступова і годна далучыліся М. Купрэеў, В. Гадулька і Я. Дашына...

Але самае помнае і, бадай, сімвалічнае, што выкідваецца з памяці, бы язык полымя з агню, – гэта пісьменніцкія сходы, калі ў залу ўрачыста ўносілася Ніна Мацяш на руках Міколы Пракаповіча. Зала замірала, уставала і нярэдка суправаджала

тое змушанае дзейства воплескамі (для неабазнаных тлумачыць не буду)... Мікола праносіў Ніну перад калегамі-супляменнікамі як нацыянальную святыню. Такое не забываецца... Дзе цяперашнія *носьбіты* нашых святынь?! І дзе самі святыні?..




Сёння, калі не чытач прагне літаратуры, а літаратура шукае чытача (*"у поцемках з ліхтаром"*), такія сімвалічныя сюжэты з цяжкасцю кладуцца ў канву гэтай маёй гаворкі пра кніжку выбранай паэзіі Міколы Пракаповіча "Прытулак памяці".

Але – да пачатку.

Ліпень. Чмялі. Саламяны падстрэшак.
У вішнях стракочуць шпакі.
Не бачу... не чую...
згубіўся дарэшты
у плыні вірлівай ракі –
літары, словы, радкі...
Халоне вячэра і маці з газнічкай
прысела насупраць, глядзіць,
як сын яе, хлопчык,
зіхоткаю знічкай
у светлую мару ляціць...

Здавалася б, нічога новага, такое ж сентыментальнае дзяцінства было амаль у кожнага з пасляваеннага пакалення, да якога і сябе аднашу. Аднак ужо тады, на першых кроках паэтычнага пазнання акаляючага свету, на дэбютных вершаваных радках М. Пракаповіча выразна пазначалася чуйная і датклівая душа нованароджанага паэта. Ужо тады ў ёй завязваліся расткі будучай творчай натуры – водгук на любое навакольнае зрушэнне, чалавечая спагада і суперажыванне наўзбочнага як свайго асабістага. Пад гэтым – свядомасным – неўзабаве ўспыхнула, абуджаючы новыя вычуванні, пажады і памкненні ўсёй яго істоты, і падсвядомаснае – генная родавая памяць...

Нам адведзены час кароткі, –
чым пазначым мы гэты час?
Вочы ў вочы – з байніцаў продкі
запытальна глядзяць на нас.

У першым раздзеле кнігі ("Белая вежа мрояў") пераважае лірыка асабістых маладых вычуванняў жыцця і ўсведамленне родавага і нацыянальнага – ад *бацькаўшчыны-радзіны* да ***Бацькаўшчыны-Радзімы***. Амаль скрозь адчуваецца цвёрдая і даволі майстравітая паэтычная рука, роўнае натуральнае суперажыванне ўсяго акаляючага, датычнага да лёсу аўтара. Узлёты і ўзрушэнні зразумелыя і ненадуманыя, яны рэдка выходзяць за межы цвярозага мыслення і вычування. Вобразы і характары людзей, абрысы і малюнкі краявідаў – успрымальныя і прыцягальныя. Адсутнічае штучнае, фармальнае, наноснае. Усё – жывое, адчувальнае, балючае... Вось як у гэтых радках з паэмы "Неад'емнае" з заключнай часткі першага раздзела кніжкі:

Кожны мае кут адзіны.
Як рукой падаць,
вось яна, мая Радзіма, –
лес, лугі, вада.
Дзень з нябыту уваскрэсне
з сонцам на чале,

прынясе ад вёскі песню
бусел на крыле:
“Плыве човен – вады повен...”
З ветрам круглы год
на маёй, на роднай мове
шэпчацца чарот.

Чыста беларускае ментальнае ўспрыманне Богам дадзенай прыроды, ані не парушаючы створанага Тварцом. Дарэчы, далёка не кожнаму нават вельмі таленавітаму паэту дадзена такая мера мастацкага пісьма – выказваць і выяўляць свет у новым асабістым ракурсе, узвышаць і ўзрушаць думкі і вычуванні чытача, не разбураючы аднойчы і назаўсёды з’яўленага. Ну і такая *чутная* дэталь пачатку 1970-х: не толькі людзі, а нават чарот шэпчацца на роднай мове. Сам добра памятаю, было такое шчасце па тым часе хоць бы ў беларускай (тут – палескай) правінцыі. Хоць, безумоўна, тут прачытваецца і засцерагальны аспект – мова прыніжае свой голас, яна ўжо толькі шэпчацца ў зацішку... Наогул, заўважна, што найбольш таленавітыя берасцейскія паэты сучаснасці пісалі і пішуць на духоўным супраціве, а не на галосным пратэсце, пачынаючы ад апальных А. Разанава і М. Купрэева, да патрыятычных і нацыянальна заангажаваных у сваёй творчасці Н. Мацяш, В. Жуковіча, А. Каско, І. Лагвіновіча, М. Шчура, братоў Дэбішаў... ну і вось нашага візаві М. Пракаповіча. Працытую хаця б гэты – выдатны і па змесце, і па ідэі, і па форме – верш “Пагоня” з апошняга раздзела кнігі (“Літары на літоўцы”):

Воўкам – праз пушчу,
стралой – праз туман,
ганцом – па бацькоўскіх гонях:
склікае ў Вялікім Княстве сурма
Пагоню!
          Пагоню!
                    Пагоню!
Дзе наша слава,
гонар наш дзе? –
У Дзікім полі
                    на Сіняй вадзе.
..........................................................
Цяжкай хвілінай прыслухайся, – зноў
на покліч прызыўны краіны
маўкліва выходзяць з сівых курганоў
ліцвіны,
          ліцвіны,
                    ліцвіны.
Дзе наша слава,
гонар наш дзе? –
Званамі
знямелых дзядзінцаў
гудзе...

Аднак – лірыка найперш. У тым ліку і інтымнага характару, лепшыя радкі і строфы якой здзіўляюць і ўзвышаюць, замілоўваюць і эмацыянальна ўзбуджаюць. Тут молада бунтуе ўся чалавечая натура – і цела, і душа, і дух... У кніжцы аўтар нават спецыяльна вылучыў вершы такой тэматыкі – кахання і любоўных перыжыванняў – у асобны раздзел, які назваў “Пераступаю парог”. А вось гэты верш, радкі з якога я працытую, чамусьці пакінуў у першым раздзеле. Магчыма, як самае пачатковае, зародкавае пачуццё... Ну і насамрэч ёсць ад чаго *захадзіцца* чытацкаму сэрцу:

Усё не так у гэты вечар.
Не так, –
сумуе дождж-дзівак.
Не так, –
шапоча ў лісці вецер,
бубніць цягнік:
– Не так, не так...

Тонкая мінорная музыка, спалошная рытміка хады часу, вусцішнае адчуванне набліжэння нечага яшчэ неспазнага... Ну і калі ўжо зачапіў гэтую тонкую матэрыю, то, каб зноў да яе не вяртацца, відаць, варта выказацца трохі шырэй пра вершы з вышэй упомненага раздзела. Усе яны носяць выразнае адценне ўласных аўтарскіх адчуванняў і ўзаемаадносін. Прываблівають метафарычнай густоўнасцю і маральнай чысцінёй. Аднак (можа і няварта, але скажу) сям-там давялося сутыкнуцца з пераборам у выказваннях. Як для мяне, то вершы “Ты займала столькі месца ў маёй душы...”, “Маё цела...”, “Мне смешна...” выпадаюць з агульнай канвы абазначанай тэматыкі. Мяркую, калі б паэт пакінуў іх (а заадно і два вершы з раздзела “Будова нанова”: “Размова ля вясковай крамы” і “Натхненне”, хоць яны як бы і сатырычна-гумарыстычныя, але ж адчувальна шорсткія ў такім датклівым кантэксце) па-за зместам кніжкі, то яе вартасць не пагоршылася б, затое пазбавілася выпадковай шараговасці, не ўласцівай гэтаму таленавітаму паэту. Зрэшты, як піша ў адным з апошніх па часе вершаў М. Пракаповіч:

Справы – не канчаюцца.
Каханні – не вяртаюцца.
Мары – не праўдзяцца.
Нязнанага ўсё больш і больш.

Чытаючы першы раздзел, нельга было між іншым не заўважыць і вучнёўскую *прыглядку* яшчэ маладога паэта да творчасці больш майстравітых і ўжо прызнаных калег. У адным вершы М. Пракаповіч так і піша, не зважаючы, што яго думка асацыятыўна амаль накладваецца на ўжо напісанае:

Жыву і вучуся нястомна
сваё і чужое цаніць, –
тады падымаецца крона,
калі беражэш карані.

Бо чытаючы два апошнія радкі, мы не можам пазбавіцца і ад гэтых, ужо вядомых нам радкоў А. Разанава: *“тады выстойваюць падлескі, калі выстойваюць лясы”*.

Цяпер ад першых публікацый і зборнікаў (“Белая вежа”, калектыўны, 1979 і “Неад’емнае”, 1982) пяройдзем да сталай і больш грунтоўнай творчасці паэта, хоць ад чыста прафесійнай літаратурнай, а тым больш *паэтычнай працы* Бог яго літасціва пазбавіў. Таму пустой лішніцы М. Пракаповіч не панапісваў, як многія іншыя. А сваё, колькі Звыш было дадзена, выславіў і накрэсліў.

Тым больш, з 1975 года М. Пракаповіч стаў працаваць на абласным тэлебачанні вядучым тэматычных праграм, што тычыліся літаратуры і культуры, таму абхадзіў і аб’ездзіў кожны адметны народнымі талентамі закутак палескага краю і ўсёй берасцейшчыны ўвогуле. Працаваў у гэтым статусе і, дарэчы, быў дужа вядомай асобай, ажно да 2015 года. З тых дарог і сустрэч можна было б скласці своеасаблівы паэтычны этнаграфічна-фальклорны атлас Берасцейшчыны. З такім вопытам і досведам чалавек не мог раскідвацца на вершаваныя дробязі і дрындушкі. Пісалася і запісвала толькі тое, што высмажвала вусны, апякала душу і натуральна суперажывалася з героямі яго будучых паэтычных вобразаў. Вось пералік толькі тых, каму прысвячаліся вершы: гістарычным асобам В. Цяпінскаму,

К. Лышчынскаму, П. Багрыму, Ус. Ігнатоўскаму, літаратарам і паэтам У. Калесніку, Я. Янішчыц, М. Купрэеву, Н. Мацяш, А. Каско, У. Ягоўдзіку, мастакам М. Кузьмічу, П. Данелія, С. Свістуновічу, краязнаўцу Л. Несцерчуку, хормайстрам В. Перапёлкіну, М. Вайцяхоўскаму, У. Літвінчуку, фальклорнаму гурту вёскі Крыніца... Працытую з апошняга прысвячэння (верш "Спяваюць жанчыны"):

Натруджана рукі ляглі на калені.
Нібыта святарскі спраўляюць абрад,
спяваюць жанчыны.
Знікаюць імгненні,
і вечнасцю свеціцца кожны пагляд.
"Вой, што расце без кораня,
А што гарыць без полымя?"

У вершах М. Пракаповіча не было і няма штучнай альбо наўмыснай наігранасці, жадання ўпрыгожваць непагляднае альбо ўзвышаць і ўхвальваць нявартае, плакатнае і лозунгава-хлуслівае. Ён любіць і шануе годнага чалавека-палешука і гісторыю яго бацькаўшчыны простымі зямнымі фарбамі і крэўнымі народнымі словамі, блізкімі да іх родавай спрадвечнай гаворкі. Таму яго словы, радкі, строфы і вершы надзейна выбудаваны і па-мастацку змыслены не на надзённы тэрмін, а на помны час. Ведаючы і адчуваючы, як хутка сыходзіць у нябыт мова, гаворка, фальклор, промыслы і народная культура паляшуцкага і беларускага народа агулам, ён стараўся папярэджваць улады пра такую небяспеку, а праз уласны талент намагаўся захаваць хоць тое духоўна-душэўнае хараство, што было ў яго сілах. І хоць у яго вершах няма ідэалагічна выверанай лініі савецкага светапогляду, але, прызнаем, і няма наўпроставага пратэсту. Зрэшты, для ўдумлівага чытача ў калейдаскопе паэтычных метафар зрэдзьчасу мільгаюць і прасвечваюць дэталі, якія падштурхоўваюць чытацкае падсвядомае да спробы зразумення сутнаснага і прыхаванага. А сям-там усё ж прачытваліся ў падтэкстах небяспечныя для тадышняй ідэалогіі думкі і настроі. Да прыкладу, як у вершы "Маналог прыпражнога каня":

Караннік галавою змеіцца,
мне ж патрэбна нага ў нагу.
Без надзеі, што нешта зменіцца,
я стаміўся, я больш не магу.

Безумоўна, аўтар стараўся ўкласці кнігу сваіх выбраных твораў у храналагічным парадку, за рэдкім выняткам і выключэннем. Але даты чамусьці не прастаўлены ні пад вершамі, ні пад паэмамі, ні ў пазначаных раздзелах, хоць час іх з'яўлення, прынамсі ў друку, асабліва для тых, хто добра знаёмы з творчасцю М. Пракаповіча, вылічваецца, кажучы кампутарнай мовай, "па замоўчванні"... І ўсё ж на будучае адцемлю, што такая храналагічная ўпарадкаванасць патрэбна найперш самому аўтару прыжыццёвага выбранага, які дбае пра свой літаратурны плён і дзеля таго, каб літаратуразнаўцы, і крытыкі-рэцэнзенты маглі мець поўнае і больш яснае ўяўленне пра яго жыццёвы і творчы шлях.

Паэт думае і спадзяецца, што піша свой час, а насамрэч ён піша сябе. Усяго толькі. Калі ён – Паэт. Але, пішучы, творца выбудоўвае сябе як асобу, бо перажывае і пераасэнсовае ўсё тое, што было і дзеілася з яго зямлёй і яе героямі – Айчынай і народам. Ён ужываецца, а, часам, і ўцялесніваецца, як тое здараецца з геніямі, у іх вобразы і ператвараецца разам з імі ў адно цэлае – гістарычна-мастацкую выяву эпохі. Вядома, у нашым выпадку такой цэльнай праявы пакуль не адбылося, але смела можна казаць, што паэт з Берасцейшчыны крочыць, пераадольваючы напластаванні часу і ўласнае эга, менавіта ў гэтым кірунку. *"Не дазволь зрабіцца блудным сынам"*, звяртаецца ён у адным з вершаў да "сябрыны", як бы наперад

засцерагаючыся асабістых хібаў ці недахопу моцы і магчымасцяў. Не прамінаючы пры гэтым і зазірнуць наперад, як у вершы “Пытанне сыну”:

Няўжо маіх трывог, сумненняў
час не рашыць, і ты – працяг?
Ідзі.
Высока, нібы сцяг,
нясі, сынок, сваё сумленне.
У ім мінулае жыве.
Тваё. Тваіх бацькоў. Народа.
І лёс Радзімы,
год за годам,
ракой гісторыі плыве.
Ёй дадзена суды вяршыць:
хто правым быў, хто вінаватым,
хоць не адзін “меліяратар”
яе збіраўся асушыць.

Далей можна было б напісаць, што падаспеўшая *перабудова* грамадства адкрыла другое дыханне і акрыліла М. Пракаповіча на новыя паэтычныя здзяйсненні. Але не, гэтак можна было б сказаць пра тых нашых паэтаў, якія рвуць кашулі, чытаючы свае вершы на мітынговых пляцах і ў наэлектрызаваных вялікай палітыкай залах... Мікола Пракаповіч таксама не стаяў збоку-прыпёку ў падобных дыскусіях, актыўна ўдзельнічаў у грамадска-палітычных працэсах, асабліва калі тое тычылася балючых нацыянальных пытанняў. Але з паэзіяй у такія дыскусіі не лез. Ды і вершаў, асабліва ў тую бурапенную пару, не пісалася. Не зважаючы на тое, што паэзія сама ішла следам за ім, кажучы словамі А. Таркоўскага, *“как сумасшедший с бритвою в руке”*... І гэта тады з нервовай скрухаю выдыхалася:

Як даўно я быў паэтам,
як даўно...

Калі да паэзіі М. Пракаповіча ставіцца “паводле гамбургскага рахунку”, то асабіста мяне найбольш уразілі два першыя раздзелы (“Белая вежа мрояў” і “Па краі – з краю ў край” – молада, разняволена, страсна) ды два з трох апошніх (“Літары на літоўцы” і “Я яшчэ жыву” – мудра, у гармоніі з прыродай і ўласнай натурай, са зразумелым нацыянальна-патрыятычным пафасам).

Загарну касу ў транспарант
з рамантычным лозунгам
“Жыве Беларусь!”,
сяду на ровар
і паеду абкошваць
гасцінец нашай гіторыі
Варшава-Масква.

Пераважная большасць вершаў гэтага часу вылучаецца сваёй адчувальнай паэтычнай цэльнасцю, глыбока гістарычным мастацкім зместам, адметнасцю формы і зменлівай версіфікацыяй (хоць і не часта) і сваім ненавязлівым, але душэўна-прасветленым ідэйным выяўленнем. А калі зусім шчыра, то менавіта пазатэкставы вобраз самога паэта, яго ўнутраны духоўны свет, учынкі і вычуванні, намеры і надзеі – вось што трымала мяне як чытача ў вершаваным полі гэтага “правінцыйнага” творцы-сейбіта. А сутнасную значнасць уласнага творчага плёну ён будзе спрабаваць узважваць сам – на шалях сумлення і сумненняў – у апошнім раздзеле кніжкі, дзе і такія пытанні падступяць:

Стагоддзі пройдуць – што ў іх зменіш ты?
Напісанаму й сёння мала веры...

А ўжо калі па ўзросце і з працы на мясцовым тэлебачанні сышоў, то і ўвогуле ледзь не зайшоўся ў роспачы, што для яго вытрыманасці і спакою, выпадак выключны. Але як сказаць іначай, калі выдыхаецца такое:

Нікому не патрэбны – ну, нарэшце...
Нікому не патрэбны? – горкі сон!
Знямелі недапісаныя вершы,
маўчыць яшчэ гарачы тэлефон.

Альбо падчас глыбокіх крытычных разважанняў над пражытым і зробленым (створаным) і начнога бяссоння, раптам вылузваецца з нутра нечаканы, як чужы, свой (амаль спавядальны) голас:

Гэх, каб нанова ўсё пачаць,
ды не па крузе вавёркай,
і не маўчаць – крыкма крычаць! –
не гэтак было б горка.

Адным словам, сумненні паэта ў сваім прызванні і творчым плёне (самаўпэненых дурняў, у тым ліку і літаратурных, у нас хапае), на маё меркаванне, не што іншае як ясны знак свайго чалавечага прызвання і годна пражытага зямнога жыцця. А перашкоды, хібы, пакуты ды іншыя наканаванні Звыш тое толькі пацвярджаюць. М. Пракаповіч, змагаючыся з сабой унутры сябе, як бы ачышчаецца ад навязлівых грэшных подумак і прыходзіць да слушнай высновы:

Адзіны на свеце грэх –
здрадзіць сабе самому.

Коратка і ёмка. Цяпер – асобна пра паэмы. Іх у кнізе чатыры. У паэме "Неад'емнае" прыгожым традыцыйным стылем (у фальклорна-музычным суправаджэнні) распавядаецца пра пасляваеннае жыццё беларусаў-палешукоў. У аснове – вясельны матыў, абрад і народныя песні-прыпеўкі. Усё гэта на фоне прыроды, побыту, мясцовай гаворкі, песень, працы, кахання і мазольнага сялянскага шчасця...

Паэма "На кругі свае" больш змястоўная і заглыбленая ў гісторыю, але, па сутнасці, гэта спроба асэнсаваць жыццё народа на каларытных і гаротных вобразах галоўных герояў (бабыля Піліпа і ўдавы Надзі) з паралельнымі намаганнямі аўтара спалучыць іх лёсы з алюзіямі мінуўшчыны. Паэма "Прыходзіў час" – праблемная, меліярацыйнай тэматыкі, але, як і папярэднія, замешаная на фальклоры, прыпяцкай прыродзе, спрадвечнай сялянскай мудрасці, гарапашнай працы, веры і любові. Усе тры паэмы вельмі блізкія па духоўнай тэматыцы і лірычнай танальсці. Задача паэта палягала найперш у стварэнні помнага літаратурна-мастацкага *мемарыяла* гісторыі Палесся.

Так позна разумеем немагчымасць
вярнуць усё, што страчана было,
так позна
мы прыходзім
да Айчыны
пад стомленае белае крыло...

Адчуваецца, што цягам усяго творчага працэсу пытанне *гістарычнай біяграфіі* Айчыны і пытанне нацыянальнага гонару не адпускалі паэта. Сюды ж абсалютна гарманічна дадаецца і паэма "Галасы берасцейскага дзядзінца" з раздзела "Пераступаю парог".

Падводзячы рысу пад усім тут мною напісаным, зазначу, што ладны томік грамадзянскай і інтымнай лірыкі Міколы Пракаповіча "Прытулак памяці" (на-

зоў, дарэчы, вельмі ўдалы і вобразны) – гэта адно з найбольш цэльных і вартых паэтычных выданняў апошняга часу. Нават той, хто пазнаёміцца з творчасцю паэта ўпершыню, атрымае не толькі мастацкае і душэўнае задавальненне ад лепшых твораў аўтара, але займее сябра і цікавага субяседніка ў асобе самога паэта. Талент вызначае чалавека. І я рад, што гэты чалавек, паэт Мікола Пракаповіч, заўважаны *"па справах сваіх"*. Хоць, калі казаць пра яго погляд на ўласнае творчае вызначэнне ў беларускай літаратуры агулам, то тут ён мае пэўныя прэтэнзіі і апеляцыі (на мой погляд, дарэмныя, бо падобнае магло б тычыцца хіба толькі савецкага, а не сучаснага перыяду літаратурнага працэсу):

Не ўхваленыя і не бітыя,
адна выгода – без увагі "боскай",
мы фігуруем у "абоймах" крытыкаў
коскай.
......................................................
І мы жывём, нібы выгнаннікі,
няўпэўнена пакуль і нетаропка.
Паставіць кропку? Завяршыць пытальнікам?
Шматкроп'е...

Гэта строфы з верша "Знакі прыпынку, альбо Маналог правінцыйнага літаратара". Шаноўны Мікола, сёння, перафразуючы блізкага нам А. Твардоўскага, *які хто хоча з нас, такі і знакаміты...* Але дзеля аб'ектыўнасці давайце глянем на *пачэсны кут* берасцейскай паэзіі, які міралюбна і годна займаюць А. Разанаў, М. Купрэеў, М. Рудкоўскі, Н. Мацяш, В. Гадулька, Я. Янішчыц, М. Пракаповіч, А. Каско, В. Сахарчук, У. Марук, Я. Дашына... (Такі мой суб'ектыўны выбар, у кожнага з вас можа быць свой.) Не пабаюся сказаць, што такога выбітнога і віднага шэрагу імёнаў сучаснай нацыянальнай паэзіі, бадай, не мае ніякі іншы беларускі *край*. Так што, прынамсі ад мяне, Мікола Пракаповіч гонар мае, і заслужыў ён яго сваёй самаадданай культурніцкай працай, талентам і высокім творчым гарэннем. Зноў і зноў прыслухоўваюся да яго слоў:

Што прайшло – ужо не перайначыць.
Як мне не пісалася даўно...

Ці не значыць гэта, што ў чытача яшчэ ёсць надзея і спадзяванне?..

# Сузіральнік

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***



**Александр Веледимович. Золотое время, или Занимательные приключения Шуры Переплётова в окрестностях города Витебска, правдиво сочинённые под воздействием трёх муз и одного рассказа таинственного призрака, а иногда подсмотренные с высоты птичьего полёта. — Минск: Кнігазбор, 2018. — 100 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; Пункт адліку).**

Аўтар пераплятае гістарычныя факты з гарадскімі міфамі і літаратурнымі цытатамі. Шляхецкія забабоны, войны, падпольны ракенрол і паездкі на лятучым трамваі ператвараюцца ў новыя легенды пра горад на беразе Заходняй Дзвіны. Аляксандр Веледзімовіч – выпускнік Школы маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.



**Кацярына Захарэвіч. Час Вогненнага Птушкалова: аповесць. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 144 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; Пункт адліку).**

Пятнаццацігадовая Бася не ўяўляла, хто яна такая, пакуль у дзверы іх з мамай хаты не пастукаліся жаўнеры князя Свету. Яны вышукваюць адметных — расу, якую чамусьці вельмі не любяць звычайныя людзі. Схавацца ад пераследу можна толькі ў паселішчы сярод глухога лесу за непаслухмянай Хітрай ракой. Як толькі Бася зачыняе дзверы хаты, шляху назад для яе не застаецца...



**Ільля Сін. Libido. – Мінск: Кнігазбор, 2018. — 140 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; выпуск 112).**

Марыя жыве ў правінцыйным постсавецкім горадзе, насельнікі якога ізаляваныя ў сваіх камерах-адзіночках – разам з успамінамі, траўмамі мінулага і штучнымі каханкамі. Недзе на перыферыі іх свядомасці паступова распальваецца грамадзянскі канфлікт, але пакуль ніхто на яго не зважае. Марыя прадчувае: нешта неўзабаве павінна адбыцца... Гэта першая кніга Ільлі Сіна, у якой ёсць такія ўласцівасці прозы, як герой і сюжэт.



**Дар'я Трайдэн, Д. Крыштальная ноч: апавяданні. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 96 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; Пункт адліку).**

"Крыштальная ноч" — гэта вянок, сплецены з гісторый пра крохкасць, прыгажосць, Беларусь і смерць. Вобраз крышталю сустракаецца ў кожным аповедзе. Крышталь грае ад месячных промняў, адбівае святло, асвятляючы ці, наадварот, дазваляючы ўбачыць патаемнае, прыхаванае, інтымнае. Як і аўтары вышэй прадстаўленых кніг, А. Веледзімовіч і К. Захарэвіч, Дар'я Трайдэн – выпускніца другога курса Школы маладога пісьменніка. Цягам года яны, разам са сваімі школьнымі куратарамі, працавалі над кнігамі, якія і выносяць цяпер на прысуд крытыкаў і чытачоў.




**Уладзімір Сцяпан. Папяровая шапка: хайку. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 64 с. — (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"; выпуск 26).**

Зборнік Уладзіміра Сцяпана — кароткія паэтычныя тэлеграмы з трох радкоў. Яны — як фотаздымкі, якія фіксуюць розныя моманты жыцця. Кожны верш з сямнаццаці складоў – спроба знайсці паэзію ў самым звычайным і будзённым. Як і класічныя японскія зборнікі хайку, "Папяровая шапка" мае сезонны прынцып размяшчэння тэкстаў – ад вясны да зімы.

*На мокрым акне*
*стаўлю подпіс. Быццам сам*
*парк намаляваў.*




**Андрэй Федарэнка. Сузіральнік. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 144 с. — (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"; выпуск 25).**

Кнігу складаюць тэксты, некаторыя з якіх знаёмыя чытачу "Дзеяслова", напісаныя ў апошнія гады. Гэта – аповесці "Ксю" і "Сузіральнік", апавяданні "Сахалінка" і "Шчасце", эсэ "Манголія" і "Пташнікаў". Сабраныя пад адной вокладкай, гэтыя творы прадстаўляюць розныя творчыя жанравыя іпастасі празаіка. Паводле Валянціны Аксак, "гэтая кніга выбітнага майстра беларускае прозы чытаецца як практычны дапаможнік пачаткоўцам: паглядзіце, маўляў, як трэба пісьменніку быць нясьпешным у думках, ашчадным у словах, стрыманым у пачуцьцях, адшліфаваным у вобразах, празрыстым у сюжэтах. І – ні каліва эпатажу". Запрашаем упэўніцца ў гэтым, набыўшы новую кнігу Андрэя Федарэнкі.



# Нашыя аўтары

**Абрамовіч Павал** – крытык. Аўтар літаратурна-крытычныя тэксты для друкаваных і электронных СМІ, сярод якіх «Наша Ніва», «Arche», «Дзеяслоў», «Радыё «Свабода», «Белорусский журнал», агенцтва «Интерфакс-Запад» і інш. Вядзе ў месенджэры *Telegram* канал «Кнігазор» пра кнігі. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Койданава. Жыве ў Мінску.

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Бабкова Вольга** – літаратарка, гісторык-архівіст. Займаецца даследаваннем і выданнем тэстаментаў беларускай шляхты XVI—XVIII стст. Аўтарка кнігі эсэ па гісторыі штодзённасці ВКЛ «...І цуды, і страхі». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча (2010). Нарадзілася ў Мінску ў 1961 годзе, дзе і жыве.

**Баршчэўскі Лявон** – перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Перакладае з больш чым дзесяці моваў. Баршчэўскі Лявон – перакладчык, паэт, літаратуразнаўца, крытык. Перакладае з больш чым дзесяці моваў. Заснавальнік і намеснік дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Лаўрэат прэміі імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-Цэнтра (1997). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Варанец Віктар** – празаік. Аўтар 14 вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, артыкулаў па пытаннях беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Выдаў «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў». Аўтар кнігі «Рамізнік». Нарадзіўся ў 1962 годзе у Гародні, дзе і жыве.

**Васілевіч Уладзімір** – фальклярыст, этнограф, перакладчык. Працаваў у БДПУ імя М. Танка. Перакладае з польскай мовы. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Вя́нцлава Томас** – паэт. Адзін з заснавальнікаў праваабарончай Хельсінкскай групы ў 1977 г. У тым жа годзе пасля арышту Вянцлава быў пазбаўлены савецкага грамадзянства і высланы за межы савецкай імперыі. Быў блізка знаёмы з нобелеўскімі лаўрэатамі Чэславам Мілашам, Іосіфам Бродскім, Шэймусам Хіні. Сёння Томас Вянцлава лічыцца самым вядомым у свеце паэтам з ліку тых, што пішуць па-літоўску. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Клайпедзе.

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапеева Вольга** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг «Граматыка снегу», «Няголены ранак», «Прысак і пожня», «Сумны суп», «(в)ядомыя гісторыі» і інш. Стыпендыятка міжнародных праграм для пісьменнікаў і перакладчыкаў, удзельніца шматлікіх міжнародных канферэнцый і літаратурных фестываляў. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гронская Вольга** – паэтка, перакладчыца, літаратуразнаўца. Аўтарка кнігі вершаў «АдВольная міфалогія». Тройчы перамагала на «Фестывалі аднаго верша» (2011, 2012, 2017). Нарадзілася ў 1978 годзе ў г.п. Крывічы Мядзельскага раёна. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Васіль** – драматург, актор, эсэіст. Творы друкаваліся ў газеце «Літаратурная Беларусь», часопісах «Дзеяслоў», «Тэксты», «Верасень». На сцэне Нацыянальнага драматычнага тэатра імя М. Горкага ідзе спектакль, пастаўлены па яго п’есе «Пясняр», прысвечаны Уладзіміру Мулявіну. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Ждановіч Таццяна** – паэтка, журналістка. Творы друкаваліся ў газетах «Наша Ніва», «Україна Маладая», часопісах «Arche», «Беларусь», «Дзеяслоў». Нарадзілася ў 1971 годзе ў Салігорску. Жыве ў Мінску.

**Кабржыцкая Таццяна** – літаратуразнаўца, перакладчыца. Аўтарка кніг «Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку XX ст.», «Слядамі знічкі: Пра Сяргея Палуяна» (у суаўтарстве з В. Рагойшам). Лаўрэатка Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І. Франко, узнагароджана ордэнам Святой княгіні Вольгі (Украіна). Нарадзілася ў 1941 годзе ў Кіеве. Жыве ў Мінску.

**Камінская Зараслава** — празаік. Аўтарка кнігі «Русалкі клічуць». Лаўрэатка прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2018). Нарадзілася ў 1985 годзе ў Наваполацку. Жыве ў Мінску.

**Лец Станіслаў Ежы** – польскі паэт. Майстар кароткага філасофскага парадоксу. У цыклах афарызмаў «Непрычасаныя думкі» (*Myśli nieuczesane*) пры дапамозе жарту, іроніі, сарказму, гульні словаў выказваў пратэст супраць дагматызму і любых формаў гвалту з асобы. Нарадзіўся ў 1909 годзе ў Львове (Аўстра-Венгрыя). Памёр у 1966 годзе.

**Мірановіч Міхась** – паэт-гумарыст, перакладчык. Аўтар кніг «Міранізмы», «Жартачкі». Лаўрэат прэміі імя Кандрата Крапівы (2002). Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Старына на Ушаччыне. Жыве ў Віцебску.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны», «Багун», «Забойца анёла» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2010). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку, дзе і жыве.

**О. Генры** (сапр. імя **Уільям Сідні Портэр**) — амерыканскі пісьменнік, празаік, аўтар папулярных навелаў, якія характарызуюцца тонкім гумарам і нечаканымі развязкамі. Нарадзіўся ў 1862 годзе ў Грынсбара (Паўночная Караліна). Памёр у 1910 годзе ў Нью-Ёрку.

**Сайкоўская Саша** – перакладчыца. Скончыла факультэт сацыякультурных камунікацый БДУ. Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Семчанка Павал** – мастак-каліграф. Уганараваны трыма Дзяржаўнымі ўзнагародамі. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Вялікія Прыткі (Украіна). Жыве ў Мінску.

**Сітніца Рыгор** — мастак, паэт, публіцыст. Аўтар кнігі вершаў «Ток». Карціны знаходзяцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах Беларусі, Летувы, Польшчы, Германіі, Галандыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Грэцыі. Лаўрэат літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» (2006). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Курыцічы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Сянкевіч Кацярына** – паэтка. Аўтарка кніг вершаў «Дачка ружы» і «Гарбата з незабудак». Нарадзілася ў 1991 годзе ў Гайнаўцы. Жыве ў Любліне.

**Сяргей Сцяпан (Юрась Гуліцкі)** – паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг вершаў «Буслы на ржышчы», «Снежань». Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Шавялі на Ляхавіччыне Жыве ў Мінску.

**Цвірка Кастусь** – паэт, празаік, перакладчык, фалькларыст, этнограф. Аўтар кніг «Рака дарог», «Зялёная Дуброва», «Чарназём», «Слова пра Сыракомлю...», «Лодка долі тваёй», «Лісце забытых алеяў», «Воўчая выспа» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Эспіноса Руіс Анхела** – паэтка. Аўтарка кніг вершаў «Раяль ля мора» і «Pomme de ciel». Фіналістка паэтычнага конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна (2015). Нарадзілася ў Малазе (Іспанія) ў 1993 годзе. Жыве ў Варшаве.

**Яленская Эма** – польскамоўная пісьменніца, фальклярыстка і этнограф. Аўтарка аповесцяў «Двор у Галінішках», «Віленская кальварыя», «Ад кахання», «Буслы», «Пярсцёнкі», «Жанчына, пуху марны», «Юбілей», «Тры пакаленні», «Як адламаная галінка», «Маці» і інш. Нарадзілася ў 1864 годзе ў вёсцы Камаровічы на Мазыршчыне. Памерла ў 1919 годзе ў Вільні.

**Ярац Віктар** — паэт, літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг паэзіі «Уваходзіны», «Добрыца», «Дняпроўскі бакен», «Зямныя эцюды» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Красны мост на Рэчыччыне. Жыве ў Гомелі.

**Яўсейчык Марына** – празаік, журналіст. Аўтарка кнігі прозы «Прысуд балотных ялін». Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» за лепшы дэбют (2012). Нарадзілася ў 1992 годзе ў Брагіне на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Аляксандра Абуховіча, Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Віктара Стралкоўскага, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.